## З надзеяю на шчаслівую будучыню

Шмат якія літаратурныя творы пісьменнікаў, якія нарадзіліся і жылі на Беларусі (сённяшніх беларускіх землях), мы толькі цяпер маем магчымасць увесці ў беларускі кантэкст. Усё XX ст. амаль усе польскамоўныя аўтары XIX ст. былі нам “чужыя” альбо “напалову чужыя”: Ян Баршчэўскі, Ян Чачот, Аляксандар Рыпінскі, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Уладзіслаў Сыракомля, Вінцэсь Каратынскі і інш. адно толькі фрагментарна прысутнічалі ў беларускай прасторы, бо іхні іншамоўны даробак (за рэдкім выключэннем) не меў права на – скажам так – паўнавартаснае існаванне ў беларускай літаратуры.

Пра цалкам іншамоўных аўтараў увогуле не прынята было згадваць. І неістотна, што Генрык Жавускі ва *Успамінах Сапліцы*, а Ігнацы Ходзька ва *Успамінах квестара* даволі поўна і шматгранна адлюстравалі жыццё на беларускіх землях у апошнія дзесяцігоддзі XVIII ст.; Ігнацы Ходзька ў *Аповесці з майго часу, або Літоўскіх прыгодах* – два першыя дзесяцігоддзі XIX ст.; Эдвард Тамаш Масальскі ў *Пане Падстоліцу* – 1820-я гг.[a]; Адам Плуг у сваіх аповесцях – 1830–1850 гг.

Беларускі літаратурны працэс XIX ст. у падручніках і пераважнай большасці навуковых даследаванняў падаваўся як бессістэмная падборка з’яў і фактаў, што мелі месца ў ізаляванай беларускамоўнай прасторы. Літаратуразнаўцы, відавочна, не бачылі і не хацелі бачыць чытача, які жыў на тагачаснай Літве-Беларусі. Але ж менавіта дзеля яго ствараліся мастацкія тэксты, менавіта ён абумоўліваў літаратурны працэс краю, менавіта яго, Чытача, меў на ўвазе Э.Т. Масальскі, пішучы сваю аповесць *Пан Падстоліц, альбо Чым мы ёсць і чым быць можам*, дзве першыя часткі якое ўзніклі да снежня 1829 г. і выйшлі накладам аўтара асобнымі томікамі ў віленскай друкарні А. Марціноўскага ў 1831 г. Трэцяя і чацвёртая частка закончаны да сакавіка 1830 г., пятая – да кастрычніка 1832 г. і выдадзены Каралем Краем у Пецярбурзе асобнымі томікамі ў 1833 г. Прыкладна ў гэты самы час Павел Гаеўскі пераклаў увесь твор на расійскую мову і надрукаваў у той самай друкарні ў Пецярбурзе (менавіта з гэтым выданнем пазнаёміўся В. Бялінскі).

Пісьменнік знайшоў адзінамагчымую на той час форму, у якую здолеў укласці актуальныя для тагачаснае Літвы-Беларусі праблемы эканамічнага і грамадска-палітычнага жыцця. Ён (ці справядліва?) лічыў, што літаратура мае здольнасць пераконваць чалавека, змяняць рэчаіснасць; ён спадзяваўся пераменаў, бо разумеў, што тая сістэма адносінаў, якая існавала ў краі, вядзе да катастрофы – эканамічнае, маральнае, нацыянальнае. Як

[a] Не бралася пад увагу нават тое, што Вісарыён Бялінскі надзвычай высока ацаніў “уездный роман” Э.Т. Масальскага.

сумленны грамадзянін свае Літвы, свае даўняе Рэчы Паспалітае, свае, урэшце, "тутэйшасці", Э.Т. Масальскі зрабіў спробу актуалізаваць мысленне сваіх суайчыннікаў – землеўласнікаў "далучаных ад Польшчы правінцый", г. зн. Віленшчыны, Гродзеншчыны, Міншчыны, Віцебшчыны і Магілёўшчыны.

Перш-наперш пісьменнік востра крытыкуе бесчалавечную прыгонніцкую сістэму: з аднаго боку падае надзвычай праўдзівыя, рэалістычныя абразкі з жыцця звычайнае сялянскае сям'і, а з другога – апавядае (лепш сказаць: занатоўвае "падслуханае") пра напаўдэградаваных прадстаўнікоў класу землеўласнікаў – харунжых, маршалкаў, суддзяў, а таксама "адміністратараў" – гараднічых, спраўнікаў, саветнікаў, страпчых. Заўважым, у Э.Т. Масальскага селянін Тадэвуш – гэта тыповы прадстаўнік беларускага сялянства, а Харунжы – мясцовага панства. Уражвае смеласць маладога аўтара: літаратурных твораў падобнае тэматыкі яшчэ амаль не было; нагадаем, *Антон-Горемыка* Дзмітрыя Грыгаровіча з'явіцца толькі ў 1847 г.

Зрэшты, не дзеля крытыкі прыгонніцтва пісаў свой твор Э.Т. Масальскі, не дзеля таго, каб ліць сентыментальныя слёзы над вартым жалю лёсе беларускага сялянства. (Ён, дарэчы, зусім справядліва вуснамі свайго галоўнага героя заяўляў: "Перш-наперш павінны мы зрабіць іх людзьмі, а потым вольнымі. Мы сапсавалі іх маральнасць, дык мы абавязаны і паправіць яе. А таму, калі іначай немагчыма, трэба даць сялянам асвету, а калі ўжо будуць яны ў стане парадзіць сабе, – толькі тады выпусціць іх з пад апекі"). Пісьменнік бачыць сваю задачу ў тым, каб нагадаць братам-шляхце пра грамадзянскі абавязак, пра адказнасць за ўсё, што дзеецца на іхняй Бацькаўшчыне. І прапануе шляхі выйсця з тае сітуацыі, у якой апынулася насельніцтва беларускіх зямель у 20-я гг. XIX ст.

Дзеля гэтага ён стварае "дзяржаву пана Падстоліца" – фантастычны (на першы погляд!) праект, які навучыць "паправіць наш быт": падкажа, якія будаваць бровары, млыны, часальні і іншыя мануфактуры, якія выкарыстоўваць механізмы і прылады; як палепшыць раллю і што сеяць на палетках, як наладзіць гандаль, як адукаваць насельніцтва і выхаваць грамадзяніна. Апісанне ўсяго гэтага чытач знойдзе або ў аповесці, або ў даступных тагачасных выданнях.

"Дзяржаву пана Падстоліца" Э.Т. Масальскі назваў ідэальнаю. Аднак гэта не азначае, што яна існавала толькі ў фантазіі пісьменніка, г. зн. мела ўтапічны характар. Насамрэч – і гэта аўтар няраз падкрэслівае – аповесць напісаная паводле рэальных фактаў. Пісьменнік не называе, але сучаснікі маглі здагадацца: адным з прататыпаў вобраза галоўнага героя быў у першую чаргу Дамінік Манюшка (1788–1848), а месцам дзеяння – маёнтак Раткаўшчына блізу коласаўскага Верхменя на Ігуменшчыне.

Асоба і лёс Эдварда Тамаша Масальскага, а таксама ягоная творчасць – гэта прадмет асобнага даследавання, якое будзе апублікаванае ў чарговым томе зборніка *Даследаванні і матэрыялы*.

*Мікола Хаўстовіч*

## Частка першая

# СЕЛЯНІН

O wy, co przez przyjemne litości natchnienie,
Częstokroć łzy ronicie na obłudnej scenie,
Zejdźcie z pysznych teatrów pod dachy prostoty,
Tu są godniejsze waszej litości istoty.
… Pójdźmy bliżej nawiedzić te progi ubogie.
Nie trwóżcie się –
Człowiek w pierwszej prostocie, przy szczupłym rozumie,
Nie ma chęci zazdrości i pragnąc nie umie,
Do swego poniżenia w swych miejscach stosowny
Nawet tego nie bada, czyli wam jest równy.
A gdy na gmachy wasze spogląda z daleka:
On was bierze za bogów, bierzcież go za człeka.

Koźmian, *Rolnictwo*[1]

# Прадмова

Бачачы, з аднаго боку, бедны і варты літасці сучасны стан усіх класаў жыхарства Літвы і Беларусі, а з другога – марныя намаганні ўраду развіваць прамысловасць і паляпшаць быт гэтых правінцый, і думаючы пра прычыны, што ў такім шчодра адораным прыродаю краі ды нягледзячы на прыклад суседніх народаў і дапамогу ўраду перашкаджаюць росту нашага дабрабыту, мы разумеем, што абыякавасць да лёсу краю, укаранелая ў тым класе нацыі, у руках якога ўсе багацці гэтае зямлі, і адсутнасць элементарнае дасведчанасці пра сваю ролю, хутчэй, абавязкі, а таксама нястача сродкаў, з дапамогай якіх можна выправіць кепскае, – галоўная прычына нашае нядолі.

Дык дзеля таго, каб звярнуць увагу на гэты найважнейшы наш абавязак, дзеля таго, каб давесці, што ў нашых руках ёсць спосабы паправіць наш быт, дзеля таго, каб паказаць, што́ гэта за спосабы, аўтар вырашыў выдаць гэтую кнігу.

Ён, аднак, падае свае разважанні не ў навуковай форме, бо хоць шмат якія вучоныя мужы і маўчаць, але ж, несумненна, таксама прасякнуты думкаю пра шчасце суайчыннікаў, маглі б ахвяраваць ім больш грунтоўныя і мудрыя перасцярогі, а ён, маладзейшы, а таму нецярплівы, не разумеючы прычыны маўчання старэйшых, і, бачачы, што за той кароткі прамежак часу, які ён назіраў, быт суайчыннікаў усё больш і больш пачаў пагаршацца і ўжо існуе пагроза ўсеагульнага банкруцтва, дык асмеліўся выказацца і, перадусім, звярнуць іх думку, каб яны самі паразважалі, што робяць і што рабіць трэба.

Намаганні ўраду і стаpанні асобных рупліўцаў, а таксама досвед суседніх народаў пераконвае нас цяпер: немагчыма разарваць ярмо, што задушвае пэўную правінцыю, без шчырага ўдзелу ўсіх тых абывацеляў, у чыіх руках знаходзіцца ўсё багацце краю; а таму, жадаючы зрабіць сваю кнігу даступнаю для ўсіх чытачоў, якім яна прызначаная, аўтар вырашыў падаць яе не ў паважным навуковым выглядзе, а ў форме рамана, каб наблізіць яе і да не вельмі адукаваных, і да тых нават, якім хапае часу чытаць толькі дзеля забавы: і гэта дзеля таго, каб захапіць усе, хоць і раз’яднаныя розумы аднолькавымі ўяўленнямі і да аднаго цэнтра ўвагі скіраваць.

З тае прычыны, што разумовая і маральная культура мае найбольшы ўплыў на добры альбо кепскі быт народу, дык у малюнках, якія аўтар у гэтай кнізе паказвае, ён мусіў няраз выявіць і нянадта прыемнае для нас: вынікі нашых забабонаў, нядбальства, гультайства і іншых недахопаў. Але ён лічыць сваім абавязкам папярэдзіць чытачоў, што не маляваў свае вобразы з нейкіх канкрэтных асоб; яны, хутчэй, складзены са схопленых і там і сям асобных рысаў, якія ён ва ўласным уяўленні групаваў і ўкладаў у патрэбную форму.

Наадварот, прыемна аўтару заявіць, што ўсё тое добрае, пра што тэма дазваляла згадаць ці ўкласці ў вусны пану Падстоліцу, узятае з рэчаіснасці, з учынкаў альбо выказванняў руплівых і адукаваных суайчыннікаў. Я не адважваюся назваць гэтыя годныя пахвалы прозвішчы, каб не абразіць сціпласць іх носьбітаў; але самі суайчыннікі ў вобразе майго пана Падстоліца і ў тым, што ён у сваіх маёнтках справіў, у ягонай чуласці да сялянаў, у ягонай сялянскай школе, мануфактурах, адданасці дзеля ўсеагульнага дабра і ўплыве на паляпшэнне быту ў ваколіцы пазнаюць, пэўна, з радасцю тых сярод сябе, што маюць заслугі для краю, а імёны якіх Гісторыя з рэдкаю для сябе пацехаю захавае ў памяці ўдзячных нашчадкаў.

### План

Першая частка апавядае пра сённяшні стан нашых сялян; у другой частцы накрэслены вобраз уладальнікаў вёскі, іхні агульнапрыняты спосаб гаспадарання, разумовая і маральная культура, погляд на рэчы, якія павінны іх цікавіць і г. д. Трэцяя частка прысвечаная гарадам і гандлю; у чацвёртай частцы ідзе гаворка пра ідэалы адпаведнае патрэбам краю сельскае гаспадаркі, уладкаванне сялян, гарадоў, прамысловасці, выхавання ўсіх класаў народу і, нарэшце, залежныя ад нас спосабы агульнага паляпшэння быту нашае правінцыі.

Усе вобразы раскрываюцца ў развіцці; а напрыканцы трох першых частак змешчаныя заўвагі пана Падстоліца пра тое, пра што была гаворка. У *Ідэалах* аўтар унікаў мройных фантазій: амаль усё ўзятае з рэчаіснасці, адно што прыстасаванае да нашых патрэбаў і акалічнасцяў.

Навуковыя звесткі змешчаныя ў заўвагах напрыканцы кожнае часткі.

### Пра арфаграфію

З тае прычыны, што многія знакамітыя нашыя вучоныя рэкамендуюць прытрымлівацца арфаграфіі Капчынскага[2] і крытыкуюць усе змены, а я некаторыя не прызнаю, дык каб даказаць, што не пагарджаю іхнім шаноўным меркаваннем, але з важных прычынаў раблю гэта, патлумачу яшчэ тут сваю пазіцыю.

Лічу, што працы ягамосця Мразінскага *Pierwsze zasady gramatyki języka polskiego* і *Odpowiedź na recenzję*[3], цалкам могуць пераканаць кожнага, хто толькі без негатыўнага стаўлення прачытаць іх захоча, што гэтая арфаграфія, пра якую выказаўся Фялінскі[4] і якую ягамосць Мразінскі прызнаў самаю адпаведнаю духу нашае мовы і гэта давёў, – не з'яўляецца дзіўнаю мрояю, а патрэбным удасканаленнем і нават вялікаю дапамогаю дзеля спрашчэння нашае граматыкі[b].

У адным толькі пункце не згаджаюся з ягамосцем Мразінскім; наадварот, мяркую, што ягамосць Мразінскі там сам адступіўся ад сваіх правілаў, а я, паводле іхняга духу, але супраць яго сцверджання іду за думкаю Фялінскага,

---

[b] Усё, што тут гаворыцца пра правапіс, не будзе зразумелым без прачытання працаў ягамосця Мразінскага. Спадзеючыся, што яны ўсім вядомыя (як быць павінна), аўтар наўпрост адказвае, не далучаючы таго, што ўжо ў іх патлумачана. (Тут і далей на доле старонкі заўвагі аўтара. – М. Х.).

г. зн., у правапісе іншаземных слоў на *i-ja*, якія ў іх айчыннай мове заканчваюцца на *i-a*, напрыкл., *Angli-ja*, *Juli-ja* etc. Аргументы мае наступныя:

На думку самога ягамосця Мразінскага, у польскай мове дзве галосныя побач стаяць не павінны; калі так здараецца, дык адасабляем іх зычнаю *j*, напрыкл., *da-j-ą, ma-j-ą* etc. Аднак як выключэнне з гэтага правіла ягамосць Мразінскі лічыць словы, запазычаныя з іншых моў, якія заканчваюцца на *i-a*; але чаму выключэнне? – "Бо ў сваіх мовах так пішуцца і вымаўляюцца". Аднак гэтыя словы, прыйшоўшы ў нашую мову становяцца нашымі, дык павінны падпарадкоўвацца нашым правілам; бо ўсе запазычаныя словы мы вымаўляем паводле законаў нашае мовы і пішам іх паводле нашага вымаўлення, а не паводле іхняга; гэтае правіла пашыраем на ўласныя імёны, ужо запазычаныя. Адкуль жа гэты прывілей непадпарадкавання нашым правілам толькі для слоў, якія заканчваюцца на *i-a*? Тым больш, што гэты самы канчатак *i-a* ці *ija* можа лічыцца нашым уласным, а не чужым; бо нават некаторыя чужыя, з іншымі канчаткамі, імёны, тлумачачы ці перарабляючы на нашыя, мы даем на канцы *i-ja*, напрыкл., *Szwajcarija, kopija* etc.

Мне здаецца, што натура нашае мовы вымагае ва ўсіх падобных выпадках канчатку *i-ja*. Бо, не звяртаючы ўвагу і на маўленне простага люду, які, надаючы, дзякуючы натуральнаму інстынкту, нацыянальны кшталт гэтым словам, заканчвае іх на *i-ja*, і на братняе вымаўленне расійскага народу, які падобна вымаўляе гэтыя словы і піша ў іх *i-ja* (абедзве гэтыя аўтарытэтныя крыніцы заслугоўваюць на ўвагу), калі палічым, што нашыя памяншальныя формы імёнаў і прыметнікі ўтварыліся ад гэтых іншаземных слоў, напрыкл., *linij-ka*, *familij-ny*, *indij-ski* і г. д., дык адкуль яны маюць гэтае *j*, якога ягамосць Мразінскі ў іх не адмаўляе? Здаецца, выпадае дазволіць на тое, што гэтыя памяншальныя імёны і прыметнікі ўтвараліся сістэматычна ад назоўнікаў, замяняючы канчатак *-a*, на *-ka*, *-ny* ці *–ski*, як і польскія памяншальныя імёны і прыметнікі *zbroj-ka*, *zbroj-ny*, *szyj-ka*, *naszyj-ny*, *kopij-ka*, *kopij-nik*, *żmij-ka* і г. д. утвараліся ад назоўнікаў *zbroj-a*, *szyj-a*, *kopij-a*, *żmij-a* і г. д., замяняючы канчатак *-a*, на *-ka*, *-ny*, *-ski*, *-nik* і г. д. Тым больш, што ў гэтых вытворных знаходзім *j* ужо не паміж двума галоснымі, а паміж галоснаю і зычнаю; і калі ў вытворных не будзем яго лічыць за адметную літару, узятую ад першаснага назоўніка, а за дадзеную па неабходнасці, дык дзеля гэтае самае неабходнасці яшчэ больш слушна ў першасным назоўніку выпадае дадаць яе паміж двума галоснымі.

Карысці такога канчатку *i-ja*, апрача названае, наступныя:

1. Мы пазбавіліся б двухзначнасці ў правапісе. Гэтая двухзначнасць, хоць і не ўводзіць нас у зман, аднак ніхто, напрыкл., слоў *Dania*, *linie*, *kopie* не будзе лічыць, што паходзяць ад слоў *dać*, *lina*, *kopać*, бо сэнс падказвае, што яны абазначаюць *дацкую краіну*, *след руху пункта*, *зброю* і г. д.; аднак такое напісанне будзе недакладным з нашае віны, калі маючы ўласна дзеля гэтага гатовую зручную літару *j* не ўжываем яе там, дзе вымагаюць патрэбы правапісу. На той закід, што няварта ўдасканальваць тое, што з'яўляецца задавальняючым, можна адказаць: даўні правапіс быў задавальняючым, калі паводле яго чыталі, аднак Каханоўскі[5] і тым больш Капчынскі яго правілі. І тое не перашкаджае, што абавязковае ўдасканаленне прымусіць зноў вучыцца тых, хто прызвычаіўся да даўняга. Калі прытрымлівацца "задавальняючага", дык

належала б у шмат якіх навуках спыніцца на тым, на чым стаім сёння. Пры ўсім гэтым я не кажу пра неабгрунтаваныя змены, а толькі пра апраўданае ўдасканаленне.

2. Дапускаючы ў гэтых іншаземных словах канчатак *i-ja*, будзем таксама мець больш правільную форму другога склону множнага ліку. Ягамосць Мразінскі для ўсіх назоўнікаў жаночага роду, якія заканчваюцца на *a* ці *i*, абавязкова вызначае адну толькі форму множнага ліку, прапануючы без выключэнняў утвараць другі склон з дапамогай адкідання ад першага галоснае, напрыкл., *rol-a – rol*, *pan-i – pań*, *szyj-a – szyj* і г. д. Не падцягваючы слоў, пра якія гаворым, пад форму другога склону на *-ów*, якую выключна (з невялікім выняткам) трэба, здаецца, пакінуць назоўнікам мужчынскага роду, што заканчваюцца на цвёрдую зычную, можам іх у множным ліку, па ўзору польскіх слоў, скланяць паводле формы імёнаў жаночага роду, якія заканчваюцца на *a* ці *i*, напрыкл., *licytacija – licytacij*, *filozofija – filozofij*, *linija – linij* і г. д. Націск можам ставіць на любым складзе, паводле традыцыі, але ні націск, ні тая форма на *-ij* анікольні не перашкаджаюць разуменню: утварылі мы форму адзіночнага ці множнага ліку, бо ў адзіночным ліку мы ўтвараем другі (і трэці) склон, замяняючы канчатак *-a* на *-i*, а ў множным ліку адкідаючы толькі канчатак *-a*. Гэтак, як і ў нашых словах *szyja*, *zbroja*, *rola* і г. д. Далучаная табліца ўсё тлумачыць.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Адзін. лік | rol-a | zbroj-a | szyj-a | kopij-a | Zofij-a | Anglij-a |
| | rol-i | zbroj-i[a] | szyj-i | kopij-i | Zofij-i | Anglij-i |
| | rol-ę | zbroj-ę | szyj-ę | kopij-ę | Zofij-ę | Anglij-ę |
| Мн. лік | rol-e | zbroj-e | szyj-e | kopij-e | Zofij-e | Anglij-e |
| | rol- | zbroj- | szyj- | kopij- | Zofij- | Anglij- |
| | rol-om | zbroj-om | szyj-om | kopij-om | Zofij-om | Anglij-om |

Няварта палохацца, што будзем пісаць *Juliii*, *Wirginiii*, як сцвярджае ягамосць Мразінскі, абвяргаючы Капчынскага, які прапануе пісаць *Julia*, *Wirginia*, *Anglia* і г. д. Бо Капчынскі, Ліндэ, Якубовіч[6] і іншыя, прапануючы пісаць гэтае *i-ia*, вельмі добра адчувалі, што ў гэтым падвойным *i-i* не абедзве тут галосныя і не абедзве ўтвараюць склады; яны адчувалі, што першая *i* – гэта галосная, а другая – паяднана з гукам *a*; толькі памылкова называючы гэтае палучэнне двух апошніх гукаў (*ja* ці, на іх думку, *ia*) дыфтонгам, прапаноўвалі пісаць другую *i* там, дзе належала пісаць *j*. Але гэта само даводзіць, што адчувалі неабходнасць гэтае літары перад *a*, каб атрымалася гучанне *i-ja*, якое, думаецца, адпавядае натуры слоў, запазычаных нашаю моваю. Гэта самае можна прымяніць не толькі на канцы слоў, але і ў сярэдзіне, напрыкл., *Scypijon*, *Tobijasz* і etc.

Яшчэ мушу патлумачыць, чаму пішу ў словах *Rossija*, *Austrija*, *Francija*, *licytacija*, *Indija* і г. д. не *y-ja*, а *i-ja*, хоць ведаю, што пасля цвёрдых зычных трэба пісаць *y*, а не *i*. Грунтуюся на тым, што канцавыя зычныя *r*, *c*, *s*, *d* у гэтых словах не зусім цвёрдыя, бо ні чужаземцы, ані мы самі не кажам: *Rossy*...,

---

[a] Так як у словах *zbroja*, *szyja* ў другім і трэцім склоне апускаем *j*, а пішам *zbroi*, *szyi* (гэтаксама ў склонах асабовых займеннікаў: *moji*, *mojim*, *mojich*; *twojim*, *twojich*; *swoji*, *swojim*, *swojich*; *jim*, *jich* апускаем *j*, а пішам *moi*, *twoim*, *swoich*, *im*, *ich* і г. д.), так і ў словах у гэтай форме апускае *j*, а пішам *kopii*, *Zofii*, *Anglii* і г. д.

*Austry…*, *licytacy…*, *Indy…* і г. д. як вымаўляем *sy*, *ry*, *cy*, *dy*, але мякчэй: *Rossi…*, *Austri…*, *licytaci…*, *Indi…* і г. д. Можа, не зусім так мякка, як нашыя *ci-sza*, *si-ła* і г. д., аднак не так цвёрда, як нашыя *sy*, *cy*, *ry*, *dy* і г. д. Аднак думаю, што гэтае адцяненне гучання галоснае *i* пасля зычных *r*, *s*, *c*, *d* і г. д. у гэтых словах варта пакінуць уплыву гэтых жа зычных на галосную *i*, які аказваецца падчас іх менш альбо больш высокага вымаўлення, але ніколі нізкага. Захаваецца, такім чынам, у арфаграфіі літара, якая больш адпавядае гучанню прамоўленага, і ў скланенні, выведзеным ягамосцем Мразінскім, не трэба будзе гэтыя словы падаваць як выключэнне, бо сапраўды ўсе змяняюцца правільна паводле мяккага канчатку *i-ja*.

Можа быць, што гэтыя довады, пададзеныя дзеля апраўдання майго спосабу пісання і скланення, – памылковыя; а таму сваё меркаванне я не прапаную ў якасці правілаў; пішу пра гэта толькі таму, каб паказаць, з якой прычыны прытрымліваюся гэтага правапісу да таго часу, пакуль тыя, што прафесійна займаюцца польскаю граматыкаю, не падрыхтуюць больш грунтоўных правілаў.

## Раздзел першы

# УСТУП І АРАНДАР

Wy, milsze memu oku nad Rzymianów gmachy,
Witajcie niskie domki z słomianymi dachy.
Stara ma z wami przyjaźń: w pierwsze życia lata,
Gdym nie znał oczu Emmy, ani burzy świata,
A od samego świtu, po nocy nastanie,
Śledzić chytrego lisa, albo ścigać łanie
Całe me było szczęście i całe zabiegi;
Po takich wtedy domkach miewałem noclegi.

An. Gorecki, *Powrót do ojczyzny*[7]

Колісь вучыў я на памяць у рыторыцы[8], што калі маеш намер звярнуцца да публікі, дык спачатку належыць пастарацца атрымаць яе ўвагу і паблажлівасць. Мой святое памяці настаўнік красамоўства, тлумачачы гэтае правіла, давёў вядома, што ў такім выпадку найлепш падыходзіць ліслівасць, якую хоць і шчодра рассыплеш, аніякага граху не будзе; так, нібы падаваная як слодыч на беразе кубка з лекамі, што вабіць прыняць часамі церпкую праўду; а таму ласкаваму чытачу прыносіць пажытак, а для хрысціянскага пісьменніка становіцца абавязкам.

Я маю намер акрэсліць у гэтай кнізе колькі характэрных асаблівасцяў сённяшняга стану Літвы і Беларусі[9]; а таксама колькі малюнкаў шчаснага дабрабыту, да якога, лічу, гэтыя правінцыі маглі б прыйсці, каб мы імкнуліся да гэтае мэты. Пан Падстоліц – герой майго твора, жаўнер у маладыя гады, як пра гэта чытаем у апісанні ягонага бацькі пана Падстолія[10], – падчас мінулых войнаў наведаўшы вялікую частку Еўропы, прыгледзеўся да звычаяў і дабрабыту чужых народаў і, вярнуўшыся на бацькаўшчыну, шмат карысных рэчаў у сваіх маёнтках усталяваў, быт сваіх сялянаў і свой уласны значна палепшыў, сваім прыкладам суседзяў падахвоціў да наследавання і ўсім суайчыннікам ахвотна тлумачыў, якія сродкі дзеля агульнага дабрабыту краю здаюцца яму найбольш адпаведнымі.

Але тое, што пан Падстоліц ніколі не быў ні прыдворным, ні адвакатам, у пэўнай ступені, надае мне трывогі: прызвычаены ў абодвух станах свайго жыцця да суровае прастаты і са свайго пункту гледжання трактуючы суайчыннікаў, ён, можа, няраз выказацца з горкім дакорам і мне чытачоў адштурхне.

Разумею і вельмі добра пра гэта памятаю, што павінны ва ўступе прыкласці асаблівыя намаганні, каб не толькі зняволіць паблажлівую ўвагу маіх чытачоў прыемнымі словамі, але таксама аддзячыць належнаю пахвалою іхняе самалюбства, якое магу абразіць.

Тым часам, з другога боку, добра ведаю, што ўсім дагадзіць – чалавеку не дадзена; асабліва тым ***усім***, для якіх пішу: г. зн., маім братам-шляхце, што

маюць выбарчае права; для якіх нават каб напісаў два дзясяткі аркушаў усялякіх пахвалаў, мог бы замест ласкавага ўсмеху заслужыць не на адзін кіслы выраз твару, не на адно праклянцце і аўтара, і цэнзараў, і невінаватага выдаўца. Бо адны з-за прыроджанае сціпласці палічылі б за кепскае, каб ім прыпісаў разважлівасць і прадбачлівасць у дастасаванні да часу, другія гневаліся б за агіду да гультайства, іншыя – за адсутнасць фанабэрыі ды пыхі, гэтыя – што выкарыстоўваюць навуку і – хоць чужыя – вынаходніцтвы, тыя – за гуманнасць да бедных падданых, а ўсе назвалі б мяне нахабным манюкам, калі б ціхенька сказаў, што маюць грошы ці могуць іх мець.

Так, добраахвотна трапіўшы паміж молатам і кавадлам, не бачу іншага сродку, як ратавацца адгаворкамі. Баніфацы Апановіч – мой першы колісь дарэктар – аднойчы меў вялікі клопат, калі перад Новым годам хацеў напісаць мне віншаванне для бацькоў. Тыдзень думаў, што, уласна, я мушу пажадаць дарагім бацькам. Думаў і думаў марна: усё, што мог прыдумаць, было яшчэ мала. Прыйшоў урачысты дзень – мой старэча ў роспачы: ёсць пралог і эпілог, Фэбы і Цэнтаўры[11], але зычэнняў не стае. Выбіла гадзіна – трэба ісці. Давядзецца чырванець! Але шчасце, кажуць, знянацку прыходзіць. На парозе ён затрымаўся, утаропіў вочы ў парог і нечакана: “Ёсць! Знайшоў! – закрычаў, пляснуўшы ў далоні. – Праўда, вялікая праўда! Зыч, сыну, таго, чаго самі сабе жадаюць”.

Узяўшы прыклад з гэтае гісторыі, я прашу маіх чытачоў, каб зараз жа на гэтым месцы мелі ласку адкласці на доўгі – як каму падабаецца – час гэтую кнігу і як на духу паразважалі: за што іх можна было б пахваліць. Кажуць, што такія вось развагі ніколі не могуць быць без пажытку; я ж, клапоцячыся пра прыхільнасць маіх чытачоў, ручаюся шляхецкім словам, што (добра памятаючы правілы рыторыкі і тлумачэнні майго настаўніка-нябожчыка красамоўства) на ўсе пахвалы, якія толькі кожны з маіх чытачоў сам сабе прызнаць можа, нават каб і былі найвялікшаю ліслівасцю, без усялякіх “але” згаджаюся і ўсе санкцыяную.

Гэтак выклікаўшы, думаю, да сябе, ласку маіх чытачоў, адразу ж паспяшаюся выкарыстаць яе, просячы прабачэння, што напачатку маю намер увесці ў кампанію, да якое, напэўна, не прызвычаены: можа, пачуюць тут не вельмі прыемныя словы, што могуць абудзіць нямілыя ўспаміны. Я не хацеў бы выстаўляць іх на непрыемнасці, ды што рабіць, калі восеньскі цёмны вечар з дробным дажджом і халоднай стынню, што пранізвае да костак, заспеў нас на няпэўным шляху сярод хваёвага лесу? Няма пад рукою іншага прытулку, апрача нэндзнае хаткі літоўскага селяніна: мусім схавацца пад убогую страху.

Хто ж хоць раз у жыцці з патрэбы, з літасці альбо з цікавасці не зазірнуў у гэтыя буды, часта напалову гнілыя, якія мы завём сялянскімі халупамі? Кожны бачыў гэтыя закопчаныя да паловы вышыні сцены, гэты мокры ток замест падлогі, гэтую чорную столь з адтулінаю для дыму пасярэдзіне, каля нізкіх дзвярэй курную печ і шырокую лаву каля яе, якая сягае да супрацьлеглае сцяны і служыць за ложа для ўсяе сям’і, ды меншыя лавы кругом пры сценах, а ў кутку, насупраць печы, вузкі стол, прыкрыты абрусам, і на ім – бохан хлеба, якім пачастуюць кожнага, хто прыблукае па Волі Божай да ўбогае хаціны. Гэтак аднастайна выглядае жытло нашага люду ад Буга і Нёмана да Дняпра і Дзвіны.

У халупе, у якую я паклікаў чытачоў, дым клубамі падымаўся з печы і, запаўняючы ўсю верхнюю частку хаты, вылятаў адтулінаю пасярод столі. Перад сталом стаяў драўляны свечнік, які называюць дзедам; гарызантальна прымацаваная хваёвая лучына кідала чырвонае святло на двух сярэдніх гадоў людзей, што сядзелі за сталом.

Адзін з іх быў жыд у лісінай шапцы; з ягонага твару, закрытага густою чорнаю барадою і кручанымі пэйсамі, відаць быў толькі кручкаваты нос і хіжыя вочы, што зыркалі то на пляшку, якую ён трымаў у руцэ, то на таварыша. Маўкліва ўзіраючыся, ён, здаецца, хацеў адгадаць думкі таго, а шалёныя вочы выдавалі, што ён снуе нейкія планы, яшчэ не да канца ясныя яму самому.

Ягоны таварыш, селянін, у тоўстым палатняным капоце, які быў скрозь у латках, абапёршы кудлатую галаву на руку, утаропіўся ў чарку, што стаяла перад ім, але ягоныя думкі, мусіць, вачам не спадарожнічалі: пахіленая галава і аслупянелы позірк сведчылі, што селянін у тую хвіліну нічога перад сабою не бачыў і ні пра што не думаў. Толькі на яго твары – пляскатым, пасечаным маршчынамі, худым і смуглым – застылі, нібы выбітыя часам, сляды цяжкае ўнутранае болесці.

На шырокай лаве каля печы перад падвешанаю пад столь калыскаю сядзела кабета, прыкладна аднаго з селянінам веку, апранутая ў гэткія ж убогія палатняныя лахманы, гэткая ж змарнелая. Моўчкі, са схіленаю галавою, часам толькі пацепваючы плячыма, пазірала яна на тых, што сядзелі за сталом. Яе позірк, у якім змяняліся то гнеў, то бездапаможнасць, якім яна то скоса вадзіла па хаце, то падымала ўгару, і адпаведныя грымасы на твары, і тое, як нервова яна папіхала калыску, якую працягвала машынальна калыхаць, сведчылі пра барацьбу пачуццяў і паперамення то пра выбухі гневу, якія яна тлуміла ў сабе, то пра страх, то пра жальбу і душэўную скруху.

Пры печы стаяў, абапёршыся на фузію[12], стралец у зялёным сурдуце паляўнічага. Ядвабныя нараменнікі з аднаго боку трымалі на чорным шнуры аздоблены срэбрам паляўнічы ражок, а з другога боку на падобным шнуры вісеў ражок з порахам; ладунковы пас з зялёнага саф'яну ахопліваў зграбную постаць маладзёна; да пасу быў яшчэ прычэплены паляўнічы нож з рукаяткаю са слановае косці і срэбранымі гузікамі на ножнах.

Слотная ноч прымусіла юнака шукаць прытулку ў гэтым доме, бо ані постаць, ані ўбор не сведчылі, што ён жыве тут.

Панура і нерухома ён узіраўся ў тых, што сядзелі за сталом, а яго схіленая галава, наморшчаны лоб ды моцна сціснутыя вусны і суровыя вочы сведчылі, што ён стрымліваецца, хоць і кіпіць ад гневу.

Жыд, хапаючы за руку свайго таварыша, першы перапыніў маўчанне:

– Ну! Што ж, мой каханенькі?

Селянін зіркнуў на яго, але не паспеў яшчэ адказаць, як жыд, заўважыўшы па яго касым позірку адмову, задраў руку і заківаў галавою, зацягваючы нараспеў:

– Ну, які ты дурны, Тадэвуш! Калі ты свайму прыяцелю шкадуеш, дык для каго ж ты жывеш?

– Ах, пане арандар, – хрыпла азваўся селянін, чухаючы абедзвюма рукамі патыліцу, – далібог не магу васпану аддаць гэтае авечкі.

– Паслухай, мой Тадэвуш, толькі ж ты мяне паслухай. Слухай, не пашкадуеш. Ты ж ведаеш, што я не хачу цябе пакрыўдзіць. Нашто табе адна авечка?

– Адна? – падхапіў селянін. – Было больш, але Бог забраў.

– Ці ж я не ведаю? Ох! Але зараз што ты будзеш рабіць з адной? Ані сярмягі, ані кажуха. Аддай, мой галубок, аддай. Не пашкадуеш. Ну! Аддаеш? На, выпі яшчэ чарку!

– Ах, пане арандар, не магу аддаць. Ад аднае будуць ягняты…

– Што ты прыснiў! – перапыніў яго жыд, махаючы рукою. – Выпі, выпі! Я твой прыяцель, лепшы за брата, за свата, за бацьку роднага. Я ведаю, што табе трэба, а чаго не трэба. Ну! Ты пі ж, пі, каханенькі.

– Здароўе васпана! Уга, ужо шуміць у галаве.

– Бачыш! Я для прыяцеляў не шкадую добрае гарэлкі. Гэта не дваровая. Ну, пане гаспадару! Падсабі ж ты мне пакласці на воз сена і авечку.

– Пане арандару, як сабе хочаш: сена – тваё, а авечка – мая.

– Тадэвуш, – казаў жыд, цягнучы яго за руку, – скажы ты мне: ці ты разумны, ці ты дурны? Ой, ты разумны! Табе б войтам быць! Як скажаш што, дык як пан ключвойт. На, выпі яшчэ за гэтую праўду. Мы з табою і памром, а прыяцелямі застанемся. На, мой каханенькі, пі, пі на здароўе.

– Здароўе васпана, пане арандар, – казаў усміхаючыся селянін. – Уга! Моцная гарэлка. Дык гэта не дваровая?

– Што ты! Хіба ў таго дурня будзе добрая гарэлка? Я хацеў, каб мой Давід гнаў у двары, але ваш боўдзіла ўзяў іншага вінніка[13]. Гэта не дваровая. А смачная? Га?

– Смачная, пане арандар. Але ж шмат я ўжо ў васпана напіў.

– Не турбуйся, каханенькі, палічымся. Ну! Авечка – мая, а два гарцы[14] гарэлкі – твае.

– Не, пане Абрам, гэтую авечку я не магу аддаць васпану. На споведзі пабажыўся, што не аддам, а ксёндз казаў, што Пан Бог блаславіць, калі не буду піць, і мая Кацярына некалі зноў за кросны сядзе.

– Спадзеву на цябе! – азвалася кабета ад калыскі. – Хіба Пан Бог не бачыць, як ты ўсё марнуеш. Не маем чым і прыкрыцца ўзімку…

– Сціхні! – выбухнуў Тадэвуш, падхопліваючыся ад стала і пагражаючы ёй кулаком.

Кацярына змоўкла, а ён сеў і казаў жыду:

– Яна праўду кажа. Бачыш, усяе адзежы, што на нас. Як тут перазімуеш?

– Ну, мой каханенькі, – зацягваў, нібы спяваючы, жыд, – вазьмі кажух у Давіда, а жонцы тваёй я дам сярмягу майго парабка. Як адмалоцішся, дасі мне за гэта збожжа, дык нічога яно табе каштаваць не будзе. Я прыяцелям нічога не шкадую.

– Кажух зношаны, пане арандар, – адказаў, уздыхаючы Тадэвуш. – І сярмяга ўжо як рэшата.

– Што ты! Старая? – перапыніў яго Абрам, – Каб я сваіх дзяцей не пабачыў, калі яна яшчэ зусім не як новая! Каб мне столькі гадоў жыць, колькі яна мне каштуе; а да таго ж грашыма плаціць не будзеш, дасі мне за яе збожжа.

– Не шмат у мяне збожжа, не хопіць і так на хлеб да новага.

– Ох! Ці ж я не ведаю? Ты ў мяне папытайся, колькі ў цябе снапоў, дык я табе на пальцах палічу. А навошта табе запас хлеба? Не хопіць, дык пан дасць.

– Апрыкрала ўжо тое даванне. Больш бізуноў, чым тае мякіны, што нам даюць на пракорм. А потым чалавеку не адрабіцца за тую помач. Але і так не хапіла б майго збожжа за васпана кажух і сярмягу.

– Ох! Які тут клопат, рэшту адробіш у пушчы. У мяне на гэтую зіму кантракт на рэшткі панскага лесу: высечам да апошняга пня. Памятаеш, Тадэвуш, ты павінны мне дваццаць дзён работы ў пушчы за тую гарэлку, што браў на хрысціны дачкі (*a verfluchter goj*[15])? Я заўсёды твой сардэчны прыяцель. Авечку аддай.

– Пане Абрам, здаецца, толькі на дзесяць дзён дамаўляліся?

– Дзесяць, – павольна казаў Абрам, наліваючы чарку, – каб заплаціў мне да заўтрашняга кірмашу чатыры злотыя[16], але як не маеш чым плаціць, дык за працэнты будзеш вінаваты дваццаць дзён, як сам абяцаў.

– Праўда, пане арандар, абяцаў і не маю чым заплаціць. Бо адкуль жа мне, небараку, узяць тыя чатыры злотыя? Апошнія пчолы мае, як перанёс іх на гэтую сядзібу, памерлі мінулаю зімою; сыну за службу ў двары не плацяць; ільну сёлета не меў дзе пасеяць.

Пасля гэтых слоў стралец звярнуў увагу на ціхія ўсхліпванні Кацярыны. Бедная кабета, заўважыўшы літасць у ягоным позірку, спакваля паднялася ад калыскі і, падышоўшы да печы, душачыся плачам, ціха сказала:

– Мой залаты панічок, муж, як толькі падап'е, дык не слухае мяне, як я ні прашу, каб не піў і не звязваўся з арандаром. А гэты ашуканец арандар – гэта ж п'яўка, панічок мой, загубіў ён нас дарэшты.

І, выціраючы слёзы фартухом, яна дадала:

– Панічок! Заслужыш Ласку Божую, дапамажы мне беднай, каб гэты цмок не забраў у мяне апошнюю авечку.

– Супакойся, маці, – ціха сказаў стралец, твар якога палагаднеў, – прысягаю табе, што авечкі ты не страціш.

Тым часам жыд паўтараў селяніну:

– Марны твой клопат, небарака; ужо табе гаспадаром не быць; складзеш галаву ты ў гэтай галечы, а пан, як галодны воўк, выдзярэ вам вантробы.

– Вой, вой! – заенчыў Тадэвуш, адкідаючыся галавою ды сцяны і засланяючы вочы даланёю.

– Навошта вы пускаеце гэтага жыда? – ціха запытаў стралец у гаспадыні. – Твой муж пакуль цвярозы слухае цябе?

– Слухае, мой залаты панічок, – адказала з плачам кабета, – але на бяду, гэты жыд – наш арандар; каб мы яго не пусцілі, дык абылгаў бы нас перад панам, што хаваем крадзеную гарэлку. Ды і прывалокся ён раней, чым я вярнулася з паншчыны. Мужа заспела ўжо пры чарцы. А ў яго такая паганая звычка, што як толькі вып'е кілішак, дык мне ўжо не азвацца, бо зараз жа кінецца біць. Але ж і ў мяне розум ёсць, яшчэ лепшы, чым у яго, бо я гарэлкі не п'ю.

– Праўду кажаш маці і добра робіш, што гарэлкі не п'еш. Супакойся, даю табе слова, што авечка ў вас застанецца.

– Дай яшчэ чарку, – сказаў Тадэвуш, адсланяючы вочы поўныя роспачы тым больш страшнай, што не лагодзіла яе пакутніцкая пакора.

Стралец, сціскаючы кулакі, рушыў было наперад, але адступіў, панура гледзячы на жыда, які павольна наліваў чарку і, ківаючы галавою, казаў:

– Гэта вам егіпецкая няволя. Усе яны такія. Здзекуюцца з бедных людзей. Мы толькі вашы прыяцелі. На, пі, кахaненькі.

Кацярына, удаючы, што не чуе, папраўляла ў печы і раздзьмухвала агонь, ды ўжо крыху спакайней звярнулася да стральца:

– Калі васпану дадому далёка, дык лепей тут, панічу, пераначаваць, чым слотаю цягацца па пушчы. Нядаўна маю свякроўку Дароту д'ябал перастрэў на дарозе, калі яна ўночы вярталася з паншчыны, дык ледзь досвіткам змагла вярнуцца дахаты.

– Але ж вярнулася? – павярнуўшыся да яе, спакойна запытаўся стралец. – Не такі ўжо і страшны гэты д'ябал. А як жа ён выглядаў?

– Беражы, Божа, нашыя душы, – прамовіла, жагнаючыся, Кацярына. – Звычайна, як немец. А Люцыі каля самага мосту, што з двара…

– Я гэтых жахаў не баюся, маці, але на ноч сам хацеў папрасіцца, бо сёння ўжо не трапіць мне ў Заціша.

– Вой, панічок! Дык вашэць панічок з Заціша! А арандар, калі ўбачыў, як вашэць панічок падыходзіў, сказаў, што мусіць гэта стралец пана генерала з Падазер'я.

– Ён мяне не ведае, і ты яму не кажы, хто я. Гэтай памылцы ты, можа, будзеш абавязана захаваннем свае авечкі. Каб арандар ведаў, што я бываю ў вашага пана, дык, можа, знайшоў бы іншы час ці месца, каб выдурыць яе ў твайго мужа.

– Вой, панічу, змілуйся, ратуй нас! Гэты гад з'еў ужо адзіную нашу кароўку, якую муж за бесцань увесну прадаў яму на падаткі. Няма чым дзяцей карміць. А цяпер выдзірае апошнюю маю авечку, апошнюю надзею, якую я сама выгадавала… Але што ж, васпане, прыгатаваць з'есці панічу? Звару бульбы…

– Дзякуй табе, маці. А што гэта? Ты раней казала, што ў вас дома больш нікога няма, а я чую гул жорнаў і нібыта ў свіронку.

– І я чую нейкі рокат, але гэта не можа быць гул жорнаў, бо наш пан загадаў жорны ў нас пазабіраць, каб мы малолі ў арандара, і ніводнага суседа няма ў гэтай глухамані. Святы Антоні! Гэта ж нехта едзе! – загукала яна. – Мо хто заблукаў у хваёвым лесе па тых сцежках, якіх нарабілі, возячы дрэва на сплаў. Ці, можа, гэта пан аканом.

Пачуўшы слова "аканом", разам падхапіліся ад стала Абрам і Тадэвуш, які – прыспешаны новымі намовамі арандара – ужо гатовы быў аддаць яму авечку. Селянін наставіў вуха і, чуючы выразны ўжо грукат колаў, выбег за дзверы, а жыд, заткнуўшы спешна бутэльку, схаваў яе разам з чаркаю ў кішэню ды жвава задзьмуў лучыну і ў два скокі апынуўся на печы, адкуль крык дваіх дзяцей засведчыў, што ён за імі шукаў хованку.

– Бач ты, як аканома баіцца! – ціха сказала Кацярына. – Бо наш пан нядаўна загадаў, каб жыд цёмначы не цягаўся да сялянаў. І аканом – нібы той сабака – ужо раз злавіў яго, калі жыд быў у Андрэя, і добра тут нажыўся. Вой, Бог дасць, дык сама міргну, дзе тая вужака зашылася.

– Кацярына! Агню! Хутчэй агню! – пачуўся з панадворка спалоханы голас Тадэвуша, потым – невыразная гаворка, скрып варотаў, грукат возу, які заязджаў на дзядзінец, ды іржанне коней. Кацярына, запаліўшы лучыну, падала яе праз вакно Тадэвушу.

## Раздзел другі

# ПАН ПАДСТОЛІЦ

Szubrawcy! miejcie wasze ozdoby na względzie[b],
Perkunas z nieba zstąpił i sam mówić będzie.
Niech Łopata powagę i cichość ogłosi;
Oto staje obecnie i sam o głos prosi.

*Odezwa Pergrubiusa przy wprowadzeniu Sotwarosa w obowiązki Prezydenta w Towarzystwie Szubrawskiem*[17]

Неўзабаве адчыніліся дзверы і ў хату ўвайшоў чалавек статны, поўны сілы, якому было каля пяцідзесяці гадоў, у шарачковым сурдуце і ў шапцы з выдры. Па ягоным высокім чале, правільных рысах твару і сур'ёзных блакітных вачах адразу можна было пазнаць чалавека з пачуццём уласнае годнасці, разумнага, людскага і прыветнага; прыгледзеўшыся, можна было заўважыць у ім шляхетную сардэчнасць, здольнасць да ахвярнасці дзеля дабра братоў сваіх, а яго паводзіны сведчылі пра тую знаёмасць свету і людзей, якая набываецца не дзякуючы хуткай праніклівасці, а ў выніку дасведчанасці ды назіральнасці. Ужо з парога ў шляхетнай постаці стральца ён пазнаў чалавека вольнага, дык, здымаючы шапку, павітаўся найперш з гаспадыняю, а потым з ветлівым прывітаннем звярнуўся да стральца:

– Калі не памыляюся, дык мы апынуліся тут падобным чынам: малады чалавек, відаць, заблукаў падчас палявання, а я, едучы ў начной цемрадзі, збіўся з дарогі.

– Не памыляешся, васпан дабрадзей, – адказаў з паклонам стралец і, паказваючы на агонь, дадаў: – Можа, будзе ласка пагрэцца? Агульным лёсам прызначана нам гэтая выгода.

– З прыемнасцю прымаю гэты довад ветлівасці, – адказаў новапрыезджы, паціскаючы стральцу руку і займаючы месца каля печы. – Скажыце мне, калі ласка, – дадаў ён, звяртаючыся да Кацярыны, – куды я трапіў? Каму належыць гэтая воласць[18]?

– Нашаму пану, – адказала Кацярына. – Вашэць пан крыху заблукаў, але нічога, і адсюль можна выехаць на гасцінец гэтак, як мой муж ездзіць у млын. Я, праўда, толькі ў двор хаджу на паншчыну, а раз на год – у Падазер'е на кірмаш. Але цяпер няма чаго пра кірмашы і думаць...

Нейкая смутная згадка не дала ёй скончыць. Кацярына ўзяла качаргу і пачала папраўляць агонь у печы, а новапрыезджы, зірнуўшы на яе з літасцю, павярнуўся да стральца і спытаў: – Хто ж гаспадар гэтае воласці, да якое вядзе такая ліхая дарога?

– Адзін з нашых урадоўцаў, – адказаў стралец і, усміхнуўшыся іранічна, дадаў, – кляйнот павету – пан Харунжы...[19]

[b] Павагу і маўчанне.

– Дык гэта ён? Чуў я пра яго, – перапыніў, прыглядаючыся да стральца, новапрыезджы.

– Ён, – працягваў стралец, – як узорны грамадзянін, будучы абраны на адну з першых пасадаў, дае прыклад у сваёй воласці, як належыць утрымліваць дарогі для выгоды падарожных. Шмат хто блукаў ужо ў гэтым хваёвым лесе…

– О, шмат, – умяшалася Кацярына. – Пэўна, ягамосць заблудзіў ад мосту?

– Мост праехаў, – адказаў новапрыезджы, – а потым на пакручастых сцежках мы збіліся з дарогі.

– Дзіва што! – пераканаўчым рухам пацвердзіла Кацярына. – Гэтак заўжды – ад мосту: і гэты паніч з Заціша, і мая свякроўка Дарота…

– Вяльможны пан з Заціша? – здзівіўся новапрыезджы, пільна прыглядаючыся да стральца. – Так! Жывы вобраз пана Ротмістра[20]. – І ветліва ўзяўшы яго за руку: – Але ж я не памыляюся? Васпан – сын пана Ротмістра з Заціша?

– Не памыляешся, васпан дабрадзей, – адказаў здзіўлены стралец. – Я – сын ягоны, а маё імя –Уладзіслаў.

– Дай жа мне абняць цябе, пане Уладзіслаў, сын майго даўняга таварыша па зброі і сябра! Я ведаў, што бацька васпана жыве дзесьці паблізу, у гэтай ваколіцы, у Зацішы, але не меў нагоды яго наведаць. Даўно мы не бачыліся! Як жа ён маецца? Ці здаровы яшчэ бацька васпана?

– Дзякуй Богу, – адказаў Уладзіслаў, – бацька мой здаровы і бадзёры, часта прыгадвае сваіх таварышаў па зброі, а калі яшчэ і сяброўства лучыла васпана дабрадзея з маім бацькам, дык ён быў бы бясконца рады мець прыемнасць сустрэць некалі ў сваім доме даўняга прыяцеля.

– Спяшаюся я на кірмаш, – адказаў новапрыезджы, – дык зазірнуць на адну ўсяго гадзінку да бацькі васпана не хацелася б: у нас размоваў на некалькі дзён. Ці не будзе бацька васпана на кірмашы?

– Цяпер якраз, – адказаў Уладзіслаў, – бацька мой і не мог бы прыняць у сябе васпана дабрадзея і на кірмашы яго не будзе, бо ён паехаў амаль за дваццаць міль па справах. Але ж ягонаму сыну было б гонарам ведаць…

– Хто я? – перапытаў новапрыезджы. – Чытаў, васпан, творы Красіцкага?

– Чытаў.

– Памятаеш, напэўна, *Пана Падстолія*?

– Які ж паляк не ведае яго ледзь не на памяць?

– Гэта якраз пра частку жыцця майго бацькі.

– Васпана дабрадзея бацькі! О! Якое шчасце! Дазволь жа, васпан дабрадзей, абняць цябе як выказванне пашаны да памяці твайго бацькі. Мы не ведаем, праўда, ягонага прозвішча, але тытул падстолія стаў яму імем уласным.

– Можа, як знак пашаны да гэтага імя землякі сталі зваць мяне Падстоліцам. Гэта вялікі гонар насіць праслаўленае імя заслужаных для Айчыны продкаў, але і вельмі цяжкі, бо калі кожны грамадзянін краю абавязаны прыкладаць усе сілы для агульнага дабра суайчыннікаў, дык тыя, хто атрымаў у спадчыну ганаровае імя продкаў, павінны яшчэ з большаю стараннасцю працягваць іх справу і быць прыкладам для сваіх братоў. Разумеючы гэты пачэсны абавязак, але няўпэўнены, ці здолею выканаць яго, я нясмела прымаю гэта імя майго бацькі.

– Ці васпан дабрадзей дазволіць мне яшчэ адно пытанне? Пан Падстолій меў двух сыноў і жыў у Кароне…

– Я – малодшы ягоны сын, – адказаў пан Падстоліц. – Пакінуўшы вайсковую службу, вырашыў я абраць вясковае жыццё, а ўзяўшы пад увагу добрае

становішча Літвы, якую колісь звалі залатою, ды атрымаўшы дазвол бацькі і з ягонаю дапамогаю, набыў я маёнтак з гэтага боку Нёмана і пасяліўся тут[Ic]. Цяпер, калі мы ўжо пазнаёміліся, пане Уладзіслаў, варта паклапаціцца пра вячэру, бо мяркую, што пасля палявання, як і мне з дарогі, страўнік нагадвае пра сябе.

– Убогая хата нашых гаспадароў няшмат нам абяцае дапамогі ў гэтай справе.

– Забываеш, пане Уладзіслаў, што я сын пана Падстолія, а прадбачлівасць была не апошняю ягонаю добраю якасцю. Я прызвычаіўся, праўда, у войску задавальняцца драбязою, аднак хоць сціплы, але заўсёды маю падарожны запас. Маці, – звярнуўся ён да Кацярыны, – ці знойдзецца ў вас бульба?

– Ёсць, пане, – адказала Кацярына. – Наш агарод, дабрадзею, на новым месцы: яна не ўрадзіла, бо гною мала. Праўда, на поле яго зусім не вазілі, але ж у нас і звычаю няма на поле шмат вывозіць. Бульба ёсць. Няма чаго казаць. Загадае ягамосць прынесці?

– Прынясі, калі ласка, памый і пастаў у вялікім чыгунку на некалькі чалавек. А яйкі ці ёсць, маці?

– Не, няма, дабрадзею, куры на чынш…

– У мяне ёсць! – пачуўся раптам голас Абрама, які ў момант саскочыў з печы (ажно пан Падстоліц крыху спалохаўся), і паспешліва, трасучы мыцкаю[21], лапатаў: – Колькі пану трэба? У мяне ўсё ёсць на возе. У імгненне вока прынясу.

І ён выбег за дзверы ўслед за Кацярынаю.

– Што гэта? – запытаўся крыху збянтэжаны пан Падстоліц.

– Гэта тутэйшы арандар, – адказаў Уладзіслаў. – Ён пачуў грукат каляскі і, думаючы, што гэта прыехаў аканом, схаваўся на печ, бо баіцца спагнання за тое, што нягледзячы на забарону носіць па хатах гарэлку; а падбіваючы да яе сялянаў, выдурвае ў іх, чаго якраз я і быў сведкам, апошні набытак.

Зірнуў пранікліва на Уладзіслава пан Падстоліц і сказаў:

– Вось вынік нашага пераканання, што жыды – лепшыя арандары корчмаў. Прывучаюць яны селяніна да нядбальства ды марнатраўства, нішчаць яго рознымі хітрыкамі ды ўгаворамі; нават таго, хто не жадае, прымусяць, каб ён пазбыўся апошняга ў гаспадарцы ды стаў жабраком; а пан, не маючы магчымасці ўсім дапамагчы, за колькі злотых уяўнага прыбытку з арэнды, пасля збяднення воласці сам, хоць бы і меў справы ў найлепшым стане, мусіць, нарэшце, нарабіць даўгоў і абавязкова заняпасці.

Ускочыў Абрам з поўнаю шапкаю яец.

– Штосьці асаблівае! – закрычаў ён з парога. – Дзіва, дый годзе, яснавяльможны пане! Узяў я іх у сялян дарогаю і збіраюся прадаць на заўтрашнім кірмашы; але мушу яснаму пану, як знаёмаму, аддаць.

– Ніколі я цябе не бачыў, – сказаў Падстоліц. – Колькі тут у цябе?

– Два дзясяткі, ясны пане, усе свежыя, як рыбіна вока. Загадае ясны пан даць гарэлкі людзям?

– Колькі табе належыць за яйкі?

– Ці ж я буду з ясным панам гандлявацца? Няхай пан спажывае на здароўе, потым палічымся за ўсё разам.

– Я не вазьму, не ведаючы кошту.

– Ну, калі ясны пан жадае ведаць кошт, дык без гандлю, адным словам, колькі ясны пан дасць? Гэта нешта асаблівае – гэтыя яйкі.

– Найдаражэй – па грошу.

---

[c] Глядзі заўвагі напрыканцы часткі.

– Што? ясны пан, хіба, жартуе? Такія яйкі і па грошу! Ну, каб мне столькі здароўя, як яны мне самому даражэй каштуюць. А я ж мушу жыць. Хіба, яснаму пану яны не трэба. Ну, у гандлі без гневу. Па грошу, *hersdu?*[22] Ну, і гэта грошы?

– Дык кажы, колькі ты за іх хочаш?

– Паводле сумлення, паводле прыстойнасці! Бо калі, зважаючы на асобу яснага пана, аддаю за два злотыя, дык гэта за належны кошт.

– У чатыры разы даражэй, чым яны таго вартыя. Трымай.

– Гарэлкі людзям па кілішку? – пытаўся ўпэўненым голасам жыд.

– Ідзі адсюль зараз жа. Мы абыдземся і без цябе.

– Абыдземся, дык абыдземся, – адказаў жыд, ківаючы галавою і жэстыкулюючы рукою. – А за сена калі ясны пан заплаціць?

– За якое сена? Хіба ж, я браў у цябе сена?

– Я купіў у тутэйшага гаспадара для панскіх коней.

– Тваё мне непатрэбна; я сам у яго куплю.

– Яснавяльможны пане, перапрашаючы пана: ён без мяне нічога прадаць не можа.

– Ідзі адсюль зараз жа.

– Але арэнда, яснавяльможны пане; сена да арэнды належыць.

– Я не ў карчме начую: магу браць сена, дзе захачу.

– Але ці ясны пан не ведае, што ў нас карчма там, дзе карчмар? Урэшце, каб ясны пан не заблукаў, дык у карчме б начаваў.

– Яшчэ раз табе паўтараю: сыдзі мне з вачэй зараз жа!

– Што гэта за “сыдзі”? Што гэта за “сыдзі”? Я такі ж, як і кожны. Каму цесна, той няхай і сыходзіць. Навошта гэтая фанабэрыя?.. Няхай ясны пан загадае даць гарэлкі людзям.

– Гэй, Марцін, – гукнуў, страціўшы апошнюю цярплівасць, пан Падстоліц.

Увайшоў рослы вусаты гайдук, колішні жаўнер, як сведчыў ягоны твар, які на знак пана Падстоліца выпхнуў за дзверы жыда і запытаўся?

– Што пан загадае?

– Выправіць яго за браму і не пускаць сюды. Прынесці скрыню з харчам ды паклікаць тутэйшага гаспадара.

Марцін жвава павярнуўся і выйшаў, а пранізлівы крык Абрама ды падвойны скрып варот далі знаць, што загад пана Падстоліца выкананы. Тым часам увайшла Кацярына, несучы ў кашы бульбу, а за ёю – Марцін з Тадэвушам, цягнучы куфэрак.

– Маці, – сказаў Падстоліц, – зрабі ласку заняцца вячэраю. Маеш тут яйкі на лаве, у скрыні знойдзеш масла і гаршкі. Марцін будзе табе дапамагаць. Згатуеце мясную страву, пасмажыце бульбу і яечню.

– Добра, дабрадзею, дапамагу. Ці ж мне ўпершыню для паноў гатаваць? Я ж, вартуючы пры дваровай кухні, мела магчымасць прыгледзецца. І мой сын быў кухцікам, а цяпер ён ужо лёкай! – дадала яна з гонарам. – І паніч яго вельмі любіць, бо ён пачцівы дзяцюк. А васпану, – сказала яна, звяртаючыся да Марціна, – я шмат цікавага, гатуючы, раскажу.

– Буду слухаць, маці, буду, – адказаў Марцін, запальваючы васковую свечку, якую паставіў у срэбраным падсвечніку на стол, і пачаў завіхацца разам з Кацярынаю ля печы.

## Раздзел трэці

# СЕЛЯНІН

Pij ty Włodarzu i mów, coć się będzie zdało,
Prosto, jako ca naszych ojców więc bywało.
– Takci bywało, panie, pijaliśmy z sobą,
Ani gardził pan kmiotka swojego osobą.
Dziś wszystko już inaczej, wszystko spoważniało;
Jakto mówią, postawy dosyć, wątku mało.

Jan Kochanowski, *Pieśń XXVIII*[23]

Калі пан Падстоліц і Уладзіслаў селі за стол, а гаспадыня, ні на крок не адступаючы ад Марціна, напаўголаса апавядала яму пра фіглі д’ябла ў пушчы, што абступала іхнюю хату, Тадэвуш, які ўжо трохі працверазеў на холадзе, стаяў ля парога і абыякава прыглядаўся, як гаспадараць у ягоным доме.

Пан Падстоліц праз момант звярнуўся да яго:

– Хадзі сюды, браце. Занялі мы табе хату, з дазволу, праўда, але пэўна, не без прыкрасці: вы пасля працы, відаць, хутка ўжо і адпачывалі б; аднак і мы доўга бавіцца не будзем. А пакуль сядай тут і раскажы нам, як доўга ты жывеш у гэтай глухамані.

Пакланіўся нізка Тадэвуш, і, калі пан Падстоліц яго амаль гвалтам усадзіў, выцер рукою вочы і сказаў уздыхаючы:

– Нядаўна, дабрадзею, другі год мінае, як мяне пан перасяліў сюды з вёскі.

– А навошта пан выселіў цябе з вёскі? Ці вам было цесна?

– Не мяне аднаго, дабрадзею. Было нас даўней некалькі дзясяткаў сядзібаў у той вёсцы, а цяпер не засталося і паловы былых гаспадароў, пан усіх папрасяляў у хваёвы лес, высекшы рэшту дрэў, што засталіся пасля продажу жыдам; мне ж, нібы з-за сына, які служыць пры двары, далі гэты кавалак гатовае аблогі.

– А ранейшая ваша зямля каму дасталася?

– На даўніх нашых сядзібах пан зрабіў фальварак, а ўсе агароды ды ўгноеныя землі далучыў да новых палеткаў.

– Мусіць мець цяпер добрыя ўраджаі ў тым фальварку?

Тадэвуш толькі паківаў галавою:

– Мы людзі простыя, дабрадзею, не маем гэтулькі розуму, як паны, але ведаем, што ў добрага гаспадара і самая горшая зямліца ўродзіць як агарод, а ў нас і ў агародах усё прападае.

– Што за прычына гэткае нядолі?

– Вой, нядоля, дабрадзею, нядоля… Ніхто са старых не памятае такіх неўраджаяў на гэтых землях – і на дваровых, і на тых, што ў нас паадбіралі.

– Можа, кепска яе апрацоўваюць? Бог бласлаўляе толькі шчырую працу.

– А што ж яшчэ, дабрадзею, як не гэта; як жа добра апрацоўваць, калі валасць стала значна меншаю, чым была некалі, а палеткаў і пасеваў дваровых – удвая больш?

– Можа, ваш пан у дапамогу вам наймае парабкаў?

– Не, дабрадзею, такое завядзёнкі ў нас няма.

– Аднак за тое, што вашу зямлю забралі, павінныя былі вам на нейкі час адмяніць паншчыну.

– Не, пане, мала таго, дык мы мусілі яшчэ новы фальварак шарваркам[24] ставіць.

– Дык, можа, даў вам пан якую дапамогу?

– Даў валоў, у каго не было; але і іх мы замардавалі, калі не ў пару вазілі дрэва на будову фальварку і на сплаў на раку.

– Мусіў зрабіць вам палёгку ў аплаце чыншу і падаткаў.

– Не, дабрадзею, не зрабіў аніякае палёгкі: пакуль хто можа плаціць, той плаціць, хоць апошнюю карову, апошнюю сярмягу няхай прадасць, а плаціць мусіць.

– Навошта вам прадаваць каровы і сярмягі, калі вы маеце заробак у лесе, які, як сам кажаш, сплаўляеце на продаж?

– Праўда, дабрадзею, але мы за гэта і гроша не бачым. Пан бярэ ў купцоў усе грошы сабе, а ў рахунках з намі вылічвае толькі, колькі мы гарэлкі ў іх вып'ем. А калі няма работы ў лесе, тады пан наймае нас суседзям на малацьбу і за гэта таксама сабе грошы бярэ.

– Бо мусіць вылічыць, што належыць ад вас за чынш і падаткі, а рэшту, пэўна, вам аддае?

– Не, дабрадзею, мы гроша ад пана не бачым. Наадварот, пан кажа, што мы яму яшчэ павінныя за разлікі з жыдамі і ягоную дапамогу, а на падаткі апрача гэтага трэба старацца зарабіць.

– Бо, можа, сапраўды шмат выдаткаваў на дапамогу?

– Бог яго ведае, дабрадзею; мы не можам гэтага палічыць; здаецца, аднак, што не так і шмат. Даўней, дабрадзею, дапамога нам была непатрэбная, цяпер дае нам пан дапамогу, але ж за тое паншчына без меры, жывёла гіне на паслугах панскіх і на дарогах, а корму для яе назапасіць часу не маем, бо яшчэ і жыта на полі.

– Як гэта? У канцы верасня жыта на полі? Колькі ж зерня ў тым жыце?

– Высыпалася, дабрадзею, даўно зерне, і з яго ўжо новая рунь узышла. У мяне яшчэ палова жыта на полі.

– А яравыя?

– Няшмат іх было, дабрадзею. На няўгноеным полі авёс прапаў; ячмень мароз прыхапіў, калі налівалася зерне: мусіў скасіць на корм для быдла; тое самае з грэчкаю, дабрадзею. Прынамсі, корму трохі назапасілася, але большую частку яго мусіў на розныя патрэбы прадаць. Давядзецца, відаць, пад вясну страхою жывёлу карміць, як гэта ў нас часта здараецца; калі за зіму астатнюю не замардуем цяжкаю працаю насмерць.

– Колькі ж у цябе жывёлы?

– Няма чым пахваліцца, дабрадзею, звялося ўсё да двух валоў і аднае авечкі.

– Гэта мала. А даўней колькі меў?

– Было ў мяне звычайна, дабрадзею, дзве пары валоў, восем дойных кароў, па некалькі цялят і цялушак, чатыры кані, каля трыццаці авечак і бараноў.

– Відаць, шмат было работнікаў?

– Было, дабрадзею, трое малодшых братоў, дарослых і жанатых, чацвёра сыноў-падлеткаў, тры дачкі і некалькі пляменнікаў.

– Дзе ж падзелася гэтакая вялікая сям'я?

– Ужо больш за дзесяць гадоў, дабрадзею, як Бог больш у нас забірае, чым дае. Адзін брат загінуў на сплаве, другі памёр дома, трэцяга пан аддаў у войска, адзін сын служыць у двары, двое памерлі, а чацвёртага пан таксама аддаў у войска. Гадую дваіх дзяцей майго старэйшага брата, а з маіх дзяцей засталася ў мяне толькі тая дачушка, што ў калысцы.

– Няхай яе Пан Бог гадуе. Якая ж прычына такога паморку ў тваёй хаце?

– Не толькі ў маёй, дабрадзею. Наша валасць калісь была пладавітая, бывала кожны гаспадар сядаў за стол у атачэнні дваццаці чалавек. Блаславёныя былі часы. Былі мы ўсе сытыя і вясёлыя. Але больш за дзесяць гадоў таму, калі збожжа патаннела, паны пачалі душыць нас павіннасцямі, бо хацелі дабраць нядоімку большымі пасевамі. Занядбалі мы ўласныя палеткі, не было нам калі там працаваць, з году на год усё менш збіралі мы хлеба. Менш было корму для жывёлы, дык мусілі пазбывацца яго, звялося ўрэшце да апошняга... Вой, дабрадзею, доўга расказваць, як занепадалі мы ў галечу. А ў галечы – без хлеба, без адзення, без ратунку – гіне чалавек, як пасевы без дажджу. Спачатку дзеці нашы пачалі гаснуць, потым і дарослыя паслаблі, працуючы без адпачынку, часта і без харчу альбо маючы стравы з аднае толькі травы і без солі, няма чаго і дзівіцца, што гінем мы і мром без пары.

У гэту хвіліну пачуўся з калыскі надзвычай слабенькі плач дзіцяці. Кацярына кінулася закалыхаць яго, а Тадэвуш, падняўшыся з лавы і, паказваючы на калыску, з вачыма поўнымі пакуты казаў:

– Чуеш, пане, голас апошняга майго нашчадка! Знясіленая на нішчымніцы маці, мала што не мае чым карміць дзіця, дык мусіць яшчэ цягаць яго за сабою па слоце ў двор на паншчыну. Гэтак гінуць нашыя дзеці; гэтак штогод большасць нашага насельніцтва, і старых, і малых, не пакінуўшы нашчадкаў, ад галечы ці роспачы ідзе ў магілу, а нам застаецца толькі зайздросціць іхняму лёсу.

Апошнія словы прамовіў ён ледзьве ўжо не плачучы, схіліў галаву і стаяў у нямой болесці.

Пан Падстоліц зірнуў на Уладзіслава і, заўважыўшы слёзы ў ягоных вачах, сціснуў яму руку, потым падышоў да Тадэвуша, пасадзіў яго ізноў каля сябе за стол і сказаў:

– Браце мой, разумею твае пакуты і спачуваю вашаму гаротнаму становішчу.

– Цяжка ў гэта паверыць, – адказаў Тадэвуш, – паны не бачаць і не хочуць бачыць, да якое нядолі яны нас давялі.

– Ты не можаш казаць, што ўсе паны такія ліхія; ведаеш, пэўна, і сам багацейшыя валасці, якія маюць лепшых паноў.

– Колькі ведаю, дабрадзею, – усе валасці па суседству гэткім жа самым заняпадзе, як і нашая.

Пан Падстоліц заўважыў як пачырванеў твар Уладзіслава, а ведаючы, што ён сам не гаспадарыць, а таму з-за далікатнасці не хацеў, каб той быў прысаромлены, дык зрабіў выгляд, што не звярнуў на гэта ўвагі.

– Павінны быць прычыны, якіх вы не разумееце, – сказаў ён, звяртаючыся да Тадэвуша. – Не можа быць, каб вашыя паны хацелі вашае згубы, ці ж ім самім не было б лепш, каб вам было добра?

– Мы людзі простыя, дабрадзею, – адказаў Тадэвуш, – не можам ведаць, што нашы паны думаюць; бачым толькі, што гінем, як пчолы ў вуллі, у якім мацнейшыя шэршні мёд з'елі.

– Неблагое параўнанне, – азваўся Уладзіслаў, – варта прызнаць, што заслужанае.

– Браце мой, – сказаў пан Падстоліц, – цяжка, вядома, трываць гэткую нядолю, але нельга губляць надзеі: варта толькі з ахвотаю ўзяцца за працу, дык Пан Бог блаславіць.

– Вой, дабрадзею! Цяжка знайсці ахвоту, калі чалавек душыцца працаю без адпачынку. Рабіў даўней у пана за зямлю, якая мне належала, тры дні мужчынскія і тры дні жаночыя на тыдзень; даўней гэта лёгка было, калі работнікаў было шмат; цяпер толькі я адзін з жонкаю, але мушу адбываць тую самую паншчыну і гэта апрача гвалтаў, дарог, шарваркаў, талокаў, вартаў, старожаў, перавозкі дрэва, дарэмшчыны[25] ды іншых бясконцых павіннасцяў. Так што здараюцца тыдні, калі адно толькі ў святы дзень дома застаешся.

– А ў свята, – азвалася ад калыскі Кацярына, – таксама нявыкрутка, бо гоняць па ягады, па хмель, па грыбы, па арэхі. Можа, думаеш, ягамосць, што зімою вызваляюць ад тае дарэмшчыны? Барані Божа! Яшчэ горай. Цэлы дзень малаці збожжа, а на адпачынак чашы воўну, трапі лён, прадзі талькі[26], тчы кросны дваровыя… Але што тут казаць, і ў ягамосця ж, мусіць, гэтаксама…

– Змоўкні! – закрычаў Тадэвуш, падымаючыся і пагражаючы кулаком.

– Не гневайся, браце, – сказаў пан Падстоліц, затрымліваючы яго на лаве. – Яна нічога лішняга не сказала, мяркуючы, што і ў мяне гэтакія, як у вас, парадкі. Спадзявайся на лепшае, мой гаспадар, яшчэ, можа, і вам Усёмагутны Бог дасць пацеху.

– Вой, няма надзеі, дабрадзею, і Пану Богу няма за што нас пацяшаць, бо мы не ведаем ужо ані нядзелі, ані святога дня. Як развіднее ў панядзелак, войт гоніць ужо нас на працу ў двор; хіба, у непагадзь пакідае дома; бывае і ў добрае надвор'е прыйдзем, а пачнецца дождж, дык адпраўляе ўсіх назад і той дзень паншчыны ўжо не залічвае. Дык працуе чалавек толькі ў слоту і ў святы на сябе, а Богу няма калі пакланіцца. І маем мы, што заслужылі: вось увесь наш набытак, які ягамосць бачыць, вось усё нашае адзенне на нас, лахманы гэтыя, а зіма ўжо на парозе.

– А катуюць, а б'юць… – пачала было зноў Кацярына.

Але Тадэвуш зноў крыкнуў: "Змоўкні, ты!", і сам казаў далей пану Падстоліцу:

– Яна праўду кажа, дабрадзею. Калі хто марудзіць на паншчыне, дык не глядзяць, можа, чалавек аслаб без кавалка хлеба ды не паспявае за ўсімі, а лютуюць і б'юць, як кажуць, для прыкладу іншым. Людзі млеюць, працуючы цэлы дзень на полі ў спёку амаль без адпачынку, бо калі дзень пагодны, дык трэба завіхацца: работы шмат. А пан альбо аканом, стоячы над каркам

з бізуном, лупцоўкаю вяртаюць да прытомнасці тых, хто млее, ды лаюць зняважліва. Барані Божа хоць слова прамовіць, страціўшы цярплівасць!.. Ах, пане, няма ўжо нам ані шчасця, ані пацяшэння. Чакаем толькі, што Бог хутка злітуецца ды забярэ нас з гэтага свету, на якім жыццё нам, мужыкам, пад цяперашнімі панамі ўжо абрыдзела.

– А прыйдзе восень, – зноў азвалася Кацярына, – дык як саранча пасыплецца: то з пакалядным, то з пальнавальным[27], то з малітвамі. Аканом – сабе, пісар – сабе, арганіст – сабе, арандар – сабе, дваровыя – сабе, ключвойт – сабе. З усіх бакоў рвуць у чалавека з рук, што ён мае: ці жменю ільну, ці кавалак сала, ці масла гарнушак, ці куру, што засталася ад чыншу, – усё адбіраюць да апошняга, а не дасі, дык здолеюць перад панам…

– А змоўкні ж ты, баба! – закрычаў Тадэвуш. – Лепш бы вось дапамагла вячэру гатаваць для ягамосця. Яна праўду кажа… – хацеў ён ізноў сам закончыць, звяртаючыся да пана Падстоліца, але Кацярына, даверліва спадзеючыся на дапамогу прысутных, не пабаялася настаўленых ужо кулакоў і перапыніла яго:

– Ці мне ўжо і слова няможна сказаць? Што табе да вячэры? Вячэра, можа, ужо і гатовая, адкуль табе ведаць? Я сама яе гатавала з гэтым пачцівым панам, які мяне слухаў, як усе разумныя людзі слухаюць. Добра казала мая свякроўка Дарота…

У адказ на позірк пана Падстоліца перапыніў яе гучны голас Марціна:

– Гатова, пане; загадае пан падаваць?

– Добра, каханы мой, давай, – сказаў пан Падстоліц, – і не забудзь пра сябе ды пра фурмана.

## Раздзел чацвёрты

# ВЯЧЭРА

Dość teraz, bo nas czeka gotowy
On stół...
Ty przyjmiesz z chęcią, co z łaski Boży
Ziemianin chudy prze cię położy.
Jedzmyż już teraz, a gdy obrusy
Zejmą, znowu się język nasz ruszy.

Kas. Miaskowski, *Zjazd Jędrz.*[28]

Марцін адразу ж выцер стол, заслаў белы абрус, паставіў талеркі і аплеценую пляшку на палову гарца, кантынку[29] з двума шклянкамі ды дзве пары прыбораў, і, выклаўшы стравы на місы, падаў іх на стол.

– Мой гаспадар, – азваўся пан Падстоліц, – і вы, мая матка, зрабіце ласку, раздзяліце са мною падарожную вячэру.

– Няхай ягамосць падсілкуецца, – адказалі разам, кланяючыся, гаспадары. – Куды нам разам з панамі за стол сядаць.

– Прашу вас, браты мае, калі хочаце, каб я еў, дык і вы са мною есці будзеце. Не палічыш гэта за знявагу, пане Уладзіслаў, што запрашаю пана разам з мужыкамі. Кароль Казімір Вялікі[30] гэтага не саромеўся, а нам тым больш карона з галавы не спадзе.

– Такая вячэра, – адказаў Уладзіслаў, – будзе для мяне лепшаю за абед паводле этыкету.

Пан Падстоліц паціснуў яму руку і сказаў:

– Марціне, яшчэ на дваіх!

– Зараз, пане, – адказаў Марцін, падаючы талеркі і прыборы. – Гэта пажаўнерску! Пан заўсёды гэтак рабіў і на вайне. Добра яшчэ, што ты дзяцей не маеш, бо пан сам нічога не з'еў бы, пасадзіўшы іх на калені, як даўней.

– Дзякуй, што нагадаў. А дзе вашы дзеткі, матка?

– Гэта пляменнікі нашыя. На печы, дабрадзею.

Толькі зараз заўважыў пан Падстоліц у змроку дзве галоўкі, якія выглядалі з-за коміна.

– Хадзіце сюды, дзеткі, хадзіце, – пазваў ён, – не бойцеся.

Марцін кінуўся даставаць дзяцей, Кацярына і Тадэвуш хацелі не даваць.

– Няхай іх пан не чапае, яны запэцкаюць пана.

– Нічога, – адказаў Марцін, выцягваючы дзяцей, – Мы ўжо і так запыліліся. Хадзіце сюды, каханыя дзеткі, – прынёс ён іх на руках ды паставіў перад панам.

Быў гэта дзевяцігадовы хлопчык, даволі жвавы, і сямігадовая дзяўчынка. Абое белагаловыя, страшэнна худыя і запэцканыя, у брудных падзёртых кашульках. Глядзелі яны з-пад ілба са страхам, як ваўчаняты.

– Маці, – звярнуўся да яе пан Падстоліц, – памыйце іх трохі, мы вас пачакаем.

Марцін дастаў мыла і ручнік ды разам з Кацярынаю вывеў дзяцей у сенцы.

Тым часам пан Падстоліц пасадзіў пры сабе за сталом з аднаго боку Тадэвуша, нягледзячы на яго супраціўленне, а з другога – Уладзіслава, які першы раз пабачыўшы такую людскасць і шчырасць, дзівіўся пану Падстоліцу; але яшчэ больш ён дзівіўся руплівасці Марціна і ягонай далікатнасці, незвычайнай для нашых слуг.

Заўважыў гэта пан Падстоліц і, раскладаючы страву па талерках, сказаў:

– Навучыўся я ад майго бацькі, як мець добрых лёкаяў. Трэба з імі палюдску абыходзіцца, быць справядлівым, дбаць пра іх, памятаць, што яны – нашая дапамога і самыя блізкія прыяцелі, што за невялікую часта плату яны прысвячаюць сваё жыццё дзеля нашых выгодаў; дык трэба дапамагаць ім у патрэбе, у хваробах і ў старасці. А, перадусім, варта абдумаць кожнаму з іх абавязкі, што не дасць ім лайдачыць і прынясе належны заробак ў вольны час. Гэта сродкі беспамылковыя, нават для выпраўлення кепскіх людзей і для захавання ў іхнім асяроддзі маральнасці.

Аднак недастаткова, каб лёкай быў надзейны і паслухмяны свайму пану, хоць гэта галоўныя якасці добрых слуг. Павінны яны быць ветлівымі і з чужымі, нават з тымі, з кім пан вымушаны быў кепска абысціся; павінны служыць з ахвотаю і бескарысліва, бо нічога няма лепшага ў чужым доме, чым шчырая ветлівасць лёкаяў, і нічога не абурае больш, чым іх ганарыстасць, абыякавасць альбо, што яшчэ горш, дэманстрацыя яўнае незычлівасці.

Добра выхаваныя паны, калі бяруць лёкая, павінны запатрабаваць ад яго як першы абавязак бязмежную ветлівасць, без выключэння і для чужых. Я, калі заўважаю дзесьці хамства сярод слугаў, адразу пачынаю кепска думаць пра іхняга пана і мяркую, што ён сам альбо неразумны і не ведае, альбо не задумваецца, як жыць у грамадстве, альбо кепска выхаваны і з-за гонару ці з-за чэрствасці не дбае пра сваіх людзей. І рэдка калі ў сваіх высновах памыляюся.

Увайшоў Марцін, а за ім Кацярына, якая на парозе заканчвала апавядаць пра выпадкі з жыцця свае свякрові Дароты. Марцін вёў памытых дзяцей у чыстай бялізне. Дзеці ўжо з ім асвоіліся, бо лагодны Марцін схіліў іх да сябе пяшчотаю і яблыкамі. Пан Падстоліц пасадзіў пры сабе хлопчыка, а дзяўчынку падаў Уладзіславу.

Той узяў дзіця, якое са страхам пазірала на паноў і, баючыся плакаць, адразу нясмела, а потым усё мацней і мацней вырывалася з рук Уладзіслава да Кацярыны. Неспрактыкаваны ў абыходжанні з дзецьмі Уладзіслаў ледзь не апарыў дзяўчынку ў талерцы; пан Падстоліц усміхаўся, а Тадэвуш і Кацярына глядзелі на ўсё гэта вытарашчанымі вачыма. Нарэшце дзіця, якое вылузвалася з усіх сіл, пачало плакаць і крычаць:

– Мама, я не хачу ў пана! Мама, вазьмі мяне!

Не ў стане супакоіць дзіця Уладзіслаў аддаў яго Кацярыне, а сам пачырванеў і сказаў:

– Мне сорамна, што жадаючы добра выглядаць у вачах сына пана Падстолія, я хацеў прыняць на сябе абавязкі, якіх не магу выканаць.

– Спадзяюся, – сказаў пан Падстоліц, – што гаворка толькі пра ўтрыманне дзіцяці на каленях. Недасведчанаму цяжка зразумець, колькі высілкаў

і клопату, колькі дапамогі і выгодаў патрабуецца, каб выгадаваць нашых нашчадкаў. Хто ведае, ці не з'яўляецца ўсё часцейшае халасцяцкае жыццё сярод нашых гаспадароў адною з важнейшых прычынаў, хоць і ўскосных, якія ўплываюць на змяншэнне колькасці сялянаў, што стала ўжо ў нашай правінцыі відавочным. Сядай, маці, і спажывём у імя Божае тое, што Ён нам з Ласкі свае паслаў.

Размовы замяніліся паспешным стукам лыжак: усе даводзілі маўчаннем і хуткім спусташэннем талерак, што вячэра была для іх не лішняя. Хлопчык апярэдзіў усіх, і, асмелены ласкавасцю пана Падстоліца, адкладаючы лыжку, запытаўся ў Тадэвуша:

– Тата, а ці гэта пан?

– Пан, сынку, – адказаў Тадэвуш.

– А чаму ён добры, тата?

Пан Падстоліц зірнуў на Уладзіслава.

– Ёсць і добрыя паны, сынку, – адказаў Тадэвуш.

– А тата казаў, што няма добрых паноў, што ўсе яны нашу кроў п'юць.

– Змоўкні! – закрычаў грозна Тадэвуш. – Хто табе такое казаў?

– Тата і мама, і Абрам нават.

– Змоўкні, ты, брыдота! – закрычаў яшчэ больш грозна Тадэвуш. – Няхай ягамосць прабачыць, бо гэта дзіця неразумнае.

– Не бойся, – ласкава сказаў пан Падстоліц. – Я разумею, што ў гэтага дзіцяці няма столькі розуму, каб хаваць перад намі тыя словы пра паноў, якія вы передаяце з пакалення ў пакаленне. На жаль, марна ўтойваць: вашая нянавісць часта слушная. Але яна не з'яўляецца неадольнаю. Я сам, калі стаў уладальнікам воласці, бачыў, з якім жахам глядзелі на мяне мае падданыя, чуў, што яны казалі; але за некалькі гадоў працы здолеў іх пераканаць, што я іхні прыяцель, апякун і бацька.

Няраз ужо я ўпэўніўся ў іх прыхільнасці, а пад час вайны 1812 года яны давялі мне, нягледзячы на агульнае меркаванне, што могуць адчуваць удзячнасць і прыхільнасць да пана. Вестфальскія марадзёры абрабавалі асобных маіх суседзяў; дык іхнія сяляне дапамагалі рабаўнікам паліць дамы ды здзекавацца са сваіх паноў. Неспадзявана зграя тых лотраў наляцела і на маю вёску, пытаючыся пра дарогу да двара ды падбухторваючы сялян да рабаўніцтва і помсты пану. Сяляне мае ўзброіліся, і, таемна паведаміўшы мне пра небяспеку і свае намеры, павялі марадзёраў кружным шляхам у лес сярод балота. Я склікаў адразу ж стральцоў, паспяшаўся за лотрамі і, з дапамогаю сялянаў захапіўшы іх разам з усёю здабычаю, перадаў мясцовай уладзе[II]. Ніколі я не забуду гэтага іхняга шляхетнага ўчынку. З таго часу яшчэ большы давер палучыў нас. Мы сталі адною, скажу так, сям'ёю.

Я ведаю, мой гаспадар, вельмі добрых паноў, але іх няшмат. Аднак добры прыклад не гіне; можа, дасць Бог, яго ўсе заўважаць. Дык няварта ненавідзець пана, што ён нядобры да вас, каб ён бачыў вашу прыхільнасць, дык, можа, быў бы лепшы.

Тадэвуш ківаў галавою; Кацярына, паказваючы дзяўчынцы на пана Падстоліца пальцам, раіла слухаць, што добры пан кажа; Уладзіслаў, абапёршыся на руку, барабаніў па стале нажом, не маючы адвагі падняць вочы: ён адчуваў,

што сам належыць да роду прыгнятальнікаў, сутнасць якіх ніколі не разумеў гэтак ясна. Пан Падстоліц зірнуў на Уладзіслава і сказаў нарэшце:

– Цешыць мяне, пане Уладзіслаў, гэтае засмучэнне васпана. Сэрца, здольнае да шляхетных пачуццяў, абяцае, што ты станеш суцяшальнікам і бацькам для жменькі людзей, якую Ласка Божая даручыць тваёй апецы. Старайся толькі, каб час не зацёр у тваёй памяці гэтага сённяшняга ўражання і каб кепскі прыклад, а што горай, гультайства, якое з'яўляецца адной з галоўных прычынаў нашае галечы, не схілілі цябе да занядбання вартых пахвалы памкненняў і задумаў. Я шкадую, што ў нас мала часу, каб лепш паразумецца: можа, у асобе васпана мы б знайшлі добрага грамадзяніна.

– Што я адзін зраблю! – выгукнуў Уладзіслаў. – Як бы я хацеў, каб усе ўладальнікі маёнткаў чулі нашую сённяшнюю размову.

– Не кажы так, пане Уладзіслаў, – адказаў пан Падстоліц. – І адзін грамадзянін, разумны і руплівы, можа шмат добрага зрабіць для краю. Дык таму, калі я бачу маладога чалавека, здольнага ўзгадаваць добрае зерне, стараюся, а прынамсі, прагну дапамагчы яму развіць добрыя зародкі, і я ўжо пераканаўся на ўласным вопыце, што прыклад вельмі важны. Але час ужо даць нашым гаспадарам адпачынак. Марцін, прыбяры. А мы тым часам пакаштуем старажытны напой нашых продкаў.

Кажучы гэта, ён наліў шклянкі для Уладзіслава, Тадэвуша і Кацярыны, якія, прыняўшы іх з удзячнасцю, паселі і чакалі, пакуль пан Падстоліц не вып'е першы. Той, заўважыўшы іх далікатнасць, сказаў:

– За здароўе нашых гаспадароў! – і паднёс напой да вуснаў.

Гаспадары, падняўшыся, з выразам праўдзівай удзячнасці, выпілі за "здароўе добрага пана". Уладзіслаў далучыўся з моладзевым запалам, а пакаштаваўшы напой, паднёс шклянку да свечкі і сказаў:

– Ці гэта нейкае віно? Ці не стары гэта такай? Ніколі не піў гэтакага смачнага трунку.

– Гэта стары ліпец майго бацькі, – адказаў пан Падстоліц, – я атрымаў яго падчас падзелу маёмасці, а дзякуючы ўтрыманню належным чынам, маю дагэтуль. Як табе гэты напой смакуе, Тадэвуш, ці не лепшы ён за гарэлку?

Зморшчыўшы схілены твар, Тадэвуш углядаўся ў шклянку і смакаваў напой.

– Смак як смак, – адказаў ён, – але ў нас гэта не ў звычаі. Арандар нават не трымае мёду і цвердзіць, што піць яго нявартa, бо ён не развясельвае сэрца, як гарэлка. І гэта, мусіць, праўда, бо разумныя паны не робяць для шынкоў мёду, а толькі гарэлку. Па праўдзе, нашыя дзяды казалі, я сам яшчэ гэта чуў, што мёд лепшы за гарэлку, бо ад яго чалавек не слабне. І праўда, за іхнім часам, калі менш пілі гарэлкі, а больш мёду, не адзін з мядзведзем барукаўся, і падковы, як лучына, ламаліся ў іх руках. Хлеба таксама было болей.

– І для кішэні мёд здаравейшы, – азваўся Уладзіслаў. – За віно, якое заняло ягонае месца, аграмадныя сумы плывуць за граніцу.

– У віна свае вартасці.– сказаў пан Падстоліц. – Без сумнення, у шмат якіх акалічнасцях, яно здаравейшае за мёд. І не было б шкоды для краю з-за неабходнасці купляць яго за мяжою, каб дома мы выраблялі нешта такое, што маглі б прадаваць за мяжу. Бо не на тым палягае рост нацыянальнага багацця, каб нічога не купляць за мяжою, але каб менш – ці айчынных, ці прывезеных

тавараў – спажываць, чым мець. А сам абмен, надаючы большую вартасць прадуктам, спрыяе ўзбагачэнню абодвух бакоў, якія гандлююць.

Дык не тое павінна нас хваляваць, што вялікія сумы трацім на чужыя прадукты, але тое, што не прадукуем у сябе нічога такога, што б маглі прадаць за грошы альбо абмяняць, нават даўнія крыніцы нашых прыбыткаў мы занядбалі.

Гэты самы мёд, напрыклад, гэткі карысны, якога даўней усе так шукалі, што за ковенскі ліпец аж па два чырвоныя злотыя за кварту за мяжою плацілі, цяпер ва ўсім краі занядбаны: ледзьве якую калоду пчолаў убачыш. Утрыманне ж іх нічога не каштуе, бо дастаткова толькі жадання, а майстэрства прыходзіць з вопытам. Хто ведае, каб мы пачалі рабіць гэткі ж добры мёд, як раней, ці не знайшоў бы ён аматараў і ў краі, і за мяжою.

– Не, дабрадзею. – азваўся Тадэвуш, які асмялеў ад другой порцыі. – Даўней кожны з нас у воласці меў некалькі дзясяткаў пчаліных сем'яў і штогод збіраў мёду і воску столькі, што хапала і каб Бога ўшанаваць, і каб госця пачаставаць ды яшчэ на продаж заставалася. Але цяпер бясконцая паншчына не дае калі думаць пра пчолы, а калі ў каго якая калода і засталася, дык паны самі прымушаюць, каб прадаў на падаткі. А што нас зусім ад пчолаў адвярнула, дык тое, што паны пачалі ўводзіць усё большыя мядовыя даніны, і некаторыя вымагаюць аж палову збору, чаго ў нас даўней не бывала. Страціўшы раз ахвоту, ужо нам, дабрадзею, пчолаў не мець і мёду не піць. А шчыра кажучы, гарэлка для нас лепшая, бо яна хутчэй чалавека п'яніць, і ён забывае пра свае няшчасці. Чаго ж ты плачаш? – запытаўся ён, павярнуўшыся да Кацярыны.

– На вяселле Маланкі сыціла я мёд, – адказала плачучы Кацярына, і ў Тадэвуша на гэты ўспамін слёзы паказаліся ў вачах. Ён схіліў галаву. На хвіліну запанавала маўчанне. Нарэшце Кацярына ўжо спакайней сказала:

– Ах, дабрадзею, з усіх маіх дзяцей, якіх Пан Бог забраў на той свет, ні над адным я столькі не плакала, колькі над маёю беднаю старэйшаю дачушкаю, – і яна зноў пачала выціраць вочы.

Пан Падстоліц сказаў:

– Маці, слёзы твае справядлівыя, але памятай, што добры Айцец Нябесны ведае, навошта дазваляе засмучэнне. Можа, твая дачка цяпер шчаслівейшая, чым была на зямлі.

– Ох, гэта праўда, дабрадзею, – згадзілася Кацярына. – Яна цяпер шчаслівейшая. І ксёндз мяне гэтак суцяшаў. Заракалася я не плакаць. Там знайду яе і ўсіх сваіх дзетак. О Божа! – дадала яна, падымаючы вочы і рукі ўгару, – прымі ўжо нас да свае хвалы! – І схіліўшы галаву, ужо цішэй закончыла: – Калі Ты гэтак пажадаеш.

Тадэвуш абапёрся галавою на руку, а Кацярына, глыбока ўздыхнуўшы, азвалася ізноў:

– Але цяжка забыць. Гэтак шчыра нас Маланка любіла, гэткая была нашая памочніца і гэткую смерць заслужыла...

– Маўчы... – звярнуўся да яе Тадэвуш, але ўжо тонам жаласнае просьбы.

– Чаму ж мне маўчаць? – сказала Кацярына. – Наадварот, раскажу ўсё гэтаму добраму пану, ён нас пашкадуе.

– Кажы, маці, шчыра, – заахвоціў яе пан Падстоліц. – Калі я і не здолею суцішыць вашага жалю, дык хоць раздзялю яго з вамі. Раскажы нам пра сваю Маланку.

– Пакуль людзі ягамосці скончаць вячэру і прыгатуюць пасцель, – сказала Кацярына ўжо спакайней, – раскажу пану і панічу пра яе і пра ўсё, што з намі здарылася. Пабачыце, панове, якія мы, бедачыны, няшчасныя.

Пан Падстоліц наліў Тадэвушу яшчэ шклянку мёду, але той, нават не падзякаваўшы, адсунуў яе ад сябе.

У глыбокім засмучэнні ён закрыў твар рукамі і абапёрся на стол. Кацярына пагладзіла дзяўчынку і, папраўіўшы сабе валасы, глыбока ўздыхнула, а потым падняла галаву і пачала расказваць.

## Раздзел пяты

# ГІСТОРЫЯ МАЛАНКІ

Stasia z kochanką młodą
W jednym grobie schowano;
Xiądz święcił świętą wodą;
A potem zaśpiewano:
Anielskie pozdrowienie
I wieczne odpocznienie.
Dobrze zgadła cyganka:
Bo . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Ze szczęśliwym kochanka
Przepędza wiek spokojny,
Złej nie doznając doli.

T. Z., *Cyganka: Ballada*[31]

– Чацвёрты год ужо мінуў, а жылі мы тады яшчэ ў вёсцы, як выбраліся мы было з маёю любаю Маланкаю на Спаса ў Падазер'е на кірмаш. Сын мой, Пятрусь, павёз нас на новым возе з шырокім лубам, на сытым коніку. Радасна мне было, што людзі, калі глядзяць на нас, дык бачаць не галадранцаў, а багатыроў. У мае Маланкі – на галаве дзве чырвоныя стужкі і белая крамная хустка з махрамі, якімі гуляў вецер, а ў мяне – намітка белая, як малако, з чырвонымі ўзорамі на канцах, усе ажно заглядаліся. Была гэта работа Маланкі, я да гэтага часу яе захоўвала, але сёлета за серп мусіла аддаць яе арандару. І я яшчэ была нішто сабе, а ўжо Маланка мая ў пунсовай шнуроўцы, якую ёй нашая добрая паненка падаравала... Бо паненка нашая вельмі добрая, дабрадзею. О! Гэта не панская кроў, гэта анёльская. (Уладзіслаў адвярнуўся). Яна так любіць маю Маланку... Што ж я кажу, любіць! Нябожчыцу Маланку яна любіла; і ўсе, хто яе ведаў, усе любілі, хто не пабачыць, дык кажа: якая мілая дзяўчына!

Вось жа, дабрадзею, у новым возе сядзела перада мною мая Маланка і, каб пацешыць, спявала мне, а калі хто набліжаўся, дык гутарылі мы пра заўтрашні кірмаш, як пабачым мы там і купцоў, і людзей, як прымуць нас у мае стрыечнае сястры, да якое ў Падазер'і мы збіраліся заехаць пагасцяваць, як мусілі ўжо павырастаць ейныя дзеці, якіх ужо год мы не бачылі. Аж тут даганяе нас нехта на кані. Азірнулася я: пра воўка памоўка, а воўк і тут!

"– Здаровы быў Амяльян! Куды едзеш?"

"– З паншчыны. А вы да нас! О! Будзем вам радыя!"

Хутка саскочыў ён з каня і пацалаваў мне руку, а Маланку – у вусны. Дзіва што, гэтакі прыгажун, гэтакі галубок, а бялявыя вусы ў яго яшчэ толькі-толькі прабіваліся.

"– Я вас сам павязу".

А Пятрусю толькі тое і трэба, каб конна ехаць, дык і свіснуў ён наперад, а той сеў нас везці. Але конь быў добры, сам ведаў дарогу, бо простая была, дык ён усё на Маланку глядзеў, а мы з Маланкаю – на яго. Ён нам казаў:

"– Ах, каб вы ведалі, як вас мая маці любіць! Чакае вас, бо вы абяцалі, напякла вам бліноў, прыгатавала верашчаку і глушца, якога я для вас упаляваў. І ўсім дзецям яна кажа, каб вас любілі, дык і я вас вельмі люблю, і, пэўна, у першую Прачыстую мы з маці вас адведаем".

Маланка маўчала і толькі на яго глядзела, а я жартам сказала:

"– На вяселлі мае Маланкі прыедзеш паскакаць".

"– На вяселлі, – выгукнуў Амяльян і збялеў. – Ці яна ўжо мае кавалера?"

"– Не, маці, я вас не пакіну, – сказала Маланка і прытулілася да мяне".

Прыехалі мы ў вёску. Дар'я, мая сястра, выбегла да брамы і, радасна нас абдымаючы, павяла ў хату. Было ў яе шмат люду, што папрыязджалі на заўтрашні кірмаш. Дзяўчаты з розных вёсак атачылі маю Маланку. Усім яна падабалася, бо мая Маланка была такая добрая і мілая, і хадзіла яна між імі, як каралева. Мы з Дар'яю цешыліся з такое дачкі і даручалі яе Божай апецы. Хлопцы з навакольных вёсак не мелі адвагі і наблізіцца да яе, а толькі не спускалі з яе вачэй, толькі з яе аднае, а наш Амяльян да канца дня і падчас вячэры адной Маланцы слугаваў, толькі для яе аднае, здаецца, і жыў. Дар'я гэта бачыла і казала, абдымаючы мяне:

"– Мая ж ты Кацярына, як бы я рада была, каб і яна яго палюбіла! Дык з вашае згоды зладзілі б паміж Прачыстымі запоіны, а на Пакроў ужо і маёю была б яна дачкою".

Дзіва што, дабрадзею, і я рада была, бо мая Дар'я – добрая кабета, і былі яны тады яшчэ заможныя. Калі час аддаваць дачку, дык лепш ужо туды, дзе ёй будзе добра.

Назаўтра, калі мая Маланка паказалася ў касцёле ў пунсовай шнуроўцы, белай кашулі, з кветкамі і стужкамі ў валасах, з каралямі на шыі, у белых панчошках ды вузкіх чаравічках, а сама высокая, танюткая, зачырванелая, з блакітнымі вачыма і доўгаю льняною касою, якая была блакітнаю стужкаю пераплецена, ох! дык і хлопцы, і дзяўчаты, і самі паны толькі на яе і глядзелі.

А калі на кірмашы пайшла яна ў скокі, дык у мяне аж сэрца заходзілася ад радасці, як мая вясёлая Маланка лёгка ды зграбна ледзь датыкалася да муравы чаравічкамі. Усміхалася яна Амяльяну, які анікому не даў паскакаць з ёю, а сам увіхаўся каля яе так спрытна ды ладна, што гэтая пара здавалася ўсім самаю прыгожаю, і ўсе дзівіліся на яе ды цешыліся, а дзяўчаты туліліся да сваіх нарачоных. Тут ужо мы з Дар'яю вырашылі абавязкова гэтую пару палучыць.

Але быў там і Юрка з нашае вёскі, сын даўнейшага фурмана Сымона, п'яніцы і злодзея, згалелага, як той кол. Быў ён у парванай сярмязе, твар страшны, вочы ваўчыныя... І ён асмеліўся, нягоднік, упадабаць маю Маланку! Запрашаў яе на кожны танец, але кожны раз Маланка ішла з Амяльянам. Баяўся Юрка ўсчынаць калатнечу ў чужой вёсцы, але і так атрымаў ад Амяльяна за тое, што назаляў маёй дачцэ, добрага штурханца. Мне гэта вельмі не спадабалася, бо Юрка той быў вельмі злосны, як шайтан, і кажуць, што ягоны дзядзька, Апанас, паміраючы, перадаў яму сваю чарадзейскую моц. Ох, гэта быў вялікі чараўнік. Потым раскажу ягамосцям пра ягоныя штукарствы.

Гулялі доўга, забыўшыся на ўсё. Дар'я назаўтра, выправіўшы ўсіх гасцей, затрымала нас на абед. Наўмысна пасадзіла яна Амяльяна побач з Маланкаю, наўмысна ставіла перад імі адну місу, і мужык яе, Клім, пачцівы чалавек і не п'яніца, быў гэтым вельмі задаволены ды ўвесь час называў Маланку дачкою. Яны ж, як брат і сястра, як два галубкі, цешыліся сабою, а ў нас з Дар'яю слёзы ў вачах стаялі ад радасці.

Калі трэба было ўжо ехаць, Амяльян правёў нас за вёску, а потым да царквы, а потым да могілак, і там, развітваючыся, абяцаў на першую Прачыстую разам з маці адведаць нас. Мне нядобра зрабілася на сэрцы, што ён ля могілак пачаў развітвацца. Я хацела, каб ён яшчэ крыху далей нас правёў, але ён заўпарціўся, што мусіць вяртацца, бо пан па яго прыслаў. Маланка сумавала ўсю дарогу, а мне нібыта камень на сэрца лёг, я і сама не разумела, чаму мяне такая журба і нуда апанавалі.

Прыйшла першая Прачыстая. Маланка прыбрала ў хаце. У нас яшчэ ўсё было. Назапасілі мы ўсяго для гасцей і вочы прагледзелі, чакаючы іх цэлую раніцу. Прыехалі яны нарэшце. Якая гэта была радасць! Ужо нас і кірмаш не цікавіў. Людзі сабе, а мы сабе цэлы дзень бавіліся. Тадэвуш упадабаў Амяльяна, а мая Маланка такая была пры ім шчаслівая, як я калісь, калі збіралася выходзіць за Тадэвуша. Нічога не кажучы дзецям, дамовіліся мы з Дар'яй, што адразу пасля другое Прачыстае прышлюць яны да нас сватоў.

Толькі загадала я Маланцы ткаць больш пасаў ды рыхтаваць падарункі.

"– Бо, – казала я ёй, – можа хто і пра цябе падумае".

Тулілася да мяне каханае дзіцятка і казала:

"– Не, дарагая матуля, я не хачу вас пакінуць. Хто ж вам на полі дапаможа, хто вам у хаце ўсё дагледзіць, хто бялізну памые, хто кросны ткаць будзе? Табе, мама, ужо гады ў знакі хутка будуць давацца, трэба каб мела ты памач, цётка часта хварэе, а, барані Божа, вы захварэеце, разарвалася б мне сэрца ад шкадобы, каб не магла я вас дагледзець".

"– Каханае дзіцятка, – казала я, прытуляючы яе да сябе, – ажэнім мы Пятруся, мажны ён ужо хлапчына: у Рыгора ёсць дачка, пачцівая і працавітая, дык сасватаем яму; а калі пан вызваліць Андрэя, дык і той жонку возьме, вось замест цябе я ажно двух буду мець на паслугі".

"– Ані дзве, ані дзесяць так цябе не будуць любіць, матулька, як твая Маланка".

"– Але ж, маё дзіцятка, вечна табе ў дзеўках не сядзець, а калі не возьмеш любага, дык пан можа прымусіць ісці за каго папала. Юрка ўвесь час за табою бегае, ён чараўнік і падлізнік у пана. Барані Божа, каб не сурочыць, загінеш, маё дзіцятка, і мне суцяшэння ніколі ўжо не будзе".

Маўчала Маланка, плакала і толькі тулілася да мяне.

"– Не засмучай мяне, маё дзіця, – казала я ёй, – я выдам цябе за любага і буду цешыцца тваім шчасцем".

"– Матуля, калі такая твая воля, а Юрка можа да мяне чапляцца, дык не аддавай мяне хоць да часу, пакуль не будзе ў цябе нявесткі. Галіна Рыгорава – добрая дзяўчына і кахае Пятруся; яна сама мне ў гэтым некалі прызналася. А мяне ж за каго думаеце, матуля?"

"– А каб за Амяльяна?" – спытала я.

Апусціла яна вочы і, цалуючы мне ў руку, сказала:

"– Любая мая матуля, пасля цябе і бацькі аднаго яго я кахаю, гэта праўда, але і дзеля яго цяжка было б мне развітацца з вамі".

"– Рыхтуй, Маланка, пасаг, будуць ад яго сваты, і ад Пятруся хутка таксама сватоў пашлём".

Гэтак мая Маланка, і плачучы, і скачучы, ткала пасы ды хусткі, наміткі ды рукавы, вышывала на іх узоры чырвоным гарусам[32] і ядвабам, а мы з Тадэвушам завіхаліся, рыхтуючыся да падвойнага вяселля.

Прыйшла нарэшце другая Прачыстая, прыпала на аўторак; дык на наступны чацвер чакалі мы сватоў, і самі ў той самы дзень паслалі Халімона і Кузьму прасіць дачкі ў Рыгора для нашага Пятруся.

Упарадкавала хату Маланка, пазамятала ўсе сцежкі, увесь посуд перамыла, стол і лавы вышаравала, і сама прыбралася, дзіцятка маё, як анёлак. Аж увечары – туп-туп – каля брамы, у нас аж сэрцы закалаціліся.

"– Пусціце на двор прыяцеляў!"

І ўехалі гаспадары з Падазер'я ў белых сукманах[33] на жвавых коніках. Увайшлі яны ў хату.

"– Слава Хрысту!"

"– На векі вякоў!"

Багатыр Даніла з кавалём Якубам сталі пасярод хаты і ўсім кругом кланяліся. Тадэвуш з кута запрашаў іх садзіцца.

"– Дзякуй, суседзі, – адказаў Даніла, – насядзеліся мы дома. Але што ж, калі наш Амяльян да вашае Маланкі прыкіпеў? Ці атрымаецца нам з Божаю дапамогаю палучыць гэтую пару?"

Падхапіўся Тадэвуш і сватоў на куце пасадзіў, а Маланка пабегла да суседкі Тэклі. Даніла апавядаў, якая заможная ў Кліма хата, якая добрая ў яго сям'я. Тым часам стукнулі дзверы ў сенцах.

"– Не ўсе дома, – сказаў на гэта Даніла. – Дзе ж Маланка?"

Мы з нябожчыцай братавай, маткаю гэтых сіротак, прывялі яе з Тэкляю.

"– А што ж, Маланка, ці не дарма мы сюды прыехалі? – спытаў Даніла".

А яна кінулася мне з плачам на шыю, і я таксама заплакала, а бацька ўгаворваў яе і пытаўся:

"– Ці ты згаджаешся?"

"– Як сабе хочаце", – плачучы адказала яна.

"– Не, дзіцятка маё, – сказала я ёй, – адкажы ясна, каб людзі ведалі, ці ахвотна ты згаджаешся. Мы цябе не гонім з хаты. Ты нам добрая памочніца, але ж трэба некалі замуж ісці. Цяпер якраз усё складна атрымліваецца, і хлопец добры і кахае цябе".

Зірнула мне ў вочы Маланка, нібы прасіла, каб я не згадала Юрку.

"– Добра, – адказала яна, – калі такая Божая Воля і ваша, дык няхай так і будзе, але ці дазволіць пан?"

Самлела ў мяне сэрца на гэтую згадку. Забыліся мы, што ў чужую воласць пан даўно ўжо не хацеў аддаваць дзяўчатаў, у апошнія гады аніводнае не пусціў.

"– Заўтра паедзем да пана, – сказаў Даніла, – завязём яму падарункі. І вашыя ж у нас бралі. Цяпер нам толькі б ад вас згоду атрымаць, а як вы згодзіцеся, дык і пан згодзіцца, бо наш пан Енерал[34] яму абяцаў напісаць".

Стала спакайней нам ад гэтых словаў, але прадчуванне ўсё ж непакоіла мне сэрца. Тым часам сваты дасталі пляшку гарэлкі, я хутка падсмажыла

яешню, і так адбылі мы першыя запоіны. Потым загарнула я пляшку ў тонкае палатно Маланчынае работы і аддала яе сватам, якія абяцалі, што заўтра паведамяць пра рашэнне пана, і паехалі яны дадому.

Пятрусёвы запоіны Халімон з Кузьмом таксама спраўна зладзілі, і вырашылі мы, як прасіла Маланка, рабіць спачатку вялікія запоіны Пятруся, а ейныя назаўтра, бо яна хацела мець пэўнасць, што мяне без дачкі не пакіне. Назаўтра прыехаў Даніла і прывёз нам радасную вестку, што панства, хоць спачатку пан і загневаўся, а пані пачала крычаць, аднак, прачытаўшы ліст пана Енерала, згадзіліся яе выдаць. Дык нічога ўжо больш не перашкаджала. У наступную сераду выправіліся мы са сватамі Пятруся на вялікія запоіны, а на заўтра прыехаў і наш каханы Амяльян. Прыгожа ўбраны, жвавы, вясёлы, калі ён сам маўчаў, дык ягоныя вочы гаварылі з Маланкаю, а калі гаварыў, дык мілымі словамі ўсіх да сэрца праймаў. І ўсе, хто прыйшоў на агледзіны, казалі: “Вой, якая ж з іх добрая пара”.

Маланка ўжо не плакала, бо была шчаслівая пры ім, і ў нас была нашая будучая нявестка Галіна. Абмяняліся яны заручальнымі пярсцёнкамі. Ох, і хто б мог думаць, што абмяняюць яны іх зноў ужо ў магіле! Але ж гэткая была Воля Пана Бога.

Яна выцерла вочы фартухом і працягвала:

– Назаўтра, толькі пачалі мы сыціць мёд на змовіны і на вяселле, бо тады яшчэ былі ў нас пчолы, прыбег Андрэй з двара з весткаю, што нарабілася бяды, што пані моцна гневаецца і не хоча ўжо аддаваць Маланку.

“– Прыбег, – расказваў ён, – сёння ранкам Сымон, бацька Юркі, і, упаўшы да ног Імосці, прасіў, каб за ягонага сына аддалі Маланку”.

“– Бедныя мы, – казаў ён, – таму дзяўчаты грэбуюць маім сынам, а мы таму бедныя, што я ўвесь век служыў у двары, а як на старасць выслалі мяне дадому, дык нічога і не маю. Юрка жыць не можа без Маланкі, ён, пэўна, утопіцца альбо павесіцца, а я з тугі па ім сап’юся, і панства гаспадаркі пазбудзецца”.

Смяялася з гэтага пані і казала, што ажэніць Юрку з іншаю, што як загадае, дык кожная пойдзе. Але калі Сымон пачаў расказваць, якая з Маланкі працаўніца, як шкода аддаць яе ў чужую воласць, бо нам узамен давалі з падазерскае вёскі адных гультаек, а гэтая дзесяцёх вартая, бо ўсім у прыклад на паншчыне, дык тады і пані загаварыла іначай ды паабяцала Сымону, што не аддасць Маланку за Амяльяна, а аддасць за Юрку. Пайшла яна адразу да аканома, загадала ехаць да пана Енерала, каб перапрасіць таго, што не можа выдаць Маланку, бо аказалася, што яна – Юркавая нарачоная, а мне загадала ісці да вас і ўгаварыць, каб аддалі Маланку за Юрку па сваёй волі, а калі не, дык яна прымусіць.

Ужо з пачатку гэтае размовы плакалі мы з дачкою, а як пачулі апошнія словы, дык ледзь не самлелі. Увесь дзень, тулячы яе да сябе, у слязах і енку перажывала я, не знаходзячы, як тут даць рады. Тадэвуш паехаў да ксяндза прасіць дапамогі. Назаўтра ксёндз паведаміў, што пані яшчэ больш загневалася і пана ўжо падвучыла, каб не дазваляў, а ксяндзу было сказана, каб ён не даваў шлюбу з Амяльянам, але ўгаворваў ісці за Юрку. Добры наш ксёндз не ўгаворваў, але і сам не ведаў, што рабіць. Толькі Абрам сказаў, што ён можа

нас навучыць, калі на абодва вяселлі – у нас, і ў Падазер'і – мы паабяцаем браць у яго гарэлку.

"– І заплацім удвая", – закрычаў Амяльян, які прыехаў парадзіцца з намі.

"– Ёсць указ, – казаў Абрам, – каб не забараняць дзяўчатам выходзіць у чужую воласць, трэба толькі паскардзіцца ў суд"[35].

"– Нічога гэта не дапаможа, – загаманілі старэйшыя нашыя гаспадары, – бо ёсць шмат справядлівых указаў, кажуць, што цар нас любіць гэтаксама, як і іншых сваіх дзяцей, і хоча, каб нас не крыўдзілі, але што з таго? Поп сваё, а чорт сваё. Суд з паноў, альбо залежыць ад паноў, а нам да цара далёка, а да Бога высока. Гэтак было ўжо з Дам'янам: паскардзіўся ён у суд і што атрымаў? Як бунтаўніка закавалі яго ў ланцугі, два месяцы працаваў ён у жыдоў на карысць суду; ключвойт браў з яго хаты харчу, як на дзесяцёх, а самога яго марыў цвілым хлебам, і калі той вярнуўся, дык яшчэ пан, прывязаўшы яго да плоту, ледзь не да смерці закатаваў, а дачку тым часам гвалтам аддаў за Паўла".

Два дні мы лілі слёзы і галасілі. Амяльян казаў, што пазбавіць сябе жыцця, і Маланка казала, што не пераўжыве. Развіталіся яны, а разысціся не маглі; у нас, гледзячы на іх, ад жалю сэрцы разрываліся. Аж на другі дзень увечары прыйшлі сваты ад Юркі. Не пусцілі мы іх на двор. Пятрусь пакпіў з іх ды зачыніў вароты на завалу. А яны з-за варот крычалі, што прыйшлі, бо так пан загадаў. Пятрусь, як гэта бывае ў маладых, нешта ім адказаў. Ажно ўжо сярод ночы налятае на нас, калі мы спалі, аканом. Схапілі Пятруся ў адной кашулі, звязалі яго, у мяне, няшчаснай, на вачах, набілі яму калодкі на ногі, і, не зважаючы на мае слёзы, пацягнулі на вяселле... у рэкруты. Аканом паабяцаў Тадэвушу, што і яму гэтак будзе, калі Маланку за Юрку не аддасць, і Маланцы, калі яна будзе ўпарціцца, штотыдзень – сто дубцоў.

Як мы загаласілі, дык прыбег Амяльян з бакавога пакойчыка, і калі ўбачыў аканома на парозе, упаў яму ў ногі, упрошваючы, каб той адпусціў Пятруся. Абяцаў яму дзвесце злотых са сваёй кішэні, але той падумаў, што падманвае, і закрычаў толькі: "Прэч, лотр!" ды стукнуў яго нагою ў грудзі. Падхапіўся Амяльян з зямлі: "Як адважыўся ты біць нагою чужога чалавека?" і схапіў яго за каўнер. Аканом разам з дваровымі яго адолеў, загадаў звязаць, і аж твар яму крывёю наліўся – гэтак біў яго неміласэрна. Атрымалі сваё і Тадэвуш, і я, і Маланка за нашыя просьбы і мольбы. Нарэшце, наздзекаваўшыся з усіх, павёз ён Амяльяна і Пятруся ў двор. А мы з Маланкаю, не паспеўшы апрануцца, у адных спадніцах ды кашулях, пахапаўшы толькі дзяругі, каб акрыцца, пабеглі за імі з плачам і лямантам. Іх замкнулі ў пякарні, а мы чакалі дня пад вуглом. Прытуляла мяне і акрывала, зняўшы з сябе дзяругу, Маланка, але вымаклі мы абедзве на халодным дажджы, хоць і я яе прыкрывала, як магла. Плакалі мы ўсю ноч.

Раніцаю пані загадала нас паклікаць. Прыйшлі мы ледзь жывыя. О, Божа! Што тут давялося нам яшчэ вытрываць! Мала, што апошнімі словамі нас лаяла, але не зважаючы, што былі мы ўжо абедзве хворыя пасля гэтакае ночы, калі ўпала я ёй у ногі і пачала маліць, каб пані не жадала няшчасця маёй дачцэ, пачала сама пані мяне біць ды крычаць: "Дубцоў! Бунтарка, хамка!" А пан, лежачы на канапе, крычаў: "Біць яе да смерці!". Мая Маланка ўпала на мяне і прыкрывала сабою ад udараў пані ды плачучы крычала, што гатова ісці за Юрку, абы маці не білі, і так ужо хворую. А пані крычала: "Я з вас, шэльмаў,

зараз усе хваробы павыбіваю, па тысячы дубцоў абедзве дастанеце ад мяне, а заўтра будзе шлюб з Юркам". – "Пані, мяне карай і выдавай за каго хочаш, але маці маёй даруй", – прасіла, душачыся слязьмі і абдымаючы ёй ногі, Маланка. Прынеслі дубцы, але прыбегла паненка. Як прыбегла, гэтак проста матцы ў ногі і кінулася, ды плакала і прасіла яе, аж пакуль пані, прымусіўшы Маланку паабяцаць, што яна пойдзе за Юрку, не загадала нам ісці дадому. Выйшлі мы ў сенцы, але ў сенцах мая Маланка, абняўшы мяне, са скрухаю ледзьве прамовіла: "Амяльян і Пятрусь", самлела ды ўпала. Выбегла паненка, загадала занесці яе ў свой пакой, вярнула яе да прытомнасці і паклала на свой ложак. Але і я стаяць на нагах ужо не магла. Паненка мяне пасадзіла. Я ўсё расказала. Яна плакала разам з намі, загадала таемна зрабіць нам гарбаты і паклікала Андрэя, каб той зараз жа запрог у фальварку каня і завёз нас дадому. Дала яна нам вопратку сваіх слуг, і праз сад сама правяла, абяцаючы, што будзе старацца пра Пятруся і Амяльяна, а таксама, каб хоць не прымушалі Маланку ісці за Юрку, калі ўжо не хочуць пусціць са свае воласці.

Дарэмна. Па абедзе прыбег ізноў Андрэй, пераказваючы, што звязанага Амяльяна адаслалі да пана Енерала з цыдулкаю, што той уночы быў у вёсцы і падняў руку на аканома, за што прасілі яго пакараць. А Пятруся адразу ж паніч павёз у горад, каб прадаць яго за чужую воласць у рэкруты, і наказалі ксяндзу, каб заўтра даў шлюб Юрку з Маланкаю.

Не сказалі мы нічога Маланцы, бо яна ўжо моцна была хворая. Ох, якія ж пакуты вытрывала маё няшчаснае дзіця! У грудзях ёй кіпела, як у гаршчку, енчыла яна гэтак жаласна! Крычала, што яе жывы агонь нішчыць... Бог зліταваўся над ёю, праз дзень на маіх руках... памерла.

Тут Тадэвуш устаў і выйшаў з хаты, а Кацярына, паклаўшы галаву на стол, душылася слязьмі, дзеці таксама плакалі. Уладзіслаў выціраў вочы, і пан Падстоліц закрыў твар рукамі.

Нарэшце Кацярына падняла галаву і, выцершы слёзы фартухом, працягвала:

– Сталася! Пан Бог забраў яе на Неба. Ксёндз даваў шлюб... са смерцю. Перад сконам, калі ёй крыху адпусціла, яна прасіла мяне, каб я не плакала, бо ёй там будзе лепш, чым за Юркам, прасіла паклікаць Галіну і заклінала тую, каб мне служыла замест яе самой, а калі адпусцяць Пятруся, каб зараз жа ішла за яго. Нарэшце прасіла, каб не хавалі яе на нашых могілках, а на парафіяльных у Падазер'і, і каб мы прасілі Амяльяна, каб той па заканчэнні доўгага свайго жыцця, загадаў пахаваць сябе побач з ёю.

Але не доўга яго чакала. Збіты, застуджаны, ад каханае Маланкі адарваны, захварэў цяжка і ён, а калі даведаўся пра яе смерць, гэтак замаркоціўся, што аніякае рады няможна ўжо было даць, і праз два дні пайшоў ён за ёю следам. Пакуль рыхтавалі мы нашае пахаванне, ужо і яго труна была гатовая. Разам паклалі мы іх у магілу. О, чаму ж не мяне, замест мае Маланкі!

Тут ізноў, на момант закрыўшы твар фартухом, яна заплакала, але зрабіла намаганне, каб супакоіцца і працягвала:

– Але ж праўда: абяцала я ксяндзу не жаліцца і не кідацца ў роспач. Такая Воля Божая. Ён Айцец наш добры. Ён не хацеў аддаць маю Маланку на доўгую пакуту таму чараўніку Юрку. Злучыў душы на небе: яны там шчаслівыя. І мы хутка туды да іх пойдзем.

Яна падняла рукі і вочы ўгару і хвіліну малілася.

Паспакайнелая, яна прытуліла дзяўчынку, выцерла ёй слёзкі і, уздыхнуўшы, сказала:

– Так, дабрадзею, страціла я дзетак, і замест радасці ў старасці рэшту маіх смутных дзён мушу дажываць у слязах і горкіх успамінах.

– Не забывай, маці, што казаў ксёндз, – нагадаў пан Падстоліц, – што яны на Небе шчаслівыя. А мы, чым большыя будуць нашы пакуты ў гэтым кароткім жыцці, тым большае ўзнагароды павінны чакаць на Небе, калі пагаджаючыся з Воляю Усёмагутнага Бога, усім, на славу ягоную, ахвяруем.

– Так і ксёндз кажа, – прамовіла Кацярына. – Адно гэта яшчэ прыносіць нам крыху палёгкі. Наш ксёндз – добры чалавек. Каб пад іншым панам ды з такім ксяндзом – былі б мы шчаслівыя. Калі раней даваў нам Пан Бог радасць, дык ён вучыў дзякаваць Богу, і быць за гэта добрымі ды любіць Бога, і плаціць за ягоную ласку, дапамагаючы людзям. А калі гора на каго наваліцца, дык ён так умее даць палёгку, што чалавек ідзе да яго з атрутаю ў сэрцы, а вяртаецца са слязьмі, без якіх, здаецца, роспач бы яго даканала. І дзякуе чалавек Богу нават за само гора.

Тым часам людзі пана Падстоліца, скончыўшы ў сенцах вячэру, прынеслі разам з Тадэвушам некалькі кулёў саломы і клункі, расклалі салому на зямлі і пачалі слаць дзве пасцелі. Заўважыўшы гэта, Уладзіслаў пачаў было адмаўляцца прыняць гэты знак ветлівасці, даводзячы, што ён малады і звыклы да паляўнічых выпрабаванняў, што абыдзецца ён без пасцелі, маючы свой паляўнічы пас за падушку.

– Не пажадаеш, напэўна, мяне засмучаць, пане Уладзіслаў, – сказаў пан Падстоліц. – Я б не заснуў, каб мой таварыш па начлегу быў пазбаўлены тых, што і я, выгодаў. Тым больш, што я ад гэтага не пацярплю.

Не жадаючы супраціўляцца таму, каго ён шанаваў ужо як бацьку, прыняў Уладзіслаў гэты знак ветлівасці пана Падстоліца, і, пажадаўшы адзін аднаму добрае ночы, усе пакладаліся спаць. А сон, зазірнуўшы да ўбогае хаціны, не спалохаўся пачцівых людзей, а наадварот, шчодра макам пасыпаў і прынёс ім супакой ды трохі салодкіх мрояў, а ціхім і лагодным дзеткам раю дарычыў бавіць душы сонных.

## Раздзел шосты

# ЗАПРАШЭННЕ

Waćpan do dworu. Tobie sto kijów.
Kłaniam, kłaniam uniżenie. –
– Ty sam do dworu. Ja za tobą śpieszę.
Niech mnie Bóg skarze, gdy was nie pocieszę.

Gr. Kozielski, *Półpanek: Komedija*[36]

Як толькі заўтра раніцаю пан Падстоліц прачнуўся, увайшоў Марцін, а за ім – чалавек сярэдняга росту, худы, вусаты, у сінім капоце, нявыцертыя яшчэ гузікі якога выдавалі, што было гэта святочнае ўбранне. Бізун пад пахаю, інквізітарская ўсмешка, а таксама баязлівая міна Тадэвуша ў яго за спіною дастаткова выразна казалі пра званне і пасаду новапрыезджага.

З пэўнаю неахвотаю ён пакланіўся абодвум і, прыклаўшы руку да вуснаў, нечакана задумаўся. Пан Падстоліц, аддаўшы яму ўзаемны паклон, моўчкі чакаў, калі ён загаворыць, але Уладзіслаў, які ведаў яго, бачачы, што той збянтэжана лыпае вачыма, нібы забыўшыся, з чаго пачаць, азваўся першы:

– Як жа маецца пан аканом? Што яго так рана прывяло сюды?

– Служу панам дабрадзеям, – адказаў з паклонам аканом. Ён паправіў бізун пад пахаю, пацёр рукі, заклаў іх у задняя кішэні, адкашляўся ды, моргаючы, пачаў казаць без паўзаў і ўсё хутчэй і хутчэй:

– Яснавяльможны пан Харунжы, даведаўшыся ад арандара, што панове тут начуюць, прыслаў мяне засведчыць, што яму вельмі шкада таго... таго... (добра) таго, што панове не пажадалі заехаць на ноч у двор, які адгэтуль так блізка, і пазбавілі сябе выгоды, а майго пана прыемнасці служэння панам. Яснавяльможны пан Харунжы сам бы сюды прыехаў, але ўчора... (ага!) вельмі позна пайшоў адпачываць і паноў, як падарожных, раннім уставаннем апярэдзіць не спадзяваўся, дык даручыў на сняданне майго пана... мне, каб Іхмосцяў на падарожны... ад імя майго пана... да двара Іхмосцяў, каб на падарожны сняданак...

Зусім ужо заплятаўся ў яго язык і не хапала паветра ў грудзях. Ён спыніўся і глыбока ўздыхнуў, а па вачах і ўсмешцы было відаць, як ён цешыўся, што гэтак добра ўдалася яму прамова.

Але пан Падстоліц зірнуў здзіўлена і адказаў:

– Прашу падзякаваць пану Харунжаму за яго ветлівасць. Мушу вельмі спешна ехаць на кірмаш, дзе маю пільныя інтарэсы, дык не магу сабе дазволіць такое прыемнасці, каб засведчыць яму ў ягоным доме маё шанаванне.

– Як жа я маю сказаць?.. – запытаўся, нязграбна кланяючыся, аканом.

– Так, як я сказаў, – лагодна адказаў пан Падстоліц. – Май ласку прасіць прабачэння ў пана Харунжага, што кірмашовыя інтарэсы, дзеля якіх я мушу спяшацца, не дазваляюць мне скарыстацца ягоным ветлівым запрашэннем.

– А цяпер іначай! – з кіслай мінай сказаў аканом. – Ці не меў бы пан ласку напісаць тое, што хацеў сказаць? Мая памяць сёння і так ужо моцна надвярэджаная.

Уладзіслаў, які не мог больш стрымліваццца, гучна зарагатаў; аканом яшчэ больш збянтэжыўся; нарэшце Уладзіслаў станоўча сказаў:

– Скажы, васпан, свайму пану, што гэты пан не заедзе, бо яму няма калі, і ён перапрашае пана Харунжага.

– Разумею, – адказаў аканом, – і правільна пан зробіць, бо праз двор да мястэчка дарога паганая, назад жа – праз хваёвы лес на гасцінец – значна лепшая.

– Тудою і горшая і далей, – умяшаўся прастадушны Тадэвуш, але на грозны позірк аканома змоўк.

– З двара тры вялікія мілі, – працягваў аканом, карыстаючыся момантам, пакуль пан Падстоліц апранаўся, – і дарога тудою нядобрая. Дык калі пан дабрадзей мае намер трапіць сёння на кірмаш... Куды і я павяду свайго гнедку, і ўпэўнены, што роўнага яму ні толькі тут, але ані ў Бярдычаве, ані ў Ліпску[37] ніхто не знойдзе. Які ход, мосці дабрадзею! Якое вушка, якая ножка!. У стайні майго пана няма аніводнага добрага каня – усё старыя ды заезджаныя; і для паніча, якому ісці ў войска, ягамосць, пэўна, б майго купіў, але ж, мосці дабрадзею, відаць пана па халявах... Праўда, я панскі хлеб ем, але за тое служу ў поце чола свайго і да гэтага часу юргельту[38] не бачыў. Што застаецца ад штрафаў, тое на рэманэнце[39], мосці дабрадзею!.. Добрая справа, крэдыт, мосці дабрадзею, але калі хто мае добрыя вочы, бачыць, якія часам паперкі прывозяць, за якія даўней падаўцы вось гэтаю прыладаю даставалі, а зараз спакойна прымаюць, хоць іх усё больш прыбывае... Страх, мосці дабрадзею, гэта каб за добрага каня чалавек колькі прэнтаў[40] пяску альбо высечанага хваёвага лесу не атрымаў... А нашто мне зямля? Каб зноў Скарбнік[41], выйграўшы працэс, адабраў?.. Меў я сваю валоку. Гісторыя такая...

Тут ужо скончылася вытрымка ў пана Падстоліца.

– Вельмі добра, – спыніў ён балбатуна, – жадаю васпану добра прадаць свайго гнядога.

– А можа, ягамосцю дабрадзею трэба? Дык мы б тут сышліся ў цане...

– Дзякую, дзякую шаноўны. Сваіх коней буду прадаваць на кірмашы. Прашу кланяцца пану Харунжаму і перапрасіць, што не заехаў.

– Ножкі панскія цалую, – казаў, збіраючыся выходзіць, аканом. – А зараз з вашэцем мусім разлічыцца, – звярнуўся ён да Тадэвуша, папраўляючы бізун. –Не паведаміць у двор! Ідзі за мною!

– Што гэта? – крыкнуў пан Падстоліц. – Мосці аканом, дазволь васпана запытаць: за што ты хочаш яго пакараць?

– Хіба ж я не казаў пану, што яснавяльможны пан Харунжы загадаў на панскіх вачах адлічыць гэтаму лотру сто бізуноў, бо ён не паведаміў у двор, што ягамосць дабрадзей тут начуе? І таму яснавяльможны пан Харунжы не мог паноў учора запрасіць.

– Аднак жа, як васпан сказаў, пан Харунжы ўжо ўчора ведаў пра гэта ад арандара?

Аканом збянтэжыўся:

– Бо гэта ж – бачыш ягамосць дабрадзей – гэта яснавяльможны пан Харунжыц старэйшы[42], калі вучыў мяне сёння, як сказаць, згадаў пра гэтага арандара, але яснавяльможны пан Харунжы ўчора сам загадаў правучыць халопа за тое, што ён не даў знаць у двор.

– Адкуль жа пан Харунжы пра гэта ўчора ведаў?

Заўважыў аканом, што яшчэ больш заблытаўся, і, не маючы ўжо што сказаць, закрычаў на Тадэвуша:

– Хадзем, хаме! Усё гэта твая работа!

– На міласць Божую, пане аканом, – закрычаў пан Падстоліц, хапаючы Тадэвуша за руку, – гэты чалавек невінаваты, за што ж яго мучыць?

– Але я службу страчу, калі яго на вачах панскіх не пакараю, – перапыніў яго аканом.

– Вяртайся васпан зараз жа ў двор, – загадаў пан Падстоліц уладным тонам. – Скажы свайму пану, што я прымаю запрашэнне з адною ўмоваю: каб гэты селянін быў вызвалены ад пакарання. Зрэшты, я сам пра гэта з панам Харунжым паразмаўляю.

Тадэвуш, які да гэтага часу, здавалася, абыякава чакаў пакарання, упаў у ногі пану Падстоліцу, але гэты добры чалавек не дазволіў, каб цалаваў іх і, падымаючы яго, заўважыў на яго твары слязу, якая ўжо адна-адзіная аплаціла яму тую непрыемнасць, якую ён меў зазнаць, намерваючыся адведаць пана Харунжага. Аканом стаяў, як скамянелы; нарэшце азваўся:

– Мосці дабрадзею, праз двор вельмі паганая дарога. Калі ягамосць сёння маеш намер трапіць на кірмаш…

– Нічога, – спыніў яго пан Падстоліц. – Прашу кланяцца ад мяне пану Харунжаму. Буду на сняданні.

– Дарога не такая кепская, – падаў голас Уладзіслаў, – як ягамосць кажа. Ад двара нейкую мілю – хваёвым лесам па карэннях, гэткая ж як і на гасцінцы, а далей, полем, дарога добрая.

– А васпан, пане Уладзіслаў, не збіраешся на кірмаш?

– Вядома буду, бо маю надзею, што сёлета, перад выбарамі, з’едзецца ў нашым горадзе шмат людзей і, можа, збярэцца рэдута[43]; але больш за ўсё хацеў бы яшчэ мець прыемнасць быць у таварыстве вяльможнага пана дабрадзея.

– Калі так, пане Уладзіслаў, дык спадзяюся, што не адмовіш зрабіць мне прыемнасць, якой я прагну: паедзем разам у маёй калясцы ў горад. Калі патрэбна табе якая вопратка, дык дазволь, каб мой Марцін па яе з’ездзіў. Бо і так не трапім мы да пана Харунжага раней, чым праз пару гадзін. Дык напішы дадому, каб табе прыслалі, што жадаеш, і паедзем спакойна. Згода?

– Хто б не згадзіўся на такое мілае запрашэнне сына пана Падстолія? – з захапленнем адказаў Уладзіслаў, пацікаючы яму руку.

Не чакаючы панскага загаду, Марцін ужо дастаў са шкатулкі каламар[44], паперу і пяро. Уладзіслаў сеў пісаць. Аканом, бачачы, што запрашэнне неспадзявана прынятае, пацёр рукі, паківаў галавою і выйшаў з мармытаннем:

– Нячыстая прынесла! Яшчэ штраф як штраф, яго лёгка можна кампенсаваць… А вось месца было б шкада… Нячыстая прынесла!

– Я прадчуваў, – сказаў пан Падстоліц Уладзіславу, – што запрашэнне было няшчырым. Не гневаюся, што яны дапусцілі, каб мы тут начавалі;

наадварот, задаволены. Адно што дзівяць мяне гэткія перамены ў нашым характары. Амаль цалкам страцілі мы гасціннасць і шчырасць нашых продкаў, а ўсе іхнія дабрачыннасці замяніла паказная ветлівасць.

– Мы не страцілі марна час, начуючы ў гэтай хаце, – згадзіўся Уладзіслаў, складваючы цыдулку.

– Спадзяюся, што і ў гаспадара гэтае ўбогае воласці не змарнуем яго дарам. Варта бліжэй прыгледзецца да гэтае гаспадаркі, заснаванаена галечы сялянаў. Марцін, ці гатовая кава?

– Гатовая, пане.

– То нясі сюды; а сам, хутка падсілкаваўшыся і распытаўшы дарогу ў Тадэвуша, едзь на прыпражным кані ды вяртайся хутчэй. Аднак памятай, што гэта не пад Сандамірам: пра Кракаў няма гаворкі.

– О, і пан там добра сядзеў на карку аўстрыякаў. Не думаў я пра Сокала: мне б толькі тых белякоў як найбольш пабіць. О, каб мой Саколік яшчэ дзве мінуты вытрымаў! Самога б генерала...

– Досыць, мой Марціне, зачапіў я тваю надта чулую жылку.

Падкручваючы вус, Марцін выйшаў, а пан Падстоліц наліваў каву і казаў Уладзіславу:

– Зважаючы на тое, што чалавек часта з-за самалюбства, а часам з-за кепскага настрою можа балюча рэагаваць на заўвагі, я стараюся палучыць іх з якім-небудзь прыемным успамінам, што лагодзіць боль. Бо анічога так людзей не адштурхоўвае, як недавер да іхняе разважлівасці; і анічога так не палоніць як далікатнае стаўленне.

У 1809 годзе так мой Марцін пад Сандамірам пагнаўся быў за аўстрыякамі[45], што аж конь ягоны ўпаў. Мае вялікую ахвоту пасвавоціць, дык калі пасылаю яго куды конна, нагадваю пра тое слаўнае здарэнне замаўляючы: беражы каня.

Кацярына памыла дзяцей і паставіла іх каля печы. Пан Падстоліц, выпіўшы каву, адкроіў ім па кавалку пірага, а тую булку, што засталася, разам са скрыначкаю масла аддаў Кацярыне са словамі:

– Вазьмі гэта маці для дзетак, пакуль Бог дасць вам кароўку.

– Не мець нам ужо кароўкі, дабрадзею, – уздыхнула Кацярына. – Дзякуй ягамосцю. Дай Бог вам здароўя на доўгія гады! Дзеці, цалуйце ногі ягамосцю, падзякуйце добраму пану.

Дзеці падбеглі, зазіраючы ў вочы пану Падстоліцу, які абняў іх абодвух, пацалаваў і сказаў, звяртаючыся да Уладзіслава:

– Карыстаючыся пагоднаю раніцаю, можа, трохі пройдземся, пакуль вернецца Марцін?

– Ахвотна, васпан дабрадзей! – згадзіўся Уладзіслаў. Яны ўзялі шапкі і выйшлі на дзядзінец.

## Раздзел сёмы

# ДРУГАЯ ЛАСКА БОЖАЯ

Oto jest dzieło wasze. Czas już czas nareszcie
Przypomnieć i okazać, że ludźmi jesteście.
I poddani są ludźmi; a jeśli nad niemi
Bóg wam chwilową władzę poruczył na ziemi,
Biada wam! gdy już przeto dumna myśl was łudzi,
Że ludzie dla człowieka, nie człowiek dla ludzi.
Przyjdzie czas, prędzej, później, na to bądźcie pomni,
Gdy się po was z ich szczęścia rachunku dopomni.

A.E. Odyniec, *Izora*[46]

– Нічога дзіўнага, што ў хаце вільгаць, – казаў пан Падстоліц, – зірні, васпан, як падгнілі падваліны. Гэта з-за нашага звычаю ставіць хаты без падмурку. Хоць і ведаем, што анічога так здароўю не шкодзіць, як вільгаць і гнілізна ад сцен і падвалінаў. Хутчэй і, вядома, танней пабудаваць хату без падмурку, але каб мы не забываліся, што ў такіх цесных халупах, у якіх жывуць нашыя сяляне, пабудаваных без доступу свежага паветра, пастаянная волкасць пагражае ім смяротнымі хваробамі, асабліва дзецям, дык хіба здолелі б мы з варварскаю абыякавасцю глядзець на ахвяры нашае нядбайнасці ды скупасці?

– Я не ўпэўнены, – азваўся Уладзіслаў, – ці можна абвінавачваць паноў за кепска пабудаваныя сялянскія хаты. Звычайна ў нас сяляне самі сабе будуюць.

– Гэта нас не апраўдвае. Наадварот, калі на маёй зямлі селянін мяне выручае і ўласным коштам будуе сабе хату, якую, насамрэч, я абавязаны быў яму паставіць, дык тым больш я мушу падтрымаць неасвечанага добраю парадаю. А калі гэта мы будуем беднаму селяніну, дык не трэба нам старацца ашчаджаць некалькі злотых, каб потым бедныя нашыя браты пакутавалі з-за хваробаў, прычына якіх заўсёды – вільгаць у хаце.

– Я чуў, – заўважыў Уладзіслаў, – што дым, які ідзе на хату, калі паляць у печы, знішчае вільгаць і захоўвае ім здароўе.

– Не пярэчу, – адказаў пан Падстоліц, – што дым на момант робіць гэту сваю горкую паслугу, але ён напаўняе хату толькі тады, калі паліцца ў печы, а потым вільгаць ад распаранае гнілізны сценаў і ад зямлі, якая служыць ім замест падлогі, робіцца яшчэ большая. Каб абараніцца ад яе, трэба каб дзень і ноч дымна было ў хаце. Няшчасны той чалавек, які мусіць у дыме шукаць здароўя, бо ў лепшым памяшканні і пры больш выгодным жыцці не трэба было б яму вэндзіцца ў дыме, а быў бы здаравейшы і больш бадзёры.

Гэта яшчэ перажытак дзікунства на нашай зямлі, вынік таго, выключна земляробчага ладу, які нам дыктавалі чужынцы, зацікаўленыя атрымліваць ад нас як мага больш таннае збожжа, а нам прадаваць свае мануфактурныя вырабы.

Кпілі яны з нас паціху, што мы гэтакія цёмныя; але бачачы ў гэтым сваю карысць, стараліся пераконваць нас перад усім светам, што мы такія шчаслівыя і багатыя з тае прычыны, што заняліся выключна вырошчваннем збожжа, гэта значыць, што сталі іхняю машынаю. А самі яны тым часам узбагаціліся, парабіліся асвечанымі і фанабэрыстымі; на іхніх землях паўсталі палацы, люд іхні, хораша ўбраны, здаровы, жыве выгодна, у будынках прыгожых, прасторных і здаровых, а мы…

Няма на зямлі больш нешчаслівых істот, чым нашыя бедныя сяляне, скучаныя ў гнілыя буды, дзе копцяцца ў дыме дзеля здароўя. Вядома, любы здаровы розум здрыганецца, што пры цяперашнім стане асветы могуць яшчэ людзі абараняць такія хаты.

– Я ведаю гаспадароў, – сказаў Уладзіслаў, – якія стараліся даць сялянам лепшае жытло, але наш люд гэтак прызвычаіўся да сваіх курных хат, што тужыць па іх і не надта ахвотна селіцца ў светлых халупах.

– Не забывай, пане Уладзіслаў, – што мы не толькі пра дым гаворым, але і пра вільгаць. Няма сумневу, што халупы, гэтак званыя, светлыя, але не абароненыя ад вільгаці, яшчэ горшыя за курныя. Таму, жадаючы ўчыніць нешта добрае, людзі часта памыляюцца, бо не спаўняюць усіх умоваў добрага выканання намеру. А потым дзівяцца, што нічога ў іх не атрымалася; і, не разумеючы, што самі ў гэтым вінаватыя, яны адмаўляюцца ад новых спробаў ды, нібы перакананыя на вопыце, адгаворваюць іншых ад добрага.

– Нельга пярэчыць, – сказаў Уладзіслаў, – што вільготныя хаты шкодзяць здароўю сялянаў, але тым больш варта падзівіцца моцы гэтага люду, які, нягледзячы на гэткую нэндзу, бывае, аднак, досыць моцны ды бадзёры. Можа, гэта вынік прызвычаенасці?

– Пэўна, прызвычаенасць шмат што можа, – адказаў пан Падстоліц, – але прырода не кожнаму дае такую моц, каб ён мог да ўсяго шкоднага для здароўя прызвычаіцца. Тыя, хто ў дзяцінстве дыхаў паветрам гэткіх памяшканняў і вытрымалі – страцілі значную частку сваіх сілаў; а калі яны яшчэ застаюцца здаровымі, дык гэта толькі доказ, што былі б асілкамі, каб гадаваліся ў здаровым паветры.

Няраз я заўважаў у нашых вёсках, што чым больш вільготная хата, чым больш падгнілі ейныя сцены, тым часцей там паміраюць дзеці. Я распытаў дарослых здаровых людзей, у якім стане былі хаты, дзе яны гадаваліся, дык іх адказы амаль заўсёды адпавядалі маёй здагадцы, што найбольш дзяцей памірае ў вільготных халупах.

А да вільгаці яшчэ трэба дадаць і ўсе іншыя прычыны, з-за якіх меншае ў нас насельніцтва: гэта недахоп здаровай ежы, праца да поўнага знясілення, кепская вопратка, адрыванне дзяцей ад матак і, нарэшце, заняпад маральнага духу і тая нямая роспач, што поедам есць нашых прыгнечаных сялянаў і штурхае іх да шкодных звычак, дык слушна падзівіцца моцы гэтага люду, што да гэтага часу яшчэ жыве.

– Сапраўды, варта прызнаць, – сказаў Уладзіслаў, – што люд гэты моцна церпіць ад тае апекі, якую мае над ім шляхта, і якою самі мы гэтак ёю любуемся, што нават пісьменнікі, якія выказваюць ў сваіх творах гуманістычныя ідэі, называюць яе другою Ласкаю Божаю для сялянаў[III].

Пан Падстоліц паківаў галавою:

– Хацеў бы я, каб тыя, хто праслаўляе гэтую "Ласку Божую", пачулі калінебудзь такую размову, якая была ў нас учора з Тадэвушам. Але нават малюнак тае бядоты, якую ён нам апісаў, слаба перадае, у якім жахлівым стане знаходзяцца нашыя сяляне. Можа, не ў кожнай воласці знойдзецца падобнае, здараюцца нават нейкія выключэнні, але карціна, характэрная для ўсяе правінцыі: прыгнёт абуральны і нэндза апошняя.

Я наведаў усе нашыя губерні, далучаныя ад даўняе Польшчы. Паўднёвыя, праўда, ураджайныя, але там цемрашальства і шмат забабонаў. А вядома ж, што аднаго дастатку без асветы не дастаткова для дабрабыту, а яшчэ менш да шчасця, якое маглі б мець нашыя сялянеIV. Тое ж можна сказаць і пра Жмудзь, дзе быт найлепшы ва ўсім краі. Але рэшта губерні Віленскае, Гродзенская, Мінская і ўся Беларусь[47], апрача вельмі малых выняткаў, дзе гаспадары добрыя, – жахліва спустошаныя і занядбаныя.

Халупы амаль паўсюдна старыя і гнілыя; людзі без належнае вопраткі; ва ўрадлівым краі – без ежы, бо вельмі рэдка калі маюць адпаведную працы; і паўсюль пазбаўленыя рэчаў першае неабходнасці; дзеці голыя, слабенькія, як расліны, што вянуць на сонечным прыпёку; дарослыя – нядужыя, нізкарослыя, нязграбныя, розумам недалёка ад жывёл адышлі, усе іх пачуцці тлуміць страх; збруі і абораў кругом не хапае; палеткі іхнія, усе без выключэння, кепска апрацаваныя, часта не ў пару засеяныя; павіннасці паўсюль бязмерна завышаныя, часта адвольныя, а дарэмшчыны абуральныя; нарэшце, абыходжанне шляхты з гэтым людам такое нялюдскае, што, хіба, толькі з маленства выгадаваны ў гэтакай бядоце наш селянін здольны выглядаць не такім няшчасным, як той мурын, што канае ад здзекаў крывавага наглядчыка ў капальнях Новага свету. Гэтакая шляхецкая "Ласка".

Яны прайшлі крыху моўчкі, гледзячы ў зямлю; нарэшце пан Падстоліц загаварыў ізноў:

– Аднак жа гэты люд, гэтакі цяпер нікчэмны, быў даўней народам адважным, дужым, высокім. Косці са старажытных магілаў дзівяць нас сваімі памерамі; даўнейшая зброя, якою некалі, асабліва тут, на Літве была ўзброеная не толькі шляхта, але і просты люд, сведчыць, што былі яны волатамі, мелі моц, незвычайную на сённяшні дзень. Невымерная розніца цягам стагоддзяў магла быць нязначнаю ў суседніх пакаленнях; але кожны, хто бачыў апошнія два пакаленні, прызнае значны заняпад апошняга ў параўнанні з папярэднімV.

– Такі ж самы заняпад, – сказаў Уладзіслаў, – можна заўважыць і ў шляхецкіх сем'ях. Не відаць сярод нас тых велізарных, страшных сілаю і позіркам мужоў, якіх шмат васпан дабрадзей мусіў бачыць у маладосці, нават і я ведаў падобных старых, а чуў, што гэта была звычайная рэч сярод аднагодкаў майго дзеда.

– Я ведаў яшчэ тых людзей, – уздыхну пан Падстоліц. – Вядома, вялікія перамены. Адрозніваемся мы і знешне, і маральна ад нашых продкаў, але з іншых прычын, чым сяляне. У нас: распешчанасць бацькоў, мяккае выхаванне дзяцей, сапсаванасць грамадскае маралі, пустое жыццё без мэты – зняверылі характар і давялі да нікчэмнасці род даўніх рыцараў. Паразважаем яшчэ пра гэта, калі будзем вяртацца ад пана Харунжага, бо я мяркую, што побыт у ягоным доме дадасць нам назіранняў пра шляхту, гэтаксама як сённяшні

начлег – пра сялянаў. Я запрасіў пана на шпацыр, бо заўважыў, што пан гэтак часта з балесным жалем і ўзрушана пазіраў на дзіцячую калыску.

– Прызнаюся вяльможнаму пану, што да гэтага часу я не надаваў вялікае ўвагі таму, што толькі ўчора адкрылася мне ў поўным святле. Які ж гэта смутны вобраз, гэтыя немаўляты, якія, здаецца, ад нараджэння ўжо пазначаныя таўром блізкае смерці. Але ж, нягледзячы на такі паморак, колькасць нашых сялянаў прыкметна не зменшылася.

– Прыкметна? – перапытаў пан Падстоліц. – Гэтак нам здаецца, бо мы глядзім павярхоўна, не надаючы асаблівае ўвагі сапраўднаму стану рэчаў. Але варта прыгледзецца лепей, дык пры параўнанні даўнейшае колькасці нашых сялянаў з цяперашняю, нават там, дзе быццам бы яна не зменшылася, гэта значыць, нават там, дзе колькасць людзей засталася такая самая, што і даўней, альбо нават павялічылася, мы заўважым, што ў параўнанні з даўнейшым людам, значна больш налічваецца ў нас дзяцей, чым дарослых. А гэтакі стан народанасельніцтва даводзіць не павелічэння люднасці, а наадварот, змяншэнне і марнае становішча ўсяго краю. Бо дзеці, нават калі вельмі шмат іх прыходзіць на свет, але мала можа выгадавацца, толькі пацвярджаюць выснову палітычных эканамістаў, што нават у найменш прыязных акалічнасцях людзі здольныя хутка размнажацца, і там найхутчэй, дзе пануе найбольшая смяротнасць. А ў краінах багатых, дзе ў кожнага могуць быць добрыя ўмовы жыцця, прапарцыянальна менш дзяцей і непараўнальна больш дарослых.

Нашы гаспадары зацікаўленыя, каб як хутчэй памнажалася колькасць сялянаў; яны заахвочваюць іх жаніцца, хціва злучаючы ў пары ледзьве пасталелую моладзь; але, не абазнаныя з правіламі кіравання, яны памыляюцца і робяць вялікую шкоду сялянам. Яны не разумеюць, што прыбытак і дабрабыт народу залежыць не ад таго, каб як найболыш нарадзілася дзяцей, якія хутка паўміраюць з голаду, але ад таго, каб насельніцтва, якое спакваля павялічваецца, магло ўзгадавацца, пасталець і доўга быць прыдатным да працы. А для гэтага патрэбна не бязмернае памнажэнне дзяцей, а забеспячэнне добрых умоваў існавання сялянам. У нас жа на гэта амаль ніхто не звяртае ўвагі, каб жыццё малечы і дарослых палепшыць; а таму смяротнасць расце. Дзеці, сапраўды, хутка папаўняюць колькасць насельніцтва, але гэтак жа хутка і згасаюць у галечы; дарастае іх штораз усё менш, а тым самым сапраўдная колькасць сялян, гэта значыць, здольных да працы, няўхільна змяншаецца. Я сам гэтае змяншэнне шмат у якіх ваколіцах заўважаў; і амаль на кожнага ўладальніка магу спаслацца, які пацвердзіў, што і ў яго тое самае назіраецца[VI].

– Сумна думаць, – сказаў Уладзіслаў, – пра гэтакую нядолю, якой мы не ў сілах даць рады.

– Чаму ж не ў сілах? – запытаў пан Падстоліц. – Не будзем шукаць далёкіх прыкладаў лепшага быту і росту насельніцтва гэтага класа. Возьмем расійскіх скарбовых сялянаў, а нават і памешчыцкіх, якіх там менш прыгнятаюць і звычайна трымаюць на чыншы. Што ж варта лічыць прычынаю іх жыццяздольнасці, сілы, розуму і вартага здзіўлення росту колькасці дарослага насельніцтва? Хто ж запярэчыць, што галоўнаю прычынаю гэтага шчаслівага існавання ёсць іх пэўнасць, што самі яны будуць карыстацца пладамі сваёй працы?

Гэта заахвочвае чалавека да дзейнасці і да ашчаднасці, прымушае думаць пра будучыню, забяспечвае дастатак і адорвае прыемнасцямі жыцця ды, нарэшце, дае яму пачуццё ўласнае годнасці.

Што ж было б, каб даць гэтаму люду яшчэ асвету, палепшыць яго маральнасць, развіць розум і з дапамогаю навукі паказаць яму больш спрыяльныя шляхі вядзення гаспадаркі? Хто ж не разумее, што ў такім заможным краі яны былі б яшчэ больш шчаслівыя, чым вольныя англійскія ды саксонскія сяляне?

Не паспеў пан Падстоліц закончыць, як у хваёвым лесе пачулася тужлівая ранішняя песня пастушка. Пан Падстоліц, заўважыўшы нечаканую ўзрушанасць Уладзіслава, узяў яго за руку і запытаўся:

– Што цябе гэтак уразіла?

– Ох, мосці Падстоліцу! – адказаў Уладзіслаў, – мне ў такую хвіліну дзіўнаю здаецца нашая акамянеласць, тое, як мы прывыклі да праяваў нашае жорсткасці, да таго голасу болю, які мы самі спараджаем. Гэты енк, які завецца ў нас сялянскімі песнямі, – самы вясёлы ў іх; і ці не даводзіць ён даўнасць прыгнёту іх продкаў, якія ў смутных мелодыях сваіх песняў, нават у хвіліны весялосці, не маглі схаваць свайго стану? І васпан дабрадзей можа хваліць нашых папярэднікаў?

– Дабрачыннасці, вартыя пахвалы, я хвалю, а заганы – ганю. Аднак жа, калі гэты прыгнёт сялянаў цяпер кладзецца невыбачальнаю плямаю на наш характар, дык у часы жыцця нашых продкаў ён можа быць трохі апраўданы духам тагачаснае эпохі.

Апрача таго, думка, хоць і памылковая, што сяляне былі народам пераможаным і з нявольнікаў сталі рабамі, апраўдвае ў нейкай ступені нашых папярэднікаў[VII]. Зусім апраўдаць іх, аднак, немагчыма, бо здаўна яны славіліся тым, што прыгняталі падданых[VIII]. Хоць той іх прыгнёт, у параўнанні з цяперашнім, можна назваць бацькоўскай апекаю.

Праўда, што тады сяляне не мелі ніякіх грамадзянскіх правоў, не валодалі зямлёю, лічыліся нявольнікамі, былі ў поўнай залежнасці ад сваіх паноў, якія прымушалі іх апрацоўваць сваю зямлю; што яны разумелі несправядлівасць і адчувалі сябе пакрыўджанымі; але ў простых норавах сваіх уладальнікаў, сэрца і розум якіх кіраваліся суроваю дабрачыннасцю, а звычка да раскошы яшчэ не вымагала празмернага прыгнёту падданых, сяляне пад панаваннем шляхты знаходзілі ў сваіх панах літасць, апеку і падтрымку ў нядолі, дык хоць, з аднаго боку, трацілі ў сваіх правах, аднак, з іншага, дзякуючы шляхетным норавам уладальнікаў, мелі істотную для сябе карысць.

Але ў апошнія некалькі дзясяткаў гадоў, а найбольш у апошняе дзесяцігоддзе, калі жаданне жыць у раскошы і недахоп адпаведнага дзеля патрэбаў краю выхавання ды дэмаралізацыя ўкараніліся сярод нашых землеўласнікаў, дык нашыя сяляне не знаходзяць ужо ніякае палёгкі ў сваёй нядолі; знясіленыя празмернаю працаю, абдзёртыя ненасытнаю хцівасцю, запалоханыя, паглумленыя, спаняверaныя, яны ніякае пацехі не бачаць ужо для сябе ў сваёй роспачы. Дык і не дзіва, што зайздросцяць, як казаў Тадэвуш, памерлым. І гэта ўсё не нашыя продкі справілі, а мы самі.

– Забыліся мы, што Бог – грозны суддзя, – сказаў Уладзіслаў. – Аднак, мосці Падстоліц, каб землеўласнікі нават зразумелі ўсё гэта і захацелі быць

справядлівымі, дык наданне сялянам волі ў іх цяперашнім стане не пайшло б, падобна, ім на карысць?

– Так, сапраўды, – адказаў пан Падстоліц. – Перш-наперш павінны мы зрабіць іх людзьмі, а потым вольнымі. Мы сапсавалі іх маральнасць, дык мы абавязаны і паправіць яе. А таму, калі іначай немагчыма, трэба даць сялянам асвету, а калі ўжо будуць яны ў стане парадзіць сабе, – толькі тады выпусціць іх з пад апекі.

– Іхняя асвета вымагае занадта шмат ахвяраў ад уладальнікаў, – сказаў Уладзіслаў. – Часам нават стан найлепшае воласці не можа даць патрэбныя на асвету кошты. Зрэшты, рэдка хто з землеўласнікаў у наш час можа выдаткаваць сродкі, якія вымагае гэтая рэформа.

– Хоць бы і сапраўды асвета сялянаў вымагала вялікіх коштаў з боку землеўласнікаў, – адказаў пан Падстоліц, – ці не наш гэта абавязак – скараціць, найперш, свае выдаткі, каб хоць часткова ўзнагародзіць той люд, крывавую працу якога мы прыўлашчвалі некалькі стагоддзяў, каб хоць часткова ім той доўг сплаціць. Кажу, хоць часткова, бо каб дайшло да поўнага разліку, дык не хапіла б нам, падобна, сродкаў на аплату ўсяго, што мы несправядліва спажывалі і марнавалі з іхняе працы. Усё, што ў нас ёсць, калі казаць праўду, з'яўляецца іх уласнасцю. Калі мы не здольны быць такімі справядлівымі, каб аддаць ім увесь доўг цалкам, дык павінны хоць не ашчаджаць на вяртанні ім затаптанае намі годнасці чалавечае, а тое, чаго не можам грашыма, павінны вярнуць ім клопатам аб паляпшэнні жыццёвых умоваў, шчырым жаданнем дабра і клапатліваю, як над уласнымі дзецьмі, апекаю.

– Дазволь, васпан дабрадзей, стаць на бок уласнікаў, – азваўся Уладзіслаў. – Здаецца, іх нельга абвінавачваць, што яны дарам карысталіся працаю сялянаў, бо сяляне, у сваю чаргу, карысталіся нашаю зямлёю.

– Хіба ж мы можам назваць платаю за працу хлебароба, – сказаў пан Падстоліц, – тое, што мы дазваляем за гэта апрацоўваць нашую зямлю, дадзеную яму толькі дзеля таго, каб карміўся з яе, слугуючы нам? Гэта тое самае, каб я загадаў селяніну цэлы год у мяне працаваць, увесь гэты час карміў яго сваім хлебам і лічыў бы гэты хлеб за адзіную належную яму плату. З тою толькі розніцаю, што забіраючы ў селяніна ўсе дні тыдня, мусілі б мы карміць яго жонку і дзяцей, што каштавала б нам даражэй, чым калі мы пакідаем яму крыху часу папрацаваць на ўласным надзеле. Што ж, апрача несамавітае вопраткі ды нішчымнага хлеба, мае наш селянін са свае палоскі зямлі? Дзе ж ягоны прыбытак, які павінна прыносіць земляробства? Дзе плата за працу? Ці толькі ў тым кавалку хлеба, які не дае яму памерці з голаду, каб і далей ён мог нам служыць?

– Я чуў ад шматлікіх уласнікаў, – сказаў Уладзіслаў, – што яны хацелі б, каб сяляне плацілі чынш, і за яго аддаваць свае палеткі ў арэнду. Але гэта немагчыма, бо сялянам, нават калі яны шчыруюць напоўніцу, не хапае на заплату чыншу з-за таго, што зямля, прынамсі, цяпер, у цяжкі час, не родзіць столькі, каб можна было заплаціць чынш.

– А навошта мы вымагаем чынш большы, чым можа даць зямля, з якое ён мусіць быць заплачаны? Мы ведаем, што чыншавік павінны не толькі пракарміць сябе і сваю сям'ю, але і мець такі прыбытак з зямлі, каб яму вярнуліся панесеныя затраты, каб было з чаго чынш заплаціць, нарэшце, каб яму засталася прыстойная аплата ягонае працы з такім-сякім прыбыткам за гаспадаранне

і ўкладзены капітал, якім у селяніна з'яўляюцца прылады працы, жывёла, насенне і ўласная сіла. А калі той чынш забірае і прыбытак, і аплату за працу, і панесеныя страты, пакідаючы селяніну толькі кавалак хлеба, як жа не назваць гэта рабункам? А калі, пры немагчымасці плаціць нават такі чынш, мы замяняем яго паншчынаю, дык яна становіцца яшчэ большым рабункам, тым больш жорсткім, што гвалтам і самавольнымі дадаткамі ўладальнікаў павялічваецца без меры.

Наколькі несправядлівая нават звычайная, без аніякіх дадаткаў паншчына пераконвае просты разлік. Валоку зямлі з гаспадарчымі пабудовамі мы звычайна здаем у арэнду, паводле ўрадлівасці ў ваколіцы, прыкладна за сто злотых; адзін дзень паншчыны, наогул, з вупражжу і без вупражы ацэньваем у адзін злоты, і так плацім наймітам. А чаму ад таго, хто адрабляе паншчыну, патрабуем за валоку 312 злотых у год, гэта значыць: тры дні мужчынскія ў тыдзень і столькі ж жаночых?

– Прыбытку з зямлі, – сказаў Уладзіслаў, – землеўласнікі не маюць, нават калі лічыць па 10 грошаў за дзень паншчыны.

– Сяляне не вінаватыя, – адказаў пан Падстоліц, – што мы так кепска выбіраем пасяўныя культуры. Але не думай, пане Уладзіслаў, што я непрыяцель землеўласнікаў і гатовы пераконваць іх, каб яны задавальняліся сціплым чыншам альбо адпаведную яму паншчынаю. Зусім не. Наадварот, я лічу, што лёгка давесці нашае земляробства да такога стану, каб зямля давала значна большы прыбытак; дык тады чынш з валокі можна было б падняць нават вышэй за 300 злотых, не крыўдзячы сялянаў[IX].

Зразумеў, васпан, напэўна, што я кажу пра вырошчванне такіх культураў, якія б з прыбыткам узнагароджвалі працу. Мы можам іх і цяпер знайсці, але спачатку трэба пазбавіцца ад прадузятасці, што нічога з гэтага не атрымаецца, і не закрываць вочы на той прыклад, які дае нам асвечаная частка Еўропы.

– Мы, вядома, – адказаў Уладзіслаў, – з зайздрасцю павінны глядзець на іншыя краіны Еўропы, якія ўзбагаціліся; але іхні дабрабыт паўстаў дзякуючы мануфактурам і гандлю, пра што ў нас нават думаць не выпадае, бо няма капіталаў, досведу і навыку. Таму, адрываючы рукі ад земляробства, якое адно нас утрымлівае, можам яшчэ пагоршыць свой стан.

– Нічога не было б кепскага, – прамовіў пан Падстоліц, – каб мы рукі, лішнія ў земляробстве (гэта значыць, дзе вырошчваецца сельскагаспадарчых прадуктаў больш, чым наш край можа спажыць, а чужыя – купіць), вызвалілі для мануфактураў альбо для гандлю. Капітал нараджаецца з ашчаднасці, кожны пачатак мусіць быць малы і слабы; аграмадная мачтавая хвоя вырастае з дробнага зярнятка, але на ўрадлівай глебе хутчэй і больш спорна расце. Нашую зямлю, што да капіталаў, можна было б назваць адной з самых урадлівых у Еўропе, анідзе б яны не маглі расці так хутка; досвед і навука – гэта было б самым цяжкім, але ж і чужынцы напачатку былі недасведчаныя і нічога не ўмелі.

Але, апрача ўсяго іншага, няма ў нас яшчэ патрэбы аніводную сялянскую пару рук вызваляць выключна для рамяства. Каб мы хацелі скарыстацца са спрыяльных нам акалічнасцяў, дык знайшлі б гатовыя дзеля гэтага рукі, якія варта было б толькі падштурхнуць у патрэбным кірунку. А земляробства не толькі не змяншаць, а, наадварот, зразумеўшы, на чым яно сёння павінна быць заснавана, шчыраваць яшчэ больш, чым да гэтага часу.

– Цяжка нават даўмецца, – сказаў Уладзіслаў, – да чаго сёння прыкласці рукі. Мы адчуваем, што ад земляробства нельга нам адмаўляцца, а тым часам няма дзе збываць прадуктаў земляробства.

– Вось жа, уласна, я і кажу пра выбар гэтых прадуктаў. Сеялі мы да гэтага часу збожжа значна больш, чым трэба, дык нашае збожжа стала ўжо Еўропе менш патрэбнае. Англія мае яшчэ аграмадныя аблогі і намагаецца падтрымліваць сваё земляробства[X]; Францыя амаль гэтак жа, як і наш край, багатая збожжам, звярнула ўвагу на іншыя культуры, больш карысныя для яе[XI]. Словам, усе краіны Еўропы, якія некалі бралі збожжа ў нас, сёння вырашылі мецьяго самі, а нашае толькі ў выпадку неўраджаю можа ім прыдасца. У самім жа краі, ссыпанае ў спірны, яно гіне марна; з-за свае колькасці траціць у кошце, за які магло б прадавацца дома, што вядзе да збяднення земляробаў, дык ні толькі не прыносіць прыбытку і не аплачваецца, а, наадварот, робіцца ўсё больш стратным, памяншаючы штогод, такім чынам, нашыя капіталы.

Аднак у нас пад рукою ёсць сродкі для паратунку. Доўгі спіс можна скласці з таго, што родзіць нашая зямля, што і за мяжою магло б знайсці добры попыт, а перапрацоўка яго ў краі магла б палепшыць нашае становішча. У гэты бок варта было б нам скіраваць нашае земляробства, а вызваленымі капіталамі падтрымаць уласнае рамесніцтва. Тады б і збожжа было ў цане, і нашыя выдаткі б вярталіся з прыбыткам, і земляроб нават пры большым кошце працы атрымаў бы добры заробак з зямлі, а яе ўласнік – адпаведны чынш.

Ужо адно гэта палепшыла б быт нашых сялянаў, а каб мы яшчэ далі ім магчымасць і зімой зарабляць з карысцю для сябе і ў адпаведнасці з іхнім становішчам і магчымасцямі. З-за клімату сяляне ў нас маюць больш магчымасцяў, чым у іншых месцах, бо зямля забірае ў іх толькі шэсць месяцаў у год, а другую палову года, калі яны не жадаюць марнаваць часу, могуць займацца іншаю працаю, мець іншую крыніцу прыбытку: рамесніцтва альбо гандаль.

– Ці ж нашыя сяляне не занятыя на гаспадарскіх працах зімою? – заўважыў Уладзіслаў.

– Але ці добрым чым яны занятыя? Што гэта за праца? Самая галоўная – малацьба збожжа. Гэта яшчэ перажытак кепска ўпарадкаванага, напалову дзікага гаспадарання. Удасканаленыя малатарні вызваляюць ад гэтае цяжкае працы цэлыя масы люду. Кабеты, няздатныя для іншае работы, і недарослыя дзеці без цяжкасці пры малатарнях замяняюць у тры разы большую колькасць дужых работнікаў, якія заўсёды выкарыстоўваюцца пры звычайнай малацьбе. Фальшывая ашчаднасць альбо нашыя забабоны трымаюць нас пры даўнейшым спосабе малацьбы.

Гэта яўна шкодзіць і сялянам, і нам самім. Бо калі па справядлівасці належыць нам іх праца, дык мы можам з яе мець больш карысці, атрымліваць больш прыбытку. Мы чынім шкоду сялянам, калі выкарыстоўваем іх на цяжкай працы там, дзе можам гэту працу выканаць больш лёгкім спосабам і з меншым высілкам.

– Ёсць іншая работа, – сказаў Уладзіслаў, – на якую сяляне трацяць зімою не менш часу. Адна з іх – перавозка збожжа.

– Менавіта, – адказаў пан Падстоліц, – мы б маглі значна дапамагчы сялянам ва ўсіх іхніх цяжкасцях, каб замест збожжа дзеля прыбытку вырошчвалі штосьці іншае, што звычайна ў меншым аб'ёме ўтрымлівае большую вартасць.

Але каб нават не мелі прыбытку ад перамены прадукцыі, дык ужо сам намер зрабіць працу сялянаў больш лёгкаю і пакінуць ім вольны час на больш карысныя справы, павінна схіляць нас да таго, каб адмаўляцца ад даўняе сістэмы.

Але ж хто ў нас мае такое датклівае сумленне, каб яго кранала марнаванне сялянскае працы! Мы ўжо прызвычаіліся не звяртаць на гэта ўвагі, нас зусім не абыходзіць, што яны трацяць сілы, натуральна прызначаныя, як мы мяркуем, каб дагаджаць нашым нават самым дробных жаданням, ані тое, што яны трацяць час, марнуючы яго часта на працу, якая не прыносіць найменшае карысці.

Здарылася мне трапіць у дом пэўнага шляхціца. Калі я абходзіў ягоную гаспадарку, якая лічылася ўзорнаю, дык зайшоў у фальварак. Там убачыў каля дваццаці сялянак, якія старанна вязалі ў вянкі цыбулю, а ў кутку чакала яшчэ некалькі асьмінаў[48]. У першы дзень я не надта звярнуў на гэта ўвагу, але праз некалькі дзён зноў зайшоў у фальварак і ўбачыў тых самых кабетаў, што вязалі цыбулю, а ў кутку ляжала яшчэ палова нязвязанае. Уражаны гэтакім марнаваннем часу, я запытаўся ў гаспадара, ці даражэй каштуе цыбуля ў вянках, чым тая, што прадаецца на вагу? “Цана аднолькавая, – адказаў ён. – Бо чаго за салому плаціць?” – “Дык можа, ад вянкоў ёсць якая-небудзь іншая карысць, якую я не разумею?” – “Зручней, – адказаў ён, – вешаць для акуравання”. – “Бачыў, – сказаў я, – што добра яна акурваецца ў сетках са старога неваду і нават у звычайных мяхах”. – “Мы пра гэта ведаем, – адказаў ён, – але цяпер, увосень, няма пільнае работы на полі, паншчына танная, а так, у вянках, здаецца мне, прыгажэй”. – “Перакана ў”.

Вось як у нас цэняцца час і праца людская. Тыя кабеты, што маглі б некалькі дзён прасці альбо ткаць і зарабіць для самога ж гаспадара па колькі злотых, змарнавалі час толькі з-за таго, што цыбуля ў вянках падаецца яму больш прыгожаю. Гэтак не толькі самі адракаемся ад карысці, якую ў цяперашнім стане сялянскае павіннасці маглі б мець ад разумнага яе выкарыстання, але даем кепскі прыклад і самім гаротным сялянам.

Каб давялося сцісла падрахаваць, колькі часу земляробства ў дварах і вёсках патрабуе, а колькі яго было насамрэч выкарыстана, дык у самых лепшых гаспадарках знайшлася б цягам году вялізная колькасць змарнаваных упустую дзён.

– Не можна запярэчыць, – сказаў Уладзіслаў, – што, сапраўды, шмат часу нашыя сяляне марнуюць, але не адрываючы іх ад гаспадаркі, ці магчыма знайсці для іх такую працу, якая б вартая была часу, высілкаў і выдаткаў?

– Дазволь запытацца, пане Уладзіслаў, ці пасля кірмашу ты будзеш мець нейкі занятак, якога не можна было б адкласці на пару дзён?

– Не маю аніякага, – адказаў Уладзіслаў.

– Дазволь жа, каб я на тваё апошняе пытанне адказаў табе ў сябе дома. Столькі мы гаварылі пра сялянаў, што варта паказаць табе, што можна з імі зрабіць, і ў якой чарговасці трэба нам дбаць пра паляпшэнне іхняга і нашага быту. Дык я магу мець надзею, што будзеш мне спадарожнічаць да майго дому?

– Не магу выказаць, як я ўдзячны за гэтую ласку, – адказаў Уладзіслаў. – Здагадаўся, васпан дабрадзей, пра маё гарачае жаданне. Тыя некалькі дзён, якія васпан дабрадзей дазволіць мне правесці ў ягоным таварystве, будуць самымі прыемнымі ў маім жыцці.

# Заўвагі да першае часткі

**I**

“Ужо адзін (сын пана Падстолія) узяў вёску як пасаг свае жонкі і там жыве; другі, жаўнер, жаніцца яшчэ не думае, а нават каб і ажаніўся, то калі так, як і старэйшы, ды возьме ў пасаг маёнтак, дык тым лепш для яго; калі не, дык падумаем пра яго месца жыхарства, аднак не там, дзе атрымае пасля нас спадчыну” (Словы пана Падстолія. Том III, кніга III, 4).

**II**

Гэты рэальны выпадак аўтар змясціў тут, каб захаваць у памяці ўчынак сялянаў свайго бацькі. Яны ў 1812 годзе сапраўды паказалі веліч свае душы, тым больш шляхетную (прызнаюся шчыра), што не было для гэтага асаблівых заслугаў. Кіравалі імі Грышка Галалоб і Есіп Шукан-Прадзядовіч. Абодва – сяляне вёскі Дубаўруčча ў Ігуменскім павеце Мінскае губерні.

**III**

Сярод іншых – асобныя палякі ў творах, выдадзеных за мяжою дзеля знаёмства іншаземцаў з нашымі звычаямі, гісторыяй etc. З іхніх твораў можна меркаваць, што шляхетныя пачуцці ім не чужыя. Самі, можа, былі б “другою Ласкаю Божаю” для сваіх падданых сялянаў; перадусім, бачна тое, што хацелі нашае стаўленне да гэтага класу нацыі апраўдаць перад чужаземцамі. Прыгожая справа, пэўна, выяўляць перад чужымі нашы недахопы; аднак тое, што мы выяўляем, даводзіць, што іх разумеем, а разумеючы, выпадала б пра іх, хутчэй, маўчаць, чым упрыгожваць выдумкамі. Тым больш сёння, калі ўжо няма народу, які б пад найпрыгажэйшаю маскаю не заўважыў агіднасці нашага панавання над сялянамі. Сёння называць гэта “другою Ласкаю Божаю” – гэта добраахвотна аддаваць свае добрыя жаданні на здзек.

**IV**

“Ёсць, – піша Банштэтан, – у Швейцарыі дзве суседнія мясцовасці: адна ў кантоне Берн, другая – Люцэрн. Кіраўніцтва і клімат абодвух краёў амаль аднолькавы; аднак адна – бедная, а другая (у адносінах да першай) – багатая. Калі я быў у тым краі, уразіў мяне іх неаднолькавы дабрабыт пры зусім роўных на першы погляд акалічнасцях. Але прыглядзеўшыся больш дакладна, заважыў, што крыніцаю гэтае розніцы была адукацыя. У каталіцкім Энтлібуху люд не ўмеў ні чытаць, ні лічыць, а вось у рэфармацыйным бернскім Эметалю ўсе добра ведалі арыфметыку. Адна гэтая акалічнасць столькі дала перавагі пратэстанцкаму краю, што каталіцкі мусіў яму падпарадкоўвацца”. (*L'homme du nord et du midi*)[49].

**V**

Не маючы ўласных статыстычных дадзеных, мусім часта карыстацца чужымі, каб пацвердзіць нашыя высновы. Далучаем іх не як аргументы, а як заўвагі, якія могуць быць больш-менш агульнымі для ўсіх краін, могуць крыху вытлумачыць прычыны з'яў, якія назіраем і ў нас. Ягамосць пан Вілярмэ[50], кажучы пра рост насельніцтва ў розных дэпартаментах Францыі, часам розны ў суседніх і нават у адным горадзе, але розных кварталах, лічыць, што форма цела чалавека заўсёды наўпрост прапарцыянальная дабрабыту, і адваротна прапарцыянальная працы, цяжкасцям і недастачам, зазнаных падчас дзяцінства і маладосці. Ён даводзіць гэта прыкладамі не асобных людзей

(бо гэта было б дзівацтвам), але вялікае колькасці людзей аднолькавага стану. Прыклады можна прачытаць у часопісе „Bulletin Universal”, 1828 г., nr 5. *Sciences Geogr*. etc.

## VI

Глябовіч[51] у сваёй статыстыцы расійскае дзяржавы на падставе рэвізіі 1815 года, у якую не ўвайшла значная колькасць душ, не выяўленых у кожнай губерні (што пазней дадаліся), падае ў нашай правінцыі наступныя лічбы жыхароў:

| | |
|---|---|
| у Віленскай губерні | 1.100.000 |
| Гродзенскай | 753.000 |
| Мінскай ................... | 1.205.200 |
| Магілёўскай........... | 1.000.000 |
| Віцебскай ................ | 828.800 |

Вейдэмеер[52] жа ў 1828 г., нягледзячы на дапаўненні рэвізіі 1817 г. і наступных, падае наступную колькасць:

| | |
|---|---|
| у Віленскай губерні | 950.000 |
| Гродзенскай | 650.000 |
| Мінскай ................... | 900.000 |
| Магілёўскай........... | 850.000 |
| Віцебскай ................ | 750.000 |

Можа быць, што нейкія з гэтых дадзеных з'яўляюцца недакладнымі; аднак гэтая недакладнасць не будзе вельмі вялікаю, калі дамо веры іншым сведчанням; напрыклад, у часопісе “Северный архив” (1824, № 19) чытаем пра Магілёўскую губерню наступную інфармацыю:

| Насельніцтва: | |
|---|---|
| у 1814 паводле Зяблоўскага | 1.000.000 |
| у 1818 паводле Арсеннева | 1.000.000 |
| у 1822 паводле Муханава | 738.448[53] |

Сапраўды, памяншэнне насельніцтва ў Магілёўскай губерні варта прыпісаць у значнай ступені памятнаму голаду ў той час; у іншых губернях не было такіх аднаразовых вынішчэнняў, але сталая нястача і нэндза сялян, хоць за даўжэйшы час, можа параўнацца з голадам.

## VII

Якім чынам у Літве і на Русі літоўскай просты люд перайшоў у падданства цяжка інакш вытлумачыць, як толькі тым, што літоўскія князі, пераняўшы феадалізм ад немцаў, якія аселі на паўночнай Літве, дастасоўвалі іхнія законы і звычаі ў сваіх адносінах з простым людам.

Бо маем сведчанні ў гісторыі, што ў даўнія часы ўсе славяне былі роўнымі, кіравалі імі ўрадоўцы, якіх выбіраў народ, і што славянін у славяніна іншага племя не мог быць нявольнікам. У пазнейшыя часы бачым на рускай зямлі князёў, пакліканых на кіраванне, а ў *Рускай Праўдзе*[54] чытаем ужо пра ўзаконеную няволю асобных простых людзей, якія прадаліся, якіх пакаралі, якія ажаніліся з нявольніцамі без папярэдняе дамовы і г. д. Аднак было гэта толькі як выключэнне, а ўвесь просты люд складаўся з вольных сялянаў і халопаў, якія самі прадаваліся пану на ўсё жыццё ці на пэўную колькасць гадоў. Толькі вайсковыя палонныя са сваімі нашчадкамі былі вечнымі нявольнікамі, якіх можна было прадаваць, дараваць і г. д., але Статут 1566 г.[55] абавязваў, каб яны заставаліся падданымі толькі да смерці свайго пана. Запісвацца ў падданства добраахвотна маглі толькі сыны баяраў, мяшчанаў і чужаземцы; сялянам гэта было дазволена *Судзебнікам*[56], але *Уложением*[57] Аляксея Міхайлавіча зноў забаронена. І толькі напрыканцы XVII стагоддзя вольныя расійскія сяляне сталі падданымі. Як гэта

сталася, дакладна тлумачыць І. Болцін[58] у сваіх заўвагах на *Расійскую гісторыю* Леклерка[59] ў т. І на с. 330 і наступных, а таксама больш шырока ў т. ІІ ад с. 207.

Усё гэта пачалося значна пазней, як у Літве і на Русі літоўскай усталявалася падданства. Дык дарэмна будзем шукаць у Расіі пачаткаў гэтага нашага права. Наш *Статут*[60] ужо застаў цалкам замацаваную няволю сялян, хоць яшчэ і згадвае пра вольных сялян у Літве.

Усталяванне яе ў нашай правінцыі якім-кольвечы праўным чынам дапусціць немагчыма. Бо ані на Русі літоўскай, ані ў Літве карэннай не было захопніцкіх войнаў у поўным значэнні гэтага слова. Князі змагаліся між сабою за ўладу ў княствах, але ці пакліканыя на княжанне народам, ці гвалтам адабраўшы ўладу ў пакліканых, – яны не былі ўладальнікамі люду, а толькі іх военачальнікамі. Дык надаючы валасці баярам і супанам[61], яны не маглі перадаваць ім права ўласнасці над людзьмі, бо самі яго не мелі, а толькі права на даніну, якою – як князі – маглі законна распараджацца. Гэтыя баяры і супаны множыліся ў пазнейшыя часы пры князях, будучы ўсе з лона роўнага між сабою люду.

Урэшце, якімі б не былі ўзаемаадносіны шляхты, баяраў і супаноў, падданых і нявольнікаў у Літве і на Русі, якім бы чынам люд просты не трапіў пад уладу ці панаванне шляхты – улада адных магла быць толькі над іншымі, а вось зямля была агульнаю ўласнасцю народа, які жыў на ёй, бо не ведалі яшчэ яе падзелаў і межаў: аграмадныя прасторы задавольвалі ўсе патрэбы. Якім чынам пазней князі, пакліканыя кіраваць краем, прыўлашчылі сабе зямлю і права раздаваць яе, – невядома; аднак відавочна тое, што іх права было правам прысваення. Пустыя, не занятыя землі яны маглі праўна раздаваць заслужаным асобам; калі ж раздавалі заселеныя, дык было гэта злоўжываннем уладаю, правам, падобным на тое, паводле якога Папы раздавалі іспанцам і партугальцам афрыканскія і амерыканскія краіны.

Але тыя, якія атрымалі валасці, даніну і асабістыя паслугі сялянаў, мелі адно даручанае над імі кіраўніцтва, але не былі ў поўным значэнні слова панамі сялянаў (бо ані ў Літве, ані на Русі на пачатковым этапе надавання без дазволу князя ніхто не меў права распараджацца імі); з часам пашыраючы і далей злоўжыванні, закладаючы ў сваіх валасцях маёнткі і фальваркі, яны вымагалі ад сялянаў працы на дворскай зямлі; спачатку, можа, замест даніны, па добраахвотнай абодвух бакоў дамове, а, нарэшце, давялі іх да поўнага нявольніцкага стану; апанаваўшы ў нас заканадаўства, яны надалі сваім прыўлашчванням праўны характар. Просты неадукаваны люд з пакалення ў пакаленне абцяжараны ўсё большымі і большымі, што паволі раслі, павіннасцямі, спакваля прызвычайваўся да іх і сам не ведаў, якім чынам перайшоў ад падуладнага да падданага, а праз нейкі час у поўным значэнні слова нявольніцкага стану.

## VIII

Алізаровіус[62], скардзячыся на прыгнёт сялян у Польшчы, паведамляе, што ўсе замежнікі абураюцца на нас за гэта. Ён цытуе, сярод іншых, Акацiуша[63] *Axel. de Gaexholm*, які шкадуе, што сяляне ў Польшчы так прыгнечаны, што 5 ці 6 дзён у тыдні працуюць на паноў і толькі святочныя дні маюць вольныя для працы на сябе (*De politica hominum societate*. X. I. R. XI.).

Але ў тыя часы было гэта як выключэнне: мы маем шматлікія сведчанні, сярод іншых, Тэадора Скуміновіуса[64], біскупа грацыянапалітанскага, які ў бытнасць суфраганам беларускім і архід'яканам віленскім, пэўна, на падставе таго, што бачыў у тых правінцыях, напісаў у сваёй працы *De Jure personarum*. Tit. III. 44: „licet enim in Polonia omnimodo pendeant ab arbitrio Dominum, Christiane tamen ab iis moderantur, peculium proprium possidentes, certas et certis diebus operas praestantes, constitutum tributum annuum pro quantitate possessi fundi pendentes. Quodsi nonnulli Domini, quos S. Paulus vocat Dyscolos, in regimine excedant modum, in exemplum trahi non debet" etc. "Бо хоць у Польшчы цалкам ад волі паноў залежалі, кіравана імі, аднак, па-хрысціянску; яны маюць

уласную жывёлу, пэўныя работы выконваюць у вызначаныя дні і паводле колькасці зямлі, якая ім належыць, плацяць дамоўленую гадавую даніну. Калі ж некаторыя паны, якіх апостал Павел называў Dyscolos (бязлітаснымі), у сваім кіраванні пераходзяць межы памяркоўнасці, дык гэтага нvarta падаваць як прыклад да наследавання" etc.

## IX

Чацкі[65] ў працы *O prawach litewskich i polskich*, t. II, k. 169 падае, што сярэдні кошт паншчыны з 1790 да 1800 г.[66] на Валыні, на Падоллі, у Кіеўскім ваяводстве, на Палессі і ў Брацлаўскім ваяводстве быў па 18 грошаў за дзень конны і па 12 грошаў за дзень пешы. У 1790, 1791, 1792 гадах ён ўзняўся да 26 грошаў за дзень конны і па 18 – за дзень пешы. Трэба ведаць, што кошт паншчыны быў заўсёды адпаведны кошту збожжа (а таму ў Літве мусіў быць заўсёды вышэйшы за тамтэйшыя кошты). Ён жа даводзіць, што кошт земляробчай працы, якая лічылася роўнай працы цяслярскай, заўсёды быў адпаведны кошту жыта, як гэта даводзяць розныя рэестры з XVI стагоддзя; дык вось: у 1497 г. карэц[67] жыта каштаваў у Кракаве (пераводзячы ў манеты 80 зл. пол. з грыўні кёльн.[68]) 1 злоты 15 грошаў, а дзень цяслярскае працы – 8 грошы.

| | | Карэц жыта | | | | Дзень цяслярскае працы | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| У | 1514 | 2 | зл. | 26 | гр. | $8^{3/4}$ | гр. |
| - | 1520 | 1 | - | 13 | - | $12^{2/3}$ | - |
| - | 1551 | 5 | - | 2 | - | 14 | - |
| - | 1564 | 6 | - | 6 | - | $18^{2/5}$ | - |
| - | 1590 | 15 | - | 12 | - | $16^{2/5}$ | - |
| - | 1601 | 5 | - | 13 | - | $17^{1/3}$ | - |
| - | 1780 | 12 | - | 20 | - | 60 | - |

Заўважае пры гэтым, што на правінцыі, пэўна ж, з-за меншае колькасці насельніцтва, за працу плацілі крыху больш.

Жадаючы паводле гэтае прапорцыі вылічыць у нас адпаведны кошт паншчыны, трэба лічыць дзень больш-менш па 18 гр. адпаведна кракаўскаму кошту (лічачы літоўскую бочку[69] жыта па 20 злотых, а ў бочцы $3^{1/2}$ карца). Аднак у нас цяжка з работнікамі, дык натуральна кошт працы павінен быць вышэйшы; звычайна плацім за дзень конны ад 50 гр. да 2, а часам 3 злотых, пешы – ад 20 да 40 грошаў; здаецца, ва ўсёй Літве і Беларусі нідзе танней працаўніка наняць нельга, часта бывае даражэй, як, напрыклад, у ваколіцах Вільні.

У гэтым можам пераканацца з наступнага фрагмента працы ягамосця Алякс. Маруа дэ Джонс[70] пад тытулам *Le commerce au dix neuvième Siecle 1825 á Paris*.

"Паводле дакладных даследаванняў, – піша аўтар, – у 1815 г. на патрэбы Еўропы прадавалі Ганзейскія гарады[71], Польшча і Паўночная Германія каля 14.100.000 гекталітраў[72] збожжа; Сіцылія і Барбарыйскія дзяржавы[73] – 3.600.000, а Злучаныя Штаты Амерыкі і Канада – 3.250.000; агулам – 20.950.000.

З гэтае колькасці Францыя і Англія спажылі блізу паловы. Але ў апошні час Францыя так развіла сваё земляробства, што не толькі дастаткова ёй свайго збожжа, але і вялікую колькасць можа прадаць за мяжу. І вось у апошнія гады прывезена ў Францыю:

| | | Гекталітры[a] | | Кілаграмы[b] | |
|---|---|---|---|---|---|
| У | 1820 | пшаніцы | 660.600 | мукі | 73.000 |
| - | 1821 | - | 590.000 | - | 961.000 |
| - | 1822 | - | 960 | - | 1.200 |
| - | 1823 | - | 0 | - | 0 |

[a] Гекталітар у мерах літоўскіх роўны без малога 2 асьміны; гэта значыць, $101^{1/4}$ літра складаюць амаль 2 асміны літоўскія.
[b] Кілаграм адпавядае 2 расійскім фунтам і $14^{1/2}$лота[74].

Вывезена ў гэты ж час:

| | | | Гекталітры | | Кілаграмы |
|---|---|---|---|---|---|
| У | 1820 | пшаніцы | 68.000 | мукі | 7.363.000 |
| - | 1821 | - | 50.000 | - | 7.200.000 |
| - | 1822 | - | 55.000 | - | 8.645.000 |
| - | 1823 | - | 2.474.000 | - | 9.295.000 |

Гэты разлік паказвае, што Францыя выйшла з ліку тых краін, якім патрэбна чужое збожжа.

Англія ад 1814 да 1820 г. за прывезенае збожжа заплаціла наступныя сумы:

| | | | |
|---|---|---|---|
| У | 1814 | 28.327.000 | франкаў |
| - | 1815 | 6.712.000 | - |
| - | 1816 | 8.772.000 | - |
| - | 1817 | 6.075.000 | - |
| - | 1818 | 96.775.000 | - |
| - | 1819 | 39.125.000 | - |
| - | 1820 | 30.087.000 | - |

Але ўжо ў 1821 г. вываз збожжа з Англіі быў на 3.250.000 франкаў. У 1822 г. вываз на пяць мільёнаў перавышаў вартасць прывозу. І вось у 1819 годзе прывоз збожжа на ўнутраны спажытак у краі быў забаронены да таго часу, пакуль кошт гекталітру пшаніцы не падымецца да 30 франкаў. Гэта азначала поўную забарону. Бо паводле рапарту, пададзенаму ў 1815 г. у Парламент, сярэдні кошт вытворчасці гекталітра пшаніцы ў Англіі не перавышае 16 франкаў. Аднак не кожны год, бо ў 1817 г. не мог англійскі земляроб прадаваць сваё збожжа танней, чым па 37 франкаў за гекталітр; у 1818 г. кошт знізіўся да 33 фр., у 1819 – да 29, у 1820 – да 26, у 1821 – да 23, а ў 1822 – да 17. Відавочны ўплыў сістэмы забаронаў дзеля павялічэння ўнутранае вытворчасці. Да 1819 г. англічане мусілі траціць на вытворчасці збожжа, бо прывазное было таннейшае; пасля, калі з-за забароны прывозіць, развілося земляробства, больш маючы збожжа, маглі танней яго прадаваць.

Лёгка палічыць, якіх ахвяраў каштавала Англіі гэтае забеспячэнне сябе ўласным збожжам. За чужое яны плацілі па 10 франкаў за гекталітар; таму ў 1818 г. спажыўцы за кожны гекталітар плацілі больш на 23 франкі, чым маглі б заплаціць, прывозячы з-за мяжы; у 1819 – на 19 фр., у 1820 – 16, у 1821 – 13 і, нарэшце, у 1822 – 7 франкаў; як вынікае з 7 аналізаваных гадоў, Англія патрабавала штогод каля 30 мільёнаў гекталітраў, дык забяспечваючы сябе ўласным збожжам, яна выдаткавала больш, чым магла выдаткаваць: першы год – на 700 мільёнаў франкаў, другі год – на 570, апошні – на 210. Гэта за адну толькі пшаніцу. Лічачы яшчэ каля 75.000.000 гекталітраў ячменю, якія Англія спажывае за год і плаціць па 14 франкаў за гекталітар, хоць прывазны мог бы каштаваць палову, атрымліваецца зноў за год да 465 мільёнаў дадатковых. Цяпер няхай кожны мяркуе, ці такі край, які цягам 5 гадоў ахвяраваў каля 2.000 мільёнаў франкаў на развіццё ўласнага земляробства, захоча адкрыць свае порты дзеля спаборніцтва з іншаземцамі? Францыя пайшла следам за Англіяй і прывоз чужога збожжа забараніла да таго часу, пакуль гекталітар уласнага не дойдзе да 21 франка. Урэшце, калі дзесьці і будуць патрабаваць (напрыкл., у Іспаніі і Партугаліі, якія штогод купляюць каля 10.000.000 гекталітраў), дык нашыя паўднёвыя правінцыі, якія могуць – без параўнання – танней за нас вырошчваць збожжа, заўсёды будуць мець першынства.

## XI

Шмат якія французскія аўтары красамоўна і грунтоўна пераконваюць суайчыннікаў пра неабходнасць змяншэння вытворчасці збожжа і вырошчванне іншых земляробчых культураў. Далучаю фрагмент з часопіса, які маю пад рукою (ягамосць Сенац[75] *Projet d'amélioration des animaux*): "У сённяшнім стане земляробчае вытворчасці

ў Францыі адчуваецца абавязковая патрэба звароту да іншых культур, а не збожжа. Зернявыя цяпер захапілі вінаграднікі, ставы, лясы, пашы, горы, дзе сама прырода імкнулася назаўсёды пазбавіцца ад плуга. Голад ці, хутчэй, нястача збожжа ў 1813 і 1817 гг. павялічылі сяўбу зернявых, павышаючы на некаторы час кошт хлеба; але ўраджаі столькі яго далі, што цяпер цяжка гандляваць гэтым прадуктам. Каб гэтае няшчасце ахапіла выключна Францыю, дык лёгка можна было з ім справіцца, вывозячы збожжа; але ва ўсёй Еўропе тыя самыя прычыны прывялі да таго ж самага выніку; усюды хвілёвая нястача запаліла земляробаў да яго вытворчасці і прывяла да перавытворчасці. Вялікія фальваркі іншы раз не мелі дзе падзець трохгадовых запасаў, а мусілі высякаць лясы і гаі, каб задаволіць патрэбы... Абавязкова трэба павялічыць лугі і статкі, на якія дасюль Францыя штогод выдаткоўвае блізу 50.000.000 франкаў” etc.

## Частка другая

# ШЛЯХЦІЦ

Jednym gnuśne stępiło umysł próżnowanie,
Drugi rozum i serce utopił we dzbanie,
Ów się tylko pieniactwem szarga, a z sąsiady
Ustawicznie o lada zagon wszczyna zwady. [...]
Pełno ludzi zabawnych: zdaje się coś robi
Każdy i do usług się ojczyzny sposobi.
Lecz, kiedy jedno ciało zrobisz z tej gromady,
Ni serca do czynności, ni mózgu do rady.
Drugi gadać nie umie: ba, i cóż on powie?
Nic nie czytał, nie myślił, same wiatry w głowie,
Albo pycha szalona...

Ad. Naruszewicz, *Satyry*[1]

## Раздзел першы

# ШЛЯХЕЦКАЯ ГАСПАДАРКА

Ach nowe w koło rozkosze,
Gdziekolwiek oczy przenoszę!
Ruse pola i manowce
Skubią snujące się owce.
... Bujne, kwieciem tkane smugi.
Głośne zdroje, pełne strugi;
A tu z czarnych gajów gmachy
Wyniosłemi błyszczą dachy,
Gdzie może twarz jaka miła
Urzeka serc siła, siła.

L. Borowski, *Allegro* z Miltona[2]

Падчас размовы, калі яны ішлі сцежкаю праз рэдкі хвойнік, іхнюю ўвагу прыцягнула аграмадная колькасць свежых і старых пнёў ды нязначная колькасць хвояў, сярод якіх не было аніводнае простае і высокае.

– Нашыя сяляне, – азваўся Уладзіслаў, – і цяпер не зусім пазбаўленыя зімою карыснае працы. Вось мы бачым сляды іх работы: гэтыя пні сведчаць, што тут, у пушчы, былі вялізныя дрэвы, усе яны былі рукамі сялян спілаваныя і сплаўленыя ў парты.

– Зірні, пане Уладзіслаў, – адказаў пан Падстоліц, – на гэтыя пні і на гэты лес, што застаўся: ці не заўважаеш ты тут слядоў духа знішчэння сённяшніх землеўласнікаў? Спажыць усё за адзін дзень, змарнаваць фундуш, пазбавіць нашчадкаў альбо будучых уласнікаў гэтае зямлі ўсіх прыродных дароў, якія вякамі назапашваліся, – гэта агульная рыса нашага гаспадарання.

Палеткі мы спустошылі празмернаю сяўбою збожжавых, сялянаў зруйнавалі рабаўніцтвам і прыгнётам, лясы, гэты скарб нашых продкаў, пакінуты ў спадчыну не толькі нам, але цэламу шэрагу наступнікаў, мы неразумным выкарыстаннем і хцівасцю звялі дарэшты. Вякоў не хопіць, каб паправіць тую шкоду, якую мы ўчынілі будучым пакаленням.

– У тым, што тычыцца лясоў, – сказаў Уладзіслаў, – можна абвінаваціць усю Еўропу. Непралазныя герцынскія пушчы, дубовыя лясы галаў[3], лясныя нетры Брытаніі – усё гэта знікла, паддалося плугу.

– Не ўсё пайшло пад плуг, – адказаў пан Падстоліц. – У Францыі і Англіі ёсць вялікія плошчы, яшчэ не кранутыя плугам; гэта сведчанне, што яны знішчылі свае пушчы неадпаведна таму, колькі трэба было ворнае зямлі[I]. Але ў іх ёсць апраўданне: мы ведаем, як нядаўна яшчэ Еўропа стала на шлях разумнага гаспадарання. Пушчаў ужо не было. Але адразу ж яны прыклалі шмат намаганняў, каб іх аднавіць, а даўнія рэшткі захаваць. У некаторых дзяржавах клопат пра лясы пайшоў так далёка, што гаспадары на сваёй зямлі не маюць права без дазволу ані спусціць дрэвіну, за чым сочыць лясніцтва, ані прадаць

для іншага ўжытку, апрача пабудовы караблёў[II]. Англійскія звярынцы больш прызначаныя для гадавання дрэў, чым звяроў; у выніку там ужо выгадавалі прыдатныя для будовы суднаў дрэвы[III].

– Стагоддзі мінуць, пакуль у Францыі і Англіі вырасце дастатковая колькасць уласнага лесу[IV].

– Менавіта таму нам трэба было б з большым стараннем ашчаджаць стадрэвіны і даглядаць маладняк.

– Нашая драўніна, – сказаў Уладзіслаў, – з часу, калі ў Амерыцы павялічылася колькасць насельніцтва, стала ў Заходняй Еўропе менш патрэбная. Амерыка дастаўляе больш танную.

– Не вер гэтаму, пане Уладзіслаў. Гэта няскладныя пагалоскі, якія пускаюць купцы, каб збіць кошт нашае драўніны[V]. Простае параўнанне коштаў вытворчасці і дастаўкі, якія на амерыканскую драўніну ўтрая вышэйшыя, пераконвае, што каб мы нашую драўніну цанілі ўдвая больш, чым цэнім, а амерыканскую бралі з лесу задарам, дык і тады нашая была б у Еўропе больш танная. Дык і амерыканцы пры пастаянным росце насельніцтва і вялікім уласным попыце не цяпер пачалі плаціць пнёўшчыну[4]. Але, перадусім, ці можна дапусціць, што англічане, тыя англічане, якія зайздросным вокам глядзяць на рост прамысловасці ў Расіі, спрычыніліся б добраахвотна да паляпшэння нашага збыту, каб інтарэсы іх да таго не змушалі?[VI]

– Як жа можна патлумачыць танны кошт нашае драўніны ў балтыйскіх партах? Гэта даказвае, здаецца, што кошты ўпалі з прычыны малога запатрабавання.

– Чаму мы думаем, што гэты попыт можа быць неабмежаваны? Цяпер іншаземцы купляюць драўніны значна больш, чым куплялі колькі дзесяцігоддзяў раней; але мы, уявіўшы сабе, што ўсё, што ў нас ёсць на продаж, павінна быць купленае, завалілі парты драўнінаю і скардзімся, што няма попыту. Вялікая колькасць знізіла кошт. Можа, позна ўжо думаць пра лес, але час яшчэ выкарыстаць гэты досвед і ў іншых галінах прамысловасці дзейнічаць больш разумна.

– Хто топіцца, дык і за брытву ўхопіцца, – сказаў Уладзіслаў. – Не адзін, можа, са шкадаваннем пазбываўся гэтае крыніцы прыбытку; але ў цяжкія часы, калі землеўласнікі не мелі аніякага прыбытку, яны лічылі за шчасце, што хоць лес маглі прадаваць.

– Я ведаю, – адказаў пан Падстоліц, – што некаторыя знаходзіліся ў такой складанай сітуацыі, што, ратуючыся ад банкруцтва, хапаліся за гэта, як за адзіны тады сродак. Няхай, аднак, самі прызнаюцца, што змусіла іх да гэтае крайнасці: пэўна, не ашчаднасць, не прадпрымальніцтва і не абачлівае стаўленне да акалічнасцяў. І ва ўсякім горшым выпадку гэта былі б яшчэ эфектыўныя, супраць цяжкіх часоў, лекі, але чаму ж іх не выкарыстоўвалі? Лясы крыху затрымалі банкруцтва, а цяпер ужо няма лясоў, дык што выратуе? Не варта наракаць на нядолю, калі самі ў ёй вінаватыя.

Ніхто не падумаў пра эфектыўныя і надзейныя сродкі паратунку, а выкарыстоўваючы шкодныя, мы падвоілі сваю віну. Даведзеныя марнатраўствам да галечы, хапіліся бяздумна за лясы; а калі агульнымі намаганнямі абясцэнілі драўніну – нашкодзілі гэтым і сабе, і наступнікам; знізілі кошты вытворчасці і сплаву – пакрыўдзілі сялян; высеклі ў краі лясы – нашкодзілі Айчыне.

– Сапраўды, – сказаў Уладзіслаў, – сумнае відовішча ўяўляюць сабою гэтыя вынішчаныя абшары; яшчэ больш сумнае, чым палеткі, якія пабіў град альбо з'ела саранча.

– Вось яна, тая залатая Літва, – прамовіў пан Падстоліц, – якую некалі называлі так за ейнае багацце! Дык давайма будзем ганіць цяпер гаспадаранне нашых продкаў, якія, ашчадна карыстаючыся лясамі, пакінулі нам некранутыя пушчы над Нёманам, Бярэзінаю, Дзвіною і Дняпром, і хваліць сябе, што мы, ні ў чым не ведаючы меры, нягледзячы на большыя магчымасці атрымаць адукацыю і палепшыць гаспадаранне, схапіліся за лясы і знішчылі ўсё дашчэнту.

Я сам яшчэ нядаўна бачыў у Бярэзінскай пушчы мачтавыя дрэвіны, каб вывезці якія мусілі запрагаць па шэсцьдзесят коней; а сёння ва ўсім краі, апрача дзяржаўных пушчаў, не толькі не знойдзеш дрэва на мачту, але нават на шпыры[5] і брусы знайсці цяжка. Больш за тое, на будаўніцтва ў колішніх лясных ваколіцах драўніны цяпер шмат дзе не хапае. На дровы яшчэ ёсць, дзякуючы таму, што не патрэбныя за мяжою крывыя і гнілыя дрэвіны ды галлё. Каб не гэта, дык давялося б ужо саломаю паліць. Бо хоць трохі прыдатнае дрэўца, якое не дарасло яшчэ, каб трапіць у Балтыйскія парты, да апошняе роўнае хвойкі на калоды, на бэлькі, на латы, на дошкі ажно да жэрдак – усё было выразана і сплаўлена да Кіева альбо Крэменьчуга за бесцань. Гэткае нашае гаспадаранне![VII] А што гэта за поле перад намі?

– Я не надта добра арыентуюся ў гэтым лесе, – адказаў Уладзіслаў, – але мяркую, што гэта павінны быць ужо дворныя землі пана Харунжага.

– Варта і тут паглядзець, – сказаў пан Падстоліц, выходзячы на поле.

З пагорка, на якім яны спыніліся, адкрылася перад імі ў паўднёвым кірунку адна з тых смутных і аднастайна-нудных літоўскіх раўнін, якія звычайна атачае пануры хвойны лес і якія толькі ўмелая рука можа змяніць так, каб была заўважнаю стала прыгажосць і багацце гэтага краявіду.

З правага боку раўніны, каля рэчкі, некалькі старых, адзін ля аднаго будынкаў з гонтавымі дахамі выразна сведчылі, што гэта дворныя пабудовы; невялікі гай за імі, ужо крыху пажоўклы, ствараў досыць прыемны воку фон; толькі ён адзін і ажыўляў гэтую крыху мёртвую даліну. Злева заканчвалася яна амшэлаю балацінаю, парослаю рэдкім хвойнікам. Сярэдзіну, якую псавалі шкілеты некалькіх абгарэлых хвояў, займалі тры дваровыя палеткі, якія клінамі цягнуліся да выгану ля маёнтка.

Сцежка, якою ішлі нашы падарожнікі, вілася між двух палеткаў. На левым узышла рунь, гэткая нікчэмная, што ледзь яе можна было пазнаць; на правым віднеліся рэдкія стагі і пасвілася колькі дзясяткаў кароў і пару дзясяткаў свіней. Пры дарозе ля калоды спалі два пастушкі; аніводнага сабакі пры статку не было: худыя каровы блукалі па лядачай пожні ды бесперашкодна лезлі ў рунь.

Хутчэй, чым аўтар здолеў гэта апісаць, вока пана Падстоліца паспела ўсё абегчы, і ён са скрухаю звярнуўся да Уладзіслава:

– Дык гэта двор пана Харунжага перад намі?

– Так, – адказаў Уладзіслаў.

– Якая ж з гэтых бедных стрэх дае яму прытулак? Ці не тая, над якой курыцца дым?

– Не. Аніводзін з гэтых будынкаў нават два разы на год не мае гонару бачыць аблічча годнага ўрадоўца, бо гэта фальваркавыя пабудовы, у якія высакародны дзедзіч не мае ахвоты зазіраць. Палац, стайня і аўстэрыя[6] – за англійскім паркам, які засланяе ад гаспадарскага вока фальварак. А той дом, што бліжэй да рэчкі і з якога ідзе дым, – гэта бровар, але больш модна і больш адпаведна назваць яго *рэзервуарам* таго смуроду, які не змяшчаецца ў тым напаўразваленым гмаху, што стаіць трохі вышэй, і які з'яўляецца абораю.

– Як цесна паставілі іх адзін ля аднаго! Нібы зямлі ў іх мала – сказаў пан Падстоліц, калі яны прайшлі сцежкаю крыху далей.

– Звычайна, па-старасвецку, – адказаў Уладзіслаў. – Нашы продкі ўсюды, дзе не трэба было, будавалі замкі, а дзе трэба...

– Не кажы так, пане Уладзіслаў. З вялікай пашанаю мы павінны згадваць продкаў. Не іх гэта была віна, што святло асветы ў іх час яшчэ не рассыпала сваіх праменяў на нашай зямлі так, як зараз рассыпае, дык, улічваючы ступень іх адукаванасці, яны заслужылі павагу. Яны жылі сумленна і ў адпаведнасці са сваім станам ды прызначэннем; а калі і падпадалі пад асобныя забабоны, няслушныя перакананні і заганы, якія іх прывялі да заняпаду, дык гэта варта прыпісаць тагачаснаму выхаванню і палітычным падзеям. А вось што нас апраўдае? Мы ўжо маем перад вачыма тое, чаго нашы продкі не маглі бачыць, маем асвету і прыклад суседзяў, а як гэта выкарыстоўваем? Дык ці выпадае нам дакараць сваіх продкаў?

Пачырванеў пан Уладзіслаў і са схіленай галавою моўчкі ішоў побач з панам Падстоліцам, які праз момант запытаўся:

– Дык не да гэтага фальварку належыць зямля тае знесенае вёскі?

– Не да гэтага, – адказаў Уладзіслаў. – Тут адно *fundum*, а там – *awuls*[7]. Пан Харунжы яго яшчэ не скончыў, але ўсе будовы, таксама як і тут ушчыльненыя, так дасціпна паставіў, што кожная наўскос адна на другую пазірае і ўсе сцены скрыўленыя, хоць і новыя, а пагражаюць завалам.

– Ці меў жа ён архітэктара? – запытаўся пан Падстоліц.

– А гэта навошта? Мы не верым у архітэктараў. Пан Харунжы, як ён кажа, *уцяміўшы ўсю справу*, заўважыў такую рэч: што галава – то розум, гэта значыць, што кожны без усялякае навукі можа быць урадоўцам, гаспадаром, архітэктарам і ўсім, чым толькі чалавек быць можа. Ён –галоўны непрыяцель навукі; хоць, як сам кажа, меў дарэктара і тры гады вучыўся ў слаўнай падчас ягонае маладосці нясвіжскай фары[8]. Там, *уцяміўшы ўсю справу*, прыйшоў да высновы, што навукі – гэта людская выдумка і што, не ходзячы нават да інфімы[9], можна атрымаць бацькоўскі маёнтак, які, уласна, тады яму і перайшоў па спадчыне.

– Дык не дзівіць мяне цяпер, што ягоная гаспадарка ў такім стане, – сказаў пан Падстоліц. – Як радуе сэрца вясковага жыхара буйнае збожжа і добра апрацаваная зямля, гэтак пакутуе ён ад віду палеткаў, якія з'яўляюцца доказам змарнаваных выдаткаў, часу, працы і зямлі. Зірні, васпан, як кепска ўзышло жыта. Хіба, можна чакаць лепшага пры такой апрацоўцы. Колькі тут пропускаў на раллі ў спалучэнні з абы-якім баранаваннем. Гэтае зелле нібы спецыяльна парасцягвалі па ўсім полі. А пожня ля самага двара (значыць на ўгноенай зямлі) чаго вартая? Вось вынік імкнення да павелічэння пасеваў! Колькі сялянаў мае пан Харунжы?

– Каля пяцідзесяці.

– А колькі высявае азімых?

– Здаецца мне, што паводле прынятага тут звычаю – па бочцы на хату.

– Звычай! – паўтарыў пан Падстоліц, ківаючы галавою. – Тады ў яго павінна быць 200 моргаў[10] поля. А колькі ён трымае жывёлы?

– Гэта ўсё, што тут васпан бачыць. І больш трымаць не можа, бо лугоў у яго мала.

– Каб нашыя гаспадары, – сказаў пан Падстоліц, – мелі адвагу ўпэўніцца, што змена культураў на палетках – гэта дабрадзейства для гаспадаркі, дык колькасць натуральных лугоў не абмяжоўвала б колькасць жывёлы. Тады гаспадар, які палічыў бы, колькі ў яго ралля патрабуе гною і колькі гадоў, з улікам якасці зямлі, яе трэба ўгнойваць, мог бы трымаць адпаведную колькасць кароў. А як пры трохполлі пазбегнуць таго абмежавання, якое маем з-за колькасці лугоў?

Вось і бачым тут вынік нашае забабоннасці да ўсяго без выключэння новага, а хутчэй, вынік нашае недасведчанасці альбо гультайства. Тут няма і пяцідзесяці галоў жывёлы ў чарадзе, дык пры трохполлі, не трымаючы жывёлы ўвесь год у хляве, не будзе гною больш, чым моргаў на дзесяць; дык кожны палетак толькі раз у шэсцьдзясят гадоў можна было б ўгноіць. Адкуль жа зямлі набрацца тых пажыўных сокаў, якія яна аддае раслінам? Тое, што зямля ляжыць пад парам, мала дадае ёй урадлівасці, а пастаянная сяўба збожжавых усё больш і больш вынішчае зямлю.

Як жа тут не пераканацца, што пры такім марным гаспадаранні, без угнаення, без чаргавання пасеваў, нашая зямля, хоць і ўрадлівая некалі, зусім будзе вынішчаная, а калі мы не станем выкарыстоўваць надзейныя сродкі сучаснага земляробства, дык яна зробіцца бясплоднаю пустыняю?[VIII]

Пакуль пан Падстоліц выказваў свае агранамічныя заўвагі, Уладзіслаў ішоў побач, глядзеў у зямлю і думаў... Хто ведае, пра што ён думаў? Можа, пра частыя праходкі, якія былі яму такія прыемныя, калі ішла з ім па гэтай самай сцежцы панна Харунжанка...[11] Пра нешта цікавае ён усё ж мусіў думаць, бо гэтаксама, як і пан Падстоліц, не заўважыў, што падкралася ззаду хмара і закрапаў дробны восеньскі дождж. Пан Падстоліц азірнуўся: ад лесу яны ўжо адышліся далёка – да фальварку было бліжэй.

– Калі мы не хочам трапіць пад дождж, – сказаў ён, – дык давядзецца нам пакланіцца пану Харунжаму раней, чым мы збіраліся: яшчэ большая хмара насоўваецца ззаду, дык мы не паспеем вярнуцца да Тадэвуша.

– Але мой паляўнічы строй, – сказаў Уладзіслаў, – не надта падыходзіць для візітаў.

– Мы яшчэ паспеем пераапрануцца, пакуль выйдуць дамы, – адказаў пан Падстоліц. – А тым часам варта зазірнуць у гэтыя гаспадарскія пабудовы.

Уладзіслаў ахвотна пагадзіўся, а пан Падстоліц, абудзіўшы сонных пастушкоў, паўшчуваў іх, што не пільнуюць статку. Ён загадаў аднаму пасвіць, а другому даў некалькі грошаў, загадаў бегчы да Тадэвуша і папярэдзіць фурмана, што як толькі вернецца Марцін, каб яны ехалі да двара і каб Тадэвуша ўзялі з сабою.

Хлопчык шпарка пабег, а пан Падстоліц з Уладзіславам, прыспешыўшы крок, праз пару хвілін ужо стаялі на дзядзінцы фальварку.

## Раздзел другі

# ШЛЯХЕЦКІ ДВОР

Racz Jenerale zapewnić ode mnie
Winnogórskiego Cyncynnata,
Iż wstąpię do Winnejgóry,
Na żyzny grunt tej posady,
Widzieć pełne trzód obory,
Hiszpańskich owiec gromady,
Szeręgi gęstych pługów, stogi, koni stada.
To u mnie gospodarski popis, to gromada!
Po rewii męskiego gospodarstwa, zobaczę kobiece.

Mar. Molski, *List do J. Dąbr.*[12]

Двор быў неабгароджаны, увайсці можна было з любога боку. Стары пахілены будынак, які стаяў сярод смуроднае гразі, першы трапіўся ім на шляху. Гэта быў бровар. Па кладках і камянях трэба было прабірацца ў сярэдзіну; гразь была і ў сярэдзіне. У дыме відаць было колькі закопчаных чанаў і два старасвецкія горны, якія бязладна стаялі ў вялікай стадоле. Там не было падлогі; апрача таго, мноства ям, напоўненых living рознымі сцёкамі, пацвярджалі словы, якія сказаў нядаўна пра гэты будынак Уладзіслаў.

Некалькі чалавек у лахманах, вымурзаных сажаю, нядбала корпалася з рыдлёўкамі каля брагі. Далей, за горнамі пад вакном, колькі іншых, якіх цяжка было заўважыць у дыме, выказвалі сваё меркаванне пра якасць свежае гарэлкі. Жыд у кажуху па чарзе наліваў ім мерку і прымаў: ад чалавека ў сінім сурдуце з зялёным каўняром – кавалак цукру, некалькі свечак, бохан сітнага хлеба і дзве сурвэткі; ад чалавека з доўгаю барадою і ў армяку – споры мех аўсу і скрабок; ад чалавека, замурзанага сажаю, у шляфмыцы[13] і ў фартуху – муку ў гарнушку, пару дзясяткаў яек, слоік масла і патэльню; ад чалавека, які бразгаў ключамі і якога назваў гуменным[14] – вялікі мех жыта, толькі што абмалочанага. Ніхто з-за дыму не заўважыў чужых.

Жыдок схаваў сваю здабычу пад перавернуты чан, наліў яшчэ кварту гарэлкі і, пакінуўшы іх разважаць пра яе, кіраваўся да тых, што мяшалі брагу; але заўважыўшы пана Падстоліца ў шарачковым сурдуце і Уладзіслава ў паляўнічым строі, напэўна, падумаў, што гэта нейкія падарожныя гэтаксама прыйшлі пакаштаваць ягонае гарэлкі. Дык ён падышоў да іх і, паказваючы на чаны, запытаўся:

– Чаго вашэцям трэба?

– Мы хочам агледзець ваш бровар, – адказаў пан Падстоліц.

– Толькі паглядзець? – сказаў жыд. – Ну, то глядзіце.

– Васпан, напэўна, віннік? – спытаў пан Падстоліц.

– Ну, віннік, – неахвотна адказаў жыд, зіркаючы на іх з-пад ілба, нібы жадаў зразумець, з кім ён размаўляе.

– Дзе ж ты вучыўся гэтаму майстэрству? – працягваў распытваць пан Падстоліц.

– Ну, навошта мне вучыцца? Кожны жыд ад нараджэння віннік.

– Бачу, што гоніш гарэлку ў старасвецкіх катлах, а цяпер жа ёсць лепшыя апараты, – заўважыў пан Падстоліц. – З меншымі выдаткамі можна атрымаць у паўтара разы большы выхад з тае самае колькасці збожжа.

– Ну, я ведаю пра тыя апараты: тутэйшыя паны з англійскіх паравых выдумалі модныя паўпаравыя. Нашыя лепшыя, бо яны не так прыпальваюць гарэлку, якая, праходзячы праз карацейшыя трубы, менш медзі распускае, і не такая атрутная для людзей, як тая, што выходзіць з навамодных паўпаравых. Калі васпане прыйшлі толькі паглядзець і пагаманіць, дык я не маю часу.

– Хадзем, – сказаў пан Падстоліц. – Не без карысці мы адсюль выходзім, – працягваў ён, накіроўваючыся да аборы. – Бачылі мы тое, што звычайна дзеецца на нашых броварах, дзе працуюць жыды. Дваровыя слугі нясуць ім скрадзеныя ў пана рэчы і абменьваюць на ягоную ж уласную гарэлку. А распіўшыся, больш пану шкоды робяць, чым сам пан змарнатравіць.

Пачулі мы таксама меркаванне, да гэтага часу распаўсюджанае ў нас, што і без навукі можна кіраваць гэтым броварам, праца якога цалкам заснаваная на хімічных рэакцыях, дзе ад правільнага выкарыстання тэмпературы, ферментацыі і самога абсталявання залежыць прыбытак. Можна, вядома, без усялякага ведання хіміі і фізікі гнаць гарэлку, але гэтакая і карысць тады будзе. Добраахвотна трацім палову прыбытку, які з меншымі выдаткамі маглі б атрымаць з бровару, каб мы, вывучыўшы хімію, умелі дастасаваць веды да сучасных вынаходніцтваў і ўдасканаленняў.

– Некаторыя з нашых паноў, – сказаў Уладзіслаў, – пачуўшы пра вялікія прыбыткі ад новых апаратаў, купілі іх сабе; але вынікі паўсюдна не апраўдалі надзеяў, а паны, патраціўшыся на медзь, рэдка дзе атрымалі прыбытак, ды і той быў малы, а часцей – больш страцілі.

– Вось жа ўласна і я пра тое, – сказаў пан Падстоліц. – Не будзе карысці, калі выкарыстоўваеш у сябе нейкую машыну, але не маеш ведаў, дзякуючы якім можна было б зразумець прынцыпы яе дзеяння. Бо самая дробная акалічнасць, якое мы не можам прадбачыць, любая драбяза неўласцівага ўжывання, можа ўвесь апарат найлепшага ўзору спаганіць. І тое, што ў арыгінале было добрым, у нас з-за неўласцівага выкарыстання можа стаць прычынаю шкоды. Шматлікія на Літве бровары, гэтак званыя паўпаравыя, – гэта надта сумны довад нашага невуцтва.

– Зірні, васпане, – казаў ён далей, уваходзячы ў браму чатырохкутнае будовы, дзядзінец у сярэдзіне якое быў цалкам заліты вадою. – Вось такія нашыя аборы. Да хлявоў трэба прабірацца па вадзе, і самі хлявы залітыя жыжаю. Чаго ж дзівіцца, што нашая жывёла пры корме, якім можна толькі напхацца, але не спажыўным, а, перадусім, пры такім вось утрыманні, гэткая лядачая і падатлівая на хваробы?

– Мосці Падстоліцу, – сказаў Уладзіслаў, – аборы, падобныя на гэтую, у нас не так часта сустракаюцца, дык нельга на яе аснове рабіць агульную выснову; наадварот, мы больш знойдзем такіх гаспадароў, якія паднялі хлявы, выкапалі канавы і стараюцца так трымаць жывёлу, каб было суха.

– Я ведаю пра гэта, – адказаў пан Падстоліц. – Аднак не надта яны адрозніваюцца ад тых першых: адны не дбаюць пра жывёлу, іншыя – добраахвотна трацяць палову гною, дазваляючы марнаваць жыжу, гэтак патрэбную ў гаспадарцы. Прыгатаванне ўрату і пудрэты[15] – гэтакіх важных сучасных вынаходніцтваў – у нас да гэтага часу анідзе не практыкуецца; мы нават амаль не ведаем пра іх, бо не стараемся набываць карысную інфармацыю, а тым больш карыстацца пачутаю выпадкова[IX].

Гэты самы гной у гаспадара, які ведае хімію, прынёс бы ў шмат разоў больш карысці. Нашы гаспадары нават не маюць уяўлення пра тое, як іншаземцы, дзякуючы ўмелай ферментацыі і прапарцыянальным дадатку іншых рэчываў, свае невялікія запасы гною памнажаюць і паляпшаюць. У нас усё прыгатаванне гною палягае на тым, каб яго жывёла нагамі за якія паўгода добра вымешала, а таму пакідаюць гной у хлявах, і жывёла стаіць у гнуснай і шкоднай для яго вільгаці.

Сапраўды, сумна глядзець на нешчаслівае жыццё нашых паноў, якія нават калі стараюцца руплівым гаспадараннем палепшыць свой дабрабыт, дык адно толькі марна выкарыстоўваюць шкодныя забабоны. Як мы пойдзем у палац?

– Вось гэтаю сцежкаю па агародзе і далей праз парк.

– Гэта, васпан, называеш агародам? – запытаўся пан Падстоліц. – Божа мой, каб мая жонка пабачыла гэтае пустазелле, гэтыя градкі, якія з вясны, хіба, адзін толькі раз прапалолі. Але ж нашыя гаспадыні часта клапоцяцца пра свае агароды нават больш, чым пра палеткі. Што ж у іх тут расце, у гэтым агародзе? Трохі буракоў, трохі капусты, морквы, бульбы, цыбулі… І гэта ўвесь запас для іхняе кухні! Пры такой нават ужо і ў нашым краі вялікай разнастайнасці агароднiны нельга даравацъ гаспадыням нядбальства, што не сеюць іх у сябе.

Гэтае нядбальства з'яўляецца не довадам прызвычаенасці да традыцый і да простага харчавання, а довадам невуцтва, неразвітога густу, абыякавасці і, нарэшце, кепскага выхавання гаспадыні. Стол не мусіць быць надзвычайным, але тое, вырошчванне чаго нічога не каштуе, але што памнажае разнастайныя здаровыя стравы і робіць больш прыемным вясковае жыццё, абавязкова павінна быць галоўным клопатам гаспадыні. Мусіць, гэтая пані Харунжыха нават не зазірае ў агарод?

– Гэта модная дама, – адказаў Уладзіслаў. – Сентыментальнасць не дазваляе ёй займацца такімі рэчамі, якімі можа заняцца аканомка. Пані Харунжыха мае надта ўзнёслую натуру, надта далікатны густ.

– А чым жа займаецца жонка вясковага гаспадара, жывучы ў вёсцы?

– Аранжарэяю, строямі, баўленнем гасцей і часам чытаннем раманаў, над якімі яна плача.

– На ўсё гэта павінны быць свой час і мера. Аранжарэя, калі яна няшмат каштуе, можа быць для вясковае гаспадыні прыемнаю, адпаведнаю і нават, калі яе ўмела арганізаваць, карыснаю забаваю; клопаты аб прыстойных строях, абы не былі яны занадта пышнымі, а шляхетнымі і простымі, – гэта павіннасць і аздоба добра выхаванае кабеты; таксама і чытанне цяпер, як абавязак для ўсіх станаў, і вясковым гаспадыням, абы яно было адпаведнае для іх, таксама можа быць карысным; а госці, калі ведаюць, што ў будзённыя дні гаспадыня занятая, можа, і неназаляюць ёй, бо і яны ж, відаць, таксама працуюць, – самая прыемнасць суседскіх таварыскіх спатканняў у свята.

– Што край, то і абычай, – сказаў Уладзіслаў. – Нашыя суседзі ў пастаянным руху; а нашы гаспадыні, якія лічаць хатнія абавязкі абразаю для сябе, з усіх сілаў імкнуцца наследаваць звычаі гарадскіх таварыстваў.

– Гэта не навіна ў нас, – адказаў пан Падстоліц. – Са смуткам варта прызнаць, што большасць шляхцянак, асабліва тых, якія паспелі ўжо пазнаць гарадское жыццё, калі ім хоць трохі дазваляе дастатак, дык яны тады саромеюцца ўжо нават зазірнуць на кухню, у пральню, у абору, і думаюць, што робяць ласку свайму мужу і ўсяму наваколлю тым, што жывуць у вёсцы, але забываюць, што тут, уласна, і наканавана ім быць Другою Ласкаю для свае сям'і і чэлядзі. У гэтым заключаецца іхняе цудоўнае прызначэнне. О, якія ж былі б яны шчаслівыя, каб умелі гэта цаніць!

Яны падыходзілі якраз да парку, які пані Харунжыха і садоўнік казалі называць англійскім. З першага погляду той дзясятак купак дрэваў па некалькі сажняў, абы як памяшаных, і тры вялікія, але дзіўныя клумбы, давалі ўяўленне пра густ і абазнанасць сваіх плантатараў. Траўнікі, якія зусім не адпавядалі памерам клумбаў і па якіх скрозь і бязладна былі пратаптаныя сцежкі, з канаўкамі і з непатрэбнымі ды недарэчнымі дзіцячымі масткамі, здавалася, былі спецыяльна запраектаваныя насуперак усім правілам мастацтва і добрага густу.

Больш за дзясятак сялянаў, абліваючыся потам, матыкамі парадкавалі дарожкі і сцежкі. Паміж імі праходжваўся ў замшавай куртцы і з люлькаю ў зубах таўстун, які несупыннаю на чужой мове лаянкаю прымушаў, каб яны, недарэкі, не марудзілі ў працы. Заўважыўшы пана Падстоліца, ён зверху ўніз змераў яго поглядам, а пазнаўшы Уладзіслава і заўважыўшы ягоную павагу да спадарожніка, кіўнуў галавою і з ветліваю ўсмешкаю спытаў з французскім акцэнтам:

– Ці панове жадаюць зрабіць гонар маёй плантацыі?

– Мы б хацелі агледзець гэты парк, – адказаў пан Падстоліц.

– З усёю прыемнасцю, – падхапіў француз – Трэба ведаць, што тут прыгожая прырода зрабіла сабе сталіцу. Бачыш, васпан, гэтыя аграмадныя дрэвы? *Majestueux!*[16] (Ён паказваў на бярозы і елкі, якім было больш за дзясятак гадоў). Гэтыя клумбы – маё вынаходніцтва. Зірніце, панове, якая гармонія! Які густ!

Вось гэта клумба, *en grouppes*...[17] Гэтыя бярозы растуць гэтак хутка, нібы дым з люлькі, а адасобленыя роўнымі прамежкамі пірамідальнымі таполямі, яны выглядаюць як шэраг жаўнераў са сваімі харугвамі. Ці не праўда, што гэта прыгожа? Гэта мая ўласная ідэя. Бо варта ведаць, што я з дзяцінства, будучы на вайсковай службе, бадзяўся па розных краях і тое-сёе з майго жаўнерскага досведу перанёс на гэтую плантацыю.

– Дзе ж васпан вучыўся садоўніцтву? – запытаўся пан Падстоліц.

– О-го-го! – закрычаў садоўнік. – Каб пан ішоў у Парыж, а з Парыжа далей на поўдзень, дык знайшоў бы на краі свету Італію... Панове не могуць уявіць сабе, што гэта за краіна. Яе ўсю можна назваць садам. Зусім як Францыя. Дык вось я меў шчасце быць у Італіі з маім войскам, у якім быў пры аптэцы. Няважна на якой пасадзе. Дастаткова панам сказаць, што я француз, цяпер бедны, як д'ябал. А некалі ў замку маіх бацькоў мелі мы прыгожы парк, вялікі, на мілю, яшчэ перад тым, як мой бацька эміграваў. Уласна памятаю ў ім такую самую клумбу, як панове тут бачаць з піхтаў *en masse*[18]. Я імі вельмі

задаволены; лацканы пры іх з бэзу і акацыі нагадваюць нашыя на мундзірах конных стральцоў. Гэта чароўная клумба. Я надаў ёй форму правільнага чатырохкутніка ў памяць пра наш карэ-батальён. Тутэйшай баранэсе таксама ўсё гэта прыпала да густу...

– А якія краявіды маеш, васпан, у гэтым садзе? – запытаўся пан Падстоліц, ідучы наперад.

– О! Краявіды цудоўныя. Усе – маё вынаходніцтва. Вось з таго мастка маеце, панове, краявід *terrible*[19]: промень зроку прабягае вакол карэ-батальёну і ўпіраецца ў бровар, чорны дах якога год ад году ўсё больш руйнуецца, дык яшчэ больш узмацняе эфект гэтага краявіду. Тут маеш, пан, букалічны краявід: агарод і абора, бо што ж можа больш натуральным для гэтага краявіду, калі не абора? А тут, – казаў ён, паварочваючыся да жылога будынку, – пані баранэса хацела стварыць меланхалічны краявід і таму ўсе вушакі вокнаў і дзвярэй загадала пабяліць, што пры шэрых сценах мае нейкае падабенства да жалобы. Нічога. Тутэйшая баранэса мае яшчэ прэтэнзіі, каб рабіць клумбы, але яе фантазіі не маюць густу: гэта не справа палякаў. Прашу мне прабачыць маю шчырасць. У француза, што ў галаве, тое і на вуснах. Я тут бы цуды парабіў, другі Версаль альбо Шэнбрун[20], каб меў большую помач. План я сам раблю, бо і маляваць умею. Вось тут, – дадаў ён, вымаючы з камізэлькі абрывак паперы, – галоўка мае каханае, панны Эльжуні, тутэйшае гардэробнае[21]; яна кажа, што непадобная; але ёй так здаецца, бо гэта ані што іншае, як толькі накід. З другога боку – дом, у якім я буду жыць з ёю. Як гэта падабаецца пану?

– Усё добра, – сказаў пан Падстоліц. – Ці для працы ў гэтым парку патрабуецца шмат работнікаў?

– Барон шкадуе гэтае быдла, – адказаў садоўнік. – Баранэсе ж хапае розуму, каб даваць мне штодзень з пару дзясяткаў дырдаў; але што я зраблю з такою колькасцю? Утрыманне аднае толькі аранжарэі патрабуе амаль столькі. Дык няма каму ўсе гэтыя сцежкі павымятаць, прапалоць, каналы пачысціць. Тут быў бы рай зямны: людзі з усяго краю маглі б сюды прыходзіць, каб нацешыцца прыгажосцю прыроды і майстэрства. Тады б, пасля пабудовы вялікае альтанкі, можна было б тут бавіцца кантрадансамі. Калі я быў маладзейшы, дык танцаваў, як маэстра. Трэба ведаць, што толькі ў Францыі ўмеюць танцаваць. Пан ведае, што кажа пан Капітан... – дадаў ён, звяртаючыся да Уладзіслава.

Стомлены гэтай балбатнёю пан Падстоліц спыніў яго і спытаў: дзе аранжарэя.

– Вось тут! Прашу, прашу, – і, паказваючы дарогу, ён павёў іх пакручастымі сцежкамі.

Глянуў пан Падстоліц на Уладзіслава, які ведаючы ўжо ягоны лад думак, лёгка здагадаўся, што азначае гэты позірк. Аранжарэя была вялікая, драўляная і поўная раслінаў; але ў кожнай раме некалькі шыбаў было заклеена паперай альбо закладзена лучынаю, што дазваляла рабіць не надта добрыя высновы пра густ аматараў.

– О, гэта тое, чым я ганаруся! – казаў садоўнік пры ўваходзе. – Вось – *rododendron pontikum*[22], які каштуе 200 злотых; гэта – кактус шасцідзесяцігадовы, які яшчэ перад маім прыездам баранэса купіла за 300 злотых у нейкім кляштары. Ці не бачыць пан, што яны ўтрымліваюцца, як каханыя дзеткі? Гэта – *metrosideros elephanta* за 150 злотых, а гэта – *metrosideros linearis*[23] за 250

злотых. Надпіс вітымі літарамі – гэта мая ўласная ідэя. Я таксама і мастак. Гэты пан ведае, што я магу і на флейце пры святле месяца спаборнічаць з салаўём.

– Вадзяным, – дадаў Уладзіслаў.

– Гэта – *chamaeroes humilis*[24] за 150 злотых. Злоты – гэта наш франк, але напалову меншы. На франкі рахунак нашмат лепшы. Тое, што пан зараз аглядае – *hernandia sonata*[25], яшчэ не падпісаная, бо за яе яшчэ і не заплацілі. Гэта – *triplas amerikana*[26], за якую баранеса аддала дзедаву карабелю[27], апраўленую ў срэбра. Вельмі шкада мне яе было; бо, каб яна засталася, дык я мог бы практыкавацца ў фехтаванні. Я ж майстар і на шпагах, і на рапірах, і на шаблях. І з пісталетаў дасканала страляю.

– Але ж на кіях кухар перамог? – нагадаў са смехам Уладзіслаў.

– Што там на кіях! Гэта сялянская забава.

– Але ён кажа, што і танцуе, і грае, і малюе лепш за васпана, а нават што панну Эльжбету ў васпана адаб’е.

– Што? Ён так кажа? Богам клянуся, што гэтага яму не дарую. Гэта – *musa sapientum*[28], за якую баранэса аддала дванаццацігадовую дзяўчынку. Тут мы не пройдзем, трэба назад. О! Не дарую! Гэта – *hibiscus sinensis*[29], 200 злотых. Мноства, як бачаць панове, раслін рэдкіх і каштоўных, за якія баранеса на кантрактах[30] выкладае добрыя грошы.

– Якая ад іх карысць вясковаму гаспадару? – спытаўся пан Падстоліц.

– Карысць? – здзівіўся садоўнік. – Карысць? – паўтарыў ён мераючы яго вачыма. – Ці ж не дастатковa тае карысці, што ў гэтым чароўным кутку знаходзіцца тое, пра што нават не чулі на некалькі міль навокал? Пані баранэса не дбае ані пра карысць, ані пра выгаду; яе душа створаная для больш высокага, яна шукае аднае толькі прыгажосці. Здзіўленне і захапленне прагне яна абудзіць у тых, хто мае гонар трапіць у гэтую святыню цудаў.

Незадаволены пан Падстоліц ужо збіраўся адыходзіць, калі садоўнік з усмешкаю заступіў яму дарогу і, з паклонам здымаючы капялюш, сказаў:

– Мяркую, што меў гонар рупліва служыць добра выхаванай асобе, што ўмее, пэўна, ацаніць ветлівасць і жаданне выконваць яго загады.

Пан Падстоліц кінуў яму ў капялюш манету, а садоўнік з самым спакойным выразам твару павярнуўся да Уладзіслава ды, узяўшы і ад яго падобную кантрыбуцыю, дадаў:

– О! Я яму не дарую! Папрасіць у мяне зеляніны! О, нягоднік!

Потым ён пакланіўся з усмешкаю абодвум і пайшоў да працаўнікоў.

Пан Падстоліц, накіроўваючыся да палацу, казаў Уладзіславу:

– Як мне здаецца, гэты чалавек даволі добра даглядае аранжарэю, але даверыць яму парк для шпацыру – гэта добраахвотна выставіць сябе на пасмешышча і мець паскудства, бо атрымалася нешта без плану, парадку і густу. Але больш абурае мяне аранжарэя, напоўненая гэткаю колькасцю каштоўных раслінаў, ад якіх няма аніякае карысці. Панам можна і нават ўхвальна прывозіць і гадаваць рэдкія, хоць і каштоўныя расліны; але шляхціцу, сяляне якога паміраюць ад галечы, такое марнатраўства недаравальнае. Колькі плацяць гэтаму садоўніку?

– Дамова была, – адказаў Уладзіслаў, – па тысячы злотых за год; але да гэтага часу, ужо больш за дзесяць гадоў, ані гроша ён не атрымаў. Бо пан Харунжы ўвёў рэдка ўжываны ў нас спосаб пакарання слуг штрафамі, гэта

значыць, утрыманне часткі заробку за кожную правіну альбо за тое, што не патрапілі пану дагадзіць. Еймосць сама кантралюе гэта і так дасканала ўмее лічыць штрафы, што хоць усім слугам прызначаныя прыстойныя заробкі, аднак аніводзін ніколі і не згадае пра тое, што яму належыць. А таму ўсе стараюцца кампенсаваць страту з іншых крыніцаў. Садоўнік, напрыклад, бярэ кантрыбуцыю з гасцей, іншыя крадуць у саміх жа паноў; але тыя такія радыя, што нічога не плацяць, дык ім і не ў галаве скрытныя шкоды, а тым больш тое, што яны псуюць маральнасць слуг, фактычна змушаючы іх да крадзяжу.

– Хто ж у іх згодзіцца служыць?

– Напачатку, – адказаў Уладзіслаў, – яны спадзяюцца, што не заслужаць штрафаў, а калі адпавядаюць панству, дык нялёгка ім пакінуць гэтую службу. Бо пані Харунжыха ўмее так налічваць штрафы, што не адзін небарак з году ў год мусіць адслужваць надвышку штрафаў над іхнім заробкам; і нават уцячы не можа, бо паперы Еймосць у сябе трымае. Такім чынам яны ўжо больш за дзесяць гадоў утрымліваюць у сябе гэтага француза. А з прыгоннымі яшчэ менш клопату: аніводнаму юргельт не прызначаецца.

– І гэтыя людзі маюць нахабства называцца нашчадкамі нашых продкаў! – выгукнуў пан Падстоліц.

Пакручастая сцежка праз гай прывяла іх ад дзвярэй аранжарэі да ганку палацу. Велічнасць гэтае назвы мусіла паходзіць ад двух бляшаных галак на даху; бо сам будынак не заслугоўваў называцца жылым домам. Ён стаяў на камянях, між якіх хадзіў вецер пад сподам. Пахіленыя сцены былі падпёртыя ў некалькіх месцах брусамі. Вокны невялікія, а ў асобных частках дому яшчэ меншыя і густа палапленыя папераю і лучынаю; у іншых, пэўна, у гасцёўні, яны былі трохі большыя і цалейшыя, але ад пабудовы дому, відаць, нямытыя, дык уражвалі сваім брудна-блакітным колерам. Парослы мохам гонтавы дах у многіх месцах быў дзіравы. Два цэлыя коміны і адзін разбураны. Пасярэдзіне фасаду дашак над ганкам, абапёрты на двух тонкіх брусах... Можа, мы б працягвалі апісанне гэтага палацу, каб не моцны дождж, які лінуў у гэтую хвіліну, і не прымусіў цікаўных схавацца ў памяшканні, у якое вёў ганак.

Зала была вялікая, аклееная шпалерамі, калісь блакітнымі. Фіранкі на вокнах – муслінавыя, але на іх сабралася гэтулькі пылу, што яны сталі падобнымі на мяхі з гумна. Падлога, сама мала год нямытая, на кожным кроку спружыніла і падкідала ўгару. Столь, шматкамі адсталае пабелкі ашчачіненая, была зацягнутая павуціннем. Больш за дзясятак крэслаў, пафарбаваных пад чырвонае дрэва і акрытых заплямленымі чахламі з блакітнага паркалю, стаяла ля сценаў. Пасярэдзіне кожнае са сцен былі дзверы, фарба на якіх засталася толькі ў кутках.

З-за левых – чулася частае хлопанне дзвярыма з бакавога пакою, хуткія крокі і жвавая гутарка некалькіх чалавек. Неўзабаве беганіна супакоілася, а галасы пачалі выразна набліжацца да залы. Пан Падстоліц кашлянуў, мацней прытупнуў, жадаючы асцерагчы суседзяў, што іхняя размова адбываецца пры сведках, але тыя, мяркуючы, пэўна, што гэта хатняя прыслуга, не спынялі свае гутаркі.

Каб не перапыняць апавядання і не злоўжываць цярплівасцю чытача, запрашаю яго на міжвольнае падслухоўванне ў наступны раздзел.

## Раздзел трэці

# САМ-НАСАМ

P A N N A   M A R T A
Przeciężmy się pozbyli natrętnego świadka.
Siądźżeż moja rybeńko, rybenieczko rzadka,
Klejnocie mojej duszy. Da usiądźżeż proszę.
Będziem słodką rozmową płodzili rozkosze.

*Pierwsza lepsza*

F L O R A
Ach! jaśnie oświeconą gdy wkrótce zostanę,
Jakież szczęście mojemu będzie porównane!
Ileż dla mnie radości i sławy nie będzie?
Wchodzę... wszystko się wzrusza... wszyscy stoją w rzędzie.
Xiężna pani przychodzi!

*Pan Geldhab*

*Komedije* Hr. Al. Fredra[31]

– Мы апынуліся ў складанай сітуацыі, – сказаў пан Падстоліц. – Напэўна, тыя, што там размаўляюць, не спадзяюцца, што нехта іх чуе; нам няварта было б слухаць, але дождж прымушае перачакаць у памяшканні, а ўвайсці да іх таксама няёмка.

У гэты момант пачуўся знаёмы ўжо голас аканома:

– Далібог, яснавяльможны пане, гэта ўсё панічоўская штука. Яны ні за што на свеце не хацелі і не хацелі, але калі я пачаў казаць так, як мяне паніч навучыў, дык адразу абодва і згадзіліся.

– Бачыш, муж, які наш Астольф разумны, – сур'ёзным тонам падхапіў дыскант.

Нізкі і павольны бас адказаў:

– Каму трэба быў гэты ягоны розум? Чаму *таксама*[32] не мог так навучыць, як учора я *таксама* загадаў, каб справа закончылася на ветлівасці ды *якраз* на пакаранні мужыка?

– Я прадбачыў, што не надта мы тут пажаданыя, – заўважыў пан Падстоліц.

– Але ж табе, мой каханы, – казаў тым часам дыскант, – сапраўды, цяжка дагадзіць. Ці ж ты не павінны сам ведаць, што асабліва цяпер трэба ўмець усё выкарыстоўваць? Блізкія выбары прымушаюць быць ветлівымі з усімі. Можа, гэты пан Падстоліц мае нейкія сувязі ў нашым павеце: мы нічога не страцім, калі прымем яго ў нашым доме. Зрэшты, ён убачыць нашу аранжарэю, карціны нашае Іды; можа ў яго ёсць сын… Кажуць, ён багаты… Але нейкае пакаранне Божае на цябе, бо ты ніколі не разумееш, як выкарыстаць момант.

– А я прадбачыў, – заўважыў крыху зачырванелы Уладзіслаў, – што Імосць пажадае пахваліцца сваім густам перад васпанам дабрадзеем.

Тым часам азваўся бас:

– Добра-добра. *Уцяміўшы ўсю справу*, *таксама* бачу, што праўду, васпані, кажаш. Аддай жа, васпан, гэтую цыдулку фарэйтару[33] і загадай *якраз*, каб зараз жа рыссю імчаў у мястэчка; там Міхель дасць дзве пляшкі віна.

– А пра цукар забыўся? – падхапіў дыскант. – Вось галава, абы капялюш насіць! А я ж казала: панна ўчора паведаміла, што скончыліся ўжо тыя тры фунты. Па дзесяць разоў табе трэба паўтараць!

– Было б бліжэй паслаць у бровар, – заўважыў Уладзіслаў.

– Але ж буркун! – дадаў пан Падстоліц.

– Вось на тры *таксама* фунты цукру паперка, – азваўся бас. – Больш за адзін раз я браць не магу, бо жыд *якраз* і так касавурыцца, што ўжо шмат яму не заплачана, хоць сто за сто працэнтаў *якраз* бярэ гэты лотр.

– Бязладдзе – першая прычына банкруцтва, – заўважыў пан Падстоліц.

– Загадай жа, васпан, каб *якраз* фарэйтар паспяшаўся, хай хоць каня загоніць.

– Пэўна! – падхапіў дыскант. – І каб да абеду вярнуўся, калі яму жыццё мілае. Ах, мой галубок, нічога ты сам не памятаеш. Усё я мушу нагадваць. Ці не ведаеш, што гэты Падстоліц выхваляецца сваёю гаспадарліваю жонкаю? Няхай жа ўбачыць і ў нас парадак. Што ты сабе думаеш? Пішы яшчэ цыдулку на хлеб пытляваны. Гора сапраўднае! Галава разарвецца адной пра ўсё думаць!

– Трымай, васпан, цыдулку і на хлеб *таксама*, – паведаміў бас. – А таму гультаю, што на працу ў парк прыйшоў так позна, таму хаму…

– Нібы гэта далёка: паўмілі, – умяшаўся дыскант. – Можа раней прачынацца.

– Трэба *якраз* даць сто бізуноў *таксама*, – закончыў бас.

– Мала! – запярэчыў дыскант. – Ужо сто для іх – нішто.

– Даў ужо, яснавяльможны пане, – сказаў аканом, – перад тым, як пайшоў да Тадэвуша, але…

– На досвітку быў у Тадэвуша, – сказаў пан Падстоліц. – І гэта позна!

– Што там *таксама якраз* за “але”? – запытаўся бас.

– Не сто, – адказаў аканом, – а восемдзесят.

– Васпан, папсуеш нам людзей сваёй лагоднасцю! – крыкнуў дыскант. – Гэтакіх слуг нам не трэба. Дзесяць злотых штрафу.

– Я ж казаў па сто *якраз* даваць, – дадаў бас, – пакуль *таксама* не адвучу гэтых хамаў ад гультайства. Гэтак, васпан, *якраз* мае загады *якраз* памятае?

– Памятаю, яснавяльможны пан, – адказваў пакорлівым голасам аканом, – але ён апраўдваўся, што ў яго дзіця памерла, што жонка хворая…

– Чаго слухаць ягоныя прычыны! – закрычаў дыскант. – Панская павіннасць – першы абавязак. Дзіця б і без яго пахавалі, а жонкі ён не вылечыць, бо не доктар.

– І што сёння свята, – закончыў аканом.

– Свята? – гнеўна перапытаў дыскант. – Колькі разоў я ўжо ім казала, што для парку святаў няма. Свята! Бач ты! Нібы ў свята сцежкі не зарастаюць! Пакараць яго ўзорна за гэткую зухаватасць.

– Узорна! – паўтарыў пан Падстоліц. – Сентыментальная Еймосць!

Зноў азваўся аканом:

– Рыгор збіраецца прыйсці да яснавяльможнага панства па дапамогу: ваўкі вала ягонага з’елі, няма як араць пад яравыя.

– Не пускаць! – крыкнуў дыскант. – Гэтыя лотры заўсёды прывалакуцца, калі ў нас госці. Толькі сораму нам наробяць.

– Гэтак! – пацвердзіў бас. – Чаму *якраз* не пільнаваў? Сам вінаваты. Няхай хам цяпер сам у ярмо ўпрагаецца. Вала таксама не дам.

– Няма хлява, – тлумачыў аканом, – усю сваю маёмасць ён трымае пад паветкаю. Уночы ваўкі напалі і разадралі вала.

– Чаго ж хам *таксама* ў сенцах не трымаў? – запытаўся бас.

– Не памёр бы ад гэтага, – дадаў дыскант. – Але ж аніякага розуму не маюць гэтыя лотры. Дзіву даешся, як яны самі пра сябе не могуць паклапаціцца.

– Як быў пераселены, – казаў аканом, – дык не было яму калі паставіць сенцы, а ў хаце ён баяўся трымаць, каб не захварэць, як Ганна, якая ў хаце сваю жывёлу трымала.

– Яна да гэтага часу *таксама* нездаровая? – запытаўся бас. – Пяцёра дзяцей *якраз* асіраціць можа, шэльма.

– Не ведаю, – адказаў аканом, – але, мусіць, вельмі слабая, бо не выходзіць на паншчыну. Зяць яе таксама надта хворы.

– Гэта, можа, пошасць! – закрычаў дыскант. – Не пускаць адтуль нікога ў двор.

– А з ніводным лекарам, пэўна ж, не маюць дамовы, – заўважыў пан Падстоліц.

– Не маюць, – адказаў Уладзіслаў. – Ва ўсёй ваколіцы ніхто не мае.

– Досыць, – азваўся бас. – Няхай жа хутчэй *таксама якраз* фарэйтар рушыць і маланкаю назад!

Пачулася, як грукнулі дзверы, і дыскант пачаў зноў:

– Добра, што маю яшчэ трохі часу, каб перамовіцца з табою. Рабі, што хочаш, а сёння на рэдуце нам трэба быць абавязкова. Грошай у горадзе, можа, як-небудзь дабудзеш. Выбары[34] набліжаюцца, а ты дасюль не аб’ехаў яшчэ ўсю павятовую шляхту. Іншыя ўжо па тры разы аб’ехалі, як пачалі ад мінулых выбараў, а цябе не выперці з дому. Сапраўднае пакаранне Божае! Сядзіць, нібы прырос, ані не зважае, што пра яго ўласны гонар вядзецца і пра славу роду…

– Ведаю *таксама якраз* і езджу, але каб аніводнага *таксама* дня дома…

– Вось жа не дае слова сказаць! – закрычаў дыскант. – Чаму ты не можаш прызвычаіцца хоць хвіліну памаўчаць, калі я нешта кажу? Разумныя ж людзі ведаюць, што нельга нікога перапыняць, а тым больш жонку. Але вяртаючыся да размовы, на кірмашы хоць будзеш мець магчымасць у адным месцы зрабіць усім візіты і схіліць на свой бок. І наша Іда можа каму трапіць на вока. Капітан трызніць нешта ні ў пяць, ні ў дзесяць.

– Не бяда, знойдзецца *таксама* другі, – сказаў бас.

– Як гэта, “не бяда”? – запярэчыў дыскант. – У цябе ўсё – “не бяда”. О! Папрашу шанаваць Капітана! Як няма лепшага, дык добры і гэты. Сорак дымоў засталося яму пасля эксдывізіі[35]; была б добрая партыя для Іды. Пры гэтым яшчэ да яго прыслухоўваецца моладзь, для якое ён, як ваяжор, аўтарытэт у модзе. Можа, дапамагчы табе з падкаморствам[36], якое ты павінны атрымаць.

Пан Падстоліц пры кожнай згадцы пра Іду заўважаў нейкую ўзрушанасць Уладзіслава.

– *Уцяміўшы ўсю справу*, – казаў бас, – бачу *таксама*, што павінны. Загадай жа, васпані, дзяўчыне, няхай *таксама якраз* не дзівачыць ужо. Няхай хоць удае *таксама*, што *таксама* цікавіцца ім.

– Не трэба табе ўмешвацца! – цвёрда загадаў дыскант. – Гэта мая справа. Ты сваё пільнуй: глядзі, каб на рэдуту былі грошы. Ах, каб гэта ўжо стаць мне яснавяльможнаю падкамарынаю! *Madame la chambelane*![37] Гэта нешта ўжо значыць! А харунжыха, дык нават па-французску немаведама як – *porte-enseigne*...[38] фі! Той стары балбатун, няхай хоць трэсне, а павінны табе калісьці саступіць падкаморства. На мінулых выбарах я старалася з усіх сілаў, выкарыстала ўсе спружыны... Чаго ты крывішся? Чаго? Далібог, зла не хапае! Гэта ж для цябе ўсё. Адна толькі няўдзячнасць ад вас. Чым больш жонка вам прыяцеляў на выбарах збярэ, тым больш плётак, падміргвання, абгавораў... І каб адны мужы толькі, але адразу і чужыя. І потым за нашае дабрадзейства нам нідзе на вочы не паказацца, каб мы зважалі на вашыя плёткі. Дык навошта бераце нас на выбары? Вось жа, вяртаючыся да тэмы, здавалася мне, я магла прысягнуць, што ты будзеш падкаморым, усе да аднаго кляліся мне ўласным сумленнем і ўсімі святымі.

– І я, *уцяміўшы ўсю справу*, – казаў бас, – быў *якраз таксама* ўжо пэўны, што мяне выберуць. Але не атрымалася *таксама*, як і ў пана Суддзі, а *таксама* і ў пана Пісара[39]. Шкада!

– І праўда! – згадзіўся дыскант. – Абодва пасля галасавання наракалі, што падманлівымі былі тыя абяцанкі на падкаморства. Але ты, праўду кажучы, сам вінаваты. Не кланяўся нізка кожнаму каля шырмы[40], як іншыя.

– Кланяўся, далібог, кланяўся! – не згаджаўся бас.

– Як ты там кланяўся! – пярэчыў дыскант. – Ці ты не бачыў, як людзі кланяюцца? Нібы яны з голаду паміраюць і моляць, каб міласціну ім падалі. І гэткія паводзіны не адно сэрца могуць узрушыць, асабліва, калі пасля сняданку альбо пасля добрага абеду пачынаецца галасаванне. Табе мая навука не ў галаве была, каму што сказаць цішком, каму панаракаць, каму абяцаць, каго прасіць... Усё дарэмна. Аж мне сорамна, як недарэчна каторыя ўжо выбары ты правальваеш. Прынамсі, хоць цяпер ужо, пад старасць, павінны ты нечаму навучыцца. Прыглядайся добра да іншых кандыдатаў... Праўда, часы цяпер усё больш і больш цяжкія, моладзь рвецца наперад, але ж не святыя гаршкі ляпяць... Хоць і ўрадзіўся ты няздараю, але ж і горшыя за цябе атрымліваюць пасады, дзякуючы толькі свайму ўмельству людзям дагадзіць. Памятай жа, на гэтых выбарах і цяпер на кірмашы трэба ўсё выправіць, бо калі і цяпер не станеш падкаморым, дык так табе дамся ў знакі, што век не забудзеш, як ты мне, узяўшы з добрага дому, усё жыццё зглуміў гэтым харунжаўствам. Аднак жа на мінулых выбарах, прынамсі, я рада была, што хоць... То ты дрэмлеш! Вось як ён слухае! Вось разумнік! Кажы, не кажы, а яму, што гарох аб сцяну маё казанне.

– Далібог, не драмаў, – адказаў пакорліва бас, – але *якраз* я ўсё чуў. Чаго васпані радая была?

– Толькі ж ты не спі! – падхапіў дыскант. – Я рада была, што таго Прэзідэнта[41] звалілі. Праўда, усе прызнаюць, што ён быў справядлівы, непадкупны, ведаў права і крукам сядзеў над паперамі, але што ж, калі ён узяў сабе ў галаву, што не слугуючы, як вы гаворыце, нікому, можа быць абраны, адно толькі дзякуючы сваёй сумленнасці. Нават у мяне ён не быў, хоць ведаў, што я маю

некалькі пэўных галасоў. О! Супраць яго я шчыравала, так яму і трэба за ягоны гонар.

– Гэтак, – згадзіўся бас.

– А што мяне найбольш супраць яго схіліла, – працягваў далей дыскант, – дык тое, што гэты Прэзідэнт меў нахабства прыраўняцца да нас і не пярэчыў, калі яго называлі яснавяльможным[42].

– Гэтак, – дадаў бас. – Мы слушна *таксама якраз* маем права на тытул яснавяльможных; бо часам замяняем *таксама* на пасадзе маршалка[43], і калі ў той час *якраз* даем абед для павятовае шляхты, дык *таксама*, як яснавяльможны маршалак, сядзім *таксама* за сваім сталом *якраз* на покуці, а ўсе, хто сядзіць *таксама* ніжэй за нас, п'юць *таксама* за нашае здароўе.

– Слушнае права да тытулу "яснага", – звярнуўся пан Падстоліц да Уладзіслава, які прытуляў насоўку да вуснаў, каб не зарагатаць гучна.

– Тымі ж самымі прэрагатывамі, – казаў далей бас, – цешыцца *якраз* і падкаморы.

– Скажы мне, душа мая, – запытаўся дыскант, – чаму цяпер амаль ці не кожны дробны ўрадовец жадае, каб яго тытулавалі яснавяльможным? Бо я чула, што даўней толькі сенатараў і міністраў называлі "яснымі"?

– *Уцяміўшы ўсю справу*, – сказаў бас, – дык мне здаецца *таксама*, што маршалкі, пакуль застаюцца *якраз* на пасадзе, *таксама* лічацца ў генеральскім рангу, а вядома *якраз таксама*, што ў Польшчы генералаў *таксама* называюць яснавяльможнымі.

– А пасля зыходу з пасады, – падхапіў дыскант, – чаму яны называюцца "яснымі", калі не павінны называцца нават маршалкамі?

– Пасля зыходу? – перапытаў бас. – Вось жа цяжкае *таксама* пытанне задала мне *якраз* васпані. *Уцяміўшы ўсю справу*, *таксама* мяркую я, што гэта павінна быць на памяць пра тое *якраз*, што даўней вялікія маршалкі, а *таксама* соймавыя і трыбунальскія, як і *якраз* сенатары ды арыстакраты *таксама*, мелі *якраз* пажыццёвае права *таксама* да "яснасці".

– А падкаморы і харунжы, галубок мой? – працягваў свае пытанні дыскант, – хіба яны не ў генеральскім рангу?

– *Уцяміўшы ўсю справу*, – адказаў бас, – бачу *таксама*, што не; але гэта ўсё адно як бы і так, бо *якраз* замяняюць маршалка часам *таксама*.

– А нашы дзеці, – пытаўся дыскант, – чым абгрунтоўваюць сваё права да "яснасці"?

– А як жа? – адказаў бас. – Аднак *таксама* і сенатарскіх дзяцей звалі яснавяльможнымі.

– Пэўна, – сказаў дыскант. – А дэпутаты[44] чаму "ясныя"?

– О, дэпутаты! – адказаў бас. – Пэўна, *таксама* і яны самі не ведаюць, адкуль *якраз* у іх такія прэтэнзіі. Можа, *таксама* як памятка пра трыбунальскіх дэпутатаў, якіх *якраз* напрыканцы панавання Станіслава[45] тыя, хто судзіўся, *таксама* пачалі называць іх *якраз* з-за ліслівасці яснавяльможнымі. Гэта, васпані, ты *таксама* мусіш памятаць.

– Я мушу памятаць гэткую даўніну! Што гэта табе ў галаву стукнула? – закрычаў дыскант. – А губернскія суддзі, толькі без спасылак на маю памяць, чаму яны называюцца "яснымі"?

– Яны *таксама*, уявіўшы сабе, – адказаў бас, – што губернскі суд *якраз* роўны трубунальскаму, прысвоілі *таксама* сабе “яснасць”, хоць *таксама*, *уцяміўшы ўсю справу*, бачу, што замест трыбуналу *якраз* маем сёння сенат.

– Якое славалюбства! – абурыўся дыскант. – А межавыя губернскія суддзі, галубок мой?

– Далібог, не ведаю, – адказаў бас. – Можа, *таксама* таму, што ўрад, жадаючы як мага хутчэй закончыць *якраз* нашыя межавыя спрэчкі, загадаў ім *таксама* ў тых спрэчках даваць *таксама* апошні вырак.

– Якая ж тут сувязь з “яснасцю”? – закрычаў дыскант. – Дык і магістрат дробныя спрэчкі вырашае?

– Гэта іншае, – сказаў бас, – яны *таксама* сябе з-за гэтага *якраз* раўняюць з сенатам.

Дыскант гучна зарагатаў і прамовіў:

– Якое славалюбства! Якое славалюбства! А прэзідэнты павятовых судоў, галубок мой?

– Ат! – выгукнуў бас. – Васпані *якраз* задае мне гэткія цяжкія пытанні, што *таксама* і я не ведаю ўжо *якраз*, як мне адказаць. Звычайна называюцца яны *таксама* “яснымі”, бо так людзі з-за ліслівасці *якраз* хочуць называць іх. Можа, хутка *таксама*, зніжаючыся, “яснасць” дойдзе *таксама* аж да ключвойта. Якая васпані ад гэтага шкода?

– Як гэта: “якая шкода”? Гэта крыўда для нас, насамрэч яснавяльможных! Вось цудоўна! Не дбаць пра сваю годнасць! Ах, колькі славалюбства на свеце! Як жа тым “ясным” панам не зразумець, што людзі, ліслівa гэтак іх тытулуючы, у душы мусяць пасміхацца і здзекавацца з іх дзіцячых прэтэнзій да неналежных ім тытулаў?

– Яны не разумеюць, бо ўзаемна *таксама* адны другіх тытулуючы, – заўважыў бас, – навучыліся ўжо не пасміхацца.

– Каб мне гэты тытул не належаў, – цвёрда заявіў дыскант, – а нехта пасмеў бы назваць мяне яснавяльможнаю, дык я б сказала: “Васпане! Альбо ты лічыш, што я неразумная, калі думаеш, што неналежны тытул з-за славалюбства прыму, альбо ты сам дурны, калі прыніжаешся да ліслівасці”.

Тут ізноў грукнулі дзверы, пачуўся голас слугі і звон філіжанак.

– Смешна табе, пане Уладзіслаў, – звярнуўся да яго пан Падстоліц, – бо ты не задумваешся, што вынікае з гэтага славалюбства.

Сціх звон філіжанак і зноў загаварыў дыскант:

– Гэта табе. Не крывіся, што гарбата з мёдам. Ах! Ты не паверыш, як мяне ўжо знудзіла гэтае харунжаўства! Каб слухаў мяне, дык даўно ўжо быў бы падкаморым. Трэба хоць у банку ўзяць грошай у заклад за сялян, і абавязкова даць баль для шляхты. З абедам, вядома; а перадусім, шыкоўны абед. Ты ж ведаеш, што гэтак высокімі ўрадоўцамі становяцца нават тыя, хто, на добры лад, ледзьве пісарчуком мог бы быць.

– У банку, – сказаў бас, – не дадуць *таксама*, бо доўг большы за вартасць маёнтку…

–У цябе заўсёды нешта перашкаджае! – абурыўся дыскант. – Апошні раз табе кажу: калі на гэтых выбарах ты не станеш падкаморым, дык, слова гонару, падам на развод і свой пасаг здолею забраць, а ты ідзі з торбаю… Нібы ты не ведаеш, што гэта я цябе ўтрымліваю, нават каб і эксдывізія была, толькі я

магу цябе выратаваць, а ты гэтак са мною? Слова гонару, што ўжо ані я сама не буду шкадаваць, ані ты мяне не перапросіш, як тым разам, за карункі і вазоны. Памятаеш?

– Але чаго ж ты гневаешся *якраз*, васпані? Аднак я і сам *таксама* хачу быць падкаморым.

– Недастаткова хацець, – цвёрда зазначыў дыскант. – Трэба працаваць, ездзіць, кланяцца, прасіць, дагаджаць, як іншыя. Шкада, што пры цяперашнім маршалку не можам мы нават спадзявацца на маршалкоўства!

– О! Пра гэта і не думай! – выгукнуў бас. – Вакол яго *таксама* рой крэўных і падлізнікаў. Нават *якраз*, *уцяміўшы ўсю справу*, прызнаюся васпані, што гэта страх, якая цяжкая пасада: трэба ведаць усю арыфметыку *якраз* з пачатку да канца. Далося мне ў знакі *таксама* замяшчэнне. І каб не сакратар... Падкаморства і харунжаўства *таксама* лягчэй...

– Слухай, мой галубок, – рэзка спыніў яго дыскант. – Далібог, добрая думка! Прададзім некалькі хамаў у рэкруты, дык і будуць у нас грошы. Брава! Брава! Ужо цяпер магу смела называцца падкамарынаю.

– Дзікуны! – не стрымаўся пан Падстоліц.

– Цяжка ў нас ужо знайсці годнага ў рэкруты, – сказаў бас. – На вазоны *таксама* і на строі *таксама* папрадавала васпані найлепшых.

– А Міхал? – закрычаў дыскант. – А Есіп? А Клім? А Юрка? А наш Андрэй?..

– Андрэя нельга, – перапыніў яе бас, – хата *якраз* заняпадзе. *Якраз* Пятруся ад іх прадалі ўжо, і за сваю воласць ад іх *таксама* мы ўжо аддалі. А тая шэльма яго матка ўвесь час мяне раздражняе *якраз таксама* сваімі слязьмі, як спаткае.

– А дубцы на што? – выгукнуў дыскант.

– Нават мне ўжо сніцца *таксама*, як яна плача, – дадаў бас.

– Навошта зважаць на скаргі гэтых хамаў! – перапыніў яго дыскант. – Трэба было б адмовіцца ад усяе асалоды жыцця, каб ашчаджаць іх з-за іхніх слёзаў. На тое яны і падданыя. Брава! Брава! Ужо сёння я пакамарына! Баль з танцамі, абед, шампанскае... пачастуем і выйграем ватаванне[46]. А на злосць той шамбялянісе[47] пакажуся ёй на вочы ў новым шалі.

– Гэтак, – згадзіўся бас, – але што гэта Аскар *якраз* робіць, чаго не ідзе на гарбату аж дагэтуль.

– Вядома, пан гувернёр мусіў праспаць пасля цвіку[48]. Абыгралі мы яго добра ўчора! Амаль траціну свайго заробку прайграў. Ха-ха-ха!

– Вось гэта добра! – сказаў бас. – Але ж дзіва як хутка васпані *таксама якраз* можаш палічыць... Гэтулькі прайграў?

– Блізка гэтага, – адказаў дыскант, – бо іначай як кампенсаваць выдаткі на гэтых дармаедаў? Штрафамі, як у іншых слуг, не выпадае ў іх заробкі скасоўваць... Але ж, кажучы між намі, з-за недахопу французаў, наняць якіх цяпер, на жаль, гэтак цяжка, маем ад яго шмат карысці; трэба і на наступны год затрымаць. Наш жа Аскар цудоўна ў яго адукоўваецца: ужо заканчвае ўроцлаўскі французскі размоўнік і танцуе, як лялька. Сёння на рэдуце, пэўна, будзе лепшы за ўсіх маладзёнаў, хоць яму толькі адзінаццаты гадок...

– Чатырнаццаты, – удакладніў бас.

– Яшчэ чаго? – закрычаў дыскант. – Ты заўсёды хлусіш як каляндар! На наступныя пасля гэтых выбарах можаш дадаць – на пару месяцаў – хоць

чатыры гады, як на пазамінулых дадаў Астольфу; але да іх і пасля іх прашу верыць майму падліку гадоў і не псаваць маю рэпутацыю.

– Гэтак, – згадзіўся бас.

– О, на гэта дзіця вялікая надзея! – павучальна прамовіў дыскант. –Ты бачыў, як дасціпна падаваў ён учора нам знакі, якія карты ў гувернёра? Толькі каб не мучыць яго тымі матэматыкамі, тымі хіміямі, а пэўна з яго атрымаецца чалавек *comme il faut*[49]. Ужо і цяпер пераймае ён Капітана.

– Бачыш, васпані, – азваўся бас, – цяпер ты сама *якраз* пераканалася, што з гэтых навамодных навук карысці ані на грош. А раней колькі ты, васпані, грызла мяне, прабубнеўшы ўсе *таксама* вушы: “У школу Астольфа! У школу Астольфа!” А потым: “Ва ўніверсітэт Астольфа! Ва ўніверсітэт Астольфа!” А я, *уцяміўшы ўсю справу*, добра тады *таксама якраз* бачыў ужо, што гэта толькі выкінутыя на вецер грошы.

– А што ж рабіць, – перапыніў дыскант, – калі такі звычай! Аднак жа аказалася, што не стане той педантам, хто мае добры прыклад дома.

– Гэтак, – згадзіўся бас.

– Я і сама потым шкадавала, – дадаў дыскант, – што Астольфа гэтак добра хацелі мы адукаваць, але, дзякуй Богу, ужо выветрылася сякая-такая пошасць з ягонае галавы. Шкода толькі, што напакутаваўся небарака ад тае мудрагелістасці. Памятаеш, як доўга не мог ён ачомацца, калі вярнуўся з Вільні?

– Памятаю, – адказаў бас. – Выветрылася. Бо такія рэчы *якраз таксама* лёгка выветрываюцца. Ведаю гэта на ўласным вопыце. Вучыў мяне ксёндз прафесар у фары ажно гады тры *Pater Noster, haec virga* і *amo*[50]; а потым праз год *таксама якраз*, калі мы з васпані збіраліся браць шлюб, а ксёндз пробашч *таксама* запытаўся, ці ведаю я *pater noster*? Аказалася *таксама якраз*, што ані ў зуб; хацеў прадэкламаваць замест яго *haec virga* – ані ў зуб, *amo* – ані слова! Тады неяк, *уцяміўшы ўсю справу*, зразумеў, што ўся мая навука *якраз* так вось і выветрылася. Аднак жа тыя навукі *якраз* не такія былі і цяжкія, як гэтыя навамодныя, як кажа Астольф: эканомікі, аграномікі, ветырынарыкі...

– Фі, якія брыдкія назвы! – перапыніў дыскант. – Ні за што не дазволю, каб нашага Аскара гэтымі навукамі мучылі. Ён – кволае дзіцятка, няхай адукоўваецца дома. А потым, дадзім інструкцыі гувернёру і, ідучы за модаю, пашлём яго ва ўніверсітэт. Але, барані Божа, калі будуць гэтыя навукі! Не дазволю!

– І я не дазволю, – сказаў бас. – Мой сын *таксама якраз*, будучы харунжыцам...

– А ты ўсё сваё! – падхапіў дыскант. – Чаму табе не сказаць: падкаморыцам? Пакаранне Божае з такою галавою! Прычапіўся да гэтага харунжаўства, што ўжо і не адчэпіцца. Дык кажы, што ты там хацеў сказаць!

– Кажу, – згадзіўся бас. – Мой сын *таксама якраз*, будучы падкаморыцам, не будзе *таксама* служыць аканомам, ані трэба *таксама* будзе яму быць канавалам. Астольф тыя навукі паслухаў толькі, а ўжо ўсіх мужыкоў зараз жа хацеў *якраз* у рамеснікі пааддаваць, перастаць *таксама якраз* сеяць збожжа, а на тым месцы *якраз* пасадзіць лясы...

– Каб было дзе паляваць, – перапыніў дыскант. – І ў маім парку, які нам гэтулькі каштаваў, хацеў замест клумбаў тутоўнік пасадзіць, нібы на Літве шаўкапрад можна развесці.

– Ведаеш, васпан, гэтага Астольфа? – запытаўся пан Падстоліц ва Уладзіслава.

– Мы разам былі ва ўніверсітэце, – адказаў Уладзіслаў. – Ён прыходзіў часам на лекцыі па матэматыцы, фізіцы, хіміі; чуў сёе-тое пра палітычную эканомію, пра паляпшэнне дабрабыту ў еўрапейскіх краінах, але не заглыбляючыся ў аніводзін з гэтых прадметаў, загарэўся, каб паводле сваіх уяўленняў змяніць парадкі дома. На шчасце, бацькі не паддаліся; хоць гаспадарыць і кепска, але было б яшчэ горш, каб маёнтак трапіў у рукі гэтаму праектанту. Цяпер адно толькі паляваннем ён і займаецца, а навукі зусім закінуў.

– Без сумнення, – сказаў пан Падстоліц, – кепска зразумелая і кепска ўжытая навука яшчэ горш за поўнае невуцтва. Як жа шмат у нас гэтакіх недапечаных мудрагеляў! А неадукаваных гэта толькі настройвае супраць навукі.

– Нехта там размаўляе ў зале, – азваўся дыскант.

– Зірні, васпані, – загадаў бас. – Можа гэта *якраз* арандар прынёс грошы *таксама* на кірмаш.

Прыадчыніліся крыху дзверы і адразу ж зачыніліся: толькі адно *“ах!”* трапіла ў сенцы.

## Раздзел чацвёрты

# БАЦЬКА І СЫН. КРАЙНАСЦІ

– Bracia, jak u was? my dzikie nomady,
Skoro gość przyjdzie w nasze koczowiska,
I pić poprosi – Gdy milczym, to znaczy:
Żegnaj przychodniu, nie gość dłużej z nami.
Gdy zaś napoju dotknąwszy ustami,
Gościowi puhar podamy – to znaczy:
Witaj nam bracie, odtąd koczowisko,
Nasze namioty, nasz chleb i napoje,
I trzody nasze, są gościu jak twoje...
... Jakże, czy dacie mi czarę napoju?
O! z całej duszy, żądaj śmiało!
Gdyby zdrój wysechł i tylko we zdroju
Na jednę czarę wody się zostało,
I tej gościowi nie odmówim czary.

Al. Chodźko, *Kassyda* II$_{ga}$[51]

Але хутка дзверы зноў адчыніліся і высунуўся спачатку вялікі круглы і бледны твар з маленькімі шэрымі вочкамі, потым праціснуўся тоўсты жывот і, нарэшце, уся асоба яснавяльможнага Харунжага з'явілася ў пярэднім пакоі. Чорны фрак, незашпілены і заплямлены, брудная белая хустка, якая нядбала абвівала тры разы шыю, і камізэлька, запарушаная тытунём, прэзентавалі чалавека, якога пані Харунжыха называла *nonchalant*[52]; але хто б мог спадзявацца, што на гэтай фігуры была перакінутая праз плячо стужка святога Станіслава[53], якую кавалер, відаць, накінуў на сябе спехам, бо ззаду яна зачапілася за каўнер.

– Ці не пана Падстоліца маю *якраз* гонар вітаць *таксама* ў маім доме? – спытаўся ён, падыходзячы з паклонам і зазіраючы ім па чарзе ў вочы.

– Слуга васпана дабрадзея, – адказаў пан Падстоліц. – Мы пасля начлегу выйшлі на праходку ў лес, дайшлі да палеткаў маёнтку, а дождж прымусіў нас схавацца тут раней, чым мы меркавалі васпану дабрадзею пакланіцца.

– Вельмі *таксама* рады, – адказаў пан Харунжы няспынна кланяючыся, – вельмі *якраз* рады, вельмі *таксама* рады *якраз*, што маю шчасце пазнаёміцца з васпанам дабрадзеем ды яшчэ і ў маім *таксама якраз* доме. Няхай жа *таксама якраз* пан мае ласку садзіцца. Гэй, камердынер! Кланяюся, пане Уладзіслаў! Гэй, Ежы! З вашага дазволу. Адразу ж *таксама* вярнуся. Няхай панове *якраз* маюць ласку сесці...

Сказаўшы гэта, ён пасунуўся да дзвярэй гукаючы:

– Гэй, Філіп! Андрэй! Бяда проста, калі *таксама якраз* шмат слуг хто мае!

– Адкуль у яго гэты ордэн? – запытаўся пан Падстоліц ва Уладзіслава.

– Гэта адзін з тых гродзенскіх, – адказаў Уладзіслаў, – якія, як напэўна вядома васпану дабрадзею, пасля абдыкацыі Станіслава[54] прадаваліся па пяць

дукатаў, а патэнт з акенкам[55]. Ганарыцца ім пан Харунжы, мяркуючы, што ніхто не ведаю, якім чынам ён заслужаны.

З перадпакоя даносілася перарывістая, але досыць гучная гаворка: “Нельга… дзіравы… той на Філіпе… пайшоў у бровар… вось, слава Богу, ёсць”.

Хутка ўскочыў лёкай у цёмна-сінім сурдуце з зялёным каўняром; але ўжо не той, што быў у бровары.

– Андрэй, – сказаў пан Харунжы, – ідзі *таксама* скажы камердынеру, каб ён *таксама* паведаміў, што мы маем *таксама якраз* гасцей, панне Імасціне; няхай панна *таксама*, што пан Падстоліц прыехаў, ужо сама пані паведаміць.

Усміхаўся пан Падстоліц, а пан Харунжы, набліжаючыся да гасцей, прамовіў:

– Чым, панове *таксама якраз* загадаюць, служыць? Можа *таксама* кавы? Мы, праўду кажучы, *якраз* пілі ўжо, але *таксама*…

– Няхай васпан дабрадзей не турбуецца, – адказаў пан Падстоліц, – мы ўжо пілі каву, але мы прасілі б, каб нам можна было пераапрануцца да таго, як мы пакажамся дамам: мы трапілі сюды неспадзявана, у дарожнай вопратцы, і дождж нас трохі намачыў. Я чую, што нехта пад’ехаў: гэта, мусіць, мае людзі.

– Добра, добра, – адказаў пан Харунжы, – могуць *таксама якраз* панове ў гэтым самым пакоі і гасцяваць. Прашу быць як ва ўласным *таксама* сваім доме. – Ён яшчэ пару разоў пакланіўся і выйшаў.

– Дык у іх няма гасціннага пакою? – запытаўся пан Падстоліц.

– Як і стайні для гасцявых коней, – адказаў Уладзіслаў. – Коні трэба весці ў аўстэрыю. Яны пачулі ад Капітана, які вярнуўся з ваяжу, што ў Нямеччыне такі звычай.

– Я не ганю гэтага звычаю, – заўважыў пан Падстоліц, – там, дзе недахоп сена прымушае гаспадароў да такое ашчаднасці; але ж у нас, у краі гэтакім урадлівым, дзе сена можна мець, колькі пажадаеш, дзе прадаваць яго – гэта памылка. Лепей, падобна, было б менш траціць на портэр і віно для гасцей, а тым, што Бог даў, прымаць іх дома з коньмі і з людзьмі. Але мы трацім на тое, што не трэба, і ашчаджаем там, дзе не выпадае. Адно з другога вынікае.

Тым часам увайшоў іншы слуга ў старым карычневым фраку і хутка накіраваўся да пакою з левага боку.

– Мосці камердынер, – звярнуўся да яго Уладзіслаў, – ці прыехалі людзі пана Падстоліца?

– Здаецца, – фанабэрыста адказаў камердынер не спыняючыся.

– Браце мой, – сказаў пан Падстоліц, – пакліч сюды майго слугу.

– Зараз, – фанабэрыста буркнуў камердынер і, увайшоўшы ў другі пакой, грукнуў дзвярыма.

– Ці не слушнае маё назіранне пра слугаў? – сказаў пан Падстоліц. – Каб жа ведаць, як туды прайсці...

– Зараз я паклічу, – азваўся Уладзіслаў. – Але вось і Марцін.

Увайшоў Марцін, які нёс клунак пана Падстоліца, а за ім – Андрэй з падарожным куфэркам Уладзіслава.

– Ледзьве дапытаўся, дзе пан, – сказаў Марцін, апускаючы клунак. – Каб гэты хлопец не заўважыў свайго бацьку, дык, можа, і не трапілі б сюды. Гэткая мітусня ў доме! Некалькі п’яных дваровых крычаць на ганку; паненкі, дзяўчаты лётаюць, як падстрэленыя, праклінаючы і сваіх паноў, і гасцей; некалькі

конных выскачыла з брамы і рыссю падалася ў розныя бакі. Аднаго, я чуў, паслалі па старую гарэлку да арандара. А ў перадпакоі – рэчы і вопратка, відаць панскія. Мне аж сэрца забалела, усё ў кучы валяецца...

– Досыць, Марціне, – спыніў яго пан Падстоліц і дадаў, звяртаючыся да Уладзіслава: – Не разумею, як у такі дом людзі прыязджаюць, калі кожны госць спраўляе гэткае замяшанне.

– Не кожнага гэта дзівіць, – адказаў Уладзіслаў. – Рэдка дзе ў нас лепшы парадак.

– Мой браце, – звярнуўся пан Падстоліц да Тадэвуша, які тым часам ціха размаўляў з Андрэем каля дзвярэй. – З вашай ласкі меў я начлег і за гэта вам дзякую. За турботы, якія вы праз мяне мелі, можа, змагу вам калі аддзячыць, але павінны вам за сена...

– Барані Божа, дабрадзею, – перапыніў яго Тадэвуш, – каб я хоць грош асмеліўся ўзяць у ягамосця! Ягамосць нас накарміў, пацешыў і каб яшчэ плаціў! Гэткага ў нас не бывала! Даўней былі мы багацейшыя, дык калі Пан Бог прысылаў каго да нашае халупы, хоць і ўбогай, не дазвалялі мы, каб еў ён уласны хлеб, як ягамосць. Але цяпер досыць нам і таго сораму, што не было ў нас чым ягамосця прывеціць, а каб бралі плату за сена, гэтага не будзе.

– Пане Уладзіслаў, – сказаў пан Падстоліц, – вось дзе яшчэ можам знайсці напамін пра дабрачыннасці нашых продкаў. Ён нас да аўстэрыі не адаслаў, аддаў, можа, рэшту свайго сена. Слухай, Тадэвуш, я прымаю тваю гасціннасць, але ты ўзаемна мусіш прыняць маю: прашу цябе сёння ўвечары прыехаць на кірмаш; знойдзеш мяне ў доме бурмістра[56].

– Не магу, дабрадзею, – азваўся Тадэвуш, – заўтра мушу быць на паншчыне, а калі б я не з’явіўся...

– Я ведаю, што цябе чакае, але я ўпрашу твайго пана, каб ён цябе адпусціў. Вяртайся зараз дадому і спакойна, вер майму слову, едзь у мястэчка. Калі няма ў цябе каня, дык запражы вала ў воз і прыязджай, бо мне спатрэбіцца твая павозка.

– Слухаюся, дабрадзею. Чолам ягамосці.

– Да пабачэння, мой браце. Падзякуй ад мяне сваёй жонцы за яе гасціннасць, а дзецям скажы, што добры пан прышле ім гасцінца з кірмашу.

– Я не ведаю, ці гэта іх суцешыць, дабрадзею, бо калі яны ўбачылі, што мы ад’язджаем без ягамосця, дык пачалі плакаць і пытацца, дзе іх добры пан. Чолам ягамосці.

Андрэй пацалаваў бацьку ў руку і адчыніў яму дзверы.

– Вось кажуць, – звярнуўся пан Падстоліц да Уладзіслава, – што ў гэтых людзях няможна выклікаць прывязанасці, што няма ў іх аніякіх дабрачыннасцяў. Але ж нічога я ім яшчэ не зрабіў, а мая падарожная вячэра ўжо акупілася іхняю ласкавасцю. Я ўпэўнены, што ў гэтай сям’і знайшоў прыхільнасць.

– Жыццё б мы аддалі за пана, – ціха сказаў Андрэй, які стаяў збоку са слязьмі ў вачах. І зноў пачаў дапамагаць Марціну рыхтаваць вопратку для паноў.

Пан Падстоліц здагадаўся, што Тадэвуш расказаў пра яго сыну; паназіраў хвіліну за ім і пачаў пераапранацца. Ён надзеў чорны фрак са стужкаю Ганаровае Легіі[57]. Уладзіслаў выбраў фрак свайго любімага цёмна-зялёнага колеру. Можа, для яго гэта нешта значыла, бо ён уздыхнуў і прыклаў руку да ілба, калі браў гэты строй.

Мoжа б, мы і зладзілі з гэтага нейкае рамантычнае адступленне, каб ягоную завязку раптам не перапыніў грукат дзвярэй і з'яўленне мужчыны, маладога і высокага, якога можна было назваць нават прыгожым, каб не асаблівы выраз фанфаронства[58], няўважлівасці і зухаватасці, якія выяўляліся ў яго малых вочках – шэрых і юркіх – ды ў выразе высока падвязанага гальштукам твару, падобнага на твар пана Харунжага, з тою толькі розніцаю, што густыя, цёмныя фаварыты сягалі аж да самае барады, а цёмна-сіняя венгерка, шчодра абшытая прэнзлямі і шнурамі, гэтак цесна яго перацiскала, што ён ледзь не пераламаўся, калі зачыняў рукою за сабой дзверы, уваходзячы ў залу.

Ён падскочыў да Уладзіслава, абняў яго і загукаў:

– Як маешся, калега! Даўно мы з табою не палявалі! Здзічэў ты, занурыўся ў свае кніжкі, а калі палюеш, дык альбо адзін, альбо з двума толькі паляўнічымі.

– Гэта пан Астольф, сын пана Харунжага, – сказаў Уладзіслаў, знаёмячы яго з панам Падстоліцам.

Схіліўся з перабольшанаю ветлівасцю Астольф, выстаўляючы правую нагу наперад, і, панізіўшы голас, прамовіў:

– Сёння я шчаслівейшы за каралёў і цароў, бо застрэліў трох цецерукоў з дапамогаю загоншчыкаў і маю гонар вітаць у нашым доме васпана дабрадзея. Ці любіць пан дабрадзей паляванне?

– Палюю часам, – адказаў пан Падстоліц, з усмешкаю зірнуўшы на Уладзіслава.

– О! Я жыць не магу без палявання, асабліва пасля таго, як прачытаў Бабятынскага[59]. Як гэта міла, пане, калі чалавек у атачэнні стральцоў гойсае па лясных нетрах і гушчарах! Сабакі брэшуць, трубы трубяць, заяц уцякае, то на поле выскачыць, то па ўзлеску ляціць, як страла, то ў збожжы блытае сляды. А тут стральцы забягаюць напярэймы, падпільноўваюць; гэты спудлаваў, той крычыць: “Ату! ату яго!”, іншы стрэліў – і ляжыць, каток, як баран. О! Гэта сапраўдная вайна, пане.

– Колькі ж маеш стральцоў, васпан, на гэтую забаву? – запытаўся пан Падстоліц.

– Па-рознаму бывае, як сабяру, – адказаў Астольф. – Дзесяць, дваццаць і больш, бо, апрача дваровых, маем стральцоў і ў воласці, пане. А на аблавы выганяем усю воласць, мужчын і кабет, старых і малых; даўней чалавек трыста, а цяпер трохі меней, але калі супольна з суседзямі, дык цэлыя палкі, пане.

– Ці абавязкова ўзнагароджваюцца гэтыя высілкі? – запытаўся пан Падстоліц.

– Шчодра! – адказаў Астольф. – Шчодра! Адно задавальненне, калі асочым мядзведзя ў пушчы, а калі забіць атрымаецца, тады і сяляне рады, бо атрымліваюць ва ўзнагароду па кілішку гарэлкі.

– Няўжо такое каштоўнае паляванне бывае дарэмным? – запытаўся пан Падстоліц здзіўлена.

– Як пашчасціць, – адказаў Астольф, махнуўшы рукою. – Але чаму, васпан дабрадзей, называеш яго каштоўным?

– Ці ж васпан не цэніць страчанага часу некалькі сотняў чалавек за цэлы дзень, а то і за два дні?

– А хто ж яго лічыць? – сказаў Астольф са здзеклівай усмешкаю. – Што за адзін дзень страцяць, тое за другі дзень адпрацуюць. О! Бясспрэчна, каб

давялося лічыць кожны дзень, колькі іх за год набярэцца на аблавы, і страчаныя дні ўсіх людзей падрахаваць, дык, пэўна, што нават на сто памножыўшы вартасць упаляванага, не акупіліся б страты; але ўсё гэта не лічыцца, бо аблавы не ўваходзяць у паншчыну.

Зноў зірнуў пан Падстоліц на Уладзіслава і спытаў у яго:

– Васпан, пане Уладзіслаў, з аблавамі палюе?

– Раней паляваў, – адказаў зачырванелы Уладзіслаў, – але мой бацька залічваў часам аблаву за паншчыну.

– Дык сябе крыўдзіў, урэзаўшы патрэбную работу, – заўважыў Астольф.

– Бясспрэчна, – адказаў Уладзіслаў. – Спадзяюся, што цяпер мы нікога не пакрыўдзім.

– Так-так! – зарагатаў Астольф. – Васпан – вялікі філантроп! Няхай пан не думае, – працягваў ён, звяртаючыся да пана Падстоліца, – што ў нас уся моладзь такая сентыментальная. Ха-ха-ха! Рыхтуемся, пане, да вайны на паляванні, як гэта ў звычаі ўсіх адважных народаў. Праўду кажучы, крыху большым коштам, чым у іншым месцы, але ж не ўсе маюць падданых. І пан Уладзіслаў не заўсёды дбае пра дні сялянаў.

Зачырванеўся ізноў Уладзіслаў, але пан Падстоліц сціснуў яго за руку як знак прабачэнне з умовай выправіцца. Зразумеў гэта Уладзіслаў і таксама адказаў поціскам. Але Астольф ані думак іхніх, ані пачуццяў не зразумеў.

– Былі раней і ў мяне розныя планы, – сказаў ён, – каб больш прыбытку мець ад працы нашых сялянаў; хацеў я зрабіць карысныя змены...

Тут увайшоў пан Харунжы, у якога стужка ўжо была на камізэльцы пад фракам, і цяжкім крокам набліжаўся да іх. Астольф азірнуўся і, не аказваючы ніякага знаку пашаны бацьку, звярнуўся ізноў да гасцей:

– Але я заўважыў, што няварта працаваць у гэтакім дзікунскім краі, дзе аніводзін разумны праект не выклікае захаплення, а шматлікія цяжкасці тармозяць нават найлепш разлічаныя задумы; дык вырашыў, пане, паляваць і жыць весела, пакуль у войска выберуся, а старыя хай сабе...

– Сын мой, – перапыніў яго Харунжы, узяўшы за руку, – загадай *таксама* нам гарэлачкі сюды падаць і *якраз таксама* якое-небудзь закускі.

– Перапыніў мяне, ягамосць, на паўслове! – незадаволена сказаў Астольф і зноў павярнуўся да гасцей, жадаючы працягваць сваю прамову.

Нечаканая чырвань, якая з’явілася на твары пана Падстоліца, сведчыла пра тое, як ён абураны гэткаю непашанаю да бацькі, дык, не слухаючы Астольфа, ён павярнуўся да Харунжага. Астольф жа, схапіўшы за руку Уладзіслава, пацягнуў яго да вакна, шэпчучы яму нешта на вуха і голасна рагочучы.

Пан Харунжы запрасіў сесці пана Падстоліца і, сядаючы сам, сказаў:

– Дождж, мосці дабрадзею. Што гэта *таксама якраз* з нашым жытам будзе?

– Цяжка сказаць, – прамовіў пан Падстоліц.

– Але хоць *таксама* ўраджай, мосці дабрадзею, Пан Бог дасць, дык дзе прадаць *якраз таксама* не маем. Цяжкія часы!

– Бясспрэчна цяжкія для тых, у каго ўсе надзеі на збожжа.

– А на што ж, мосці дабрадзею, *якраз* спадзявацца? – запытаўся пан Харунжы. – Кажуць, што жывём мы *таксама якраз* у век розуму, але я *таксама* сумняваюся, што гэты век *якраз* розуму, *якраз* калі ніхто *таксама* не дадумаўся, як золата *якраз* рабіць.

– Наадварот, – сказаў пан Падстоліц, – менавіта таму цяперашняя эпоха найбольш абавязаная Асветніцтву, што людзі дадумаліся, як рабіць золата. (Пан Харунжы падскочыў у крэсле). І тым даражэйшае золата, – заканчваў пан Падстоліц, – што з-за свае колькасці яно не можа страціць у цане.

– Што васпан дабрадзей кажаш? – закрычаў пан Харунжы, вытрашчыўшы вочы і развёўшы ў бакі рукі. – Гэтага ж *таксама* не можа быць! Астольф, ты чуеш? Ты казаў *якраз*, што ў тваіх навуках нідзе *таксама* няма спосабу, як золата рабіць, а вось пан Падстоліц, чалавек *таксама якраз* годны даверу... Але, мосці дабрадзею, ці *таксама* васпан дабрадзей сам бачыў *якраз* тое золата? – дадаў пан Харунжы, нібы важачы рукою: – Ці такое *таксама якраз* яно цяжкае як золата, з якога робяць дукаты?

– Вось яно, – сказаў пан Падстоліц, дастаючы з кішэні камізэлькі некалькі галандскіх дукатаў[60].

Падскочыў уражаны пан Харунжы і пачаў уважліва разглядаць манеты, якіх даўно не бачыў. Падышоў і здзіўлены Астольф, але ў ягоных юркіх вочках і здзеклівай усмешцы чыталася думка: ці не звар'яцеў пан Падстоліц? Уладзіслаў таксама ўсміхаўся, бо здагадаўся, якая разгадка будзе гэтае загадкі.

– Так, – сказаў пан Падстоліц, хаваючы манеты, якія пан Харунжы не вельмі ахвотна аддаў, – адкрыты спосаб, як рабіць золата і срэбра.

– І срэбра? – перапытаў пан Харунжы.

– І срэбра, – пацвердзіў пан Падстоліц. – Каб пан Астольф пажадаў грунтоўна ўзяцца за навукі, важныя для землеўласніка, і падумаць, што паляпшае жыццё ў краі, і асабліва, быт земляроба, дык ён пераканаўся б, што ёсць спосабы здабываць з тутэйшае нашае зямлі незлічоныя сумы дукатаў і талераў[61].

– Як гэта? І *таксама якраз* з мае зямлі? – закрычаў пан Харунжы.

– З усялякае, – адказаў пан Падстоліц.

Са складзенымі на жываце рукамі, утаропіўшы вочы ў сына, аслупянеў на хвіліну Харунжы. Нарэшце, нібы сілаю адолеўшы маўчанне, закрычаў:

– Ах, вярніся зараз жа *таксама якраз* ва ўніверсітэт, пакуль крэдыторы мае, якія *таксама якраз* мне ўжо з дня на дзень традыцыяй...[62] якія, пакуль не забралі *таксама* ў мяне зямлю... О! чаму ж ты *таксама* раней не навучыўся тых спосабаў! Змарнаваў столькі гадоў! А цяпер *якраз* позна ўжо табе будзе вучыцца *таксама*. Чаго стаіш? Едзь *таксама*! Альбо лепей *якраз* я ўжо сам...

Ужо і Астольф зразумеў думку пана Падстоліца, дык, бачачы бацькаву памылку, перапыніў яго ў самым запале, калі той рашуча накіраваўся некуды ісці, спыніў яго і сказаў:

– Тата, ягамосць кажа пра тое, як рабіць золата з дапамогаю мануфактураў і ўмелага гаспадарання, што ўласна я і хацеў рабіць.

– Як гэта? – здзівіўся пан Харунжы. – Сялянаў *якраз* аддаць навучацца рамяству, а на палетках пасадзіць *таксама* мачтавы лес, якога б і праўнукі нашыя *якраз* не дачакаліся? Ясны пан Падстоліц гэтае *таксама якраз* радзіць?

– Тут просты разлік! – выгукнуў Астольф. – У нас ёсць, а прынамсі, тады яшчэ было, з кабетамі і дзецьмі, каля трох сотняў людзей. Каб мы нанялі іх пецярбургскім альбо маскоўскім майстравым, дык узялі б за кожнага ўвогуле па два злотыя за дзень і мелі б гадавога прыбытку (за будзённыя дні), як я палічыў, 181.200 злотых; а поле, засеянае лістоўніцаю, было б найпрыгажэйшаю спадчынаю для колішніх наступнікаў; калі кожны морг, калі ласка, лістоўніцы

можа прынесці, беручы ў сярэднім, па пятнаццаць тысяч злотых. У Францыі зямля прыносіць больш прыбытак землякробу, аднак пан Дэ ля Мар[63] і сам заняўся гэтаю справаю, і землякам яе раіць.

– Дазволь, пане Астольф, я пакажу, дзе тут памылка, – сказаў пан Падстоліц. – Спакушае васпана недакладны разлік. Каб пажадаў сам задумацца пра недарэчнасці падобных праектаў, дык пераканаўся б, што страціў бы на гэтых спекуляцыях увесь фундуш без аніякага заробку.

Бо, па-першае, ані дзяцей, ані старых не можна паслаць на заробкі ў сталіцы; а каб забяспечыць ім існаванне, трэба было б пакінуць у вёсцы сама мала палову здатных работнікаў. Гэтак зменшылася б іх лічба з трохсот да пяцідзесяці ў лепшым у выпадку. Але і іх трэба яшчэ апрануць, пашпарты аплаціць ды яшчэ дадаць сюды выдаткі на пераезд. Пры гэтым траціцца ўвесь прыбытак з маёнтку, у якім ужо не было б каму працаваць; дык трэба было б усё сабе купляць. Падлічыўшы ўсе тыя выдаткі і страты, аказалася б, хіба, што іх не акупіць увесь іхні заробак, каб яго нават спраўна аддавалі[X].

Цяпер, што датычыць лесу. Сапраўды, пасадка добрых гатункаў дрэва можа ў будучым запэўніць значны прыбытак, і я лічыў бы нават абавязкам кожнага землеўласніка адводзіць пад гэта частку сваіх уладанняў; але жадаць засадзіць усе свае землі лістоўніцаю можа толькі той, хто не ўлічвае ані кошту, ані часу, ані якасці грунту, якіх гэтая справа патрабуе. Нарэшце, з тае прычыны, што спасылаешся тут васпан на шаноўнага пана Дэ ля Мара, трэба не забывацца на тое, што ягоныя землякі адказалі яму: землеўласнік, чакаючы прыбытку з пасаджаных лясоў і не маючы аніякага іншага, памёр бы з голаду ў чаканні сваіх мільёнаў[XI].

Дык, васпан, сам паразважай, ці варта строіць такія праекты. Не, пане Астольф, не гэты шлях вядзе да павелічэння прыбытку з зямлі. Трэба яго шукаць у добрым угнаенні зямлі, ва ўмелым ашчаджанні і разумным выкарыстанні сялянскіх рук, у дапаможных рамёствах, якімі варта заняць сялянаў. Уласна гэткае добрае спалучэнне ўсіх галінаў гаспадаркі вядзе да таго, каб мець карысць – не перабольшаную, але пастаянную – якая запэўнівае сталы рост прыбытку. Гэта я называю спосабам здабывання з нашае зямлі золата і срэбра.

Зразумеў Астольф, што яго ідэал паляпшэння дабрабыту быў не падобным на той, пра які казаў пан Падстоліц, а згадка, што той мусіў гаварыць гэта, зыходзячы з пэўнае практыкі, бо быў вядомы сваім добрым бытам і дастаткам, павінна была пасеяць сумненне ў выдуманых спекуляцыях, дык ён знерухомеў, задумліва пазіраючы на пана Падстоліца.

– Гэта *таксама якраз* нешта іншае, – азваўся, падумаўшы, пан Харунжы, які крыху засаромеўся з-за свае памылкі, што прагаварыўся перад выбарамі пра крэдытораў і спадзяваную традыцыю. – Бо, *уцяміўшы ўсю справу*, я адразу тады сказаў *якраз*, як і васпан дабрадзей, што Астольфа круціць тут нешта *таксама* ні ў пяць, ні ў дзесяць. Але *якраз таксама* ўсё тое на марна, пра што васпан дабрадзей кажа. Ужо *якраз* браўся я за справу *таксама* і гэтакім спосабам: вёску знёс *таксама*, палеткі большыя *таксама якраз* парабіў – не дапамагло *таксама* нічога; кошт *таксама якраз* збожжа гэтак упаў, што *таксама* страх падумаць, штораз менш збожжа расце, але і тое купляць *якраз* ніхто не хоча...

– Госці едуць! – закрычаў нечакана ўскочыўшы камердынер. – Каляска, пяць чорных коней; здаецца, пан Маршалак; і брычка пана Капітана.

Астольф у момант выскачыў у перадпакой.

– Скажы Імосці! – зусім проста на гэты раз крыкнуў пан Харунжы лёкаю, які выбягаў, і сам цяжкім крокам паспяшаўся за імі.

Пан Падстоліц заўважыў раптоўную бледнасць на твары Уладзіслава; які ўстаў і адышоў да вакна. Пан Падстоліц, застаўшыся адзін, дастаў гадзіннік, жадаючы, можа, палічыць час, які давядзецца яму правесці ў гэтай сталіцы бязладдзя. Тым часам камердынер некалькі разоў прабег праз залу, за ім – Андрэй, потым – пакаёўка з сукенкамі ў руках. Ніхто не зважаў на гасцей. Пэўна, прыезд яснавяльможнага Маршалка больш іх займаў, чым прысутнасць пана Падстоліца. Гэткага чалавека нельга ўводзіць у канцы раздзела: пазнаёмімся з ім напачатку наступнага.

## Раздзел пяты

# ХІБА Ж ТАКІХ МАЛА?

PAN STAROSTA.
Jak się to wszystko skończy, ja tak przewiduję:
Cała ta długa wojna na tem się zakończy,
Że Król pruski z Cesarzem najściślej się złączy,
Anglija z Franciją obronne uderzy przymierze,
Moskwa Krym cały odda, a Chiny zabierze.

SZARMANSKI.
To prawda, że Bóg człeka stworzył dosyć ładnie;
Żebym jednak wykształcił figurkę dokładnie,
Chciałem Paryż odwiedzić... Trzy tylko niedziele
Bawiłem w Anglii; srodze powietrze niezdrowe.
Kupiłem dwie par sprzączek i szpadę stalowę.

Jul. Niemcewicz, *Powrót Posła*[64]

Камердынер з грукатам расчыніў абедзве палавіны дзвярэй з перадпакою, і на парозе з'явіўся чалавек – нізкі, тоўсты, з шырокім надзьмутым тварам, з іспанскаю бародкаю, вялікаю лысінаю і касаватымі юркімі вачыма. На сурдуце з аднаго боку грудзей у яго быў мальтыйскі крыж[65] і медаль за 1812 год, які атрымала расійскае дваранства (за выключэннем Літвы)[66], а з другога – крыжык ерусалімскага гробу[67] і дзве каляровыя стужачкі, прыгатаваныя, як належала гэта разумець, на выпадак атрымання новых ордэнаў. Усё гэта выразна сведчыла, што яснавяльможны Маршалак быў таксама кавалерам *шматлікіх ордэнаў*[68]. Але гэта было толькі для перадпакою, бо спыніўшыся на парозе, ён скінуў сурдут, і на фраку заззялі іншыя такія самыя ордэны, ужо для салону. Старанна паправіўшы іх, пераступіў ён праз парог і звярнуўся да схіленага перад ім Харунжага, які нязменна кланяўся і мармытаў словы прывітання; ласкавы пан пажадаў прамовіць пратэкцыйным тонам:

– Так і спадзяваўся, што лёс выявіць да мяне сваю прыхільнасць, дазваляючы знайсці шаноўнага Харунжага яшчэ ў гэтых сценах, і тут выказаць яму належную павагу.

– Вялікае шчасце, – казаў згінаючыся Харунжы, – *уцяміўшы ўсю справу... таксама якраз* мосці Маршалку дабрадзею!.. Няхай *таксама* сесці пан Маршалак дабрадзей мае ласку... Гэта *таксама* пан Падстоліц...

Паважна пакланіўся Маршалак пану Падстоліцу, мераючы яго вачыма, а паклаўшы шапку на столік, усеўся пры ім з важным выглядам і надуўся як на крэсле прарока.

Пан Харунжы, паказаўшы з аднаго боку пана Маршалка месца для пана Падстоліца і Уладзіслава, сам сеў з другога і, схіляючыся, прамовіў лісьлівым тонам:

– Што гэта з дажджом *таксама якраз*, мосці Маршалак дабрадзей, тым будзе?

– А нічога, маспане, – адказаў Маршалак, – барацьбе стыхій павінна саступіць барацьба смяротных; дождж мусіў прыглушыць бронзавыя перуны. Атрымаў я ліст ад аднаго прыяцеля, з якім у даверлівых дачыненнях ваенны міністар; ён паведамляе мне па сакрэту, што туркі паўсюдна ўцякаюць перад моцаю двухгаловага арла[69].

У гэты момант пачуўся гучны смех і крык:

– Слова *хонару*[70], занадта ўжо гэтых цырымоній!

З гэтымі словамі ўбег у залу разам з Астольфам чалавек сярэдняга росту, тонкі, стройны, бледны, са светлымі, старанна завітымі валасамі. Выстаўленыя назад локці і высока закінутая, але неяк сутаргава скрыўленая на правы бок галава нібы мусілі казаць: "Глядзіце! Вось добрага тону і розуму чалавек. Вы ўсе перада мною нішто". Пра тое ж сведчылі і яго высокі каўнерык, які з-пад хусткі сягаў канцамі ледзь не да самага носа, і фрак англійскага пакрою з высокім каўняром, і некалькі мушак на твары, і той абыякавы паклон, якім ён мімаходзь прывітаў прысутных. Ён жвава прабег залу, кінуў свой капялюш побач з шапкаю Маршалка і, без цырымоніі ўладкаваўшыся паміж ім і Харунжым, салодкім голасам завёў:

– *Загодзілі* мы зірнуць на бедных цецерукоў, якіх любы Астольф сёння так нялюдскі замардаваў. Але ж ва ўсёй Еўропе, дзе я бываў, нідзе не зазнаеш такога расчаравання на пошце, як *лі* ў нас. Бадай што, Астольф, не будзе ў нас на кірмаш ані *густкі*, ані *хальштука*, ані *камізэлкі*, якія я выпісаў з Варшавы.

– Так, маспане! – падхапіў Маршалак. – Дажджлівая восень...

– Гэтак, – перапыніў яго Харунжы.

– Гукі славы даходзяць да нас нерэгулярна, – скончыў Маршалак. – І я дарэмна адпусціў лейцы надзеі, што з сённяшняю поштаю прыляцяць весткі пра Кубу Японскага[71]. Апошні нумар "Kuriera"[72] паведамляў, што Куба саступіў моцы ліхаманкі і мусіў на пару дзён легчы ў ложак.

– Дзіва што! – азваўся пан Харунжы. – Гэткая слота *таксама якраз*! А пра кітайскага імператара не пішуць *таксама*, ці ён здаровы?

– Кантон[73], – сказаў Маршалак, – паведамляе народам Еўропы, што Тао-Куанг паслаў да Кубы амбасадара прасіць рукі ягонае дачкі Лімпангі і выспу Сікоку ў якасці пасагу[74]. Можа, ніхто з тых, чые думкі ўздымаюцца да сферы палітыкі, і не здагадаўся, якія вялікія змены прынясе гэта ўсяму роду смяротных, але я ведаю дакладна, што японскі імператар дачкі не аддасць і вулкан выбухне. Здаецца мне, што я ўжо бачу зацятую барацьбу гэтых звышдзяржаваў паміж сабою.

– Гэта нашым рэдутам не перашкодзіць, – зарагатаў сам са свайго жарту Капітан.

– Як гэта не перашкодзіць? – запярэчыў Маршалак. – Уся Еўропа, маспане, са спрадвечных пасадаў будзе зрушана. Крануўшы адно кола ў гадзінніку – усе іншыя рушацца...

– Гэтак, – з ліслівай мінай умяшаўся Харунжы, паказваючы на Маршалка. – У каго загаркі, у таго *таксама* і фальваркі.

– Вось і ў гэтым вялікім гадзінніку свету, – працягваў Маршалак, – варта толькі галандскаму колу атрымаць шкоду ад японцаў, дык зменіцца ў

імгненне вока становішча ўсіх дзяржаваў на зямным шары. Галандцы ж панясуць страты абавязкова. Здаецца мне, што я ўжо бачу смерць, спусташэнні, пажары па ўсёй Еўропе, Азіі, Афрыцы і Амерыцы. Атрымаў я нядаўна сакрэтны ліст ад аднаго з першых еўрапейскіх палітыкаў, які, прызнаючы мае высновы, тлумачыць і пераконвае ва ўсіх дэталях, што Тао-Куанг паўстане, як хмара, з усходу і, паклікаўшы ў альянс незалежных татараў, супольна з імі абрынецца з двух бакоў на Японію; а ў Амерыцы ён ўжо падбухторвае патагонцаў[75], добрых вершнікаў, каб плюндравалі ўсю краіну, якая, як я думаў да гэтага, павінна была сваім шчытом асланіць Японію. Васпан дабрадзей, пэўна, пра гэта чуў, – дадаў ён, звяртаючыся да пана Падстоліца.

– Мяне не цікавяць гэтыя весткі, – адказаў пан Падстоліц.

– Як гэта? – здзівіўся Маршалак, – Ці ж гэтыя весткі не павінны больш глыбока закранаць кожнае сэрца і розум, чым тое баламутства, якім сёння бессаромна запоўненыя газеты? Усе гэтыя кошты на прадукты ў розных краінах, гэтыя аповеды пра стан рамесніцтва і гандлю? Нібы нам трэба ведаць, колькі англічанін плаціць за воўну, дзе француз здабывае дрэва на пабудову караблёў альбо колькі і якіх тавараў прывозяць у нашыя парты? Чым гэтыя навіны дапамогуць нам збыць уласнае збожжа, якога ў нас назапасілася аж пад неба ў свірнах, і няма аніводнага пакупніка на яго?

– Гэтак, – пацвердзіў Харунжы.

– Слова *хонару*, не *маем-лі* найменшае патрэбы гэта ведаць, – пазяхаючы прамовіў Капітан.

– Гэтыя весткі, – запярэчыў пан Падстоліц, – могуць нас пераканаць, што нікому ў Еўропе нашае збожжа непатрэбнае; а паказваючы, як іншыя народы паступова паляпшаюць свой дабрабыт, навучыць нас, якім чынам мы можам выбрацца з нядолі.

– Гэтак, – згадзіўся Харунжы.

– Маспане, – выпрастаўся Маршалак, – пра гандаль і рамёствы няхай думаюць купцы і мяшчане: паводле паходжання мы належым да вышэйшае сферы. Земляробства, праўда, знаходзіцца пад нашаю непасрэднаю апекаю, але дзеля гэтага ў нас ёсць камісары і аканомы. Мы, узнесеныя Небам над натоўпам, павінны вырашаць лёсы народаў, панаваць над схіленымі да нашых ног прыгоннымі, выносіць прысуды ў святынях справядлівасці і з дапамогаю перададзенае нам урадам улады сачыць за шалямі ўнутранае адміністрацыі.

Прамовіўшы гэта, ён важна і фанабэрыста паглядзеў на ўсіх і схіліўся да Харунжага па табаку.

Тым часам пан Падстоліц шапнуў Уладзіславу: “Пераканаў”.

Прытупваючы ў такт нагою, рашуча азваўся Капітан:

– Мы ж не жыды, каб *хандляваць*. Нас таму так клапатліва лёс песціў, каб на лоне салодкае долі мы спажывалі дары натуры, аздаблялі *светы* нашымі элегантнымі густамі і насычаліся *зграбнымі прыемнасцямі* жыцця. Аднак шкада, – працягваў ён, звяртаючыся да Маршалка, – што не купляе ніхто *нашэ жыто*, і не *гочуць* піць *усяе гарэлкі*, якую мы гонім. Магу сказаць, што страціў я шмат, паставіўшы *новага бровару*.

– На якой мове ён гаворыць? – ціха запытаўся пан Падстоліц ва Уладзіслава.

– На моднай, – адказаў Уладзіслаў, – гэтак некаторыя і пішуць.

Тым часам Маршалак гаварыў:

– Гарачыя галовы зухавата крычаць і па-хамску заўзята даводзяць, што мы, землеўласнікі, лянуемся ўзяцца за стырно прамысловасці, але чые ж гэта галасы? Бясспрэчна тых, хто сам не займаў пасадаў і не ведае, што гэта значыць несці на сваіх плячах усю адміністрацыю, напрыклад, цэлага павету, ведаць пра некалькі дзясяткаў тысяч людзей…

– Што яны жывыя, – уставіў Уладзіслаў.

Азірнуліся ўсе на яго, нават і пан Харунжы, які нерухома ўтаропіўшыся ў вочы Маршалка, дзівіўся цяжару маршалкоўскае пасады. А Маршалак звярнуў увагу толькі на тое, што слоўца гэта вылецела з вуснаў Уладзіслава, бацька якога, маючы некалькі дзяцей, быў уласнікам нейкіх пару дзясяткаў дымоў, дык роўны іншым шляхціц, адно, можа, лепш за іншых адукаваны, меў занадта малы прыбытак, каб на яго мог загневацца гэтакі вялікі чалавек, якім быў саноўнік, хоць не імперыі, не каралеўства, але немалога закутка ў літоўскіх лясах – цэлага павету! Саноўнік, веліч якога не была вядомая ані ў Галандыі, ані на двары японскага імператара, аднак на абшары некалькі дзясяткаў міль не мела сабе роўных. Гэтая веліч, хоць бы нават на наступных выбарах і была вызваленая ад цяжару гэткага клапатлівага адміністравання, але дзякуючы чарадзейнаму вынаходніцтву каперты[76], прызначалася з усёю яснасцю аж да трэцяга калена ўшаноўваць магутнага саноўніка. Гэтая веліч і была тою прычынаю, з-за якое Маршалак, зірнуўшы толькі на карузліка Уладзіслава, адно хмыкнуў і звярнуўся да годнага паводле пасады калегі – пана Харунжага:

– Вось як, маспане, гэтыя гарачыя галовы хочуць, каб мы зняважыўшы нашую годнасць, якую гэтак руплiва захоўвалі нашыя продкі, і забыўшыся на правы шляхецкія, апусціліся б, страшна вымавіць, да рамёстваў і гандлю; а рухомыя капіталы яны прапануюць назапашваць з дапамогай ашчаднасці, нібы мы можам…

– Ашчаднасць! – перабіў яго раптам Астольф, да якога адразу павярнуўся пан Харунжы, здзівіўшыся, што яго сын умешваецца ў такую мудрую гаворку. – Ашчаднасць! – паўтарыў з рогатам Астольф. – Няхай жа нам адкрыюць сакрэт, якім цудам ашчаджаць нам сёння, калі прыбыткі ў нас меншыя за абавязковыя патрэбы. Калі б яшчэ казалі пра спосабы павелічэння прыбыткаў, але ашчаднасць!

Зазірнуў пан Харунжы па чарзе ў вочы пану Падстоліцу і Маршалку, нібы хацеў высветліць, ці трапна сын выказаўся, а потым азваўся сам:

– Ці панове гэтак *таксама* думаюць? Бо я сам *таксама*, *уцяміўшы ўсю справу*, зразумеў *якраз* адразу, што мой сын *таксама* добра кажа. І я ведаю, што ашчаджаць больш – я не магу *таксама якраз*.

– І я, – сказаў Маршалак. – Ужо адно толькі накручванне передвыбарчых спружын паглынае палову трохгадовага прыбытку, якім мяне ўзнагароджваюць мае маёнткі.

– І я, – сказаў Капітан, – *аніводну златувэчку* не магу адкласці. Наадварот, дзеля выканання прыемных мрояў чулае мае душы гэтак шмат перашкодаў стварае мне безграшоўе, што каб мяне лёс надзяліў у дзесяць разоў *большага дахода*, усё б пайшло…

– З дымам, – азваўся Уладзіслаў.

Ізноў усе азірнуліся на яго, але гэтым разам Уладзіслаў не змоўчаў:

– Так! На фракі *a la dernièr mode*[77], якія штомесяц трэба мяняць, на запінкі, пярсцёнкі, гадзіннікі, коней, сабак, віно, каляскі і на гэтулькі іншых рэчаў, без якіх можна і трэба абыходзіцца.

– Слова *хонару*! – закрычаў Капітан. – Лепш сказаць: трэба абыходзіцца, калі некаму *грошы* не хапае.

– Я так і кажу, – працягваў Уладзіслаў, – што нам без усяго гэтага трэба абыходзіцца, бо ў цяперашнія часы на гэта нікому прыбыткаў не стае. – І, звяртаючыся да пана Падстоліца, ціха дадаў: – Зайшоў я на тэрыторыю васпана дабрадзея, дапамажы, пан, дзеля Бога.

Было відаць, што пан Падстоліц не меў жадання ўдзельнічаць у пустых спрэчках з людзьмі, якія нават не ўяўлялі сабе магчымасцяў ашчаднасці. Але каб дапамагчы Уладзіславу, ён сказаў:

– Мае панове! Тыя, хто з нічога альбо, пачаўшы з малога, зрабілі вялікія маёнткі, лепей ведаючы, што іх прывяло да дабрабыту, у адзін голас сцвярджаюць, што грош, які ашчаджае ў сваіх руках прамысловец, запачаткоўвае тысячы і мільёны. Пагарджаем мы прамысловасцю...

– Пагарджаем! – перапыніў яго Маршалак. – Бо гэтая нізкая праца – для жыдоўскага люду альбо для мяшчанаў. А не для нас.

– І таму робімся банкрутамі, – працягваў далей пан Падстоліц. – Бо ўсе галіны прамысловасці – не для нас. Земляробства мы ўскладаем на аканомаў, рамёствы – на суседнія народы, гандаль – на жыдоў...

Маршалак са з'едліваю ўсмешкаю перапыніў яго:

– Можа, васпан дабрадзей жадаў бы, каб высакародны шляхціц, нашчадак тых, хто быў уганараваны правам на трон, выкінуўшы сёння з лона памяці веліч сваіх прывілеяў, папсаваў бы генеалагічнае дрэва, прычапіўшы на ягоныя галіны шыльду рамесніка ці гандляра? А хто ж будзе трымаць стырно ўлады?

– А хто будзе камандаваць войскам? – падхапіў Астольф.

– А хто будзе заахвочваць той жа *хандаль*, лунаючы на крылцах моды? – дадаў Капітан.

– А хто будзе гультаяваць? – тым жа тонам дадаў Уладзіслаў.

– Выбары... – пачаў было Маршалак, але ў гэты момант Харунжы, задаволены тым, што яго думка была падтрыманая Маршалкам і Капітанам, а таксама змораны і бяссоннай ноччу, калі абгульваў у карты гувернёра, і не надта зразумелаю яму размоваю паспеў шчасліва задрамаць ды, стукнуты нібы электрычным токам словам "выбары", раптоўна прахапіўся, ледзь не зваліўшыся з крэсла, і закрычаў:

– Гэтак! Выбары! Выбары... Мае спадзяванні *таксама якраз* на ласку і дапамогу пана Маршалка дабрадзея, дык *таксама* не спатыкнуся *якраз* гэты раз.

З добразычлівою ўсмешкаю схіляючы галаву і прыкладаючы рукі да грудзей Маршалак адказаў:

– Усё, што будзе ў межах маіх магчымасцяў, выкарыстаю для падтрымкі высокіх памкненняў пана Харунжага, калі ўзаемна буду ўпэўнены... – тут ён перапыніўся, пільна зазіраючы яму ў вочы.

– Ад усяго сэрца, – сказаў Харунжы. – Усё што будзе ў межах... як толькі змагу... *таксама якраз*... далібог... мая жонка *таксама* паабяцае *якраз* пану Маршалку.

– Але ці не паабяцаў ужо пан Харунжы маім праціўнікам? – запытаўся, не змяняючы паставы, Маршалак.

– *Якраз*... прасілі мяне... – пачаў заікацца Харунжы, – мусіў *якраз таксама* абяцаць, *якраз*... так з-за ветлівасці *таксама якраз*... але, *уцяміўшы ўсю справу*, *якраз* надзейны я слуга *таксама* заўсёды *якраз* васпана дабрадзея.

– Як выкручваецца! – ціха сказаў Уладзіслаў пану Падстоліцу. – Ён у маёй прысутнасці шчыра абяцаў Шамбяляну; дык я пажартую з яго...

– Супакойся, пане Уладзіслаў, – спыніў яго пан Падстоліц.

Але і без гэтае перасцярогі Уладзіслаў нічога б не сказаў, бо нечакана ён збялеў і павярнуўся да дзвярэй, якія адчыніліся з перадпакою. У іх паказаліся дзве дамы. Адна высокая, хударлявая, бледная, з савінымі вачыма, якія, як яна спадзявалася, упрыгожваў ейны летуценны позірк. Строй ейны быў занадта шыкоўны для вёскі: была на ёй ружовая сукенка з мошасту, абшытая блондамі[78] і сабраная ў шматлікія складкі; на шыі – тры ніткі перлаў; карычневы турэцкі шаль – на правым плячы, а на завітай у мноства дробных пасмаў галаве – белы атласны берэт з пяром марабу, якое было ўваткнута за залатую спражку, асыпаную перламі; у вушах – вялікія завушніцы з апраўленымі ў золата авальнымі перламі; за пасам – упрыгожаны каштоўнымі камянямі гадзіннік на залатым, завешаным на шыі ланцужку; і на кожным пальцы – па некалькі бліскучых пярсцёнкаў.

Усё гэта выглядала недарэчна на фоне павуціны на столі, падлогі, падобнай на клавішы музычнага інструмента, а нават строю паненкі, якая з'явілася разам з ёю. Белая муслінавая сукенка[79], блакітны пас, сталёвы крыжык на чорным шнурку і колькі пасмаў чорных валасоў былі адзінаю знешняю аздобаю сапфіравых вачэй, жывога румянцу, прадаўгаватага твару, пунсовых вуснаў, белай шыі ды зграбнай, пульхнай і прывабнай постаці.

Старэйшая на момант затрымалася ў адчыненых дзвярах і, адхіляючыся назад, агледзела гасцей. Што звыкла азначала наступнае: "Вітайце, шляхта, перад вамі важная асоба". Нарэшце яна пераступіла парог і пачала, ківаючы галавою, набліжацца. Усе падняліся. Пан Харунжы, прэзентуючы яе пану Маршалку і пану Падстоліцу, сказаў:

– *Якраз* мая жонка, а гэта *таксама якраз* нашая дачка. Мая галубка – гэта *таксама* пан Падстоліц.

Схілілася, не апускаючы галавы, пані Харужыха і, заняўшы месца, якое саступіў ёй Капітан, азвалася знаёмым, але ўжо мілым дыскантам:

– Няхай панове маюць ласку садзіцца. Муж, чаму ты не запрасіў паноў у гасцінны пакой? За шчасце лічу, – працягвала яна, павёўшы вокам, – што маю гонар вітаць у маім доме гэтакіх шаноўных гасцей.

Потым, яна пачала распытваць Маршалка, які сядзеў побач, ці добра ён даехаў.

Тым часам Іда, якая з апушчанымі вачыма села паміж маткаю і Капітанам, падняла павольна вочы на яго, потым перавяла погляд на Уладзіслава, які раптам зачырванеўся, ды, агледзеўшы па чарзе ўсё таварыства, зноў павярнулася да Капітана і спытала:

– Пан Капітан прыехаў разам з панам Маршалкам?

Лісліва схіляючыся, Капітан адказаў пяшчотным тонам:

– Я спяшаўся скласці сваё ўшанаванне пані і, каб літасцівая натура не адмовіла мне *гоць у адным лі крылцэ*, дык праз колькідзённае, ах! балючае расстанне, сёння абы паню *наведзець*...

Ён змоўк, бо Іда, не слухаючы яго, ужо пыталася ва Уладзіслава:

– А пан Уладзіслаў як патрапіў сюды гэтак інкогніта?

Капітан адразу спахмурнеў і, закінуўшы нагу на нагу, адвярнуўся па табаку да Харунжага.

Тым часам Уладзіслаў, твар якога гарэў, адказаў ёй:

– Праз парк, пані. Мы з панам Падстоліцам былі ў аранжарэі.

– *Маман*, – сказала Іда, паказваючы вачыма на пана Падстоліца, – пан Падстоліц меў ласку наведаць наш парк і аранжарэю.

– Шчыра дзякую, – з паклонам прамовіла пані Харунжыха, папярэджваючы пахвалы, якіх яна абавязкова чакала. – Мала знойдзецца людзей, здольных ацаніць твор густу і мастацтва. Спадзяюся, што пан атрымаў задавальненне, аглядаючы гэты, калі магу сказаць, шэдэўр нашае ваколіцы. Раслінаў няшмат, бо няма адкуль іх прывозіць; але і з гэтага можаш, пан, зрабіць выснову, што руплівасці нам не бракуе. Ха-ха-ха!

– Я не спадзяваўся ў гэтым фальварку і гэтулькі знайсці, – адказаў пан Падстоліц з усмешкаю, якую пані Харужыха, таксама як і адказ, палічыла за пахвалу і, засмяяўшыся яшчэ раз, яна ветліва пакланілася яму, а пасля ўсю сваю ўвагу скіравала на Капітана, які, уласна, пачаў са смешнаю жэстыкуляцыяй расказваць Ідзе пра новую моду.

– Носяць, – казаў ён, – доўгія кашаміравыя баядэркі альбо пелярынкі з цюлю, скроеныя ў чатыры зубчыкі; газавыя[80] *густачкі* ўжо не лічацца рэдкасцю; да кудзерак прыпінаюць дыяменты ў форме паўмесяца, а пад грэбні не шкадуюць залатых шпілек.

Пані Харунжыха, якую прывабілі гэткія любыя ёй навіны і якая не спускала вачэй з Капітана, памянялася месцамі з мужам; Маршалак, карыстаючыся новым суседствам, пачаў, звяртаючыся то да яго, то да пана Падстоліца, апавядаць пра вялікі пажар, што адбыўся ў Фезе, пра блакаду Алжыра ды пра іншыя важныя здарэнні[81]; Астольф завалодаў увагаю Уладзіслава, апісваючы яму нейкае паляванне; Іда слухала Маршалка, прыглядаючыся да пана Падстоліца: дарэмна Капітан часта звяртаўся да яе падчас свайго апавядання; адна Харунжыха з выразным захапленнем лавіла кожнае яго слова. Ён быў у сваёй стыхіі.

– Бачым мы, – казаў ён, – у чароўных парках Варшавы шмат чорных карункавых *густачак*, а таксама муслінавых, празрыстых, багата *хафтаваных*. *À propos*[82]: мушу *пагваліцца* перад пані *Гарунжыхай*: учора я наведваў нашае мястэчка і купіў сабе *хэтага капелюша*.

І, звяртаючыся да Іды, запытаўся:

– Што пані скажа пра гэты набытак майго туалету?

– Пан Капітан няхай прабачыць, але я не чула пра што гаворка, – адказала Іда.

– Не чула пані *маю маленьку пагвальбу*! – выгукнуў Капітан. – Вось...

Але Харужыха не дала яму закончыць:

– Я загадала пашыць мне сукню з *gros-d'automne*[83] для шпацыраў падчас кірмашу; яна будзе аздобленая фальбонаю з аблямоўкаю. Будуць у нас

таксама цірольскія капелюшы з чорнага аксаміту і з белымі вэлюмамі, на якіх пабачыш сюрпрыз – той узор, якому ты нас навучыў.

– Ах, гэта вялікі *хонар* для мяне, – выгукнуў Капітан. – Я жадаў бы, аднак, каб да тых *сукняў* дадаць аблямоўку з падвойных *буфаў* альбо з *рулеткаў*[84] па тры на скос. – І, ківаючы галавою, дадаў: – Ах, каб пані *Гарунжыха* ведала, *якіх* я цяпер *узоры* навучыўся!

– Ах! Як добра! Загадаю прынесці іголку... Альбо пакінем гэта на потым, Капітане, – міла прамовіла Харунжыха, – навучыш пасля маю гардэробную. Дык вось, у новых сукнях пры станіку будуць паскі, якія завязваюцца на баку, а можа, нават перавязь з патройнымі ружачкамі з цюлю, як параіш? Вось накшталт такіх. Устань, Іда, – яна схапіла дачку за руку і павярнула плячыма да Капітана, нібы спецыяльна, каб ён палюбаваўся зграбнай постаццю дзяўчыны. – Тут вялікія фалды, а знізу – фальбоны *a la houssarde*...[85]

Адчыніліся дзверы ў пакой направа, і камердынер важна загукаў:

– Сняданак гатовы!

Гэтыя словы перапынілі ўсе размовы і збянтэжанасць Іды.

– Калі ласка, панове, – сказала Харунжыха, падаючы Маршалку руку.

Іда, карыстаючыся сваім становішчам, пакінула Капітана і падала руку пану Падстоліцу.

## Раздзел шосты

# ШТО ГАЛАВА, ТО РОЗУМ

Wstają z martwych, przechodzą na prawdy źwierciadła,
Od czoła ich Plutona przyłbica odpadła,
I żelazne na piersiach łamią się pokrycia,
W których myśli i chęci taili za życia.

Ad. Mickiewicz, *Wiersz do Lelewela*[86]

Усе ўвайшлі ў пакой, гэткі ж чысты, як і зала, з гэткаю ж самаю павуцінаю на столі, з такою ж самаю падлогаю і фіранкамі, з гэткім ж абшарпанымі ружовымі шпалерамі, з тою толькі розніцаю, што на сценах вісела некалькі алейных карцін і блізу двух дзясяткаў малюнкаў алоўкам.

Перад канапаю стаяў накрыты стол, абрус быў галандскі, але зацыраваны і нават дзіравы шмат у якіх месцах; некалькі талерак з паабіванымі краямі, нажы і відэльцы з аблезлаю эмаллю, місачка з маслам, дзве місы з тонка парэзанаю вяндлінаю, адна – з чорным хлебам, сальніца, пляшка гарэлкі і кілішак для лікёру былі прыгатаваныя для сціплага сняданку.

Толькі Пан Харунжы наліў кілішак гарэлкі і сказаў: – У рукі *таксама* пана Маршалка![87] – і хацеў выпіць, як Астольф, які адышоў быў да вакна, абыякава паведаміў: – Пан Суддзя з панам Каморнікам.

– Прыехалі? – запытаўся пан Харунжы.

– Прыехалі, – адказаў Астольф і наблізіўся да століка. Ніхто не кінуўся, як перад гэтым, сустрэць гасцей. Пан Падстоліц з непрыемнасцю звярнуў увагу на такую вялікую розніцу ў сустрэчы гасцей. Тым часам кілішак ад Маршалка перайшоў да яго; каштуючы напой, пан Падстоліц з цяжкасцю яго пракаўтнуў і перадаў кілішак Капітану. Кілішак перадаваўся па чарзе. Пані Харунжыха ветліва прапаноўвала хлеб з ёлкім маслам, а пан Харунжы, не зважаючы на гасцей, сам спажываў вяндліну.

У гэты час увайшлі ў пакой новыя госці. Адзін з іх сказаў:

– Да Вашых паслугаў!

А другі:

– Пахвалёны Езус Хрыстус.

Ніхто на гэта не адказаў. Харунжыха толькі кіўком прывітала іх, а Харунжы рукою запрасіў да століка.

Суддзя, хударлявы, у заплямленым шарачковым фраку, у момант абляцеў вачыма ўсіх асобаў ды куткі і, махаючы падраным капелюшом, казаў:

– Да Вашых паслугаў! Да Вашых паслугаў! – паўтараў ён гэта ўсім паасобку і кланяўся кожнаму з улікам годнасці больш альбо менш нізка, а потым звярнуўся да Харунжага:

– Едучы, мой ягамосць, на кірмаш блізу брамы панскага дому мелі мы на ўвазе, каб не заслужыць спагнання за ўхіленне ад выяўлення належнае

васпанству дабрадзеям *ex jure et lege*[88] павагі, з-за таго, што прапусцілі аказію склалі васпанству дабрадзеям нашую субмісію[89] ў іх уладаннях.

І ён шаркнуў нагою.

Харунжы з поўным ротам вяндліны не мог прамовіць ані слова; ён узяў пляшку ды кілішак і падаў іх Суддзі.

Тым часам Каморнік, з сівымі, як снег валасамі, у цёмна-сіняй тарататцы[90] з ярка-чырвоным пасам, усіх без разбору прывітаў па-старасвецку – абдымаючы за калені.

– Да васпана, – сказаў Суддзя Каморніку, наліваючы сабе кілішак; выкуліў яго да дна, скрывіўся, скрыгатнуў зубамі і, зноў наліўшы, падаў Каморніку. Той, узяўшы канфедэратку пад мышку і абодвума рукамі прыняўшы кілішак, падняў вочы ўгору і паволі пачаў піць гарэлку, але раптам аж здрыгануўся, сцяў зубы і, паставіўшы кілішак, без цырымоніі плюнуў у кут.

Іда, заўважыўшы, што пан Падстоліц не можа есці масла і закусвае нектар пана Харунжага адным хлебам, падала яму вяндліны.

– Можа, гэта рукі пані яе гатавалі? – спытаўся той ветліва, мяркуючы, што ёй прыемныя будуць гэтыя словы.

– Аканомкі, – адказала Іда і пачырванела.

– Мая дачка ў гаспадарчыя справы не ўмешваецца, – сказала, схіліўшы галаву на плячо, Харунжыха.

– Прашу прабачэння, – прамовіў пан Падстоліц. Узяўшы кавалачак вяндліны, ён падышоў да Уладзіслава, які разглядаў карціны, і сказаў: – Каб я адразу пакаштаваў гэтае вяндлінкі, дык не забыўся б, што часы змяніліся.

Апошнія словы пачула Харунжыха, якая, уласна, ішла за ім:

– Сапраўды, – сказала яна, – змяніліся часы, і мы разам з імі. Кожны век мае свае звычаі. Васпана дабрадзея маці лічыла за гонар клапаціцца пра спіжарню; кухню і ўсю малочную гаспадарку мела за сваю павіннасць, але ж сама яна ўжо не прала і кроснаў не ткала. Бабкі нашыя пралі і ткалі, але ж не насілі ваду і не мылі бялізну, як каралевы ў Гамера, які, калі б дажыў да нашага часу, праславіў бы цудоўны густ і больш годныя забавы цяперашніх дам.

Што ж было адказаць на гэта? Проста зганіць новыя звычаі альбо пачаць доўгія развагі пра абавязкі гаспадыні? Было гэта нясвоечасова і недарэчна, таму пан Падстоліц нічога не адказаў.

– Гэта намалявала мая дачка, – дадала Харунжыха, паказваючы на карціны.

Шчыра ўзрадаваны, што ў гэтым доме знайшоў адзін, хоць не зусім адпаведны для вясковае дамы, але варты ўсялякае пахвалы занятак, пан Падстоліц пачаў хваліць талент мастачкі. Найбольш зацікавіўся ён копіяй малюнка Ван Дэйка[91], на якой была выява галавы няўклюднага фламандца.

– Гэта партрэт майго мужа, – сказала Харунжыха, – а гэта мой, –паказала яна на выяву Флоры. – Я павесіла яго ў цень, бо ён не надта ўдалы. Гэта адна з першых ейных прац, рысы тут грубаватыя.

Сапраўды, як на Флору, рысы Харунжыхі, нягледзячы на ўсе старанні пэндзля, былі грубаватыя. Хутчэй, гэта можна назваць пародыяй на Флору. Аднак пан Падстоліц лічыў, што малюнак быў дастаткова дакладны – гарманічна скампанаваны, з густоўнай драпіроўкай.

– А што ж *таксама якраз*, мосці Маршалку дабрадзею! – голасна прамовіў, беручы ў рукі пляшку і кілішак, Харунжы. – Пасля вяндліны *таксама якраз* і другі раз не зашкодзіць?

І ён пачаў налíваць свой нектар.

– Калі не дапаможа, дык і не зашкодзіць, – падхапіў з усмешкаю Суддзя. – *Bis repetita placet*[92].

Маршалак прыняў кілішак, пакаштаваў напой, зморшчыўся і, з цяжкасцю яго глытаючы, вытрашчыў вочы ды паказаў кілішкам на пана Падстоліца. Пакланіўся пан Падстоліц і зноў адвярнуўся да карцін. Кілішак перайшоў у рукі Суддзі, які адным глытком выпіў ды падаў Каморніку.

– Не трэба, не трэба, – казаў, кланяючыся, Каморнік, але з-за ветлівасці не адважыўся адмовіцца. Ён узяў і, падняўшы вочы ўгору, можа, адбываючы гэтым пакуту за нейкія грахі, пацягнуў смачнага ліквору, зноў здрыгануўся ды плюнуў у кут.

Тым часам і іншыя пачалі разглядаць карціны. Капітан у сваёй звычайнай манеры захапляўся прыгажосцю карціны, якая яму найбольш падабалася. Была гэта копія Гроа, вучня Давіда, з выяваю Напалеона, які наведвае шпіталь у Яфе[93], калі пошасць сталуміла мужнасць французаў. З бясстрашнаю адвагаю гэты правадыр кранае заразнага жаўнера, а ў вачах хворых была радасць, што побач з імі герой, і здавалася, што ягоная прысутнасць вяртае ім страчаныя сілы.

– Гэтая карціна, – сказаў пан Падстоліц, – павінна быць важным урокам для нас, бо мы занядбалі абавязак ратаваць нашых хворых сялян, якія часта занемагаюць з-за працы на нас. Сама прысутнасць уладальніка ці пана пераканае хворага, што мы прагнем палегчыць ягоныя пакуты, ацаліла б не адно жыццё, якое згасае.

– А няхай нас пан Бог бароніць! – азвалася Харунжыха. – Было б дзеля каго рызыкаваць сваім здароўем. У іх ёсць свае лекі.

Маршалку найбольш спадабалася копія Пусіна[94], на якой быў малы Маісей, які таптаў карону фараона. У гэтай копіі было захавана асаблівае майстэрства мастака паказваць моцныя пачуцці, што абудзіла ў Маршалка нейкія ўспаміны, і з яго вуснаў сарваліся ледзь чутныя словы:

– Так сёння мой гонар хацеў прынізіць. О! Не прабачу яму гэтай зухаватасці. Нават асэсарам земскім[95] ніколі ён не стане.

– Гэта *якраз* адно забаўкі, мосці дабрадзею, – сказаў, падыходзячы да яго Харунжы, – адно забаўкі. – І з канфідэнцыяльнаю ўсмешкаю дадаў цішэй, але так, што ўсе маглі пачуць: – А што *таксама* самае добрае, дык *якраз* настаўнік малявання, які вучыў гэтаму, з тае прычыны *таксама якраз*, што быў *таксама* ваеннапалонны 1812 году, дык ён задаволіўся *таксама якраз* вэксалем.

– Сапраўдны талент, – азваўся пан Падстоліц, – прыгожыя карціны.

– Гэтак, – пацвердзіў Харунжы.

– Я, – сказаў, сядаючы, Маршалак, – ніколі не меў вялікае прыхільнасці да гэтых твораў народнае фантазіі, бо ведаю, што мастакі не здолеюць падняцца да вяршыняў свайго прызначэння без падтрымкі мецэнатаў, калі іхнія паны не апякаюць іх. Я гатовы кожны талент асыпаць пахваламі. Але плаціць за карціны, не зважаючы на іх цану, як робяць асобныя, лічу за вынік дзівацтва і фантастычных уяўленняў маіх братоў-шляхты. Бо нават, сягаючы ў таямніцы

густу, калі пасвяціць сабе паходняю праўды, не магу зразумець, чаму павінны даражэй ацэньваць працу нейкага там Рэмбранта, Рафаэля альбо Чаховіча[96], а танней – пэўнага маляра, што сцены фарбуе. Фарбы каштуюць аднолькава, працы там яшчэ больш, і прыгажосць такая самая.

– А мне здаецца, – дадаў Суддзя, – што гэта ўсё толькі марнаванне часу. Для забавы хай сабе, але прафесійных мастакоў, як гультаёў, я ўсіх бы выгнаў з краю. Рымляне, мой ягамосцю, мудры народ, лепш за нас ведалі вартасць рэчаў, а напісалі, як даводзіць пан Прэфэкт нашае школы, *pictura tabulae cedit*[97], гэта значыць, што яны ацэньвалі карціну танней за палатно, на якім яна намаляваная, як пра гэта можна перакanaцца з *lege vigesima tertia*[a].

– Перапрашаю, мосці Суддзя, – перапыніў яго Каморнік, – Выганяць нашых мастакоў нельга: я сам бачыў, што гэта яны малююць тыя прыгожыя чырвоныя і залатыя абразы, распісваюць харугвы і лаўкі, якія бачым мы ў нашых касцёлах.

– Пэўна, – сказаў Маршалак, – воку больш прыемна спачываць на сценах, аздобленых фарбамі альбо ўпрыгожаных партрэтамі продкаў. Абы тых людзей не малявалі занадта высокімі альбо бледнымі, і каб крыху менш было густога ценю…

– Гэтак, – уставіў Харунжы. – *Якраз таксама* ў кнізе пана Маршалка пад тытулам *АПІСАННЕ РОЗНЫХ НАРОДАЎ*[98], *якраз* пра кітайцаў, мосці дабрадзей, пішуць *таксама*. Аднак гэты народ *таксама* такі мудры *якраз* і *таксама* такі старажытны, што аж страх, а малюе *якраз* гэтак, усё, як у натуры. Вось гэта край *таксама якраз*, мосці дабрадзею! Золата па калені, а мужыкоў *таксама* аж топяць, гэтак *якраз* іх шмат. Там *якраз* чалавек бы пра мужыкоў не турбаваўся б: *якраз* за кавалак *таксама* хлеба колькі хочаш рук будзеш мець. Зямлі *якраз таксама* не шкадуюць як тут *якраз*; дамоў *таксама* не будуюць двухпавярховых *якраз*. Карак там чалавек *таксама якраз* не зломіць на тых *таксама якраз* сходах…

– Ані галавы, – дадаў Уладзіслаў.

– Ані галавы, – падхапіў Харунжы. – Усе *таксама*, як у нас было раней, ходзяць *якраз таксама* там з шаблямі, а вітаючыся *таксама якраз*, укленчваюць *якраз* перад урадоўцамі.

Здзіўлены гэткаю неспадзяванаю эрудыцыяй Харунжага Капітан сказаў:

– Пан *Гарунжы* мусіў шмат сабе *задаць утрудненняў* на чытанні *ксенгі*, бо сумняюся, што ён *зведаў тых краяў*.

– Гэтак, – адказаў Харунжы. – Калі падмяняў *таксама якраз* пана Маршалка. У канцылярыі ёсць *таксама* палова кніжкі пад тытулам *таксама АПІСАННЕ РОЗНЫХ НАРОДАЎ*. Сакратар *таксама* піша, а мне што рабіць? Заўсёды тады *таксама* чытаў, але з тае прычыны *якраз*, што толькі частка, дык толькі *якраз* пра Кітай заўсёды чытаў, ужо даўно *таксама якраз*.

Тым часам Маршалак, павярнуўшыся да Суддзі, які ўжо даеў усю вяндліну, запытаўся:

– Ці не чуваць, васпане, чаго новага?

– Амаль нічога, – адказаў суддзя. – Да актавага рэестру дадалося на гэтым тыдні толькі дваццаць пяць запісаў, да сумарыйнага…[99]

---

[a] Закон дваццаць трэці.

– Мяне не гэтыя навіны цікавяць, – перапыніў яго Маршалак, – а палітычныя.

– І там мала навінаў, – адказаў Суддзя. – У апошнім нумары “Kuriera Litewskiego” толькі пару дзясяткаў абвестак пра ліцытацыю маёнткаў на Беларусі ды некалькі пра эксдывізіі ў Літве.

– Гэта ў дадатку, – нецярпліва перапыніў яго Маршалак, – а што ў самой газеце? Пошта мусіла прыйсці пасля таго, як я пакінуў свае парогі і да гэтага часу заслона невядомасці хавае ад мяне ўсё, што там дзеецца на свеце.

– Самой газеты я не чытаў, – сказаў Суддзя, дастаючы з кішэні скруткі папер, – і ніколі не чытаю. Але тут у мяне ёсць дзесьці апошні нумар; калі пан Маршалак пажадае зірнуць... Вось ён.

Схапіў Маршалак газету і пачаў праглядаць яе з такою жарсцю, з якою дваццацігадовы хлопец чытае першы ліст ад свае каханае. Астольф схапіў дадатак і, ледзьве на яго зірнуўшы, выгукнуў:

– Дзіўная рэч, мама! Новы заробак, які нам і не сніўся.

– Што там? – у адзін голас запыталіся Харунжы і Харунжыха, падыходзячы да яго, і ўсе таксама атачылі столік ля канапы.

– Пэўны немец, – апавядаў Астольф, – які толькі што прыехаў з Рыгі ў Вільню, дае абвестку, што яму патрэбныя чалавечыя валасы, і ён добра заплаціць. Мама! Гэта чысты прыбытак! У нас жа набярэцца ў воласці блізу сотні косаў; загадаем зараз жа ўсім мужыкам адгадаваць чупрыны, і потым штогод будзем іх стрыгчы, як бараноў. Гэта азначае больш-менш дзве тысячы злотых чыстага прыбытку.

– Пакажы! Гэта было б некалькі вазонаў і некалькі сукенак задарам, – сказала Харунжыха, вырываючы ў сына газету.

– *Уцяміўшы ўсю справу*, – прамовіў паважным голасам Харунжы, – бачу, што *таксама* гэта *якраз* чысты прыбытак.

– Абы толькі не скупою рукою давалі нам за гэта галандцаў, – сказаў Маршалак, зазіраючы праз плячо Харунжысе, якая чытала. – Фурамі будзем дастаўляць ім гэты тавар. Гэта вартае нашае спекуляцыі, мосці Падстоліц.

– Не маем права, – з усмешкаю азваўся пан Падстоліц. – Валасы належаць таму, на чыёй галаве яны выраслі.

– Як гэта? – здзівіўся Маршалак. – Што натура ўзгадавала на маёй глебе, тое належыць мне.

– Гэтак, як і мёд нашых сялян, – дадаў Суддзя, падняўшы ўгору палец. – Калі збіраем на зямлі *fundi*, дык належыць *ad dominum fundi*[b]. Хоць у нашых законах пра гэта выразна не сказана; але гэта ўсё роўна, бо гэткі звычай існуе спрадвеку. Аднойчы я меў працэс з пэўным прафесарам, дык пачуў ад яго, і запісаў як бясспрэчны аргумент, што ў рымскім праве сказана: права ўласнасці набываецца таксама і па ўяўным паданні, калі з аднаго боку ёсць спажыванне, а з другога – цярплівасць. *Lege prima, paragrapho ultimo*[c].

– Навошта нам абгрунтаванне пісаных законаў? – перапыніў яго Маршалак. – У кнізе адвечнае справядлівасці запісана, што не толькі мёд і ўсе плады працы прыгонных, але і самі прыгонныя, а таму і іхнія валасы, з’яўляюцца нашай уласнасцю.

[b] Уладальніку маёнтку.
[c] Закон першы, параграф апошні.

– Гэтак, – пацвердзіў Харунжы.

– Але гэта відавочна! – выгукнуў Астольф. – Каму належыць зямля, таму і плады. Каму кветкі – таму і сокі тых кветак. Каму галава – таму і валасы з тае галавы.

– Слова *хонару*! Праўда. Люблю я цябе, – падхапіў Капітан. – Не толькі валасы, бо каб нам трэба было браць іхнія зубы, ніхто нам не забароніць, *право*.

– А ці ж гэта па-хрысціянску? – спакойна запытаўся Каморнік.

Толькі пан Падстоліц і Уладзіслаў не абурыліся на Каморніка; Маршалак зірнуў на яго з пагардаю; Капітан зморшчыўся і паківаў галавою, пані Харунжыха зласліва ўсміхалася; Астольф прашаптаў бацьку на вуха:

– Ці не выгнаць нам Каморніка?

– Аднак выбары *якраз*, – адказаў Харунжы. – І вэксаль *таксама* ў яго мой *якраз* ёсць. – І, звяртаючыся да Маршалка, ён падняў зноў бутэльку і сказаў: – *Уцяміўшы ўсю справу*, праўда – на дне *таксама*.

Маршалак кіўнуў галавою, а Суддзя дадаў:

– *In fundo veritas*[d].

– Ці не страціць шаля цвярозасці? – прымаючы кілішак запытаўся Маршалак.

– *Omne trinum perfektum*[e], – падхапіў Суддзя, запіхваючы свае газеты і паперы ў кішэню, каб хутчэй прыняць кілішак.

Далучыўся да іх і Астольф. Толькі пан Падстоліц, Уладзіслаў і спешчаны Капітан адмовіліся. А Каморнік ізноў, хоць з відавочнаю агідаю, мусіў прыняць як ахвяру за грахі гэты горкі пачастунак пана Харунжага.

Тым часам Харунжыха, прыклаўшы раптам палец да ілба, паднялася і, даўшы знак Астольфу, нібы яна нешта піша на руцэ, выйшла з ім у залу.

Капітан гэта заўважыў. Ён прабегся вачыма па ўсіх прысутных, а потым з усмешкаю падышоў да Уладзіслава, узяў яго пад руку і выйшаў з ім на ганак.

Маршалак працягваў гутарку з Суддзём і Харунжым пра навіны і працэсы. Каморнік сеў непадалёк ад іх і спачатку моўчкі слухаў, а потым задрамаў. Пан Падстоліц, пакінуты пасярэдзіне пакоя з Ідай, падышоў з ёю да карцінаў і сказаў:

– Віншую пані, такі цудоўны талент! Тым больш, што, як я чуў, настаўнік у пані быў выпадковы.

Іда сціпла пакланілася, а пан Пастоліц працягваў:

– Пані вельмі добра выкарыстала навуку, а гэта варта тым большае пахвалы, што, пэўна ж, у дачкі гаспадыні дома часу застаецца мала, каб шмат яго прысвяціць на развіццё таленту.

– Мая мама, – адказала Іда, – забараняе мне займацца гаспадарчымі справамі.

– І пані не мае ахвоты да хатніх клопатаў, да гаспадаркі і парадку, які ашчаджаючы выдаткі, памнажае прыбыткі і робіць больш прыемным вясковае жыццё ды, апрача таго, дае магчымасць зрабіць дабро бліжняму?

– Доўга не было ў мяне да гэтага аніякае ахвоты, – адказала Іда, – але нядаўна я выпадкова прачытала некалькі кнігаў для гаспадыняў, і мне спадабаліся абавязкі добрае гаспадыні. Можа, таму, што я люблю вёску.

---

[d] На дне праўда.

[e] Кожная тройца дасканалая.

– Раз у пані ёсць ахвота, – сказаў пан Падстоліц, – дык лёгка знайшоўся б занятак.

– Не магу, мосці Падстоліцу, – адказала Іда, падымаючы на яго вочы. – Гэта не спадабалася б маёй маме; хоць я і адчуваю, што мусілі мы прапанаваць гасцям штосьці лепшае за тое, чым мы сёння паноў пачаставалі. Бянтэжыць мяне, што наш дом не надта гасцінны для паноў...

– Не кажы пані гэтага, – спыніў яе пан Падстоліц. – Гэтакі лад думак мне больш даспадобы, чым усе задавальненні, якія можна было тут спаткаць. Мае гады вызваляюць мяне ад цырымоній, дык я скажу шчыра, што гэтым сваім прызнаннем пані мяне абавязала; і калі мае прадчуванні спраўдзяцца, дык я маю надзею, што некалі мы бліжэй пазнаёмімся і будзем сябрамі.

Зазірнула яму ў вочы Іда, нібы жадаючы здагадацца, якое значэнне маюць апошнія словы, і прамовіла:

– Я даўно ўжо паважаю пана Падстоліца. У апошні асабліва час, калі пачую пра яго, дык заўсёды шкадую, што мы не суседзі; бо добры прыклад, можа, і на нас бы падзейнічаў.

## Раздзел сёмы

# МАЛЫЯ СРОДКІ ПАЛЯПШЭННЯ БЫТУ

Łub się zapuszcza w wieści labirynt ciekawy,
Z przeszłych ucząc się badać przyszłe świata sprawy.
Owdzie stół otoczyła gromada wesoła,
Niepewne biorąc kartki z fortunnego koła.
Tych choćby los omylił w nadziejach zwodliwych,
Wygrają zawsze rozkosz wsparcia nieszczęśliwych.

An. Odyniec, *Kasino*[100]

Размову з Ідаю перапыніў Капітан, які з грукатам і рогатам ускочыў у пакой; за ім увайшоў Уладзіслаў. Яны разам накіраваліся туды, дзе сядзеў пан Падстоліц з Ідаю; але Суддзя, паспешна ўстаўшы з крэсла, перахапіў на сярэдзіне пакоя Капітана і, узяўшы яго за гузік, сказаў прыцішаным голасам:

– Здаўна ўжо хацеў я пазнаёміцца з ягамосцям. Хоць эксдывізія ягамосця ўжо скончаная і не было апеляцыі, аднак жа можа і *per fas et nefas*[f] павінна быць узноўленая. Крэдыторы ягамосця, скарыстаўшы бяспрыкладную спагадлівасць суду, усе атрымалі за палову вартасці сваіх сум па кавалку панскага маёнтка, не выключаючы ні працэнтаў, ні юрыдычных выдаткаў, ні ўсялякіх іншых несправядлівых налічэнняў. Гэта для ягамосця відавочная крыўда. Калі ягамосць жадае, дык я магу ягамосцю падказаць пэўныя і надзейныя спосабы, каб атрымаць назад вялікую частку спадчыны, гэтак марна падзеленае бязлітаснымі, ці, хутчэй, залагоджанымі праціўным бокам суддзямі.

Капітан сардэчна абняў яго і пад руку павёў да вакна са словамі:

– Мяне пераконвалі, што пан Суддзя *ўсю сваю здольнасць* прыкладаў, каб разам з крэдыторамі *зрабіць для мяне плюгаўства*; а калі сёння *гоча* ўдзяліць прыяцелю *сваё высокае святло*...

Далей нічога не было чутно, бо яны пачалі ціхую нараду між сабою з відавочнаю зацікаўленасцю Суддзі і задаволенасцю Капітана.

Тым часам Маршалак, карыстаючыся тым, што Суддзя адышоў, а Каморнік дрэмле, і, мяркуючы, што занятыя размоваю з Ідаю пан Падстоліц і Уладзіслаў нічога не пачуюць, нахіліўся да Харунжага ды паважна-таямнічым тонам пачаў казаць:

– Маспане, я пераступіў панскі парог, каб паказаць свету, што асоба пана Харунжага годная пашаны, калі высокія ўрадоўцы яго наведваюць.

– Як жа аддзячыць *якраз* мосці Маршалак... шмат гонару *таксама*... нават шчасця... *уцяміўшы ўсю справу*, *таксама*...

– Кажаш васпан пра ўдзячнасць, – перапыніў яго Маршалак. – Можаш мне яе выказаць. Вялікія непрыемнасці пагражаюць намерам, якія распачаў я дзеля дабра павету. Шамбялян больш настырна, чым калі-небудзь, імкнецца

[f] Гэтая прымаўка адпавядае французскай *Coute se qui coute* і азначае: праўдаю і няпраўдаю.

да пасады маршалка; нават частку маіх прыхільнікаў ён на свой бок перацягнуў. Усе дадзеныя мне натураю здольнасці скіроўваю я на паслугі шляхце, безупынная праца клапатлівае пасады ...

– І *таксама якраз* я, – уставіў Харунжы.

– Ведаю, ведаю, – спыніў яго Маршалак, – але я за сваю працу набыў права на пэўную ўдзячнасць і ўзнагароду; а наймілейшаю для мяне было б тое, каб ласкавая шляхта дазволіла мне яшчэ і далей на гэтай пасадзе служыць ёй. Маю надзею, што павага, якую выказваю пану Харунжаму, абавяжа яго да дапамогі мне.

– Як гэта разумець? – ціха запытаўся ва Уладзіслава пан Падстоліц. – Сам скардзіцца на цяжкасці службы, а ва ўзнагароду прагне не спакою, а зноў тых самых клопатаў.

– Няхай пан удае, што нічога не чуе, – адказаў Уладзіслаў, – можа дачакаемся разгадкі гэтае загадкі.

Тым часам адказваў Харунжы:

– Мосці Маршалак дабрадзей, *я таксама якраз* не пакіну пана Маршалка; але *таксама* ўзаемна трэба *якраз* мне быць Падкаморым. Аднак, *уцяміўшы ўсю справу*, і мяне *якраз* узнагародзіць павінны. Пан Маршалак *таксама* і сам ведае, што *таксама* я падмяняў яго *якраз* на ягоным месцы *таксама*. Хіба, пацісне́м рукі...

– Слова гонару, – перапыніў яго Маршалак, – гонарам прысягаю, што ўсе мае магчымасці скірую на дапамогу пану Харунжаму.

– Мосці Маршалак дабрадзей, – падхапіў, нахіляючы галаву, але гледзячы яму ў вочы Харунжы. – Толькі прашу *якраз* не загневацца *таксама*. *Уцяміўшы ўсю справу*, *якраз* і на мінулых выбарах прысягаў мне *таксама* гэтае самае пан Маршалак...

– Воля чалавека, – не даў яму скончыць Маршалак, – часам мусіць падпарадкавацца звышмоцным акалічнасцям; але цяпер можа васпан верыць, што я не падвяду. Апрача таго, маспане, – дадаў ён цішэй, – абяцаю васпану пры размеркаванні публічных павіннасцяў палёгку, як галоўным маім надзейным прыхільнікам...

– Гэтага мала... – хацеў дадаць нешта Харунжы.

– Як уласным маім маёнткам, – дадаў Маршалак. – Толькі будзь васпан верным і трымай язык за зубамі. Няхай дробная шляхта нас выручае.

– Вось і разгадка, – шапнуў Уладзіслаў пану Падстоліцу, які паціснуў плячыма, а Іда пачырванела.

– Добра-добра, – адказаў Харунжы. – Далібог *якраз* буду. Бо *таксама якраз* слушна, няхай яны працуюць *таксама* за нас. Мы ж прэзентуем павет... гэта *якраз* шмат каштуе. Але, мосці Маршалак дабрадзей, ці нельга як пераласці падаткі *таксама* з нашых маёнткаў на іх *якраз*...

– Гэта не ўваходзіць ў абшар мае ўлады, – адказаў Маршалак. – Што змагу, тое зраблю; абы толькі васпан быў мне верны.

– Далібог... усімі святымі *якраз* прысягаю... прысягне *таксама якраз* і мая жонка. Але, – дадаў ён, схіляючыся яшчэ ніжэй і зазіраючы яму ў вочы, – няхай не прагнявіць *таксама* тое, што *якраз* за яго, за Шамбяляна, як бы гэта *якраз* сказаць... так... *уцяміўшы ўсю справу*, буду толькі *якраз* так... для віду *таксама*, а верным застануся *якраз* пану Маршалку; бо ён *якраз* прыцісну́ў

*таксама* мяне, і я яму паабяцаць *таксама* мусіў, бо ён *якраз* мне *таксама* абяцаў дапамагаць.

– Але мне, васпан, не здрадзіш? – запытаўся Маршалак.

– Няхай заб'е *якраз*, калі *таксама* здраджу, мяне пярун.

– Веру слову васпана, якое датрымаў і на мінулых выбарах. Можна для віду быць за яго, бо іначай не атрымаецца. Прашу толькі памятаць, што ў агульным размеркаванні цябе, пане Харунжы, я не буду ашчаджаць, але гэта таксама для віду. Каб паказаць прыклад і каб шарачкі не наракалі. Не так, як іншыя, баязлівыя маршалкі, я загадаю пісаць без розніцы што для натоўпу, што для мяне, што для маіх прыхільнікаў, але гэта толькі для віду. Земская ж паліцыя ведае ад каго колькі спаганяць, бо сама, будучы ў падпарадкаванні земскага суду (у якім я маю сваіх прадстаўнікоў) і ведаючы пра мае добрыя дачыненні з губернскаю ўправаю...

Гэтую размову перапыніла Харунжыха, уваходзячы разам з Астольфам у пакой. У руках яна трымала карткі паперы, убачыўшы якія Іда ізноў пачырванела.

– Прашу паноў у кола, васпанства, – пачала з ўсмешкаю Харунжыха. – Ха-ха-ха!

Усе сабраліся каля століка, падышоў нават абуджаны Каморнік. А Харунжыха завяла сваім яшчэ больш тонкім, чым звычайна дыскантам:

– Нарабіла я сабе лішняга клопату, мосці Маршалак дабрадзей, тым, што паказала, якое ў мяне добрае сэрца. З таго часу не маю спакою. Вось і цяпер адна ўбогая ўдава, у якое некалькі дробных дзяцей-сірот, даслала мне капялюш, каб разыграць яго ў латарэю. Ён, сапраўды, прыгожы і амаль не ўжываны, але трохі дарагаваты, бо яна ацаніла яго больш, чым за сто злотых. Але што зробіш? Бедная, яна мае, хіба, апошнюю надзею на гэта, каб неяк з дзецьмі выжыць. І, панове, спадзяюся, пажадаюць прыняць ўдзел: асушыць слёзы і падаць руку дапамогі няшчасным. Вось білеты. Загадае пан Маршалак даць яму?

– Маспані, – устрывожана пачаў Маршалак, – цяжкія часы. Неба надарыла мяне ўласнымі нашчадкамі і выбары на носе...

– Але хоць адзін білецік! – прасіла, прыкладаючы рукі да грудзей, Харунжыха.

– А які кошт? – запытаўся Маршалак, працягваючы ўжо руку да білетаў, якія расклала перад ім Харунжыха.

– Дробязь, – адказала яна тоненькім голасам, – па дзесяць злотых.

Маршалак адхінуўся так, што аж сеў на канапу і ўтаропіўся на пана Падстоліца, да якога, каб даць Маршалку ачомацца, павярнулася Харунжыха. Пан Падстоліц, упэўнены, што яго не абміне гэтая кантрыбуцыя, палічыў за лепшае, папярэджваючы яе просьбу, аказаць Харунжысе ветлівасць. Ён дастаў дзесяць злотых, паклаў іх на сярэдзіну стала і ўзяў, не выбіраючы, білет. Капітан таксама, не чакаючы запрашэння, прамовіў:

– Чыё сэрца не чуе *прыемнасць* у выціранні *слёзаў* нешчаслівым, той не варты прыхільнасці дабрадзейкі пані *Гарунжыхі*.

Ён паклаў дзесяць злотых і паглядзеў на Уладзіслава. Нічога не кажучы, Уладзіслаў заплаціў за білет. А Харунжыха прамовіла:

– Галубок мой, і ты вазьмі.

Вытрашчыў было вочы Харунжы, але ейнае добра ўсім бачнае падміргванне выклікала і ў яго ахвоту падаць руку няшчаснай сіраціне.

– А які выбірае пан Маршалак? – запыталася Харунжыха, нібы ўжо перакананая, што ён возьме.

Маршалак скрывіўся, але, не жадаючы выглядаць горш за іншых, заплаціў дзесяць злотых і доўга выбіраў сабе білет, а выбраўшы, загарнуў яго ў паперку і схаваў.

– А вы, панове? – звярнулася Харунжыха да Суддзі і Каморніка.

Суддзя нізка і таропка пакланіўся ды адказаў:

– Больш за дзесяць працэсаў у мяне на карку. Не магу.

І хацеў ужо адысці, але Астольф затрымаў яго на знак Харунжыхі, якая, падышоўшы, ціха сказала яму:

– Буду прасіць майго кузіна, прэзідэнта Другога дэпартаменту[101], каб прызначыў васпана на тую эксдывізію... ведаеш, што гэта...

Суддзя жвава два разы пакланіўся і ўзяў білет.

Пасля гэтакае перамогі, на якую ніхто не спадзяваўся, Харунжыха звярнулася да Каморніка:

– Мой Каморніча, – ласкава зацягнула яна, – зробіш падарунак сваёй жонцы, калі выйграеш гэты капялюш. Жонка васпана ніколі падобнага не мела. Вазьмі білет.

– Дабрадзейка, мая жонка – старая, – адказаў Каморнік. – Не было ў яе модных строяў і не хацела іх мець ніколі, а цяпер і не трэба яны ёй. Дык не для выйгрышу, а дзеля славы Божае, з любові да бліжняга ахвярую я дзесяць злотых.

Пакуль Каморнік, які, выцягнуўшы хустачку з кішэні, развязваў вузел, пані Харунжыха зноў звярнулася да пана Падстоліца і, ківаючы галавою, прамовіла:

– Мосці дабрадзей, дзесяць злотых для васпана дабрадзея нічога не значаць, няхай пан возьме яшчэ адзін білецік.

Заплаціў пан Падстоліц яшчэ за адзін, а Капітан сказаў:

– Цешуся, што і для нас з Уладзіславам дзесяць злотых у гэтую хвіліну нічога не значаць.

Уладзіслаў крыху пачырванеў, але абодва заплацілі другі раз.

– Галубок мой, – прамовіла Харунжыха, – калі ўсе бяруць другі раз, дык вазьмі і ты; мы з табою разлічымся пасля.

Гэтым разам ужо без падміргвання ўзяў білет Харунжы, а Еймосць зноў звярнулася да Маршалка:

– Мосці Маршалак дабрадзей, васпан дабрадзей як больш заможны, чым іншыя, можа, не адмовіцца і ад другога білеціка?

– А выбары, маспані, – з дакорам гледзячы ёй у вочы казаў Маршалак.

Харунжыха з усмешкаю пачала ўпрошваць:

– І выбары больш памысна пойдуць міласэрным. Малая мышка вызваліла з сеткі льва. Хто ведае? Можа, адна крэска[102] якога кузіна тае ўдавы станецца вызначальнаю для васпана дабрадзея.

Не было куды падзецца. Мусіў Маршалак, хоць і дрыжала ў яго рука, узяць другі білет, які ён таксама старанна загарнуў і схаваў.

– Можа, васпан возьме яшчэ адзін? – з усмешкаю працягвала Харунжыха, звяртаючыся ўжо да пана Падстоліца. – Які?

– Ці не занадта ўжо будзе? – прамовіў пан Падстоліц, якому гэта ідавочна надакучыла. Але ён аплаціў сваю няветлівасць набыццём яшчэ аднаго білета, які паклаў на стале побач з ранейшымі.

– Як гэта міла падаваць руку няшчасным, – казала Харунжыха. – Астатнія чатыры білеты мы забяром сабе. Я вазьму два, Іда адзін і Астольф адзін.

Іда пачырванела, але Харунжыха, не звяртаючы на гэта ўвагі, закончыла:

– Вось, мае дзеці, я сама за вас заплачу. Астольф, загадай падаць дзве вазы і пакліч Аскара з гувернёрам. Аскар будзе лясаваць.

– Я скажу, – ціха сказала Іда і, апярэджваючы Астольфа, паспешліва выбегла; здаецца, дзеля таго, каб схаваць сваю невыносную чырвань на твары і вочы, якія яна не ведала, куды падзець.

Маршалак сеў ды, відаць, забыў і пра палітыку, і пра выбары, бо моршчыўся, круціўся і маўчаў, хоць Харунжы, каб узнавіць важную гутарку, частаваў яго табакаю і таямнічым голасам казаў:

– *Уцяміўшы таксама ўсю справу*, мосці Маршалак дабрадзей, *якраз таксама* цяпер ужо Маршалак пэўны, але *таксама*, як пану здаецца, ці ўзаемна *якраз* я ўжо не прайграю?

Маршалак нічога яму не адказваў.

Расчуленая пані Харунжыха ў другім кутку канапы з усмешкаю самазадавальнення слухала, як Капітан расхвальвае яе за чалавекалюбства і добрае сэрца да няшчасных, якім яна не можа адмовіць *сваю дапамогу*.

Тым часам Уладзіслаў падышоў да пана Падстоліца, які разглядаў карціны, і ціха сказаў:

– Здаўна ўведзены ў гэтым доме звычай разыгрываць нешта на латарэі. Варта сабрацца тут некалькім гасцям, дык адразу знаходзіцца нейкая няшчасная ўдава альбо сірата, якія паміраюць з голаду, і нарэшце з'яўляецца рэч, якую раней бачылі ў гаспадароў. Але білеты ніколі яшчэ не былі гэткія дарагія. Пані Харунжыха мае намер зрабіць фурор на кірмашы, а грошай, як мы раніцаю чулі, у іх няма.

– Ці можна гэтак прыніжацца? – здзівіўся пан Падстоліц.

– Яны думаюць, што гэтага ніхто не разумее, – адказаў Уладзіслаў.

– Вось да якой ступені прыніжэння даводзіць людзей безгаспадарлівасць, – сказаў пан Падстоліц, – калі яны выдумляюць гэткія спосабы знаходзіць грошы на свае патрэбы. Гэта нізкі і ганебны сродак вымагаць грошы ад таго, каму ветлівасць не дазваляе адмовіць. Калі ж толькі дзеля таго, каб пазбыцца непатрэбных рэчаў, дык чаму ж проста не прадаць іх?

– У латарэю можна ўзяць больш, чым нешта сапраўды каштуе – адказаў Уладзіслаў.

– Гэта значыць, неўзаметку аграбіць пад маскаю, напрыклад, дабрачыннасці, – сказаў пан Падстоліц. – Няхай бы спекулянткі, як пані Харунжыха, прыстойнымі іх полу і стану заняткамі сумленна зараблялі на свае патрэбы, чым гэтак выкарыстоўваючы далікатнасць мужчын, адважвацца на такія ўчынкі, якія я не магу назваць інакш, як замаскаваны разбой.

– Не заўсёды мы самі робім гэта, – адказаў Уладзіслаў. – Часам нас стрымлівае добры тон; дык тады мы ўмеем збываць білеты з дапамогаю слуг, якія ў перадпакоях ад свайго імя збіраюць гэты падатак з гасцей.

– Не кажы мне гэтага, Уладзіслаў, ні ў адным добрым доме гэтага не можа быць.

– Няхай пан зірне, – адказаў яму Уладзіслаў, – як Маршалак нервуецца. Нехта падумаў бы, што ён увесь маёнтак страціў.

– Я не ўхваляю транжырства, – сказаў пан Падстоліц, – але і ашчаднасць мае свае межы. Чуў я, што Маршалак дзеля марнае перавагі на выбарах не шкадуе гадавога прыбытку. А тут не можа авалодаць сабою з-за 20 злотых, якіх ён пазбавіўся, каб дагадзіць гаспадыні. Мог, зрэшты, і не даваць, ніхто яго гвалтам не прымушаў. Але мяне дзівіць гэты Капітан, які прызнаецца, што яму не стае на патрэбы, а тут ахвотна заплаціў кантрыбуцыю ды яшчэ расхвальвае велікадушнасць гаспадыні.

– Бо свайго нічога не даў, – адказаў Уладзіслаў. – Ён здагадаўся, чаго Харунжыха выйшла, дык вывеў мяне і пазычыў тры чырвоныя злотыя, бо, як сказаў, "забыўся *грошай* дома". Гэты марнатраўца ўжо меў адну эксдывізію, а цяпер на рэшту маёнтку набраў шмат даўгоў. Грош у руках не ўтрымае, а падхвальвае Еймосць, бо спадзяецца быць зяцем і ўзяць пасаг, пра які шмат гавораць.

– А яго няма? – запытаў пан Падстоліц.

– Мне так здаецца, – адказаў Уладзіслаў, – бо фундуш у панства Харунжых агульны, яны заўсёды разам падпісваць вэксалі, а колькі з іх, пададзеных да аплаты, прадказваюць блізкую эксдывізію іхняга маёнтку.

– Дык ты мяркуеш, васпан, што пасагу не будзе? – перапытаў яго пан Падстоліц. – Але пагаворым пра гэта пазней.

Пан Падстоліц спыніў размову, бо якраз увайшоў Аскар з гувернёрам, а за імі лёкай з вазамі, якія паставіў на стале. Аскар увесь час круціў галавою, падобна да Капітана, і змушана пакланіўся. У гувернёра была адна з тых фізіяномій, пра якія няма чаго сказаць. Усе заўважылі, што ён не выспаўся, меў кепскі настрой і быў апантаны самаўпэўненасцю, звычайнаю для няздольных людзей ягонага стану.

Харунжы прэзентаваў гасцям сынка, а Харунжыха, не губляючы час, пачала латарэю.

Астольф з абыякавым выразам твару ўкінуў білеты ў вазы, а Аскар пачаў іх выцягваць. Ён аддаваў то Імосці, то брату. Выцягнуўшы трэці білет, Астольф крыкнуў: "Выйгрыш!", а Харунжыха абвясціла: "Нумар сёмы! У каго?".

Суддзя парваў свой нумар на шматкі і з ціхім мармытаннем адышоў да вакна. Усе маўчалі. Маршалак пачаў раскручваць свае білеты. Пані Харунжыха, заўважыўшы, што білеты пана Падстоліца ляжаць на стале, кінула на іх вокам і, угледзеўшы там сёмы нумар, выгукнула:

– А! віншую! Пан Падстоліц шчаслівы! Мусіў нарадзіцца ў кашулі. Ха-ха-ха!

Пан Падстоліц зірнуў на яе са шкадаваннем, але прамаўчаў. Тым часам камердынер прынёс дамскі капялюш *à la walterskot*[103] і, падаючы яго пану Падстоліцу, ціха сказаў:

– Адвузднага[104] б, пане дабрадзей.

– Вазьмі сабе гэты капялюш, – лагодна прамовіў пан Падстоліц. – На яго ў мяне няма месца ў калясцы.

Камердынер здзіўлена стаяў з капелюшом, не ведаючы, што з ім рабіць.

– Бяры, дурніца, і падзякуй пану, – уладарна прамовіла Харунжыха.

– Але што я буду з ім рабіць? – запытаў камердынер.

– Разыграеш у латарэю, – падказала Харунжыха.

– А можа, паненка назад адкупіць? – прамармытаў камердынер.

Заіскрыліся вочы ў Харунжыхі; усе глядзелі на камердынера; Астольф паспешна выштурхнуў яго за дзверы.

– Трэба нам тыя лахманы, – сказала Харунжыха, адолеўшы збянтэжанасць. – Цэлыя склады маглі б імі заваліць. Занадта шмат мы набываем, дык усім здаецца, што мы без разбору будзем купляць. Каму што трапіцца ва ўсім наваколлі – і сваім, і чужым – дык адразу нясуць нам: ці не адкупіць паненка ці Імосць. Ха-ха-ха!

Усе маўчалі.

– Някепска часам пабавіцца, – працягвала Харунжыха, збіраючы білеты. – Хоць бы дзеля таго, каб час весялей мінуў, а тым больш, калі добрую справу зробіш.

Маршалак, які ўжо крыху супакоіўся, звярнуўся да Харунжага:

– Цяжкі час, маспане! Найлепшыя розумы ў краіне думкі не могуць трапіць на дарогу паратунку. Па якім кошце пан Харунжы прадаў сваё жыта?

– Гэтак скажу пану Маршалку, – адказаў Харунжы. – *Уцяміўшы ўсю справу*, я быў *таксама* змушаны аддаць жыта ў арэнду *якраз* падчас жніва, мосці дабрадзею.

– Гэта значыць, прадаў на корні, – сказаў Маршалак. – Я, маспане, маючы ў галаве блізкі тэрмін пачатку павятовае барацьбы, дзеля забеспячэння належнага майму стану рыштунку аддаў у арэнду толькі авёс, і той ужо напалову зжаты.

– А я, мой ягамосць, – дадаў Суддзя, – падчас траецкае кадэнцыі[105] мусіў, каб заплаціць копы[106], збыць жыдку ўвесь восеньскі ўраджай. Але хітры жыд не хацеў згадзіцца іначай, чым *certum quantum*[g]. Ураджай быў кепскі, дык калі двух спраў падчас цяперашняе кадэнцыі я не выйграю, мушу пачаць працэс з жыдам.

Пан Падстоліц, чуючы гэта, сказаў:

– Не ўяўляю сабе, каб такі дачасны продаж крэсцэнцыі[107] мог быць карысным.

– О! Несумненна, – згадзіўся Маршалак. – Але калі ўсёўладная моц акалічнасцяў адзін раз аточыць чалавека, дык цяжка яму тады перамагчы іх. Процьма хатніх патрэбаў, хцівая чарада падаткаў, хіжы тлум соймікавых коштаў…

– Ды працэнты *якраз*, з якімі *таксама* не справіцца… – дадаў Харунжы.

– Гэта дробязь, – не дала скончыць мужу Харунжыха, незадаволеная яго балбатнёю перад выбарамі. – Праўду кажучы, нават адзін грош доўгу нямілы, аднак, дзякаваць Богу, мы яшчэ ўмеем выкарыстоўваць прыбытак. Ха-ха-ха!

– Гэтак, – паддакнуў Харунжы і нечакана дадаў: – Ой, *гора-гора*[108] на гэтым свеце.

– *Hora canonica*[109], – падхапіў Суддзя.

– Але ж, праўда, – выгукнуў Харунжы, хапаючыся за пляшку, – *таксама* на *фрасунак ёсць добры трунак*[110] *якраз*, мосці Маршалак дабрадзей.

Скрывіўся Маршалак, зірнуўшы на пляшку, але ўзяў кілішак і сказаў:

[g] Пэўную колькасць.

– Падаткі, маспане, для нашых прыбыткаў – гэта Сцыла і Харыбда. Мужык не мае чым заплаціць, дык трэба за яго маёнтак закладваць. А калі на тваю шалю лёс яшчэ і працэс паклаў, дык той мусіць апошні кавалак хлеба ад роту нярасз адрываць...

– *Prima charitas ab ego*[h], – удакладніў Суддзя. – Найперш думай пра ўласныя патрэбы.

І, прыняўшы ад Маршалка кілішак, выкуліў яго да дна ды падаў Астольфу.

– Ах, патрэбы! – далучыўся да размовы Капітан, паціраючы лоб. – Я мушу прызнацца, што *гоць* бы і *гацеў*, але я не ў стане плаціць падатку.

– Калі шчыра казаць, – паведаміла Харунжыха, – дык і мне на аплату падаткаў не заўсёды хапае грошай. Хіба, дзеля гэтага трэба было б адрачыся і ад парку, і ад задавальнення тых патрэбаў, якія для мяне даражэй за жыццё.

– І я, – уздыхнуў Капітан, – *гочучы* стала іх плаціць, мусіў бы адрачыся ад майго боства – моды і ўсіх прыемнасцяў жыцця.

– Ах, і я, хіба, адмовіўся б ад сваіх працэсаў, якія вось-вось мушу выйграць, – сказаў Суддзя.

– А ў мяне, – азваўся Каморнік, – прымаючы ад Астольфа кілішак, – дзякаваць Богу, ёсць яшчэ чым заплаціць падаткі і, жывучы ў маленечкім фальварку, магу сяк-так апанаваць свае патрэбы. З Божаю дапамогаю выгадваў дзетак, даў ім выхаванне, не горшае, чым у іншых, а некаторых і цяпер кармлю.

Ён пакаштаваў зноў гарэлкі, здрыгануўся і паставіў кілішак.

– Як жа гэта магчыма? – запытаўся, скоса пазіраючы на яго, Маршалак. – Васпан не мае больш за восем дымоў.

– Не магу наракаць на лёс, – адказаў Каморнік. – Бог блаславўляе маю працу. І хоць збожжа, якое мы збіраем, не вяртае выдаткаў, але на добра ўробленым полі родзіць някепска. Але больш за ўсё дзякую Богу, што даў мне гаспадарліваю жонку. Слава на векі вякоў! Яна гэтак усё ашчаджае, што ніколі нашыя выдаткі не перавышалі нашых невялікіх прыбыткаў, і жывем мы, дзякаваць Богу, досыць выгодна. Але гэта не мая заслуга, мой дабрадзей, а мае жонкі.

– Адна справа, маспане, на малых гаспадарках, – сказаў Маршалак, – але на вялікіх, маспане, калі трэба адпавядаць свайму высокаму становішчу ў свеце, няма на сёння аніякае магчымасці пазбегнуць цяжкіх клопатаў.

– А навошта мучыцца? – запытаўся Каморнік. – Калі на вялікай – бяда, дык з вялікае заўсёды лёгка зрабіць малое. Аднак мне здаецца, што на большай гаспадарцы я жыў бы яшчэ больш выгодна.

– Якія там выгоды? – здзекліва азвалася Харунжыха. – Што гэта мне за жыццё: увесь век апранацца ў нейкі корт, дні свае праводзіць без аніякага задавальнення, без значэння ў свеце, без прыстойных строяў, без парыкоў, турэцкіх шаляў, англійскіх паркаў.

– Гэтак, – паддакнуў Харунжы.

– Без модных фракаў, без калясак і англійскіх коней, без цацак і забавак, – дадаў тым самым тонам Уладзіслаў, пазіраючы на Капітана.

– Ах, так! Так! Не можна мець выгоднага жыцця, без усяго *хэтаха*, – згадзіўся Капітан.

---

[h] Найперш мілуй сябе.

– Без судовых позваў, без няспынных пошукаў у архівах, бясконцых працэсаў і апеляцый, – дадаў, уздыхнуўшы, Уладзіслаў, гледзячы на Суддзю.

– Ах, так! Так! – згадзіўся Суддзя. – *Nulla prosperitas sine lege*[i].

– Васпан са сваімі прымоўкамі і да мяне гатовы дабрацца, – сказаў Маршалак. – Дык я сам адкрыта кажу, што, адчуваючы ў сабе высокае імкненне да славы, не шкадую нічога, абы маё імя ўзвысілася па-над прыземленасцю натоўпу. А каб утрымаць яго на той вяршыні, на якую яно ўзнеслася, натуральна, не выпадае мне рэгулярна плаціць ані працэнтаў, ані падаткаў, асабліва такіх вялікіх, як нашыя.

– Няхай дазволіць пан зрабіць дапушчэнне, – сказаў пан Падстоліц. – Каб наш селянін, у сям'і якога, скажам, чатыры працаздольныя асобы, меў магчымасць зарабляць зімою штодзённа па 20 грошай на асобу, што давала б за зіму ад 400 да 500 злотых, ці было б тады цяжка яму заплаціць нейкіх 30 злотых падатку?

– Несумненна, маспане, – адказаў Маршалак, – падатак тады быў бы амаль непрыкметны на шалях нашых павіннасцяў. І нават даўней, калі на зямлю нашую кідалі свой цень паднябесныя хвоі, некаторыя мае сяляне зараблялі па 1000 злотых у снежную пару года. Але цяпер, маспане, усе крыніцы прыбытку высахлі; мужык, каб захацеў заплаціць падатак, дык мусіў бы аддаць увесь ураджай са свае зямлі, а сам памерці з голаду.

– Як жа гэта атрымліваецца? – запытаўся пан Падстоліц. – У іншых краінах земляробам хапае на падатак і, нягледзячы на гэта, яны лепш за нашых жывуць, плацяць высокі чынш, а падаткі ў іх забіраюць сама мала кожны дзясяты грош прыбытку, а ў шмат якіх краінах ён складае ажно пятую частку, і апрача гэтага яшчэ – іншыя публічныя павіннасці, як, напрыклад, складка на ўбогіх у Англіі, якая часам бывае роўная падатку[XII].

– Вялікая розніца, маспане, – пераканаўчым тонам пачаў даводзіць Маршалак, – там кошты збожжа непараўнальна вышэйшыя за нашыя. Там мужык, калі прадасць асьміну, дык больш заробіць, чым наш за бочку.

– У Расіі, – працягваў пан Падстоліц, – збожжа каштуе яшчэ менш, чым у нас. І сяляне, гэткія ж падданыя, як і нашыя, сеюць яго менш за нашых, але падаткі плацяць, і ў шмат якіх губернях жывуць лепш за нашых.

– А гэта зусім іншая справа, маспане. Расійскія мужыкі адною рукою трымаюцца за плуг, а другою – за рамяство альбо за гандаль.

– А чаму ж нашым не рабіць тое самае? – запытаўся пан Падстоліц.

– Нашыя, маспане, створаныя толькі для плуга. Ёсць у іх чым заняцца зімою. Амаль увесь час забірае ў іх паншчына.

– Вось менавіта, – пацвердзіў пан Падстоліц. – Мы забіраем іх час нават без карысці для сябе. Замест таго, каб падказаць ім годны занятак, мы марнуем іх працу і пазбаўляем магчымасці зарабіць. А заробкі іхнія, як мы раней казалі, маглі б быць значна большымі за падаткі. І тады мы, сапраўды, не адчувалі б іх цяжару, каб падумалі, як забяспечыць нашым сялянам хоць па 20 грошаў дзённага заробку зімою.

– Чым кепска! – згадзіўся Маршалак. – Але ж уласна для ўсіх паляпшэнняў перашкодаю з'яўляецца тое, што нашыя праекты сягаюць у бездань

[i] Няма дабрабыту без права.

невыканальнасці, а каб выпадкова і трапілася нейкая крыніца, дык мусілі б ад яе адмовіцца з-за недахопу пачатковых сродкаў.

– Ашчаднасць, – здзекліва нагадаў Астольф.

– Несумненна, ашчаднасць, – згадзіўся пан Падстоліц. – Яе аднае хапіла б на пачатковыя выдаткі.

– Але, Богам прашу, маспане, – выгукнуў Маршалак, – што мы можам ашчаджаць, калі і так пры ўсёй нашай эканоміі, пры ўсіх адмаўленнях ад радасцяў жыцця, ледзьве даем мы рады, каб неяк пратрываць нашыя дні ўдалечыні ад свету ў нашых маёнтках?

– Прашу прабачэння, мосці Маршалак, – сказаў пан Падстоліц. – У тых самых маёнтках жывуць пасэсары[111] і хоць трохі меншы, чым даўней, але маюць сякі-такі прыбытак на аплату арэнды...

– Яны трацяць штогод ці не палову, – перапыніў яго Капітан. – Я сам лепш пра гэта ведаю: мой пасэсар штогод не атрымлівае і паловы таго, што мне плаціць, і хутка, як пастух з торбаю, рушыць спяваць разам з жаўранкамі.

– Я згаджаюся, – адказаў пан Падстоліц, – што сёння, хто гаспадарыць паводле даўняга звычаю, той мусіць задаволіцца меншымі прыбыткамі. З тым усім пасэсары атрымліваюць палову даўнейшых прыбыткаў, гэта значыць: жывучы разам з сем'ямі ў тых самых нашых фальварках, на аплату арэнды ашчаджаюць яшчэ палову таго, што даўней ашчаджалі. Дапусцім, што землеўласнік прызвычаіўся да большых выгод і мае большыя выдаткі, чым пасэсар, але ён можа, аднак, размеркаваць іх такім чынам, каб з гадавога прыбытку ашчаджаць нейкую частку. І менавіта гэта цяпер мы павінны лічыць за крыніцу рухомых капіталаў, якія маглі б ужыць на пачатак дзейнасці. Шчодрасць гэтае крыніцы залежыць ад нашае волі[XIII].

– Каб так і было, маспане, – сказаў Маршалак, – ашчаджалі б мы толькі збожжа, а тут трэба грошы.

– Пасэсары плацяць манетаю, – адказаў пан Падстоліц. – Аднак я не пярэчу, што сёння цяжка з наяўнымі. Але не з-за таго, што іх няма, бо на сённяшні дзень у нашым краі больш грошай, чым было даўней. Але прычына ў нашай агульнай пасіўнасці: калі няма абароту, дык рэдка ў нас з'яўляюцца грошы.

Адкрыліся дзверы ў залу і камердынер голасам вознага абвясціў:

– Абед на стале.

– Мосці Маршалак дабрадзей, – падхапіў, спешна хапаючыся за бутэльку з гарэлкаю, Харунжы. – А гарэлачкі *таксама якраз* перад абедам? *Якраз* для апетыту.

Хочаш – не хочаш, але Маршалак мусіў зноў выпіць гарэлкі; пан Падстоліц зноў адмовіўся; Суддзя, шчоўкаючы пальцамі і паўтараючы задуменна: *per fas et nefas*, перахапіў, нарэшце, ад Астольфа кілішак, выкуліў яго і перадаў Каморніку.

– Да вашых паслугаў, пане Маршалак, – прамовіла Харунжыха і, не чакаючы, пакуль вып'юць гарэлку, падала яму руку і павяла ў залу.

## Раздзел восьмы

# ВЯЛІКІЯ СРОДКІ ПАЛЯПШЭННЯ ДАБРАБЫТУ

Skoro dóm mój uczciło takie lube goście:
I w kielich się uderzy i nie będziem w poście.
Marja niech się tymczasem w krzątania nie leni:
Suto stoły zastawić, nie szczędzić korzeni,
Pieprze, bobki, imbiry, cykaty, szafrany;
Bo to ten piękny rycerz w bakaljach chowany.
O winie ja pomyślę.

An. Malczeski, *Marja*[112]

Уваходзячы ў залу, пані Харунжыха зморшчылася, бо заўважыла, што Іда дае распараджэнні прыслузе. Яна паўтарыла сваё запрашэнне да стала і, паказваючы месцы гасцям, сама села справа, а Маршалка пасадзіла злева на ганаровым канцы. Побач з Маршалкам села Іда, якой пан Падстоліц не дазволіў саступіць сабе першынства; ля пана Падстоліца – Суддзя, а на канцы – Уладзіслаў. З другога боку каля жонкі – Харунжы, далей – зважаючы, пэўна, на будучы статус зяця – Капітан, за ім – Астольф і апошні – Каморнік. Шэры канец занялі гувернёр з Аскарам.

Падалі першую страву. Гэта быў суп з качкі, вадзяністы і нясмачны, з вуголлем ды іншымі гэткімі ж прысмакамі, якія звычайна з'яўляюцца там, дзе гаспадыня праводзіць раніцу ў будуары, а кухар – на бровары. Некаторыя, асабліва сямейнікі, пачалі жвава сёрбаць.

Маршалак крывіўся, але пасля начлегу ў карчме і сняданку ў панства Харунжых, не быў гаспадаром свайго смаку. Капітан даводзіў: мода вымагае толькі пакаштаваць страву. Каморнік не збіраўся спачатку рабіць гэтак жа, але пасля першае лыжкі, і ён пагадзіўся з модным звычаем ды папрасіў другую лусту хлеба. Дарэмна! Бо слугі, занятыя высокімі асобамі, не мелі часу зважаць на шэры канец. Пан Падстоліц, зірнуўшы толькі на гэты суп, страціў адвагу яго есці.

Харунжыха ўсё бачыла, але мала яе гэта хвалявала. Усё ж, жадаючы адцягнуць увагу гасцей, яна парушыла маўчанне:

– У цяперашні цяжкі час заслужыў бы падзяку той, хто мог бы падказаць надзейны спосаб паляпшэння дабрабыту ў нашай правінцыі.

– Маспані, – сказаў Маршалак, – мы, мужчыны, можам дзейнічаць.

– А гэта *якраз* як? – запытаўся Харунжы.

– Маспане, адны могуць займаць добрыя пасады, а іншым лёс можа даць у рукі шалі розных галінаў адміністрацыі, дзе хоць заробкі альбо малыя, альбо іх зусім няма, і чалавек трапляе на першую прыступку зусім без капіталу, але не паспее ён агледзецца, як фартуна ўжо падае яму руку, усміхаецца, атачае яго раскошаю і на руінах кліентаў стварае для яго калос дастатку.

– Не ўсе могуць быць урадоўцамі, – адказаў пан Падстоліц. – І самі ўрадоўцы, незаконна вымагаючы ад іншае часткі народу, на столькі ўзбагачаюцца, на колькі іншыя бяднеюць. А мне здаецца, што пані Харунжыха хацела сказаць пра паляпшэнне дабрабыту ўсіх жыхароў нашае правінцыі.

– Вайна, – выгукнуў Астольф. – Адна толькі вайна можа палепшыць быт усіх, калі пусціць у абарот некалькі мільёнаў наяўных грошай.

– Урад, калі б'е манеты, – запярэчыў пан Падстоліц, – дык дарам іх не раздае, а толькі замяняе на іншыя прадметы. Таму маса каштоўнасцяў не памножыцца, хоць на нейкі момант знакаў гэтае каштоўнасці, ці то манетаў, больш трапляе ў абарот. Аднак мы ведаем, што не гэтыя знакі ствараюць дабрабыт і грамадскае багацце, а сума ўсіх каштоўнасцяў у якім бы выглядзе яна не была. Больш за тое, з прычыны, што купленыя ў нас падчас вайны прадукты не ідуць на вытворчасць новае каштоўнасці, а проста спажываюцца, дык народ робіцца бяднейшым на столькі, колькі гэтых прадуктаў спажылі, гэта значыць, тым больш бяднее, чым больш урад патраціць грошай, каб купіць гэту прадукцыю.

– Каб у нас была вайна, – сказала Харунжыха, – мы б маглі больш прадаваць збожжа і даражэй.

– Гэтак, – паддакнуў Харунжы.

– І за ўсё, што нам неабходна, таксама б плацілі даражэй, – удакладніў пан Падстоліц. – А каб падлічылі, дык, можа б, заўважылі, што бавіліся мы толькі грашыма, як дзеці цацкамі, а не рабіліся больш заможнымі. Дададзім сюды кошты вайны, якія плацім усе мы, а не хто-небудзь іншы; дададзім рэкрутаў, выпадковыя страты і, нарэшце, тыя непадлічаныя страты, але якія павінны падлічвацца, гэта значыць, страты тых заробкаў, якія б мы мелі ў мірны час з нашых капіталаў, каб скіравалі іх на прамысловасць. Усё гэта пераважыць тыя карысці вайны, якія нам уяўляюцца. На жаль, паўсюль толькі і ўздыхаюць пра вайну, нібы пра лекі на нястачу; але каб мы задумаліся, што гэтыя лекі яшчэ больш шкодныя, чым сама хвароба, дык пераканаліся б, што толькі непрыяцель свайго краю можа шчыра прагнуць непатрэбнае вайны.

– Гэтак, – паддакнуў Харунжы.

– Мой ягамосць, – азваўся Суддзя, – я бачу, што ягамосць называеш сродкамі, якія прывядуць да паляпшэння нашага дабрабыту, рамяство, ашчаднасць і працу; але ж, мой ягамосць, гэта рэчы, з якімі страшэнна шмат клопату, а да таго ж, няпэўныя і вельмі абмежаваныя: прыбытак ад рамяства заўсёды павінны адпавядаць укладзенаму капіталу. Гэта быў бы рух чарапашы...

– Несумненна! – перапыніў яго Астольф. – Тут трэба сродкі хуткія і лёгкія, бо звычайнымі немагчыма перамагчы нястачу.

– Менавіта так, – сказаў Харунжы. – А як я ўсё гэта бачу, дык самае лепшае – знайсці скарб *таксама якраз*. Я ўжо *таксама* даўно шукаю. Мой аканом *якраз*, што пад капліцаю...

– Э, які скарб, мой ягамосць! – не даў яму дагаварыць Суддзя. – Я прапаную спосаб хуткі, лёгкі, надзейны і лепшы за ўсе скарбы свету, бо я сам яго ўжываю, і даступны ён для кожнага, а гэта – права.

– Не разумею, – сказаў пан Падстоліц.

– Нічога складанага, мой ягамосць. Калі ягамосць не мае ўласнага архіва, дык можаш пакапацца ў паперах суседзяў, паездзіць па розных земскіх

і гродскіх судах[113], нават і ў магістратах[114] пашукаць добра і знайсці – а гэта вельмі лёгка – нейкія старыя працэсы продкамі альбо папярэднімі ўладальнікамі *fundi* пачатыя, але занядбаныя, мой ягамосць, альбо з-за несправядлівасці людское спыненыя. Можна знайсці нейкія старыя дакументы, а калі трэба, як чалавек пэўны свайго, можна і новыя зрабіць старымі, што зусім нескладана, толькі актыкацыю[115] тых дакументаў трэба зрабіць у такія акты, якія згарэлі альбо былі страчаныя. *Dolus an virtus quis in hoste requirat*?[j] Сабраўшы, мой ягамосць, дакументы, застаецца толькі выслаць позвы ўсім абскарджаным, *cum omni formalitate*[k], найлепей пра акторства[116], а калі гэта немагчыма, дык хоць аб заставу[117] і, выйграўшы справу, здабытым маёнткам палепшыць свой дабрабыт. А калі з-за ўпартасці супраціўнага боку гэта будзе цяжка, дык пагадзіцца і ўзяць адступнага, якое кожны пакліканы па справе, каб унікнуць праўных коштаў, ахвотна заплаціць, асабліва таму, хто ўмее падысці да справы. Атрыманыя ж грошы, мой ягамосць, зноў пусціць, як ягамосць кажаш, на рэпрадукцыю, гэта значыць, прызначыць іх на пакліканне ў суд іншых. Гэтак можна з цягам часу добра разбагацець.

– Надзвычай добры спосаб! – сказаў пан Падстоліц. – Але, здаецца, пан Суддзя крыху адступіўся ад прапановы пані Харунжыхі, якая жадае паляпшэння дабрабыту ўсіх жыхароў правінцыі; паводле ж спосабу васпана, адзін толькі бок выйграе, другі ж – траціць.

– Вось, менавіта, – згадзіўся Суддзя, – гэтым якраз і добры мой спосаб, што кожны можа ім скарыстацца. Хто сёння прайграў маёнтак, можа заўтра паклікаць да суду іншага і выйграць яшчэ большы. А той, у каго ён выйграў, можа зноў паклікаць каго іншага і яшчэ большы выйграць. *Series infinita*[l], мой ягамосць.

– Галубка мая, – азваўся Харунжы, – *уцяміўшы ўсю справу*, бачу *якраз*, што *таксама* пан Суддзя кажа праўду. Архіў ты *таксама* звяла на папільёткі, калі бацькавыя кніжкі скончыліся; можа, *якраз* хоць нейкія паперы ў цябе яшчэ засталіся, дык трэба *таксама якраз* іх прагледзець. Юрка! Віна таксама пану Суддзі! *Якраз* чаму сам не наліваеш?

Камердынер ужо стаяў за Суддзём, каб замяніць пляшку, і паводле панскага загаду паспяшаўся наліць яму кілішак, а потым, абмінаючы шэры канец, панёс рэшткі, як законную здабычу, у перадпакой.

Тым часам падалі ялавічыну, кавалачкі былі дробненькія, а мяса – старое і жылістае. Не мог есці яго пан Падстоліц. Потым прынеслі парэзаную вялікімі кавалкамі моркву, якая плавала ў вадзе; на яе нават сярод сямейнікаў не знайшлося аматараў, дык абнесеная вакол стала, нібы каб паказаць гаспадарлівасць пані Харунжыхі, яна некранутая вярнулася ў перадпакой.

Надышла чарга на галоўны прысмак, альбо *non plus ultra*[118] шыкоўнага стала; гэтак, прынамсі, можна было меркаваць па ўсмешках і рухах Харунжага ды Аскара. Гэта быў цецярук, хутчэй асмалены, чым упечаны, але, відавочна, прызначаны толькі для ганаровых гасцей, бо кавалачкі, хоць і былі вельмі дробныя, але не адпавядалі колькасці застольнікаў. Ідà з панам Падстоліцам – на здзіўленне гаспадароў – з увагі на шэры канец не дакрануліся да тае стравы;

[j] Хто ж будзе спаганяць з ворага за ашуканства ці мужнасць?
[k] Захаваўшы фармальнасці.
[l] Бясконцая чарада.

але гонар, які аказалі ёй пан Суддзя і Астольф, не жадаючы абразіць прадукт свайго промыслу, быў такі вялікі, што Каморнік, гувернёр і Аскар толькі слюнкі глыталі, а апошні ледзь не заплакаў.

Не спыняліся прыватныя размовы. Харунжыха ўсё больш ціхім голасам дамагалася ў Маршалка падкаморства для мужа, які пільна прыслухоўваўся і часта сваё "гэтак" дадаваў; Астольф з Капітанам шапталі нешта адзін аднаму на вуха пра камізэлькі ды пра іншыя модныя кавалерскія набыткі і голасна рагаталі; Каморнік прасіў, каб гувернёр патлумачыў яму, што сказаў пан Падстоліц пра вайну, і гувернёр, каб было больш зразумела, пачаў з лекцыі пра восем частак мовы; Суддзя пад сакрэтам абвясціў Уладзіславу, што над маёнткам панства Харунжых вісіць некалькі дэкрэтаў, адзін з якіх і ён ужо набыў, дык у любы дзень можна чакаць традыцыі.

Іда са слязьмі на вачах перапрашала пана Падстоліца, што патрапіў ён на гэтакі прыём.

– Прашу пані забыцца пра гэта, – адказаў пан Падстоліц. – Клапатлівасць пані сведчыць, што на ўласнай гаспадарцы справы ў яе пойдуць лепш.

– О! Каб толькі Бог даў уласную гаспадарку! – прамовіла ўзрушаная Іда. – Першаю сваёй павіннасцю лічыла б адпавядаць свайму прызначэнню. А тады б прасіла Бога, як аб шчасці, каб хоць праездам васпан дабрадзей трапіў у мой дом: пераканала б яго, што ягоныя словы трапілі ў добрае сэрца.

– Абяцаю пані, што як толькі пані стане гаспадыняю, наўмысна яе наведаю. Але ж, мая пані, – дадаў пан Падстоліц вельмі лагодна, – гаспадарыць адной не выпадае, трэба будзе выбраць гаспадара, а калі выбар выпадзе на такога, хто не можа альбо не жадае разумець абавязкаў свайго прызначэння і не хоча мець гаспадарлівае жонкі?

– Мой лёс, – адказала Іда, – у руках маіх бацькоў, але, калі мне будзе дазволена, я не згаджуся на такога.

– Я чуў, – сказаў пан Падстоліц, – што пэўны ваяжор…

– Ніколі! – спыніла яго Іда. – Я ведаю, каго васпан дабрадзей мае на ўвазе.

– Ці пані дазволіць шчыра запытацца?

– Пан Падстоліц з сённяшняга дня мае права пытацца ў мяне, што пажадае, абяцаю, што, як дачка бацьку, пра ўсё гатова сказаць.

– Вельмі ўдзячны, пані, – адказаў пан Падстоліц. – Але я не буду карыстацца тваёю даверлівасцю. Хацеў бы я толькі ведаць меркаванне пані пра аднаго чалавека, з якім, праўду кажучы, зусім нядаўна я пазнаёміўся, але заўважыў яго добрыя намеры; ведаў я таксама ягонага бацьку, з якім мы былі сябрамі, дык таму мяне цікавіць лёс гэтага маладзёна. Я заўважыў, што пані яму неабыякавая…

– Мосці Падстоліцу, – сказала зачырванелая Іда, – здаецца мне, што я здагадалася, пра каго размова…

– Гэта не складана, – адказаў пан Падстоліц, – бо мы разам сюды прыехалі.

Апусціла вочы Іда, чырвань заліла яе твар, яна ледзь прыкметна ўздыхнула і сказала:

– Нічога не атрымаецца. Мае бацькі ніколі на гэта не згодзяцца. І ён, каб прыгледзеўся ў якім стане знаходзяцца нашыя справы, дык, можа, шукаў бы сабе лепшую партыю: гэта тым больш справядліва, што і ён незаможны. Я нават больш скажу, каб ён і пажадаў, дык я ніколі не згаджуся, бо гэтым

я перашкодзіла б яму зрабіць кар’еру, да якое, дзякуючы сваім здольнасцям, ён мае пакліканне. Спадзяюся, што пан Падстоліц будзе трымаць у сакрэце і тое выпадковае прызнанне, якое мой твар не змог схаваць, і мае думкі, якія пасля гэтага прызнання я мусіла васпану дабрадзею даверыць.

– Мая пані, – прамовіў пан Падстоліц. – З гэтае хвіліны я твой сапраўдны прыяцель, а калі трэба, дык і бацька. Гэткі шляхетны лад думак заслугоўвае павагі. Не траць, пані, надзеі на Ласку Божую: нічога Ён не дапускае без пэўнага плану, а калі злучыў адным звяном два сэрцы, дык няцяжка будзе Яму прыбраць і перашкоды.

У гэты момант з цецеруком было скончана, а Харунжы, заўважыўшы ў вачах Маршалка нават больш, чым ён спадзяваўся, прыхільнасці да дамаганняў Харунжыхі, голасна абвясціў: “Гэтак!” і падняў кілішак:

– Здароўе пана Маршалка.

– Здароўе пана Маршалка! – азваліся разам Капітан, Астольф і Суддзя. Каморнік не меў чым далучыцца да тосту, а пан Падстоліц моўчкі прыклаў да вуснаў кілішак.

Маршалак важна ўсім пакланіўся і прамовіў:

– Здароўе пані Харунжыхі, будучае Падкаморае!

– Гэтак, – паддакнуў Харунжы і, баючыся, каб на наступныя тосты не запатрабавалі яшчэ віна, зашаркаў нагою.

Харунжыха хуценька пакланілася Маршалку і ўстала. Пачалі адсоўвацца крэслы.

– Прашу прабачыць, – стрымана сказала Харунжыха і, падаўшы Маршалку руку, запрасіла ўсіх у гасцёўню.

Як толькі ўсе там паселі, падаў голас Капітан:

– Мы не закончылі прапанаванае пані *Гарунжыхай* размовы пра сродкі паляпшэння дабрабыту. Я таксама не *адну-лі* вольную ад забаваў *гвілю* прысвячаю абдумванню гэтага прадмету. І мне здаецца, што няма *лепшы спосаб*, як зрабіць добрую партыю, гэта значыць, багата ажаніцца.

– Багатая жаніцьба, – падхапіла Харунжыха, прыжмурваючыся, – цягне за сабою вялікія выдаткі і нават няраз прыводзіць да ўбоства, калі мужчына ўсе надзеі на паляпшэнне жыцця ўскладае на жончын пасаг. Хіба, я не памыляюся? – звярнулася яна да пана Падстоліца.

– Ніхто не можа запярэчыць, – адказаў пан Падстоліц, – што мужчына прыніжае сябе і рызыкуе быць вельмі няшчасным, калі гоніцца адно за пасагам.

Харунжыха з трыумфам заківала галавою, гледзячы на Капітана, які, не перакананы гэтым меркаваннем, голасна правіў сваё:

– *Трэба-лі* быць вар’ятам, каб у час цяперашняе паўсюднае нядолі, браць жонку толькі за прыгожыя вочы! *Гіба* што, нехта *гоча* са сваёй Амарыліяй пад шумы водных каскадаў праводзіць свае дні ў спевах, а замест *глеба* насычацца водарамі *ружов* ды *лілієў*. *Га-га-га*!

– Мосці Капітане, – звярнуўся да яго пан Падстоліц, – прашу мяне зразумець. Я не сцвярджаю, што добра робіць той, хто, не маючы маёнтку альбо таленту, дзякуючы якому мог бы ўтрымліваць сям’ю, бярэ шлюб без увагі на будучыню. Пачцівы чалавек гэтага не дапусціць. Але я не называю і таго пачцівым, хто, не прыкладаючы намаганняў, каб палепшыць сваё становішча з дапамогаю працы і ўласных здольнасцяў, прагне ўзбагаціцца пасагам, хоць

сам гультай і няздара. Гультайства пры набытым без працы дастатку толькі ўзмоцніцца, а маёнтак у руках гультая, нават каб і не быў яўна змарнаваны, з-за аднаго толькі бязладдзя амаль незаўважна выслізне ў яго з рук і прападзе. Што ж тады рабіць...

– *Хэтаму-лі* лёгка парадзіць, – перапыніў яго Капітан. – Як толькі пачне не хапаць *пасах*, дык узяць развод і ажаніцца з другою.

– Дзякуй за ласку! – выбухнула Харунжыха. – А жонцы што рабіць тады?

– Жонка, – адказаў Капітан, – няхай пастараецца выйсці за багацейшага. О! Без пасагу, *гіба*, толькі селянін альбо паэт могуць жаніцца. А самыя вялікія і багатыя людзі, *нават-лі* манархі прыглядаюцца да пасагу.

– Несумненна, маспане, – падтрымаў яго Маршалак. – Выспа Сікоку, пэўна, больш была прыцягальная для сэрца кітайскага імператара, чым шаноўная асоба Лімпангі, якая, як мне вядома, ніколі не выпраменьвала святла свайго аблічча на Тао-Куанга. Пасаг, пане Падстоліц, не з'яўляецца перашкодаю для шчасця.

– Я і не сцвярджаю гэтага, – сказаў пан Падстоліц. – Я кажу толькі, што не ён павінны быць галоўнаю вартасцю жонкі альбо галоўнаю мэтаю кавалера. Але гэтак звычайна дзеецца: мы не зважаем на асабістыя вартасці, не задумваемся, ці характар, тэмперамент і лад думак выбранніцы адпавядае нашым. Вабіць нас толькі пасаг, які лічым адзінаю гарантыяй дабрабыту. Не дбаем мы пра тое, што ліхі выбар пагражае нашаму сямейнаму спакою, ды і сама будучая жонка будзе няшчасная ў такім шлюбе. Дастатак не заменіць пачуццяў...

– Але нават самы пачцівы чалавек, – перапыніў яго Капітан, – не адмовіцца ад павелічэння маёнтку *пасахам*.

– Пачцівы чалавек, – адказаў пан Падстоліц, – шукае ў жаніцьбе не павелічэння маёнтку, а сямейнага шчасця; бо яно з'яўляецца мэтаю шлюбу. Ён шукае ў жонцы тыя якасці, якія б гарантавалі ягонае шчасце. Калі будзе яшчэ і пасаг, дык прымае яго з ахвотаю, калі не будзе, дык не звяртае на гэта ўвагі; бо ён пэўны, што сваім маёнткам альбо ўласнаю працаю зможа належна ўтрымліваць дом і жонку. Жонка з добрымі якасцямі больш можа садзейнічаць памнажэннню дастатку і павелічэнню маёнтку, чым які б там не быў пасаг. Таму слушна кажуць, што гаспадарлівая жонка прыносіць сто тысяч, а кемлівая – у два разы больш.

– Вось, менавіта, – азваўся Астольф, – добрыя якасці гэтак схаваныя, гэтак часта іх удаюць, што ніхто не пахваліцца, што не ажаніўся *на авось*, а калі жэнішся *на авось*, дык лепш – каб з грашыма.

– Гэтак, – паддакнуў Харунжы.

– Яшчэ чаго! – не згадзілася Харунжыха. – Нібы вас лёгка раскусіць! Усё ж нам больш залежыць на тым, каб ведаць, каму мы даручаем сваё шчасце і жыццё. Нам і пра якасці вашыя, і пра маёнтак трэба больш імкнуцца выведаць, чым вам пра нашыя.

– Гэтак, – паспяшаўся дадаць Харунжы, а Імосць казала далей:

– Я ж не памыляюся, пане Падстоліц, што кабеце прабачаць, калі запытаецца, які маёнтак мае кавалер?

І яна са з'едлівай усмешкаю зірнула на Капітана.

– Пані дакладна мяне зразумела, – адказаў пан Падстоліц. – Кабеце выпадае ведаць, у якім стане знаходзіцца маёнтак будучага мужа альбо якія ён мае таленты і здольнасці, з дапамогаю якіх зможа ўтрымліваць сям'ю. Бо спосабы жонкі абмежаваныя; яна павінна сачыць, каб добрае гаспадаранне і разумнае ашчаджанне захавала ад згубы маёнтак, а знаходзіць крыніцы прыбытку – гэта ўжо абавязак мужа.

Аднак і кабета не павінна быць залішне асцярожнаю. Заўважыўшы, што кавалер здатны да працы і разумны, хоць бы ў яго і не было вялікага дастатку, пачцівая кабета не будзе пагарджаць яго прапановаю толькі з-за таго, што ў яго няма раскошы; бо для таго, каб запэўніць дабрабыт у жыцці, памянёных якасцяў дастаткова, а сапраўднае шчасце не залежыць ад багацця. Нядобры гэта, праўда, фундуш у выпадку смерці мужа; але нават самы вялікі маёнтак можна выпадкова страціць: неспадзяванае няшчасце можа знішчыць мільёны; а таленты і асабістыя здольнасці, пакуль чалавек жывы, з'яўляюцца больш пэўным фундушам, чым усе іншыя багацці.

– Як гэта: "больш пэўным"? – запытаўся Суддзя. – Зямля, мой ягамосць, – гэта аснова. Зямлю ніхто не адбярэ ў разумнага чалавека. Інтэрцызы[119], запісы, пажыццёвае права – гэта гарантаваныя спосабы, каб абараніць маёнтак, каб потым нават і з дапамогаю працэсу не знайшлося магчымасці яго адабраць.

О! Мой ягамосць, заўсёды лепш, калі муж мае што запісаць жонцы альбо жонка – мужу. Набярэш даўгоў – і гэта нічога, мой ягамосць; можна *антыдатоваць*, *эліміноваць*, *інтабулёваць*[120], абы толькі падмазаць. О! Не аднаму я ацаліў маёнтак, які ўжо ледзь не прапаў, з дапамогаю жонкі. І гэта, мой ягамосць, з'яўляецца довадам, што працэс – гэта самы просты шлях, каб паправіць дабрабыт.

– Гэтак, – паддакнуў Харунжы.

– У наш час, – азваўся Каморнік, – думалі іначай. Не разводзіліся, калі пан Бог выпрабоўваў некага нястачаю, і не зараблялі гэтакімі спосабамі сабе на хлеб. Я сам, калі ажаніўся, меў усяго маёнтку – толькі пару конікаў.

Служыў я тады рэвізорам[121] у пана Ваяводы[122]. Пан быў ласкавы, не шкадаваў кавалка хлеба жонкам сваіх слугаў і казаў: "Няхай мае слугі будуць лепш жанатымі і пачцівымі, чым вядуць распуснае жыццё, бо гэта псуе норавы сялянаў і шкодзіць пану. Бо жанаты чалавек жыве прыстойна, мусіць шанаваць сваё месца і стараннасцю аддзячыць пану за ласку; нежанаты ж лёгка адважваецца на распусту, а потым і на абкраданне пана; а з-за ягонага нядбальства яшчэ большыя страты".

Так, мой дабрадзей, шчаслівыя мы былі пад панам Ваяводам і, хоць спачатку цяжка было нам утрымлівацца з юргельту, асабліва калі Пан Бог адарыў нас дзеткамі, але і ў галаву не прыйшло мне разводзіцца, а дзень і ноч разважаў: што можна зрабіць, каб пачцівым спосабам павялічыць свой прыбытак.

Аж пэўнага разу пан Ваявода сам да мяне звярнуўся: "Мой каханы, падвучыўся ты ўжо трохі на каморніка, дык займіся ў мяне гэтым". Як з неба гэта на мяне спала. З таго часу сталі расці прыбыткі, праца мая добра аплачвалася, а жонка добрым гаспадараваннем значна павялічвала дастатак.

Ужо праз некалькі гадоў я аддаў пану колькі тысяч пад працэнт, потым пайшоў на арэнду і, нарэшце, калі настаў для арандатараў цяжкі час, купіў

некалькі дымоў на ўласнасць. На гэтым да сёння з Ласкі Божае і пры дбайнасці мае жонкі ў адпаведнасці са сваім станам жыву я ў дастатку.

Багацейшыя за мяне паны, здаецца, маглі б не толькі жыць заможна, але і вялікую фартуну сабраць, каб пажадалі працаваць і бралі жонак, хоць без пасагу, але гаспадарлівых.

Толькі пан Падстоліц, Іда і Уладзіслаў даслухалі да канца тое, што казаў Каморнік. Маршалак заахвочваў Астольфа, каб той як мага хутчэй ішоў у войска, бо ў вялікім пажары, які несумненна хутка ахопіць увесь свет, толькі жаўнеры і такія, як ён, палітыкі могуць спадзявацца на памыснае будучае. І, нахіляючыся да самага ягонага вуха, дадаў:

– Толькі нікому не кажы таго, што я табе паведамлю. Я знаю дакладна, што інспектар іспанскае кавалерыі Балестэрас[123] атрымаў загад узброіць шэсць эскадронаў для адпраўкі ў Амерыку, а ў Сардынскім каралеўстве[124] ўзбройваюцца да зубоў. Паразважай пра гэтыя дзве акалічнасці!

І, прыклаўшы палец да ілба, з таямнічаю мінаю ўважліва глядзеў на Астольфа.

Капітан выкладаў Харунжысе тэорыю новых узораў і аблямовак, якой ён нядаўна навучыўся. Еймосць млела ад радасці, уяўляючы прыгажосць новых аздобаў, і налівала вартую абеду каву. Харунжы, жадаючы быць ветлівым з гасцямі, направа і налева ўстаўляў сваё "гэтак", а Суддзя ў кутку грыз пазногці, праглядаючы ў задуменні свае паперы.

Калі Каморнік закончыў гаварыць, Капітан падышоў да Іды і запрасіў яе на першы танец на рэдуце.

Тым часам пан Падстоліц, адвёўшы Харунжага да вакна, паведаміў яму, што хоча на зіму арандаваць паншчыну Тадэвуша з усёю ягонаю сям'ёю, не выключаючы Андрэя. Здзівіўся Харунжы гэтай прапанове, але від пяці дукатаў, з якімі раніцаю ён гэтак неахвотна расстаўся, прымусіў яго згаджацца з усім, што казаў пан Падстоліц.

Дык не ўваходзячы ў падрабязнасці, дзе і як гэта паншчына будзе адрабляцца, ён адразу загадаў Астольфу напісаць кантракт, паводле якога Тадэвуша з усёю сям'ёй, не выключаючы таксама і Андрэя, на ўсю зіму аж да святога Юр'я ён аддае ва ўласнае распараджэнне пана Падстоліца, якому ані сам, ані праз слуг сваіх анічым перашкаджаць не будзе і г. д.

Харунжыха, пакліканая ў залу, дзе пісалі той кантракт, з ахвотаю дадала свой подпіс да подпісу мужа і з большаю ветлівасцю запрасіла пана Падстоліца на каву.

А вярнуўшыся ў гасцёўню і заўважыўшы каляскі, якія цягнуліся з аўстэрыі, нібыта жадаючы, каб госці яшчэ засталіся, яна закрычала з удаваным засмучэннем:

– Што гэта? Ці панове збіраюцца ўжо выязджаць?

– Маспані, – з паклонам адказаў Маршалак, – мне неабходна спяшацца. Я загадаў пераслаць у мястэчка газеты, якія прыйшлі з сённяшняю поштаю. Думка мая блукае ў домыслах, пакуль не разблытае сетку палітычных праблемаў. Канінг[125] на Мальце і кур'ер у Парыж, якога нідэрландскі амбасадар выправіў са Стамбулу, – гэта дзве вялікія загадкі. Дзве ночы сон не зазірнуў за шторы майго ложка, бо пастаянны неспакой пра будучы лёс Еўропы грызе мае думкі. Мушу ехаць як найхутчэй.

– Але няхай пане Маршалку яшчэ хоць гадзінку мае ласку пабавіцца ў нас! – прасіла з вымушанаю ветлівасцю гаспадыня. – Зараз будзе гарбата, а пасля ранняе вячэры...

Харунжы, думаючы, што Імосць, відаць, забылася пра сённяшнюю рэдуту, на якой пастанавіла абавязкова з'явіцца, пачаў падміргваць, строіць грымасы і кашляць, каб звярнуць на сябе ўвагу жонкі, але тая яшчэ больш насядала на Маршалка, які ўжо збіраўся развітвацца. Але, заўважыўшы, што той нібы паддаўся на ўгаворы і паклаў свой капялюш зноў на стол ды пачаў ужо здымаць пальчаткі, яна зрабіла выгляд нібы не разумее, што гэта значыць, ды прамовіла:

– Праўду кажучы, я ведаю, што залішняя ветлівасць можа быць, часам, і прыкрая для гасцей. Бясконца былі б мы радыя, каб маглі затрымаць паноў хоць да вячэры ў нашым доме, але калі сапраўды ёсць пільныя патрэбы...

– Мне *пільна-лі* трэба на кірмаш, – перапыніў яе Капітан. – Я баюся, каб мяне хтосьці не пазбавіў *мае найсаладзейшае надзеі* і не купіў раней за мяне самых прыгожых *камізэлькоў і густачкоў*, ды і на рэдуту трэба апрануцца. *Ад'ю*! *Ад'ю*!

Ён, элегантна кланяючыся ўсім, першы выскачыў на ганак.

З цырымоннаю годнасцю пакланіўся ўсім Маршалак і, баронячыся ад новых упрошванняў Харунжыхі, якая працягвала іх нават за парогам, сеў у каляску і рушыў следам за Капітанам. Пан Падстоліц паведаміў, што чакае Андрэя, якога хоча забраць з сабою; потым ён холадна падзякаваў Харунжысе на яе халодную просьбу ашчаслівіць хоць на нейкі яшчэ час іх дом сваёй прысутнасцю, і, як толькі з'явіўся гатовы ў дарогу Андрэй, разам з Уладзіславам паспешна ад'ехаў.

Суддзі не было куды спяшацца і, давяраючы ветлівасці гаспадыні, якая, здавалася, старалася ўсіх затрымаць, ён хацеў было ўжо вярнуцца ў гасцёўню, але, заўважыўшы гэта, Харунжыха сказала яму: "Да сустрэчы на кірмашы, пане Суддзя" ды зачыніла за сабою дзверы. Рады не рады, але Суддзя мусіў пайсці да свае брычкі, а следам за ім, абняўшы за калені Харунжага і Астольфа, паспяшаўся і Каморнік.

Усе затрымаліся яшчэ ля аўстэрыі, дзе ўтрая больш, чым яно таго каштавала, заплацілі Абраму за сена і авёс ды з незадаволенымі мінамі пацягнуліся дарогаю да мястэчка.

**Раздзел дзявяты**

# ПРЫЗНАННЕ

Oto insze przyczyny klęsk i nowe rany:
... Owe sług zgraje, owe purpurowe tkane
Opony, w gwiazdy złotem litem haftowane.
... Nie mniejsza i na polu elekcijnem wrzawa,
Gdzie kreski za pieniądze lud rzymski przedawa.
... Podchlebstwo w cenie, prawda, starych ludzi cnota
Uleciała ...............................................................
Sama nawet dostojeństw najwyższych powaga
Leżała bez czci ......................
Z ruiną obyczajów dobrych ...
... Nie masz domu żadnego i żadnego męża,
Którego jarzmo długów wżdy nie uciemięża.
... W tym kale zanurzony, w letargu uśpiony,
Rzym wzruszyć, któryż sposób mógł być znaleziony?

J.E. Minasowicz, *Farsalija*[126]

– Галоднымі, праўду кажучы, адʼязджаем, – сказаў пан Падстоліц, – хоць і добра нам давялося заплаціць за тое гасцяванне, але часу дарэмна мы не страцілі. Я тут даведаўся нават больш, чым спадзяваўся; можа, некалі буду задаволены, што змарнаваў сённяшнюю раніцу.

Уладзіслаў павярнуўся да яго, але пан Падстоліц, не даючы яму магчымасці пра нешта запытацца, працягваў:

– Пабачылі мы шляхецкі дом, якіх шмат у нашым краі; некаторыя з іх крыху больш ахайныя, але нялад і нястача робяць іх падобнымі. І браты нашыя, каб давялося дзяліць іх паводле здольнасцяў, дык у большасці адпавядалі б нейкаму з тых арыгіналаў, якіх мы тут спаткалі.

– Мне падалося, – сказаў Уладзіслаў, – што за кожным разам, як хто з іх абзываўся, дык у вачах пана зʼяўлялася літасць і пагарда.

– На жаль, – адказаў пан Падстоліц, – гэтыя абодва пачуцці занадта часта абуджаюцца падчас размоваў з нашымі землякамі; бо вельмі рэдка здараецца сустрэць чалавека, вартага павагі ва ўсіх адносінах. Часам можна пабачыць людзей з добрымі намерамі, але недахоп адукацыі і энергіі, стымулу і адвагі не дазваляюць добрым схільнасцям развівацца на ўласную карысць і на карысць Айчыне.

– Але нашым сённяшнім таварышам, – заўважыў Уладзіслаў, – прырода, здаецца, не дала нават добрых намераў. Я меў сапраўднае задавальненне, слухаючы іх размовы, дражніць іх. А кожны з іх мяркуе, што вярнуўся б залаты век, каб усе парабіліся падобнымі на іх.

– Сапраўды, смеху вартыя іхнія ўяўленні, – адказаў пан Падстоліц, – але калі прыгадаем, што гэта суайчыннікі, што гэта браты нашыя, прыніжаныя да

такога стану; калі прыгадаем, што амаль уся шляхта, трапіўшы ў нейкую аблуду, здаецца, і не разумее свае нікчэмнасці ды гіне ў нэндзы, не думаючы пра ратунак, – дык мусім, хутчэй, засмучацца і аплакваць наш лёс. Бо калі, напрыклад, падумаць пра тых, каго сёння мы пабачылі – якую мэту яны маюць у жыцці, як стараюцца яе дасягнуць – дык з агідаю ўпэўнімся, што яны шкодныя для краю, бо псуюць іншых, бо і самі гінуць, і тых, хто бярэ з іх прыклад, за сабою пацягнуць.

Аднаго толькі Каморніка выключаю я з іх грона. Ён, праўда, прастакаваты; няшмат разумеючы, нікуды не імкнецца, жыве на сваім загоне, і хоць заслугоўвае літасці, але заслугоўвае, таксама, і наганы, бо не разумее свае ролі. Нічога не робіць ён для паляпшэння быту краю, бо ані яго адукаванасць, ані яго сувязі не даюць яму такое магчымасці; але ён, хоць, не робіць нічога такога, каб стала яшчэ горш.

Такіх, прынамсі, можна назваць няшкоднымі абывацелямі, каб, як на бяду, і іх не апаноўвала зрэдчас жаданне жыць не па сродках. І здаецца, што гэтая пошасць цяпер больш чым калі-небудзь распаўсюдзілася па нашай зямлі: яна не толькі зруйнавала заможныя дамы, але дабралася і да цёмных шляхцецкіх засценкаў ды панішчыла іх; і ўсё больш распаўсюджваючыся ў краі, збядняе яго і тым самым заганяе ў ярмо балеснае і ганебнае, бо мы самі ў ёй вінаватыя, нікчэмнасці.

– Няраз я ўжо заўважаў, – адказаў праз хвілю Уладзіслаў, – што ўбоства і нястачу васпан дабрадзей лічыць вялікім бедствам для народу. Аднак шмат філосафаў сцвярджае, што ўбоства з’яўляецца больш карысным, чым заможнасць, якая пазбаўляе мужнасці і ўкараняе заганы самалюбства, а ў галечы чалавечы розум робіцца больш моцным і цвярозым, вучыцца супрацьстаяць абставінам, спачуваць пакутам бліжніх і ўздымацца над марнасцю.

– Усе гэтыя дабрачыннасці і заганы, якія ты пералічыў, – адказаў пан Падстоліц, – вынік не заможнасці, а толькі выхавання. Наадварот, у цяперашнім стане цывілізацыі добрае выхаванне нельга атрымаць без пэўнага дастатку, а без добрага выхавання заганаў робіцца болей і болей; дык мы павінны лічыць убоства прычынаю заганаў, а заможнасць сродкам развіцця добрае маральнасці. А што гэта так, мы можам пераканацца на прыкладах народаў бедных і багатых: розніца ў выхаванні ўбогіх цыганоў і заможных англічан добра паказвае ў чым прычына распусты адных ды сумленнасці і маральнасці другіх.

– Спартанцы былі ўбогімі, – запярэчыў Уладзіслаў, – аднак спартанскую дабрачыннасць мы лічым узорнаю.

– Аргумент твой сведчыць аб адваротным, – адказаў пан Падстоліц, – бо спартанцы не былі ўбогімі. Яны мелі ўсё, што ім было патрэбна. З дапамогаю добрага выхавання яны навучыліся абмяжоўваць свае патрэбы і дбаць пра дабрачыннасці. Вазьмі і цяпер чалавека, добра выхаванага і заможнага, дык знойдзеш у ім любоў да Айчыны, адсутнасць страху перад цяжкасцямі, мужнасць ды моц характару і, апрача таго, яшчэ тое, чаго ў спартанцаў не было: розум, развіты навукаю, сэрца, якое прагне грамадскага дабра, і руку, заўсёды гатовую на дапамогу бліжняму.

Мяккацеласць і самалюбства, калі хто і набывае ў выніку заможнага жыцця, дык толькі людзі кепска выхаваныя. А дзе зайздрасць да чужое ўласнасці, цемрашальства, разумовая адсталасць, недахоп пачуцця ўласнае годнасці,

гатоўнасць да злачынстваў? Сярод убогіх, што не маюць магчымасці атрымаць добрае выхаванне.

Не кажучы ўжо пра забеспячэнне ўсіх патрэбаў, пра выгоды ды іншыя карысці заможнага жыцця, з увагі на адну толькі маральнасць – убоства заўсёды будзе злом. І ўсё тое, што вядзе да збяднення, – таксама зло, а ўсе тыя, хто з уласнае віны траціць маёнтак, будуць заўсёды кепскімі грамадзянамі.

– Аднак жа і ў нашым краі, – сказаў Уладзіслаў, – беднасць прычынілася да добрае справы, стрымліваючы тое п'янства ды шулерства, якія ў час наплыву да нас грошай, ледзьве не сталі ўжо распаўсюджанаю з'яваю.

– Цешыцца, вядома, варта, – згадзіўся з ім пан Падстоліц, – што дзве гэтыя агідныя заганы амаль цалкам зніклі ў нашым класе, але нельга казаць, што гэта з-за беднасці. Прычына гэтага ў лепшым выхаванні і прыкладзе вышэйшага класа.

Гэтыя заганы нашага класа ўзніклі не з-за таго, што мы мелі шмат грошай, а таму, што мы не былі так выхаваныя, каб разумна распараджацца грашыма; спрыяла гэтаму яшчэ і нашая гасціннасць ды бяздзейнасць. А нашае ўбоства, перагароджваючы нам шлях да асветы, якой можа таварышаваць толькі заможнасць, якраз і вінаватае ў тым, што з-за нашае цямноты сталі пашырацца сярод нас іншыя, можа, нават яшчэ больш шкодныя заганы. Бо тыя першыя – гэткія брыдкія, што яны самі здольныя адштурхнуць ад сябе простага чалавека, а іншыя, з-за таго, што яны прыкрываюцца фальшываю святасцю альбо маскаю значнасці, не выклікаюць падобнае агіды, і таму выкараніць іх бывае цяжка, дык яны для краю нязмерна больш шкодныя і небяспечныя.

– Баюся выпрабоўваць цярплівасць васпана дабрадзея сваім распытваннем, – сказаў Уладзіслаў, – але час у падарожжы хутчэй ідзе за размовамі, а карысная для мяне гутарка, здаецца, і васпану дабрадзею больш даспадобы, чым нейкая пустая балбатня, дык спадзяюся, што не будзе васпан дабрадзей на мяне злавацца, калі я, хоць і змушу гэтым на больш доўгую прамову, але ўсё ж запытаюся: якія заганы ў нашым грамадстве васпан дабрадзей лічыць самымі галоўнымі, якія ёсць сродкі, каб іх пазбыцца, і ці можна мець надзею на выпраўленне нашага характару.

– Наадварот, цешыць мяне, пане Уладзіслаў, – адказаў пан Падстоліц, – тваё жаданне бавіць час з карысцю, і за той давер, які да мяне маеш, я табе ўдзячны; але бянтэжыць мяне толькі тое, ці змагу я ў дастатковай меры адпавядаць тваім чаканням. Я не філосаф і не мараліст, дык да маіх заўвагаў не варта ставіцца як да бясспрэчных ісцінаў, а толькі як да прадмету дзеля наступных разважанняў, вартых кожнага сумленнага грамадзяніна.

Пан Падстоліц хвіліну памаўчаў і працягваў:

– Калі аб'ектыўна разглядаць наш характар, дык нярварта нам яшчэ кідацца ў роспач. Толькі тры ў ім галоўныя заганы: абыякавасць, тытуламанія і залішняя прага да раскошы, не зважаючы на магчымасці. А з гэтых вырастаюць і ўсе іншыя.

Абыякавасць да лёсу краю тлуміць у нашым сэрцы энергію, пашырае гультайства, бяздзейнасць, зрабіла нас чэрствымі да падданых і да нашых наступнікаў, няздольнымі да добрых спраў; амаль адзервянелі мы перад абліччам усіх тых нягод, якія нам пагражаюць, альбо да тых надзей, якія нам яшчэ ўсміхаюцца; прыгаломшаны наш дух прадпрымальніцтва і тыя прыгожыя

памкненні чыніць дабро Айчыне і люду, якія дадаюць шляхетнасці характару чалавека і грамадзяніна.

Дык абыякавасць да лёсу краю стала перашкодаю для ўсіх дабрачыннасцяў, грамадскіх і таварыскіх. А з двух іншых паходзяць іншыя нашыя недахопы, якія, калі б не панавалі над намі, можна было б лічыць дзівацтвамі; але ў нас яны так пашырыліся, што ад іх саміх адгалінаваліся ўжо шматлікія нашыя заганы.

Жаданню раскошнага жыцця, не зважаючы на свае магчымасці, як цень і як неабходнасць, таварышуе хцівасць, а з-за гэтага часта ўзнікае прага ўзбагаціцца непрыстойным чынам, з-за гэтага – недавер, карыслівасць, працэсаванне, подкуп урадоўцаў, ашуканства, прыгнёт падданых і падобныя рэчы.

А тытуламанія спарадзіла ў нас соймікавыя інтрыгі, падступствы на выбарах, урадоўцаў, якія не разумеюць свае справы і не дбаюць пра дабро тых, для каго яны з'яўляюцца адміністратарамі, карыслівасць суддзяў, звады паміж землякамі, раі фанфаронаў, ганарыстасць тытулаваных і мноства падобных непрыстойнасцяў.

Гэта, пане Уладзіслаў, агульны малюнак нашых заганаў; праўду кажучы, не надта ён чорны, бо няма ў натуры нашага роду ані з'едлівае крывадушнасці, ані скамянелага эгаізму, ані падхалімства, ані здрадлівасці, ані бязмежнае разбэшчанасці, ані глухога да згрызотаў сумлення, адным словам, нічога такога, што робіць чалавека подлым.

І ўсе тыя заганы, якія ў нас гэтак пашырыліся, якія тлумяць у нашых сэрцах глыбока ўкаранёныя зародкі вялікіх дабрачыннасцяў, уласцівай усім славянам, паходзяць не з нашае натуры, але яны, хутчэй, набытыя ў тых акалічнасцях, якія здаўна моцна на нас уздзейнічаюць.

Змоўк пан Падстоліц, а Уладзіслаў прамовіў:

– Якім бы добразычлівым не было меркаванне васпана дабрадзея пра характар нашага народу, і хоць я павінны ім задаволіцца, зважаючы на тое, што васпан дабрадзей наша сапсаванне прыпісвае, у асноўным, акалічнасцям, а да вызначэння агульных рысаў грамады не далучае асобных пачвараў, якія ў кожным народзе, нягледзячы ні на што, здараюцца, але ўсе тыя заганы, якія васпан дабрадзей прыпісваеш нам, не падаюцца мне ўласцівымі большасці, а іншыя я нават лічыў бы для краю карыснымі, дык я прасіў бы васпана дабрадзея больш дакладна вытлумачыць іхнюю прыроду і бытаванне.

Але, па-першае, мне здаецца, мы не можам абвінавачваць нашых братоў у гультайстве і бяздзейнасці, бо амаль усе яны займаюцца земляробствам, не будзем удакладняць, ці дастаткова дбайна, але ўсё ж нейкая актыўнасць для гэтага неабходна.

– Калі жыццё ў вёсцы, – адказаў пан Падстоліц, – мы можам назваць земляробствам ці гаспадараннем, дык, сапраўды, мала мы знойдзем зусім бяздзейных. Ты ж сам падумай, пане Уладзіслаў, як мінаюць твае дні ў вёсцы, колькі гадзін ты займаешся карыснаю для сябе і для краю працаю?

Не змог на гэта нічога адказаць Уладзіслаў, а пан Падстоліц працягваў:

– Паляванне, паленне люлькі, вечарам – шашкі ці віст альбо гожыя суседкі; ранкі ў шляфроку, калі, пазяхаючы, будуеш нябесныя замкі, і цэлыя дні ў нудных размовах пра коней, сабак, зайцаў, слонак[127], пра надвор'е альбо пра цяжкія часы – вось і ўвесь рэестр заняткаў заможных людзей. Тыя, у каго

менш дастатку, зойдуць, праўда, у гумно, свіран, абору, стайню; пастаяць са складзенымі рукамі ля сялянаў, якія працуюць; накрычацца, нагаворацца пра гультайства, пра недагляд аканома, пра крадзеж ці нядбальства слуг; пакараюць таго, каго палічаць віноўным, і, нарэшце, пакіруюцца ў пакоі, каб наследаваць, па магчымасці, заможных.

Пра дам няма чаго і казаць. Стос абшытых хусцінак, рознакаляровых кашалькоў ды шнурочкаў – вось і ўвесь вынік працы абывацелькі за некалькі дзясяткаў гадоў. А калі каторая выдасць прадукты на абед са спіжарні альбо індыкоў палічыць, дык яна ўжо гэтак ганарыцца сваёй гаспадарлівасцю, што да канца дня, паводле яе меркавання, застаецца ўжо толькі пазяхаць ці манерна прастарэкваць на пасядзелках з суседкамі альбо на праходках, альбо за вязаннем ці абшываннем хусцінак ці строяў.

Я не кажу, што трэба ўласнаручна займацца цяжкаю земляробчаю працаю: знайшоўся б адпаведны занятак і нам, каб мы пастараліся. Але я ўпэўнены, што сельская гаспадарка ў яе цяперашнім стане ў нашым краі не дае аніякае магчымасці заняць землеўласніка, каб ён не бяздзейнічаў, дык няма і магчымасці, каб ён разгарнуў свае разумовыя здольнасці ды каб не ператвараўся ў бездапаможнага ды спешчанага. Кожны з земляробаў, хто ўласнаручна апрацоўвае зямлю, у стане сам кіраваць такою, як нашая, гаспадаркаю. Дык у чым жа нашая перад імі перавага? Навошта нам нашыя здольнасці, навошта нам набытыя веды, навошта высокія паняцці? Мы ж самі кажам, што марна закопваем на вёсцы свае таленты, бо хто з адукаваных людзей прысвяціў жыццё звычайнаму земляробству?

– Уласнікі зямлі, – азваўся Уладзіслаў, – служаць, займаючы пасады. Адно ўжо гэта бароніць іх ад папрокаў у абыякавасці да лёсу краю і ў гультайстве.

– Не ўсе і не пастаянна служаць, – адказаў пан Падстоліц. – А пра бяздзейнасць можна казаць не толькі тады, калі чалавек нічога не робіць, бо можна быць гультаём нават і шмат робячы, але недарэчнага. І той не даводзіць свае адданасці краю, хто дзеля ўласнае толькі выгады хоча ўзвысіцца над усімі. Сам васпан прызнаеш, што ў нас надта рэдка можна сустрэць урадоўца, дастаткова адукаванага і здольнага, які з адказнасцю грамадзяніна, з клопатам пра суайчыннікаў імкнуся заняць пасаду і быў на ёй дбайным і прыдатным. Звычайна нашыя ўрадоўцы, не маючы адпаведнае адукацыі і не разумеючы добра свайго прызначэння, бяздзейнічаюць на сваіх пасадах, што вельмі небяспечна, бо меч права, якім кіруе няўмелая рука, трапляе як у вінаватых, гэтак і ў невінаватых. Не! Не клопат пра Айчыну, не грамадзянская актыўнасць, а толькі жаданне верхаводзіць, славалюбства, высакамернасць, адным словам – самалюбства дае нам большасць нашых урадоўцаў.

– Я гатовы прызнаць, – заўважыў Уладзіслаў, – што для большасці ўрадоўцаў уласцівае звычайнае для чалавечае прыроды жаданне ўзвысіцца, дык, як я казаў ужо, нават заганы могуць быць карыснымі для краю, бо без гэтага жадання ўзвысіцца не было б у нас і ўрадоўцаў.

– Не стаўлю табе ў віну, мой Уладзіслаў, гэты сафізм, – адказаў пан Падстоліц. – Ён паўтараецца спрадвеку і служыць аргументам у вуснах тых, хто не задумваецца пра вартасць меркавання, засланяючыся ягонаю аўтарытэтнасцю.

Сапраўды, амаль усе заканатворцы на прыроджаным чалавечым жаданні ўзвысіцца засноўвалі шмат якія прынцыпы нацыянальнага дабрабыту; але

такое жаданне ўзвысіцца, як разумелі заканатворцы, не з'яўляецца заганаю; наадварот, паходзячы ад самалюбства, скіраванага на дабро, яно абапіраецца на талент, здольнасці, сумленне і заслугі.

Зазірні хоць у якое права: кожнае мяркуе, што пасады зоймуць людзі здатныя да гэтага, вядомым сваімі здольнасцямі і сумленнасцю. Але гэтак выхаваныя грамадзяне не маглі б пагадзіцца з нашымі бессаромнымі выбарчымі звычаямі, якія ўвялі інтрыганы: гэтак напрошвацца, гэтак кланяцца, гэтак падкупляць і раздаваць фальшывыя абяцанні направа і налева, без чаго, аднак, атрымаць большасці галасоў сёння ўжо не атрымалася б.

Людзей здольных і дабрачынных трэба яшчэ пашукаць, а праныры ды няздары самі лезуць. Колькі ж у нас урадоўцаў, якіх мы запрасілі, якіх мы шукалі? Вельмі рэдка ў нас пасаду займае чалавек варты яе.

Народ, у якім ёсць добра скіраванае жаданне ўзвысіцца, славіцца вялікімі справамі і асобамі, бо з гэтага вынікаюць сумленнасць і высакародныя ўчынкі. Але таленты і здольнасці дадзены не кожнаму, дабрачыннасць жа, сама па сабе сціплая, апярэджаная пранырамі, удалечыні ад вялікага свету займаецца ўласным удасканальваннем.

Малады чалавек, якога падштурхоўвае гэта жаданне ўзвысіцца і які жадае, каб яго высока цанілі і шанавалі суайчыннікі, але не прыгатаваны выхаваннем ані да выбару правільнага шляху, ані да ўпэўненых крокаў па ўжо па абраным, лёгка трапіць на біты гасцінец, нібыта і прывабны, якім, здаецца, бліжэй будзе дасягнуць мэты. Хто ж, гэтак падмануты, зможа разгледзець, што такая мэта з'яўляецца толькі мараю, да якое чалавеку не дабрацца па тым гасцінцы, бо чым бліжэй, як яму здаецца, ён падыходзіць, тым далей яна адсоўваецца?

– Я не разумею гэтага, – сказаў Уладзіслаў, – бо мне ўяўляецца, што людзі на пасадах маюць сапраўдную значнасць, і тым больш шануюць іх землякі, чым больш высокую пасаду яны займаюць.

– Але гэта пашана да чалавека ці да пасады? – запытаўся пан Падстоліц.

– Не ведаю, ці можна аддзяліць адно ад другога, – адказаў Уладзіслаў.

– Вось, менавіта, – згадзіўся пан Падстоліц. – Належыць адрозніваць шанаванне пасады ад шанавання ўрадоўца. Гэта два зусім розныя віды пашаны. Не належыць адмаўляць пашаны, належнае пасадам, заўсёды вартым, заўсёды годным нашага шанавання. Але чалавека, пры выкананні ім службовых абавязкаў, належыць шанаваць і ў адпаведнасці з яго пасадаю; у кожным іншым выпадку – у адпаведнасці з ягонымі заслугамі ў краі і ў адпаведнасці з ягонымі асабістымі вартасцямі. Бо ў першым выпадку належыць браць пад увагу толькі пасаду, не зважаючы, які чалавек яе займае, а ў другім – асабістую вартасць чалавека, не зважаючы на тое, якое месца ён займае ў грамадстве. Сумленны грамадзянін на самай нізкай пасадзе заслугоўвае большае пахвалы і ўдзячнасці землякоў, чым самы высокі чыноўнік, які займае пасаду толькі дзеля славалюбства і пыхі.

Менавіта гэтае шанаванне асабістых вартасцяў з'яўляецца падставаю для славы і павінна быць самаю пажаданаю якасцю чалавека. Хто, не зважаючы на гэты падзел, шануе ўрадоўца толькі за пасаду, той памыляецца; але памыляецца і той, хто не бачачы ва ўрадоўцы дабрачыннасці і стараннасці, пагарджае і чалавекам, і самою пасадаю.

Уласна, гэтая блытаніна ва ўяўленнях пра пашану – якая з іх належыць пасадзе, а якая ўрадоўцу – і з'яўляецца прычынаю, чаго гэтак пнуцца на высокія пасады: адно толькі дзеля значнасці, ці, як кажуць, дзеля каперты[128].

Малады чалавек без належных схільнасцяў, без адукацыі, нават без здольнасцяў, спадзеючыся толькі на свой дастатак і на прыхільнасць выбарцаў, што не разумеюць свайго дабра, узбіваецца на пасаду, ставіцца да абавязкаў абыякава альбо са шкодаю грамадству і ганарыцца пашанаю, належнай гэтай пасадзе, прысвойвае яе сабе, мяркуючы, што ён выканаў сваё прызначэнне, гэта значыць, стаў карысным для краю і заслужыў шанаванне суайчыннікаў. Тым часам яго толькі пашкадаваць застаецца, што час і здольнасці свае, якія ён мог прысвяціць Айчыне, змарнаваў на пустое славалюбства, не займеў сапраўдных заслугаў, не выканаў аніякае карыснае працы, растраціў усе свае магчымыя таленты і здольнасці і сапраўднае пашаны не займеў. Бо ўрэшце і суайчыннікі ўбачаць у ім зноў чалавека і зменяць сваё меркаванне пра яго ў адпаведнасці з тым, чаго ён варты.

І гэтая якраз, як я яе называю, тытуламанія стала ў нас сапраўдным няшчасцем для краю, бо шляхетнае само па сабе жаданне ўзвысіцца, калі трапляе на аблудную дарогу, губляе на ёй тыя здольнасці, якія можна было б развіць дзеля сапраўднае карысці Айчыне.

– Няма, аднак, урадоўца, – сказаў Уладзіслаў, – які б прызнаўся, што ён імкнуўся на пасаду толькі дзеля аднаго тытулу, а не дзеля сумленнае службы Айчыне.

– Не прызнаецца ніхто ў гэтым, – згадзіўся пан Падстоліц. – Але кожны няхай сам у сябе пра гэта запытаецца. Сярод гучных воклічаў самалюбства можна будзе пачуць прыцішаны голас горкае часам праўды. Не варта не звяртаць на яго ўвагу: гэта голас сумлення. Калі сапраўды кіраваліся мы шляхетнымі памкненнямі, дык ва ўласным сумленні знойдзем лепшую сабе ўзнагароду. Нават пачуем у ім і меркаванне суайчыннікаў пра нашыя заслугі. Голас сумлення ніколі не абманвае. Ён лепш за ўсё пакажа нам, што мы заслужылі сваёю працаю на пасадзе ці што заслужым, калі будзем пнуцца на пасаду, без адпаведных здольнасцяў. У гэтым выпадку дарэмна будзем шукаць апраўданняў і цешыцца апладысментамі ліслівіцаў, бо не падманем сябе і не выкрадзем у грамадства не належнае нам славы. Калі сумленне дакарае нас, дык гэта знак, што мы віноўныя альбо маем намер быць віноўнымі: і можам быць пэўныя, што чакаюць нас згрызоты і прыніжэнне, нават калі апладысменты ліслівіцаў будуць гучаць навокал.

Шчаслівы той, каму не засціць вочы самалюбства, хто чуе голас сумлення і, заўважаючы ў сваім жыцці памылкі альбо недасканаласці, не падманвае сябе, што людзі гэтага не бачаць ці не разумець, бо не паказваюць віду, але шчыра стараецца выправіцца. Гэта якраз і ёсць сапраўдны трыумф дабрачыннасці.

Кожны можа заблукаць, тым больш той, каго змалку не накіравалі на добры шлях; але толькі надзелены высакароднаю душою здолее перамагчы фальшывы сорам і ляноту, якая дае парады адкласці выпраўленне на заўтра. Толькі такога чалавека чакае сапраўдная слава: калі не ў сучаснасці, дык у будучым, калі не ад людзей, дык, што найбольш каштоўна, ва ўласным перакананні.

– Несумненна, – азваўся Уладзіслаў, – маглі б мы давяраць уласнаму перакананню наконт публічнае пашаны, а тым самым і ўласнае годнасці, каб не

было яно гэтак прыгнечана перасцярогамі, залішняй самаўпэўненасцю і фальшывым уяўленнем пра стан рэчаў. Але мы паўсюдна паддаемся кепскім уплывам і ліслівасці, ахвотна тлумачым сабе ўсё так, як нам больш падабаецца, нават найгоршыя нашыя ўчынкі лічым за правільныя і вартыя ўхвалы, гэтак і гадуем права на пашану.

– Хто ўжо не чуе чыстага голасу сумлення, – сказаў пан Падстоліц, – той згублены назаўсёды. На жаль, такіх шмат. І варта прызнаць, што мы самі з-за нашае памяркоўнасці, з-за нашае згодлівасці, да якое нас нішто не змушае, спрычыняемся да таго, каб голас сумлення быў прытлумлены шмат у каго з тых людзей, якія, каб не бачылі залішняе паблажлівасці да сябе, можа, і не мелі б надзей, што публічнасць не адмовіць ім у пашане, бо ёсць падставы для гэтага, і не патрабавалі б незаслужанае павагі, якая сваім бляскам захінае цені чалавечых заганаў.

Такая саманадзейнасць гэтых людзей даводзіць, што яны мяркуюць, быццам усё грамадства, маючы гэткую ж сапсаваную маральнасць, не здолее іначай іх ацаніць, як толькі паводле іхняе знешнасці альбо бляску, які іх атачае. Годнае літасці гэткае грамадства, але варты пагарды той, хто жадае, хоць бы нават часова, выкарыстаць гэтакі стан грамадскае свядомасці.

Але калі тытуламанія прыносіць шкоду краю, бо плодзіць урадоўцаў кепскіх і закрывае шлях годным, дык яшчэ большая бяда – гэта пыха і жаданне жыць у раскошы. Бо гэта пазбаўляе край багацця, пазбаўляе шмат каго з нашых братоў сродкаў да існавання; гэта становіцца нябачнаю прычынаю іхняга бядотнага згасання альбо бачнаю – іхняга бядотнага жыцця; пашырае дэмаралізацыю і выклікае мноства іншых заган, не менш шкодных, а таксама тых, што ганьбяць нас.

– Цяжка, – заўважыў Уладзіслаў, – вызначыць межы гэтае раскошы. Часам тое, што падаецца жыццём не па сродках, з'яўляецца толькі вынікам добрага гаспадарання, якое чалавека з невялікім маёнткам ставіць поруч з заможнымі. Здараецца таксама, што некаторыя ашчаджаюць на адным, каб набыць узамен нешта такое, што лічаць больш важным. Шмат ёсць такіх, хто эканоміць на кухні, каб мець за што купіць экіпаж альбо прыгожа апрануць жонку. Харунжыха раскошу свайго дзіўнага парку і строяў ставіць вышэй за дастатак у доме і за спакой, які б яна мела, каб плаціла даўгі і падаткі.

– Гэтак заўсёды, – адказаў пан Падстоліц, – пакуль засланяемся агульнымі разважаннямі – цяжка дабыць з іхняе ўяўнае сур'ёзнасці відавочнае, але калі дойдзем да дэталяў, да прыкладаў, дык вартасць довадаў становіцца сумнеўнаю.

Прывёў васпан прыклад Харунжыхі ў доказ свайго меркавання і сам, напэўна, ужо адчуваеш, як гэты прыклад яго пахіснуў. Бо хто ж асмеліцца сцвярджаць, што добра робіць тая Харунжыха альбо той распешчаны Капітан, якія, кіруючыся сваімі фантазіямі, гэтак бяздумна выдаткоўваюць грошы, што не стае ім на жыццё? Уласна з-за гэтага бязладдзя, якое ў нас глыбока ўкаранілася, і ўся наша нядоля.

Навошта чалавеку са сціплым дастаткам пнуцца да раскошы, уласцівай заможным? Можа, гэта дзеля таго, каб за ўяўным бляскам схаваць недахоп добрых якасцяў, каб раскошаю засціць вочы землякам і прымусіць шанаваць сябе? Дзякуючы добраму гаспадаранню, ён мае прыбыткі большыя, чым выдаткі, дык калі жадае пашаны і ўдзячнасці суайчыннікаў, няхай і далей

рухаецца тым самым шляхам, які прывёў яго да гэтага стану, няхай павялічвае свае прыбыткі, а з дапамогаю абароту капіталу няхай стварае магчымасці для бяднейшых, якія толькі і азіраюцца навокал у пошуках заробку.

Кожны чалавек, што мае хоць які-небудзь маёнтак, можа стаць на гэты шлях; кожны можа і павінны добра ўсё разлічыць і распарадзіцца сваім гадавым прыбыткам так, каб ашчадзіць нешта ці на непрадбачаныя выдаткі, ці на нейкую карысную справу.

Каб мы былі ў стане прыняць тое дабрадзейства, што дае нам магчымасць быць карыснымі нашым бліжнім, нашчадкам і самім сабе, словам, Айчыне, дык, несумненна, кожны з нас бы пераканаўся, што мае шмат спосабаў, каб зрабіць запас.

Тады б мы зразумелі, што дробныя выдаткі паглынаюць большую частку нашых прыбыткаў і што на гэта трэба звяртаць асаблівую ўвагу; бо без гэтых выдаткаў часта можна лёгка абысціся, а яны – найбольшы вораг ашчаднасці.

Прыгадалася мне, дарэчы, паказка аднаго англічаніна. “Збіралі мы, – расказваў ён, – грошы на пэўную дабрачынную мэту. Калі мы падышлі да чарговых дзвярэй, за якімі жыў стары кравец, дык ён якраз у гэты момант сварыўся на сваю кухарку за тое, што яна выкінула ў смецце запалку, спаленую толькі з аднаго канца. Пачуўшы тыя заўвагі, мы ўжо не спадзяваліся і шэлега нават атрымаць ад старога скнары. Але ж пастукаліся ў дзверы. Ён адчыніў і ветліва запрасіў нас у пакой. У сярэдзіне – чыста, мэбля толькі самая неабходная, на стале – графін з вадою; усё нібы падказвала нам, што ветлівасць старога скнары пераменіцца ў гнеў, і ён выганіць гасцей. Аднак мы адважыліся пасвяціць яго ў нашыя намеры і падаць рэестар падпіскі. Ён прагледзеў паперы без аніякіх грымасаў і з самым спакойным выразам твару дастаў з куфра мяшэчак ды адлічыў нам пяцьсот фунтаў стэрлінгаў. Ураженыя гэтакаю шчодрасцю, мы выказалі яму наша здзіўленне, якое было тым большым, што мы чулі, як ён сварыўся на кухарку за спаленую з аднаго канца запалку. «Ведайце, панове, – адказаў ён з усмешкаю, – каб я не дбаў пра вартасць аднае запалкі, дык не меў бы зараз прыемнасці далучыцца да тварэння агульнага дабра»”.

Што скажаш на гэта, пане Уладзіслаў?

– Няхай васпан дабрадзей не думае, – адказаў Уладзіслаў, – што я цяпер, як і раней, маю іншае, чым васпан дабрадзей меркаванне. Наадварот, калі я і кажу нешта насуперак, дык гэта толькі таму, што жадаю пачуць больш дакладнае тлумачэнне. Дык з дазволу васпана дабрадзея адкажу так: жадаючы жыць паводле навукі англічаніна, трэба было б адмовіцца ад усіх прыемнасцяў?

– Кажы, мой Уладзіслаў, смела ўсё, што ў абарону тваіх меркаванняў прыходзіць табе ў галаву; бо толькі такім чынам можна дайсці да сэнсу. Не бойся, што ў мяне складзецца пра цябе няправільнае ўражанне; я разумею твае закіды і адказваю на іх таму, што, магчыма, некалі і табе давядзецца тлумачыць тое ж самае камусьці з маладзейшых. А каб хоць адзін чалавек, скарыстаўшыся тваёю навукаю, адступіўся б ад таго кепскага, што ён ужо пачаў рабіць, альбо з самага пачатку не ступіў бы на кепскую сцежку, разумеючы куды яна завядзе, дык і мае словы не прапалі б дарма.

Дык у падобным выпадку ты адкажаш так: чалавек не мусіць адмаўляцца ад годных прыемнасцяў, але ён не павінны шукаць тых, выдаткі на якія перавышаюць ягоныя прыбыткі. Вось у чым розніца паміж скупасцю

і ашчаднасцю. Вядома, ты разумееш, пане Уладзіслаў, што я не называю ашчаднасцю тае неразумнае сквапнасці, якая загадвае нам адмаўляць сабе альбо тым, хто ад нас залежны, у прыстойных выгодах. Гэткая хцівасць часам нават спалучаецца з марнатраўствам. Такая ашчаднасць не вартая пачцівага чалавека.

Але сама скупасць, у поўным сваім значэнні – разам з хцівасцю, прагнасцю, эгаізмам – не гэтак яшчэ шкодная, як марнатраўства. Няма аніякае карысці з запасаў скнары, бо пакуль ён жывы, ягоны скарб у абарот не трапіць, дык аніякае карысці краю ад яго не будзе. А марнатраўца нават і пасля смерці не пакіне анічога для краіны, а наадварот, хціва падграбаючы пад сябе, ён не толькі ўсё змарнуе, але і зробіць жабракамі ўсіх тых, хто падмануты ягоным бляскам, даручыў яму свой набытак.

Ашчаднасць – гэта маці шматлікіх прыемнасцяў, а таксама шматлікіх сямейных і грамадскіх дабрачыннасцяў. Разважліва адмаўляючыся ад спажывання ўсяго таго, без чаго можна абысціся, заможны гаспадар імкнецца забяспечыць сваіх бліжніх усім неабходным; ён са шляхетнаю шчодрасцю дзеліцца з імі сваімі запасамі і адчувае задавальненне, чаго ніколі не зазнае марнатраўца, якога грызе сумленне; умела распараджаючыся набыткам, можна, дапамагаючы іншым, памнажаць сваё багацце і ствараць новыя запасы дзеля дабрачыннае паслугі Айчыне.

– Амаль усе лічаць, – заўважыў Уладзіслаў, – што марнатраўца, хоць сам і гіне, але спрычыняецца дзеля карысці краю тым, што імкнучыся да раскошы, заахвочвае развіццё рамяства і гандлю.

– Зусім розныя рэчы – раскоша і марнатраўства, – адказаў пан Падстоліц. – Правільна зразумелая раскоша можа быць спалучаная з ашчаднасцю і, сапраўды, можа быць карысная для краю. Але марнатраўства, якое без патрэбы і без кампенсацыі нішчыць запасы, назаўсёды выключае іхнюю вартасць з масы нацыянальнага багацця. Дык не з'яўляецца марнатраўствам тое, што якім-небудзь пажыткам пакрывае выдаткаванае.

Напрыклад, мураваны дом у вёсцы, пабудаваны ў прыгожым стылі, будзе сапраўды раскошаю, бо можна было б жыць і ў драўлянай халупе пад саламянаю страхою; але калі гэта не абцяжарвае бюджэт гаспадара, дык не будзе марнатраўствам. Наадварот, калі гаспадар са сваіх запасаў даў зарабіць рамеснікам і ўпрыгожыў ваколіцу, дык гэта карысная раскоша. Але вялізны палац у вёсцы, у краі, дзе няма маярату, і маёнтак раней ці пазней можа быць падзелены, – гэта заўсёды будзе марнатраўствам, бо з цягам часу альбо ператворыцца ў праблему пры дзяльбе, альбо – у руіны, і пахавае пад сабою ўкладзены капітал.

Прыгожая каляска і добрыя коні не будуць марнатраўствам у доме чалавека заможнага ці высокага чыноўніка, годнасць пасады альбо годнасць роду якога вымагаюць пэўнае раскошы. Гэтая шляхетная раскоша з-за свае карысці дзеля айчынных рамеснікаў і стайняў можа быць вартая ўхвалы; аднак для людзей з меншым дастаткам і тым, якія адным толькі павярхоўным бляскам імкнуцца да значнасці, тая самая каляска будзе марнатраўствам.

Пачостка для прыяцеляў з нагоды мілае сэрцу ўрачыстасці з'яўляецца годным, хоць і дарагім выдаткам; але абед ці баль дзеля соймікавае форсы[129] заўсёды будзе нікчэмным марнатраўствам.

Вопратка з добрага сукна – гэта пахвальная і карысная раскоша, бо сапраўды спрыяе ашчаднасці, а таксама заахвочвае развіццё краёвых рамёстваў; але выдаткі на карункі, газавыя тканіны, блонды, строі на адзін вечар ды іншыя празрыстыя тканіны, хоць і модаю нібы тлумачацца, будуць заўсёды нікчэмным марнатраўствам, якое прыносіць шкоду і нам самім, і нашай Айчыне. Ужо лепш турэцкі шаль, калі прыбыткі дазваляюць, бо ён, прынамсі, заўсёды ў цане.

– Што марнатраўца шкодзіць сам сабе, – сказаў Уладзіслаў, – гэта не падлягае сумненню, але каб ён шкодзіў Айчыне тым, што пускае ўсё на вецер, гэтага я яшчэ не разумею.

– Сабе марнатраўца шкодзіць непасрэдна; нават і ўсім тым, хто ад яго залежыць, альбо сваім спадчыннікам – бедная сям'я магла б палепшыць свой стан тым маёнткам, які быў змарнаваны; але скамянелае сэрца марнатраўцы не чуе голасу прыроды, не разумее чулае прыемнасці ад асушэння слёзаў няшчасным: "Няхай плачуць, няхай пакутуюць ад нястачы, мне гэтая драбяза даражэй за іхняе пацяшэнне; што пра мяне людзі скажуць, калі я не апрану новую сукню альбо не пачастую госця шампанскім? Бо гэта ж маё ўласнае, магу спажываць гэта, як пажадаю".

Айчыне, хоць апасродкавана, марнатраўца робіць двайную шкоду. Папершае, пазбаўляючы яе пушчаных на вецер вартасцяў, якія знікаючы без кампенсацыі з масы нацыянальнага багацця, спыняюць свой абарот у прамысловасці і не толькі ўжо не прычыняюцца дзеля ўзнагароджвання мноства працаўнікоў, але пазбаўляюць іх сродкаў да жыцця, а тым самым становяцца прычынаю іхняе нэндзы і згасання.

Не апраўдае марнатраўцу і тое, што змарнаванае ім у масе нацыянальнага багацця – гэта кропля ў моры; бо калі ад фунту хлеба, прызначанага на ратаванне жыцця чалавека, які памірае з голаду, сотня ліхадзеяў адшчыкне па адной крупінцы, цалкам пазбаўляючы галоднага ежы, дык нельга лічыць іх невінаватымі ў забойстве, бо кожны з іх – злачынца. Нават дробны капітал, пушчаны ў абарот і, адраджаючыся ў тысячы прадметаў, мог бы тысячам рук, праз якія прайшоў, прынесці спажытак, і сам бы значна павялічыўся. Добра сказана, што ад аднаго недарэкі шкоды на дзесяцярых, а адзін марнатраўца горшы за сто забойцаў.

А найбольшую шкоду, якая наўпрост скіравана на гібель Айчыны, марнатраўца прыносіць тым, што псуе сваім прыкладам недасведчаную моладзь. Шмат хто, калі бачыць той бляск, які атачае фанфарона, а таксама ягоны імпазантны выгляд ды апладысменты лісліўцаў і ўсю гэту ўяўную пышнасць, якая моцна ўздзейнічае на малады розум, дык уяўляе сабе, што гэта якраз і ёсць самы пэўны спосаб, каб стаць значнаю асобаю, дык і хапаецца за яго няшчасны, і ўжо ўсё, што магло б яго сапраўды ўзвысіць, гіне ў суцэльнай марнасці.

Атрута гэтая такая моцная, што раз яе пакаштаваўшы, ніхто ўжо не вяртаецца да здаровага розуму, пакуль не страціць маёнтак, а таксама здольнасці і сілу, каб набыць новы. Заўважае чалавек, што не хапае яму сродкаў, дык страціўшы сумленне, замяняе прыбыткі даўгамі, прадажнасцю, рабункам, прыгнётам падданых і чым можа; без сораму імкнецца да прыснёнае мэты: дасягнуць значнасці, і шчаслівым зрокам ловіць захапленне натоўпу, якое прымае за належны яму гонар і пашану.

Няшчасны! Ён і не здагадваецца, што калі лісліўцы б’юць яму ў ладкі, дык гэта толькі дзеля таго, каб запэўніць сабе першынства ў абдзіранні яго; калі натоўп не спускае з яго вачэй, дык толькі таму, што любіць бавіцца бліскучымі цацкамі; калі ён абуджае ў людзях якое пачуццё, дык гэта пачуццё літасці, бо замест заслуг і талентаў выбраў ён фальшывую дарогу знешняга бляску, думаючы, што не тая – цяжкая, а гэтая – лёгкая вядзе да гонару і славы.

Але як толькі ступіць ён на гэту лёгкую дарогу, дык адразу чакае яго ганьба, якая соладка ўсміхаючыся, выцісне яму на ілбе пячатку вечнае нікчэмнасці. Бо гэта ж несумненная праўда, што раскошнае не па сродках жыццё і жаданне засціць вочы бляскам, каб узвысіцца, даводзіць не толькі да няздатнасці служыць Айчыне і жыць паводле грунтоўных прынцыпаў, але да поўнае страты розуму і, пад выглядам шчодрасці, да душэўнае чэрствасці, бо звычайна такі чалавек нават не дбае, а можа, і не адчувае, што ён з’яўляецца караю Божаю для грамадства[XIV].

Таму добры грамадзянін і пачцівы чалавек, асабліва ў цяперашнія часы, наколькі гэта магчыма ў ягоным стане, унікае нават годнае яго раскошы дзеля агульнае эканоміі ды каб не ўпікалі яго тым, што ён маладых альбо менш заможных сваім прыкладам разбэшчвае і стаў прычынаю, хоць і не наўмысна, іхняе гібелі.

– Мала сярод нас такіх сумленных, – уздыхнуў Уладзіслаў. – Вядома, калі параўноўваю заўвагі васпана дабрадзея з уласнымі назіраннямі ў краі, дык я мушу прызнаць, што большасць нашых братоў маюць апошнія дзве заганы, якія ўжо шырока распаўсюдзіліся, што амаль уся шляхта абыякава назірае, як пашыраецца пошасць дэмаралізацыі і нэндза. Кожны нібы заняты нечым важным, а насамрэч, стараецца толькі, каб дагадзіць той хваробе, якая яго нішчыць. Сумны малюнак нашага жыцця! Уяўляю сабе, як цяжка было б зняць заслону з вачэй кожнага і пераканаць усіх, што сэрцы ў іх хворыя. Але, мосці Падстоліцу, ці можам мы мець хоць надзею, што знойдуцца добрыя лекі, каб вылечыць нашы хворыя сэрцы? Калі будзе на тое воля васпана дабрадзея, прасіў бы навучыць мяне: якія б гэта маглі быць лекі і як можна было б адкрыць нам вочы ды прымусіць ужываць гэтыя сродкі для паратунку?

– Дазволь, пане Уладзіслаў, – умяшаўся тут аўтар, – папрасіць пана Падстоліца адкласці свой адказ на наступны раздзел. Вы так доўга размаўлялі на гэткую невясёлую тэму, што я нездарма баюся, каб не знудзілі вы мне чытачоў у самым важным месцы. Пасля адпачынку, у наступным раздзеле, размаўляйце ізноў пра што хочаце.

**Раздзел дзясяты**

# ЯК ЖА ГЭТАМУ ПАРАДЗІЦЬ?

Tak, poraź pierwszy, gdy na słone wody
Z przyjaznym wiatrem płynie sternik młody,
Starzy go uczą: gdy się fale wzmogą,
Jaką z okrętem kierować się drogą,
Jak skały mijać; tak, że ów zuchwały,
Pyszny nauką wygląda na wały.

An. Gorecki, *Wiersz do M. Z. o doświadczeniu*[130]

– Дайшлі мы да тае мяжы, – пачаў свой адказ на пытанне Уладзіслава пан Падстоліц, – што няма ўжо сёння чалавека, які не адчуваў бы, колькі бяды чыняць нашыя заганы; але ніхто не бачыць іх у сабе; кожны спіхвае на іншага; а ў сваім сэрцы, калі і прызнае нейкую правіну, дык супакойвае сябе апраўданнямі пра акалічнасці альбо адгаворкамі, што адзін у полі не воін. Пакуль у нас гэтак будзе, няма чаго і думаць пра лекі. Але каб мы ўсім сэрцам пажадалі лепшага быту і адчулі ў сабе непераможную энергію, асабліва на пачатку, дык кожны паасобку і ўсе разам скінулі б мы ярмо нашых заганаў і нядолі, а, можа, нават і нечакана хутка зноў набылі дабрачыннасці ды благаславенне. Кожны павінны пачаць з сябе, бо не шкодзіць – гэта абавязак, а дабрачыннасць і слава ў тым, каб быць карысным.

Шукаючы добрых сродкаў для лекавання хваробы, трэба спачатку даследаваць, што яе выклікае і што перашкаджае выздараўленню. Калі я разважаю пра распаўсюджаную ў нас абыякавасць да лёсу краю, якую мы лічым маткаю нашага гультайства ды іншых заганаў, дык мне здаецца, што ейныя вытокі трэба шукаць у даўніх нашых інстытуцыях і палітычных здарэннях, якія закранулі наш край.

Даўнія нашыя інстытуцыі, аддаліўшы ад рыцарскага стану ўсе вытворчыя заняткі, як нягодныя шляхціца, даверылі яму адно толькі абарону Айчыны і яе адміністрацыю. На выкананне гэтых абавязкаў альбо толькі на падрыхтоўку да іх шляхціц прысвячаў усё сваё жыццё. Але ў апошнія гады існавання Польшчы, калі заржавелая махіна анархіі стварыла паўсюль бязладдзе, і ўсё пачало руйнавацца, а жыццё гаснуць, дык шляхціц, не знаходзячы на гэтую сваволю ўтаймавання, у палітычным і грамадскім хаосе, у бяздзейнасці недарэчна бавіў свае дні. Слабла ў ім, не маючы падсілкавання, энергія; край не бачыў ужо ў ім абаронцу, а дабрачыннасць страціла свайго прыхільніка. Пагібель краю, нарэшце, знішчыла апошнія яго грамадзянскія пачуцці. Гэта быў перыяд агульнага здранцвення.

Пры новай уладзе шляхціц, пазбаўлены ўплыву на дзяржаўныя справы, самотны, без аніякіх абавязкаў у новай сістэме, стаў цалкам бяздзейны. Адно толькі земляробства лучыла яго з краем і давала нібы занятак. Выбарныя пасады занялі нямногія, і то, як бачым, не ад жадання паслужыць краю;

рамесніцтва і гандаль прынізілі б шляхціца. Здаўна прызвычаены дбаць толькі пра сябе, шляхціц і думаць не думаў пра нядолю мястэчак, якія заняпадалі, ды пра сялян. І нават калі б задумваўся, дык не зразумеў бы, што ў ягоных уласных руках маюцца спосабы паляпшэння іхняга быту. Гэтак, не маючы перад сабою аніякае жыццёвай мэты, сядзеў ён, склаўшы рукі, альбо корпаўся ў сваіх дробных справах, якія да агульнага дабра не мелі ўжо аніякага дачынення. Так пашыралася абыякавасць да лёсу краю. А ў бяздзейным, пазбаўленым мэты жыцці, у распешчанасці расквітнела гультайства ды нікчэмнасць і згасалі рэшткі грамадзянскіх пачуццяў, якія не паспела вынішчыць анархія.

Якія ж на гэтую хваробу лекі? Вярнуць мэту жыцця шляхецкаму стану. А гэта ў цяперашніх акалічнасцях павінна быць не што іншае, як намаганні, скіраваныя на паляпшэнне дабрабыту краю, дзеля чаго трэба ўзяцца за прамысловасць у шырокім значэнні гэтага слова. Адно толькі вяртанне мэты жыцця, дзякуючы шляхетнай прывязанасці да Айчыны, знішчыла б усе тыя заганы, якія ўзніклі з-за абыякавасці да дабра краю.

– Я адчуваю, – сказаў Уладзіслаў, – што васпан дабрадзей мае рацыю. Пакуль мы не адолеем у сабе гэтае абыякавасці да дабра краю і не зоймемся прамысловасцю, якая адна толькі і можа ў цяперашніх акалічнасцях забяспечыць дабрабыт нашае правінцыі, да таго часу не павінны мы чакаць ані паляпшэння нашага лёсу, ані выкаранення заганаў, якія з-за гэтае абыякавасці ўзніклі альбо палучаны з ёю. А дзве іншыя нашыя заганы адкуль узяліся, мосці Падстоліц, і якія лекі на іх патрэбныя?

– Дзве іншыя заганы – марнатраўства і тытуламанія – з усім іхнім аршаком, як я ўжо згадваў, паходзяць ад неразумнага самалюбства, а прычына гэтага – у кепскім агульным выхаванні.

– Мосці Падстоліц, – перапыніў яго Уладзіслаў, – з гэтым мне цяжка згадзіцца. Я, па-праўдзе, не разумею агульнае прычыны гэтага неразумнага самалюбства, але не хацеў бы ўскладаць віну за гэта на выхаванне, бо ў нас няма сям'і, якая б не старалася даць больш-менш прыстойнае выхавання нашчадкам.

– Уласна, наадварот атрымліваецца, – адказаў пан Падстоліц. – Можна хутчэй дапусціць, што няма ў нас сям'і, якая б імкнулася даць добрае выхаванне дзецям. Не спяшайся з пярэчаннямі, пане Уладзіслаў, зараз я табе патлумачу. Тое, што мы разумеем пад выхаваннем, заключае ў сабе тры абсалютна розныя прадметы: *свецкае выхаванне*, ці навучанне добрым манерам; *адукацыю*, ці развіццё розуму з дапамогаю навук, і, нарэшце, *маральнае выхаванне*, ці выхаванне сэрца і духу.

Свецкае выхаванне – самае лёгкае; яно пашыраецца па краі разам з модаю, спакушае сваім бляскам і зрабілася ў нас агульным. Адукацыя, маючы шмат агульнага са свецкім выхаваннем, хоць і не лічыцца надта патрэбнаю, таксама дзеля моды тут і там укараняецца, а з-за таго, што ўрад заахвочвае і стварае ўмовы, сапраўды, яна добра пашыраецца, але ў большасці гіне без прымянення; дык вучоба, да якое ставяцца бязмэтна і без стараннага выбару, прыносіць краю карысці не больш за тое, колькі неабходна ў прафесіі. А маральнага выхавання, якое яшчэ ў нас не ацэнена, хоць яно з'яўляецца асноваю асветы і дабрачыннасцяў, да гэтага часу няма яшчэ ў нас у краі для моладзі.

Свецкае выхаванне, якое павінна быць апошнім этапам адукацыі моладзі, зрабілася ў нас асноваю асветы; а вось маральнае выхаванне – гэты натураль-

ны грунт – пакідаецца на сляпы выпадак альбо асабістаму ўдасканаленню людзей дарослых, найбольш разумова развітых, а ўсяго грамадства гэта не датычыць. Абы малады чалавек ведаў мовы, умеў танцаваць і меў добрыя манеры, дык бацькі ўжо і радыя. Сур'ёзныя навукі для нашага шляхецкага стану не надта прывабныя. Бацькі, праўда, заахвочваюць дзяцей да вучобы, пераконваюць іх, што лёс чалавека залежыць ад адукацыі, але робяць гэта яны на выпадак збяднення; хто мае сякі-такі маёнтак, патрэбы ў навуцы не бачаць: гаспадарыць можна без пандэктаў[131], а суддзём, дэпутатам вывадовым[132], нават Маршалкам можна стаць і без усялякае фізікі.

– Я не ведаю, – сказаў Уладзіслаў, – ці можна абвінавачваць землеўласнікаў у занядбанні навучання. Штогод у акрузе Віленскага ўніверсітэта, апрача беларускіх школ, налічваецца амаль дваццаць тысяч вучняў, а гэта мусіць сведчыць пра дастатковую прыхільнасць нашых суайчыннікаў да адукацыі.

– Але што яны вывучаюць, з якою мэтаю, якая ад гэтага карысць? – запытаўся ў яго пан Падстоліц. – З дваццаці з лішнім тысяч вучняў, якія атрымліваюць пачатковую адукацыю, аніводнага яшчэ нельга лічыць прыгатаваным для служэння краю, якое вымагае паглыбленага вывучэння нейкага прадмета; у школах[133] жа даюцца толькі пачатковыя веды, якія без далейшага развіцця нельга прымяніць ні ў адной з прафесій. Развіццё гэтых пачатковых ведаў павінна адбывацца ва ўніверсітэце. Ці шмат мы налічым там вучняў, здольных стаць карыснымі краю землеўласнікамі, якія мусяць з цягам часу прыняць пад сваё кіраўніцтва ўвесь нерухомы маёнтак краю, суд, значную частку адміністрацыі, словам, – лёс нашае правінцыі? Не налічым мы і ста сыноў землеўласнікаў, якія вывучаюць права; а заканчвае курс хіба з дзясятак штогод. І гэта ўся колькасць карысных для краю ўрадоўцаў. Частка з іх знойдзе сабе нейкае іншае прызванне, а большасць адбывае курс толькі з-за таго, што гэтак прынята, альбо з-за ступені, дык разам з заканчэннем лекцый і ўсе дачыненні з навукаю ў іх таксама навек заканчваюцца.

За трыццаць гадоў ад часу свайго аднаўлення ўніверсітэт мог выпусціць каля дзесяці тысяч студэнтаў больш-менш падрыхтаваных; мусілі гэта быць людзі адукаваныя, свядомыя грамадзяне, якім зразумелыя патрэбы краю, якія выкарыстоўвалі б набытыя веды ў сваёй працы. А перадусім, апрача лекараў ды святароў, мы не бачым, каб прыдалася каму навука: ані росту гандлю ці рамесніцтва, ані ўдасканалення земляробства, ані добра падрыхтаваных суддзяў. Дык адукацыя амаль цалкам прапала. І не магло быць інчай, бо не было аніякае мэты дзеля выкарыстання адукацыі, дык згінула ўсё ў нікчэмнай бяздзейнасці.

– Бясспрэчна, – згадзіўся Уладзіслаў, – колькасць універсітэцкіх студэнтаў адносна нашага насельніцтва – малая; апрача таго, як я прыгадваю, няма там нават і чацвёртае часткі сыноў землеўласнікаў; рэшту студэнтаў складаюць дзеці мяшчанаў, а найбольш – чыншавае шляхты[134], якія ў шляхетных прафесіях шукаючы свае долі, хоць ім і цяжэй даводзіцца, але нас апярэджваюць. Але што тычыцца стаўлення да навукі, дык сярод маіх калег было вельмі шмат здольных, і я не думаю, каб пасля заканчэння курса яны занядбалі яе.

– Магу пагадзіцца, – адказаў пан Падстоліц, – што маладым, якія маюць перад вачыма добры прыклад, можа спадабацца навука, але і тое сумная праўда, што часта гэтага хапае ненадоўга, а лянота перамагае і ахвоту вучыцца,

і здольнасці. Колькі ж у нас абываценяў, якія займаюцца навукаю пасля заканчэння ўніверсітэту? На ўвесь край – некалькі асобаў. Як мы ставімся да навукі, відаць па тым, як браты нашыя ў большасці сваёй ставяцца да вучоных прафесій. Які абывацель згодзіцца аддаць сваю дачку за доктара, за аптэкара альбо за настаўніка, калі сватаецца які капертовіч[135], нават каб той быў абібокам ці нейкім шулерам і няздарам? Хто б ахвотна дазволіў свайму сыну ажаніцца з іхняю дачкою, каб ейны пасаг быў меншы за пасаг панны суддзянкі? Гэткая агіда да вучоных прафесій даводзіць існаванне закаранелых прымхаў, што талент і адукаванасць у нас ніжэй за шляхецкі кляйнот, а нават нібы і ганьбяць яго толькі тым, што праца аплачваецца. Што ж казаць пра іншую прыкладную адукацыю, якая рыхтуе фабрыкантаў, рамеснікаў, мастакоў? Да вышэйзгаданых мы ўжо неяк прызвычаіліся, іхняя значнасць, якую мы зразумелі, крыху ўжо збіла з нас пыху, але які землеўласнік згадзіўся б з тым, каб яго сын рыхтаваўся стаць фабрыкантам, аптэкарам, механікам, ветэрынарам, не кажу ўжо, рамеснікам? Кожны перакананы, што ягоныя дзеці абавязкова павінны стаць чымсьці большым за нашае звычайнае прызначэнне. Гэткі замах на вялікае пры слабай падрыхтоўцы губіць нашых братоў. Пагарджаюць яны пачцівымі прафесіямі, а тым часам іх займаюць разумнейшыя мяшчане ды чыншавая шляхта, якія ў сваю чаргу, маючы на тое слушныя падставы, пачынаюць пагарджаць надзьмутымі ды ганарыстымі землеўласнікамі.

– Не ведаю, – усумніўся Уладзіслаў, – ці кепска тое, што нашыя браты не набываюць аніякіх прафесій, якія давалі б ім магчымасць зарабляць на хлеб, бо і земляробства можна лічыць карыснаю прафесіяй, а прызначэнне землеўласніка да спраў судовых і адміністрацыі таксама ж магло б выгодна рэалізаваць іхнюю працу і здольнасці.

– Чаму ж не? – пагадзіўся пан Падстоліц. – Але абедзве гэтыя галіны заняткаў землеўласнікаў, чым больш яны значныя, тым большае вымагаюць універсітэцкае падрыхтоўкі, каб маглі прыносіць краю сапраўдную карысць. Бо недастаткова суддзі прыроднага розуму, каб, толькі ім карыстаючыся, навобмацак прабірацца ў лабірынтах права; ён павінны быць пэўны, што адвакат не здолее расставіць на яго сеткі; ён павінны сам быць добра абазнаны з ўсімі параграфамі права і з ягонаю філасофіяю, каб не толькі ў кожным выпадку ўмець прымяніць адпаведны закон, але быць здольным таксама ва ўсіх складаных ды заблытаных справах кіравацца ў адпаведнасці з духам законаў. Інакш ён бярэ на сябе цяжкую адказнасць за ўсе крыўды, нават міжвольныя, якія чыніць бліжняму сваёй неабазнанасцю альбо саманадзейнасцю. Ужо нават колькасць апеляцый ды пераглядаў спраў сведчаць пра тое, што не дастаткова суддзі толькі прыроднага розуму[XV].

Уся асвечаная Еўропа прызнае няздатнымі да судовых званняў тых, хто не вывучаў права. Толькі мы адны хочам давесці, што ўсе вакол памыляюцца і што кожны з нашых малакасосаў, які жыве абібокам, але якому, як часта здараецца, патрэбны тытул, каб ажаніцца, можа без аніякае навукі, кіруючыся толькі сваім прыродным розумам і аргументамі паноў адвакатаў, вяршыць лёс суайчыннікаў.

– Земляробства... – пачаў было Уладзіслаў.

– Не забыўся я пра яго, – падхапіў пан Падстоліц. – Ведаю, што сярод нас ёсць яшчэ шмат тых, хто не разумее, навошта вясковаму гаспадару навука;

шмат і такіх, каго збаламуціў прыклад недарэчных мудрагеляў, і хто хутка расчараваўся ў гаспадаранні, як кажуць, з кніжак. І слушна. Бо тое, што напісана пра земляробства ў кніжках, не можа быць з карысцю выкарыстана людзьмі неадукаванымі; нават вельмі старанна выконваючы ўсе напісаныя там парады, можна нарабіць тысячы памылак і замест таго, каб палепшыць сваю гаспадарку, давесці яе да заняпаду.

Звычайна гэтак і бывае. Умелае земляробства цяпер грунтуецца на шматлікіх законах хіміі, фізікі і прыродазнаўства ва ўсім іх аб'ёме, з усімі дапаможнымі навукамі. Дык нельга ані зразумець, што напісана ў агранамічных кнігах, ані прымяніць тыя парады, не авалодаўшы добра пачатковымі ведамі.

Але калі адна частка гаспадароў не зразумела да гэтага часу патрэбы агранамічных навук ды толькі пасміхаецца з тых, хто сцвярджае, што ўмелае гаспадаранне можа падвоіць і нават патроіць прыбыткі самога гаспадара, а таксама прынесці задавальненне ды палепшыць дабрабыт сялянаў, што ўжо даведзена нашымі суседзямі, дык другая частка ўдае, накшталт эзопавае лісы, што не хоча вінаграду, які не можа дастаць. Шмат ёсць такіх, хто ўжо адчуў патрэбу вучыцца земляробству і хацеў бы рабіць гэта, каб павялічыць свае прыбыткі, але яны альбо не верачы ў свае сілы, альбо не знаходзячы часу ці магчымасці, каб засвоіць пачатковыя веды, стараюцца пераканаць сябе ды іншых, што гэта дзівацтва.

Няхай бы, прынамсі, хоць не грашылі няшчырасцю, маючы іншае перакананне; прызнаючыся ў сваім няшчасці, што самі не вучыліся, прынамсі, хоць бы сыноў сваіх як найхутчэй пачалі вучыць гэтай, такой жа карыснай, як і матэматыка, навуцы. Шкода казаць! Да гэтага часу ўсяго некалькі студэнтаў наведвае лекцыі аграноміі ва ўніверсітэце. Шмат хто, праўда, вывучае дапаможныя навукі; ды і тыя, хто, хоць закончыўшы навуку занядбалі яе дома, маглі б за кароткі час многім ваколіцам надаць далёка лепшы выгляд.

Мусяць яны ўчыніць гэта. Бо сваім нядбальствам шкодзяць найперш сабе, добраахвотна адракаючыся ад тае часткі прыбытку, якую маглі б мець з нашае зямлі, каб умела яе апрацоўвалі; шкодзяць таксама сваім нашчадкам, калі з-за ляноты, роўнай марнатраўству, не павялічаць свайго дастатку, які маглі б пакінуць ім у спадчыну; шкодзяць яны таксама і ўсяму грамадству, пазбаўляючы яго магчымасці карыстацца неатрыманым прыбыткам; шкодзяць сялянам, што знаходзяцца пад іх апекаю, і якіх яны абавязаныя весці за сабою, бо тыя могуць толькі нашым прыкладам кіравацца, дык нястача на іх палетках цалкам кладзецца на нашае сумленне; нарэшце, шкодзяць яны ўсяму краю і наступным пакаленням нашых суайчыннікаў, пагаршаючы няўмелым гаспадараннем урадлівасць зямлі, якая з'яўляецца вечным фундушам не толькі для нас і нашых нашчадкаў, але і для ўсіх наступных уладальнікаў.

Чым жа мы можам апраўдацца? Звычаем нічога не ўмець і гаспадарыць навобмацак, як нашы бацькі гаспадарылі? Іх можна апраўдаць, бо яны не разумелі неабходнасць навукі: яны не ведалі пра досвед іншых народаў, і ва ўласным краі не было ў іх гэткіх магчымасцяў для адукацыі. Нам за гэта не схавацца, бо нам значна лягчэй, усё нас заклікае да выпраўлення становішча, але нашы прымхі, заганы і дрэнныя звычкі робяць нас сляпымі і глухімі.

Сапсаваная маральнасць з'яўляецца прычынаю гэткае слепаты; яе ў першую чаргу належала б выправіць. Але гэта якраз самае цяжкае, бо ў дарослых

людзей прымхі, дрэнныя звычкі ды заганы сталіся ўжо іх натураю, а ў маладых няма каму выхоўваць маральнасць. Бо ні бацькі, ні настаўнікі не гатовыя забяспечыць ім належнага маральнага выхавання.

– Менавіта гэта мяне цікавіць, – сказаў Уладзіслаў. – Згаджаюся, што з выхаваннем у нас не ўсё ў парадку, што занадта шмат займаемся мы свецкім выхаваннем і лічым гэта не дадаткам, а асноваю выхавання; але мне здаецца, што і пра маральнае выхаванне ў нас шчыра дбаюць і клапоцяцца пра яго. Што ж гэта былі б за бацькі, якія б не хацелі бачыць дасканалае маральнасці ў сваіх дзецях? А настаўнікі, не толькі ў адпаведнасці з уласнымі перакананнямі, але і паводле суровага загаду мусяць звяртаць увагу на гэтую частку выхавання даручанае ім моладзі.

– Усё, што ты кажаш, праўда, – згадзіўся пан Падстоліц, – але не доказ. Бацькі не могуць даць таго, чаго самі не маюць. Памятай толькі, пане Уладзіслаў, што няма правіла без выключэння, асабліва ў гэтым выпадку. Я кажу толькі пра агульны стан рэчаў. Як самі бацькі жывуць, мы бачылі: абыякавасць да лёсу краю, гультайства, марнатраўства, бязладдзе і тытуламанія – гэта спадчына амаль кожнае сям'і. Як жа могуць бацькі, якія маюць такія заганы, нават каб іншых не было, навучыць дзяцей выконваць свае абавязкі ў адносінах да іншых людзей, навучыць спачуванню да падданых, ашчаднасці, прывучыць да парадку, да працавітасці, каб тыя імкнуліся да асветы, каб пачуццё ўласнае годнасці спалучалася ў іх з імкненнем да справядлівасці, з павагаю да закону, каб былі яны адданымі краю і ахвярнымі людзям, – калі самі яны паказваюць сваім дзецям зусім іншы прыклад?

Выхаванне добрых нораваў і абавязку ў моладзі залежыць не ад шматгадзіннага чытання маралі, а толькі ад умелага кіравання пачуццямі, а яшчэ больш – ад прыкладу. Але бацькі, самі ў большасці выхаваныя нядбала, не разумеюць нават, што іхняе жыццём з'яўляецца кепскім прыкладам, што ад іх саміх трэба берагчы дзяцей. Асноўны прынцып: калі жадаеш даць маральнае выхаванне дзецям, спачатку змяні ўласнае жыццё.

Настаўнікі, сапраўды, маюць рэкамендацыю сачыць за маральным выхаваннем моладзі і, магчыма, наколькі іх уласная маральнасць дазваляе, нават выконваць ускладзены на іх абавязак; але якая з гэтага карысць, калі хатні прыклад і першы досвед становяцца непераадольнаю перашкодаю для гэтага. Зрэшты, як можна патрабаваць ад публічных настаўнікаў, галоўным клопатам якіх ёсць адукацыя, ці выкладанне навук, каб яны ўваходзілі ў прыватнае жыццё вучняў і фармавалі іхнюю маральнасць? На лекцыях яны могуць заахвочваць да маральнасці, могуць там вучыць і добрым звычаям, але па-за лекцыйнаю залаю толькі хатні дазорца альбо бацькі могуць займацца гэтаю галіною выхавання.

Маральнае выхаванне ўключае ў сябе не толькі абавязкі і звычаі, але і развіццё маральных ды разумовых здольнасцяў, а гэта якраз ляжыць у нас аблогам. Бо нам зусім невядомае гэтае мастацтва, усё пакідаем мы тут на волю лёсу. Не звяртаючы ўвагі на патрэбы сэрца і разумовыя здольнасці моладзі, мы ўплываем на іх з дапамогаю адукацыі, якая толькі тады з карысцю працуе, калі ўмела прыстасаваная дзеля развіцця і ўдасканалення маральных ды разумовых здольнасцяў. А без гэтага не варта спадзявацца на развіццё дабрачыннасці, на выкараненне нашых заганаў, на тое, каб асвета прыносіла карысць

краю, уплываючы на развіццё прамысловасці, што і вядзе ў выніку да дабрабыту. Пагаворым пра гэта больш падрабязна, калі прыедзем у мой дом, бо там будзем мець прыдатныя прыклады.

А цяпер, калі мы паразважалі пра тое, у якім стане апынуліся нашыя суайчыннікі, ці не варта прызнаць, што пагражае нам дэмаралізацыя і ўсеагульнае банкруцтва, якое абавязкова ёй спадарожнічае? Але, як ты ўжо сам заўважыў, дайшлі мы да такое ступені, што з-за аслабленага нашага характару, нават ахвяруючы рэшткамі нашых маёнткаў, мы не хочам верыць, што ў нас саміх знаходзіцца прычына нашае нядолі. Спіхваем мы ўсё на нейкі лёс, які нас пераследуе, і падманваем сябе, як сухотнікі, што стан наш яшчэ не аж такі кепскі. А можа, і недалёкі ўжо той час, калі мы, як шмат хто іншы да нас, страціўшы спадчыну продкаў, пойдзем жабраваць ды прасіць прытулку ў тых, хто зойме нашае месца.

Каб законы не забаранялі жыдам набываць зямлю, дык ужо даўно большая яе частка была б у руках гэтага гнуснага, але прадпрымальнага, наколькі асвета яму дазваляе, люду. Палічым жа кожны ў сваім павеце, колькі сямей нашых суайчыннікаў страціла спадчыну сваіх продкаў, хоць бы за апошнія пяцьдзесят гадоў. Са здзіўленнем пераканаемся, што большая частка зямель, далучаных ад Польшчы, мае новых уласнікаў; а роды даўнейшых дзедзічаў, хоць цягам стагоддзяў валодалі маёнткамі, цяпер альбо зусім зніклі, альбо гібеюць ва ўбостве.

Няхай бы нам не засціла вочы тое шчасце, што мы застаёмся яшчэ на сваёй зямлі, бо нашыя даўгі, жыццё не па сродках, бязладдзе, гультайства, адсутнасць прамысловасці ды цемрашальства, якія трымаюць нас у нядолі, хутка абавязкова пазбавяць нас альбо нашчадкаў нашых цяперашніх нашых маёнткаў. Якая ж нядобрая памяць пра нас застанецца ў нашчадкаў! А хутчэй у тых, хто прыйдзе на нашае месца! Бо колькасць насельніцтва нашага стану змяншаецца. Гэтае змяншэнне, хоць і не адразу кідаецца ў вочы, бо новыя ўласнікі займаюць землі даўнейшых, пагражае таксама і новым, якія ідуць нашым шляхам.

Ніхто ў нас з менш заможных, а вядома, што іх штораз робіцца ўсё больш, не адважыцца, каб уласнаю працаю зарабіць прыстойны маёнтак; мы кпім нават з гэткіх намераў; але кожны ласы палепшыць сваё становішча адным махам. Таму ледзь не б’юцца ў нас за пасаг, без якога амаль ніхто ўжо цяпер не адважыцца, як пачцівы Каморнік, ажаніцца. Таму і шлюбаў цяпер меней, бо і пасагі меншыя, і часта іх няма. У сваю чаргу прыгожы пол прыглядаецца да мужчынскага маёнтку, які таксама драбнее і робіцца ўсё больш няпэўным. А калі яшчэ жаданне раскошы вымагае вялікіх выдаткаў на вяселле і на сямейнае, гэтак званае, прыстойнае, жыццё, дык і шлюбаў, вядома, мусіць быць меней, а відавочным вынікам нешматлікіх альбо позніх шлюбаў мусіць быць змяншэнне колькасці насельніцтва.

Зрэшты, няхай лепш не нараджаюцца нашчадкі, чым сапсаваныя нашым прыкладам прывыкалі б яны да празмернасці і гультайства, не маючы прамысловасці ды сродкаў да жыцця, і мусілі потым гібець па нашай віне, а перад сваім сконам, згадваючы гнусных продкаў, праклінаць іх памяць.

У гэтых размовах яны не заўважылі, як праехалі тыя тры доўгія мілі, якімі палохаў аканом, да мястэчка, якое ўбачылі з апошняга ўзвышша за Нёманам.

## Заўвагі да другое часткі

**I**

У самой Англіі маецца да гэтага часу абложных грунтаў 2.900.000 акраў[136], у Шатландыі – 5.652.000, у Ірландыі – 4.217.990 акраў. (Англійскі акр роўны 170 літоўскім квадратным прэнтам і 44 прэнцікам). Дададзім, што за апошнія дзесяцігоддзі насельніцтва Англіі падвоілася, а толькі ў апошнюю дэкаду ўзяліся там за павелічэнне пасяўных плошчаў. На колькі ж больш, чым трэба ворнае зямлі, знішчана лясоў у тым краі, дзе дрэва гэткае дарагое! Што ж дзіўнага, што ў нас, дзе яно ідзе амаль за бесцань, ніхто не падумаў пра лясную гаспадарку.

У Францыі колькасць дзірвану сягае, паводле некаторых дадзеных, да 20.000.000 моргаў. Глядзі: *Кодэкс ляснога праекту, прыгатаваны на Сойм 1826* (*Annales des sciences economiques etc.*, том IV, № XVII). Аднак жа ў той даўняй калысцы дубоў сёння за стапу[137] дубовага дрэва, прыдатнага для пабудовы караблёў, плацяць ад 500 да 700 франкаў (“Gaz. handl.”[138] 1825, nr 77).

**II**

Пераканацца ў гэтым можна з цыркуляра міністра французскага флоту і калоній да прэфектаў дэпартаментаў дзеля азначэння дрэў у прыватных лясах ад 1 мая 1826 г. Друкаваўся ў шматлікіх перыядычных выданнях таго часу.

**III**

“У Англіі (піша Бонард) гаі прыватных уласнікаў страшэнна разрасліся; магутныя дрэвы растуць ля вясковых хат, і флот задавальняе там значную частку сваіх патрэбаў etc.” (*Des forêts de la France, considerées dans leurs rapports avec la marine militaire, à l’occasion du projet de* CODE FORESTIER *par M. Bonard.* 1826. Paris)[139].

**IV**

“У Францыі (піша той жа Бонард) прыватныя лясы для нашага ваеннага флоту не могуць абяцаць аніякае перспектывы, калі не будуць абароненыя пэўнымі абмежавальнымі ўрадавымі пастановамі; але гэта патрэбна сёння, бо кожны, заняты прадукаваннем гатункаў, якія хутка растуць, лічыць справаю пэўнаю, што ўрад не можа загадаць гадаваць прыдатныя для флоту дрэвы, бо гэта некарысна для ўласнікаў”. (Тамсама).

Гэта даводзіць, што Францыя не так хутка будзе мець дастатковую колькасць дрэва, якога патрабуе для свайго флоту, які няспынна павялічваецца; асабліва, калі ўлічым, што ўжо 10 стагоддзяў яна, пазбаўленая лясоў, нягледзячы на заахвочванне некалькіх разумных міністраў, асабліва ў апошняе стагоддзе, да гэтага часу не можа забяспечыць сябе дрэвам. На ўсёй сваёй прасторы ледзьве (паводле кнігі *Herbin de la Halle: Mém. statist. et administr. des forêts du Royaume pour l’an 1828*)[140] 6.840.451 гектараў занята пад гадаванне лясоў, што ў адпаведнасці з колькасцю насельніцтва не складзе і 1 гектара на 5 душ[a]; а кошты дрэва, прыдатнага на пабудову караблёў, гэткія высокія, што ў паўднёвых портах плацяць ад 500 да 700 франкаў за кубічную стапу албанскага ці італьянскага дубу, які, праўда, вельмі добры, але яго так мала прывозяць, што без нашага Францыя абысціся не можа.

---

[a] Гектар роўны 1 літоўскі морг, 112 квадратных прэнтаў і 19 18/100 прэнціка.

**V**

Каб гэтая інфармацыя была праўдзіваю, дык не сплаўлялі б сёння ад нас мачтавы лес уніз па Дняпры і потым уверх Беразіною да Дзвіны па значна большым кошце, чым даўней. Гэты сплаў мачтавага лесу, пакуль трапіць у Рыгу, доўжыцца цяпер два гады; хто ведае, што такое двухгадовы гандаль, лёгка зразумее, як павялічваецца кошт на гэты гатунак дрэва. Нягледзячы на гэта, купцы на мачтавым лесе добра зарабляюць, бо пры меншай яго колькасці ўзрасла канкурэнцыя сярод пакупнікоў.

**VI**

Мыта на нашае дрэва ў Англіі ўстаноўлена па 55 шылінгаў за лоід; а на амерыканскае дрэва (з Канады) па 10 шылінгаў за лоід. Лоід роўны 50 кубічным стапам; шылінг роўны амаль 62 нашым грошам, гэта значыць – 61,94 гроша. Такім чынам, за 1 стапу нашага дрэва мыта складае $68^{1/5}$ гроша, а за стапу амерыканскага – $12^{2/5}$ гроша. Ужо адно гэта пераконвае, што нашае дрэва павінна абыходзіцца англічанам танней, чым амерыканскае, бо для заахвочвання, каб куплялі амерыканскае, мыта на яго ўстаноўлена непараўнальна ніжэй, чым на нашае.

**VII**

Як вынішчаюць рэшту каштоўнага дрэва няўмелыя сяляне, лёгка сабе ўявіць, прыгадаўшы, што на адны лапці для аднаго чалавека трэба на год каля дзесяці коп[141] падгадаваных ліпак. Французскія земляробы носяць драўляныя сандалі: гэты абутак, пэўна, менш выгодны, чым лапці нашых сялян, дык не выпадае яго раіць у нашым краі, але належала б падумаць, у што абуць нашых сялянаў, каб гэта было менш фатальным для нашых лясоў, і каб абутак быў гэткім жа выгодным, як цяперашнія лапці. Можа, сырамятныя[142] падэшвы з вушкамі, накшталт лапцяў, якія носяцца на шнурках альбо раменьчыках, з-за свайго таннага кошту і выгоднасці заступілі б месца лапцяў.

**VIII**

Якабс у сваім дакладзе пра гандаль збожжам і пра стан сельскае гаспадаркі ў Паўночнай Еўропе, пададзеным у 1826 годзе ў Камітэт гандлёвага аддзелу тайнае рады англійскага караля, паведамляе: “Часта лічыцца, што працяглы вываз збожжа з нейкага краю вынішчае раллю, калі туды не ўвозіцца аніякі прадукт, з якога можна атрымаць угнаенне для паляпшэння вынішчанае зямлі. З гэтае прычыны шматлікія рэгіёны Паўночнае Афрыкі і Малое Азіі, якія да гэтага забяспечвалі Еўропу вялікаю колькасцю збожжа, ператварыліся ў вынішчаныя стэпы... З Польшчы блізу двух стагоддзяў амаль бесперапынна вывозілі аграмадную колькасць збожжа, а нічога, што магло б служыць для паляпшэння зямлі, не прывозілі. Да таго ж у Польшчы яшчэ трымаюцца тае згубнае сістэмы даўняга земляробства, паводле якое два гады на адным і тым жа полі сеюць збожжавыя, а потым анічым больш таго поля не падкормліваюць, адно пакідаюць тое поле на трэці год пад папар. (Бо што значыць угнойваць адзін раз на 30 гадоў). Такая сістэма вынішчыць, урэшце, і самую ўрадлівую ў свеце глебу. Праязджаючы па Польшчы, бачыў я збожжавыя палеткі, а пасля жніва – раллю: тады меў магчымасць пераканацца, што зямля там з-за празмернага выкарыстання вельмі вынішчаная. Гэтая выснова, зробленая на падставе ведаў пра сістэму земляробства і аглядзе палеткаў, пацвярджаецца статыстычнымі дадзенымі, якія ясна паказваюць, што гэтая краіна не ў стане ўжо забяспечваць іншыя дзяржавы такаю ж колькасцю збожжа, якою перад гэтым забяспечвала.

Літва, гэтаксама, як і Польшча, займаючыся земляробствам, гэткія ж самыя мусіла зазнаць вынікі, калі ўжо нават у паўднёвых губернях, дзе даўней палілі ўгнаенне, непатрэбнае для паляпшэння раллі, сёння, з прычыны пастаяннага вынішчэння з-за вырошчвання збожжавых, у шмат якіх месцах Валынскае, Кіеўскае і Чарнігаўскае губерняў пачалі ўжо паводле неабходнасці ўгнойваць палеткі.

У Літве і Беларусі, хоць і няма земляроба, які б не адчуваў патрэбы дзеля паляпшэння ўрадлівасці ўгнойваць глебу, якую вынішчае вырошчванне збожжавых, аднак ён прывык так нядбала ставіцца да гэтае часткі гаспадарання, што трапляюцца палеткі, якія ніколі не ўгнойваліся, хоць вякамі засяваліся; нават у найлепшых гаспадарках самыя блізкія да фальваркаў палеткі амаль ніколі не ўгнойваліся ў адпаведнасці са сваім вынішчэннем. Аўтары земляробчае статыстыкі згаджаюцца, што вырошчванне збожжавых два гады на тым самым полі пагаршае глебу больш, чым можа тое паправіць аднаразовае, хоць і шчодрае, унясенне ўгнаення[b]. Вядомы французскі аграном Фебюр у сваёй працы *Notice sur assolemens* ("Mèmores de la Soc. d'agric. de Seine-et-Oise 1825") расказвае пра выпадак з уласнага вопыту, што на моргу, угноеным 100 вазамі гною, лічачы ўрадлівасць за 100, жытнія пасевы забіраюць іх 77, ячменныя – 53, аўсяныя – 38, а пшанічныя – 100. Колькі б не сабралі пшаніцы альбо жыта, заўсёды забяром у зямлі больш урадлівасці, чым дадалі ўгнаеннем. Праўда, паводле тае самае навукі, папар дадае 10 частак урадлівасці, але і гэта не пакрывае поўнае страты за два пасевы, тым больш за некалькі, калі яны адбываюцца адзін за адным. Магчыма, што гэтыя падлікі не вельмі дакладныя, можа, на розных глебах вынікі былі б іншыя, але больш-менш можна сабе ўявіць, што ў нашых гаспадарках прыродная ўрадлівасць глебы павінна быць ужо вычарпанаю". Навуковыя развагі Тэера[143] на гэтую ж тэму чытачы знойдуць ў "Dzienniku Wileń." 1819, том II, с. 53 і наст.

**IX**

У рэдка чытаным у Літве, а яшчэ менш на Беларусі часопісе, які выходзіць у Варшаве з 1820 г. пад тытулам "Izys Polska"[144], шмат важных інфармацый, якія б прydаліся вясковым гаспадарам, а таму заслугоўвае на распаўсюджванне ў гэтых правінцыях. У 9 нумары за 1821 год знаходзіцца інфармацыя пра вельмі карыснае для земляробаў вынаходніцтва васпана Брыдэ[145] з Францыі. Гэта спосаб перапрацоўкі фекалій з уборных у парашок без смуроду і прыдатны для ўгнаення. Эфектыўнасць таго ўгнаення, якое называецца *пудрэта*, такая, што два карцы хапае, каб угноіць адзін морг, і ўраджайнасць пасеву перавышае ўраджайнасць пасля ўсіх іншых угнаенняў, апрача ўгнаення з касцяное мукі. Прыгатаванне яго надзвычай лёгкае. Вытворцы гэтага ўгнаення ў Парыжы плацяць гораду каля 100.000 франкаў, а прадаюць амаль на мільён.

Гэтаксама з урыны і гіпсу, паводле спосабу васпана Даната, гатуецца ўгнаенне надзвычай эфектыўнае, якое называецца *ўрат*. На 4.000 квадратных стоп раллі дастаткова палову кубічнае стапы гіпсу (альбо вапны) прыгатаванага абсорбцыяй урыны. Розныя гатункі раслін, якія сеялі на гэтым угнаенні, давалі ўраджайнасць лепшую, чым на іншых угнаеннях, пры гэтым былі мацнейшыя, большыя і хутчэй выспявалі. Каноплі, турнэпс, канюшына, асабліва, цукровыя буракі, давялі вялікую эфектыўнасць гэтага ўгнаення; канюшына дала 4 пакосы. Хутка пасля паведамлення пра цудадзейныя ўласцівасці гэтага ўгнаення, што спраўдзілі навуковыя сельскагаспадарчыя камісіі, у Англіі было ўтворанае таварыства, якое мела на мэце ўвядзенне рухомых уборных і прадукаванне ўрату. Большая частка сяброў парламенту, лорды Кент, Суссекс ды іншыя самыя вядомыя асобы належаць да гэтага таварыства. Інфармацыю пра гэта можна знайсці ў "Izydzie", нумары 6 і 8 за 1821 год.

[b] Сельскагаспадарчая статыстыка, якую падрыхтаваў Тэер, дазваляе меркаваць пра ўрадлівасць глебы, пра павялічэнне ці змяншэнне ўрадлівасці, пра ўгнаенні і г. д. Шмат знакамітых аграномаў з розных краінаў стараліся ўдасканаліць гэту галіну гаспадаркі сваім досведам, які абапіраўся на навуку. Найбольш вядомыя ў Нямеччыне – Вульфен, Тунен, Біргер, Рэйс, а перш за ўсё – барон Фогт.

## X

Пан Падстоліц паразважаў крыху пра выправы ў заробкі ў сталіцы, каб звярнуць увагу на гэты шкодны звычай на Беларусі, асабліва пашыраны ў Віцебскай губерні. Гэта сумны доказ, што гэтая правінцыя не мае добрае прамысловасці, каб даць працу шматлікім работнікам, якія хоць і нібыта карысных, але гэтак далёка шукаюць заробкаў, бо некаторыя па 200 злотых, апрача ўсялякіх выдаткаў, прыносяць дадому за год. Вядома, гэта вялікая страта для правінцыі, якое можна было б унікнуць, каб землеўласнікі стараліся прыдумаць карысную працу для сваіх сялянаў дома. Бо, не ўлічваючы страты часу на гэткае далёкае падарожжа і змарнаванне большае часткі зробленых грошай, каб было жаданне падлічыць, колькі кожная сям'я, пазбаўленая аднаго альбо двух самых моцных работнікаў, траціць на ўласнай гаспадарцы і на прыбытку з рамясла, якім кожны з іх мог бы займацца, пераканаліся б, напэўна, што гэтае высыланне ў заробкі і адрыванне на год ад раллі, ператвараючы іх у парабкаў, можа, ёсць адна з галоўных прычын тае нястачы, у якой гіне Беларусь. Гэта несумненна адзіны сродак, за які могуць ухапіцца абывацелі тае правінцыі, калі тэрмінова патрэбныя грошы; бо заўсёды ёсць брытва для тапельца, і паказвае недахоп прадпрымальніцкага духу ў гэтай правінцыі, а можа, і няведанне эфектыўных спосабаў паляпшэння быту.

## XI

*Historyque de la création d'une richesse millionaire par la culture des pins* – par L. Gervais de la Marre Paris 1829.

## XII

У графстве Гэмпшыр (Hampshire) у Англіі падатак на бедных складаў у 1825 г. да 25 злотых ад асобы, у 1813 тая самая складка даходзіла там да 38 зл. ад асобы (з душы як мужчынскай, так і жаночай); у графстве Суссекс у 1825 г. плацілі на бедных па 44 зл. ад асобы, а ў 1813– па 66 зл. NB. Складка гэтая бярэцца ў адпаведнасці з прыбыткамі жыхароў, а прыведзенае вышэй ёсць толькі сярэдняе прапарцыянальнае, каб усе плацілі па-роўну.

Больш інфармацыі пра тыя складкі маецца ў шматлікіх часопісах; гэтая ўзята з "Bulletin universel", tom 6: "Sciences Géorg. Stat. ect. 15. Taxes des pauvres en Angleterre".

## XIII

Славуты Франклін[146] у сваёй працы *Шлях да дастатку* піша: "Сябры і суседзі, нельга запярэчыць, што падаткі вельмі абцяжарваюць; каб мы, аднак, плацілі толькі тыя, якія ўрад вызначыў, не адчувалі б гэтулькі цяжару. Але мы мусім плаціць іншыя, значна больш цяжкія. Плацім у два разы больш гультайству, у тры разы больш бяздзеянню, а ў чатыры разы больш нашаму глупству".

## XIV

Ж.Б. Сэй[147] у сваім выкладзе палітычнае эканоміі гэтак кажа пра ашчаднага і марнатраўцу: "Кожная ашчаднасць, кожны рост капіталу дае сталы гадавы прыбытак не толькі таму, хто зрабіў гэта, але ўсім людзям, прадпрымальніцкая дзейнасць якіх была ажыўленая тою часткаю капіталу. Таму Адам Сміт[148] ашчаднага чалавека, які павялічвае свой маёнтак, хоць толькі аднойчы, ставіць на роўні з заснавальнікам прамысловага дому, у якім таварыства працоўных людзей можа стала карыстацца пладамі свае працы; і, наадварот, марнатраўцу, які нішчыць частку свайго капіталу, ён ставіць на роўні з несумленным завядоўцам[149], які марнуе дастатак, прызначаны на фундуш чалавецтва, і які адбірае заробак не толькі ў тых, хто ўжо меў яго, але і ва ўсіх тых, якім ён быў гарантаваны ў будучыні. Можна без вагання назваць кожнага ашчаднага – дабрачынцам чалавецтва, а марнатраўцу – грамадскім няшчасцем".

## XV

“Навука права, – піша Станіслаў Патоцкі[150], – даведзеная да гэткае высокае ступені дасканаласці, апісваючы ўсе выпадкі і магчымасці, якія толькі ў справах цывільных і крымінальных могуць з’явіцца, стала навукаю гэткаю складанаю, гэткаю дакладнаю, што сёння недастаткова асвечанаму суддзі таго розуму, тых прынцыпаў права, якія многім здаюцца адпаведнымі гэтай пасадзе, і чаго, сапраўды, хапала ва ўмовах менш развітага грамадства. Ён павінны быць асноваю ягонае навукі, але замяніць яе, прынамсі, не можа, бо пры самых чыстых намерах гэта стала б для яго крыніцаю несправядлівых памылак. Права ёсць цяжкая і глыбокая навука, аднолькавая як для адваката, гэтак і для суддзі, якую першы часта адвольна выкарыстоўвае і можа выкарыстоўваць, у той час як суддзя абавязаны выкарыстоўваць найдакладней па доўгу пасады і сумлення. Ягонае веданне права чыніць, што адвакат не зможа злоўжываць: яно асвечвае цёмныя сцежкі працэсаў, яно выяўляе злачынствы, яно становіцца шчытом невінаватасці, нягледзячы ні на якое падступства, а часам, і прымяненне сілы” (*Pochwały, mowy i rozprawy*, t. II, s. 176).

“Хіба ж не дзіўна, – піша Банштэтан (*Etudes de l’homme*[151]), што кожны шавец, кожны кравец абавязаны да шматгадовага практыкавання ў сваёй навуцы, а прафесія, ад вырокаў якое залежыць лёс абывацеляў, ад якое залежыць добрае ці кепскае меркаванне пра край, адзіная не патрабуе аніякае навукі?”

# Частка трэцяя

# ГОРАД

W mieście, którego nazwiska nie powiem,
Nic to albowiem do rzeczy nie przyda,
W mieście, ponieważ zbiór pustek tak zowiem,
W godnym siedlisku i chłopa i żyda;
W mieście, gród, ziemstwo trzymało albowiem
Stare zamczysko, pustoty ohyda,
Były trzy karczmy, bram cztery ułomki
..... I gdzieniegdzie domki.

Ig. Krasicki, *Monachomachija I*[1]

## Раздзел першы

# ПРЫЕЗД

Wozy zatem i wózki, bryki i kolaski,
Tu kufry tam tłomoki i paki i faski.
Na wozach, wózkach, konno, pieszo pędzi zgraja;
Ten już okradł, ten kradnie, tamten się przyczaja.

Ig. Krasicki, *Listy*[2]

Узгорыстая даліна, якая адкрылася вачам нашых падарожнікаў, перарэзаная была ярамі і сапфіравай плынню загнутага ў некалькі каленаў Нёмана. За ім, ва ўпадзіне аднаго з узвышшаў, чарнеў, размешчаны як амфітэатар, літоўскі горад. Сярод шчыльна пастаўленых закопчаных стрэх узвышаўся чырвоны дах белага касцёлу, а над ім – высокая званіца з гадзіннікам, пазалочаныя стрэлкі якога і касцельныя вокны блішчалі ў праменях сонца, якое заходзіла. Раскіданыя паабапал горада адзінокія халупы з вялікімі агародамі, сям-там руіны печаў, рэшткі комінаў, а зрэдку і часткі мураваных сцен сведчылі пра колішні абшар і заможнасць гэтага паселішча, што прыціснулася цяпер да касцёла[3].

Лугавая даліна заканчвалася дубровамі і алешнікамі, у якіх хавалася рэчышча Нёмана. Нізкія пагоркі зелянелі ляшчынаю; на схілах вышэйшых – бярозавыя гаі раздзялялі невялікія палеткі; вакол яру шумеў хваёвы гушчар.

Па ўсіх гасцінцах з абодвух бакоў Нёмана цягнуліся да горада вазы і каляскі; паміж гэтымі шляхамі з лясоў і пагоркаў віліся сцяжыны, якімі рухаліся на вазках ды пешкі, везучы і несучы кашы і клункі, навакольныя жыхары.

Людская гамана, іржанне коней, грукат цяжкіх вазоў, туркатанне лёгкіх калясак, крык пры абгоне, воклічы возчыкаў – увесь гэты гармідар, што некалькімі струменямі ўліваўся ў горад, на нейкі час завалодаў увагаю нашых падарожнікаў.

– Прыемная карціна, – азваўся пан Падстоліц. – Гэты рух – гэта жыццё, якое ўваскрэсла ў панурай і мёртвай яшчэ ўчора даліне, дае нам магчымасць адчуць розніцу паміж краем гандлёвым і краем выключна сельскагаспадарчым. На адзін момант завітаў сюды дух прадпрымальніцтва і ажыло ўсё навокал; а праз некалькі дзён ціша зноў афарбуе гэтую мясціну ў свой пануры колер і жыццё зноў адранцвее над лянівым плугам. І так яшчэ можна было б павіншаваць гэту мясцовасць, што ёй пашчасціла больш за іншыя: хоць раз на год яна абуджаецца, каб тыя, у чыіх руках усе скарбы гэтае зямлі, здолелі некалі зразумець мэту кірмашоў і заахвоціліся да прадпрымальніцтва, але, зважаючы на тое, што іх сюды прыцягвае, цяжка яшчэ цешыцца гэтаю надзеяю.

– Якая ж мэта кірмашоў? – запытаўся Уладзіслаў. – Прадаць тое, што нам непатрэбна, і купіць патрэбнае?

– Не толькі гэта, – адказаў пан Падстоліц. – Апрача гандлёвых мэтаў – збліжэння між сабою купцоў і спрыяння ў збыце – нашы правінцыяльныя кірмашы, дэманструючы вырабы мануфактураў і знаёмячы жыхароў з новымі выгодамі, павінны абуджаць у іх жаданне самім наладзіць вытворчасць нечага такога, што можна было б абменьваць на прывазныя тавары, а нават і таго, што яны тут угледзелі. Але для гэтага трэба было б прыязджаць на кірмаш якраз дзеля кірмашу, а не з-за іншых надзей, якія дае з'езд на кірмаш.

– Хіба ж усе, хто спяшаецца ў горад, не з-за кірмашу імкнуцца туды трапіць? – запытаўся Уладзіслаў.

– Мяркуй сам, – адказаў пан Падстоліц. – Зірні на гэтыя карэты, ландо ды каляскі; на бачныя ў іх элегантныя капелюшы, якія ўжо ў дарогу былі надзетыя; на гэтыя ларнеткі, акуляры ды падзорныя трубы, скіраваныя на гэткіх жа падарожных; а яшчэ лепш – на дамскія ўборы і ўпрыгожанні; а цяпер скажы: чаго яны едуць?

– На другіх паглядзець, сябе паказаць і пабавіцца, – адказаў Уладзіслаў.

– А гэтыя? – пытаўся далей пан Падстоліц, паказваючы на задуменныя фігуры ў насунутых паверх шляфмыцаў шапках, якія цягнуліся ў брычках, запрэжанымі змучанымі коньмі. – Што ты думаеш пра гэтыя засяроджаныя фізіяноміі: ці іхнія галовы крэсляць зараз планы вялікіх гандлёвых аперацый? Чаго яны едуць?

– Пазнаю шляхту майго павету, – адказаў Уладзіслаў. – Гэта самыя заўзятыя ўдзельнікі соймікаў. Яны, пэўна ж, спяшаюцца сюды толькі дзеля стварэння груповак ды дзеля інтрыгаў на будучых выбарах.

– А гэтыя? – працягваў пан Падстоліц, паказваючы на лёгкія каламажкі, у якіх, спяваючы ды паганяючы коней, праносілася апранутая ў пудэрманы[4] і шэрыя капоты чыншавая шляхта.

– Гэтыя, – адказаў Уладзіслаў, – едуць людзей пабачыць, гэта значыць: напіцца для разнастайнасці не дома, а на кірмашы. Можа, прадаць якую гуску ці качку і пачаставаць за гэта прыяцеляў.

– А гэтыя? – не сунімаўся пан Падстоліц, паказваючы на каламажкі, якія з цяжкасцю цягнулі мізэрныя конікі, запоўненыя лісінымі шапкамі.

– Гэтыя, – адказаў Уладзіслаў, – вязуць на кірмаш вялікі тавар: крэйду і хітрасць[5].

– Так, – згадзіўся пан Падстоліц. – Але гэтыя вазы будуць вяртацца назад, наладаваныя тымі таварамі, што сяляне вязуць сюды на сваіх рыпучых драбінах. Усе гэтыя авечкі, цяляты, мёд, збожжа, сена, прайшоўшы праз рукі жыдоў, будуць спажыты на кірмашы; сяляне, заплаціўшы акцызы, брамнае, бруковае, гандлёвае і за гарэлку ў карчме, вернуцца дадому з пустымі рукамі, а жыды, якія з пустымі рукамі сюды едуць, карыстаючыся з неадукаванасці сялянаў, а часта і з крытычнага стану спраў землеўласнікаў, напоўняць і свае кішэні, і свае вазы. А гэтыя чаго едуць? – паказваў ён на доўгі шэраг аднаконных павозак, цяжка наладаваных і высока накрытых рагожамі, ды на чатырохконныя брычкі, абцягнутыя палатном, колы якіх пакідалі глыбокія каляіны на дарозе.

– Так, – адказаў Уладзіслаў, – адны яны едуць на кірмаш.

– Адны яны, – пацвердзіў пан Падстоліц. – І толькі яны атрымаюць карысць з кірмашу, абмяняюцца таварам ды раз'едуцца; а горад гэты, не маючы

нічога даць ім узамен за іхнія тавары, заробіць столькі, колькі госці спажывуць тутэйшых харчоў; альбо, калі ў каго з нашых і збярогся які грош пасля гадавых выдаткаў, дык ён пяройдзе ў іх рукі без аніякае для ваколіцы карысці: бо купленыя за яго тавары будуць спажытыя без рэпрадукцыі.

Узаемныя вітанні жыдоў, якія ехалі на фрахтаваных будах і прыпыняліся каля кожнае каламажкі, поўнай лісіных шапак, ды паведамлялі, што прыехалі з Ліпска, з Круляўца[6], з Львова, з Варшавы; лаянка і крык фурманаў, якія мусілі іх абмінаць; туркатанне і скрып колаў, крыкі розных жывёлін, якіх везлі і неслі, словам, увесь шум гэтага тлуму перабіваў лямант пешых жыдоў, жыхароў кірмашовага горада, якія бегаючы па два-тры альбо цэлым гуртам ад аднаго сялянскага воза да другога, шумна гандлявалі іх паклажу.

– Але ты больш на рынку не возьмеш! Я табе яшчэ і на гарэлку дам! На тры злотыя за свой воз сена!

Гэтак крычала некалькі жыдоў селяніну, які ехаў за панам Падстоліцам.

– Мне прадавай! – крычаў адзін з іх гучней за іншых. – Я дам табе тры злотыя і паўкварты гарэлкі.

– Не хачу, не хачу, – мармытаў селянін. – На кірмашы прадам. Мне раней за гэтае сена давалі восем злотых і кварту гарэлкі. І вось тыя вашыя браты, якія толькі што адышлі, яшчэ пяць злотых давалі.

– Хто табе дасць за такі воз пяць злотых? – залямантавалі хорам жыды. – Ці ж зараз вясна? Які ты дурань! Які ты дурань!

– Слухай, каханенькі, – важным тонам казаў пажылы жыд, схапіўшы селяніна за каўнер. – Я дам табе два злотыя наяўнымі і кварту гарэлкі, а на кірмашы ты не возьмеш і паўтара злотага. Не аддасі?

– Пане Лейба! – маркотна прамовіў селянін. – Я даўно ўжо ведаю, што калі васпан сказаў, дык ніхто ўжо больш мне не дасць. Але ж паглядзі сам, васпан: сена – мурожнае, воз – сама мала пудоў дваццаць, і яшчэ за вярсту адсюль давалі мне за яго восем злотых, потым – пяць, і вось тыя яшчэ ацанілі яго ў тры злотыя і паўкварты гарэлкі.

Але тыя апошнія на знак Лейбы ўжо адбеглі гандлявацца да іншых вазоў, а сена акружылі іншыя, якія крычалі:

– Паўтара злотага за сена! Ці аддаеш, гаспадар?

Марна азіраўся па баках селянін, шукаючы тых, што давалі яму тры злотыя.

– Пане Лейба! – уздыхнуў ён, – давай, васпан, задатак.

– Але толькі паўтара злотага за сена, – сказаў Лейба.

– А васпан жа даваў два злотыя і кварту гарэлкі! – закрычаў селянін, жаласна складаючы рукі.

– Як другія даюць, – адказаў Лейба, – гэтак і я дам. Досыць і паўтара злотага. Цяпер жа не вясна.

– Досыць, досыць, досыць! – лямантавалі навокал жыды.

– Ну, – казаў Лейба, – які ж ты дурны! Калі я табе даю столькі, колькі іншыя, ты яшчэ плачаш! Слухай, каханенькі, вязі гэтае сена на кірмаш і кажы там, што прадаў мне яго за дзесяць злотых, а за гэта атрымаеш ад мяне паўкварты гарэлкі барышу. Ці бярэш задатак?

– Каб вам Пан Бог не памятаў нашае крыўды! – казаў селянін, выціраючы слёзы. – Колькі ж даеш мне задатку?

– Браце-гаспадару! – загукаў да яго пан Падстоліц. – Не згаджайся. Я дам табе восем злотых за гэты воз сена. Вязі яго за мною.

– О, збаўца мой! – выгукнуў селянін. – Прэч, лотры! Альбо я вас гэтым кіем…

– Я купіў ужо гэтае сена! Яно маё! – крычаў Лейба. – Гвалт! Гвалт! Разбой! Рабаўніцтва!

– Ай, гвалт! Разбой! Ай, гвалт! – з усіх бакоў залямантавалі жыды, заступаючы селяніну дарогу і затрымліваючы ягонага каня.

– Не бойся! – крычаў пан Падстоліц. – Смела едзь за мною. Вы не купілі яшчэ гэтае сена. Няма чаго крыўдзіць сялян, падступна збіваючы кошт. Парушаеце таксама і закон, які забараняе вам пераймаць за горадам сялянаў, якія вязуць тавары. Марцін, вызвалі яму дарогу.

– Што нам тыя законы! Нам трэба есці! – крычалі, разбягаючыся, жыды, калі Марцін з грознаю мінаю памаршыраваў да іх.

– Разбойнікі! Разбойнікі! – крычалі навокал жыды. – Хіба паны гэтак робяць? Чаму іншыя паны моўчкі праехалі, думаючы толькі пра свае інтарэсы?

– І ты яму верыш? – крычалі яны селяніну. – Ён забярэ тваё сена і нічога табе не заплаціць.

А іншыя крычалі:

– Пашанцуе яму з гэтым сенам! Спакусіўся на выгляд, а яно гнілое…

Усё ж бура паволі заціхала, адзін за адным жыды кіраваліся да іншых вазоў, дапамагаючы пачатаму з такім самым лямантам гандлю.

Селянін, якога яны, нарэшце, пакінулі, з надзеяю, але і з бояззю – ці спраўдзіцца апошняе прадказанне жыдоў – пазіраў на пана Падстоліца, а той, каб запэўніць яго, даў тры злотыя задатку і загадаў ехаць побач. Паказаўся наперадзе перавоз. Паром прыплыў да берага; колькі вазоў спяшалася заняць месца, не прапускаючы пакорныя сялянскія драбіны. Пан Падстоліц, пакуль заехаў сам, загадаў спачатку пусціць свайго селяніна. Не адважыліся перавозчыкі спрачацца з панам.

Дзясяткі два пешых сялянаў з клункамі ўціснулася паміж вазамі, а нейкі хлопец у лахманах, але жвавы паспеў уцягнуць за сабою і карову. Ягоная настойлівасць, увішнасць ды вясёлы нораў забяспечылі яму месца ды ўвагу прысутных. Адштурхнуліся ад берагу. Тым часам адзін з пешых, малады, як цыган загарэлы, з файкаю ў зубах і з малым клуначкам на кійку, узіраючыся ў хлопца з кароваю, загукаў:

– Антось! Гэта ты?

– Бартак! – закрычаў хлопец ды кінуўся яму на шыю.

– А што ж бацькі нашыя? – пытаўся Бартак, абдымаючы хлопца.

– Жывыя, – адказаў Антось, – але ўбогія. Добра, што ты вярнуўся, хоць дапаможаш ім. Я ж таксама вучуся на слесара. Але як жа доўга ты бадзяўся па свеце!

– Тры гады, братка. Нагледзеўся і навучыўся шмат чаму добраму, – адказаў Бартак, азіраючыся на прысутных і робячы важную міну. – Няхай цяпер хаваюцца ад мяне ўсе тутэйшыя слесары. А ты ўжо даўно ў майстра?

– Адразу пасля твайго ад'езду, – сказаў Антось, – адправілі мяне бацькі да Піліпа, дзе і ты быў.

– Не шмат у яго навучышся, – прамовіў фанабэрыста Бартак. – Ён тут, сапраўды, лепшы з усяго цэху, але ў Пецярбурзе, Маскве, Кіеве, Варшаве – вось дзе нагледзеўся! Вось дзе, – працягваў ён, паварочваючыся да пана

Падстоліца, – хлебнае месца для слесараў, пане каханы! Я ў іх так удасканаліўся, што ўжо аніводзін тут майстар за мною не ўгоніцца. А ты, Антось, чаму ўжо навучыўся?

– А што ж, – адказаў Антось, – ты ж ведаеш, што ў нас тры першыя гады хлопец молата ў рукі не возьме, адно што мех раздзімаць навучыўся. Увесь дзень папіхаюць у карак: то хату падмесці, то дроваў насекчы, то вады нанасіць, то, нарэшце, кароў пасвіць, што цяпер якраз і раблю.

– Усюды так, – казаў Бартак. – На тое яны, браце, і цэхі. Затое потым заробіш.

– А я і цяпер мог бы што-кольвек зарабіць для маіх бедных бацькоў, каб мне далі рабіць нешта за грошы. Нічога ж складанага ў тым, каб молатам кляпаць альбо напільнікам шараваць.

– Нельга, браце, цэхавае права не дазваляе хлопцам шэсць гадоў нічога зарабляць, пакуль не вывучышся на чалядніка.

– Бяда, – згадзіўся хлопец. – Чалавек мог бы зарабіць нейкі грош і бацькам дапамагчы, дык вашыя цэхавыя законы не дазваляюць. Гэтак і ахвота, нарэшце, міне. І, праўду кажучы, навошта мне спяшацца з тою навукаю, калі мне шэсць гадоў нельга зарабляць. Добра, што ты вярнуўся, братка, маці нашая ўжо два гады хварэе, і бацька занядужаў, ужо ледзь цягаецца. Папрадавалі яны ўсё на кавалак хлеба і надта сталі бедныя. Ох, і ўзрадуюцца ж яны, што ты вярнуўся. Хоць ты іх выратуеш, мусіць шмат грошай вязеш з трохгадовых заробкаў…

– Як гэты паром марудна рухаецца, – прамовіў Бартак.

– А што ж, няпраўда? Шмат вязеш грошай з вандроўкі? – перапытаў, зазіраючы яму ў вочы, Антось.

Паківаў галавою Бартак і, уздыхнуўшы, сказаў:

– Дзе тыя грошы, братка! У кожным горадзе, дзе чалавек нешта заробіць, там і патраціць на ўшанаванне майстроў і калегаў. Каралеўскія дні[7] часцей за ўсё дастаюцца нам, вандроўнікам. Нічога з сабою не нясу, бо тое, што зарабіў за тры гады чаляндніцтва, пайшло на пасведчанні і на развітанне з калегамі. Не ведаю, за што цяпер варштат справіць. Падобна, трэба будзе яшчэ некалькі гадоў паслужыць, пакуль на ўласным кавадле зазваню. Ой, бяда-бяда! А яшчэ ж трэба заплаціць за права ўступіць у цэх…

– Дык ты яшчэ не майстар? – запытаўся пан Падстоліц.

– Яшчэ не, мой каханы пане. Умею я больш, чым іншы майстар, але яшчэ не заплаціў за права і не магу мець свой варштат.

– Ці ж гэта так шмат каштуе?

– А як жа, мой пане каханы! Майстрам трэба даць абед і вячэру: шмат дзічыны, віна, лікёраў, хто што п'е… Не глядзяць, адкуль усё гэта ўзяць, а як не дасі, дык у майстры трапіць і не спадзявайся[I]. І зноў жа, варштат, мой каханы пане. Таксама нямала…

– Колькі гадоў ты ўжо займаешся гэтым рамяством? – перапыніў яго пан Падстоліц.

– Дванаццаць гадоў, мой пане каханы. Шэсць з іх быў хлопцам, тры – чаляднікам, і тры гады вандраваў.

– І яшчэ не маеш за што купіць варштат? Скажы мне, як ты думаеш, а за колькі гадоў ты мог бы навучыцца таму ж самаму, што цяпер умееш, каб не ў цэху, а вольна вучыўся?

– Мой каханы пане, – адказаў Бартак, – я бачыў у школе Тэхналагічнага інстытуту[8] ў Пецярбурзе хлопцаў, якія за тры гады кожнае рамяство гэтак вывучылі, што аніводзін з майстроў, якія вучыліся звычайным чынам, ім не роўня. Да таго ж, мой каханы пане, умеюць яны і шмат чаго іншага: чарціць, пісаць, рахаваць, і нават ведаюць трохі гісторыю ды геаграфію.

– Дык пры навучанні ў цэху шэсць з дзевяці гадоў марнуюцца, калі за тры можна больш навучыцца?

– Марнуюцца, мой пане каханы, але што рабіць? Ці ж мы самі не разумеем, што за дванаццаць гадоў чалавек мог бы ўжо сёе-тое сабе назапасіць? Каб я з самага пачатку па пяць грошай за дзень зарабляў, пакуль бы навучыўся валодаць молатам... але на гэта два месяцы хопіць, калі працаваць у ахвоту... дык пад канец году мог бы ўжо нешта сабраць для бацькоў альбо на варштат. А так, вось, дванаццаць гадоў страціў. Бацькі, як васпан чуў, паміраюць з голаду, а тут яшчэ, пакуль чалавек узаб'ецца на свой кавалак хлеба, новыя выдаткі ў цэху – на ўшанаванне і на набыццё права быць майстрам, якія да роспачы даводзяць. Хоча не хоча, а п'яніцам чалавек стане.

– Гэта праўда, што залішне час марнуеце, – сказаў пан Падстоліц, – і дорага мусіце заплаціць, пакуль станеце майстрамі, але ж за тое шмат потым маеце і карысці: аніякае канкурэнцыі няма, збыт пэўны і грамадства выйграе, бо мае найлепшае якасці вырабы.

– Усё адно, мой каханы пане, – сказаў, не разумеючы думкі пана Падстоліца, Бартак, – хто хоча мець збыт і заробак, той мусіць старацца добра працаваць, ці ён у цэху, ці не ў цэху; а грамадства на тым, хіба, траціць, бо цэхавым даражэй мусіць плаціць, чым не цэхавым.

– І за што ж гэта?

– А як жа, мой каханы пане? Я, напрыклад, уклаўшы ў маё рамяство дванаццаць гадоў працы і столькі ўжо за гэты час патраціўшы грошай, ці не мушу лічыць гэта часткаю капіталу, ад якога з мае працы мусіў бы мець працэнт? Але як ты гэта давядзеш? І так заўсёды і з нашага боку страты, і грамадства няслушна даражэй мусіць нам плаціць, калі можна было мець тое самае танней, а нават і лепш зробленае вольнымі рамеснікамі.

– Чаму ж гэта і танней, і лепш?

– Так, мой каханы пане; танней, бо вольны рамеснік не далічвае да свае працы кошту навукі: ён ужо ад пачатку зарабляе і таму можа прадаваць зробленае танней; а лепей можа рабіць, бо клапоціцца, каб куплялі; а ў нас купляюць, бо гэта гарантавана самім уступленнем у цэх. Навошта нам дбаць пра ўдасканаленне нашых вырабаў, калі ці добра, ці кепска зробім, але заўсёды нам заплацяць і, нават каб найлепей зрабілі, дык не заплацяць больш, чым іншым? Няма інтарэсу, каб старацца паляпшаць нашыя вырабы.

– Але і кепска зрабіць вы не можаце, бо цэхавае кіраўніцтва можа пакараць за гэта.

– А з каго ж, мой каханы пане, складаецца гэтае цэхавае кіраўніцтва? Крук круку вока не выдзяўбе. Зусім іншая справа, мой каханы пане, там, дзе рамеснікі вольныя, як я чуў, бывае часам за мяжою, дзе за кепскую работу можна і ў судзе адказваць; а ўласнага кіраўніцтва мы не баімся.

– А ў іншых гарадах, дзе ты бываў, – запытаўся пан Падстоліц, – ці і там заўважыў, што цэхі ствараюць гэткія ж нязручнасці?

– Усюды тое самае, мой каханы пане. Усюды хлопцы, аддадзеныя ў навуку, занятыя іншаю працаю і на паслугах гаспадару; а нават калі яны і пачынаюць адразу пры ім рамеснічаць, дык вучацца сваволі і распусце, бо аніякага інтарэсу ў рамястве для іх няма. Чаляднікі, праўда, крыху зарабляюць на сябе, але, каб яны рабілі на ўласных варштатах, дык зараблялі б больш, а грамадства плаціла б менш. Большую частку сваіх заробкаў яны марнуюць, бо не могуць яшчэ ажаніцца і завесці ўласную гаспадарку, дык няма чаго і ашчаджаць; а цэхавая аплата забірае рэшту.

Так дзевяць гадоў альбо і больш самага лепшага веку марна гіне; чалавек толькі разбэсціцца, дык потым, калі ўжо зробіцца майстрам, звычайна не надта стараецца, і з убоства ледзь адзін з сотні – найбольш ашчадны альбо шчаслівы – выберацца. Справядлівасці ў цэхах нідзе, пан, не знойдзеш, хіба, яе купіш. Дык, мой каханы пане, сам пан бачыш, што з-за цэхаў і ўбоства рамеснікаў, і страты для грамадства, якое таксама бяднее, бо за кепскія вырабы даражэй, чым варта, мусіць плаціць. Будзь, пане, здароў. Калі будзе патрэба ў якой слесарскай рабоце, прашу пытацца пра Бартка Кавалевіча.

Паром якраз прыстаў да берага, на які пачалі пераскокваць пешыя, і Бартак таксама паспяшаўся сысці, распытаўшы папярэдне брата, дзе яму шукаць бацькоў.

Ледзь з’ехала з парому каляска пана Падстоліца, як атачылі іх стражнікі з тонкімі жалезнымі прэнтамі – шукаць гарэлку. Дарэмна пан Падстоліц прысягаў, што яе няма, перапаролі яны ўсе куткі. Абураны Уладзіслаў сварыўся на іх, але пан Падстоліц яго супакойваў:

– Сапраўды, прыкрая рэвізія, але я не злуюся, бо гэта адстрашвае, каб прывозілі тую атруту. Высокі яе кошт у гарадах стрымлівае крыху мяшчан ад п’янства, бо патапіліся б у гарэлцы, каб яна напалову была танней.

У гэты момант зноў іх атачылі іншыя ўжо стражнікі з рэвізіяй, ці не вязуць яны на кірмаш тавараў, і, калі нічога не знайшлі, пачалі прасіць на гарэлку. Баючыся, каб яны не прымусілі распакоўваць клункі, пан Падстоліц павінны быў даць. Але не паспелі праехаць і некалькі крокаў, як атачылі наступныя стражнікі з рэвізіяй, ці не вязуць яны мяса, масла альбо іншых тавараў, за якія належыць плаціць спажывецкі падатак. І гэтым пан Падстоліц даў грошай. А бедны селянін, які ехаў следам за імі з сенам, са слязьмі мусіў плаціць брамнае, бруковае, рынкавае, а таксама спажывецкі і гандлёвы падатак; яны былі, праўда, усяго па некалькі грошаў, але значную частку яго сена забралі.

– З часу далучэння гэтае правінцыі, – расказваў пан Падстоліц, калі яго каляска сунулася па калатушы следам за іншымі, – урад парэкамендаваў у кожным горадзе збіраць на брук, дык стражнікі не прапускаюць аніводнага селяніна; кожны мусіць прывезці камень альбо заплаціць; аднак, апрача губернскіх гарадоў, усе іншыя да гэтага часу небрукаваныя; найлепшыя з іх ледзьве па адной вуліцы забрукавалі. Тым часам нават простым падлікам можна давесці, што кожнае павятовае мястэчка цягам некалькіх гадоў можна было б цалкам забрукаваць.

– Але за тое не было б сям-там падмуркаў, – заўважыў Уладзіслаў. – А васпан дабрадзей якраз сам іх рэкамендуе.

– Я ведаю пра гэтыя злоўжыванні, – адказаў пан Падстоліц. – Бруковы падатак грашыма прападае ў руках тых, хто яе збірае, а камяні, скрадзеныя

альбо прыўлашчаныя, ідуць на падмуркі іхніх дамоў альбо на брукаванне дзядзінцаў.

Пакуль яны размаўлялі, каляска пана Падстоліца заехала на рынак, які ўяўляў сабою прастакутнік. Пасярэдзіне, як карабель на моры, стаяў сярод калатушы аднапавярховы драўляны будынак, скрыўлены ад старасці. З кожнага ягонага боку трохкутная фац'ята[9] мела на сваім лоне герб горада і павету; а самая высокая, з пашкоджанай драўлянай вежай, сведчыла, што ўсярэдзіне знаходзіцца ратуша. У сценах гэтае пабудовы меліся вялікія чатырохкутныя, што закрываліся толькі аканіцамі, праёмы, якія служылі за дзверы і вокны крамаў, што тут знаходзіліся. На шырокіх лавах пад вокнамі сядзелі жыдоўкі, бахуры[10] і козы: адны мэкалі, іншыя плакалі, а маладыя і старыя жыдоўкі сваім лямантам аглушалі мінакоў, запрашаючы іх у крамы, дзе *ўсё ёсць*. Асобныя крамы былі замкнутыя, а падыходы да іх ачышчаныя ад гразі, засланыя ходнікамі і пасыпаныя пяском ды хвояю, з чаго было зразумела, што ў тых крамах размясціліся прыезджыя купцы, якія толькі заўтра мелі пачаць гандаль.

Тлум прасталюдзінаў, месячы калатушу, дзівіўся, нібыта з абавязку, усім знаёмым і незнаёмым рэчам ды абыходзіў крамы і заездные дамы. Паміж апошніх на адным баку рынку стаяў касцёл, а на другім – некалькі лепшых будынкаў, жоўтыя шыльды з чорнымі арламі на якіх сведчылі пра іх урадавую прыналежнасць[11]. Каля аднаго з іх каляска пана Падстоліца спынілася, і адразу выскачыў на ганак чалавек – тоўсты, пажылы, у жупане карычневага колеру і ў сіняй паверх яго куртцы, падбітай лісіным футрам; на галаве ў яго была зялёная аксамітная канфедэратка з каштанавым смушаком[12], а на твары – вялізны чырвоны нос, які сядзеў на сівых, але доўгіх вусах.

Гэта быў пан Бурмістар.

## Раздзел другі

# ПАН БУРМІСТАР

Poczekajcie jeszcze proszę,
Jeszcze nowy toast wnoszę.
W górę czasze!
Zdrowie nasze!
Wiwat mnie i wam!
Lecz już szklanka zakończona...
... Dolej luby Stachu, dolej;
Niechaj nowa bieży kolej.

A.E. Odyniec, *Piosnka maskaradowa*[13]

Бурмістар, заўважыўшы пана Падстоліца, сарваў з галавы канфедэратку, хутка збег з ганку і, дапамагаючы яму вылезці з каляскі, казаў:

– З самага ранку выглядалі мы гэтую ўрачыстую гадзіну, калі фартуна ахвяруе нам гэтак чаканую прэзентацыю асобы васпана дабрадзея. Я казаў, што ягамосць *non totus peream*[c]; не падвядзе.

– Як маешся, мой стары прыяцель? – прамовіў, ветліва вітаючыся, пан Падстоліц. – Гэта пан Бурмістар, – дадаў ён, звяртаючыся да Уладзіслава, – мой прыяцель; некалі мы супольна гандлявалі.

– *Praeteritum perfektum!*[d] – выгукнуў Бурмістар, махнуўшы рукою. – Мінуў той час. *Transitit gloria mundi*[e]. Ужо няма дзе цяпер гандляваць. Збожжа ў Круляўцу танней, чым у нас, а сукно імпартаваць нібыта нельга. Аднак жа настрой не змяніўся, мосці дабрадзей. *Semper vivus*[f], як казалі айцы-езуіты. Хоць стары, але яры, – і ён жвава прытупнуў. – Ці гэта сын васпана дабрадзея – увесь падобны на бацьку? – дадаў ён, кланяючыся Уладзіславу.

– Гэта мой прыяцель, – адказаў пан Падстоліц. – Мы разам спынімся тут.

– А, то іншая справа! – падхапіў Бурмістар, дакрануўшыся канфедэраткаю да калена. – Гэта новыя для майго дома *hilaria*[g], бо суправаджаць васпана дабрадзея могуць толькі годныя павагі і шанавання асобы. Прашу заходзіць. Два пакоі *ut sic*[h] прыгатаваныя.

– А коні мае і падводы? – запытаўся пан Падстоліц.

– Усё належна памясціў, бо маю дзе, *Deo gratias*[i], – адказаў Бурмістр. Стадолы мае, увесь год пустыя, учора яшчэ напоўніліся багаццем тваім *Domine*[j],

---

[c] Я ўвесь не загіну.
[d] Мінулы закончаны час.
[e] Прайшла слава свету.
[f] Заўсёды жывы.
[g] Радасці.
[h] Як належыць.
[i] Дзякуй Богу.
[j] Пане.

як гэта бывае штогод падчас нашага кірмашу. *Reperiuntur, tamen rarius hordea, avena, fabae*[a]. Але сёлета я больш, чым калі, Ласкаю Тваёй адораны, бо асабаю самога пана дом мой будзе ўшанаваны. Калі ласка, у пакоі. Васпан, пане фурман, марш на стайню, а потым да мяне на кміноўку[14].

– Ад'язджай, – загадаў пан Падстоліц. – Распакаваць мае рэчы і няхай падстараста да мяне прыйдзе. Прашу, пане Уладзіслаў.

– Вось сюды, – запрашаў Бурмістар, уваходзячы за гасцямі ў даволі чысты пакой. – Мая Клара! – звярнуўся ён да паненкі, якая, убачыўшы гасцей, заспяшалася ў іншы пакой з толькі што адпрасаванаю сукенкаю ў руках. – Будзе яшчэ час думаць пра рэдуты, а зараз мне, ваша, мігам зрабі гарбату для іхмосцяў. Гэта, мосці дабрадзеі, – дадаў ён, падыходзячы да пана Падстоліца і ківаючы галавою, – гэта мая адзіная дачка: *Spes altera Trojae*[15], як казалі айцы-езуіты, пад *ферулай*[16] якіх... Але ж няхай іхмосці зробяць ласку сядаць. Пад *ферулай* якіх, мосці дабрадзеі, восем гадоў вывучаў *grammaticam*[17], што мяне вывела з сядзельца[18] ў бурмістры, а потым у купцы. Не ведаю, якія цяпер бурмістры будуць, калі ўжо і граматыкі, і сінтаксісу ва ўсім краі не чуваць. *Ruit atra nax*[b].

І ён замоўк апусціўшы галаву.

– Што ж тут пра мае тавары кажуць? – звярнуўся да яго пан Падстоліц.

– Ах, мосці дабрадзею! Канкурэнцыя на іх вялікая, – узрушыўся Бурмістар. – На тавары панскія купцы ляпы, як ваўкі, паразяўлялі. *Veluti lupus in fabula*[c]. Падстараста панскі не можа ад іх адчапіцца. Чакаюць ужо пана. *Expectabunt et laetentur*[d]. Я за ўсё жыццё гэтульки пляшак не выпі... не бачыў, колькі пан дукатаў возьме. І на коней прыцмокваюць, нібы на венгерскае віно.

– А купцоў, – запытаўся пан Падстоліц, – шмат наехала?

– Наехала гэтых п'явак на нашыя кішэні. *Nec missura cutem nisi plena cruoris hirudo*[e]. Саранча-саранча, мосці дабрадзею.

– Чаму ж ты іх гэтак не любіш?

– А што ж? Апошні грош у нас выцягнуць, у тутэйшых купцоў хлеб адбяруць і, абабраўшы нас да ніткі, *extra limites patriae*[f], куды ні вокам не сягнуць, ні нагою не ступіць, уся гэтая саранча рассыплецца, *per orbem terrarum*[g]. Лепш было, калі мы самі прывозілі сюды тавары: тады *per totum annum*[h] і ламусы, і шкатулкі, і паграбы былі поўныя.

– Чаму ж цяпер тутэйшыя купцы самі не гандлююць?

Бурмістар патрос галавою:

– Даўняя прымаўка: *Poloni otiosi, Germani laboriosi*[i]. Нам у працы рукавы замінаюць, у той час, калі іншыя іх закасваюць. Але таксама цяжка супернічаць з жыдамі. Тое зраўнанне іх з нашымі прывілеямі нямала нарабіла нам

---

[a] Маецца, хоць і радзей, ячмень, авёс, боб. (Правіла склannenя). (З граматыкі Альвара[19]).
[b] Прыйшла чорная ноч.
[c] Як воўк у байцы.
[d] Будуць чакаць і абрадуюцца.
[e] П'яўка не адпадзе ад скуры, пакуль не нап'ецца крыві.
[f] За межы Айчыны.
[g] Па ўсім свеце.
[h] Увесь год.
[i] Палякі гультаяватыя, немцы працавітыя.

шкоды. Пачалі барацьбу з кожным, хто кінуўся *ad mercimonia*[a], і ўсіх пакінулі ні з чым. *Ruit atra nox…*

Увайшоў слуга з кубкамі для гарбаты на падносе, накрыў стол галандскім абрусам; пасля прынёс вялізны самавар і пару бутэлек араку[20]. А потым з'явілася панна Клара ў лёгкім кітайкавым шляфрочку і дрэздэнскім чэпчыку; Бурмістар з бацькоўскім захапленні ўскрыкнуў:

– *Laudabunt alii Claram!*[b] Не варта бацьку хваліць сваіх дзяцей, мосці дабрадзею, але *post fata*[c] мае нябожчыцы жонкі яна мне сапраўдная памочніца дома. *Auxilium meum in adjutorio Domini*[d].

Клара зграбна прывіталася з гасцямі, села ля століка з гарбатаю і, прымружваючы вочы, з мілым какецтвам прамовіла:

– Панове ў самы час прыехалі ў горад, якраз перад рэдутаю. Кажуць, што з выпадку блізкіх выбараў таварыства збярэцца шматлікае і будзе шмат забаваў.

– *Puella mea, pullula mea*[e], – казаў, гледзячы на яе са слязьмі ў вачах, Бурмістар.

– Я хутчэй не дзеля забаваў, – адказаў ёй пан Падстоліц, – а з-за кірмашовых інтарэсаў прыехаў; а таварыш мой, здаецца, будзе танцаваць.

– Дачакаліся мы, нарэшце, гэтага кірмашу, – працягвала Клара, схіляючы на бок галаву. – Увесь год тут жахлівая нуда ў горадзе. Можна нават казаць – тры гады, бо толькі перад выбарамі збіраецца таварыства. У іншыя гады кірмашы бываюць гэткія пустыя, што нават рэдуты не атрымліваецца сабраць, дык аніякага пацяшэння за цэлы год нуды не маем.

– Яна разумнейшая за сваю матку, – умяшаўся Бурмістар. – *Splendor et decus dignitatis meae*[f]. Загадай ёй пан нешта напісаць… я ўсяго тры словы скажу, а яна ўжо цэлы аркуш спіша. А як яна геаграфію ведае!

Ён падняўся і, цалуючы яе ў галаву, благаславіў ды з гонарам дадаў:

– Яна ў кляштары атрымала адукацыю, мосці дабрадзею. *Ad docendum asinos non opus est verbis sed fustibus*[g], як казалі айцы-езуіты. Нудзіцца цяпер, гаротніца, і без таварышак, і без забаваў.

– На сум ёсць вельмі добрыя лекі, – заўважыў пан Падстоліц. – Калі я быў у Нямеччыне, дык амаль у кожнай сям'і бачыў, што да́мы занятыя карыснаю працаю, адпаведнаю іхняму стану. У лепшых дамах, асабліва ў Саксоніі, бачыў я механічныя ткацкія варштацікі, на якіх дамы без аніякага высілку выраблялі цудоўныя матэрыі – ядвабныя альбо баваўняныя – стужкі, карункі, тонкае палатно, батысты ды іншыя патрэбныя рэчы, якія заўсёды карысныя для дому, а для іх – прыемнае баўленне часу[II].

Клара адказала з усмешкаю:

– Няхай жа нашыя да́мы гэтым і займуцца. Калі б мы, дочкі мяшчанаў, вырашылі адрозніваццa ладам жыцця ад шляхцянак, перасталі думаць пра за-

---

[a] Да тавараў, да гандлю.

[b] *Няхай іншыя хваляць светлы* (Родас). Бурмістар прымае прыметнік светлы ў одзе[21] Гарацыя за ўласнае імя.

[c] Пасля смерці.

[d] Дапамога мая пры спрыянні Божым.

[e] Дзяўчынка мая, птушанятка маё.

[f] Бляск і аздоба мае годнасці.

[g] Для навукі аслоў трэба не словы, а кіі.

бавы, пазяхаць ды марыць у ценю таполі альбо пры лямпе ў будуары, дык, пэўна, паспрыяла б гэта сямейнаму дастатку; але якім бы вокам глядзелі на тую асобу, што бавіцца ткацтвам? У якую кампанію б нас тады прынялі? Ці не адправілі б нас тады да прачак ці кухарак? Нават цяпер, калі мы яшчэ сяк-так стараемся трымацца моды і свецкага ладу жыцця, не надта хочуць бачыць нас у сваім коле вясковыя дамы. Пан з аракам ці са смятанкаю?

– Прашу дазволіць: я сам сабе налью, – сказаў, прымаючы з яе рук кубачак з гарбатаю, пан Падстоліц.

– Няхай жа ягамосць не шкадуе араку, – казаў расчулены да слёз прамоваю дачкі Бурмістар. Ён наліў спачатку сабе, нібы для таго, каб даць добры прыклад, вялікую порцыю і працягваў:

– Мая Клара, *os ex ossibus meis*[a]. Добра ты кажаш: тут не запярэчыш. *Deo gratias*. Аднак жа, праца – справа добрая. *Labor omnia vincit*[b]. Твая маці, якая прала ды гаспадарыла, паспрыяла мне, каб пачаў гандляваць. Сумленнае працы не павінны саромецца і самыя годныя. *Non erubescant*[c]. Айцы-езуіты казалі, што чалавек створаны на свет, каб працаваць. *Labor omnibus unus*[d] і што адна толькі праца здольная ягонае жыццё ахутаць бляскам дабрабыту, засцерагаючы адначасна ад кепскіх звычак.

Ён пракаўтнуў адным глытком адразу паўшклянкі пуншу, уздыхнуў і, выцершы вусы, казаў далей:

– *Labor omnia vincit*. І лепш тады было. Нашае напалову зруйнаванае сёння мястэчка гніе ў балоце, *in lacu miseriae*[e] правалілася, а тады, хоць і было драўлянае, але добра разбудоўвалася, бо жыхары былі заахвочаныя і яно квітнела. На месцы цяперашніх халупаў і руінаў стаялі добрыя дамы, значна больш чыстыя, напоўненыя прывазным таварам *universi*[f], які мы за збожжа віцінамі з Круляўца імпартавалі. Якая бывала *gaudium*[g] у маім доме, калі выходзілі мы спаткаць мае віціны! Цяпер кошт на нашае збожжа не пакрывае выдаткаў, а за выключэннем збожжа нічога няма ў краі, каб можна было экспартаваць. Імпартныя ж тавары, набытыя за наяўныя грошы, трэба аддаваць панам-шляхце ў крэдыт, каб пасля эксдывізіі кавалак пясчанае зямлі за іх атрымаць. Купцы нашыя збанкрутавалі, рамеснікі згалелі, *in sudore vultus sui vescuntur pane*[h]. І ўсё мяшчанства прыйшло да такое змарнеласці, што яго ўжо амаль не відно. *Apparent rari nantes*[i]. Жыды ўсіх ад прыбыткаў адапхнулі, адстрашылі, усё пад сябе падгрэблі. А якая прычына гэткага стану рэчаў? Не што іншае, як тое, што кожны раздзімаўся, як жаба: *rana rupta*[j], усе хацелі быць падобнымі на вяльможных паноў. *Dispergere cum sole manus*[k], а ніхто не

---

[a] Костка з маіх костак.
[b] Праца ўсё перамагае.
[c] Няхай не саромяюцца.
[d] Праца ўсім адна.
[e] У возера нэндзы.
[f] Усяго свету.
[g] Радасць.
[h] У поце свайго чола спажываюць хлеб.
[i] Рэдка з'яўляюцца плыўцы.
[j] Жаба, якая лопнула.
[k] Раскідваць ва ўсе бакі.

жадаў працаваць, *more antiquo*[a], як Пан Бог загадаў. *Hausisti patrias luxuriosus opes*[b], як казалі айцы-езуіты. *Ruit atra nox…*

Другім глыткам ён дапіў сваю шклянку і з вытрашчанымі вачыма працягнуў яе Клары, каб яна зноў наліла.

Уладзіслаў, які замест абеду частаваўся гарбатаю са здобаю, зірнуў на пана Падстоліца і заўважыў:

– Недастаткова, думаю, адно толькі працаваць, трэба ўмець і ў працы адпавядаць часу.

– Адпавядаем трохі, – адказаў на гэта Бурмістар. – Даўней пілі мы палёнку, мёд і піва: сёння п'ём арак, віно і портар. Але васпан дабрадзей – ці то з-за сціпласці, ці то з-за нейкага *votum* – да якога ж букалічнага часу стараешся прыстасавацца, што п'еш гарбату са смятанкаю? *Non licet*[c]. Не дазваляю. Мусіш, васпан дабрадзей, хоць адну шкляначку пуншу паводле сяброўскага звычаю выпіць *in vim grati animi*[d] ягамосці пану Падстоліцу, які, і паводле паходжання свайго, як *digna proles*[e] вялікага *in fastis*[f] бацькі, і паводле высокае дабрачыннасці, узор якое дае ў асобе сваёй, з'яўляецца для нас светачам і ласкава дазволіць, каб мы з замілаваннем і захапленнем выгукнулі за ягонае здароўе: *Vivat benefactor populi, gaudium patriae et decus Romae!*[g]

Усміхнуўся пан Падстоліц і падзякаваў гаспадару; а Уладзіслаў мусіў узяць шклянку пуншу, які Клара падала яму з ненатуральнай прыхільнасцю. Старасвецкі гаспадар тым часам, падняўшы сваю чарку, зацягнуў старэчым, але досыць яшчэ прыемным тэнарам:

Aestate umbrae, umbrae quaeruntur,
Dulcia vina, vina bibuntur;
Minibus, minibus invicem datis,
Chorea, chorea fiunt in pratis[h].

*Vivat,* пан *Падстоліц!*

Ён адным духам спаражніў шклянку і жвава, але не надта ўжо добра валодаючы языком, звярнуўся да дачкі:

– Клара, мая галубка, *spes mea*[i], *adjutorio meum in auxilium Domini*[22]. Яшчэ налі мне за здароўе айцоў-езуітаў і нябожчыка настаўніка майго, які мяне да пасады бурмістра *vium*[j] пратараваў. Трэба вам ведаць, мосці дабрадзеі, што я ніколі пра маіх дабрадзеяў не забываюся. А вось і пан Радны[23]. Клара, пану Раднаму!

---

[a] Даўнім звычаем.
[b] Марнатраўца знішчыў бацькоўскія дастаткі.
[c] Не гадзіцца.
[d] Як знак удзячнасці.
[e] Годны нашчадак.
[f] У гісторыі.
[g] Няхай жыве дабрачынца люду, радасць Айчыны і аздоба Рыму!
[h]
Летам шукаем цень,
П'ём салодкае віно,
Узяўшыся за рукі,
У карагодах скачам на лугах.

[i] Надзея мая.
[j] Шлях.

Увайшоў чалавек малады, статны, з высокім ясным чалом; меў жывы погляд і нешта такое, што вабіла сваёй прыстойнасцю і пэўнасцю. Убор яго быў звычайны і просты, але вельмі акуратны. З годнасцю пакланіўся ён гасцям, кінуў пранiклівы позірк на Уладзіслава і Клару, вочы якое заіскрыліся; але хутка ўсмешкі асвятліла іхнія твары. Радны прыняў ад яе кубачак з гарбатаю і сеў поруч з Бурмістрам.

– Няхай панове не бяруць гэта *in praejudicium*[a], – сказаў Бурмістар, – што пан Радны п'е без араку. Ён, між намі кажучы, *філазофус*, сын заможных бацькоў, скончыў *cum fervore et honore*[b] ўніверсітэт, падарожнічаў і, вярнуўшыся, не стаў гідзіцца, як шмат хто іншы, рамяством свайго бацькі-каваля. *Fabricando fabri fimus*[c]. Робіць цяпер каляскі, але з-за таго, што яны не варшаўскія альбо венскія, не маюць яны добрага попыту.

– Каб справа была толькі ў перадузятасці, – азваўся Радны звонкім голасам, – дык яна была б лёгка пераадоленая, калі б убачылі, што каляскі, зробленыя ў маёй майстэрні, не саступаюць заграцічным, а каштуюць танней. Але прычына якраз у тым, што з-за кепскага збыту сваіх вырабаў, я не магу прадаваць іх танна, а пры такім самым кошце кожны жадае мець каляску з-за мяжы, дзе большы густ і майстэрства справядліва спрыяюць лепшым продажам.

– Якая ж прычына, – запытаўся пан Падстоліц, – што васпан дабрадзей не можа прадаваць сваіх вырабаў танней? Матэрыялы ў нас, здаецца, таннейшыя, чым за мяжою, і работа таксама не павінна быць даражэйшая.

– Матэрыялы, – патлумачыў Радны, – у выглядзе сыравіны ў нас больш танныя, але апрацаваныя для ўжытку ў рамесніцтве – каштуюць даражэй, бо робяць гэта ўручную асобныя майстры, тады як за мяжою гэта робіцца ў вялікай колькасці на заводах. Стварае гэта значную розніцу ў цане. Мне, напрыклад, для вытворчасці калясак, апрача маіх кавалёў, неабходныя яшчэ сталяры, калеснікі, токары, сядзельнікі, лакіроўшчыкі, абойшчыкі, бляхары ды шмат іншых майстроў, а яны ўсе, як асобныя майстры, патрабуюць плату не толькі значна большую, чым тая, якую даюць за мяжою за такія ж вырабы, прыгатаваныя на адмысловых заводах, але і значна большую за тую, якую плаціў бы я вольным, не цэхавым майстрам, каб я меў права іх усіх утрымліваць.

– Што ж можна прыдумаць, каб выправіць гэту недарэчнасць? – запытаўся пан Падстоліц.

– Калі нашыя мануфактуры, – адказаў Радны, – не могуць быць забяспечаныя вырабамі, ужо падрыхтаванымі да ўжытку ў дапаможных майстэрнях, дык мы маглі б яшчэ вытрымаць канкурэнцыю, каб былі ліквідаваныя цэхі, што дазволіла б знізіць кошт работы рамеснікаў. Аніводзін рамеснік не пашкадаваў бы, каб пры роўных правах мог і іншаму збыт забяспечыць, і сам прадаваць больш сваіх вырабаў, маючы ад гэтага прыбытак.

– Клара! Яшчэ адну! – азваўся Бурмістар. – А не казаў я вам, мосці дабрадзеі, што пан Радны *філазофус*? Шмат *circa bonum publicum*[d] працуе і шмат стараецца, каб палепшыць дабрабыт нашага мястэчка. Хто ведае? Каб меў

---

[a] За злое.
[b] З руплівасцю і гонарам.
[c] Каб быць кавалём, трэба каваць.
[d] Дзеля агульнага дабра.

больш калегаў універсітэцкіх, дык, можа, нешта і зрабілі б. Няраз даводзіў мяне да слёзаў, апавядаючы пра багацці чужаземскіх гарадоў альбо пра тое, якімі б нашыя маглі стацца, і Бог ведае, што там яшчэ. *Mirabilia enarrat*[a]. Але мне не падабаецца, што хоча ён ліквідаваць акцызы. Прынамсі, мосці дабрадзеі, між намі кажучы (ён агледзеўся па баках), калі месіш хлеб, дык частка цеста да рук прыліпне. І пан Гараднічы[24] трымаецца гэткіх жа прынцыпаў.

Аднак жа, мосці дабрадзеі, падабаецца мне гэты хлопец. *Unus e millibus*[b]. І такое маё перакананне, што мусіць ён замяніць мяне на маёй пасадзе і маю Клару… Не чырваней, дзяўчына, бо ж прымаеш яго як мужа. Толькі застаецца *publico* пацвердзіць *Sacramento*[25]. Каб мела ты сто тысячаў, як твая стрыечная сястра, Падкамаранка, дык, можа, таксама пажадала б *nexum alti sanguinis*[c] і была б годная рукі нейкага з паноў, які б тады мог патлумачыць сваёй радні, што альянс з бурмістраўскаю булавою не запляміць ягоны герб.

Але, дзякуй Богу, не нажыў я вялікага фундушу; бо, можа, і я тады задзіраў бы нос, гледзячы на гэтага прыстойнага хлопца, за якім *ex filo*[d] Божае наканаванасці будзеш больш шчаслівая і заможная, чым твая Падкамаранка: *ego te nubo pari*[e]. Мушу выпіць за ягонае здароўе. Налі нам яшчэ па адной ды ідзі ўжо сабе, каб з-за тваіх збораў Падкамаранка не спазнілася на рэдуту.

Клара зноў наліла шклянку пуншу, падала яе бацьку, пакланілася гасцям і выбегла. Бурмістар заклікаў дапамагаць яму падымаць тосты, але калі абодва маладыя адмовіліся, а пан Падстоліц, заўважыўшы за дзвярыма падстарасту, выйшаў да яго, дык гаспадар наш вымушаны быў адзін выпіць за здароўе: спачатку пана Раднага, потым будучае пані Раднае, альбо Бурмістроўны, і будучых сваіх унукаў. Ённаліваў усё больш араку і тлумачыў:

– Калі ж цешыцца, як не сёння, калі фартунная інфлюэнцыя[26] нябёсаў гэткімі гасцямі мяне надарыла? *Vivat hospitalitas!*[f] За здароўе гасцей!

Тым часам Уладзіслаў гутарыў з Радным пра кірмаш і пра купцоў, якія на яго прыехалі.

– Крайнасці сыходзяцца, – тлумачыў Радны. – У краі багатым, людным, дзе добра развітыя рамесніцтва і гандаль, не патрэбныя кірмашы, бо і без іх у любы час кожны можа ўсё сабе набыць з першых рук. І ў нашым краі яны таксама непатрэбныя, бо няма нам чаго даць узамен за чужыя тавары.

– Тутэйшыя купцы, – сказаў Уладзіслаў, – могуць набываць тавары на месцы падчас кірмашоў, не пакідаючы свае звычайныя заняткі дзеля паездак на мануфактуры.

– За тавары, прывезеныя пасярэднікамі, мусім мы заплаціць даражэй, – адказаў Радны. – Але, калі не можам набываць вырабы адразу на мануфактурах, дык тым больш на кірмашах, плацячы за іх даражэй, не можам мы купляць у запас. Якія ж у нас купцы ў правінцыі? З дзясятак жыдоў, якія ў губернскія гарады прывозяць сякія-такія тавары самае паганае якасці. Ва ўсіх іншых

---

[a] Дзівы апавядае.
[b] Адзін з тысячы.
[c] Высокую сувязь.
[d] Па волі.
[e] Я выдаю цябе за роўнага.
[f] Няхай жыве гасціннасць!

нашых мястэчках – адны толькі дробныя крамнікі. За выключэннем губернскіх гарадоў і некалькіх мануфактураў на ўсім абшары ў некалькі тысяч міль не знойдзеш і локця добрага сукна альбо іншага добрае якасці тавару. Але і ў губернскіх гарадах, апрача Вільні і Віцебска, гэтак мала добрых тавараў, што для таго, каб іх набыць, трэба ехаць некалькі дзясяткаў міль у вялікі горад...

Размову іхнюю перапыніў Бурмістар, які, седзячы на канапе, спяваў сабе пад нос *Aestate umbrae* і невялікімі глыткамі піў за здароўе: спачатку шаноўных і набожных бурмістраў, сваіх папярэднікаў, потым караля Уладзіслава[27], пры якім гэты горад быў заснаваны; потым свае нябожчыцы-жонкі і, выцершы слёзы, сваіх бацькоў, дзеда і бабкі, прадзеда і прабабкі ды ўсіх сваіх набожных продкаў аж да першага з іх, які прыняў хрост і ўчыніў гэтым для ўсяе фаміліі *beneficium*[a], бо нашчадак ягоны, каб быў паганцам, не мог бы стаць бурмістрам. Якраз калі ён цягнуўся ў чарговы раз да пляшкі і асунуўся на канапу, замармытаў: *bo finita dabunt bi, ut bibo bitumque supino*[b]. І захроп спакойна.

Радны падскочыў да яго, мяркуючы, што яму стала кепска, і загадаў слугам занесці яго ў ложак. Тым часам увайшоў Марцін, які перадаў Уладзіславу, што пан Падстоліц кліча яго і чакае ў сваім пакоі.

– Хацеў вызваліць васпана ад таварыства нашага гаспадара, – патлумачыў пан Падстоліц.

– Ён сам вызваліў нас ад свайго таварыства, – адказаў Уладзіслаў. – Гэтулькі тостаў падняў, што аж заснуў на канапе.

– Тым лепш, – заўважыў пан Падстоліц. – Каб не гэтая загана, уласцівая людзям яго часу, асабліва, калі пачынаюць частаваць госця, дык быў бы з яго цудоўны стары. Калі ён быў купцом, дык давёў сваю беззаганную сумленнасць.

У гэты момант з дому насупраць пачуліся гукі цымбалаў і скрыпак, а воклічы паспалітага люду абвясцілі пачатак кірмашовае вечарынкі.

– Ці не варта і нам, – сказаў пан Падстоліц, – зазірнуць да іх? Гэта дапаможа скласці больш поўны вобраз побыту і цывілізацыі нашага люду. Потым накіруемся на рэдуту.

Ахвотна згадзіўся з гэтаю прапановаю Уладзіслаў. Пан Падстоліц загадаў Марціну падрыхтаваць каляску, каб ехаць на рэдуту, і яны з Уладзіславам накінулі плашчы і пайшлі на вечарынку.

---

[a] Дабрадзейства.

[b] Словы, якія заканчваюцца на *-bo*, маюць у мінулым часе *-bi*, а дзеепрыметнік мінулага часу – *-bitum*, напр. *bibo* (я п'ю). [Правіла з Альвара].

## Раздзел трэці

# ВЕЧАРЫНКА

Bo wszyscy Bachusowej szkoły zwolennicy,
Ten gładkiej, ów kurowej dzierży się śklennicy;
Aż ten usnął, owego do domu prowadzą,
A ledwie mu stawiając nogi wszyscy radzą.
… Bo podobne wyprawi i ten i ów sztuki,
Łaje ten a owemu nie trudno o fuki .
Tańcuje ów, ten skacze, choć na jednę nogę,
Ten się tacza, a i ów znać że ma ułogę.
Ów krzyka, a ten śpiewa, ów wywraca oczy.

Kasp. Miaskowski, *Mięsopust*[28]

Вялікае памяшканне, ледзь асветленае цьмянымі агеньчыкамі некалькіх свечак, было поўнае рознага веку мяшчанаў. У адным куце – шырокі стол, каля якога мітусілася тоўстая жыдоўка з дзвюма памочніцамі, бязладна быў заcтаўлены пляшкамі з гарэлкаю – старою і звычайнаю, келіхамі, шклянкамі, бляшанымі меркамі рознага калібру, якія налівалі, хапалі і выкульвалі з дзіўнай хуткасцю пад вясёлыя воклічы, прыпеўкі і няспынныя спрэчкі з гаспадыняй пра плату. Мала было такіх, хто па некалькі разоў не наведаў гэты алтар Бахуса, а моцнае “гу-га” з усіх бакоў, жарты і гучны рогат кабет даводзілі, што ахвяраванні з просьбаю аб весялосці, складаныя ў рукі тоўстае капланкі, былі недарэмныя.

Цярпеў з-за гэтага святочны аркестр, складзены з трох жыдоў у лахманах. Нягледзячы на тое, што смычкі рвалі струны, а кручкі моцна білі па цымбалах, каб танцоры хоць трохі кіраваліся музычным тактам, гармідар заглушаў і фальшывыя гукі музыкі, і вісклівыя воклічы злосных музыкаў. Але танцам гэта аніяк не перашкаджала, бо недахоп гармоніі кампенсавала весялосць бяседнікаў. Амаль уся грамада з віскатам і рогатам піла, спявала ды выкручвала фантастычныя фігуры ў безладных скоках.

Шмат хто, праўда, відавочна жадаў больш прыстойнае забавы: яны парамі танцавалі – у некалькіх колах, а таксама асобна – разнастайныя танцы; але ўсе – пад тую самую музыку, зусім не зважаючы на такт. Адны вальсавалі ў супрацьлеглыя бакі, іншыя ішлі між імі ўпрысядку казака, тыя нібы вялі польскага[29], а некаторыя, у шапках набакір альбо насунутых на самыя вочы і з падабранымі поламі сурдутаў, з усяе сілы прытупвалі і скакалі, не зважаючы ні на кога і штурхаючы іншых танцораў.

– Няма чаго шукаць маральнасці там, – сказаў пан Падстоліц, – дзе няма пачуцця гармоніі ды хараства. Гэтае відовішча шмат пра што кажа. Сведчыць яно не толькі пра поўную адсутнасць асветы і выхавання, але, апрача таго, пра сапсаванасць натуры чалавека, які нават у дзікім стане больш захоўваў прыстойнасці. Гарэлка заліла тут усе адчуванні і спаралізавала розум.

– Бо маем за што піць гарэлку, – азваўся ззаду нейкі чалавек у мяшчанскім капоце, які пачуў апошнія словы пана Падстоліца. – Так. У каго няма грошай, той не п'е і ад зайздрасці меле лухту пра гарэлку. Ведаем мы такіх дабрадзеяў!

Ён з пагардаю зірнуў на пана Падстоліца і рушыў да стала шынкаркі.

– Што гэта за чалавек? – запытаўся пра яго пан Падстоліц у старога, што стаяў побач і, здавалася, быў тут толькі гледачом.

– Ат, звычайны шавец, маспане, – адказаў стары. – Відаць, атрымаў ад некага плату, дык спяшаецца прапіць, каб жонка не вырвала грошы для згаладалых дзяцей.

– Дзе ж ягонае сумленне? – прамовіў пан Падстоліц.

– Але ж, васпане, – патлумачыў нейкі паважны мешчанін, трымаючы рукі ў кішэнях капоты, – у яго жонка прачка, дык яна сама заробіць на дзяцей.

– Ха-ха-ха! Дзіва што! – зарагатала, хапаючы яго пад руку, стараватая кабета на добрым падпітку. – Вы хочаце, каб на дом і на дзяцей мы зараблялі, а самі будзеце ўсё прапіваць. А мой ты дзядзечка-дабрадзей, купі ж кватэрку[30] для дачкі твайго брата Андрэя.

І яна пацягнула таго за сабою.

Пан Падстоліц з Уладзіславам наблізіліся да двух мяшчанаў, што сядзелі каля дзвярэй на лаве. Маладзейшы з іх трымаў за гузік капоты старэйшага і казаў:

– Ці ты не ведаеш? Гэта ж чалавек. Адзін ніколі не вып'е і заўсёды мае на пачостку.

– Слухай, Мацей, – адказваў старэйшы, – усё гэта лухта. Ён даў слова, што ніхто і месяца не праносіць ягоных ботаў, але я сам бачыў, што пан Асэсар ўжо трэці месяц носіць прышвы[31] ягонае работы. Ці ж сумленна гэтак здраджваць нам, сваім таварышам? З чаго будзем жыць, калі ён будзе добра рабіць? Хадзем, браце, вып'ем яму на ганьбу.

Яны пайшлі. А пан Падстоліц, які заўважыў каля вакна смутны позірк нейкага мешчаніна, што самотна падпіраў сцяну, пазіраў на бяседнікаў ды горка ўздыхаў, падышоў да яго разам з Уладзіславам. Яны селі побач, а калі мешчанін пачаставаў тытунём, Пан Падстоліц ласкава запытаўся, што яго даймае.

Але мешчанін зірнуў на яго здзіўлена і жаласна.

– Ці ж ты, пан, не бачыш, – сказаў ён, – што я сяджу тут адзін, як пень, сярод людзей, калі ўсе весяляцца? – І, глыбока ўздыхнуўшы, працягваў: – Васпан, мусіць, нетутэйшы, бо я васпана не бачыў ні ў адным шынку ў нашай старане. Можа, купец з таварам?

– Я маю тавары, – адказаў пан Падстоліц. – Прыехаў на кірмаш. А васпан чым займаецца?

– Я – кушнер. Але чаго ж нам не прамачыўшы горла гутарыць? Загадай, васпан, даць гарэлачкі! Разам вып'ем за здароўе васпана.

– Я гарэлкі не п'ю, – адказаў пан Падстоліц.

– Дык мёду?

– І мёду я зараз не магу.

– А нашто ж васпан жыве на свеце? – выгукнуў кушнер. – Я не дам адказу Богу за горла. Але жонку мне пан Бог даў гэткую скнару, гэткую ведзьму, што ўсё, што я зараблю, у мяне забірае; нават на кірмашы падвесяліцца няма як.

– Няма чаго скардзіцца, браце, – супакоіў яго пан Падстоліц, – больш у кішэні застанецца.

– Вось добра! – закрычаў мешчанін. – Што ж пра мяне людзі скажуць, калі ніколі мяне вясёлым не бачаць? Пакуль быў у мяне яшчэ тут швагер, дык, не зважаючы на жонку, і я быў, як людзі, але цяпер, калі мой швагер з мясніка ў вялікія людзі выбіўся, цяпер няма з кім; бо хто раз пачастуе, таго трэба таксама.

– Як гэта ў вялікія людзі швагер васпана выбіўся? – перапыніў яго пан Падстоліц.

– Ці ж, васпан, не ведаеш? – адказаў мешчанін. – Відаць, мусіш быць здалёк. Гэта ж ягоны сын Марцін скончыў школы і стаў адвакатам, а цяпер узяў бацьку ў арэнду фальварак.

– Вельмі добра ён зрабіў, – пахваліў пан Падстоліц.

– Дзе там добра! – запярэчыў мешчанін. – Што ж ён цяпер ма́е на арэндзе? Нават дзясятае часткі таго, што меў, калі быў мясніком. Можа, нават і траціць. А ўжо каб прыяцеляў пачаставаць, дык і не пытайся.

– А чаму ж ён кінуў свой занятак?

– Ат! Бо сын не хацеў быць сынам мясніка. Як пачаў поўзаць у нагах у бацькі: “Загубіш мяне, татулька, калі не зробішся шляхціцам”, дык стары з літасці да сына ўвесь свой набытак дзеля амбіцыі спусціў: прадаў усё, што меў, і, хоць ніхто не спадзяваўся, даказаў сваё шляхецтва. Што тут васпан скажа? Зараз ён пан.

– Бо, можа, продкі ягоныя сапраўды былі са шляхты?

– Барані Божа! Людзі ж ведаюць. Спрадвеку яны былі мяснікамі. Але ў нас цяпер гэткая мода: дзеці да школ – шляхецтва на стол.

– А Радны?

– Ну, ён адзіны. О-хо-хо! Каб усе былі такія, дык і мяшчанін не дазволіў бы наступіць сабе на нагу. Але не, мой швагер адрокся і ад грошай, і ад прыяцеляў, абы толькі гонару дастаць. Але добра кажуць: навошта тыя тытулы, калі вецер у шкатуле. Стаў, пане, кварту гарэлачкі. Далібог, добрая, а то людзі косяцца, што мы не прамачыўшы горла гамонім.

– Зараз-зараз, – згадзіўся пан Падстоліц. – Скажы мне толькі, ці Радны і праўда добра зрабіў, што з гэткаю адукацыяй не кінуў кавальскую справу?

– А чаму ж не? Няхай цяпер які каваль зраўняецца з ім у працы. А скуль жа гэта? Рукі ж такія самыя.

– А ў іншых рамёствах ці прыдалася б навука?

– Прынамсі, ён гэта даводзіць, і, здаецца, што гэта праўда.

– А ў васпана ёсць дзеці?

– Маю двух сыноў, ходзяць у школу.

– Якім жа будуць займацца рамяством?

– Я хацеў вучыць іх рамяству, але гэта ўжо мой пляменнік-адвакат угаварыў, каб у школы аддаць.

– І шляхецтва на стол?

– У тым і бяда, – сказаў мешчанін, – што паперы няма за што выправіць. І цяжка, бо мой бацька з простых. Дык пойдуць у канцылярыю альбо на дактароў ва ўніверсітэт.

– А чаму ж не заняцца якім добрым рамяством? Можа, як Радны, мелі б пасля навукі поспех у справе і прыбытак?

– Ат, лепш з людзьмі, чым супраць людзей. Усе так робяць, каму хапае на выхаванне дзяцей, дык навошта ж мне іначай рабіць? Васпан нешта ўсё хоча супраць ветру падзьмуць. Іншыя весяляцца, а я васпану не прамачыўшы горла спяваю, аднак жа яшчэ кароль Саламон[32] сказаў: *спяваць дарма – баліць гардла*.

– Зараз пачастую васпана, – паабяцаў пан Падстоліц, – толькі скажы мне яшчэ: чаму ты, насамрэч, не хочаш, каб сыны заняліся рамяством ці гандлем? Бо, мне здаецца, што добры рамеснік альбо купец таксама можа быць шанаваны як жаўнер ці доктар, а ўжо прыбытку, пэўна, мае больш.

Мешчанін паківаў галавою:

– Гэта, хіба, за морам, маспане, але не ў нас. Якая ж у нас пашана рамесніку, а нават і купцу? Стой у дзвярах якога шляхцюка, не кажучы ўжо пра ўрадоўца. Прыбыткі, сапраўды, у некаторых рамёствах, якія яшчэ жыды не апанавалі, сякія-такія ёсць, але ва ўсіх іншых, куды тая моль ужо здолела ўбіцца, не засталося ані шарсцінкі для нашых братоў; а купецтва яны цалкам апанавалі. Дзе толькі прыбытак пачулі, дык адусюль нашых братоў павыціскалі.

– Не паддавацца, трымацца разам, як яны; тады яны будуць старацца лепш працаваць, каб апярэдзіць васпанаў, а васпаны, у сваю чаргу, каб апярэдзіць іх, і ўсе праз гэткую ўзмоцненую працу высока падымецеся.

– Няма ўжо сёння каму і руку падаць, – адказаў мешчанін. – Інакш было раней, калі нас было больш…

– А дзе ж той люд падзеўся?

– Дзе? Ат, як каму Бог даў. Багацейшыя шляхецтва давялі, маладыя ў вучоныя прафесіі падаліся, а з убогіх, калі хто на вёску не з'ехаў, дык у горадзе співаецца. Але больш, далібог, не буду гаманіць. Мусім з васпанам пазнаёміцца. Загадай, васпан, даць гарэлкі.

– Я не дапамагу, – сказаў пан Падстоліц. – Але, калі не загневаешся, буду васпана прасіць, каб сабе васпан загадаў даць.

– А за што ж тут гневацца? – азваўся, прымаючы грошы, мешчанін. – Наадварот, дзякую. Калі васпан не можаш, дык я і за васпана, і за сябе падыму.

Ён пацiснуў пану Падстоліцу руку і падаўся да стала.

Гармідар усё мацнеў, і музыкі ўжо было амаль не чутно. Крык, сваркі, дзівачныя скокі і хістанні да непрытомнасці п'яных рабілі ўсю гэтую зборню падобнаю на нейкі сойм злых духаў і ўражвалі сваёй агіднасцю людзей, непрызвычаеных да такога відовішча.

Увайшоў Марцін і паведаміў, што каляска гатовая.

– Хадзем, – запрасіў пан Падстоліц Уладзіслава. – Тут усё шчасце ў гарэлцы, адзіны азарт – п'янства. Пабачым, а што там сярод нашых братоў?

## Раздзел чацвёрты

# РЭДУТА

Pójdź, chodź moja miła,
Ty, ty, mnie zwalczyła;
Lecz ja ciebie zwalczę w tanie,
Sił w nożętach twych nie stanie.
Hej! daj nam skrzypaka!
Hej! graj nam Polaka!
To król tańców…
To poważny, uroczysty.

Jan Czeczot, *Piosnki*[33]

Увайшоўшы ў бальную залу, яны заўважылі, што дам было яшчэ няшмат і танцы яшчэ не пачаліся. Насустрач ім хупавым крокам кінуўся прыбраны, як лялька, Капітан. Варта было яму крыху страсянуць галавою, як вакол разыходзіўся пах бальзаму. Чмыхнуўшы пару разоў, ён падхапіў пана Падстоліца пад руку і таемна зашаптаў яму:

– Гэта ўсё вынікі *мрояв* нашых *дамав*, што да гэтага часу не маем *танцы*, бо кожная думае, што гэта закране яе *годнасці*, калі яна прыедзе з *першага* пачатку, і таму, не могучы раней пачаць *забавав*, *мусем* потым спаць колькі *хвіляв* даўжэй…

Заўважыўшы ў гэты момант, што ў залу ўваходзіць ужо немалады, але яшчэ толькі Ваяводзіч[34] з бацькоўскім ордэнам на стужцы праз плячо, ён паспяшаўся да яго са сваімі важнымі заўвагамі. Капітан падхапіў яго гэтаксама пад руку і, не звяртаючы ўвагі на ягоную незадаволенасць, якую Ваяводзіч, ідучы неяк бокам, відавочна яму дэманстраваў, пачаў шаптаць таму нешта ў вуха і рагатаць на ўсю залу.

– Што за пустагаловы нікчэмнік! – заўважыў пан Падстоліц. – Не разумею, як можна да гэткае ступені прыніжацца, каб адно толькі дзеля дэманстрацыі іншым свае фамільярнасці ў адносінах з уплывовымі асобамі трываць іх незадаволеныя міны, а часам і справядлівую пагарду.

Сядзем тут, пане Уладзіслаў. Васпан, як тутэйшы абывацель, мусіш быць знаёмы з гэтымі да́мамі. Гэткая раскоша іхніх убораў абуджае ў мяне жаданне даведацца, якога яны стану. Магчыма, гэта асобы з заможных дамоў і гаспадарлівыя, а можа, нават і кемлівыя. Бо не хацелася б мне думаць, што ўвесь гэты бляск толькі здабытак марнатраўства.

Скажы мне, хто гэта тая дама ў белым берэце, упрыгожаным рубінамі? Гэтулькі на ёй блондаў, газы і карункаў, што ўвесь яе празрысты ўбор можна ацаніць сама мала тысяч на дзесяць.

– Гэта пані Шамбляніха, – адказаў Уладзіслаў. – Жонка таго прэтэндэнта на маршалкоўства, пра якога мы сёння чулі. Рэдка гэтая дама паказваецца

сярод шляхты; яна прывыкла да сталіцы, дзе часцей за ўсё і знаходзіцца. Цяпер з’явілася на рэдуце, пэўна, каб схіліць на свой бок моладзь, і нават раней за іншых прыехала, каб выклікаць большую прыхільнасць сваёю ветлівасцю.

– У яе веку думаць яшчэ пра папулярнасць сярод моладзі! – не стрымаўся пан Падстоліц.

– А выбары! Выбары! – засмяяўся Уладзіслаў. – Пэўна, гэта для таго, каб састарэлы тытул шамбяляна перамяніць на маршалкоўскі, і, здаецца мне, фінансавы бок справы іграе тут важную ролю. Бо строі гэтае еймосці, ейнае раскошнае жыццё ў вялікім свеце, да якога яна прызвычаілася, як да паветра, ужо адзін раз з’елі ўвесь маёнтак яе мужа. Атрымаў ён потым спадчыну па дзядзьку, але чуваць, што ўжо і на яе эксдывізія падрыхтаваная.

– А хто ж гэтая дама, якая зараз уваходзіць? – запытаўся пан Падстоліц. – Мяркуючы па яе выглядзе, як мне падаецца, яна ашчадная гаспадыня. Яе атласная белая сукенка, пэўна, больш трывалая, чым газавыя, і больш прыгожая, а элегантны бірузовы пояс паказвае яе густ, які часта спадарожнічае парадку.

– Гэта пані Чашнічыха[35], – адказаў Уладзіслаў. – Яе муж слынны сваім парадкам і дабрабытам; сваю маладую жонку ён не пазбаўляе прыстойных забаваў і строяў, але першым пані Чашнічыха не прысвячае ўсё сваё жыццё да апошняе хвіліны, а ў другіх спалучае трываласць са зручнасцю і прыгажосцю. Шчаслівая яна ў сябе дома, кахае яе муж, не звяртае ўвагі на з’едлівасць зайздросных і легкадумных суседак, якія ўсё ж, хоць і міжвольна, але шануюць яе.

– А хто тыя дзве дамы? – працягваў распытваць пан Падстоліц. – Адна з іх увесь час апранае ды здымае пальчаткі, папраўляе валасы альбо пацеркі ды ўпотай пазірае на сваю руку, а другая голасна апавядае нешта, рагоча і трасе галавою так, што больш на казака падобная, чым на добра выхаваную даму.

– Абедзве яны панны, – адказаў Уладзіслаў. – Першая – дачка спраўніка[36], яна паказвае свае ручкі, бо, як бачыш, васпан дабрадзей, поўна ў яе пярсцёнкаў на пальцах, а рукі мае белыя, але яны робяцца яшчэ бялей, калі падняць іх угару. Другая – генеральская дачка. Але яе турэцкая сукенка здабытая не ў Турэччыне, а з бацькавае ашчаднасці, які служыў доўгі час палкоўнікам, і хоць без фундушу пайшоў на службу, але здолеў са свае пенсіі сабраць немалы маёнтак.

– Гэтыя панны ці не хворыя? – запытаўся пан Падстоліц. – Надта ж яны бледныя.

– Хіба, не, – адказаў Уладзіслаў. – Няраз я бачыў іх удзень не такімі бледнымі, а ўвечары яны робяцца гэткімі, як зараз. Сёння, аднак, яны перастараліся, здаецца, каб выглядаць цікавей у вялікім таварыстве. Бо сучасныя ж дамы, як васпану дабрадзею вядома, лічаць, што румянец, як знак добрага здароўя і вынік цяжкага жыцця, пасуе адным толькі прачкам.

– Я добра ведаю, – адказаў пан Падстоліц, – як далёка нашыя да́мы заходзяць у тым, каб адпавядаць модзе. Хто не трымаецца сярэдзіны, той без супынку то ў адну крайнасць упадае, то ў іншую. Даўней румяніліся і псавалі твар, бо румянец быў у модзе, а цяпер бледнасць з’яўляецца адзнакаю арыгінальнасці. Але каб яны толькі ведалі, якія думкі выклікае гэткая надзвычайная бледнасць, асабліва ў маладых асобаў, дык, можа, палічылі б за лепшае і падазрэнне ў цяжкім жыцці, і найменне прачак, і ўсё тое шчасце, якім адорвае

прырода, калі ўпрыгожвае сваімі лепшымі аздобамі: добрым здароўем і адзнакаю нявіннае душы – румянцам. Не адчуваюць такія дамы свайго абавязку перад грамадствам – унікаць залішняе распешчанасці дзеля здольнасці нараджаць для Айчыны здаровых і моцных грамадзянаў.

Калі не памыляюся, дык тая вось грамадка мусіць пацвердзіць выснову, што ў здаровым целе жыве здаровая душа. Натуральны румянец, яснае чало, бляск сціплых вачэй, нязмушаныя і поўныя грацыі рухі ды шляхетная прастата ўбору дазваляюць меркаваць, што гэта мусяць быць асобы, адораныя Небам, а з дапамогаю бацькоўскага выхавання – прыгожаю душою. Хто ж гэтыя дамы?

– Гэта пані Суддзіха са сваім дочкамі, – адказаў Уладзіслаў. – Гэту даму адны жартам, а большасць з-за пашаны празвалі пані Жанліс[37]. Яна прыклад добрых абывацелек. Сваіх дачок яна выхавала сама, а ў пахвалу ім можна сказаць ужо тое, што яны годна ідуць шляхам маці. Дом іх – святыня дабрачыннасці і прыстойнасці, суседзі гавораць пра іх з любасцю, а ўсе знаёмыя ставяць у прыклад.

– А хто ж тая высакародная асоба, што трымаецца з гэтак высока паднятым чолам? – запытаўся пан Падстоліц. – Тое, як ветліва яна вітае кожнага альбо аддае паклон, сведчыць, што нікога тут асабіста не ведае. Ларнетка яе лётае па тварах прысутных: ці гэта дзеля таго, каб здзівіць ніжэйшых і паказаць больш высокае становішча гэтае пані? Як шыкоўна яна апранута! Гэты белы шаль варты, прынамсі, тысячу чырвоных злотых. Хто гэтая дама?

– Гэта пані Кашталянічыха[38]. Муж яе даўно памёр; ён пакінуў жонцы аграмадны маёнтак; імосць карыстаецца ім, ні ў чым сабе не адмаўляючы: ваяжы, строі, балі – усё надзвычайнае раскошы. А тым часам палова сялянаў ужо пайшла жабраваць хлеб па ваколіцы і часта пад ілюмінаванымі дзвярыма падчас балю чуюцца іхнія енкі, што зліваюцца са спевам капэлы.

Кашталянічыха якраз наблізілася да Шамбяляніхі. Яны прывіталіся – два ганарыста-ветлівыя паклоны з усмешкаю на вуснах і кіпнем абурэння ў сэрцах. Шамбяляніха, каб давесці сваю ветлівасць, першая прыехала на вечар і села пасярод канапы, што стаяла на самым відным месцы ў зале. Кашталянічыха, каб надаць сабе значнасці, спазнілася і страціла першае месца. Шамбяляніха адчувала прэтэнзію Кашталянічыхі да старшынства, але лічачы сябе першаю дамаю, як наступная павятовая Маршаліха, дык не магла прынізіцца перад Кашталянічыхаю; а тая, у сваю чаргу, першая, дзякуючы шлюбу і паходжанню, спадзявалася на ўшанаванне з боку ўсёй грамады парафіянак.

Спатканне двух нябесных свяцілаў не можа адбыцца, каб не скаланулася ўся сонечная сістэма. Ледзьве Кашталянічыха, абышоўшы ўсю залу, упала на крэсла насупраць канапы, якую яна хацела мець сваім тронам на гэты вечар, пан Падстоліц разам з Уладзіславам, шпацыруючы па зале, якраз апынуліся за крэсламі дам і сталі сведкамі наступнае размовы:

Спраўнікавая дачка казала сваёй таварышцы:

– Сапраўды, *ma chère*[39], гэтая Кашталянічыха надзімаецца, як індык, а сама пустая, як гаманец Шамбяляніхі.

– Абедзве добрыя, – падхапіла генеральская дачка. – Зірні, якія локаны ў Кашталянічыхі! Божа! Мая пакаёўка б іх не насіла. Заўсёды чужое выглядае, як на пудзіле.

– А што за ручка! – дадала спраўнікавая дачка. – Нібы рыдлёўка; а бельмы – проста валовыя.

– Праўда, – згадзілася генералавая дачка. – Гэтак як і шыя ў тае драўлянае Шамбляніхі. Вось дзве павы: надзімаюцца адна перад адной; здаецца ім, што абедзве яны гэткія важныя фігуры. Мой бацька, прынамсі, мог быць генерал-губернатарам, каб толькі сам захацеў... Зірні-зірні! Вой, паміраю! Гэтая вашая Чашнічыха даб'е мяне сваім атласам. Ужо трэці раз бачу на ёй гэтую сукенку, а яна ўсё яшчэ белая. Відаць, хукае і дзьмухае на яе разам са сваім Чашнікам ланцкаронскім.

– Шкада, што яна такая скнара, – дадала спраўнікавая дачка. – А была б з яе добрая кабета. Але – без абгавору – я не бачыла больш нязноснае бабы. Ці паверыш, яна ўвесь час занятая гаспадарчымі клопатамі?

– Гэтак, як тая дурніца Бурмістроўна сваімі строямі, – падхапіла генеральская дачка. – Бачыш, як прыбралася! Што яна сабе думае? У краму, маспанства, у краму! Ведаеш, што і ад ейнае Падкамарыны заўсёды дзёгцем смярдзіць?

Яны зарагаталі, а пан Падстоліц з Уладзіславам перайшлі за крэсла Прэзідэнтшы.

– Шчыра кажучы, гэта цікавая з'ява, – казала яна сваёй суседцы. – Глянь толькі! Гэтая Кашталянічыха ў вёсцы нікога са шляхты ў сябе не прымае, а тут, каб перацягнуць ад Шамбляніхі прыхільнікаў, кожнаму з іх усміхнецца, кожнаму нешта прыемнае скажа. Глянь-глянь! Як яна вабіць да сябе Капітана, разглядаючы праз ларнетку яго шыкоўны ўбор. Вось і мае ўжо яго пры сабе! Ах! І мой муж да яе! Ну, цяпер няхай Шамблян сабе кланяецца: не быць яму Маршалкам.

– Але нашаму Маршалку, – падхапіла суседка, – нечаканая прыйшла дапамога. Кашталянічыха ўжо напэўна будзе за яго на гэтых выбарах, калі Шамблян не перапросіць яе за жонку. Але я сумняваюся, бо яна баба ганарыстая, як люцыфер, і злосная, як тыгр.

– Не лепшая і Шамбляніха. Нават, між намі, скажу табе, што яна яшчэ горшая, бо п'яніца і жахліва мучыць сваіх сялянаў.

– Не можа быць.

– Сама бачыла яе п'янаю. Вось каб варожасць гэтых баб ды пасварыла добра мужчын! Даўно ўжо не біліся на рэдуце. Чакай, мушу пад'юдзіць Шамбляніху. Папільнуй маю хустку, дарагая прыяцелька.

– З вялікаю ахвотаю, мая найдаражэйшая прыяцелька.

Устала Прэзідэнтша, з усмешачкаю падышла да Шамбляніхі і пачала нешта шаптаць ёй на вуха.

Тым часам ейная сардэчная сяброўка павярнулася да суседкі і сказала:

– Вось дык змяя гэтая Прэзідэнтша, пайшла яшчэ больш раздзімаць пажар. Зусім сапсуе нам забаву.

– Каб спрэчка перарасла ў працэс, – адказала суседка, – бо гэта для яе чысты прыбытак.

Пан Падстоліц з Уладзіславам спыніліся за Кларай, прыбранай, як у часопісе, якая казала сваёй сястры Падкамарыне:

– За такі шаль, як у Кашталянічыхі, я б жыцця не пашкадавала.

– Скажы Раднаму, што не пойдзеш за яго, пакуль ён табе такі самы шаль не купіць, – параіла Падкамарына.

– Не ведаеш ты яго, сястра. Гэта сапраўдны педант. Яму трэба, каб я жыла ў адпаведнасці са сваім станам. Я за яго і не пайшла б, каб быў хто лепшы. Зрэшты, бацька прымушае…

– Маніш, маё сэрца. Сама да яго цягнулася, пакуль не адчула смак у шалях.

– Добра табе насміхацца з мяне, як сама выйшла за Падкаморага.

– Чаго ты крыўдзішся? Пазаляцайся да Капітана.

– Ён жабрак.

– А Радны?

– Ат! Хопіць табе. Зірні, як Прэзідэнтша абдымаецца з Шамбялянiхаю. Вартыя адна аднае. Мой Радны іх трываць не можа; аднак жа яны маюць шалі і перлы: гэта ведзьмы…

– Цішэй, Клара, мужчыны за намі ходзяць: могуць пачуць.

– Маю іх на чатыры літары, калі аніводзін з іх на мяне не звяртае ўвагі. Гатова паспрачацца, што Шамбялянiха трэсне ад злосці, калі не яна будзе ў першай пары.

– Альбо ўцячэ, як летась з другое рэдуты ўцякла пані Канюшыха[40] з-за таго, што Маршаліха… але вось, нічога не атрымаецца: Шамбялян нацягвае пальчаткі і пазірае на Кашталянічыху, пэўна, хоча запрасіць яе на польскі, каб гэткім чынам застацца пад яе пратэкцыяй на выбарах.

– Вось, і з гэтага нічога не атрымаецца. Глянь! Капітан ад Кашталянічыхі бяжыць у буфет. Вось, вядзе Маршалка. Вось табе і маеш!

Маршалак з парога гукнуў музыкам: *вальс*! І падаў руку Кашталянічысе. Шамбялянiха збялела, як хустка, сама падала руку мужчыне, што стаяў побач, і яны з аднаго боку, а Кашталянічыха з Маршалкам – з другога, разам пачалі танец. Капітан пільнаваў каля дзвярэй, якія якраз адчыніліся і ўвайшла Харунжыха з Ідай. Як і абяцала, Іда падала руку Капітану і яны ўвайшлі ў кола. Уладзіслаў нахмурыўся, звёў бровы і прыкусіў вусны, але, калі заўважыў, што пан Падстоліц назірае за ім, адразу супакоіўся і запрасіў пана Падстоліца на вячэру ў буфет.

– Скажы мне, – запытаўся пан Падстоліц, – чаму тут не з польскага, паводле звычаю, а з вальса танцы пачынаюцца?

– У нас ужо некалькі гадоў новыя звычаі, – адказаў Уладзіслаў, – наш Маршалак – вялікі палітык.

– Дазволь жа перад тым, як пойдзем на вячэру, патанчыць яшчэ польскага.

Калі скончыўся вальс, пан Падстоліц падышоў да пані Суддзіхі і запрасіў яе на танец. Каб хто назіраў за панам Падстоліцам падчас таго танцу, дык мог бы заўважыць на яго твары і ва ўсёй постаці тыя пачуцці, якія былі ў ягонай душы ў гэтую хвіліну. Спачатку нейкае прыемнае расчуленне ўвільгатніла ягоныя вочы, апушчаныя ў дол, потым успаміны сталі праносіцца хутчэй, штораз іх рабілася ўсё больш; кожная змена мелодыі, здавалася, абуджала ў ім нейкія думкі, што плылі па хвалях лагоднае меланхоліі, і ён уздыхаў, але ціха, не балесна. Можа, ён вяртаўся ў думках на поле бітвы і ўспамінаў пра палеглых таварышаў зброі. Павольна ён падняў вочы ўгару, з усмешкаю захаплення, нібы на крылах гармоніі ўзносіўся да прыяцеляў, якія ў прамянях славы віталі яго думкі гукамі нябесных арфаў.

Але, калі ягоны погляд падаў на сабранае тут таварыства, усмешка гасла на ягоных вуснах, і з вачэй знікала весялосць; смутак азмрочваў яму твар.

З літасцю пазіраў ён на пыху і марнатраўства суайчыннікаў, што трапілі ў гэткую нядолю, але сіліліся ўдаваць раскошу. Чулыя гукі музыкі бралі яго за душу, і зноў у ёй абудзілася расчуленасць, салодкая меланхолія і ўспаміны.

Уладзіслаў танцаваў з Ідаю, якую запрасіў, апярэдзіўшы ўсіх. Ён моўчкі глядзеў у зямлю, і, здавалася, не меў адвагі падняць вочы на таварышку, якая была старанна прыбраная і ў той вечар выглядала прыгажэй, чым калі-небудзь. Маўчала таксама і Іда, аднак праз некалькіх кругоў яна адважылася прамовіць:

– Я пра ўсё ведаю, пане Уладзіслаў.

– Пра што, пані? – запытаўся Уладзіслаў і падняў на яе вочы, а яго нясмелы позірк сведчыў, што ён зразумеў ужо пра што ведала Іда і толькі жадаў гэтым пытаннем падтрымаць пачатую ўжо размову.

– Пасля таго, як васпанства паехала, – казала Іда, – прыбег Тадэвуш, бо спадзяваўся яшчэ паспець падзякаваць пану Уладзіславу за карову і пару вазоў сена. – І, хаваючы свае слёзы, дадала: – Няхай пан Уладзіслаў будзе ўпэўнены, што нішто гэтак не кранае, як шляхетная літасць да бліжняга ў нядолі. – Потым яна ціха дадала са схіленаю галавою: – О, чаму ж і я не магу быць іх суцяшальніцаю!

Уладзіслаў ужо не валодаў сабою. Можа, у тую хвіліну і сказаў бы ён тыя словы, якія, падобна, нарабілі б ім абодвум толькі шмат бедаў. Перакананы ў гэтым, ён заўсёды стрымліваўся, як толькі яны гатовыя былі сарвацца з вуснаў. Але ў тую хвіліну гэткая ўзаемная сімпатыя, здавалася, аб'ядноўвала іх такім цудоўным расчуленнем, што Уладзіслаў пад яго ўплывам гатовы быў ужо зрабіць прызнанне. На шчасце пан Падстоліц закончыў танец. Схамянуўся Уладзіслаў, пакланіўся Ідзе і, калі адыходзіў ад яе, сказаў:

– І я ўчора даведаўся, хто быў анёлам-суцяшальнікам Маланкі ў апошнія яе хвіліны.

Здзіўлена зірнула на яго Іда, але Уладзіслаў, якому прыгадаліся ў той момант усе перашкоды, адказаў ёй адно толькі балесным позіркам і, не маючы ўжо сілы знаходзіцца каля яе, адышоў да пана Падстоліца і паўтарыў сваё запрашэнне на вячэру.

Зусім іншая карціна паўстала перад іх вачыма. Адразу за дзвярыма другое залы карцёжнікі атачылі вялікі стол. Пан Гараднічы банкаваў у фараона[41], пан Саветнік[42] губернскае ўправы, пан Спраўнік земскі і паны асэсары ніжняга суду панітэравалі[43], а пан Страпчы[44] служыў за круп'е. Вялікія шклянкі пуншу дадавалі ім мужнасці і ўпартасці ў змаганні.

– Вось дзе, – сказаў пан Падстоліц, – гнездзіцца яшчэ шулерства. Што ж толку ад права, калі тыя, каму належыць яго пільнаваць, самі, уласным прыкладам, заахвочваюць да яго парушэння?

Далей, за малым столікам, на якім стаяла вялізная ваза пуншу, чырвоны ўжо, нібы півоня, пан Шамбялян са шклянкаю ў руцэ ціха шаптаў нешта ў вуха пану Падкамораму. Каля стала было яшчэ дзясяткі два мужчынаў, таксама са шклянкамі; адны з якіх падносілі шклянкі да полымя свечак, захапляючыся прыгожым колерам, іншыя крывіліся, калі выпівалі. О, як часы змяніліся! Ніхто не крычаў, ніхто не валяўся па падлозе: усе гучна абмяркоўвалі будучыя выбары. Мінаючы іх Уладзіслаў прадэкламаваў пану Падстоліцу:

З дзідамі ў руках рыцары стаялі
І пра прыгоды бітвы размаўлялі[45].

У другім канцы залы з гэткай жа самай вазы частаваў пан Маршалак. Кола шляхты тут сабралася значна большае, чым каля Шамбляна, хоць безупынку бяседнікі мяняліся месцам, пераходзячы ад аднаго стала да другога. Пан Харунжы *таксама якраз*, як мог, частаваў у кутку сваіх прыяцеляў. Дзясяткі два меншых колаў апаражнялі пляшкі розных кандыдатаў на тытулы харунжага, прэзідэнта, падсудка.

Пан Суддзя, наш знаёмы, частаваў табакаю і, па-сяброўску кожнага абдымаючы, прасіў пакласці шар пры выбарах прэзідэнта.

– Што за марнатраўцы! – звярнуўся ён ціха да Уладзіслава, якому заступіў дарогу. – Раскідваюць грошы Бог ведае дзеля чаго і, пэўна, адрываючы ад гаспадарскіх патрэбаў, ад падаткаў альбо працэсаў. І нават гэта кепскі прыклад, мой ягамосць. Нам варта было б з іх прыклад браць, а тут няма чаго і няма з каго. Бо навошта такія пасады, як падкаморы альбо харунжы, мой ягамосць? Вось каб, прынамсі, дапамагчы каму можна было, як, напрыклад, будучы прэзідэнтам, дык гэта іншая справа.

– Пэўна, пэўна! Да пабачэння, пане Суддзя.

Схапіў за руку Уладзіслава Суддзя і, трасучы галавою, з усмешкаю прамовіў:

– Можа, і ягамосць у наступны *triennium*[46] будзе мець нейкую патрэбу ў земскім судзе... Я паслужыў бы пану *toto corpore et animo*[47], *per fas nefas*, мой ягамосць; абы цяпер васпан дабрадзей, мой ягамосць, меў ласку быць са мною.

Ён абняў Уладзіслава і пазіраў на яго гэтак расчулена, нібы цешыўся, што бачыць любага сябра.

– Пагаворым пра гэта падчас выбараў, – адказаў, вызваляючыся з ягоных абдымкаў, Уладзіслаў.

Але Суддзя, жадаючы выкарыстаць момант, схапіў яго яшчэ за гузік і працягваў:

– Вельмі добра, мой ягамосць. Я ўпэўнены ў прыхільнасці васпана: дазваляеш лічыць сябе ў коле маіх сяброў. І прашу памятаць, што *per fas et nefas*... У мяне моцная партыя, – дадаў ён, нібы без асаблівага значэння. – Пан Шамбялян – блізкі крэўны зяця майго швагра, дык і мой кузэн – мае некалькі працэсаў у нашым земскім судзе; дык зацікаўлены мець там сваіх прыяцеляў; а ні на каго гэтак *anticipative*[48] спадзявацца не можа, як на мяне, бо я *per fas et nefas* буду яго падтрымліваць. Ці ягамосць будзеш за пана Шамбляна?

– Пагаворым пра гэта ў свой час.

– Вельмі добра, мой ягамосць; калі ласка, табака.

Абы ад яго адчапіцца, узяў Уладзіслаў табакі. Суддзя пакланіўся і, скоса ды праніклівa зірнуўшы, пайшоў агітаваць іншых. Заступіў яшчэ дарогу пану Падстоліцу Харунжы са схіленай галавою і шклянкаю ў руцэ, але не паспеў ён і слова сказаць, як пан Падстоліц з Уладзіславам пакланіліся яму і зніклі ў буфетнай. Месца сабе яны выбралі здаля ад гаманы, у найбольш цёмным кутку. Падалі ім вячэру. Толькі пачалі яны есці, як з гучным рогатам у пакой увайшла грамада добра ўжо падвяселеных асобаў, якія толькі што атачалі картачны стол.

Пан Гараднічы, як гаспадар горада і банку, загадаў даць сваім гасцям вячэру ў гэткім парадку: лікёр, катлеты на сем асобаў, шэсць бутэлек портэру, смажаніну, восем бутэлек старога венгерскага віна, крэм, дванаццаць бутэлек

шампанскага. Пакуль падавалі лікёр, катлеты і портэр, бяседнікі не заводзілі аніякае важнае гутаркі. Адно толькі дурныя жарты, якія рабіліся ўсё больш смелымі, вартымі людзей самага нізкага паходжання без аніякага выхавання. Цяжка было ў тое паверыць, бачачы на іх знакі іхніх пасадаў альбо заслуг; але іхнія ўласныя аповеды і асабліва размова, якая пачалася за венгерскім, калі затуманены ўжо розум страціў пільнасць, пацвярджала гэта.

– Ну, так таму і быць, Іван Парфімавіч, – казаў Страпчы Гараднічаму, смакуючы віно, – мне б да смерці такога віна не піць, каб не меў шчасця сюды трапіць. Праўда, тут сабачы край, кожны брэша, брэша, а ў лапу, толькі як прыціснеш, дасць. Ну, так таму і быць, ужо без следства засталося б толькі з голаду здыхаць. Калі Бог дасць добрае следства, ды загнеш кручок, дык ёсць і сала, ёсць і хлеб, ёсць і гарэлка з Ласкі Божае, і асігнацыя ў кішэні, дык і добра. А што чалавек сабе ў глотку ўлівае, дык ужо дзе там ён разбярэ ўсе назвы таго віна. Ха-ха-ха!

– *Ну*, дык лі ў горла, Кірыла Кузьміч, – адказаў Гараднічы, наліваючы яму шклянку. – Не ілгаў ты, што тут усю рыбу трэба кручкамі лавіць. З імі ўсё можна, толькі асцярожна. Я тут нарадзіўся, дасканала іх ведаю.

– Так, так, – з удаванай радасцю падхапіў Саветнік. – Вачыма фартэцыі не здабыць. Бог міласэрны. Абы толькі нажыцца тут, а іхнія віны – да д'ябла. І ў нас віна даволі. Ды навошта тое віно? Мая жонка гэткія наліўкі робіць, што на ўсім свеце не знойдзеш: каўтае іх чалавек, каўтае, як брагу, і заўсёды смачна. Ну, праўду кажучы, ёсць з чаго іх рабіць у нашай роднай старонцы: вішні, як яйкі, а такія салодкія, што цукар – нішто. Ну, праўду кажучы, не падману, калі скажу, што і агрэст, як грэцкія арэхі. А рыба? Божа мой! Мне штогод з Масквы купцы прывозяць гасцінца – некалькі вазоў асятрыны, бялугі, сёмгі, сцерлядзі. Цуд, а не рыба! Ну, Бог міласэрны. Праўду кажучы, і ў маім маёнтку, які купіў ля Прыпяці, калі ашукаў таго Маёра, якому збыў мой маёнтак ля Беразіны... Што я кажу: ашукаў?... Божа, змілуйся! Вось, набраўся віна, дык д'ябал ведае, што нясу... Ёсць у мяне на яго яшчэ адно сіло... Сказаў бы я вам, але і сцены маюць вушы... Барані Божа, дойдзе да якога жандара...

– Ха-ха-ха! – зарагатаў Спраўнік. – Ці ж мы пра тое не ведаем? Бачаць суседзі, хто на чым сядзіць, але крук круку вока не выдзеўбе. Усе мы цяпер маем маёнткі з Ласкі Божае, і гаспадарку, і конікаў, хоць, памятаеш, Іван Васільевіч, як сюды прыйшлі... Васпана пачцівы стары на царкоўнай службе мусіў выпрасіць у Бога благаславенства для васпана і для мяне, як для сына свайго дзяка.

– Сорам табе, Макар Сцяпанавіч, – перапыніў яго Саветнік, – прыгадваць даўняе ў той час, калі маем перад сабою новае. – І, наліўшы зноў шклянку венгерскага, ён працягваў: – Зірні, мой прыяцель, чаму гэтыя бурбалкі падымаюцца наверх і знікаюць у паветры?

– Не ведаю.

– Так, не ведаеш, бо ты не філосаф. А я ведаю. Вось уяві сабе, што гэтая шклянка віна – павет, верхні яго пласт – спраўнік, бо спраўнік – гэта сапраўдны начальнік павету (Спраўнік пакланіўся). А над усім гэтым – паветра, гэта значыць, душа свету. Ху! Бачыш? Вось, што значыць губернская ўправа, душа губерні. Вось бурбалкі выходзяць з павету да Спраўніка і знікаюць у паветры. Разумееш?

– Цяпер разумею.

– А чаму ж раней гэтак мала разумеў, прыяцель мой Макар Сцяпанавіч? Сяброўства – сяброўствам, а інтарэс – інтарэсам. Што з таго, што мы з табою за паўрубліка перапісвалі дакументы і ў лапу дабрадзеям цалавалі, пакуль не падняліся наверх, калі цяпер ты маеш прыбыткі, а сядзіш і нібы не ведаеш, што я мушу жыць у губернскім горадзе ды магу цябе пад суд аддаць. Час цяжкі, у вас кірмашы…

– Разумею, Іван Васільевіч. Я ўжо размаўляў з асобнымі купцамі, але ж я не адзін…

– Ну, так і быць, – падхапіў Страпчы, – і я з імі размаўляў, бо і Страпчы ж наверсе ў шклянцы, над ім – Пракурор, вось якая справа.

– Не ілжэш, Кірыла Кузьміч, – сказаў Саветнік. – Ты – вока царскае, павінны кругом зазірнуць…

– Ціха! Цяпер страшна пра гэта прыгадваць. Аднак паціху зазіраем, куды трэба.

– Ха-ха-ха! Вось і добра! І Іван Парфімавіч зазірае, куды трэба.

– Ну, дык і не дзіва, – падхапіў Гараднічы. – Я мушу пільнаваць, каб кантрабанды не прыводзілі на кірмаш, а жыць трэба. Але пасада шануе вышэйшыя пасады: як гаспадар горада, я не забываю пра госця; заўтра будуць купцы і ў вас, Іван Васільевіч. Крывяцца яны на гэта, але нічога. Усё можна, абы асцярожна. Чым больш яны крывяцца, тым больш мусяць даць. Жыды былі за мяжою… Мудрай галаве досыць слова. Няхай з пакупнікоў возьмуць тое, што выдаткавалі. І нам трэба жыць, Іван Васільевіч, і піць, праўда? Гэй! Шампанскага дванаццаць бутэлек!

– Гэта лішняе, – шапнуў яму на вуха Саветнік, – я ўжо сёння і так набраўся, а гэтаму быдлу шкода брагі. Загадай, лепш, мне занесці.

– Гэта нічога не каштуе, Іван Васільевіч. Кірмаш за ўсё заплаціць, будзе і вам, будзе і нам.

– Ну, ну, велікадушны ты, Іван Парфімавіч, – гучна сказаў Саветнік. – Бог міласэрны. Ну, праўду кажучы, наш Губернатар перашкаджае, але ён і сам ведае, што паветрам сыты не будзеш. А, зрэшты, і ён чалавек, не можа ўсяго чуць і бачыць. Бог міласэрны.

Вось, здаецца, хутка ён мусіць сюды прыехаць; дык, як ваш прыяцель, папярэджваю: будзьце разумныя, каб усё было добра. На дарогах я бачыў шмат сухіх бяроз, дык паўтыкаць там новыя, хоць і без каранёў, абы на ягоны прыезд добра выглядалі; дамы ў вашым мястэчку развальваюцца – няхай іх пабеляць ад вуліцы, а перад будынкамі павятовай управы, каб было свежым пясочкам пасыпана…

– *Да* ўжо, як я жыву, – перапыніў яго Гараднічы, – дык, пэўна, і сам Губернатар таго не мае, што я маю. У мяне штовечар – цэбар пуншу, Богам клянуся, цэбар…

– *Да* няпраўда, – спыніў яго Саветнік. – Я лепей жыву. У мяне мэбля, парцэляна, строі мае жонкі, экіпажы, дом – усё высокага тону, усё па-пецярбургску, а калі Губернатар да мяне прыязджае альбо хто-небудзь са сталіцы, ого! Знойдзе філіжанку мокко і рэестр маіх даўгоў на стале. Скуголю перад ім, што з павагі да пасады мушу жыць у раскошы, але ўсё – у крэдыт. Аднак жа, праўду кажучы, цяпер у нас цяжкія часы. О, як бывала, мы гулялі! Кіраўніцтва цяпер шалёна сочыць за намі. А тыя жандары, дык сапраўдная кара Божая! Няхай іх

д'яблы пабяруць, з іх… Божа змілуйся! Вось, хацеў праклінаць… Папсавалася нам гульня! Ну, Бог міласэрны. Што з воза ўпала, тое ўжо прапала; але не прападуць справы, не прападуць *кабакі*, падрады, пошты, месцы, староствы, спектаклі, рэкруты, перамяшчэнні войска, гандлёвыя кошты, побыт людзей без пашпарту ў вёсках і на мануфактурах; а Губернатар, калі не хоча даіць карову, дык няхай смокча кукіш.

Усе гучна зарагаталі, а Уладзіслаў звярнуўся да пана Падстоліца:

– Ці не баляць вушы ў васпана дабрадзея слухаць гэтую размову?

– І сэрца, – адказаў пан Падстоліц. – Але няхай тут дае раду кіраўніцтва, калі ў іх гэткія падначаленыя. Аднак мы не можам лічыць сябе невіноўнымі, што стараючыся толькі пра выбарныя пасады, пагарджаем тымі месцамі, ад якіх папраўдзе лёс краіны залежыць, на якіх маглі б быць найбольш карыснымі для суайчыннікаў і якія добраахвотна саступаем гэтакім вось людзям.

## Раздзел пяты

# ЖЫДОЎСКІ ПРОМЫСЕЛ

Siedzi niezbożnik na swojej zdradzie,
W ukrytym miejscu jako lew w jamie,
Przed nogą brata sidło swe kładzie,
Chytrze mu czyni i kłamie.

Stef. Wit., *Poezije biblijne*[49]

Не жадаючы ўжо вяртацца ў залу, дзе была рэдута, пан Падстоліц з Уладзіславам вышлі з буфету бакавымі дзвярыма з намерам прайсці да каляскі. Яны апынуліся ў цёмным калідоры, у канцы якога відаць былі адчыненыя на вуліцу дзверы, а з боку – малыя дзверцы з шырокаю шчылінаю, праз якую падала святло і чуўся голас, які казаў нешта па-жыдоўску.

Бо ў гэтай аўстэрыі, як звычайна ў літоўскіх мястэчках, падчас кірмашу толькі арандавалася вялікае памяшканне, як зала для рэдуты, а ў бакавых пакоях месціліся гаспадары.

Праходзячы каля гэтых няшчыльна зачыненых дзвярэй, Уладзіслаў нечакана затрымаў пана Падстоліца:

– Ці пан разумее іх намеччыну?

– Так, гэта іх гандаль, – адказаў пан Падстоліц, зазірнуўшы ў шчыліну.

Затрымаліся яны перад тымі дзверцамі і былі сведкамі наступнае размовы, якую для зручнасці чытачоў перакладзём на краёвую мову[50].

– О ты, дурная галава! Я цябе ніколі розуму не навучу! – казаў стары жыд дзесяцігадоваму хлопцу, які ўкленчыў каля мяхоў з мукою. – Вось так-так, лёгка заграбай, ну! Цяпер патроху, зверху, вышэй, ну! Сып, добра, пушком, пылком. Чым драбней будзеш сыпаць, тым менш увойдзе ў мерку.

– Ужо, здаецца, добра, калі з пяці гарцаў насыпаю шэсць з паловаю.

– Павінна быць сем з паловаю. А гэта па якому? Ах ты нязграбны адшчапенец Ізраіля! Вось табе! Вось табе! Лайдак! Два гады ўжо цябе вучу, а не навучу, як Рыфку, якая за год навучылася і мерацць і важыць!

– А калі заўпарцяцца і не захочуць на вагу купляць? – запытаўся, хліпаючы, бахур. – Кажуць, што ёсць закон, каб не меркамі, а на вагу...

– Што нам тыя законы! Першы закон: з гроша – два. На вагу – пясок, вапна, крэйда, вада. Шмат выйграюць на вагу! Праклятыя гоі са сваімі законамі.

– Тата! – азвалася старэйшае жыдзяня, падымаючы вочы ад фаліянту, над якім яно дасюль ківалася ў задуменні. – У *Эвэйдасоры*[51] выразна гаворыцца, што яны не маюць душы і што можна забіць хрысціяніна, як сабаку, які таксама не мае душы.

– Добра, дзіця маё. Вядома, забіць чалавека, гэта значыць, жыда, – вялікі грэх, бо ён мае душу, але іншыя народы, 71-ае веры, не маюць душы і з'яўляюцца д'ябламі.

– Тата, а каб хрысціянін стаў жыдам, дык ці будзе ў яго душа?

– А як жа?

– А калі ж яму Бог створыць тую душу?

– Вось, калі ты такія вучоныя пытанні задаеш, дык чытай гэтую кнігу рабіна Ёанэса[52], вось у раздзеле сёмым *Сенедрону*[53] знойдзеш яшчэ больш, чым у *Эвэйдасоры*; а потым дам табе *Шэм Мішмель,* і *Менорас гамуэр,* і *Трау Мэгіла,* і *Санхэдзім*[54]*,* і шмат іншых месцаў *Нябеснага Талмуду*[55], з якіх сам пераканаешся, што аніводзін паганец не мае душы і таму можна іх ашукваць і забіваць; а калі не можам іх знішчыць, забіваючы, як д'яблаў і непрыяцеляў нашае праўдзівае веры, дык мы павінны – гэта наш абавязак – ашукваць іх, шкодзіць ім, як непрыяцелям Божым, і ўсялякім спосабам прыспешваць іх згубу. Бо на тое Бог жыдоў і стварыў, каб яны сталі гаспадарамі ўсяго свету.

– Але як гэтыя гоі ў нашай спадчыне гаспадараць! – здзівілася тое самае жыдзяня. – Бо я сёння, калі насіў камбалу ў карчму Лейбы, дзе спынілася тое панства, у якіх наш Лейзер служыць, дык чуў ад таго паніча, які заўсёды ў таты просіць грошай, што ўжо ў Пецярбургу замышляюць павыганяць нашых з вёсак у гарады.

– Як гэта было?

– Як? Быў там Асэсар, і ён з тым панічом ціха размаўлялі і смяяліся абодва, а як мяне заўважылі, дык я зняў ярмолку, пакланіўся і запытаўся, ці не трэба ім камбалы; а той паніч сказаў: "Вось будзе вам камбала, як вас з вёскі ў горад усіх павыганяюць. Ужо пра гэта думаюць у Пецярбурзе". А я сказаў: "Ну, няхай думаюць".

– Гэта можа здарыцца, – сказаў, памаўчаўшы хвіліну, стары жыд і, праходжваючыся па пакою, дадаў: – Пабачым, якая ім будзе карысць. Хто ў іх купіць іхнія прадукты? Будуць вымушаныя прадаваць танней, прапарцыянальна нашым стратам, калі адбяруць у нас корчмы.

– А калі будуць трымаць цану?

– Гэтак, як да сёння, трымалі? Гэтага мы не баімся; наш *хаўрус* мацней за іх упартасць. Бо калі гэта толькі змова некалькіх паноў, дык тым горш для іх. Паклянёмся, што нічога ў іх не купім, хоць бы яны за бесцань аддавалі; халопаў іхніх у заробкі не возьмем; напішам на іх даносы; так ці іначай, а здолеем давесці да згубы і адпомсцім гоям, як гэта няраз ужо бывала. Але гэтае д'ябальскае племя ніколі розуму не набярэцца і ніколі нам шкодзіць не перастане, хоць і ведае, што кожны іх замах абернецца супраць іх саміх.

Слухайце, дзеці мае, асабліва ты, Ёсель. Мне ўжо, хіба, нядоўга жыць на свеце, адчуваю, што слабею, хутка магу пасунуцца пад зямлёю ў Іерусалім. Але пакуль не трапіў да айцоў, павінны я навучыць вас. Няма сумневу, што Месія ўжо блізка. Талмуд кажа, што перад ягоным прыходам будзе вялікі пераслед жыдоў; але дадае, што той самы пераслед абернецца нам на карысць. Слухайце ўважліва: найбольшае ліха, ад якога доўгі час мы бараніліся павыдзіранымі ў гояў грашыма, цяпер ужо на нас абрынулася альбо вісіць над нашаю галавою. Грошы ўжо наверсе не дапамагаюць. У рэкруты ўжо бяруць сыноў Ізраіля! Ай-вэй! Ай-вэй![56] Бяда гэта, але няхай нас суцяшае, што будзем мець умелых жаўнераў да прыходу Месіі. Можа, нас і з вёсак павыганяюць. Ды не будзем засмучацца, бо гоі самі на гэтым страцяць. Ёсць у нас капіталы, пойдзем на барацьбу з земляробствам, як даўней ішлі з гандлем. Пакажыце

мне цяпер хоць аднаго купца-хрысціяніна, якога б мы не перамаглі, не давялі да банкруцтва. Тое самае будзе і з земляробствам. Калі змовімся паміж сабою і дадзім клятву, паробім запасы толькі на палову году, дык будуць яны вымушаныя за столькі прадаваць свае прадукты, за колькі мы прызначым. О! Нам асабліва трэба пільнавацца, каб спажывецкі гандаль быў у нашых руках. Барані Божа, які гой за яго возьмецца, адразу ж усім кагалам трэба яго атачыць і абавязкова давесці да галечы. Бо дзякуючы гандалю, можам мы панаваць над гэтым краем.

Просты люд увесь ў нашых руках, яны слепа нам вераць. Пакуль мы будзем уводзіць ім у вушы, што паны ўсе прыроджаныя тыраны ды непрыяцелі ўласных сялян, да таго часу будзем мы мець над імі верх. А гэта важна на ўсялякі выпадак. Пры неабходнасці па гуку аднае трубы з канца ў канец па ўсім краі можам абрынуць іх на галовы нашых ворагаў. Нашая змова будзе без здрады. Месія ў іх саміх мае зброю на іхнюю згубу...

– Тата! А калі нас перад прыходам Месіі выганяць з краю, як пра гэта гавораць ужо некалькі гадоў?

– Не палохайцеся. Так укараніліся мы ў гэтую зямлю, што, хіба, разам з ёю здолеюць нас вырваць. Рухомыя капіталы ўсе ў нашых руках; у гарадах адны мы жывём, усе прыбытковыя рамёствы, увесь гандаль, а нават і ўсе прыбыткі земляробаў – наша ўласнасць. Што ж бы было, каб нас выгналі? Хто б купіў іхнія прадукты? Дзе б узялі грошай на падаткі? О! Мы добра ведаем тут сваю сілу. І так мусіць быць, бо мы – гаспадары зямлі. Яны на нас працуюць. Нездарма гэта нам *Шэм Мішмель* раіць. Вы ведаеце, што паводле кнігі *Гігэ* ў дзень ваій[57] мы носім 12 вербных галінак на знак 12 кален ізраільскіх, якія заглушаць і перамогуць усе іншыя народы, як вярба заглушае і перамагае ўсе іншыя расліны, якія каля яе растуць. У гэтым краі ўжо нядоўга нам гэтага чакаць.

– Тата! Чаму ж, калі мы гэтакія магутныя, не пастараемся, каб нас менш абдзіралі. А то кожнаму мусім заплаціць.

– І што ж мы на гэтым трацім? Ці ж мы дарма даём грошы? Вяртаем іх з лішкам, дадаючы да кошту тавараў: за кожным *выдэркафам*[58] – грош *выдэркафовы*. За корчмы, напрыклад, плацім даражэй за іх вартасць, без параўнання больш, чым паны маглі б мець ад шынка ў гэтых жа корчмах; але затое сялянаў доім, як хочам, і на прадукты земляробства зніжаем кошты, як хочам. Усё гэта паводле *хаўрусу*. Бяда таму, хто не паслухаецца распараджэнняў кагалу.

– Шкада, што нам забаронена зямлю купляць.

– А ці мала яе ў нашых руках пад імёнамі паноў? Што з таго, калі забаронена? Ці на забароны няма рады? Забаронена трымаць слугаў хрысціян, а ў якога жыда іх няма? Калі да гэтага часу зямлі мы не апанавалі, дык не іхнія законы, а наш інтарэс гэтаму прычына. Нам не выпадае самім араць і сеяць, а яны і зараз для нас і аруць, і сеюць, калі гандаль спажывецкі пад панаваннем нашага хаўрусу. Не варта звяртаць увагі на тытул уласніка зямлі, калі насамрэч мы яе ўласнікі. Колькі ж тых паноў, што нам не завінаваціліся? Усе іх прыбыткі праходзяць праз нашыя рукі, дык мы ёсць сапраўднымі гаспадарамі гэтае зямлі, а яны ўсе – нашыя падданыя са сваімі тытуламі.

– Тата! А каб паны самі ўзяліся за гандаль?

– Як гэта? Усе? О! Тады Бог ведае, што было б. Але дзе ж паміж імі адзінства? А паасобку няхай сабе і адважыцца каторы. Спрабаваў ужо не адзін з іх. Без нас не абыдзецца. Мы ўсюды зможам убіцца. Факторства[59], парады, таварыствы, падступнасць, упартасць і наш моцны хаўрус – вось нашы надзейныя памочнікі. Калі нават каму і дазваляем мы нечым гандляваць, дык, пэўна, з ягонага капіталу больш маем карысці, чым сам ула... Гершка! Ах ты нягодны хлопец! Вось табе, вось табе! Лотр! Ці гэтым гарцам загадваў я мераць табе на грошы? Гэта ж паліцэйскі. А гэты прадажны. Калі купляеш – вось той. А ты, Ёсель, ці прыгатаваў тую бочку гарэлкі?

– Як ты загадаў, тата; трацiну вады дадаў.

– Для тых, хто на падпітку, і гэтага мала; абы толькі быў лік. Няхай сабе сочаць за крэйдаю. А пачкі з тытунём?

– Як раз па палове бакуну[60] падасыпаў і запячатаў, як было.

– Добра. Вакштаф[61] прададзім нашым і без гербаў. Памятай, каб соль была вільготная і з пяском; каменьчыкаў белых больш падсыпаць; бязмен і вагі прадажныя яшчэ трохі сальвасэрам[62] памазаць; кагал пастанавіў два лоты з фунту адняць, бо з'ехаліся крукі з чырвонымі шыямі; не абыдзецца без добрае падмазкі. А дзе вымачаная гарбата?

– Ужо змешаная, – хрыпла азвалася старая жыдоўка, – і запакаваная ў фунты. Я сама ўпарадкавала ўсе тавары. Але ты кладзіся ўжо, Моўша. Бо гэты кірмаш з ягонымі клопатамі дарэшты зруйнуе тваё здароўе.

– Ох, дзеці! – казаў з яшчэ большым запалам Моўша. – Нішчыце, кляніце, ашуквайце гэтых праклятых гояў! Не трывожцеся тым, што яны нібы толькі і думаюць, каб наш гандаль заціснуць, каб вынайсці новы перaслед. Яны гэта робяць, бо ведаюць, што будуць мець з гэта грошы. Вельмі добра, будзем даваць грошы на іх згубу. Гэта барыш ў іншым выглядзе. О, дзеці! Заўсёды слухайцеся кагалу. Толькі ў гэтым адзіная наша моц і перавага. Аднадумства ў сродках апанавання ўсімі прыбыткамі, вернасць кагальнай клятве і сакрэтам, узаемадапамога з ахвяраваннем часовае карысці, якая будзе ў сто разоў большая пры агульных высілках, дабро ізраільскага люду, згуба хрысціянаў усялякімі спосабамі – няхай гэта будзе заўсёды мэтаю вашага жыцця і правіламі паводзінаў. Прыход Месіі і панаванне над светам узнагародзяць нам цяперашняе прыніжэнне і знявагу.

А перадусім, ніколі не дазваляйце сабе аддаліцца ад нябеснае навукі Талмуду. Пагражае нам гэта, бо ўрад гояў у шмат якіх краінах, адабраўшы Талмуд, хоча прыгасіць у нас нашую нянавісць да гэтых разбэшчаных паганцаў, сярод якіх мы жывём. Паклёпнічаюць на Талмуд і перад намі, стараючыся, каб нам ён абрыдзеў. Бязбожнікі! Праклятыя! Смяюцца ў паняверцы з гэтае божае кнігі, па якой сам Аданáй[63], паводле сведчання *Сухэс*, пасля стварэння свету тры гадзіны вучыўся і, не зразумеўшы, пасылаў па рабінаў, каб яму растлумачылі.

Накрыйце галовы і прамаўляйце за мною штодзённую малітву з Талмуду: “Паганым хрысціянам няхай не будзе аніякае надзеі на дабро, і паганыя хрысціяне няхай усе вокамгненна згінуць, як і ўсе ворагі народу ізраільскага. О, Божа! Няхай яны прападуць і будуць знішчаныя. Няхай гэта хутчэй станецца”.

## Раздзел шосты

# УСПАМОГІ

Któż wam za to zapłaci? Niebo wam zapłaci.
... Jakiż to słodki pokarm dobroczynnej duszy!
Oto biedne igrzyska burzliwej katuszy
Waszą cnotą wyrwane z nocy zatracenia.
... Tak, błogo owej duszy, która biedę wsparła;
Śmiało przed Bogiem powie: i jam łzę otarła.

Al. Chodźko, *Przypomnienia*[64]

Як толькі назаўтра пан Падстоліц устаў, дык увайшоў Тадэвуш і адразу кінуўся ў ногі Уладзіславу.

– Бог узнагародзіць пана! – з енкам выгукнуў селянін. – Кацярына мая плача ад радасці і ўдзячнасці, што пан выбавіў нашых дзяцей ад галоднае смерці.

– Нічога для вас я не зрабіў, мой браце, – сказаў Уладзіслаў, – падымаючы Тадэвуша, – нічога для вас я не зрабіў.

Чырвань, што выступіла на твары, і хуткія позіркі ў бок пана Падстоліца паказвалі, што ён не хоча, каб той даведаўся. Тадэвуш запярэчыў:

– Ах, пане! Што за свет стаў! І дабро робячы, людзі няпраўду кажуць! Учора ж з панскага двара...

– Ну, годзе! – спыніў яго Уладзіслаў. – Годзе, мой браце, ты нешта, хіба, сасніў. Хадзем у сенцы.

– ... карову нам прывялі і пару вазоў сена, – скончыў Тадэвуш, выходзячы за ім.

– Пане Уладзіслаў! – загукаў пан Падстоліц. – Пасля апошніх слоў Тадэвуша можаш ужо не рабіць сакрэту.

– Але Мосці Падстоліц, – сказаў зачырванелы Уладзіслаў, – з гэтага можна зрабіць іншую выснову, чым тое, што ёсць насамрэч.

– Пачцівы хлопча! – звярнуўся да яго пан Падстоліц, абдымаючы. – Міла мне бачыць у сыне майго прыяцеля гэтакае добрае сэрца. Гэты шляхетны чын ты ўпрыгожыў сваёй сціпласцю, тым больш каштоўнаю, што не задуманая яна загадзя. Ты цяпер адчуваеш, бясспрэчна, задавальненне ў тысячу разоў большае, чым кошт твае ахвяры, але не разумееш, якую прыхільнасць выклікаў ты ў маім сэрцы. Не памылюся, калі скажу, што яна яшчэ большая за ўдзячнасць гэтых людзей.

Дык ведай, Уладзіслаў, што і дабрачыннасць патрабуе немалога ўмельства. Просты дар добрага сэрца – гэта, напэўна ж, прыгожы чын, але ён можа стаць дасканалым, калі сваім учынкам зробім мы нешта большае, чым выбаўленне з часовае нястачы. Не заўсёды гэта атрымліваецца, бо ўспамога жабрака часта мусіць быць абмежаваная тым, каб дапамагчы яму ў патрэбе; але

ўспамога чалавека працавітага, якім з’яўляецца селянін, можа быць больш грунтоўнаю, калі гэтаю падтрымкай мы прымусім яго адчуць уласную сілу, жаданне працаваць і тым самым прымусім да таго, каб выбавіцца з нядолі.

Шмат хто з уласнікаў успамагае сваіх сялянаў; але іх падтрымка, падобная на тваю, аднаразовая, і не прызначаная да таго, каб прыносіць карысць у будучым, дык яна знікае разам са спажытаю дапамогаю; і ад тае шчодрасці ўласніка, няўмела ўжытае, памяншаюцца іхнія прыбыткі, часам нават прападаюць фундушы, а ніякае сапраўднае карысці для сялянаў ад гэтага няма. Нават з таго пункту гледжання, што прызвычайваюцца яны да панскае дапамогі без прыкладання ўласных сіл і заахвочваюцца да нядбальства, якое моцна шкодзіць.

Нават не спадзеючыся, што здарыцца нагода выказаць табе свае думкі наконт гэтага, я падрыхтаваў адпаведны прыклад. Падыдзі, Тадэвуш, да вакна. Бачыш тую карову і таго коніка? Падабаюцца яны табе?

– Здаецца, добрыя, – адказаў Тадэвуш абыякава і паглядзеў на пана Падстоліца.

– Што б ты мне даў за іх, каб я захацеў табе іх прадаць?

– У мяне няма грошай, дабрадзею.

– Ведаю, што няма, але ты можаш іх мець.

– Хто мне дасць, дабрадзею?

– Я сам, але за пэўную работу.

– Не магу я згадзіцца на работу, бо паншчына ў нас цяжкая, а трэба ж і дроў у хату прывезці, і збожжа на хлеб змалаціць…

– Што да гаспадаркі, – спыніў яго пан Падстоліц, – дык на гэтую ўсю работу будзе ў цябе больш вольнага часу, а замест паншчыны будзеш на мяне працаваць, бо я тваю паншчыну выкупіў на паўгода ў пана Харунжага.

Адступіў крыху Тадэвуш, пакланіўся нізка і сказаў:

– Калі ягамосць стаў маім панам, дык я мушу рабіць тое, што пан загадае.

– Не, Тадэвуш, – запярэчыў пан Падстоліц, – я не жадаю тваёй работы задарам; нават цябе зусім вызваляю ад працы. Пільнуй толькі сваю гаспадарку і хату, малаці сваё збожжа, а ў вольны час можаш наймацца да суседзяў. Твае рукі занадта грубыя для тае работы, якая мне патрэбная і дзеля якое я тваю паншчыну выкупіў. Бачыў ты Андрэя?

– Бачыў, пане, – выгукнуў радасна Тадэвуш. – Каб ягамосцю паглядзеў, як смешна: дзве шпулькі – сапраўднае дзіва. Слуга ягамосця навучыў яго за вечар і за сённяшні ранак.

– Вось якраз гэтая работа мне і трэба. Я загадаў Марціну, каб купіў калаўрот, аддаў перарабіць яго на дзве шпулі і навучыў працы твайго сына[III]. Возьмеш яго да сябе ў хату. Няхай Кацярына таксама вучыцца працы гэтакім спосабам. За два тыдні яны ўдваіх падвучацца. Я загадаў купіць дзесяць каменяў[65] ільну. Забярэш і гэта дадому. Да таго ж тры калаўроты, перароблены на дзве шпулі кожны: адзін – для Кацярыны, другі – для Андрэя, а трэці – для твайго пляменніка, які таксама будзе вучыцца працы. Дзіця здольнае, хутка навучыцца.

На гэтых калаўротах няхай прадуць усю зіму. Утраіх, на падвойных, лёгка спрадуць за дзень шэсць талек. За тальку-шасцідзясятку, такую тонкую, каб на фунт ішло талек шэсць, заплачу вам па дзесяць грошаў. Лён добры, тонкае

кудзелі будзе, пэўна, палова. Пачоскі адступлю Кацярыне за пачасанне. Дык з паловы, ці з пяці каменяў, павінна быць 20 штук талек, а за штуку заплачу вам 20 злотых, дык за 20 штук – чатырыста злотых.

Гэтая карова, якую я загадаў учора купіць для цябе, бо не ведаў яшчэ, што ты ўжо адну маеш, і гэты конь каштуюць сто злотых. Конь – 60, карова – 40. Калі хочаш узяць каня і карову, дык агледзь іх і можаш браць на рахунак тае платы, што я вам за прадзіва буду вінны. Яшчэ з тае платы я адніму тое, што аддаў за тваю зімовую паншчыну, гэта значыць, – сто злотых. І вось за шэсць месяцаў прадзення заробіш каня, карову, 200 злотых і будзеш мець вольны час, каб зарабіць на сена для быдла. Згода?

Хацеў упасці яму ў ногі Тадэвуш, але пан Падстоліц не дапусціў гэта і сказаў:

– Слухай, браце, яшчэ адна ўмова: каб аніводнага разу не зайшоў ты да Абрама і каб яго да сябе не пускаў. Калі табе неабходная будзе гарэлка, дык няхай Кацярына прынясе і не дае табе больш за адзін кілішак на дзень. Ці будзеш яе слухацца?

– Буду, пане. Усё будзе, як ягамосць загадвае. Ягамосць збаўца мой. З такім панам, я адчуваю, можна быць пачцівым чалавекам і мець кавалак хлеба. О, як жа мая Кацярына будзе радая! Яна так любіць прасці! А на гэтакім калаўроце, як кажа слуга ягамосця, чатыры талькі за дзень можна напрасці. Я і сам буду шчыра працаваць, а тое, што зараблю, адразу ж пушчу на сена. Ах, мой збаўца! Не буду піць. Гэты Абрам больш, чым наш пан, загубіў нас. Але чым жа я ягамосцю аддзячу? Адразу ж з тых двухсот злотых, якія ад пана атрымаю, заплачу падатак, а за рэшту куплю пчол і ўвосень прывязу ягамосцю мёду.

– Добра, мой Тадэвуш, буду цябе чакаць. А зараз забірай тое, што ў мяне купіў, і едзь дадому. А каб заплаціць Абраму доўг і каб справіць Кацярыне сярмягу, вось табе 40 злотых у лік тых двухсот. Дык буду табе павінны ўжо толькі 160. Любімся, як браты, а лічымся, як жыды. Ці праўда, мой Тадэвуш?

– Мой ягамосць, дазволь ягамосць ногі табе пацалаваць, – казаў, заліваючыся слязьмі, Тадэвуш. – Чым жа я змагу аддзячыць ягамосцю?

– Слухай, мой браце. Ты ў адносінах да свайго дастатку больш мне даў, калі даў сена каню і бульбу на стол, чым я б табе даў, каб нават падараваў табе ўсё гэта, што ты ад мяне сёння бярэш. Аднак жа ты не дазволіў бы, каб я табе рукі цалаваў, а тым больш ногі. За што ж мне дазваляць, каб ты гэтак нізка мне дзякаваў, калі нават нічога дарам табе не даю, а за ўсё ты заплаціш мне працаю ўласных рук. За тое ж, што вы мне далі, я застаюся да часу вашым даўжнікам, так, як вы, да часу маімі. Будзь здаровы, Тадэвуш. Кланяйся ад мяне жонцы. Для дзяцей Марцін прыгатаваў ад мяне гасцінцы, і благаславі іх за мяне.

Калі Тадэвуш пайшоў, пан Падстоліц звярнуўся да Уладзіслава і сказаў з усмешкаю:

– Што ж, пане Уладзіслаў? Хто з нас дваіх умее лепей даць? Васпан даў карову ды два вазы сена і страціў іх незваротна. Такія дары можна рабіць вельмі рэдка, бо нават багатыра яны давядуць да галечы. Я даў больш, чым васпан, аднак жа нічога не страціў, а толькі пазычыў. Пазыка тая, праўда, можа загінуць, калі мой даўжнік памрэ альбо здарыцца нейкі іншы выпадак, але здараецца, што і грошы, дадзеныя пад заклад, гінуць. Але я больш упэўнены ў сваіх грашах, чым калі даваў бы іх пад заклад. Больш за тое, калі яны будуць вернутыя, дык змогуць падобным чынам дапамагчы яшчэ некаму, не

руйнуючы майго фундушу. Каб уласнікі навучыліся гэтак успамагаць сваіх сялянаў, дык хутка і іх лёс, і лёс усяго краю палепшыўся б. Адчуваеш, васпан, задавальненне, бо паслухаўся голасу чалавекалюбства, а мне прыемна, што я выбавіў з нэндзы, можа, нават назаўсёды, цэлую сям'ю, бо варта ім адчуць ахвоту да працы і рамесніцтва, як пазбудуцца яны заганаў, якія ператваралі іх у жабракоў, і будуць мець дастатак. Нашы пачуцці падобныя, але тая акалічнасць, што чалавек робіць нешта істотнае і дае краю добрага грамадзяніна, шмат прыемнасці дадае гэткаму менавіта спосабу дапамогі.

Падалі каву, а калі яе выпілі, пан Падстоліц прапанаваў выйсці на рынак, куды загадаў вывесці сваіх коней і тавары. Уночы быў мароз, які скаваў местачковую гразь, і рынкавая плошча стала цвёрдая і гладкая, дык зручна стала падыходзіць да крамаў і аглядаць коней, выстаўленых на продаж. Прывялі коней пана Падстоліца. Рослыя, жвавыя, з выгнутымі каркамі, добра аб'езджаныя і рахманыя, – усё сведчыла пра іх шляхетны радавод. Вялікі натоўп сабраў вакол сябе гэты прыгожы табун.

Як толькі коні сталі на вызначаным месцы, дык з усіх бакоў пачалі збягацца контрагенты; кожны хацеў апярэдзіць іншага. Афіцэры з розных палкоў з непакоем назіралі за гэтым тлумам ахвотнікаў. Нікому і ў галаву не прыходзіла, паводле звычаю, ганіць іх. Пачаўся бойкі гандаль, кошт павялічваўся. Афіцэры, якія з жарсцю таргаваліся, называлі ўжо цану большую, чым намерваўся ўзяць сам пан Падстоліц. Быў гэта, насамрэч, продаж таму, хто больш дасць, а не звычайны торг пра зніжэнне кошту. Гэта прывілей добрага тавару.

Калі ўсцешаныя набыццём гэтакіх цудоўных коней пакупнікі збіраліся ўжо іх забраць, паказаўся ў натоўпе цікаўных знаёмы ўжо нам аканом пана Харунжага. Сядзеў ён на кані, быў у канфедэратцы, з бізуном пад пахаю і, заўважыўшы пана Падстоліца, праціснуўся да яго з віншаваннямі гэткага ўдалага гандлю.

– Я таксама, – сказаў ён, – прадаў свайго гнядога. Выгандляваў за яго вось гэтага інаходца, якога збіраюся таксама прадаць.

– Колькі ж пан прасіў за свайго гнядога? – запытаўся пан Падстоліц.

– Трыста злотых; інаходца гэтага ўзяў за дзвесце, а сто маю ў кішэні.

– Дык прадаў, васпан, свайго каня за сто злотых і ў прыдатак узяў конскае пахаванне.

– Чаму ж гэта? – закрычаў, саскокваючы з каня, устрывожаны аканом. – Не можа гэтага быць.

– Зірні, васпан, – сказаў пан Падстоліц, – інаходзец мае дыхавіцу[66]; утаілі яе на момант, каб пазбыцца гэтага каня. Ашукалі цябе.

– О, бедны я, бедны! Далібог, дыхавіца! – закрычаў аканом, хапаючыся за галаву. – Каб яму Бог не памятаў мае крыўды! Але ж цыган сапраўдны з таго пана, што мяне ашукаў! Адразу мне падалося, што нешта не так, бо я заўважыў, што ён, як толькі выдурыў майго гнядога, зараз жа выехаў з горада. О, бедны я, бедны! Што ж цяпер рабіць?! Гэта ж усё, што я маю; гэта ж увесь мой заробак за столькі гадоў службы без юргельту, якога я ніколі не ўбачу.

– Супакойся, пане аканоме. Калі ты прадаў каня нейкаму абывацелю, яго можна будзе знайсці.

– Але я не ведаю таго пана, і ў гасподзе не мог дапытацца ягонага прозвішча! – крычаў у роспачы аканом. – Забараніў ён слугам казаць, хто такі.

А здаваўся мне багатым і пачцівым, і гэтак па-цыганску ашукаў! Што ж цяпер рабіць без грошай?! Чым я заплачу ў школах за майго Стася?! Якраз на 150 злотых дамовіўся – за стол, за кватэру і дарэктара; а яшчэ ж мундзір, а яшчэ ж кніжкі! Будзе цяпер, небарака, гараваць дома. О, бедны я, бедны! О, бедны я, бедны! – крычаў ён, ледзь не выдзіраючы сабе валасы.

– Пане аканом, – сказаў яму, адводзячы ў бок, пан Падстоліц, – прадай мне, васпан, гэтага каня за 200 злотых.

– Што гэта, пан, ты кажаш? – здзівіўся аканом. – Навошта пану конь гэты здаўся?

– Прашу цішэй. Калі васпан згаджаешся, дык вось – 200 злотых. Аддавай сына ў школы. Я патрабую толькі ад пана, каб васпан нікому пра гэта ані слова не казаў.

– Разумею, – прамовіў усміхаючыся і прымаючы грошы аканом. – Пан умееш хаваць дыхавіцу і хочаш гэтага каня даражэй збыць. Праўда, каб не тая дыхавіца, дык конік нішто сабе, і трыста злотых мала.

– Гэта не так. Гэтак зарабляюць толькі подлыя людзі. Мне неабходна выканаць пэўны вопыт з дыхавіцаю, і таму я прашу васпана гэта зрабіць. Спачатку выведзеш гэтага каня за горад, потым загадаеш застрэліць яго ў зацішным месцы і закапаць разам са скураю глыбока пад зямлю, а тое месца пазначыш дзеля далейшага вопыту. Прысягаеш мне, васпан, што ўсё зробіш?

– Ахвотна, – адказаў здзіўлены аканом. – Гэта цяпер панскі конь. Цяпер я ўжо бачу, што пан зрабіў мне ласку і хоча яе ўтаіць перада мною. Сардэчна дзякую пану і дар прымаю, бо пойдзе ён на добрую справу, на навуку майго адзінага сына. Няхай пан Бог благаславіць пана і нашчадкаў ягоных. Буду прасіць Бога, каб даў мне калі-небудзь магчымасць аддзячыць пану.

– Мосці аканоме, калі шчыра прагнеш даказаць мне сваю ўдзячнасць, дык я зараз жа дам пану такую магчымасць.

– Пане! – выгукнуў аканом, хапаючыся за крыж, – прысягаю, што для пана крыві сваёй не пашкадаваў бы. Усё, што пан загадае, свята выканаю.

– Прашу тады васпана, каб па-людску ставіўся да сялян пана Харунжага, каб засланяў іх ад яго несправядлівае суровасці. Пільнуй, каб Абрам не насіў па хатах гарэлкі, і што для іх дабра зробіш, усё буду лічыць за ласку, учыненую для мяне.

Утаропіўся аканом у вочы пана Падстоліца, бо не разумеў гэтакага чалавекалюбства.

– Ці прысягаеш ты выканаць маю просьбу?

– Небяспечна на маім месцы, але пану, дабрачынцу майму, не магу адмовіць. Прысягаю.

Абняў яго пан Падстоліц. Усунуў яшчэ ў руку дукат на кніжкі для сына, ды абяцаў пра яго памятаць, калі будзе трымаць сваё слова, і выправіў яго, расчуленага, зараз жа за горад з інаходцам.

– Агледзім крамы, – прапанаваў пан Падстоліц Уладзіславу, – пакуль мае вазы разгружаюць.

## Раздзел сёмы

# КІРМАШ

Tu w stradijetkach masz śmiałe Bosmany,
Masz z dalekich stron kupce i ziemiany.
Przedawaj, kupuj, handluj, bij dłonią w dłoń;
Zysk sobie ugoń.
Chwal przedawając, gań kupując, kupca
Niechciej mądrego; szukaj sobie głupca...
... Ma li gotówkę? najprzód oto pytaj.

Sebast. Klonowicz, *Flis*[67]

Пан Падстоліц з Уладзіславам пайшлі ў той бок, дзе быў найбольшы натоўп – да крамаў прыезджых купцоў, якія вабілі рознымі колерамі і металічным бляскам густоўна раскладзеных тавараў. У сталі, пазалоце, фаянсу, парцэляне, шкле, медзі і бронзе адлюстроўваліся стракатыя тканіны, шоўк, сукенкі, размаляваныя шкатулкі з гарбатай, стосы цукровых галоваў[68], дзежкі і пакункі розных памераў, поўныя разнастайным таварам.

Вялікі гандаль вёўся купцамі ціха і абмяжоўваўся лічанымі словамі спакойнае згоды; затое гармідар панаваў пры дробным продажы мясцоваму натоўпу, упэўненага, што менавіта для яго была раскладзеная купцамі ўся гэтая раскоша. Толькі падзівіцца можна было той ветлівасці і добразычлівасці купцоў, з якой яны выконвалі кожнае, нават самае дробнае, пажаданне і нястомна разварочвалі штукі матэрыі, паказваючы тавар, з якой цярплівасцю яны зносілі ўсе спробы зганіць яго, адказваючы на гэта толькі лёгкаю ўсмешкаю.

– О, трэба не мець *сумнене*! – выгукнуў Капітан, калі заўважыў, ускочыўшы ў краму, пана Падстоліца з Уладзіславам. – Трэба *лі* не мець *сумнене*, каб так рана пакінуць забаву, як мае паны ўчора? Відаць, што нашых *німфов* чароўныя вабноты не зрабілі ўражання на іх скамянелыя сэрцы. Хе-хе-хе!

– Ехалі мы сюды хутчэй на кірмаш, а не на забаву, – адказаў пан Падстоліц.

– О! І я таксама, – закрычаў, прыгожа выгінаючыся, Капітан, – я таксама збіраюся тут з паловы *крамов* закупіць: большую *лі* частку маіх прыбыткаў на гэтыя лахманы выкінуць. *Хей*! Купец! Маеш *седан*?[69]

– Не маю, пане, – адказаў яму яшчэ больш ветліва, чым іншым, купец.

– Не маеш *седан*?! Дык, можа *лі*, *вігонь*?[70]

– Маю вельмі добрае краёвае сукно, – з пашанаю гледзячы яму ў вочы сказаў купец.

– Гэта, слова *хонару*, смешна! Вельмі добрае краёвае! У гэтых *расіянов* усё вельмі добрае, найлепшае. А *камізэльков турэцкіх* маеш?

– Ёсць, пане, персідскія, самыя лепшыя, – і ён раскрыў пакунак з вялікай колькасцю розных камізэлек і турэцкіх шаляў.

– Колькі за дзве камізэлькі?

– Па сто пяцьдзесят асігнацыямі, – адказаў купец, – а для пана...

– Адкладзі іх у бок, – не даў яму скончыць Капітан. – Гэта будзе *лі* трыста. Што ж там у цябе за сукно? Пакажы мне чорнае.

Здзіўлены гэтакаю незвычайнаю шчодрасцю купец дастаў штуку найлепшага чорнага сукна і збіраўся ўжо назваць вялікую суму, як Капітан пачаў крывіцца, разглядаючы сукно праз ларнетку, але ўсё ж запытаўся:

– *Па колькі лі* за локаць?

– Па трыццаць асігнацыямі.

– Не думаў я, што вы маеце *гэткага добрага*. Адрэж дзесяць локцяў і нясі ўсё за мною. *Adieu*. Мосці Падстоліцу, да пабачэння.

І, нават не зірнуўшы, як купец адмярае і адрэзвае сукно, ён пабег далей, а следам за ім паспяшаўся памагаты купца з пакункам.

Моўчкі пан Падстоліц з Уладзіславам пайшлі ў іншую краму, у якой сустрэлі Шамбяляніху.

– Як можна гэтакія анучы прывозіць! – абуралася яна, шматаючы раскручаныя для яе штукі матэрый. – Маеш васпан шалі?

– Якія пані жадае? – запытаўся купец, стаўляючы на прылавак цэлую скрынку.

– А якіх жа? Кашаміравых[71], найлепшых, – адказала Шамбяляніха, не здольная ўжо хаваць свайго захаплення ад прыгажосці шаляў, што паказваў ёй купец.

– Колькі яны каштуюць? – запыталася яна дрыготкім голасам, і вусны ў яе задрыжалі.

– Якія пані пажадае выбраць. Ёсць ад ста да тысячы чырвоных злотых.

– О, праклятая сквапнасць майго мужа! – прашаптала яна, звяртаючыся да сваёй таварышкі, калі купец адвярнуўся. – Якія цудоўныя ўзоры!

– Ці падабаецца пані? – пытаўся купец і разварочваў перад ёю адну за адной, усё лепшыя і лепшыя.

– Някепскія. Але, можа, яны заляжалыя?

– Толькі што з мануфактуры.

– Праўда? І даўно з Азіі?

– Не аж так далёка, – адказаў з усмешкаю купец. – Гэта вырабы пані Елісеевай[72] з Варонежскае губерні.

– Не можа гэтага быць! – аж збялела Шамбяляніха. – Каб расіяне рабілі гэткія рэчы. Я, прынамсі, разбіраюся ў шалях. Гэты ўзор, гэтыя дзіўныя кветкі, гэтае перапляценне нітак, гэткая, больш далікатная за ядваб, мяккасць... Не, вядома, абы толькі, каб пахваліцца, называеце вы сваімі гэтыя дасканалыя вырабы. Гэта, васпан, сапраўдныя кашаміравыя.

– Вось пасведчанне з нумарам і штэмпелем, – сказаў купец, падаючы ёй паперы.

– Я не чытаю па-расійску, – адказала яна. – Але і праўда, яны могуць быць расійскія, бо я ўжо бачу, што колеры выцвілыя і нават, чаго адразу не заўважыла, прадзіва няроўнае і палатно крывое. Так, – дадала яна вельмі тонкім і ліслівым голасам, – гэта, відавочна, расійскія, іх найбольшая вартасць – па дзесяць чырвоных злотых.

Паглядзеў на яе спакойна, але са шляхетным гонарам купец і, слова не кажучы, пачаў складаць свае шалі. Пані Шамбяляніха акінула яшчэ позіркам

праз ларнетку багатыя паліцы з таварамі і, стараючыся не ўздыхаць гучна, перабралася ў суседнюю краму.

Спаткаліся з Харунжыхаю. Уладзіслаў адразу падышоў да Іды і пан Падстоліц таксама павітаўся з імі. Харунжыха якраз гандлявалася за парцалянавы сервіз.

– Адна маскоўшчына, – паскардзілася ёй Шамбяляніха. – Як спалася? Ах, які прыгожы ў пані капялюшык!

– Ад Вагнеровае[73], – пахвалілася Харунжыха. – Няма аніякага выбару. Гэты сервіз...

– Ці ж можна яго параўнаць з саксонскім! – перабіла яе Шамбяляніха, падымаючы кубак з літасцівым выразам на твары. – Нават не параўнаць з англійскім!

– Гэта з мануфактуры англічаніна, – заўважыў купец. – Гарднераўскі[74].

– Ах, мой каханы, не спрачайся, зямлі вы такое не маеце. Колькі ж каштуе гэты сервіз?

– Пяцьдзясят рублёў, – адказаў купец.

– *A Drèsdes cinquante ducats au moins*[75], – ціха сказала Харунжыха Шамбялянісе.

– Аддам за сорак пяць, – дадаў купец.

– Жартуеш, мой каханы, – прамовіла Харунжыха, – і трыццаць зашмат. Што ж пані купляла? Няма добрых тавараў. Які прыгожы гафт на пані вэлюме!

– *Mersi*, – пакланілася Шамбяляніха. – Шукаю добрыя карункі. Ці будзеш і сёння на рэдуце, *ma chère*? Дачка пані зачаравала хлопцаў... нават майго мужа... *et vois*![76] – усміхнулася яна раптам, прыкладаючы палец да носа. – *Á propos, ma chère*, дык можна нам разлічваць на дапамогу падчас выбараў?

– *De tout mon coeur*[77], – прамовіла, абдымаючы яе, Харунжыха.

– Будзь у мяне сёння на абедзе, – запрасіла Шамбяляніха, – і мужа вазьмі з сабою, каханая мая Падкамарына. *Adieu*.

– *Adieu, adieu ma chère Maréchale*[78].

Пан Падстоліц, які ў гэты час аглядаў тавары, нібы не зважаючы на іх размову, заўважыў, што Харунжыха раз-пораз кідае позіркі то на сервіз, то на Уладзіслава. Тады ён падышоў і ціха папрасіў пазычыць яму грошы, усе, колькі ў таго ёсць.

Харунжыха якраз ужо скончыла абдымацца з Шамбяляніхай, і, калі тая адышла, запыталася зноў:

– Дык колькі за той сервіз? Трыццаць рублёў?

– Няхай служыць пані, – неспадзявана згадзіўся купец.

– Пане Уладзіслаў, – звярнулася да яго Харунжыха, адводзячы ў бок, – мой каханы Уладак, не ўзяла я ў мужа грошай, колькі мне на выдаткі трэба. Змілуйся, да абеду альбо пакуль не ўбачымся дома, пазыч мне з дзесяць дукацікаў.

Толькі цяпер зразумеў прадбачлівасць пана Падстоліца Уладзіслаў і ветліва патлумачыў, што ўжо пазычыў усё, што меў, пану Падстоліцу.

– Добра-добра, – гучна прамовіла Харунжыха. – Ці будзеш ты на абедзе ў Шамбяляніхі? Пане купец, можа, маеш каго паслаць са мною з тым сервізам?

– Ахвотна, – сказаў, крыху сумеўшыся, купец, – але спачатку... я толькі памочнік... грошы...

– А так, – запусціла руку ў свой гаманец Харунжыха. Але раптам яна спынілася і паведаміла, – яшчэ не ўсе пакупкі я зрабіла, пазней прышлю каго-небудзь з маіх людзей з грашыма... А каб раптам атрымалася некаму лепш прадаць, дык не зважай, асан, што мы згандляваліся. *Adieu*.

– А на падаткі і каб даўгі пааддаваць, дык няма, – заўважыў, аддаючы Уладзіславу ягоны гаманец, пан Падстоліц, калі яны адышлі. Падзякаваў яму Уладзіслаў за выратаванне ягонага запасу.

– Вось гэтак яны купляюць, – працягваў пан Падстоліц. – Адно марнатраўства. Каб яшчэ людзі заможныя куплялі гэтыя рэчы. Жывуць ужо ў нястачы, а мроіцца ім яшчэ раскоша. Пабачым, чым мясцовыя купцы могуць пахваліцца.

Перайшлі яны на другі бок, дзе тлум люду атачаў жыдоўскія крамы. Як толькі жыдоўкі заўважылі іх, дык адразу падскочылі і пачалі запрашаць, перакрыкваючы адна адну, у свае крамы.

– Чаго яснаму пану трэба? Тут у мяне *ўсё ёсць*.

– Да мяне, – крычала іншая, – няхай паны сюды зойдуць, прашу іхмосцяў сюды!

– Падцяжкі, мыла, папера, ключыкі да гадзіннікаў, разынкі, фігі, перац, цукар, хусткі на шыю, хусткі для носа, – хваліліся іншыя.

– Камізэлькі, селядцы, пальчаткі, лепшая кава, скалкі[79], тытунь, вакштаф турэцкі... тут усё ёсць, няхай паны толькі спытаюць, ну!..

Яны суправаджалі іх ажно да апошняе крамкі. І, сапраўды, усе пералічаныя тавары, але ў асноўным найгоршае якасці і ў невялікай, колькасці ўбачылі яны ў тых крамах сярод бочак солі, вязанак лыка, вяровак, шэрых нітак, драўляных люлек, плугоў, цыбулі, хлеба і сена. Словам, усё, што патрэбна было паспалітаму люду, знаходзілася ў тых крамках. Нават некалькі штук сукна і байкі ды некалькі штук бавоўны знайшлося ў ганарыстага багацея – шаноўнага ва ўсім наваколлі жыдка. Лепшых тавараў ў павеце не знайшлося.

І тут таксама грамадкі кабет і мужчын бегалі ад крамы да крамы, ад мясцовых да прыезджых купцоў, пераварочвалі ўсе тавары, але надта рэдка нешта куплялі, і ў асноўным – дробязі. Усе скардзіліся на дарагоўлю і наракалі на кепскія гатункі, з-за чаго ім нішто не падабалася. Але па іх вачах, якія яны не маглі адарваць ад рознакаляровых паліцаў, ды па тым, як яны ўздыхалі і тапталіся ў задуменні на месцы, лёгка можна было здагадацца, што ў сэрцы іх панавалі пачуцці, падобныя на пакуты згаладалага Тантала[80], калі ён бачыў плады проста перад сабою, але не мог іх дастаць.

Побач з тою крамаю, дзе сустрэлі было Капітана, пан Падстоліц з Уладзіславам убачылі, як хлопец, што панёс за ім пакункі, прыбег задыханы, без шапкі і закрычаў гаспадару:

– Не дае грошай!

– Як гэта? – захваляваўся купец. – Навошта ж ты аддаў тавар?

– А што ж мне было рабіць? – заплакаў хлопец. – Калі я прыйшоў да яго, дык ён забраў пакунак і загадаў мне чакаць, а сам паслаў па другога пана і прадаў яму ў мяне на вачах за палову цаны пяць локцяў сукна і адну камізэльку, потым даў мне дукат. “А па рэшту, – сказаў, прыйдзеш, мой каханенькі, потым. Заўтра альбо калі-небудзь іншым разам”.

– На месца! – сурова загадаў яму купец, але твар ён меў спалоханы.

– Лепш паслаць да яго зараз жа, каб аддаў тавар, – азваўся пан Падстоліц. – Мы будзем пану сведкамі.

– Дзякуй за добрыя намеры, – сказаў купец, але што з воза ўпала, тое прапала. Задурыў ён мне галаву сваёй шчодрасцю. Уга! Што ж тут зробіш? Мая віна. Трэба быць больш асцярожным.

– Не павінны васпан лічыць гэта стратаю, – не згадзіўся з ім пан Падстоліц. – Калі ён добраахвотна аддаць ці заплаціць не згодзіцца, дык ёсць улада.

– Не для таго ён браў, – адказаў з горкаю ўсмешкаю купец, – каб згадзіўся аддаць, а калі звярнуцца да ўлады, дык яшчэ больш, хіба, страціш. Лепш на гэтым і спыніцца.

– Кепска думае васпан пра ўладу.

– Васпане! Там толькі і чакаюць гэтакіх выпадкаў. У іх тысячы кручкоў. Адразу следства, усё апячатаюць, і будзе страта большая, чым з-за маёй неасцярожнасці.

– Ёсць у нас законы, – сказаў пан Падстоліц.

– Законы, можа, і добрыя, – згадзіўся купец, – але выканаўцы законаў – ніякіх перашкод не маюць. Наадварот, ведаючы законы, яны самі іх ужываюць, каб людзей абдзіраць. Законы гарантуюць нам і васпанству бяспеку, справядлівасць і ўпэўненасць у сваёй уласнасці, аднак жа ўрадоўцы нагрэблі сабе гэтулькі срэбра, мэблі, экіпажаў, дамоў, маёнткаў... Адкуль гэта? З іхніх пенсій дзяржаўных, за якія яны б ледзь выжыць маглі б?

– Могуць мець з сумленнага гандлю.

– Чытаў, васпан, *Выжыгіна*[81]? – запытаўся купец.

– Сатыра, фікцыя, – адказаў пан Падстоліц.

Купец толькі паківаў галавою.

– Васпане, – сказаў ён, – так і яны кажуць, але ж мы бачым... Дай Божа не мець з імі справу.

Але ўжо з'явіліся ў радах на рынку вазы пана Падстоліца. Як толькі разышлася між купцамі чутка, чым наладаваныя гэтыя вазы, дык да іх усе рынуліся з гэткім жа запалам, як нядаўна да коней.

Уладзіслаў не разумеў, ці пан Падстоліц прафесійна займаўся гандлем, ці толькі выпадкова ён набыў якраз тыя тавары, якія ў нашым краі не выраблялiся. Выдатны рафінаваны цукар і тонкае белае палатно з літоўскім штампам зрабілі на яго найбольшае ўражанне. Ён падзяліўся сваімі сумненнямі з панам Падстоліцам, які ўсміхнуўся і паабяцаў адкрыць яму гэты сакрэт, калі яны вернуцца дадому.

Тым часам купцы, захопленыя добрай якасцю тавараў і даступным коштам, спаборнічалі ў гандлі, набываючы цукар, палатно, розныя расліны для фарбавання і фарбы ўжо гатовыя, воўну розных гатункаў, алей, воск, мёд, сыры, вырабленыя скуры ды вырабы з рогу, рыбны клей, мыла, крухмал, сіропы і мноства іншых тавараў ды рознае драбязы, якая яшчэ шырока не была распаўсюджаная ў нашых гаспадарках.

Хутка ўсё прадалі. Купцы забіралі тавары, а пан Падстоліц – грошы і тое, што ён набыў дадому; а набытае оптам і ў абмен дасталася яму значна танней, чым каб давялося купляць часткамі. І яго людзі на тыя самыя вазы ладавалі штукі сукна розных гатункаў, ядвабныя і баваўняныя матэрыі, каву ды гарбату, прыправы, матэрыялы для фарбавання, шкло, фаянс, парцэляну, жалеза

ў штабах і бляху ды розныя, нарэшце, прылады і пасудзіны з розных металаў, якія служаць да ўсялякіх гаспадарчых патрэб, а ўсё гэта, зноў жа, у такой колькасці, што Уладзіслаў вярнуўся да думкі, ці не прафесійна займаецца гандлем пан Падстоліц.

Купец, якому найбольш пан Падстоліц прадаў і ў якога найбольш набыў, быў расіянінам. Ягоны спрыт і пільнасць, з якою ён сачыў за кожным рухам прыказчыкаў, не спыняючы гутаркі з пакупнікамі, а таксама, як хутка, але нібы між іншым, ён вёў рахункі, не перарываючы іншых заняткаў, – усё паказвала на рэдкі талент у гандлёвай прафесіі; а пры гэтым яшчэ, наколькі мог паводле адрывістай размовы з ім пан Падстоліц зразумець, яму не было чужым і больш высокае разуменне гандлёвае справы ды рамесніцтва. Пану Падстоліцу захацелася з ім бліжэй пазнаёміцца, апрача таго, набліжаўся ўжо поўдзень, дык ён запрасіў таго купца ў сваю гасподу на абед.

Бурмістар і Радны, пакліканыя панам Падстоліцам, таксама далучыліся да кампаніі. За сталом Бурмістар, які быў ужо на падпітку, першы пачаў размову, пытаючыся ў купца пра поспехі на кірмашы.

– Поспех не можа быць значным у такім краі, дзе мала можна знайсці прыдатных нам прадуктаў.

– Калі не прадукты, – сказаў Уладзіслаў, – дык грошы, колькі іх знойдзецца ў нас, васпанства за свае тавары вывезе.

– Не такі атрымаем прыбытак, – запярэчыў купец, – які маглі б атрымаць, каб абменьвалі тавар на тавар.

Бурмістар перахрысціўся, кульнуў шклянку віна і ўступіў у гутарку:

– Няхай мяне ўсе святыя возьмуць! Але я не разумею ў чым слушнасць гэткіх спекуляцый. *Quis talia demens abnuat*?[a] Выбіраць тавар, а не грошы! А навошта ж тавар, калі не на тое, каб прадаваць яго за грошы? *Cui bono*?[b]

– Калі толькі прададзім тавар за грошы, – сказаў купец, – дык будзем мець у якасці прыбытку працэнт ад нашага капіталу, які мы сюды ў таварах прывезлі; і наадварот, каб мы набылі тут іншых тавараў за тыя грошы, на якія тут прадалі свае, дык назад прывезлі, апрача вартасці вывезенай, яшчэ і вартасць дадатковую за тутэйшыя тавары. Гэтакім чынам, прыбытак наш быў бы падвойны. А калі мы вернемся з сумай грошай, адпаведнай вартасці нашых тавараў, прададзеных з прыбыткам, дык пераезд наш будзе нічога не варты, бо колькасць грошай ад перавозу не павялічыцца, а кошт дарэмнай паездкі зменшыць і той прыбытак, які мы тут ад продажу тавараў атрымаем.

– *Difficile dictu*![c] – выгукнуў Бурмістар. – Я інакш гандляваў. Стараўся заўсёды за наяўныя грошы прадаваць, зважаючы на выказванне Альвара: “*Apud priscos asso terminabatur, ut amasso*”[d], што паводле *эксплікацыі*[82] святое памяці майго педагога, за здароўе якога мушу зараз выканаць *лібацыю*[83], павінна азначаць: што спрадвеку *антэцэсары*[84] нашыя ўсе свае інтарэсы грашыма заканчвалі. Яны заўсёды прадавалі за наяўныя, і паводле паэта: „*Ma-li gotówkę najprzód oto pytaj*”.

---

[a] Хто будзе настолькі дурным, каб адмаўляцца ад гэтакіх рэчаў?
[b] Навошта? (À quoi bon?).
[c] Цяжка выказаць.
[d] Старажытныя заканчвалі на -*asso*, напр., *amasso*. [Правіла з Альвара]. Бурмістар прымае канчатак -*asso* за назоўнік *assus* (грош); творны склон – *asso* (грошам).

– Дык таму і гандаль у нас быў на гэткім нізкім узроўні, – азваўся пан Падстоліц. – Не разумеючы яго прынцыпаў, мы лічым за найбольшае шчасце наяўныя грошы, але не само назапашванне грошай, а набыванне і добры збыт тавараў, якія карыстаюцца попытам, спрыяе ўзбагачэнню краю і дабрабыту гандляроў.

– У нас, – патлумачыў купец, – амаль усе гандлёвыя чыннасці адбываюцца абменам тавараў на тавары. Бо на што ж, урэшце, мы выкарысталі б грошы, як не на куплянне тавараў, на перавозцы якіх у іншае месца, гэта значыць, туды, дзе яны патрэбныя, зарабляе дастаўца. А наяўных мы звычайна пакідаем не болей, чым трэба на бягучыя выдаткі. Але такія абмены могуць адбывацца толькі ў тых краях, дзе развітыя рамёствы, а не ў гэткіх мёртвых, як далучаныя ад Польшчы правінцыі.

– Але ж і ў нас ажывілася крыху рамесніцтва, – запярэчыў Радны. – Знойдзеш, васпан, у Гродзенскай губерні некалькі мануфактураў сукна, якія не саступаюць расійскім; у Валынскай губерні – больш за дзесяць; у Кіеўскай – амаль столькі ж; у Падольскай губерні і ў Беластоцкай вобласці, здаецца, таксама ўжо заснавана некалькі вялікіх мануфактураў[IV].

– Нам гэта вядома, – адказаў купец. – Але на тых мануфактурах вырабляецца яшчэ гэтак мала прадукцыі, што яе і на дзясятую частку мясцовых патрэбаў не хапае. Апрача Гродзенскае губерні, па ўсёй Літве і па ўсёй Беларусі праменьчык рамесніцкага промыслу ледзьве прабіваецца. І на ўсім абшары далучаных правінцый яшчэ цяжка знайсці такія вырабы, якія можна было б вывезці з карысцю ў іншыя расійскія губерні альбо за мяжу; дык і адтуль у замен край нічога прывезці нельга. А тое, што за наяўныя грошы альбо за невялікую колькасць дрэва і льну ад нас і з-за мяжы можаце атрымаць, нельга нават параўнаць з тым, што ў нас кожная губерня вывозіць і ўласнымі прадуктамі аплачвае.

Пра той агульны рух, які відаць у нашых губернях, пра дастатак і прадпрымальнасць нашага люду яшчэ мала ведаюць у тутэйшых ваколіцах, а яшчэ меншае маюць тут уяўленне пра поспехі іншых прамысловых народаў. Мы здаўна былі больш заможнымі за тутэйшых жыхароў, бо ў нас амаль кожная сям'я, асабліва ў мясцовасцях паміж Пецярбургам і Масквою ды вакол Масквы, працавала ў якой-небудзь рамесніцкай галіне альбо ў гандлі.

Не павялічваліся, праўда, значна да гэтага часу нашыя дастаткі, бо вырабы, у большасці, прадукаваліся ўручную, але цяпер, калі машыны далі нам мільёны дадатковых безадказных працаўнікоў і з'яўляецца ўсё больш і больш умелых майстроў, дык колькасць нашых вырабаў штодзённа расце, удасканальваецца і дазваляе забяспечыць усе патрэбы. Цяпер нашаму дабрабыту ўжо нішто не пагражае, і мы маем надзею, што пры няспынным высілку дасягнем, з часам, вяршынь поспеху[V].

– З вераю ў *беневаленцыю*[85] ласкавага майго дабрадзея яснавяльможнага пана Падстоліца, – азваўся Бурмістар, – мушу выпіць за здароўе ягамосця пана *негацыянта* і апелюю, каб ён меў ласку прыняць гэта *in vim*[e] змяншэнне *эксаперацыі*[86], якую я рыхтую, пярэчачы ягонай сентэнцыі.

Ён пакланіўся, кульнуў чарговую шклянку, выцер вусы і працягваў:

---

[e] Як; у сілу.

– Паколькі васпанства вы гэтак *junctis viribus*[f] старанна ўзяліся ўсе за індустрыю, дык, несумненна, вам непрыемна *prespicere*[g], што і ў нас пачынаюць з'яўляцца мануфактуры, бо яны ствараюць канкурэнцыю расійскім, калі пастаўляюць вырабы, якія ад васпанства можна было б атрымліваць; *ergo*[h]... Вось пакута! Вось што значыць, мосці дабрадзеі, старасць! *Senectus genitivum utis*[i], ужо забыўся, якую хацеў зрабіць з гэтага выснову, чаму мяне *per praedilectionem*[j] вучыў ксёндз *Magister Grammatices*, калі яшчэ далёка было *ad philosophiam*[87]. Які пачцівы быў гэта чалавек! Мушу выпіць за ягонае здароўе, а можа, і выснова знойдзецца *in fundo veritatis*[k].

– Я зраблю гэтую выснову, – прапанаваў з усмешкаю купец. – Тым, што вы, панове, не маеце дастатковае колькасці мануфактураў, вырабамі якіх маглі б за нашыя разлічвацца, мы вельмі незадаволеныя. Гэта выснова больш справядлівая, чым тая, якую хацеў васпан дабрадзей выказаць.

У такой вялікай дзяржаве, дзе кожную правінцыю прырода адарыла разнастайнаю сыравінаю, каб пачалі перапрацоўваць яе на месцы, дык прынесла б гэта карысць у гандлі з іншымі правінцыямі. Такім чынам усе правінцыі, маючы большы збыт уласнае прадукцыі, большыя маглі б мець і прыбыткі.

Будзьце, панове, пэўныя, што мы з нецярплівасцю чакаем часу, калі ў тутэйшых абывацеляў адкрыюцца вочы, і яны прыкладуць больш намаганняў для ўдасканалення земляробства, каб вырошчваць тое, што неабходна, і перапрацоўваць частку сыравіны на ўласных прадпрыемствах. Большая колькасць вашых тавараў дасць нам магчымасць прадаваць тут з карысцю нашыя вырабы і купляць тутэйшыя. Тады абодва бакі будуць мець большы прыбытак, і абедзве правінцыі расквітнеюць[VI].

– Амаль гэткія ж самыя пажаданні адносна нашага краю, – сказаў Радны, – я чуў і ў Нямеччыне, і ў Францыі, і ў Англіі, хіба што Англія хацела б, каб мы абмежаваліся вытворчасцю выключна сельскагаспадарчае прадукцыі, якая ёй патрэбна: воўны, ільну, пянькі, воску, лою і падобнага. Ва ўсёй Еўропе пальцам паказваюць на нас, што край, гэтак шчодра, як наша правінцыя, адораны прыродаю, не стараецца даваць нічога такога, што, сапраўды, прыносіла б карысць[VII].

– Але ва ўсёй Еўропе, – заўважыў Уладзіслаў, – няма нашых эксдывізій; іхняя ўласнасць ахоўваецца законам; яны маюць адукаваных і памяркоўных урадоўцаў, якія дбаюць пра дабро краіны; асвета ў іх шырока распаўсюджаная; яны даўно ўжо сталі на шлях да дабрабыту; да гэтае мэты імкнуцца ўсе іхнія інстытуцыі. І калі яны нас да гэтага часу апярэджвалі, дык і заўсёды будуць мець перавагу над намі.

– Якая ж з гэтага выснова? – запытаўся пан Падстоліц. – Што мы мусім скласці рукі і сядзець, нават без усялякае спробы палепшыць свой дабрабыт? Ці ж не засталася ў нас магчымасць прасіць усё тое, чаго слушна можам патра-

---

[f] Узаемнымі сіламі.
[g] Бачыць.
[h] Дык.
[i] Senectus (старасць) у родным склоне мае канчатак –*utis* [Правіла з Альвара].
[j] З-за прыхільнасці.
[k] Ісціны на дне.

баваць? Ці ж замест эксдывізій не маглі б мы мець гіпатэку? А пастарацца заняць тыя пасады, ад якіх наш лёс залежыць, калі б мы, насамрэч, жадалі паслужыць на карысць краю? Мэтанакіраваная і клапатлівая асвета і ў нас пайшла б на карысць, а недахопы можна было б пастарацца выправіць нашай стараннасцю. Ашчаднасць стварае капітал; нарэшце, можна было б пусціць у абарот нашыя нерухомыя капіталы, закладаючы крэдытныя таварыствы, на ўзор таго, як гэта робіцца ў Польшчы[VIII].

Нават тое, што нас апярэдзілі іншыя, магло б нам дапамагчы, бо ідучы пракладзеным ужо шляхам, мы маглі б смялей і з больш хуткім поспехам рухацца за імі следам.

Больш за тое, пры такіх спрыяльных умовах, мы маглі б не толькі дагнаць іншых, але і стаць на больш высокай за іх ступеньцы шчасця, дастаткаў і, што за гэтым ідзе, разумовае культуры. Нашае геаграфічнае становішча робіць нас пасярэднікамі паміж Паўночнай Еўропай і Азіяй; з дапамогай нашых рэк і каналаў, якія ўжо ёсць, а таксама новых, можна мець такія ж выгоды, якія маюць ваколіцы Александрыі[88], размешчаныя паміж трыма часткамі свету. А прыродная ўрадлівасць нашае правінцыі, багатай таннаю сыравінаю, ад чаго залежыць і адпаведная таннасць нашых рамесніцкіх вырабаў, даюць нам натуральную перавагу на ўсіх рынках свету[IX].

Нам асабліва няма чаго і турбавацца, што іншыя народы нас апярэдзілі. Каб мы дружна ўзяліся за паляпшэнне нашага дабрабыту, дык знайшліся б і спосабы, і магчымасці, дастатковыя для паспяховага выканання разнастайных і найбольш патрэбных чалавецтву і нашай Айчыне намераў. Прыклад шмат якіх амерыканскіх правінцый даводзіць, як хутка і шчасліва можа змяніцца край, калі ўвесь народ прыкладае дзеля гэтага намаганні[X].

Нават і тое, што ў нас нічога яшчэ не зрушылася з месца, можна абярнуць сабе на карысць, бо лягчэй нам будзе выканаць больш прыгожыя планы, калі мы не будзем прыстасоўвацца да старога, а пачнём закладаць новыя падмуркі і хутчэй будаваць новае, а не перарабляць кепскае старое.

Калі ўважыць гэтыя акалічнасці, дык мы, здаецца, можам сябе павіншаваць, што з Ласкі Божае трапілі ў такую сітуацыю, дзе ўсё – і геаграфічнае становішча, і вопыт іншых суседзяў, і патрэбы краю, і наша павіннасць – абнадзейвае нас, ды, каб мы пажадалі добра папрацаваць – усё абяцае нам жаданы поспех: дабрабыт нашае Айчыны.

Падобныя размовы працягваліся, пакуль абед не закончыўся. Госці пана Падстоліца развіталіся з ім, жадаючы добрае дарогі. Бурмістар за шчаслівае падарожжа падняў тост; Уладзіслаў з нецярплівасцю чакаў хвіліны ад’езду, жадаючы як мага хутчэй убачыць гаспадарку пана Падстоліца. Але ён не без шкадавання пакідаў мястэчка. Непакой ягоны яшчэ больш узмацніўся, калі каляска мінала гасподу панства Харунжых. Ягонае сэрца, ахопленае роспаччу, было, праўда, жывое, але жыццё гэта было надта ж бязрадасным.

## Раздзел восьмы

# КАНЕЦ КЕПСКАГА

Wszędzie okrzyk radość wzrusza,
Brzmią pieniem bachanckie grona;
Jedna tylko była dusza
Tajnym smutkom zostawiona.
... Ja tylko łzami się poję,
Mnie stroni słodkie mamienie,
Bo ja widzę jak zniszczenie
Skrzydłami leci na Troję.

Kaź. Brodziński, *Kassandra*[89]

Удзень прыгрэтая сонцам прымёрзлая гразь, якая пакрывала вуліцы, была ўжо разбітая конскімі капытамі ды коламі; каляска пераваьвалася з боку на бок, коні торгалі, фурман лаяўся, Марцін праклінаў, Уладзіслаў гневаўся на нядбальства мясцовага начальства, а п'яныя тлумы люду, што бадзяліся ў розных кірунках па вуліцы, асалавелымі вачыма праводзілі падарожных. Калі спыніліся на перавозе, пан Падстоліц азірнуўся на горад і прамовіў:

– Вось да чаго дайшла даўняя заможнасць нашых гарадоў!

– Але ж ёсць у нас і лепшыя, – запярэчыў Уладзіслаў.

– Колькі ж іх ёсць? За выключэннем некалькіх губернскіх гарадоў, але і ў тых адны толькі галоўныя вуліцы крыху лепшыя, усе астатнія – павятовыя і прыватныя – гарады нашае правінцыі не заслугоўваюць на гэтае найменне. Аніякага параўнання нават з самым малым замежным мястэчкам! Тая добраахвотная ахайнасць – першы знак лепшае маральнасці люду; тая прыгожая забудова, якая сведчыць пра іх густ, той прадпрымальніцкі рух, які ажыўляе і аздабляе... А нашыя? Клаака нэндзы і плюгаўства, руіны згнілых буданоў, заселеных скрозь гнюсным жыдоўствам, без аніякага руху, без прамысловасці; яны не толькі не прыносяць для свайго наваколля нават самае малое карысці, але, наадварот, робяцца перашкодаю для паляпшэння дабрабыту.

– Якія ж адносіны мае дабрабыт вёскі да дабрабыту горада? – запытаўся Уладзіслаў

– Нават толькі для спрыяння продажу сельскагаспадарчае прадукцыі і для дастаўкі патрэбных сялянам тавараў неабходныя шматлікія гарады ў краі. Нашыя зусім не адпавядаюць гэтай мэце, бо большыя, якіх у нас вельмі мала, – незаможныя з-за таго, што занядбана там рамесніцтва і гандаль, а ў меншых – амаль адно гнюснае жыдоўства з шынкамі альбо мяшчане. Крамы, калі дзе і ёсць, дык гэткія бедныя, і тавары ў іх гэткія кепскія, што ні патрэбаў наваколля яны не задавальняюць, ні ў збыце ўласнае прадукцыі не дапамагаюць. У апошнія дзесяцігоддзі нашае анархіі продкі нашыя, не здольныя ўжо разумець патрэбаў багатых гарадоў і, мяркуючы, што выключна земляробчы

край можа быць шчаслівы без і рамесніцтва ды гандлю, занядбалі гарады – сядзібы розных відаў рамесніцтва.

– Але пры гэтым, – сказаў Уладзіслаў, – шматлікія ў нашым краі прыватныя гарады даводзяць значны клопат уласнікаў пра іх развіццё.

– Прывілей на горад не пераробіць вёску нават у мястэчка, – адказаў пан Падстоліц. – Шмат вёсак назвалі ў нас гарадамі, але не разумеючы мэтаў горада, абмежаваліся толькі тым, каб ладзіць у іх фэсты і кірмашы, а гэта толькі дзеля павелічэння прыбытку з шынкоў. Не было ў нас таксама гарадоў, якія раслі пры заснаванай мануфактуры альбо на скрыжаванні гандлёвых шляхоў; а з дзясятак жыдоўскіх сем'яў, якія сяліліся ў прывілеяванай вёсцы без рамесніцтва і без працы ды багацелі разам з уласнікам з таго, што спойвалі сялянаў, наадварот, спрыялі вынішчэнню мясцовасці.

Уладзіслаў, калі яны перабраліся на другі бераг і паехалі далей, узнавіў размову пра гарады.

– У дадатак да заўвагаў пра стан нашае правінцыі ці не згодзіцца васпан дабрадзей растлумачыць мне, якія менавіта прычыны прывялі да заняпаду колішнія заможныя нашыя гарады, і чаму яны застаюцца ў такім кепскім становішчы сёння?

– Кожны, хто адкрые кнігу нашых дзеяў, – адказаў пан Падстоліц, – лёгка можа ўбачыць, штó менавіта было прычынаю такога заняпаду гарадоў і прамысловасці. У іншых краінах, дзе кіроўная ўлада атрымала перавагу над феадалізмам шляхты, у інтарэсах манархаў было ўзводзіць гарады і на іх магутнасці абапіраць свае троны; і там, дзе пэўная раўнавага ўсе станы ў належных межах трымала, – усе агулам, падтрымліваючы адзін аднаго, імкнуліся да заможнасці ды росквіту. У нас жа, наадварот, адзін стан шляхты апанаваў усю заканадаўчую ўладу і, маючы на ўвазе толькі ўласную карысць ды не разумеючы прынцыпаў сапраўднае эканомікі, меркаваў, што тым вышэй сам падымецца, чым больш іншыя станы прынізіць, дык прывяло гэта да заняпаду гарадоў, а таксама да паняверкі і пагарды ў адносінах да гарадскіх прафесій.

Іскрынкі прыгнечанага рамесніцтва калі і пачыналі было разгарацца недзе ў прыязных мясцовых умовах, дык у той жа момант альбо віхура ўласнага разладу, альбо вонкавая навала гэтае развіццё гасіла; закон не быў ім парукаю бяспекі, і недахоп капіталу ў руках мяшчан не даваў магчымасці развівацца. Засяленне ж гарадоў пагарджаным жыдоўствам, якія займаліся адно гандлем і шынкамі, да канца ўсё рамесніцтва і гандаль у сапраўдным іх значэнні вынішчыла.

Гэтакія былі прычыны заняпаду нашых гарадоў і рамесніцтва. А з тых, што цяпер з'яўляюцца перашкодаю да іх росквіту, можна вылучыць тры асноўныя групы: кепскае выхаванне мяшчан, хібы адміністрацыі гарадоў і недастатковая абарона ўласнасці.

У першай – важнейшымі з'яўляюцца: занядбанне маральнага выхавання і з-за гэтага згубныя для рамесніцтва прымхі, недаверлівасць і кепскія паводзіны мяшчанаў; не адпаведнае дастасаванне адукацыі для патрэбаў рамесніцкага класа альбо не стварэнне магчымасцяў, каб кожны мог ёю скарыстацца[XI]; адсутнасць, нарэшце, рэформы жыдоў.

У другой – аднаўленне цэхаў[XII], неабмежаваная воля для шынкоў, акцызы ды іншыя аплаты для тых, хто прыязджае ў горад.

У трэцяй – няпэўнасць, што да магчымасці карыстацца вынікамі свае працы, як з-за прадажнасці і недаверлівасці чыноўнікаў, гэтак і з-за слабасці мясцовага права ў адносінах да даўжнікоў, а з-за гэтага заняпад крэдытавання і слабы абарот капіталу.

Вынікам усяго гэтага, а таксама прычынаю цяперашняга стану рамесніцтва з'яўляецца заняпад духу прадпрымальнасці.

– Я не ведаю, – выказаў сумненне Уладзіслаў, – ці адукацыя дастасаваная да патрэб рамесніцкага класу, але мне здаецца, што яна набліжаная да іх, бо школы нашыя для ўсіх адкрытыя.

– Але гэтага мала, – адказаў яму пан Падстоліц, – каб у кожнага было права хадзіць у школу. Убогі люд, які змалку павінны зарабляць сабе на жыццё, хоць і мае права хадзіць у школу, але не мае для гэтага магчымасці; больш заможныя, калі і ходзяць, дык без аніякае карысці для свайго стану. Бо тыя навукі, якія выкладаюцца ў нашых школах, прызначаныя адно толькі для вышэйшых слаёў грамадства, і хоць яны маглі б увайсці ў склад навук, прыдатных для рамеснікаў і купцоў, але без адпаведнага для тых прафесій трактавання, толькі скіроўваюць розум да іншых прафесій.

Звычайна мяшчанскія сыны, якія лепш вучыліся, як мага хутчэй ідуць у войска альбо на цывільную службу, альбо, нарэшце, робяцца святарамі ці вучонымі. Не было б у тым нічога кепскага, каб яны не рабілі гэтага з адзінаю мэтаю – пазбавіцца плямы больш нізкага – за шляхту – паходжання, і каб іх месца ў рамесніцтве і гандлі займалі сыны рамеснікаў альбо шляхты; аднак першыя з-за беднасці не могуць вучыцца і спрыяць развіццю рамесніцтва, а другія з-за сваіх прымхаў, што рамесніцтва прыніжае шляхціца, унікаюць яго.

– Дык навука кепска служыць рамесніцтву, – заўважыў Уладзіслаў, – калі ўнікаюць яго людзі, якія маюць сякую-такую адукацыю.

– Не навука віною гэтаму, – запярэчыў пан Падстоліц, – а неабачлівае прымяненне яе ды – яшчэ ў большай ступені – занядбанне маральнага выхавання; а з-за гэтага немагчымасць выкараніць прымхі, а менавіта самае шкоднае для прамысловасці – пагарды, з якою ў нас дасюль яшчэ ставяцца да рамесніцтва і мануфактураў. Каб змалку ўнушалі ўсім тую праўду, што ні стан, ні спосаб зарабляць грошы, а стараннае выкананне сваіх абавязкаў і тым самым сумленная служба, хоць і ў самым нізкім чыне, адна толькі і дае чалавеку права на пашану ды ўдзячнасць землякоў, тады б убачылі мы, пэўна, большую колькасць шаноўных мяшчан, такіх, як пан Радны, які ў сваім стане жадае з карысцю служыць Айчыне.

– Смешна мне ўчора было глядзець на тую Клару, – сказаў Уладзіслаў, – як яна старалася быць падобнаю на шляхцянак. І сапраўды, у кожным крыху больш заможным мяшчанскім доме можна заўважыць гэту прэтэнзію прыпадобніцца да шляхецкага жыцця і – разам з тым – высмейванне шляхты ды называнне арыстакратычным усяго, ад чаго патыхае прывілеямі шляхецкага стану.

– Ва ўсім трэба захоўваць памяркоўнасць, – сказаў пан Падстоліц. – Нельга папракаць заможных мяшчанаў за іхняе раскошнае жыццё ды жаданне падтрымліваць свецкія звычаі. Наадварот, варта ўхваляць любое развіццё густу, абы гэта спалучалася з прыстойнай ашчаднасцю. А незадаволенасць шляхецкімі прывілеямі я лічыў бы, хутчэй, вынікам зайздрасці і таемнага ўплыву

прымхаў пра больш нізкае становішча, якія яны самі выдумалі. Гэта такія шкодныя прымхі, што без іх выкаранення, нават каб іншыя заганы атрымалася ліквідаваць, нашыя гарады і рамесніцтва не змогуць выбавіцца з нэндзы.

– Мне ўсё больш зразумелаю робіцца важнасць маральнага выхавання, – сказаў Уладзіслаў. – Бо, напэўна, і рэформа жыдоў ад яго павінна пачацца.

– Бясспрэчна. Зрабіць гэты народ карысным для краю немагчыма без маральнага перавыхавання. Калі прыедзем да мяне дадому, у мяне будзе магчымасць паказаць васпану, што можна з гэтым народам учыніць, і як мне ўдалося цяперашнюю іхнюю шкоднасць замяніць на карысць.

Пра цэхі таксама няма чаго казаць. Амаль усе эканамісты не толькі прызналі і давялі шкоднасць цэхаў, але і вызначылі, як можна ліквідаваць гэту шкоднасць. Васпан, відаць, чытаў іх працы альбо можаш прачытаць. А чым можна з большаю карысцю замяніць цэхі, як прыедзем дадому, я пану пакажу.

– Мне здаецца, – сказаў Уладзіслаў, – што на сённяшні дзень у нашым краю цэхі ані шкодныя, ані карысныя, бо наша рамесніцтва яшчэ – пусты палетак.

– Сапраўды, – згадзіўся пан Падстоліц. – Але каб хто захацеў гэты пусты палетак засеяць добрым зернем, дык мусіў бы спачатку яго ад пустазелля ачысціць.

– Мяне больш цікавіць тое, – сказаў Уладзіслаў, – што васпан казаў пра неабмежаваную волю шынкоў. Бо мне здаецца, што гэты від дзейнасці, уласцівы спекулянтам рознымі спажывецкімі таварамі, спрыяе абароту патрэбных тавараў і карысны для гарадоў.

– Бясспрэчна, – пацвердзіў пан Падстоліц, – спекулянты спажывецкімі таварамі карысныя, хоць і тут павінныя быць межы. Мы бачым у нашых гарадах прыклады шкоднай манаполіі спажывецкімі таварамі, што знаходзіцца ў руках жыдоў. Аднак шынкі, і ў гэтых адносінах, нельга лічыць карыснымі для гарадоў.

Мы ведаем, што толькі такое рамесніцтва карыснае для ўсяе грамады, якое прадукту, што праходзіць праз ягоныя рукі, надае большую вартасць. З гэтага вынікае, што спекуляцыя спажывецкімі таварамі карысная, бо, ствараючы лепшыя ўмовы для набыцця іх тым, каму яны патрэбныя, ашчаджае час, які быў бы патрачаны на пошукі гэтых тавараў.

Але шынкі не спрыяюць павышэнню вартасці гарэлкі. Каб шынок быў адзін на цэлы горад, дык той, каму ён трэба, ведаючы, дзе яго шукаць, мог бы ў любы момант туды прыйсці. І тады, не зніжаючы нават цаны на гарэлку, скарб альбо ўласнік меў бы з яе большы прыбытак, бо зменшыліся б выдаткі за арэнду месца і на шынкароў.

А з-за таго, што яны займаюць мноства рук, прыдатных для іншае працы, не павялічваючы гэтым нават у самай малой ступені вартасці народнага багацця, а, наадварот, толькі адрываючы людзей ад нейкага іншага, больш карыснага рамяства, – невымерна шкодныя.

Дададзім яшчэ пашырэнне маральнае распусты люду з-за гэтага насаджэння на кожным кроку шынкоў; дададзім хітрыкі карчмароў, іх уласную дэмаралізацыю пры гэтай паганай справе і той уплыў, які яны аказваюць на грамаду, дык, напэўна ж, давядзецца прызнаць, што іх шкоднасць у нашых

гарадах і ў тысячнай долі не апраўдвае тых прыбыткаў, якія прыносяць шынкі гораду альбо ўласнікам гораду.

– Што ж рабіць? – запытаўся Уладзіслаў. – Тут нічым не парадзіш, бо мяшчане маюць прывілей на шынкі.

– Прывілей, які зрабіўся для краю шкодны, – адказаў пан Падстоліц, – не варта захоўваць. Аніводзін заканадаўца не меў намеру выдумляць шкодны для грамадства прывілей. Калі яго давалі, дык не спадзяваліся, напэўна, пабачыць у кожным гарадскім доме шынок, бо тады мяшчане займаліся рамёствамі, а жыдоў было няшмат. Час нашай анархіі нясварта ўлічваць: тады інтарэс прыватны і абыякавасць да карысці краю віравалі без аніякіх абмежаванняў. Шкодны прывілей павінны быць ліквідаваны, бо тое, што прыносіць шкоду ўсёй грамадзе, ніколі не можа быць законнаю ўласнасцю аднаго, і калі адміністрацыяй была зроблена памылка, дык павінна яна быць выпраўлена дзеля справядлівасці.

– Сярод прычын, якія стрымліваюць рост нашых гарадоў, – сказаў Уладзіслаў, – назваў васпан дабрадзей акцызы і іншыя аплаты з тых, хто прыязджае ў горад. А яны якраз, прыносячы гарадам прыбытак, наадварот, павінныя служыць дзеля паляпшэння іх дабрабыту.

– Гэта крыўда для сялян, – адказаў пан Падстоліц, – калі яны губляюць частку сваіх прыбыткаў, і гэта не мае аніякае карысці для гарадоў, якія самі ж і плацяць за тое, што трацяць сяляне. Бо той, хто прывозіць у горад, скажам, бочку жыта, якая каштуе 20 злотых, калі заплаціць на рагатцы паўзлатоўкі, дык будзе патрабаваць за тое жыта ў горадзе 20½ злотага. Селянін коштам прадуктаў, а купец коштам тавараў павінны вярнуць тую надплату.

Спекулянт альбо карчмар, у адпаведнасці з патрачанаю за тавар сумай, спадзяецца на працэнт і заробак, дык за ўсю тую надплату, працэнт і прыбытак ад яе павінны залаціць спажывец – гарадскі жыхар.

Але і гэта яшчэ не ўсё. Гарады трацяць з-за гэтых падаткаў яшчэ і на тым, што адпуджваюць вяскоўцаў, бо аніводзін з іх, калі можа прадаць свае прадукты проста на віціне альбо дзе б там ні было, не паедзе ў горад, стараючыся прадаць у іншым месцы нават са стратаю ўласнага часу.

Падаражанне прадуктаў стрымлівае рост насельніцтва адпаведна таму, як яны даражэюць.

Гэты падатак, які ў выніку плацяць жыхары гарадоў за тое, што неабходна ім для жыцця, раскладаецца як на багатых, гэтак і на бедных, без увагі на тое, што нехта зарабляе адзін злоты ў дзень, а нехта мае сто злотых прыбытку, – несправядлівы. Бо кожны ў адпаведнасці са сваім чыстым прыбыткам павінны ўдзельнічаць у выкананні грамадскіх павіннасцяў.

Зрэшты, каб збіраць гэты падатак, трэба мець немалую колькасць людзей: урадоўцаў, стражнікаў, канцылярыю і г. д., якія замест таго, каб зарабляць на жыццё нейкім рамяством і ўдзельнічаць у паляпшэнні дабрабыту краю, наадварот, садзейнічаюць ягонаму заняпаду, бо самі нічога карыснага не робяць і дарам спажываюць напрацаванае іншымі, і ўвесь кошт іх утрымання кладзецца, урэшце, на жыхароў горада.

Каб мы яшчэ далічылі і тое, што ліпне да рук гэтых зборшчыкаў, усе тыя несправядлівасці, якія яны чыняць, усе рабункі ды прыкрасці, што звычайна спадарожнічаюць тым зборам, дык пераканаліся б, што гарадам значна лепш

было ліквідаваць гэты дадатковы падатак і наўпрост адлічаць адпаведныя складкі на публічныя патрэбы. Гэта і танней бы каштавала і больш роўна было б падзелена. Але гарады маглі б пашукаць яшчэ і іншыя прыбыткі замест тых аплатаў, нікога не абцяжарваючы, а наадварот, для ўсіх карысныя. Якраз гэта ўдалося мне наладзіць у маім мястэчку[XIII].

– Бруковае, прынамсі, патрэбнае, – заўважыў Уладзіслаў.

– Зусім непатрэбная. Большая частка тых, хто прыязджае, аддае сваю капейчыну, якая гіне ў руках зборшчыкаў; каменне таксама, як мы бачылі, цяжка ўпільнаваць; дык гэты падатак, цяжкі для сялян, не прыносіць карысці і для горада. Зрэшты, сяляне маюць уласныя вуліцы і дарогі, якія ўтрымліваюць без дапамогі мяшчанаў, дык, дзеля справядлівасці, і мяшчане мусілі б самі клапаціцца пра свае вуліцы.

Без усіх гэтых заплат нашыя тавары і вырабы былі б больш таннымі, лепш бы прадаваліся, і рамесніцтва на гэтым бы выйграла. Англія між іншых прычынаў свайго багацця і таннасці вырабаў, пэўна, не апошняю прызнае тую, што ўнутры краіны можна вазіць тавары з канца ў канец без аніякае аплаты па гарадах, без аніякага тлумачэння, хто і што вязе.

– Мосці Падстоліц, – звярнуўся да яго Уладзіслаў, – можа быць, гэтыя прычыны, сапраўды, стрымліваюць у нас рост гарадоў і рамесніцтва, але ж у іншых дзяржавах мы бачым гарады, якія, нягледзячы на вялікія падаткі і недасканалую адміністрацыю, што з'яўляецца агульнай рысаю ранейшае эканомікі, паляпшаюць усё ж свой дабрабыт, з-за таго, што маюць, здаецца, дастаткова рухомых капіталаў; а ў нас жа іх так мала, што немагчыма распачынаць нейкую справу.

– Нерухомыя капіталы, – адказаў пан Падстоліц, – можна было б пусціць у абарот, і гэтага хапіла б нават на вялікія справы; але на пачатак і рухомых, што ляжаць сёння альбо ледзьве варушацца, магло б хапіць. Не дазваляе іх выкарыстаць агульны заняпад крэдытавання, што сталася адной з галоўных прычынаў, якія стрымліваць у нас развіццё прамысловасці. Адсутнасць законаў пра даўжнікоў, адсутнасць усеагульнае гіпатэкі, няпэўнасць паручыцельства абываацеляў, неашчаднасць і марнатраўства шляхты, нарэшце, эксдывізіі завяршаюць заняпад грамадскага недаверу; а прадажнасць чыноўнікаў, як ты сам заўважыў, знішчыла рэшту гарантаванае правам абароны ўласнасці. І гэтая прычына – больш за іншыя – затрымала абарот капіталу і перашкаджае цяпер развіццю прадпрымальніцкага духу, без якога няма надзеі, каб жыццё ў гарадах нашага краю палепшала.

– Дух гэты, – запярэчыў Уладзіслаў, – менавіта цяпер у правінцыі нашай, здаецца, якраз пачаў адчувацца, што даводзяць шматлікія новапабудаваныя мануфактуры.

– Няхай не засціць надта нам вочы, – адказаў пан Падстоліц, – што на зямлі нашай узнікла некалькі мануфактураў. Гэта вынік высокае адукаванасці некалькіх руплівы абываацеляў. Не першы ўжо раз на нашай зямлі з'яўляюцца мануфактуры, але з-за таго, што былі яны адзінкавыя, хутка занепадалі.

І гэта натуральна, што яны мусілі занепадаць у канкурэнцыі з замежнымі фабрыкамі. Бо кожная мануфактура патрабуе шмат матэрыялаў і прыладаў, выробленых альбо на іншых мануфактурах, альбо прыватнымі рамеснікамі.

Фабрычныя абыходзяцца танней, чым купленыя ў рамеснікаў, і вытрымліваюць канкурэнцыю з замежнымі, а з-за таго, што за купленае ў рамеснікаў трэба даражэй заплаціць, і свае вырабы таксама трэба даражэй ацаніць; гэта выклікае цяжкасці ў збыце, а потым і саступіць ў канкурэнцыі з тымі, хто дастаўляе падобныя вырабы. Чым былі даўней для нашых мануфактураў англійскія і нямецкія, тым сёння сталі расійскія і польскія.

Апрача таго, выпісаныя майстры з часам мусяць выехаць, а нам, не маючы школ, цяжка падрыхтаваць сваіх; стала ж выпісваць новых – вельмі дорага. Нарэшце, мы ведаем, што няма такое мануфактуры, якая не патрабавала б з часам вялікага ўкладання капіталу, ці то з-за нейкага здарэння, ці з-за перабояў у збыце альбо дзеля пераменаў і ўдасканаленняў, але не цяжка сабе ўявіць, што ў краі, дзе няма рухомага капіталу, пры агульным недаверы амаль немагчыма знайсці ў такім выпадку дапамогу пад рукою, а трымаць на падобныя выпадкі ўласны фундуш, адмаўляючыся ад працэнтаў і прыбытку, было б яшчэ горш.

Таму няма аніякае надзеі на некалькі нашых цяперашніх мануфактураў, калі мы ўсе разам не зоймемся прамысловасцю, і калі тыя, ад каго гэта залежыць, не будуць старацца адолець перашкоды, якія гэты рост стрымліваюць[XIV].

Дык мы павінны сумленна падзякаваць тым, вартым пашаны нешматлікім абывацелям, якія заснавалі ў нас прамысловыя прадпрыемствы. Узнёслыя ў сваіх шляхетных пачуццях, яны ўласнымі сіламі стараюцца кампенсаваць тое, чаго не зрабілі суайчыннікі. Тыя некалькі мануфактураў, пабудаваныя ў краі, багатым на сыравіну, але пазбаўленым здатных рамеснікаў, капіталаў і добрага рынку для карыснага збыту; тыя некалькі вясковых школаў і ўзорных фальваркаў, якія ўзніклі як праўдзівая самаахвярнасць дзеля дабра краю, – з’яўляюцца каштоўнымі помнікамі высакародства і сапраўднага патрыятызму іх стваральнікаў. Вечная хвала тым мужам, што заснавалі ў нашай правінцыі першыя, а таму самыя складаныя прынцыпы публічнага дабра. Яны тысячам сямей далі ўжо сродкі для жыцця і, на ўвесь край распаўсюджваючы сваё дабрадзейства, паказалі шлях да шчасця, якое прызначанае нашай зямлі.

# Заўвагі да трэцяе часткі

**I**

У Вільні на пачостку для майстроў, якую ладзіць чаляднік, калі атрымлівае ступень майстра, у разліку на кожную асобу выдатак складае 2 чырвоныя злотыя. Можна сабе ўявіць, якая знішчальная гэта завядзёнка. Чаляднік за тры гады свайго чаляднітцтва, калі будзе ашчадны, ледзьве здолее сабраць на гэту пачостку; і тое, што меў бы патраціць на варштат альбо на гаспадарку, мусіць змарнаваць на пачостку для некалькіх дзясяткаў майстроў-канкурэнтаў. Без гэтае пачосткі ён не можа ані стаць майстрам, ані ажаніцца, ані мець гаспадаркі і ўтрымліваць варштат. Каб каторы ажаніўся альбо купіў уласны варштат без пачосткі, яго б назвалі *фушэрам*, гэта значыць, партачом, псавалі б яму рэпутацыю і, нарэшце, прымусілі б перабрацца ў вёску.

**II**

У Саксоніі і ва ўсёй Германіі, у многіх вялікасвецкіх дамах да́мы ў сваіх працоўных пакоях маюць гэткія механічныя варштаты і самі займаюцца ткацтвам. Гэта работа няцяжкая, бо трэба толькі надаваць рух нагою або корбаю. Пра тое, што парвалася нітка, асцерагае сама машына, спыняючы работу. У Прускай дзяржаве гэтыя машыны прадаюцца па 30 талераў (180 польскіх злотых). Можна на іх ткаць палотны, сукно, ядвабную, баваўняную, батыставую тканіны і г. д. Работа ідзе на іх гэтак хутка, што чаўнок прабягае за гадзіну 3.500 разоў. Гэтая машына можа быць выкарыстана на два варштаты, якія з дапамогаю вады альбо каня, вырабляючы за раз чатыры штукі, патрабуюць для нагляду толькі адну асобу. Улічвае работу сама машына.

**III**

На звычайным калаўроце, дадаўшы другую шпулю, можна добра спрадаць дзве ніткі разам. У Ясельскім павеце[90] так прадуць малыя дзяўчынкі; у Аўстрыі ў Мюльфіртэлі[91] ў 1790 годзе з вялікаю карысцю ўведзены гэты спосаб. Адзін парабак з-пад Пасау[92], вярнуўшыся з Мюльфіртэлю, навучыў гэтаму сваіх землякоў і распаўсюдзіў гэты спосаб сярод іх. На Русі ў Галіцыі, на Шлёнску і ў Саксоніі прадуць усе: кабеты і мужчыны, нават пастухі, пасучы жывёлу. Кудзелю яны тады прывязваюць да капелюша.

**IV**

Паводле разлікаў Пяльчынскага[93], у 1828 годзе ў Віленскай губерні была 71 мануфактура. На іх працавала 457 чалавек. З гэтых мануфактураў толькі 3 былі суконныя, самага простага сукна, іншыя – скураныя, невялікія. Пародзістых авечак і мерыносаў[94] у гэтай губерні было 9.000.

З таго часу было створана ў гэтай губерні некалькі іншых, больш значных мануфактураў, між імі – паперня яснавяльможнага Пуслоўскага[95], першая ў гэтай правінцыі, якая заслугоўвае называцца паперняю; таксама мануфактура палатна і паркалю кн. Агінскага[96].

У Гродзенскай губерні колькасць мануфактураў меншая, бо толькі 25. Але тут – найважнейшыя мануфактуры нашае правінцыі. Працаўнікоў у іх – 1.840. Мерыносаў і пародзістых авечак у гэтай губерні налічвалася ў 1828 г. блізу 100.000.

У Беластоцкай вобласці – 25 мануфактураў, працаўнікоў 535, добрых авечак блізу 50.000.

У Валынскай губерні – 18 мануфактураў, амаль усе суконныя, працаўнікоў – 3.825 (большая частка – жыды), добрых авечак – блізу 100.000.

У Падольскай губерні – 24 мануфактуры, працаўнікоў – 575, добрых авечак – блізу 25.000.

У Кіеўскай губерні – 13 мануфактураў, працаўнікоў – 2.600, добрых авечак – блізу 75.000.

("Dziennik rękodzieł i handlu" 1828, nr 4)[97].

У Магілёўскай губерні ў 1824 г. было: суконных мануфактураў – 3, выраблялася ў іх на 27.400 руб. асігн.

| | | |
|---|---|---|
| Палатняных | 3 | 65.200 руб. асігн. |
| Парусіны | 1 | 56.200 |
| Баваўняных | 2 | 18.600 |
| Паруснага палатна | 1 | 60.000 |
| Шкляных гут | 7 | 92.600 |
| Свечачных | 1 | 37.500 |
| Гарбарня | 1 | 3.600 |
| Медных гут | 3 | 62.000 |

("Archiwum północne" 1824, nr 19)[98].

У Мінскай губерні ў 1828 г. найбольш значныя мануфактуры былі наступныя:

| | | Колькасць варштатаў | Выпрацавана | Колькасць працаўнікоў |
|---|---|---|---|---|
| Суконных | 7 | 29 | 12.683 аршыны | 131 |

Усё сукно нізкага гатунку ў тым ліку і байка.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Паташных | 2 | | 355 пудоў | 26 |
| Шкляных гут | 3 | 9 печаў | | 155 |
| Гамарняў | 9 | 12 печаў | | 35 |
| Ядвабных | 1 | 1 варштат | $16^{1/2}$ арш. | 2 |
| Разам | 22 | | | 249 чалавек |

(Выпіска з афіцыйнае інфармацыі Мінскае скарбовае палаты на 1929год)[99].

Але гэтыя звесткі недакладныя, бо сам аўтар ведае ў Мінскай губерні некалькі суконных мануфактураў, незгаданых у гэтай інфармацыі, пару мануфактураў талесаў[100], некалькі меншых шкляных гут і некалькі гарбарняў. Аднак нават каб ва ўсіх гэтых мануфактурах было б яшчэ столькі ж працаўнікоў, дык атрымалася б 500 чалавек на 1.000.000 жыхароў губерні.

У Віцебскай губерні вельмі мала займаюцца рамесніцтвам: ёсць толькі 2 суконныя мануфактуры малое вартасці, 2 талясовыя, 1 шкляная гута, 1 мануфактура лоевых свечак і па пары дзясяткаў гарбароў у Віцебску і Полацку. Нават свае суконныя мануфактуры, хоць і малыя, яна не можа забяспечыць уласнаю воўнаю, – прывозіць яе з суседніх губерняў.

("Dziennik rękodzieł i handlu" 1828, nr 4).

### V

Як расце ў Расіі колькасць мануфактураў, можна ўявіць сабе з наступнай інфармацыі:

У 1812 г. усіх мануфактураў у Расіі было 2325.
1816 3733.
1820 4558.
1824 5286.

Не ўлічваючы пры гэтым дробных, з адным варштатам, што амаль у кожным сялянскім і мяшчанскі доме можна знайсці.

("Gazeta handlowa" 1827, nr 26).

У 1831 г. лічба мануфактураў дасягнула 5799, апрача тых, што належалі Дэпартаменту горнае прамысловасці, і асобных сялянскіх.

(Справаздача Дэп. мануфактураў і гандлю за 1832 год)[101].

**VI**

"У кожнай краіне, – піша Ж.Б. Сэй, – чым больш вытворцаў, чым больш разнастайная прадукцыя, тым прасцей наладзіць шырокі збыт і, відавочна, з-за натуральных прычын, збыт стане больш прыбытковым, бо попыт падымае цану" (*Трактат па палітычнай эканоміі*, т. I, кн. I, раздз. XV)[102].

**VII**

"Кожны зацікаўлены, – піша той самы аўтар (тамсама), – каб добра ішлі справы ва ўсіх, бо поспех у адным рамястве спрыяе ўсім іншым рамёствам. <…> Купец, які жыве ў прамысловым і заможным горадзе, прадае даражэй, чым у бедным кутку, дзе ўкаранілася нядбальсва і гультайства. І чаго дасягне самы працавіты рамеснік, увішны купец ў глухіх кутках Вестфаліі[103] альбо Польшчы? Хоць і не спаткае там аніводнага канкурэнта, але мала прадасць сваіх прадуктаў, бо мала там іх вырабляецца, а тым часам у Парыжы, у Амстэрдаме, у Лондане, нягледзячы на невымерную канкурэнцыю мноства купцоў, кожны можа мець прыбытак са сваіх спекуляцый. Прычына гэтае розніцы вельмі простая. Ён мае вакол сябе мноства людзей, якія прадукуюць розныя рэчы і якія за тое, што выпрадукавалі, набываюць іншыя прадукты".

Далей гэты ж аўтар піша: "Кожны народ павінны жадаць, каб іншым шанцавала і з-за гэтага быць упэўненым у тым, што можа скарыстацца іх заможнасцю. Дык не памыляўся ўрад Злучаных Штатаў, калі пастанавіў у 1812 г. адукаваць крыкаў[104], сваіх дзікіх суседзяў. Хацелі запачаткаваць у іх рамесніцтва і зрабіць з іх вытворцаў, каб мелі што даць таксама сваім саюзнікам. Бо ад такога народу, які не мае чым плаціць (грашыма альбо прадуктамі), нічога і атрымаць немагчыма".

**VIII**

Кошт вартасці маёнткаў у Літве і ў Беларусі можна лічыць блізу 2.000 мільёнаў польскіх злотых. Каб землеўласнікі гэтых правінцый, карыстаючыся дадзеным ім урадам правам уносіць прапановы пра свае патрэбы і карысці, прасілі пра заснаванне крэдытнага таварыства, падобнага на тое, якое заснавана ў Польскім каралеўстве, дык можна было б смела дапусціць, што капітал таварыства склаў бы палову кошту вартасці маёнткаў. Бо можна меркаваць, што даўгі землеўласнікаў перакрочваюць палову кошту вартасці маёнткаў. Такім чынам, найменш палова сумы нерухомага капіталу гэтых правінцый магла б пайсці ў абарот і быць выкарыстана на развіццё рамесніцтва.

А з-за таго, што гэткі вялікі капітал не хутка знайшоў бы выкарыстанне, добра было б, можа, не спыніцца на адным толькі стварэнні капіталу рухомага, але, узяўшы яго за аснову, заснаваць таварыства з больш высокай мэтай: ***паляпшэння дабрабыту***, якое б ахапіла ўсе патрэбы і выкарыстала б усе сродкі для эфектыўнага развіцця гэтых правінцый. Напрыклад, падрыхтоўка рамеснікаў, заснаванне тэхналагічных, гандлёвых і земляробчых школаў; пабудова найбольш патрэбных мануфактураў – для вырабу сельскагаспадарчых і рамесніцкіх машын: льнаапрацоўчых, бавоўнаапрацоўчых, скурaапрацоўчых, для вытворчасці цукру з буракоў; ачыстка рэк і капанне каналаў, паляпшэння гатункаў дамашняе жывёлы; касы супрацьпажарныя, ашчадныя і страхавання; ламбарды ў вялікіх гарадах; узорныя фальваркі і, нарэшце, вызначэнне неабходных галін рамесніцтва і спрыянне збыту прадукцыі – было б мэтаю такога таварыства.

Прыватныя намаганні асобных землеўласнікаў, хоць і вельмі прадбачлівых, заўсёды бываюць абмежаваныя, калі не ў мэтах, дык у сродках і магчымасцях выканання. А там, дзе вынік не можа быць дасягнуты ў адным месцы і за кароткі час, немагчыма

яго запэўніць інакш, чым ствараючы такую моц, якая ані месцам, ані часам не можа быць абмежаваная. Такою моцаю для развіцця рамесніцтва ва ўсёй правінцыі магло б быць толькі падобнае таварыства.

Значныя кошты, якіх бы вымагалі мэты такога таварыства, асабліва на справы, якія не вяртаюць, як правіла, выдаткаў, напрыклад, навучанне, узорныя фальваркі і т. д. маглі б быць узятыя з пэўнае часткі працэнтаў таварыства. Калі б, напрыклад, кожны, хто пазычае ў касе таварыства нейкую суму, абавязваўся плаціць з яе на гэту мэту чвэрць аднаго працэнта ўвесь час, за які павінна быць выплачаная пазыка, хоць бы нават выплаціў яе датэрмінова, таварыства мела б штогод каля $2^{1/2}$ мільёнаў у сваім распараджэнні. Палова гэтае сумы, прызначаная на сталы фундуш майстэрняў на трыццаць з нечым гадоў, запэўніла б іх утрыманне і далей, а паловы штогод патрачанае хапала б на куплю некалькіх сотняў валок зямлі дзеля сялянскіх школаў, хоць бы такіх было па 10 у кожным павеце, на стварэнне пару дзясяткаў ўзорных фальваркаў і сельскагаспадарчых школаў для абывацеляў, на ўтрыманне ў гарадах рамесніцкіх школаў, а таксама вышэйшых вучэльняў ды на іншыя справы.

Гэткім чынам, сябры таварыства, плацячы меншыя, чым звычайна, працэнты, гэта значыць, $4^{1/2}$ замест 5 альбо 7 і больш, спакваля пазбавіліся б даўгоў, якія сёння іх руйнуюць, і коштам малое ахвяры паднялі б вартасць сваіх маёнткаў з дапамогаю развіцця рамесніцтва ў краі.

Каб толькі ў нас магло ўтварыцца таварыства з такімі шырокімі мэтамі, дык няварта і сумнявацца, што знайшліся б з іншых крыніц фундушы на карысныя справы. Мы ведаем, як рупяцца некаторыя нашыя суайчыннікі пра агульнае дабро, але паасобку яны не маглі анічога карыснага для рамесніцтва здзейсніць; аднак ведаем, што са шкодаю для сваіх фундушаў, наколькі гэта магчыма прыватна, яны засноўваюць школы для сялянаў, плацяць за выхаванне сірот, будуюць патрэбныя мануфактуры, пераадольваючы ўсе цяжкасці. Пэўна, яны не ашчаджалі б ахвяраванняў на падтрымку намераў, якія гарантуюць паляпшэнне нашага дабрабыту ўвогуле.

Для таго, каб паказаць, якая можа быць шматлікая і неспадзяваная падтрымка карысных спраў, калі людзі дзейнічаюць пад уплывам нейкага важнага стымулу, ахвотна спяшаючыся з дапамогаю, дастаткова нагадаць наступны фрагмент з часопіса “The missionary register”[105]:

“Аніводзін міністар, самы спрытны ў майстэрстве атрымання грошай, не мог бы ўжыць гэтулькі спосабаў, колькі знайшлося ў дасціпных дарэктараў англійскае місіі, альбо колькі далі неабыякавыя да гэтае справы. Скарбонкі, размешчаныя ў майстэрнях і грамадскіх ды прыватных дамах, прыносілі нямала; а яшчэ большыя былі ахвяраванні са школаў і моладзевых сходаў. Дамскія таварыствы ўносілі значныя складкі. Некаторыя да́мы на карысць місіі прадавалі свае дробныя вырабы, іншыя – рэчы, якія выйшлі з ужытку, іншыя прызначалі на гэта картачныя выйгрышы. У часопісе “Evangelical magazine” знаходзіцца, між іншым, наступная інфармацыя: за запалкі – 26 польскіх злотых, за пазыку духоўных кніг – 58 польскіх злотых, за нядзельныя ўрокі – 15 польскіх злотых, за мышалоўкі – 29 польскіх злотых і г. д. Тут крамнік адкладае дзеля гэтае мэты няцотны грош, выручаны з дзённага продажу, і заахвочвае сваіх таварышаў, каб рабілі тое самае; там спекулянт, бяднейшы за яго, адкладае няцотны шэлег. Жонка аднаго з адстаўных жаўнера, які ляжыць ў шпіталі ў Грынвічу, прынесла на сход місіянераў торбачку з 960 аднаграшовікамі. Пэўны мешчанін аддае штогод прыбытак з аднае вішні. Вучаніцы пансіянату прыносяць у нядзелю тое, што наашчаджалі за тыдзень. Часам працаўнікі майстэрняў, сабраўшыся разам, арганізуюць добраахвотную складчыну дзеля гэтае мэты; часам слугі з розных дамоў, сабраўшыся на забаву, прызначаныя на яе грошы вырашаюць пакласці ў місіянерскую скарбонку. Адзін грамадзянін прынёс 4.000 польскіх злотых, а другі 6.000 ахвяраваў Богу на карысную справу за неспадзяваны дар фартуны. Пэўная матка прынесла 200 польскіх злотых як знак удзячнасці за выздараўленне дзіцяці; іншая – 600 польскіх злотых за продаж

непатрэбных ёй завушніц. Адна сляпая кабета, якая жыла з таго, што рабіла кошыкі, ахвяруе 600 польскіх злотых, якія не выдаткавала на свечкі за дзесяць з нечым гадоў".

Таварыствы, падобныя таму, пра якое мы гаворым, хоць і з менш значнымі мэтамі, заснаваныя ў шмат якіх краінах. У 1754 г. англічане першыя далі прыклад таварыства, якое мела на мэце падтрымку ўсіх галінаў прымысловасці. У 1807 г. налічвала яно ўжо 1.600 сяброў розных станаў; ахвотна гарнуліся да яго багатыя і адукаваныя, бо кожны бачыў, што не адна толькі ўласная карысць, але жаданне агульнага дабра кіравала супольнікамі. У 1802 г. падобнае таварыства было заснаванае ў Францыі; у 1813 г. яно налічвала ўжо 1.100 сяброў, якія плацілі штогод па 36 франкаў на выдаткі ў адпаведнасці з мэтаю таварыства. У 1822 г. у Прусіі было створана таварыства падтрымкі нацыянальнае прымысловасці, выключаючы толькі сельскую гаспадарку, бо дзеля гэтае мэты існавала ўжо некалькі таварыстваў. З таго часу амаль ва ўсіх краінах з'яўляліся падобныя, з больш-менш падобнымі намерамі таварыствы, якія не ашчаджалі ані працы, ані грошай дзеля дабра Айчыны і народу. Толькі мы аніводнага не маем да гэтае пары. Але ж усе нашыя магчымасці прадракаюць, што мы маглі б не толькі зраўняцца з іншымі ў паспяховасці, але і пераўзысці іх, каб толькі прамысловы і прадпрымальніцкі дух выцягнуў нас са спячкі.

## IX

Калкагун[106] у працы *Пра нацыянальнае багацце Англіі*, параўноўваючы кошты англійскае і французскае прадукцыі, падае наступныя вынікі.

| | У Англіі | У Францыі |
|---|---|---|
| Земляробства і рыбная лоўля | 218.917.624 ф. ст. | 194.946.203 ф. ст. |
| Мануфактуры і горная прамысловасць | 123.230.00 | 75.837.600 |
| Унутраны і знешні гандаль | 88.373.748 | 26.542.122 |
| | 403.521.373 | 297.325.925 |

Гэта значыць, што на кожную асобу ў Англіі прыпадае гадавога прыбытку каля 20 фунтаў стэрлінгаў, а ў Францыі – каля 10.

У нас, беручы ў сярэднім прыбытак толькі з земляробства, бо прыбытак з рамесніцтва і гандлю ў нашай правінцыі да гэтага часу яшчэ мала заўважны, можа быць наступнае.

Звычайна мы лічым на маёнткавых палетках па бочцы пасеву азімага на адну сялянскую хату. Прыбытак з бочкі пасеву можна лічыць – больш-менш – 10 срэбраных рублёў; яшчэ столькі – за яравое і за сена; 3 рублі з дыму прапінацыі[107] і столькі ж складае прыбытак самога селяніна; таму ўвесь сельскагаспадарчы прыбытак на адну сялянскую хату складае блізу 300 злотых. А ў разліку, што хата ў сярэднім – шэсць душ, атрымаецца на адну асобу 50 злотых, гэта значыць, у параўнанне з англійскімі прыбыткамі як 1 да 16, а з французскімі – як 1 да 8. Зважаючы, аднак, на абшар нашае зямлі і на яе прыродную ўраджайнасць, каб мы вырошчвалі на ёй тое, што прыносіць прыбытак, і каб яшчэ рамесніцтва і гандаль у нас расквітнелі, можам меркаваць, што няцяжка было б нам прыйсці да таго, што нашы прыбыткі зраўняліся б з англійскімі, з яшчэ большым чыстым прыбыткам, бо нам менш трэба выдаткоўваць на паляпшэнне раллі, а сыравіны для мануфактураў у нас непараўнальна больш, і яна таннейшая.

## X

На што здольная руплівасць абывацеляў, калі яны шчыра возьмуцца за рамесніцтва, даводзіць прыклад Паўночнае Амерыкі. З 1809 г. пачалася тая цудоўная эпоха. Паўсюль у Паўночнай Амерыцы ствараліся мануфактуры і адкрывалі багатыя крыніцы заможнасці. Не кажучы пра цывілізаваныя ейныя правінцыі, згадаю толькі пра цудоўныя поспехі двух нованаселеных. Агая[108] 20 гадоў таму была пустыняю, заселенаю дзікімі плямёнамі, у 1810 г. праз некалькі гадоў пасля таго, як з'явіліся тут першыя пасяленцы, ужо выпрадукавала яна 2.000.000 ярдаў суконных, баваўняных і льняных

тканінаў; выгнала 1.000.000 галонаў гарэлкі, 13.000.000 фунтаў цукру і г. д. на 18.000.000 польскіх злотых. Восемсот караблёў з грузам сельскагаспадарчае і мануфактурнае прадукцыі выходзіла адтуль.

Графства Джэферсон на ўсходнім беразе возера Антарыа ў 1800 г. было яшчэ пустыняю, а ў 1810 г. ужо выпрадукавала 165.000 ядраў сукна з уласнае воўны. Паводле рэвізіі таго ж году, мелася там 660 ткацкіх варштатаў, 16 гарбарняў, 8 суконных мануфактураў, 5 машын для часання воўны, 2 піваварні і 7 мануфактураў для выпрацоўкі паташу.

Як толькі ў 1809 г. у Злучаных Штатах пачалося развіццё прамысловасці, мінералогія стала прадметам агульнай увагі, а нацыянальным гонарам стала адмовіцца ад усялякіх чужых тканінаў для адзення. Кошт воўны падняўся з 6 да 18 польскіх злотых за фунт, а кошт зямлі гэтак вырас, што ў шмат якіх месцах прадавалася паўморга зямлі за 2–3 тысячы польскіх злотых (Бардэн, *Пра стан мануфактураў і гандлю ў Злучаных Штатах*).

## XI

Вядомы на ўвесь свет барон Чарльз Дюпэн (Dupin)[109], даказваючы, якую вялікую карысць прыносіць для краю адукацыя, у сваім творы пад тытулам *Effets de l'enseignement populaire sur les prospérités de la France*, 1826 (*Уплыў народнае адукацыі на росквіт Францыі*) параўноўвае дзве паловы Францыі: адну, у якой пашыраецца адукацыя, і другую, дзе вучацца менш, і паказвае значную перавагу першае над другою. Раздзел называецца: *Statystique morale de la France Septentrionale de la France meridionale.*

Аўтар лічыць, што дэпартаменты, размешчаныя менш карысна з геаграфічнага пункту гледжання, больш прыклалі намаганняў дзеля адукацыі і таму пераўзышлі ў дастатках дэпартаменты, дзе зямля больш урадлівая, і яны выгадней размешчаныя, але з горшай адукацыяй.

І вось паўднёвыя – ад Жэневы да Сен-Мало[110] – 54 дэпартаменты, якія налічваюць 18 мільёнаў жыхароў, маюць 375.931 вучняў; 32 паўночныя дэпартаменты, якія маюць 13 мільёнаў жыхароў, налічваюць 740.846 вучняў. Гэта значыць, у паўночных на 1 мільён жыхароў – 56.988 вучняў, а ў паўднёвых на гэтую ж колькасць – 20.885.

Але на поўначы, дзе можна вырошчваць менш карысных раслін, а менавіта: няма ані алівы, ані апельсінаў, ані лімонаў, рэдка дзе расце шаўкоўніца і вінаград, аднак падаткі складаюць 127.634.763 франкаў з 18.692.191 гектараў зямлі; калі на поўдні з 84.841.233 гектараў зямлі плацяць падатку толькі 125.412.969 франкаў. Гэта значыць, з мільёна гектараў адукаванае Францыі ўрад мае 6.820.000 франкаў прыбытку, а з мільёна гектараў менш адукаванае – толькі 3.599.700 франкаў.

З патэнтаў урад мае ў паўночнай Францыі 15.274.456 франкаў прыбытку; у паўднёвай – толькі 9.623.733. Дык мільён адукаваных французаў плаціць за патэнты на сваё рамесніцтва 1.174.958 франкаў, а мільён менш адукаваных – толькі 534.652 франкі. Альбо: разам з зямельным падаткам поўнач дае з мільёна жыхароў 7.637.000, а поўдзень – 3.875.916. Прапарцыянальна колькасці вучняў. Калі падзяліць увесь падатак на колькасць вучняў, дык атрымалася б, што ў паўночнай Францыі ад кожнага вучня скарб атрымае 10 франкаў і 31 сантым прыбытку. І ў паўднёвай Францыі, калі раскласці ўвесь прыбытак скарбу на колькасць вучняў, дык таксама атрымалася б, што ад кожнага па 10 франкаў і 31 сантым. Гэтае падабенства вартае асаблівае ўвагі.

Далей аўтар падае яшчэ шмат пераканаўчых фактаў, як адукацыя спрыяе развіццю мануфактураў, дастатку і разумовае культуры; між іншым, звяртаючы ўвагу на наступнае:

З 1791 да 1825 г. выдадзена дыпломаў за вынаходніцтвы: у паўночных дэпартаментах – 1689, у паўднёвых – 413.

Цягам 13 гадоў прынята ў Політэхнічную школу[111]: з поўдня – 700 вучняў, а з поўначы – 1233. N. B. Вучні, якіх прымаюць у гэтую школу, павінны быць ужо добра падрыхтаваныя.

На прамысловай выставе ў 1819 г. выдадзена ўзнагарод:

| | на 32 паўночныя дэпартаменты | на 54 паўднёвыя дэпартаменты |
|---|---|---|
| залатых медаляў | 63 | 26 |
| срэбраных | 136 | 45 |
| бронзавых | 94 | 36 |
| | 293 | 107 |

## XII

Уладзіслаў Ягелончык[112] у той час, калі ва ўсёй Еўропе штораз мацней аблытвалі мануфактуры living пастановамі, першы скасаваў у Польшчы брацтвы і цэхі, дазваляючы кожнаму ў поўнай свабодзе працаваць у якім заўгодна рамястве. І сапраўды, з ягоных часоў, асабліва пад уладаю Жыгімонтаў[113], нашыя гарады, карыстаючыся поўнаю свабодаю ў рамесніцтве і пад пільнаю апекаю ўраду, дасягнулі значнае заможнасці. Толькі падчас нашае анархіі цэхі, зноў вернутыя Канстытуцыяй 1768 г.[114] ва ўсёй Рэчы Паспалітай, давялі да заняпаду гарады і мануфактуры.

Калі хто пажадае больш аргументавана пераканацца ў іх шкоднасці, няхай прачытае ў працы Адама Сміта *Пра багацце народаў* кн. I раздз. 10, кн. IV раздз. 7 і г. д. альбо Ж.Б. Сэя *Трактат палітычнае эканоміі* кн. I раздз. XVII. Шмат можна знайсці пра злоўжыванні і шкоднасць цэхаў у Ф.Х. Фішэра[115] *Lehrbegriff Sämtlicher Kameral und Policeyrechte, sowohl von Deutschland überhaupt, als insbesondere in den Preuss Staaten*, Frankfurt an der Oder 1785, 8.3. Band, § 478–557 (*Канцэпцыі выкладання ўсяго камеральнага і паліцэйскага права ў абодвух Германіях, а асабліва ў Прусіі*). Таксама ў “Allgem: jurist. Oracul.”[116] III, 349–8; V, 1–160 і IX і г. д.

З нашых пісьменнікаў – у Суравецкага[117] *O upadku miast i przemysłu w Polszcze*, а найбольш аргументавана – у графа Фр. Скарбка[118] ў выдатнай працы *O gospodarstwie narodowem*, т. IV, ч. II, раздз. 7: *Пра цэхі*.

## XIII

Параўнайма чысты прыбытак ад брамнага падатку з тым, у колькі ён абыходзіцца спажыўцам. Якую б колькасць не ўзялі для аналізу павелічэння гэтай надбаўкі, прапорцыя заўсёды будзе аднолькавая. Возьмем, напрыклад, тыя самыя 15 грошаў з бочкі жыта.

На аплату афіцыялістаў[119], канцылярыі, стражнікаў і на іншыя выдаткі можна лічыць пятую частку прыбытку, дык з 15 грошаў чыстага прыбытку будзе 12 грошаў.

Тым часам спекулянт, які купіў гэтую бочку жыта і заплаціў надбаўку 15 грошаў, прадаючы яе, павінны сваю суму і надбаўку вярнуць з працэнтамі, скажам – з дзесяцю; гэта значыць, што надбаўка з ягоных рук выйдзе ўжо як $16^{1/2}$ гроша.

Млынар, купляючы ў яго гэтую бочку жыта і гэтаксама налічаючы адпаведны выдаткаванай суме працэнт на заробак і прыбытак, мусіць дадаць сама мала 20 працэнтаў, гэта значыць, ад $16^{1/2}$ гроша – $3^{1/2}$ гроша.

Пекар, заплаціўшы яму тыя 20 грошаў, калі задаволіцца 20 працэнтамі, мусіць за 20 грошаў узяць са спажыўца 24 грошы.

А таму жыхары горада, каб атрымаць свой прыбытак 12 грошаў, мусяць плаціць удвая. І прапарцыянальна больш: чым праз большую колькасць рук тавар пройдзе і чым большы ў кожныя рукі прыбытак прынясе.

Што гэта прапорцыя – надбаўка 9 грошай да пачатковага падатку 15 грошаў – неперабольшаная, пераконвае кошт хлеба ў параўнанні да кошту збожжа. Бо калі бочка жыта каштуе на рынку 30 польскіх злотых, хлеб павінны быць па $1^{1/2}$ гроша за фунт (паводле аксіомы нашых пекараў: колькі рублёў бочка жыта, столькі шэлегаў фунт

хлеба). Гэта значыць, што бочка жыта, з якой выпеклі хлеб, павінна пасля продажу хлеба прынесці ўдвая больш, чым каштавала; альбо ў нашым прыкладзе – 60 злотых польскіх.

Таму, лічачы кожны грош удвая, выходзіць, што спажывец, каб атрымаць прыбытак 12 грошаў, павінны заплаціць 30 грошаў. Гэта немалы выдатак. У Вільні, напрыклад, чыстага прыбытку з усіх брамных аплатаў бывае некалькі тысяч рублёў срэбрам. Каб толькі спажыўцы дарам плацілі ўдвая, пэўна, з большым для горада прыбыткам было б прызначыць наўпрост на ўсіх жыхароў падатак адпаведны дастатку кожнага і які б складаў столькі, колькі з брамных аплатаў павінна быць чыстага прыбытку.

Такім чынам і падатак быў бы раўней раскладзены, і не адстрашваў бы сялянаў і купцоў, і не забіраў бы мноства рук, якія выкарыстоўваюцца, каб яго сабраць, і, нарэшце, некалькі дзясяткаў тысяч рублёў, не патрачаных упустую, далі б магчымасць пракарміць, а, прынамсі, палепшыць жыццё самага ўбогага класу людзей.

## XIV

Слухайма, што кажуць французы пра свае мануфактуры: (*Mêmoire sur les moyens de fonder la prospéerité des fabriques françaises en leur assurant des débouchés au déhors*).

“Як жа сумна параўнаць нам англійскія альбо амерыканскія порты і нашы! У нашых так ціха, так пуста! Калі які ветразь у іх падымецца, амаль заўсёды будзе гэта з чужым сцягам.

Гандлю не стае Францыі, бо дух, які яго творыць, знік. Нам варта абудзіць дух прадпрымальніцкі, дык гандаль зноў расквітнее. А меркаванне, што мы вядзём вялікі гандаль, падманвае шмат каго – мноства крам пышна аздобленых і поўных featured рознага тавару, загадвае ім лічыць, што гандаль квітнее. Сумная памылка. Гэтая колькасць тавараў даводзіць развіццё рамесніцтва і багацця яго прадукцыі; гэтая колькасць крам даводзіць, што спекулянты і крамнікі лічацца купцамі, але розніца паміж імі невымерная. Купцом з’яўляецца той, чый подпіс ад аднаго да другога канца свету шануецца, караблі якога сустракаюцца ў моры... Колькі ж такіх купцоў ёсць у Францыі? (“*Recueil industry. manuf. agric. et Commerc.*”, № 7 an. 1827)[120].

Калі французы, якія штогод вывозяць за мяжу на 200 мільёнаў свае прадукцыі, скардзяцца яшчэ на недахоп прадпрымальніцкага духу, дык як жа нам не скардзіцца, не маючы амаль мануфактураў і аніводнага купца?

# Частка чацвёртая

# ІДЭАЛЫ

Lecz jak umieć używać, jak na swojej niwie,
Wpośród czynnej swobody, umieć żyć szczęśliwie;
Możnaż tego nauczyć? Nie, i moje pienia,
Unikając surowej powagi, uczenia,
Obraz tylko natury wystawują miły,
Oby jej wdzięki wszystkich serca zachwyciły!

A. Feliński, *Człowiek wiejski*[1]

## Раздзел першы

# ШЛЯХЕЦКІ ДОМ

Nad brzegiem góry siedzi dom samotny,
Co dawne Goty piękniejszego miały.
Jak przed lat tysiąc budował wiek zwrotny,
Okna, drzwi, ściany i skład domu cały.
Wszystko to ręka świadoma zebrała,
Nowej robocie starą duszę wlała.
... Tam ryba, między milczącemi brzegi
Ma wśród wód cichych spokojne noclegi;
Dalej tamami zatrzymane wody…
Poniżej strumień i drzew wieczne chłody.

Fr. Karpiński, *Na dom Gotycki*[2]

Не казаў пан Падстоліц, што прыехаў у межы ўласнага маёнтка. Уладзіслаў сам здагадаўся пра гэта па ягоным праяснелым твары, па вачах, якія радасна заззялі, па той нецярплівасці, якую ніхто ў сабе не здолее стрымаць, калі набліжаецца да месца, з якім звязаныя самыя прыемныя пачуцці, дзе праз момант зноў убачыць каханую жонку, любую сям'ю, прыяцеляў, з якімі дзяліў агульны лёс. І яшчэ Уладзіслаў здагадаўся пра гэта з-за лесу, праз які яны ехалі, бо ён быў чысты, а ўзбоч дарогі цягнуўся глыбокі роў; сама ж дарога – простая і больш шырокая за іншыя прыватныя – была падсыпаная і з канавамі ды каменнымі мастамі ў нізкіх месцах.

Усё, што трапляла ў поле зроку, сведчыла пра густ і руплівасць гаспадара. У далінах натуральна выгнутыя палоскі размяжоўвалі вялікія лясныя дзялянкі і фармавалі з іх узгорыстыя клумбы. Дзе-нідзе на ўзлеску хатка лесніка з нізкім берасцяным дахам ажыўляла бязлюднае наваколле. Часам пасярод лугавіны дужы векавы дуб, стоячы ў адзіноце, прыкрываў сваім ценем лёгкую агароджу крыніцы, а лаўка з паддашкам каля яе заклікала падарожнага адпачыць і падумаць. Там зграбны масток, перакінуты праз рэчку, і лугавая сцежка з аднае пушчы ў другую альбо камень у атачэнні некалькіх ліпаў, што адбеглі ад сваіх таварышак, прыцягвалі ўвагу падарожнага і скіроўвалі яго думкі ў краіну ўспамінаў альбо ў свет фантазій пра шчаслівую нявіннасць першабытных жыхароў.

Раптам з пагорка адкрыўся маляўнічы краявід. Шырокая даліна, асаджаная з двух бакоў няроўнымі ўзгоркамі, што зараслі ліпавымі і бярозавымі гаямі ў восеньскай ужо барве, выгіналася ўздоўж цячэння ракі. На схілах узгоркаў з абодвух бакоў даліны на рознай адлегласці віднеліся дамы розных колераў і рознае формы ў атачэнні дрэваў, адпаведных стылю будынка.

Тут гарызантальныя лініі, шырокія карнізы, франтоны на дахах сярод клёнаў, явараў, грабаў ды пірамідальных таполяў цешылі вока гледача прыгажосцю грэцкага дому. Там, паміж ніцаю вярбою, акацыяй і серабрыстаю

таполяю, выгнуты дах, шматлікія малыя вузкія вокны выкрывалі кітайскі дамок пры самым яры. Там бенгальскі спічасты дах, накшталт намёту, ды сцены пры дзвярах і вокнах у шашачкі з умацаванага тоўстага бярвення ў атачэнні развесістых бярозаў, ясеняў, каштанаў ды ліпаў, здавалася, хацелі схавацца ў выгнутым амфітэатры пагорку. Там-сям купал і шырокі падстрэшак, які далёка высоўваўся за вертыкаль сцяны, наследуючы маўрытанскі дамок, узвышаліся над зараснікам крушыны, акацыі, ляшчыны ды кізілу.

На схілах на рознай вышыні вясёлыя швейцарскія дамкі з ганкамі і англійскія з гарызантальнымі карнізамі ды спічастымі вокнамі і дзвярыма сярод піхтаў, грабаў, ялінаў, ліпаў, клёнаў, ядлоўцу з'яўляліся і знікалі то па адным, то па некалькі разам. І рассыпаныя па лугах чароды і статкі, і ўвішныя сяляне, і некалькі чаўноў, якія цягнулі сеткі па рацэ – гэтак разнастаілі і ўпрыгожвалі краявід, што Уладзіслаў, захапляючыся яго маляўнічасцю ды віншуючы пана Падстоліца, што той жыве ў такой цудоўнай мясцовасці, усім сэрцам жадаў прытрымаць коней, каб нацешыцца чароўнымі відамі гэтага кутка, якія змяняліся адзін за адным.

– О, якая райская даліна! – казаў ён у захапленні. – О, як прыемна тут павінны ісці час сярод людзей, што гэтак густоўна аздабляюць месца свайго побыту! Як шмат тут суседзяў! Не праехалі мы яшчэ і чатырох міль, а ўжо мінулі некалькі дзясяткаў фальваркаў. Усе, відаць, людзі заможныя і гаспадарлівыя, калі ім хапае на гэткія прыгожыя, хоць і невялікія дамы.

– Аднак гадоў дваццаць таму, – адказаў пан Падстоліц, – калі я пасяліўся ў гэтым месцы, тут была глухамань, зарослая адным пустазеллем ды хмызняком, і ўражвала душу сваёй мёртвай неабжытасцю. На гэтых узгорках і лагчынах, гэткіх прыгожых цяпер, калі растуць тут адмыслова падабраныя купы дрэваў і гаі, была тады непралазная пушча. Аніводзін з гэтых будынкаў не аздабляў яшчэ схілаў, анічога ў краявідзе не цешыла спакутаванага ад панурае аднастайнасці вока. У тым адгалінаванні даліны, дзе цяпер бачыш, васпан, святыню ў гаі, а за ёю – некалькі дзясяткаў мураваных дамоў, была вялікая вёска: драўляная і старая. Шчаслівы збег акалічнасцяў за некалькі гадоў змяніў від гэтага наваколля і, што больш важна, ва ўсіх гэтых фальварках пасяліліся сапраўдныя мае прыяцелі.

– Я зайздрошчу іхняму лёсу, – выгукнуў Уладзіслаў. – Сам хацеў бы жыць і памерці ў такой прыгожай мясцовасці.

– Ты павінны, хутчэй, зайздросціць мэтанакіраванасці ды настойлівасці тых, хто здзейсніў гэтыя перамены. Малады чалавек не павінны ўздыхаць па чужыне, толькі таму, што ён бачыць там больш прыемнага; наадварот, ён павінен шукаць шчасце і славу ў тым, каб у родных мясцінах палепшыць і абнавіць жыццё. Дасягнуць гэтага лягчэй, чым цяпер можа здавацца.

– Гэтак змяніць наваколле, – заўважыў Уладзіслаў, – адзін чалавек не здольны. Усе гэтыя плантацыі і пабудовы, несумненна, шмат каштавалі кожнаму з суседзяў.

– Колькі ж у нас каштуе пасадзіць каля дому з дзясятак-другі дрэваў? – адказаў пан Падстоліц. – Зрэшты, калі сякуць лес, дык не больш будзе каштаваць высечка ўсіх дрэў без выключэння, чым тое, каб пакінуць прыдатныя для плантацыі, – як тут здарылася. А ў будаўніцтве форма не ўплывае

на кошт: патрэбны толькі густ і веды. Усе гэтыя дамы, якія ты бачыў, – гэта жытло маіх сялянаў.

Утаропіўся ў яго здзіўленым позіркам знямелы Уладзіслаў.

У гэты час дарога, абмінаючы стромкі ўзгорак, павярнула направа і да іхніх вушэй даляцеў шум млыноў, а перад вачыма паказаўся шырокі, моргаў на пятнаццаць-дваццаць стаў з вялікім востравам, на якім быў гай і хатка; па беразе і хмызняку на востраве разбегся статак гуллівых коз; вакол ставу раслі купы разнастайных дрэваў, у канцы яго была дамба, а пры ёй – некалькі мураваных млыноў. І за ўсім гэтым – шырокі пакаты траўнік, за якім фасадам на поўдзень стаяў арэхавае афарбоўкі дом, прыгажэйшы за ўсе іншыя, якія яны мінулі; быў ён двухпавярховы, аднак, не вялізны; вокны, дзверы і коміны – спічастыя, з выгнутымі карнізамі і строгім гатычным франтонам. З боку над дрэвамі ўзвышалася гатычная вежа з гадзіннікам, які адбіваў якраз пятую гадзіну дня. За домам, уздоўж яру і вакол траўніка – гаі старых дубоў, ялінаў, разложыстых ліпаў, ясеняў, каштанаў, хвояў з густымі верхавінамі, клёнаў з чырвоным ужо лісцем і шмат іншых дрэў то аднаго віду, то ўперамешку, упрыгожвалі пейзаж таго куточка.

– Вось і мая хата, – азваўся пан Падстоліц. – А ў той лодцы, што выплывае з-за вострава, напэўна, мая жонка, якая, відаць, наведвала там сваю гаспадарку. Вось і яна! Хутчэй, – гукнуў ён фурману. – Пакуль лодка даплыве да берагу, і мы ўжо там будзем.

Пані Падстолічыха ў саламяным капелюшы і цёмна-сіняй мантыі, з пад якое відаць было белую сукенку, стаяла ў вялікай лодцы, пафарбаванай у цёмны колер, а двое слуг веславала да берагу. Яна махала хустачкаю, вітаючы мужа, бо таксама заўважыла яго каляску.

Хутка праехалі дамбу, лодка прыстала да берагу, і пан Падстоліц з Уладзіславам выйшлі з павозкі.

Насустрач ім з радаснаю ўсмешкаю ішла кабета ў тым добрым жаночым веку, калі ўжо выгадаваўшы дзяцей, яна лучыць у сабе прывабнасць вясёлае маладосці з мацярынскаю мудрасцю ды вопытнасцю сталасці. Гэты перыяд, самы прыгожы ў жыцці кабетаў, якія ўмеюць добра распарадзіцца кожным сваім днём, можа працягвацца доўга, пакуль не заменіцца годнаю шанавання паважнасцю ўзросту. У яе быў той шляхетны выгляд польскіх кабетаў, у якой чужынцы бачаць адзнаку рыцарскае нацыі: высокая постаць, мяккія рысы твару, высокі лоб, прамы позірк і тая жвавасць, якая прасталюдзінам надае прывабную непасрэднасць, а ў адукаваных ператвараецца ў сімпатычную шчырую прыязнасць. Гэтакаю была пачцівая кабета, да якой наблізіліся нашыя падарожнікі.

– Якраз сёння я і чакала, хоць тэрмін быў – заўтра, – сказала яна, кідаючыся ў абдымкі мужа. – Ты заўсёды умееш скараціць смутак чакання.

– Бо мне прыемней дзяліць з табою радасць, чым даваць падставу для смутку, – падхапіў пан Падстоліц, чула яе абдымаючы. – А як нашыя дзеці?

– Здаровыя; учора я іх бачыла, – адказала яна, вітаючы лёгкім паклонам Уладзіслава.

– Гэта мой прыяцель, – сказаў пан Падстоліц, знаёмячы яго з жонкаю, – сын даўняга майго таварыша па зброі пана Ротмістра з Зацішша, пра якога я табе столькі разоў расказваў. Хачу паказаць яму, што гаспадар можа зрабіць

у вёсцы, маючы добрую жонку. Прашу цябе, каб наш дом і ўсё, што мы тут маем, было для яго адкрыта.

– Мне заўсёды прыемна вітаць прыяцеляў майго мужа, – сказала пані Падстолічыха, калі Уладзіслаў цалаваў ёй руку. – Дазволь прымаць цябе, як уласнага сына.

Яна падала руку мужу і, абняўшы другою Уладзіслава, павяла іх да дому ўздоўж бардзюра з раслінаў, які аблямоўваў траўнік і чырванеў яшчэ арабінаю, глогам, барбарысам, бузінаю і восеньскімі кветкамі. Ідучы яна распытвала то мужа – ці ўдалая была паездка, то госця – пра яго сям'ю, пра маці і бацьку; прыгадвала, што казаў пра бацьку пан Падстоліц, цікавілася, як яны пазнаёміліся; і гэтак спадабалася сваёй шчырасцю маладому чалавеку, што пакуль яны дайшлі да ганка, ён паспеў да яе сапраўды прывязацца, нібы да маці.

Пляцоўка перад домам, ганак, падлога ў сенцах і сходы на другі паверх здаваліся Уладзіславу зробленымі з цэльнага каменю[1]. Усё, на што ён звяртаў увагу, выглядала спраўна, густоўна і трывала. Наверсе пасярэдзіне вялікага перадпакою, памаляванага ў аранжавы колер, стаяў більярдны стол, а пры вокнах былі каскады кветак, ад якіх разыходзіўся цудоўны водар. У гасцінным пакоі прастата аздобы спалучалася з вытанчанасцю веку і сведчыла пра дбайнасць спрактыкаванае гаспадыні.

Пасля першых, звычайных падчас прыёму госця ветлівых словаў, калі пан Падстоліц, апавядаючы пра падарожжа і пра дом Харунжага, прыгадаў тыя карціны, якія ён там убачыў, ды пачаў хваліць талент Іды, каб зацікавіць ёю сваю жонку, Уладзіслаў, хаваючы ўзрушанасць, адвярнуўся да карцінаў пана Падстоліца. Іх было тры; у шырокіх пазалочаных рамах яны віселі на блакітных сценах пакоя. Асабліва прыцягнула ягоную ўвагу сярэдняя.

– Ты прыгадваеш, напэўна, гэтую слаўную для роду людскога падзею, – сказала, падыходзячы да яго гаспадыня.

Гэта была па-майстэрску намаляваная шляхетная постаць цара Аляксандра[3], які злёгку нахіліўся над літоўскім селянінам, што ляжаў на беразе ракі. Таварышы селяніна і ад'ютанты цара, заахвочаныя прыкладам манарха, усе разам стараюцца дапамагчы выцягнутаму з вады хвораму. Клапатлівасць на кожным твары; з аголенай рукі хворага цячэ кроў; цар дзярэ ўласную хустку, каб спыніць яе; а з-за таго, што на твары лейб-медыка Віллie[4] з'явілася надзея, вочы манарха ўзнесеныя да Неба і сляза замілавання да бліжняга і ўдзячнасці Богу плыве па высакародным абліччы.

На другой карціне быў кароль Казімір Вялікі, які сядзеў з падданымі за сталом. На тварах падданых відаць была шчырая любоў і захапленне сваім бацькам. У вачах караля блішчыць сляза замілавання, даражэйшая за ўсе каштоўнасці свету; на яго твары – паважнасць і добразычлівасць, а на тварах ганарлівае шляхты, якая атачае яго, перадузятасць змагаецца з пачуццём чалавекалюбства, і яно пачынае перамагаць. Некаторыя з іх ужо падаюць руку сялянам, а па іхніх тварах і постацях відаць, што адчулі ўжо незвычайную сардэчную радасць – любоў да бліжняга і справядлівасць.

На трэцяй карціне Уладзіслаў убачыў шчаслівую сям'ю і ў партрэтах на поўны рост пазнаў сваіх гаспадароў. Па чулым позірку бацькі відаць, што ягоная душа палучана цеснаю сувяззю з усім родам людскім; на задумлівым твары – клопат пра лёс дзіцяці, якое туліць да сябе маладая маці. На яе твары

ўзнёслая мацярынская любоў перавышае ўсе іншыя пачуцці, бо дзіця для яе важней за ўсе скарбы свету. Дзіця, здаецца, падзяляе яе ўзрушанасць, яно з нявіннаю ўсмешкаю абдымае яе ручкамі за шыю, здаецца, хоча сказаць: "Маці мая каханая, калі я вырасту, а ты сагнешся ад доўгіх гадоў жыцця, мне будзе гэткаю ж радасцю даглядаць цябе, каб аддзячыць за тваё дабрадзейства, за тваю клапатлівую любоў, і гэта будзе мне найбольшым шчасцем".

– Гэта маўклівы ўрок маральнасці, – сказаў пан Падстоліц. – Гледзячы на выдатна адлюстраваныя шляхетныя пачуцці альбо на памяткі вялікіх падзеяў, душа ўзносіцца над халоднаю рэчаіснасцю, хвалюецца ад убачанага, і гэты досвед высакароднай узнёсласці пераносім мы потым на справы штодзённага жыцця.

Тым часам пачалі падыходзіць маладыя панны і маладыя мужчыны. Усе яны былі проста, але з густам апранутыя, па тварах было відаць, што яны вярталіся са свежага паветра. Усе віталі пана Падстоліца як бацьку, ветліва вітаў іх усіх і пан Падстоліц ды па меры таго, як яны прыходзілі, знаёміў кожнага з Уладзіславам.

– Гэта мой стрыечны брат пан Гжэгаш; гэта дачка мае стрыечнае сястры панна Гэлена; гэта ейная родная сястра панна Людвіка; гэта пан Сымон, мой пляменнік; гэта панна Іпаліта, унучка мае цёткі; гэта пан Ежы, стрыечны брат мае жонкі; гэта ягоная сястра панна Зося; а гэта брат панны Людвікі – Антоні. Усе яны жывуць у нас і дапамагаюць нам па гаспадарцы.

"Божа, гэтулькі дармаедаў, – падумалася Уладзіславу. – Зусім як у нас; толькі трохі больш".

Хоць ён і стараўся не падаваць віду, але пан Падстоліц па яго вачах зразумеў, пра што той думае, і, усміхаючыся, цвёрда паўтарыў:

– Дапамагаюць! У нашай вялікай гаспадарцы адзін чалавек не ўпільнаваў бы ўсё, ды і адпачыць у старыя гады таксама не грэх.

Але Уладзіслаў і сам бачыў, што не было тут рабскага пільнавання кожнага руху, кожнае думкі, слова і нават інтанацыі гаспадара дому, як гэта трапна паказаў Ірвінг[5]; а была тут незалежнасць паводзінаў, прыемная свабода гутаркі і высокі тон адукаванага грамадства ў спалучэнні з вясковаю шчырасцю і сяброўскаю прыязнасцю. Можна было зрабіць выснову, што гэта, хутчэй, сабраліся суседзі і прыяцелі, якія хоць і належалі да вышэйшае сферы грамадства, але захавалі, аднак, шчырасць таго супольнага жыцця, да якога прызвычаіліся з дзяцінства.

Уладзіслаў, якога яны атачылі і стараліся бавіць размоваю, хоць і бачыў, што яны шмат у чым больш абазнаныя, але заўважаў, аднак, і тое, з якою ашчаднасцю яны ставяцца да ягонае недасведчанасці і як далікатна ды спрытна стараюцца вылучыць яго перавагі, дык ён хутка ўсім сэрцам пацягнуўся да іх, адчуваючы ўзаемную прыхільнасць, шчырасць і тую нязмушанасць, з якою яны яго прынялі. Яму здалося, што ён апынуўся сярод даўніх калегаў, з якім разлучыў час і адлегласць, і думкі іх з-за гэтага сталі розніцца; але сэрцы пры першым жа спатканні зноў палучыліся між сабою.

Прынеслі сервіз для гарбаты і вазон з раслінаю, якая падалася Уладзіславу апельсінавым дрэвам, хоць лісце было больш вузкім, а кветкі – белыя. Іпаліта нарвала крыху іх з дрэва і як толькі заліла кіпнем з самавару, дык

прыемны водар напоўніў пакой, а цудоўны смак тае гарбаты і свежая міндальная бабка выклікалі ва Уладзіслава давер да гэтае новае для яго з'явы.

– Гэта парагвайская гарбата, – патлумачыў пан Падстоліц. – Мы вырошчваем яе дома і гатуем так, як робяць на ейнай радзіме.

– Яна смачнейшая за найлепшую кітайскую, – пахваліў Уладзіслаў, – а з тае прычыны, што сабраная прыгожымі ручкамі на вачах прысутных, дык робіцца яшчэ больш прыемная, чым сумнеўнае чысціні кітайская.

Пасля гарбаты пан Падстоліц запытаўся:

– Якую новую кніжку вы маеце?

– Ксёндз плябан, – адказала, узяўшы кнігу, Гэлена, – днямі прывёз у бібліятэку *Уладзіслава Лакетка*[6].

– Хто ж яе выпісаў?

– Пан Стараста.

– Можа, ён яшчэ сам не чытаў? – папракнуў пан Падстоліц. – Можа, хто іншы меў ахвоту ўзяць перш, чым мы прачытаем.

– Ах, не, каханы дзядзечка, – адказала Гэлена. – Пан Стараста, ведаючы, што цяпер мой тыдзень чытання, сам прапанаваў нам першынства.

– Якая ж ты ганарліўка, – з усмешкаю заўважыла Зося. – Пан Стараста такі ласкавы, што ён для кожнае з нас зрабіў бы гэта.

Уладзіславу быў незразумелы гэткае размеркаванне кнігаў, але пані Падстолічыха сказала:

– Калі цягам дня мы мала рухаемся, дык вечарамі танцуем; у іншым выпадку – чытаем. Сёння, відавочна, наш госць здарожыўся, дык, хутчэй, выбярэ чытанне.

– Дастасавацца да звычаяў гэтага дому будзе для мяне вялікаю прыемнасцю, – адказаў Уладзіслаў, падсаджваючыся да іх.

– Мы чытаем па чарзе, па тыдню, – сказала, разгортваючы кнігу, Гэлена. – На наступным тыдні, можа, і наш госць нам дапаможа.

І, не чакаючы адказу, яна, добра пастаўленым голасам і дакладна вымаўляючы кожнае слова, пачала чытаць, а выразнасць інтанацыі здольная была зацікавіць слухачоў нават нудную кнігаю і, засяроджваючы іх увагу, прыемна забавіць. Пасля амаль двухгадзіннага чытання ўвайшоў лёкай і паведаміў, што вячэра гатовая.

Усе ўсталі з крэслаў, пані Падстолічыха падала руку Уладзіславу і павяла яго праз бакавы гасцінны пакой у залу. Ззялі ўжо там на стале яркія свечкі, блішчаў на белым абрусе парцалянавы посуд, крышталь і срэбра. Не было залішняе раскошы, але па ўсім відаць была прыстойная ашчаднасць у той ступені, у якой у багатым доме яна спалучаецца са зручнасцю і ахайнасцю.

Усе селі да стала. Пані Падстолічыха пасадзіла каля сябе Уладзіслава, за ім – мужчыны, з другога боку стала – панны, а ў канцы, паводле даўняга звычаю, сеў гаспадар. Падалі паштэт з дзічыны. Размова вялася пра тое, што чыталі.

– Ці спадабаўся вам гэты твор? – запытаўся пан Падстоліц, звяртаючыся да Зосі, якая сядзела каля яго.

– Пасля *Паяты*[7] вельмі цяжка чытаць нашыя гістарычныя раманы.

– Належыць, аднак, прызнаць, – сказаў Гжэгаш, што гэта ўхвальныя намаганні; застаецца толькі пажадаць больш таленту пісьменнікам альбо большае зацікаўленасці гэтым жанрам таленавітым літаратарам.

– *Уладзіслаў Лакетка*, – холадна заўважыў Сымон, – назаўсёды застанецца выдатным творам у нашай літаратуры: тут дасканалая польская мова.

– Але няма ў ім тае рамантычнае чароўнасці, – запярэчыў Ежы, – якая, апанаваўшы фантазію, здольная прыадкрываць заслону мінулага ды сваёй чарадзейнаю палачкаю выклікаць на сцэну цэлыя эпохі, напрыклад, рыцарскую, з усімі вобразамі культуры краю: замкаў і турніраў, спеваў і баёў, пачуццяў і памкненняў...

– Чараў і духаў, – дадала з усмешкаю Людвіка.

– Няварта жартаваць, – азваўся Антоні. – Ежы слушна сцвярджае, што гістарычны раман павінны мець на мэце, апрача падзеяў, паказ звычаяў і ўсяе культуры тае эпохі, якую ён апісвае. А калі можа спалучыць гэта з маральнаю мэтаю, дык ад гэтага будзе яшчэ большая карысць. Таму я думаю, што тыя гістарычныя раманы, якія не прытрымліваюцца, у адпаведнасці са сваім жанрам, дакладнае гісторыі, не паказваюць людзей такімі, якімі яны былі, а запоўнены нейкімі дзівачнымі здарэннямі і пустымі размовамі, не вартыя гэтае назвы.

– Дык што ж, – запыталася Гэлена, – па-твойму нельга, каб было там нешта смешнае і жартаўлівае?

– Наадварот, – адказаў Антоні. – Няхай будзе там весялосць альбо смутак, гэта залежыць ад характару аўтара; але ані жарты, ані сур'ёзная размова не павінная быць без мэты. Кожнае слова альбо павінна раскрываць змест твора, альбо абмалёўваць тагачасныя звычаі, альбо адпаведныя тагачасным уяўленням характары. Невялікая заслуга ўводзіць размову немаведама пра што і дзеля чаго.

– Я хацеў бы яшчэ, – сказаў Гжэгаш, – каб размовы, паводле сцвярджэння Гарацыя, адпавядалі стану і веку тых асобаў, якія апісваюцца. Сумна чуць галасы нашых, вартых пашаны продкаў, якія пляткараць, як гандляркі, і блюзнераць у нашых гістарычных раманах. Словы герояў, рыцараў і каралёў павінны годна адпавядаць іх стану і пакліканню, быць годнымі пяра аўтара, увагі чытача і памяці наступнікаў, каб мы па іх словах і ўчынках вучыліся высакародству, ахвярнасці дзеля ўсеагульнага дабра, дзеля Айчыны, сапраўднай маральнасці, прыклады чаго яны, сапраўды, нам пакінулі. У вуснах паспалітага люду могуць быць і жарты і розныя глупствы, але адпаведныя веку і не без сэнсу. Іначай ані пажытку, ані забавы.

– Вядома, цікавыя, – сказала Зося, – і карысныя добрыя гістарычныя раманы, але я не разумею, чаму аніводзін з нашых пісьменнікаў не дадумаецца выкарыстаць агульную зацікаўленасць лёгкімі творамі і не зоймецца выданнем гэтых займальных твораў, якія так нас цікавяць, напрыклад, пра нашыя ўласныя звычаі, пра нашую ўласную маральнасць.

– *Выжыгін*[8], – лаканічна заўважыў Сымон.

– Я не забыла пра яго, – сказала Зося, – аддаю яму належнае. Гэта якраз такі твор, якія нам трэба. Усе аўтары цяпер стараюцца забавіць; некаторыя ствараюць узоры маральнасці і абавязку; але вельмі мала такіх, якія б адважыліся без цырымоніі зняць маскі, адкрыць нашыя сэрцы, зазірнуць у яго глыбіні ды смела змагацца з нашымі недахопамі і старацца нас выправіць, аказваючы нам сапраўдную добразычлівасць. Аўтар *Выжыгіна* пайшоў гэтым шляхам і заслугоўвае на ўдзячнасць ды пахвалу, але мне хацелася б прачытаць такі твор, які б у меншай сферы, але гэткім жа дасціпным чынам паказаў звычаі

нашага стану і нагадаў пра нашыя абавязкі ў грамадстве, бо пра іх амаль нідзе мы не чуем.

– Слушная заўвага, – сказала пані Падстолічыха. – Каб нашыя пісьменнікі не ішлі бяздумна шляхам, пракладзеным нейкім вялікім геніем, а пракладаючы дарогу самі і зважаючы на характар чытачоў, спрытна падсоўвалі ім для развагаў патрэбныя тэмы, дык, можа, узніклі б неабходныя ў нашых умовах ідэалы добрае гаспадыні, добрага землеўласніка, маці, жонкі, грамадзяніна, жаўнера, ксяндза, лекара ды іншых. Гэта напэўна было б карысней, чым пераклад нейкае балады альбо спрэчка пра рамантызм.

– Але ці такі займальны выклад тых рэчаў, якія нас цікавяць, – заўважыла Іпаліта, – не быў бы адначасова і шкодным, як займальная адукацыя, вынікам якое бывае шкодная звычка лёгкага набывання ведаў і занядбання развіцця ўважлівасці ды мыслення?

– Зусім не, – адказаў пан Падстоліц. – Адукацыя павінна развіваць розум, а для ўжо развітага розуму павінна быць карысным нават займальнае чытанне.

– Як у творах Лафантэна[9], – ціха прыгадала Людвіка.

– Васпан чытаў *Пратэстанцкага пастара*? – запыталася Гэлена ва Уладзіслава.

– Я чуў, што гэты раман моцна хвалілі, – адказаў Уладзіслаў, – але да гэтага часу не меў магчымасці яго прачытаць.

– Відаць, не дастаткова хвалілі, – заўважыла Гэлена, – калі васпан не пастараўся знайсці гэты твор. Каб пан ведаў, як добра паказана там дабрачыннасць, шчасце ва ўмеранасці, у працы, нават ва ўбостве, але пры чыстым сумленні, у мілых сваяцкіх дачыненнях, у ціхіх хатніх радасцях, але асабліва – у адданасці і веры ў Ласку Божую!.. Кожнаму, хто хоча быць шчаслівым на зямлі, а асабліва вясковым жыхарам, я раіла б прачытаць гэты твор і зразумець аўтарскую ідэю. Няхай бы яму Неба ва ўзнагароду за гэтую паслугу для чалавецтва дало гэтулькі дзён шчаслівых, колькі раз ён рассмяшыў нас сваёй прастадушнаю і далікатнаю весялосцю; і столькі салодкіх слёз, колькі выклікалі ў нас ягоныя сцэны кранальнае дабрыні, высакародства, ахвярнасці ды трыумфу дабрачыннасці і абавязку!

– Хіба на Небе ён пачуе ўжо тваё пажаданне, – сказаў пан Падстоліц. – Памёр Аўгуст Лафантэн[10].

– Дык ягонаму перакладчыку, – гэтак жа горача працягвала Гэлена, – за тое, што ён гэтак добра выклаў на нашай мове тыя цудоўныя ідэі Лафантэна. Суперажыванне, напэўна, вадзіла пяром перакладчыка.

– Ёсць колькі граматычных хібаў, – холадна заўважыў Сымон.

– А не чапляйся ты да гэтае граматыкі! – гнеўна зіркнула на яго Гэлена.

І ўсе, апрача Сымона, зарагаталі.

“Размова іхняя годная сямейнікаў пана Падстоліца, – думаў Уладзіслаў, – але цікава, як пры такой вучонасці ідзе ў іх гаспадарка”.

Тым часам Іпаліта раіла яму, як страву з ейнага “аддзелу”, фруктовы торт з канфіцюрам; Гэлена частавала тлустым каплуном[11] і некалькімі гатункамі сыру; да бісквіту, згодна з густамі бяседнікаў, падалі венгерскае віно і малінавую настойку, сокі да вады і лёгкае пеністае піва. Словам, на стале пана Падстоліца панаваў дастатак і шчодрасць, але не відаць было ані распешчанасці, ані марнатраўства.

Пасля вячэры хутка прыбралі са стала і з бакавых шафак каля сярэдняга вакна залы высунулі алтарык.

– Мы трымаемся даўняга звычаю нашых верных Богу продкаў, – сказаў Уладзіславу пан Падстоліц. – Штодзённа рана і ўвечары ўсім домам складаем падзяку Таму, хто нас адорвае сваім дабрадзействам.

Сышліся ўсе сямейнікі; Уладзіслаў ахвотна ўдзельнічаў у гэтай малітве. Усе ўкленчылі перад алтаром, а скончыўшы звыклыя пацеры, пан Падстоліц са шчыраю набожнасцю гучна прачытаў наступную малітву: “Божа, які напаўняеш сваёй прысутнасцю ўвесь свет і самыя дробныя ягоныя закуткі, які бачыш усе нашы ўчынкі і думкі, дазволь, каб аніводнае нашае пачуцце, аніводзін учынак не супярэчыў Тваім законам, Твае святасці, якою нас атачаеш. Няхай кожны дзень наш будзе прысвечаны працы дзеля дабра бліжніх нашых і дзеля хвалы Твае, каб не жылі мы толькі для сябе, але, згодна з Воляю Тваёю, на карысць братоў нашых, і гэтым заслугоўваючы Ласку Тваю, станавіліся штодня бліжэй да Цябе, Айца нашага. Няхай тая святая любоў, якою Ты нас любіш, асвеціць нашыя душы і запаліць іх узаемнаю да Цябе любоўю, няхай разальецца на бліжніх нашых, якіх загадаў нам любіць, і на непрыяцеляў нашых, якім дабром загадаў плаціць. Прымі, добры наш Ойча, падзяку дзяцей Тваіх за Ласку, якою нас адорваць не перастаеш і дазволь, каб кожную хвіліну нашае пілігрымкі на зямлі адбылі мы ў блаславенні Тваім, у дабрыні і дабрачыннасці, ва ўзаемнай любові і ўдзячнасці Табе, Айцу нашаму”.

Яшчэ хвіліну ўсе на каленях моўчкі памаліліся. Адчуў Уладзіслаў усю святасць гэтае хвіліны і дзівіўся, чаму паводле цяперашняе моды з гэтакаю абыякавасцю адракаюцца людзі ад такое святое раскошы. Усе падняліся і, жадаючы ўзаемна добрай ночы, весела пачалі абдымацца і разыходзіцца.

– Можа ты не прывык гэтак рана ісці спаць? – запытаўся ва Уладзіслава пан Падстоліц. – Але мы рана ўстаём.

– Прашу васпана дабрадзея, – сказаў Уладзіслаў, – дазволіць мне дастасавацца да тутэйшага ладу жыцця.

Правёў яго пан Падстоліц у невялікі, але досыць пральторны, як на аднаго чалавека, пакой. Там было надзвычай ахайна: ложак быў засланы свежай бялізнаю, стаяла прыгожая мэбля, на канторцы – некалькі кніжак; а на паслугі – чыста апрануты хлопец.

– Гэта твой слуга на ўвесь час твайго гасцявання, – сказаў пан Падстоліц. – Калі перад сном альбо раніцаю захочацца табе пачытаць, дык маеш тут новыя кнігі пра гаспадарку, а таксама і іншую літаратуру. А цяпер – дабранач.

– Як тваё імя, – спытаў Уладзіслаў у хлопца, калі пан Падстоліц выйшаў.

– Дамінік, – прыязна адказаў слуга. – Я – сын Марціна.

Уладзіслаў, задаволены гэткім выбарам, працягваў распытваць яго:

– А дзе ж бацька? Я не бачыў яго ад самага прыезду.

– Ён у сябе дома, – адказаў хлопец.

– Хіба ён жыве не ў гэтым доме?

– Пры гэтым доме, але ў сваім.

Зразумеў Уладзіслаў, што гэта адна з тых загадак, якія ён чуў і бачыў сёння ў гэтым доме і на разгадку якіх спадзяваўся ў наступныя дні. Але не мог устрымацца ад пытання:

– Пан Падстоліц мае ўласных дзяцей?

– Мае трох сыноў і дачку.
– Дзе ж яны?
– У земляробчай школе.
– І дачка?
– І дачка.

Новая загадка. Бачачы, што гэтаму канца не будзе, Уладзіслаў распрануўся і лёг у ложак з рашэннем устаць заўтра рана і агледзець гаспадарку пана Падстоліца. Доўга ён не мог заснуць: думкі былі занятыя ўсімі тымі незвычайнымі рэчамі, якія ён у гэты дзень чуў і бачыў. Добразычлівасць, дастатак як вынік гаспадарлівасці, выдатнае таварыства і вучоныя размовы трызніліся яму ва ўсё большым бязладдзі, пакуль нарэшце сон не перамог.

## Раздзел другі

# ГАСПАДАРКА

To wiejskie pomieszkanie, prześliczne siedlisko.
… Między drzewy tu wdzięczne ciągną się równiny,
Tu powstają pagórki, chylą się doliny;
Tu się na łąkach zwierząt przechodzi gromada,
Tam wesoło igrają napasione stada.
Palma zdobi pagórki, a tuż na nizinie,
Między pięknymi krzewy srebrny strumień płynie.
Kwiaty wszystkie tu błyszczą…
Tam radość, tam czarowne natury uśmiechy.

Fr. Dmochowski, *Raj utracony* (z Miltona)[12]

Ледзьве світанак праз фіранкі зазірнуў у вакно, Уладзіслаў абудзіўся ад цудоўных мараў, якія закалыхвалі ягоную душу. Ён пазваніў і адразу ж увайшлі ў пакой два хлопцы. Дамінік падняў заслоны на вокнах, а другі падаў кошык свежае садавіны са словамі:

– Панна Зося перадае пану прывітанне і просіць, каб прыняў гэты снядана з яе аддзелу.

– Прашу падзякаваць панне Зосі, – сказаў Уладзіслаў і, прымаючы садавіну, хацеў за клопат даць хлопцу грошай.

– Мне ўжо заплаціў мой гаспадар, – адмовіўся хлопец, – дык я не магу прымаць ні ад каго больш узнагароджання за маю службу.

– Але гэта не плата, – здзівіўся Уладзіслаў, – прашу, прымі гэта ў якасці гасцінца за тваю сціпласць.

– Наш ксёндз плябан вучыць, – адказаў хлопец, – што лёгка зробіцца хцівым той, хто прызвычаіцца да гасцінцаў.

– Але твой заробак, відаць, невялікі, – сказаў прысаромлены Уладзіслаў, – не зашкодзіла б прыняць на пару хустак.

– Мы маем усё, што нам трэба, – адказаў хлопец, – а наш гаспадар вучыць нас так выдаткоўваць, каб мы яшчэ з нашых заробкаў адкладалі ў ашчадную касу. І няма сярод нас нікога, хто б кожны год траціў на свае патрэбы ўвесь юргельт. Апрача юргельту гаспадар дае нам магчымасць зарабіць у вольны час у якім-небудзь рамястве, дык маем сталы прыбытак. Мы багацейшыя, чым пан думае. Некаторыя з нас ужо купілі сабе прыгожыя фальварачкі, ажаніліся і цяпер добра жывуць; а раней былі слугамі.

– Мой каханы, – сказаў Уладзіслаў, – тым больш, калі можаш у вольны час зарабляць, дык не павінны адмаўляцца ад узнагароды за паслугу, на якую губляеш свой вольны час.

– Гэта паслуга лічыцца маім абавязкам, – адказаў хлопец, – а калі б нават не лічылася, яна не забрала мне шмат часу. Наш ксёндз плябан вучыць, што кожны чалавек павінны ахвотна дапамагаць бліжняму, не прыніжаючы

добраахвотнае паслугі жаданнем зарабіць. І ў школе нас пераконвалі, што кожны чалавек абавязаны старацца для агульнае карысці. А як жа бедны слуга можа гэта выканаць, як не паслугаю тым, хто час свой можа прысвяціць рэчам больш карысным для Айчыны, чым нашыя паслугі, апрача якіх мы нічога карыснага зрабіць не можам?

Ён пакланіўся Уладзіславу і пакінуў яго ў яшчэ большым здзіўленні ад гэтага тлумачэння.

– Наш гаспадар загадаў не будзіць пана з дарогі, – сказаў Дамінік. – Але калі пан тут яшчэ застанецца і пажадае бываць на ранішнім набажэнстве і на гарбаце разам з панствам, буду пана будзіць, калі пан загадае.

– Дык ужо ўсе паўставалі! – выгукнуў Уладзіслаў. – Прыгатуй мне, калі ласка, хутчэй вопратку.

– Усё гатова, – адказаў Дамінік, падаючы вопратку. – Даўно ўжо кожны пры сваёй працы.

– Ці ўсе рэзыдэнты[13] пастаянна занятыя на гаспадарцы? – запытаўся, апранаючыся, Уладзіслаў.

– У кожнага свой аддзел, – адказаў хлопец, – і амаль увесь дзень яны занятыя. Пані назірае за аддзеламі кабетаў, а пан кіруе ўсім і пільнуе інтарэсу.

Увайшоў Гжэгаш і прынеслі гарбату.

– Наш гаспадар перадае пану прывітанне; ён паехаў у мястэчка, каб даць суседзям справаздачу пра кірмаш, а нам даручыў, каб, калі на тое будзе панская воля, паказаць васпану дабрадзею нашую гаспадарку.

– Не хацеў бы я турбаваць васпанаў, – адказаў Уладзіслаў. – Агледжу ўсё з аканомам ды іншымі афіцыялістамі.

– Уласна імі мы і ёсць, – растлумачыў яму Гжэгаш. – Кожны з нас, каго васпан дабрадзей учора бачыў, мае тут свае абавязкі, за што атрымлівае плату, і займае пасаду звычайнага афіцыяліста. Кожны па чарзе пакажа васпану дабрадзею свой аддзел. Мне даручана каса, выплаты, усе рэестры, будынкі, усе склады і спіжарні. Таксама сёлета я маршалак двара, рахункавод, касір і шафар[14].

– Гэта зашмат для аднаго, – заўважыў Уладзіслаў.

– Мы не лайдачым, – адказаў Гжэгаш, – а калі ўсё ўпарадкуем, дык знаходзім яшчэ вольны час і пачытаць, і пабавіцца.

– Меў я ўчора іншае меркаванне пра васпанаў, – прызнаўся Уладзіслаў.

– Лічыў нас васпан звычайнымі рэзідэнтамі, дармаедамі, – з усмешкаю падхапіў Гжэгаш. – А мы пераканаем васпана, што вучачыся ў нашага дабрачынцы, мы карысныя яму.

– Але я не разумею, – сказаў Уладзіслаў, – як маладыя людзі з добрымі здольнасцямі маглі прысвяціць сябе гаспадарцы.

– Заканчваем мы тут нашую земляробчую адукацыю, – адказаў Гжэгаш. – Пан Падстоліц, можа, яшчэ не казаў васпану пра сваю шляхецкую земляробчую школу. Сабраў ён у ёй сваіх убогіх крэўных, даў нам адукацыю, а каб дапоўніць яе практыкаю, даручыў нам абавязкі дазорцаў свае гаспадаркі. Выконваем мы іх штогод па чарзе, адначасова і вучымся ў яго, а паслугі нашыя шчодра аплачваюцца, дык збіраем мы запас, каб выйсці ў свет не з пустымі рукамі. Цяпер, калі ёсць жаданне, можам пачаць з агледзінаў майго аддзелу.

Уладзіслаў якраз скончыў піць гарбату і пайшоў следам за Гжэгашам уніз, у канцылярыю.

– Гэта мой кабінет, – сказаў Гжэгаш, запрашаючы яго ў чыстае памяшканне, у якім стаяла некалькі шафаў, запоўненых паперамі. – Вось рахункі і рэестры прыбыткаў і выдаткаў усяе гаспадаркі. Тут адразу можна ўбачыць, якая галіна якую карысць нам прыносіць, якая патрабуе ўкладанняў, колькі на што патрачана, колькі каштуе ўтрыманне дому, чэлядзі, жывёлы, апрацоўка зямлі, маёнткавыя мануфактуры. Словам, увесь пасіў і актыў нашае касы. Без гэтае рахунковае часткі аніводная добрая гаспадарка існаваць не можа. Зараз пойдзем далей.

Яны выйшлі праз бакавыя дзверы ў гай, дзе Уладзіслаў заўважыў вялікі мураваны свіран.

– Усе пабудовы ў нас, – расказваў Гжэгаш, – мураваныя. Бо пан Падстоліц лічыць, што ва ўласным маёнтку больш карысна будаваць з трывалага матэрыялу. У нашым краі, дзе абпальванне цэглы і вапны каштуе няшмат, дык мураванае не нашмат даражэйшае за драўлянае.

Вось, – працягваў ён, уваходзячы ў свіран, – як захоўваем мы нашае збожжа. Гэтыя дзежкі, адна на адной, напоўненыя зернем, засцерагаюць яго ад вільгаці, пацукоў і чарвякоў. Для перасыпання з верхніх дзежак у ніжнія служаць гэтыя трубы; гэта ашчаджае працу не аднае пары рук[II]. А тут – на ўсялякі выпадак – у нас прыстасаванне для сушкі[III]. Гэтыя таблічкі на кожным радзе дзежак паведамляюць нам, якое там зерне. У гэтых радах – алейнае: рапс, сланечнік, мак, гарчыца жоўтая і чорная, каноплі, льняное семя, палявая капуста і шмат іншых. Тут фарбавальнае і для гандлю: марэна, вайда, шафран, чарвец[15], аніс і з дзясятак іншых гатункаў. У гэтых знаходзяцца тыя, што высяваем на пашу: турнэпс, бручка, канюшына, віка, люцэрна, эспарцэт, свінакроп[16]; тут – змешаныя лугавыя травы.

– Ці можна ў нашым краі прадаць усё гэтае? – запытаўся Уладзіслаў.

– Мы амаль нічога ў выглядзе сыравіны не прадаём, – адказаў Гжэгаш. – Усё перапрацоўваем дома альбо на мануфактурах ў мястэчку. У гэтых радах, – працягваў ён, – розныя гатункі збожжа; гэтыя кадкі – з мёдам, тыя – з воскам, у тых – цукар, тут – розныя гатункі хмелю. Там, на гарышчы, склады воўны, шчаціны, льну, рагоў, скуры, сыроў, палатна і ўсялякіх мануфактурных вырабаў.

– Падабаецца мне гэты парадак, – сказаў Уладзіслаў, – гэтая ахайнасць і тое, што так шмат усяго змяшчаецца на невялікай плошчы. Дзівіць мяне тая вялікая колькасць раслінаў, якія вырошчваюцца ў гаспадарцы пана Падстоліца. Можа, гэта з некалькіх маёнткаў?

– Пан Падстоліц мае толькі адзін гэты маёнтак, – адказаў Гжэгаш. – Рэшту свае зямлі ён аддаў у арэнду альбо прадаў. Ён трымаецца таго меркавання, што лепш гаспадарыць на адным, хоць і вялікім, чым расцярушваць увагу, нагляд і выдаткі на некалькі альбо некалькі дзясяткаў фальваркаў.

– Наглядаць, сапраўды, больш цяжка, – сказаў Уладзіслаў, – калі шмат маёнткаў, але прыбытак з некалькіх мусіць быць большы, чым з аднаго, асабліва, калі яны роўныя яму. Не разумею таму, навошта адмаўляцца ад большага прыбытку, калі ёсць магчымасць мець большую колькасць маёнткаў?

– Бясспрэчна, – адказаў Гжэгаш, – пры такім вядзенні гаспадаркі, як гэта робіцца паўсюдна ў нашым краі, карысна мець большую колькасць маёнткаў, бо без выдаткаў уласнік выцягвае з зямлі толькі натуральны прыбытак. Але ў прамысловай гаспадарцы, дзе выдаткі, укладзеныя ў зямлю вяртаюцца з прыбыткам, карысней і для сябе, і для дабра краю гаспадарыць у адным маёнтку.

Бо гаспадар можа больш атрымаць прыбытку, укладаючы свой капітал дзеля паляпшэння аднаго кавалака зямлі, чым выдаючы яго на куплянне штораз большых абшараў; і нацыянальнае багацце расце ад павелічэння вартасці аднаго ўчастка, а не з-за набывання новых земель. Напрыклад, капітал, патрачаны на куплянне новых маёнткаў, не прынясе больш прыбытку, чым прыносілі тыя маёнткі ў руках папярэдняга ўладальніка; і маса нацыянальнага капіталу з-за гэтага пераход з рук у рукі, прынамсі, не павялічыцца; але калі той капітал будзе патрачаны на паляпшэнне ўласнае зямлі, дык ён прынясе, апрача ранейшага прыбытку, яшчэ і новы, які ўжо з'яўляецца сапраўдным прыбыткам для краю, бо гэта палепшаная зямля набыла большую вартасць, а тая, што магла б быць за гэтыя грошы купленая, у сваю чаргу прыносіць уласніку ранейшую карысць. Пан Падстоліц лічыць памылкаю набыванне штораз большае колькасці зямлі, асабліва, калі гэтак шмат ужо маёнткаў, што ані дагледзець, ані палепшыць уласнік іх ужо не ў стане. Для краю, кажа пан Падстоліц, гэтакі абарот капіталу некарысны, а нават шкодны, бо набыванне большага абшару зямлі не толькі яе вартасці не падымае, але яшчэ і змяншае яе, бо аднаму цяжэй дагледзець усё, а таму цяжэй атрымаць з кожнага маёнтку такі прыбытак, які можна атрымаць з аднаго.

– Паляпшэнне зямлі не можа быць бясконцае, – заўважыў Уладзіслаў. – Ці ж атрыманыя ад паляпшэння земляробства капіталы не належала б выкарыстаць на набыццё новага маёнтку?

– Гэта якраз уласцівасць прамысловае гаспадаркі, – адказаў Гжэгаш, – што чым большыя будуць укладанні, тым большы яны прынясуць прыбытак, асабліва, калі земляробства палучыцца з перапрацоўкаю ўраджаю. Тады капіталы, якія стала павялічваюцца, могуць быць выкарыстаны ў гэтым жа самым маёнтку альбо паблізу, адкрываючы новыя мануфактуры і пашыраючы гандаль. І земляробства на гэтым наўпрост альбо апасродкавана выйграе.

– Пераканаў мяне васпан, – сказаў Уладзіслаў.

– Выдатна, бо толькі недалёкі чалавек не здагадаецца, як інакш выкарыстоўваць свае капіталы, чым на марнатраўства альбо на бясконцае куплянне новых маёнткаў. А зараз пойдзем да гумнаў. Вакол гэтага свірна, – казаў ён, паказваючы Уладзіславу дарогу, – і ўсіх іншых гаспадарчых пабудоваў пасаджаны гаі дзеля заслоны ад пажару; якога, аднак, пры нашых мерах асцярожнасці, нам няма чаго баяцца. Вось гумны. Гэта малатарня, на ўзор шатландскае Мейкля[17], якую ўдасканаліў Убрыёт[IV]. Бачыш, васпан, тут працуе адзін конь і трое хлопцаў, а за дзесяць гадзінаў яны абмалочваюць і арфуюць да пяці бочак збожжа. Гумно гэтае невялікае, бо хлеб трымаем пераважна ў сціртах, а даражэйшыя расліны – вось там, у асобным складзе. І пабудаваць такія гумны абыходзіцца нядорага, бо толькі слупы мураваныя, а сцены бітыя з гліны. Там склепы на карняплоды, а тут, унізе пры малатарні – сушыльня. Асець у ёй – на ўзроўні малатарні, што робіць больш лёгкім засыпанне і выбіранне збожжа; у асеці над печамі ў скляпеннях абпальваецца цэгла, вапна альбо гліна[V].

– Калі гэта не шкодзіць збожжу, – заўважыў Уладзіслаў, – дык, пэўна, што такое выкарыстанне агню павінна быць карысным.

– Для збожжа не можа быць шкоды, – адказаў Гжэгаш, – бо яно сушыцца тут не дымам, а цяплом. Пад кожнаю асеццю маем дзве печы з асобнымі комінамі. Калі ў адным ужо абпалена цэгла, вапна альбо гліна, дык яго цяплом абаграваецца сушарня, тым часам другая, з закрытым комінам, награецца.

– Дзеля чаго ж тут вы абпальваеце гліну?

– Абпаленая гліна – выдатнае ўгнаенне для зямлі. Але вось пан Антоні вяртаецца з поля і свой аддзел гаспадаркі пакажа васпану.

Падышоў Антоні.

– Цяпер твая чарга, – сказаў яму Гжэгаш. – Даручаю табе нашага мілага госця. Убачымся падчас абеду.

Антоні прыязна прывітаў Уладзіслава і павёў яго паміж гаямі, якія былі складковаю часткаю парку.

– Я не павяду васпана ў поле, – сказаў ён, – бо гэтаю парою ўсё ўжо ўбранае, а азімую рунь і раллю васпан бачыў, едучы сюды.

– Відаць, вельмі ўрадлівая глеба ў гэтым фальварку, – сказаў Уладзіслаў, – калі тут можа расці такая колькасць раслін, якія вымагаюць добрае зямлі.

– Глеба ў гэтай ваколіцы не была лепшай, чым дзе ў нашым краі, – адказаў Антоні. – Да таго ж, пан Падстоліц набыў яе ў запушчаным стане. Урадлівы пласт складаўся з 86 частак пяску, $13^{1/2}$ – гліны, а перагною было ледзьве 1/200. Пры тым ён быў не большы, чым 3 цалі; а глеба была гэткая кіслая, гэтак шмат расло тут пустазелля, што апрача жыта, якое звычайна ўсё палягала, і крыху аўса немагчыма было тут анічога больш сеяць. Пан Падстоліц замест павелічэння пасяўных плошчаў, як у асноўным усе тут робяць, зменшыў палеткі, але прыклаў намаганні, каб палепшыць урадлівасць глебы. Угнойваў яе абпаленаю глінаю, маргелем[18] і вугалем, які ў вялікай колькасці здабываўся з драўніны, калі ён ачышчаў і ўпарадкаваў лясы. У першыя гады былі асушаныя лугавіны і большая частка раллі засявалася грэчкаю і свінакропам на пашу; а калі ўжо стала шмат кармоў і больш гною, гэтак добра камбінаваў яго з мінеральнымі ўгнаеннямі, што цяпер ужо тут нашая ралля складаецца з 62 частак гліны, 22 – пяску, 5 – вапны і 11 – перагною, а ўрадлівы пласт ужо некалькі гадоў як дасягнуў 12 цаляў. Цяпер угнойваем яе ўжо толькі ў адпаведнасці з вычарпанем, а што тычыцца мінеральнага ўгнаення, дык засталося толькі ўносіць маргель.

– Гэткае земляробства павінна быць вельмі затратным, – сказаў Уладзіслаў. – Я сумняваюся, што хапіла б сто злотых на морг, каб павялічыць урадлівы пласт на адну цалю з дапамогаю ўгнаення; а за такія грошы можна лёгка набыць морг найлепшае зямлі.

– Паляпшэнне кожнага моргу, – адказаў Антоні, – магло каштаваць нам некалькі дзясяткаў рублёў срэбрам, але пан Падстоліц на гэтым нічога не страціў: у нас цяпер агароды на палетках і кожны морг вяртае нам з лішкам працэнты ад укладзенае ў яго сумы. Можам цяпер сеяць каштоўныя гатункі раслінаў: гандлёвыя, алейныя, на фарбу, якія сама мала па 200 злотых чыстага прыбытку з аднаго моргу прыносяць. Нават збожжа на гэтых палетках, даючы ўраджай у некалькі разоў большы, чым раней, вяртае з прыбыткам выдаткаванае.

– Але працэнт ад моргаў, занятых пад гэтымі раслінамі, павінны быць падзелены на ўсю колькасць зямлі гэтага маёнтку, улічваючы тыя, што пад парам.

– У нас няма зямлі пад парам; у нас севазварот. Дык кожны морг дае прыбытак: нават тыя, што пад кармавымі раслінамі, вяртаюць укладзеныя сродкі багатымі кармамі.

– Пашырэнне такога гаспадарання амаль немагчыма ў нашым краі, – сказаў Уладзіслаў. – У нас няма дастатковае колькасці рухомага капіталу, каб мы маглі выдаткаваць яго на паляпшэнне глебы.

– Пан Падстоліц, купляючы гэты маёнтак, – адказаў Антоні, – пакінуў частку грошай на бягучыя выдаткі, прызначаныя выключна на гаспадарку; і чысты гадавы прыбытак таксама ўкладаў у зямлю. Бо ён лічыў, што гэта больш карысна, чым набыванне ўсё новых і новых зямель. Паволі раслі прыбыткі, яны штогод укладаліся ў зямлю, паляпшаючы яе і тым самым павялічваючы гэтыя прыбыткі, дык праз некалькі гадоў усе выдаткі вярнуліся. Але якія гэта карысныя капіталаўкладанні і якія яны даюць вялікія працэнты, можна меркаваць па тым, што цяпер кожны морг прыносіць нам штогод чыстага прыбытку больш, чым было патрачана грошай на куплянне таго моргу разам з капіталам, укладзеным на першапачатковае паляпшэнне ўрадлівасці. Бо морг агулам каштаваў пану Падстоліцу 33 злотыя, першапачатковыя выдаткі на кожны морг – 25 злотых, а цяпер чыстага прыбытку з кожнага моргу ў сярэднім можам мець ад 60 да 70 злотых штогод.

Да капіталу на куплянне і выдаткі на першапачатковае паляпшэнне глебы павінны мы далічыць, па праўдзе, сумы на паляпшэнне глебы, якія бяруцца з прыбыткаў, што складае да 400 злотых на морг. Але затое, ацэньваючы цяпер кожны наш морг паводле працэнтаў, якія нам дае, можам лічыць па 1.200 злотых, з якіх дзве трацiны з'яўляюцца чыстым прыбыткам, вынікам укладання капіталу ў паляпшэнне ўрадлівасці глебы[VI].

– Апрача гэткіх добрых разлікаў, – сказаў Уладзіслаў, – можна пана Падстоліца павіншаваць, што здолеў знайсці дастатковую колькасць працаўнікоў, бо ў звычайных нашых гаспадарак цяжка было б асіліць столькі працы, асабліва на паляпшэнне і ўгнаенне глебы.

– Я ўжо сказаў, – адказаў Антоні, – што пан Падстоліц адразу зменшыў пасяўныя плошчы, каб хапала рабочых рук. Але размеркаванне працы яшчэ больш садзейнічала поспеху ў справе. З першага ж году ён замяніў паншчыну на чынш і прымаў яго працаю. Наймiт звычайна лепш працуе за прыгоннага. Але больш за ўсё дапамагло тое, што падлік быў не па днях, а па колькасці зробленага. Кожная самая дробная праца ў нас аплачваецца, нават даражэй, чым звычайна, дык у выніку маем тое, што кожны работнік працуе хутчэй і больш старанна. Сялянаў мы цяпер амаль ужо не выкарыстоўваем, хіба што ў крайніх выпадках. Бо пан Падстоліц, жадаючы палепшыць іхні дабрабыт, адразу заснаваў для іх земляробчую школу і, навучыўшы іх добраму гаспадаранню, вызваліў ад працы ў маёнтку. Замест іх трымае парабкаў.

– Парабкі, – заўважыў Уладзіслаў, – даражэй абыходзяцца, чым найміты, і цяжка іх знайсці ў нашым краі.

– Гэтыя цяжкасці пан Падстоліц пераадолеў. У звычайных гаспадарках, дзе морг зямлі, пасля платы работніку, не дае прыбытку больш, чым некалькі злотых альбо і зусім ніякага, цяжка, вядома, утрымліваць парабкаў, і нават гэта можа быць стратным; але пры выкарыстанні севазвароту, паляпшаючы ўрадлівасць глебы, калі ўжо каштоўныя, а, перадусім, кармавыя расліны пачнуць вяртаць выдаткі, тады ўтрыманне парабка лёгка аплачваецца і бывае нават карысным[VII].

А для заахвочвання да гэтае працы людзей пан Падстоліц у першы ж год наняў парабкамі некалькі сваіх сялянаў, а як толькі весткі пра тое, як яны жывуць, разышліся, дык пачаў сыходзіцца вольны люд, скарбовыя і нават чыншавая шляхта з жонкамі і дзецьмі, прапануючы свае паслугі. Бо тут парабку лепш, чым у іншым месцы на ўласнай гаспадарцы.

– Ці не будзе пан мець ласку расказаць мне, як вы іх утрымліваеце?

– Ахвотна. Аніводзін парабак не атрымлівае тут плату раз у год; толькі за кожную працу – асобна. Пан Падстоліц мае толькі абавязак даваць ім пастаянна работу; калі не на полі, дык пры нейкім дамашнім рамястве. Васпан бы здзівіўся, як хутка ў нас тут усё робіцца. Ні скарбовага сталавання, ні ардынарыі[19] яны не маюць. Кожны атрымлівае дзве часткі платы грашыма, а трэцюю – збожжам, кошт якога вызначаны раз і назаўсёды і не залежыць ад рынкавых зменаў. Вунь з таго боку парку бачыш, васпан, некалькі дзясяткаў невялікіх дамкоў: гэта нашая юрысдыка[20]. Кожны парабак павінны быць жанаты і кожны мае асобны дамок ды чвэрць моргу на агарод.

– Гатаванне ежы і дагляд дзяцей павінны забіраць у іх шмат часу, – заўважыў Уладзіслаў. – Гаспадыню гэтыя абавязкі і за парог не выпусцяць.

– Усё гэта абдумана, – адказаў Антоні. – Вунь у тым вялікім доме блізу аранжарэі знаходзіцца гаркухня[21], якую ўтрымлівае адна гаспадыня пад наглядам панны Людвікі. Кожны з чэлядзі, хто жадае сталавацца ў кухні, плаціць за стравы з такою толькі даплатаю, каб гаспадыні быў заробак. Спачатку амаль кожны жадае мець свой асобны стол, але хутка пераконваецца, што агулам атрымліваецца выгадней і танней, чым гатаваць дома, што займае час гаспадыні, ды яшчэ выдатак на дровы.

Бо ў нас гэтак усё ўладкавана, што на тым, на чым жадаем ашчаджаць, тое каштуе даражэй, а тое, да чаго жадаем заахвоціць, танней. Напрыклад, за дровы кожны ў нас павінны плаціць наяўнымі, а мыццё бялізны, таксама агульнае, аплачваецца з працэнтаў з ашчаднае касы, так што ніхто не заўважае гэтага выдатку.

Кожны з чэлядзі штотыдзень здае квіткі за сваю працу і атрымлівае за іх плату. Палову грошай, альбо траціну платы, ён павінны, але без прымусу, унесці ў ашчадную касу, а рэшту можа ўжыць на патрэбы. Цяжка было іх пераканаць у карыснасці ашчаднае касы, але калі ўбачылі, што сумы растуць і складаюцца ў капітал, гэтак усе падахвоціліся, што бяздзетныя ледзьве чвэрць сваіх грошай пражываюць.

Дзеці таксама пад агульным наглядам гадуюцца ў тым самым вялікім доме ад часу адлучэння ад грудзей і аж пакуль не будуць здольныя ўжо да навукі. Потым ідуць у земляробчую школу, дзе ўжо самі на сябе зарабляюць. І тут дзеткі, якім некалькі гадкоў, нешта ўжо зарабляюць лёгкаю працаю, пабачыш гэта, васпан, у аддзеле панны Людвікі. Утрымліваюцца ў тым доме яны за кошт бацькоў.

Усе жанатыя дваровыя людзі – на тых самых умовах. Жывуць у юрысдыцы і за кожную паслугу ў двары маюць асобную плату. Фурманы – за дагляд жывёлы, кабеты – за дойку кароў і г. д. Нежанатыя таксама маюць стол у гаркухні, за які плацяць, але жывуць у панскім доме і працуюць у вольны час на сябе, альбо ткуць, альбо маюць іншую працу.

Кожная замужняя служанка мае дойную карову ў гаспадарскай аборы. Калі якой не патрэбнае ўсё малако, дык за пэўную плату яго забіраюць у маёнтак; але за корм павінны слугі плаціць. Усе аплаты гэтак падлічаныя, каб маёнтак на гэтым не нажываўся. На свае агароды кожны з чэлядзі атрымлівае ўгнаенне з маёнтку, але ўзамен аддае свой попел, сажу, смецце, косці, аб'едкі, старызну і г. д. Усё па пэўным кошце. За лішкі кожны з бакоў даплачвае грашыма.

Гэтакім чынам тутэйшыя слугі робяцца ашчадныя, увішныя, кемлівыя, працавітыя і прывязаныя да свайго дабрачынцы. Працуюць яны ўсе старанна, бо кепска зробленае мусяць перарабіць альбо заплаціць за шкоду. Сельскагаспадарчы інвентар і збрую кожнаму даручаныя асабіста пад яго адказнасць, за сапсаванае – плаціць, а за ўтрыманыя ў добрым стане цягам вызначанага часу атрымлівае ўзнагароджанне[VIII].

– Разумею, – сказаў Уладзіслаў, – што гэты лад можа быць карысны для абодвух бакоў; але весці гэтулькі дробных рахункаў – клапатліва, а мець гэтулькі асобных будынкаў – дорага.

– Рахункі, – адказаў Антоні, – толькі з выгляду цяжкія; кожны штодня атрымлівае квіток, прызначаны за кожны від працы, ды штотыдзень здае жэтоны і атрымлівае плату. А малыя будынкі, як сам, васпан, убачыш, каштуюць няшмат; ставілі іх паволі, як з'яўляўся прыбытак і колькасць слуг павялічвалася.

Вось тут, – працягваў ён, уваходзячы ў вялікі склад, – сельскагаспадарчы інвентар. Тут разнастайныя віды плугоў у адпаведнасці з рознымі патрэбамі, тут жалезныя бароны, матыкі, экстарпатары, сеялкі, скарыфікатары[22], валкі – усё гэта карысныя вынікі ўдасканаленае сельскае гаспадаркі. Не ўсё, аднак, ужываем; большая частка – для практыкі земляробчае школы. З плугоў найбольш спадабаўся нам вось гэты – дамбалеўскі[23]; як васпан бачыш, ён для нашае збруі прыстасаваны, а барану ахвотней ужываем брабанцкую[IX][24].

– Цудоўная калекцыя, – сказаў Уладзіслаў, – але каб нават не лічыць тыя прылады, якія тут для практыкі сабраныя, а ўзяць пад увагу толькі тыя, што ўжываюцца, дык гэта перавышае магчымасці звычайнае гаспадаркі.

– Гэта перадузятасць, – адказаў Антоні. – Калі штогод ашчаджаць зерне, сеючы гэтаю сеялкаю, дык гэта пакрые выдаткі на сеялку ды яшчэ на некалькі плугоў. Астатняе можна зрабіць дома. А без гэтых прыладаў немагчыма ані пазбавіцца ад пустазелля, ані добра пасеяць, ані спадзявацца на добры ўраджай нават на самай лепшай глебе. Земляробства лёгка можна параўнаць з мануфактураю: чым лепшыя і больш адпаведныя ўжываюцца машыны, тым больш будзе вырабаў і лепшае якасці. Мы ўжо пераканаліся, якія цудоўныя вынікі даюць удасканаленыя сельскагаспадарчыя прылады працы і ўведзеная з іх дапамогаю сяўба радамі. Нават сяляне нашыя ўжо ёю заняліся і амаль усе гатункі нашых раслінаў мы так сеем[X].

Тут, – працягваў ён, паказваючы на некалькі нізкіх дахаў, што абапіраліся толькі на слупы, – у нас розныя віды ўгнаенняў у асобных ямах. Тут вадкасці, з якіх робім урат; тут кампосты – конскі, авечы, птушыны, быдлячы, тут на пудрэту прыгатаваныя. Усе накрытыя ад дажджу і сонца і ўсе адасобленыя, бо кожны гатунак патрабуе іншае тэмпературы ферментацыі і кожны служыць асобнаму віду раслін[XI].

У адчыненых дзвярах аборы, да якой яны наблізіліся, чакаў іх Ежы.

– Тут, – сказаў Антоні, – нашыя аддзелы сышліся. Цяпер мой калега, міласцівы ягамосць дабрадзей пан канюшы зробіць ласку паказаць сваю гаспадарку.

Прывітаў іх Ежы і павёў у абору. Блізу двухсот кароў у стойлах, размешчаных па абодва бакі аборы, жавала корм, насыпаны ў яслі. Незвычайны від жывёлы здзівіў Уладзіслава.

– Гэта халмагорская парода, – сказаў Ежы. – Рост, бучнасць і малочнасць выдзяляюць гэтую пароду з усіх вядомых. Іхняю першаю радзімаю была

Галандыя; даўно ўжо прывезеная адтуль у паўночную Расію, яна набыла моц, захоўваючы ўсе каштоўныя якасці пароды. Маем тут некалькі цірольскіх і некалькі швейцарскіх, але аніводную не параўнаць з халмагорскаю. Яны больш далікатныя, цяжэй пераносяць наш клімат, патрабуюць лепшае пашы і часта хварэюць. Цірольскія, праўда, добра набіраюць вагу, але халмагорскія, як сам, васпан, бачыш, лепшыя і малака непараўнальна даюць больш.

– Усе яны добра ўкормленыя, – пахваліў Уладзіслаў.

– Гэта вынік добрага дагляду, – адказаў Ежы. – Кожную карову кожныя тры дні мыюць і штодзённа чысцяць ад пылу; корм рэгулярны, не з аднае саломы, але з найлепшых кармавых раслінаў, пасыпаны аўсянаю мукою і соллю, ад гэтага яны таўсцеюць і даюць густое малако, з лішкам вяртаючы выдаткаваныя на іх грошы. Тут – цяляты, – дадаў ён, адчыняючы браму ў гадавальнік, дзе некалькі дзясяткаў кароў пасвілася разам з цялятамі на зялёнай траве.

– Гэта двухгадовыя, – сказаў Уладзіслаў.

– Не, зімовыя, – адказаў Ежы. – Яны вялікія таму, што тых, якіх мы пакідаем на прыплод, не адлучаем ад матак аж да позняе восені. Апрача малака яны маюць пойла і корм, дык растуць, як на дражджах. Двухгадовыя ўжо роўныя з дарослымі. А пры такой гадоўлі застаюцца моцнымі і жвавымі ўсё жыццё.

– Але пры такім спосабе малако за цэлы год гіне?

– Аплачваецца гэта хуткім ростам і лепшым здароўем прыплоду. Гэтак гадаваныя каровы значна больш даюць малака. Дык гадавая страта малака матак вяртаецца нам з прыбыткам, пакуль жывуць яе нашчадкі.

– Гэткая гадоўля, – заўважыў Уладзіслаў, – занадта каштоўная. Авёс і соль дарагія, а малочная прадукцыя ў нашых, аддаленых ад горада ваколіцах, не можа быць прыбытковаю.

– Палова бочкі аўса ў год на карову, – пачаў тлумачыць Антоні, – і колькі гарцаў солі – гэта не надта вялікі выдатак, калі палічым, што сама мала ўтрая больш за звычайных даюць нам малака. Што робім з малаком, даведаешся, васпан, ад Гэлены. Я толькі магу сцвярджаць, што мы не трацім, а вялікі прыбытак ад такога ўтрымання аборы маем.

А гэты краявід? – запытаўся ён, паказваючы на другі бок гадавальніка. – З вокнаў памяшкання вока спачывае на лугавінах у атачэнні гаёў. Статкі авечак і коней ажыўляюць маляўнічую прыроду. Ці ж можа без замілавання глядзець на гэта?

– Пэўна, што гэта прыгажэй за альтанкі ды руіны, – адказаў Уладзіслаў. – Але што там за авечкі? Гэта не мерыносы.

– Мерыносаў не можам трымаць у нашым краі,– адказаў Ежы. – Ім трэба сухая паша, а можа, і не такі вільготны клімат. У нас каля вады лепей вядуцца авечкі англійскія, лейстэрскія[25], доўгаваўняныя, і саўтдаўнскія[26] з кароткаю воўнаю. Маем тут чатыры чарады, дзве з іх, як я казаў, племянныя, а дзве – скрыжаваныя з крымскімі. У скрыжаваных вывелі мы ўжо такі гатунак, што амаль не саступаюць чыстакроўным. Саўтдаўнскія маюць выдатнае мяса і даюць больш малака, чым усе іншыя, дык недахоп воўны кампенсуецца малаком і мясам. Але і воўна іх някепская; яна падобная па вартасці да мерыносавае, асабліва калі чарада мае добры корм і роўную воўну. Бо роўная воўна, як васпан, пэўна, ведае, больш каштоўная, чым тонкая, але неаднародная. А лейстэрскія авечкі колькасцю руна пераўзыходзяць, здаецца, мерыносаў. Суседзі нашыя трымаюць мерыносаў; і тыя, якім прыродныя ўмовы дазваляюць,

маюць з гэтага карысць. Але гэтыя авечкі вельмі далікатныя, і на нізкіх выганах, там, дзе вільготна, каля вады, нічога добрага не атрымліваецца, дык пан Падстоліц вырашыў гадаваць англійскія[XII]. Можа, пан Уладзіслаў жадае агледзець нашыя стайні і табуны? Вунь у тым гаі.

Яны крыху прайшлі, і паказаўся вялікі будынак стайні.

– Тут, – сказаў Ежы, адчыняючы дзверы, – вазоўня. Калясак, як васпан бачыш, мала, бо пан Падстоліц унікае празмернасці гэткага роду. Адна падарожная карэта для Імосці, каламажка і брычка, у якой вы прыехалі, служаць ужо больш за дзесяць гадоў, а пры беражлівых адносінах ды стараннай направе могуць праслужыць яшчэ столькі ж. А вось коні, – працягваў ён, адчыняючы перад Уладзіславам дзверы ў стайню, дзе стаяла некалькі рослых жарабцоў і больш за дзясятак кабылаў.

– Жарабят, – расказваў Ежы, – бачыў васпан у гадавальніку разам з маткамі. А іншыя стаяць тут на сухім корме.

– Сумняваюся я, што гэтая галіна кампенсуе выдаткі, – сказаў Уладзіслаў.

– Каб яны не былі такія пародзістыя, – адказаў Ежы, – дык, пэўна, не кампенсавала б, але сам васпан, здаецца, быў сведкам на кірмашы, як коней пана Падстоліца ацанілі і расхапалі. Гадоўля добрага каня каштуе не больш, чым гадоўля марнага, але трохгадовыя выдаткі вяртаюцца з прыбыткам пры продажы.

Але належыць прызнаць, што гэтая галіна гаспадаркі дае меншы прыбытак, чым іншыя, бо патрабуе навыку, працы, клопату і самая малая памылка альбо занядбанне можа прынесці значную шкоду. Але ж да гэтага часу неяк Бог нам і ў гэтым бласлаўляў. Штогод пан Падстоліц прадае з дзясятак коней, што дае чыстага прыбытку некалькі альбо больш за дзясятак чырвоных злотых. Гэта збыткоўная частка ягонае гаспадаркі. Ён кажа, што нават каб давялося несці страты, дык не адмовіўся ад яе з-за ўвагі на карысць для краю.

Тут – жарабцы для найму сялянам. Бо ў нас тут звычай, каб усіх самцоў быдла – бараноў, кнылоў, жарабцоў – пазычаць сялянам і чыншавай шляхце, якія самі не могуць іх з карысцю ўтрымліваць. Такім чынам яны папраўляюць і падтрымліваюць пароду свае жывёлы. Таму ў нашым наваколлі не ўбачыш, васпан, ані тых марных конікаў літоўскіх, ані валоў, ростам з ката, ані мізэрных авечак[XIII].

Калі ёсць жаданне, пакажу васпану яшчэ адну частку майго аддзелу, якая абыходзіцца танней, чым любая іншая, але прыбытку ў чыстым выглядзе прыносіць больш за ўсіх. Вось сюды, – сказаў ён.

На ўзлеску ліпавага гаю, з якога яны выйшлі, над шэрагамі парканаў[27] з дашкамі гула аграмадная колькасць пчол, якія хмарамі кружылі ў паветры.

– Гэтыя скрынкі на паліцах пад дахам – зборныя вуллі. Іхняя канструкцыя вызваляе нас ад таго, каб лавіць раі. Лугавіны, якія мы штогод засяваем канюшынаю, рэзедаю, мелісаю, сланечнікам, шафранам, і блізкія палеткі, усланыя дыванамі Флоры, і ліпавыя гаі, а за імі сад з клумбамі ружаў ды іншых кветак, якія адмыслова для пчолаў садзім, – кормяць гэту працавітую калонію ад вясны да позняе восені. Нашыя працаўніцы, маючы тут ля самых вуллёў корм і ваду ў гэтым вось струмені, не мусяць шукаць іх далёка; яны хутка вяртацца з поля, дык ім не страшны дождж і бура; і яны прыносяць мёду столькі, што за лета мы дастаём яго два-тры разы, і ў сярэднім штогод маем ад кожнага вулля некалькі дзясяткаў фунтаў мёду і некалькі раёў[XIV]. Пану Падстоліцу

вельмі падабаецца гэтая частка гаспадаркі, і пры належным даглядзе яна дае добры прыбытак.

Яшчэ я хацеў бы паказаць васпану наш вялікі хмельнік і лясы, якія таксама належаць да майго аддзелу; але хмель ужо сабраны, агляд жа лясоў заняў бы ў нас шмат часу, а хутка абед, і часткова васпан ужо іх бачыў, едучы сюды, дык пакінем гэта на іншы раз. Цяпер Антоні, можа, пажадае правесці васпана на аддзел Сымона. Бо я ў гэты час кармлю маіх гадаванцаў.

З пашы вярталіся ў аўчарню авечкі, каровы з цялятамі ў абору, жвавыя кабылы беглі з жарабятамі ў стайню, а некалькі парабкаў везла з гумна корм, прыгатаваны для іх. Пан Ежы развітаўся з госцем.

– Пойдзем, – сказаў Антоні, – у нашыя мануфактуры. Дарэчы, мы падышлі да юрысдыкі. Будынкі належаць да аддзела Гжэгаша, а нагляд за чэляддзю даручаны мне, і таму магу паказаць васпану, што ў тых дамках.

Ля гаю, з якога яны выйшлі, стаялі некалькімі купкамі мураваныя светлашэрыя дамкі з дахамі з драніцы; будынкі былі аддзеленыя адзін ад аднаго дрэвамі, у асноўным садовымі альбо хвойнымі.

– Пладовыя дрэвы, – казаў Антоні, – гэта ўласнасць жыхароў гэтых дамкоў. Кожны абавязаны штогод хоць адно прышчапіць, але звычайна прышчэпліваць больш, бо маюць з гэтага карысць. Выбіраючыся кожны мае права забраць свае дрэвы альбо прадаць, дык даглядаюць іх старанна.

Гэтыя бліскучыя дахі, – расказваў ён далей, – абмазаныя масай, якая ахоўвае дрэва ад агню, яна цвёрдая, як камень, і не прапускае вільгаці. Усе нашыя будынкі ў двары, як васпан бачыш, і ў сялянаў таксама гэткім чынам абароненыя[XV].

Яны ўвайшлі ў адзін з дамкоў. У чыстых сенцах насупраць уваходу была кладоўка, а збоку – дзверы ў хату, дзе была печ з комінам.

– У доміку толькі адзін пакой, – казаў Антоні, – бо яго дастаткова для дваіх. Дзеці гадуюцца асобна. Усё драўлянае, як бачыш васпан, пафарбаванае з пакостам. У тых шафках стаіць посуд. На гэтым падвойным калаўроце гаспадыня прадзе, а той рымарскі варштат для самога гаспадара, які вось якраз ідзе.

Увайшоў Марцін.

– О, як я рады! – выгукнуў ён, сціскаючы калені Уладзіслава. – Як я рады, што пан меў ласку зазірнуць у маю ўбогую хаціну. Зараз жа пабягу па жонку, каб пачаставала васпана сваімі прысмакамі, якімі яна мяне з кожнага падарожжа сустракае.

– Дзякуй, мой каханы, – затрымаў яго Уладзіслаў. – Не турбуй яе. Твая гасціннасць мне мілей за пачастунак.

– Але, далібог, васпане, смачна... рознае павідла дамашняе работы... зараз паклічу.

Не пусціў яго Уладзіслаў. Марцін падкруціў вус і паважным крокам падышоў да шафы, з якой дастаў пару шклянак, пляшку і некалькі яблык.

– Хоць гэтым, прынамсі, панства, не пагрэбуйце, – казаў ён, наліваючы ў шклянкі парэчкавую настойку.

– Адкуль у цябе гэта? – запытаўся Уладзіслаў, прымаючы пачастунак.

– З нашага саду. Жывем, як бачыш, паніч, чыста і не надта бедна, знайшлося б і нешта лепшае пачаставаць каханых паноў, каб была тут мая баба.

– Дзякуй, Марцін, – сказаў Уладзіслаў. – Няхай ужо другім разам. Бо цяпер я тут выпадкова апынуўся, і развітваюся з табою, бо нам трэба далей ісці.

– Але няхай панове адпачнуць, хоць на хвілінку прашу прысесці, а яблыкі забярыце з сабою, калі ласка. У палацы пан будзе мець лепшыя, але гэтыя ад слугі няхай будуць...

– З прыемнасцю, – сказаў Уладзіслаў. – Цудоўныя яблыкі; толькі няма куды мне іх пакласці.

– Дык я адашлю пану, – выручыў яго Марцін.

– Дзякуй. Будзь здаровы, Марцін.

– Усе займаюцца нейкім рамяствам у вольны час, – расказваў Антоні, калі яны пайшлі далей, – сталярным, бандарным, слясарным, кравецкім і гэтак далей. Усё на карысць двара, плаціць таксама двор.

– Чаму гэткія тонкія муры? – запытаўся Уладзіслаў. – Гэтыя дамы, відаць, халодныя і вільготныя?

– Ані адно, ані другое. Дамы, мураваныя ў адну цэглу альбо паўтары – цёплыя, сухія і танныя. На адзін такі дамок не ідзе больш, чым 15.000 цаглін. Тое самае і ў сялянаў. Навучаныя танна абпальваць цэглу і вапну ды ўжо перакананыя, што такія дамкі могуць быць сухія і цёплыя, яны ахвотна выкарыстоўваюць такі спосаб будаўніцтва[XVI].

Гэтак размаўляючы, яны выйшлі з гаю на дзядзінец у тым месцы, дзе насупраць вострава была прыстань.

– Дзе ж гэта мы? – запытаўся, азіраючыся Уладзіслаў. – Гэта другі стаў?

– Той самы, – адказаў, ведучы яго да млыноў, Антоні. – Мы абышлі навокал сад, маёнтак і дзядзінец. Гумны тут за млынамі, а ля млыноў – нашыя мануфактуры. Сымон, напэўна, заняты слодычамі.

Яны ўвайшлі ў вялікі дом, у першым памяшканні якога рыпелі таркі ў рамах, якія рухала сіла вады, а з дваццаць кабет на нізкіх лавах пры сценах скрэбла буракі. На сярэдзіне гідраўлічны прэс выціскаў сок з таркаванае мязгі, якую хлопцы выносілі кашамі з-пад тарак і падсоўвалі ў мяшках пад прэс. У другім памяшканні кіпела дванаццаць катлоў, і тут якраз Сымон сустрэў іх з вялікаю лыжкаю ў руцэ і, не кажучы ані слова, прывітаў адным толькі паклонам і ветліваю ўсмешкаю. Майстар у белым фартуху хадзіў між катлоў, а некалькі памочнікаў з розным начыннем і прыправамі сачылі за яго камандамі, якія ён аддаваў кіўком галавы, і выконвалі іх у імгненне вока.

– Што ж васпан дабрадзей варыць у гэтых катлах? – запытаўся Уладзіслаў у Сымона, каб уцягнуць яго ў размову.

– Цукар, – лаканічна адказаў Сымон.

Антоні паспяшаўся патлумачыць:

– На ўсю восень хапае нам гэтае работы. Гэтая галіна гаспадаркі рэдкая яшчэ ў нашым краі, хоць анідзе з гэткаю карысцю нельга займацца ёю, як у нас. Таннасць зямлі і земляробства на доўгі час забяспечвае нам прыбытак з гэтае дзейнасці большы, чым цукровы трыснёг для паўднёвых краін[XVII].

– Цукар-пясок, – буркнуў Сымон, даючы паспытаць яго Уладзіславу, які не заўважыў розніцы ад цукру-пяску, які рабілі з трыснягу.

Пан Антоні дадаў:

– Гэты цукар-пясок прыгатаваны для рафінавання, якое робім ў нашым мястэчку, бо гэта ўжо не справа гаспадарскіх мануфактураў. Усе нашыя суседзі вараць у сябе толькі цукар-пясок. На кірмашы васпан мусіў бачыць, як наш цукар-рафінад добра куплялі тыя, хто знаецца на гэтым; а ўчора васпан сам

пераканаўся, калі піў гарбату, што паводле смаку ён не адрозніваецца ад трысняговага. Можа, прыйдзе час, калі Еўропа, знайшоўшы ў нашым краі гэты танны прадукт, адмовіцца ад трысняговага цукру і каштоўнага вырошчвання буракоў у сябе, ды звернецца да нас па цукар.

– Дык толькі ўвосень працуе ваш заводзік? – запытаў Уладзіслаў. – А зімою і летам абсталяванне стаіць?

– Зімою мы робім сіроп з бульбы, а вясною – мёд і піва, – адказаў Сымон.

– Я думаў, – сказаў Уладзіслаў, – для гэтага прызначаны вунь той, другі дом.

– Пойдзем туды, – прапанаваў Антоні і павёў у іншыя памяшканні.

– Тут саладоўня, – прамовіў Сымон.

– Вялікая, – заўважыў Уладзіслаў.

– Шмат варым піва, – растлумачыў Сымон.

– Тут робім алей, – сказаў Сымон, уваходзячы ў другі вялікі дом.

– Пад тым прэсам, – дадаў Антоні, – не застаецца ані кроплі алею ў зярнятах.

– Хто ж вынаходнік гэтага прэсу? – запытаўся Уладзіслаў. – Гэтак лёгка прыводзіць яго ў рух адзін хлопец.

– Рэвілона[28], – адказаў Сымон[XVIII].

– У гэтым памяшканні, – расказваў Антоні, – ачышчаецца алей; а ў тых бакоўках падрыхтоўваюцца фарбавальныя расліны: тут сушыцца шафран, тут вырабляецца фарбоўнік, тут – марэна ды іншыя. На гарышчы – сушыльня для тытуню.

– А дзе бровар? – запытаўся Уладзіслаў.

– У нас няма бровару, – адказаў Антоні. – На нашай раллі растуць больш карысныя расліны, чым збожжа; таксама і праца рук, і кошт абсталявання лепш аплачваюцца на гэтых вось вырабах.

– Але вы адмаўляецеся ад брагі, гэткае карыснае для жывёлы?

– Пан Падстоліц лічыць, – адказаў Антоні, – што больш карысны за брагу для жывёлы піўны солад, і жамерыны з буракоў, і макуха алейных раслін. Але каб не было ў нас прыдатнае зямлі для вырошчвання гэтых раслін, дык ахвотна мелі б мы бровар, без якога ў звычайнай гаспадарцы вельмі цяжка і амаль немагчыма абысціся. А той, хто без яго абыходзіцца, добраахвотна адракаецца ад прыбытку, які добраўпарадкаваны бровар дае гаспадарцы.

– Вельмі мне шкада, што не знайшоў я тут бровару; бо мяркую, што ўбачыў бы тут самае эфектыўнае прыстасаванне і зразумеў бы, чаму пан Падстоліц ганіць нашых суайчыннікаў за паўпаравыя бровары.

– Пакуль быў у нас бровар, – адказаў Антоні, – ужывалі мы плоскія шатландскія катлы, што ашчаджала час і дровы; зрэшты, былі яны зробленыя паводле правілаў Пісторыуша[29]. А паўпаравыя бровары пан Падстоліц ганіць не з-за самое канструкцыі, якая з’яўляецца ўдасканаленнем простае, але з-за неадукаванасці тых, хто не разумеючы, што такое пара, выдумалі назву паўпаравыя, і думаюць, што без навукі будуць гнаць у такіх броварах гарэлку без стратаў.

– Пыталь[30], – прамовіў Сымон, ведучы іх да млыну.

– Мука нашая, – падхапіў Антоні, – не саступае марымноцкай[31]; механізм Эванса[32], каштуе, праўда, нямала, але прыбытак перавышае выдаткі[XIX]. Тут крупадзёрка, – працягваў ён, калі яны ўвайшлі ў другую частку, – механізм Лескура[XX]. Наш млын мае церніцу для льну і пянькі, зробленую на шатландскі ўзор. За гадзіну яна больш льну апрацуе, чым звычайным спосабам за

цэлы дзень. Тут трапальня, якую прыводзіць у рух сіла вады. Механізм абодвух гэтых машын, як сам васпан бачыш, просты, любы цясляр яго зробіць. А ашчаджае ён значную колькасць рабочых рук і ахоўвае ад шкоднага пылу звычайных церніцаў і трапальняў[XXI].

– Ці ж гэтая машына трэ нявымачаны лён? – запытаўся Уладзіслаў.

– Вядома, вымачаны, – адказаў Антоні. – Не атрымліваецца яшчэ замяніць механічнаю сілаю хімічныя працэсы. Прынамсі, да гэтага часу, нягледзячы на дзіўныя абяцанні Крысціяна, Ларыларда, Лафарэта, Тэрна, Грунера ды іншых. Машыны, якія яны дэманстравалі, не адпавядалі абяцанням.

– Аднак, – сказаў Уладзіслаў, – пажаданым было б такое вынаходніцтва, хоць бы для вызвалення нас ад шкодных выпарэнняў вымачанага льну.

– З гэтым мы лёгка спраўляемся, – адказаў Антоні, – зараз пакажам.

– Часальня Вурма, – прамовіў Сымон, адчыняючы дзверы ў другое памяшканне.

– Гэта, – працягваў Антоні, – простая машына для часання льну і пянькі. Адзін працаўнік можа на ёй вычасаць у дзесяць раз больш, чым рукамі; валакно не рвецца і нават пакулле можна спрасці ў тонкую нітку[XXII].

Яны выйшлі на дамбу і ён працягваў:

– Вось як мы мочым лён і пяньку. У гэтым вось карычневым чане пры спуску, як васпан бачыш, на гэтай рашотцы сцелем лён. Вада змяняецца кожную гадзіну і, не даходзячы да гнілое ферментацыі, не заражае паветра, а прадзіва таксама атрымліваецца больш моцнае. За дзесяць альбо дванаццаць дзён лён вымочваецца[XXIII].

– А які гэта лён? – запытаўся Уладзіслаў.

– Сібірскі, – адказаў Сымон.

– Сібірскі, – пацвердзіў Антоні, – зімовы, з вялікаю колькасцю семя, больш высокі і моцны, чым звычайны[XXIV]. У той паветцы выпарваецца драўніна на будаўніцтва, на бондарства і сталярства[XXV]. Жыхары ставу, – дадаў Антоні, – належаць да аддзелу Ежы. Сёння ў нас пятніца і, пэўна, з'явяцца на стале тлустыя шчупакі, карпы і фарэль, якая ў нашай вадзе не горш, чым у Кітаі выгульваецца і расце[XXVI]. І, здаецца, час ужо з імі пабачыцца.

У гэты момант куранты выбілі дванаццатую гадзіну і ўсе падаліся на абед.

## Раздзел трэці

# ГАСПАДЫНЯ

Ale w zawartych sadów rodnej przestrzeni
Latorośli z pniakiem żeni,
Łamie z gałęzia wilki suche, nieżywą
Miejsce napuszcza oliwą.
Lub na co gospodyni patrzy więc rada,
Różnobarwych owiec stada
Pędząc; z czego mieć dosyć może źwierzyny
I na handel postrzyżyny.
Lubo w pasiekach źbiera obfite miody,
Które wbija w beczki, w kłody;
Milo mu gdy swą ręką frukt zrywa z onej
Gruszki, ręką swą wszczepionej.

Wesp. Kochowski, *Pieśń* V, ks. I[33]

Пан Падстоліц ужо вярнуўся з мястэчка. Ён спаткаў у вітальні Уладзіслава і павёў яго ў залу, распытваючы, як яму спадабалася гаспадарка? Ці падобная на гаспадарку Харунжага?

– Як неба да зямлі, – адказаў Уладзіслаў. – Не ўяўляю сабе, як можна было ў нашым краі, нягледзячы на столькі цяжкасцяў, давесці яе да гэткага стану.

– Пачаў я з малога, – сказаў пан Падстоліц, – але з пачатку склаў агульны план і дакладна яго прытрымліваўся. Бо гэта абавязковая ўмова поспеху ці пры стварэнні новае гаспадаркі, ці пры рэформе старое.

– Гэта, аднак, лягчэй, калі ёсць запасны капітал, але ў звычайных нашых умовах, калі нават прыбытак мы не можам пусціць на паляпшэнне гаспадаркі, не ведаю, ці атрымалася б зрабіць такія перамены.

– Якраз у такіх акалічнасцях былі мае суседзі, – адказаў пан Падстоліц. – Паедзем да тых, што бліжэй, дык яны самі табе раскажуць, якім чынам змаглі выбавіцца з вартага жалю стану і прыйсці да лепшага жыцця. Самыя ўпартыя, якія напачатку прарочылі мне немінучую пагібель, сёння ўжо робяць так, як я, і не могуць сабе прабачыць, што не пачалі раней, як іншыя, паводле майго прыкладу і парады.

Увайшла пані Падстолічыха і запрасіла госця перакусіць перад абедам. У посны дзень закуска складалася з розных гатункаў сыру, марынадаў і садавіны. Хутка сабралася моладзь і паклікалі да стала. Як і чакалася, у гэтым доме посны абед не быў агідны з-за прагорклага алею і чорнае мукі. Цудоўныя пірагі, далікатная зяляніна, канфіцюры, некалькі гатункаў рыбы, запіваных пастарасвецку, хоць і сціпла, віном ды смачным ліпцам[34] пана Падстоліца, маглі задаволіць апетыт самага капрызлівага ласуна; а сервіроўка стала, увішная прыслуга, гасціннасць гаспадароў і цікавая, вясёлая ды шчырая без прэтэнзій размова чынілі гэтую пачостку годнай адукаванага чалавека.

– На каву, – сказала Іпаліта, – прашу ў сад; а потым мы пакажам пану Уладзіславу нашыя аддзелы.

– А я, – сказала Гэлена, – замаўляю падвячорак на востраве.

– Ахвотна зробім, – адказала пані Падстолічыха.

– Можа, перад каваю партыю ў алагер?[35] – прапанаваў пан Падстоліц, адчыняючы дзверы ў вітальню.

Мужчыны пачалі паядынак; Уладзіслаў, прыгадаўшы свае яшчэ з універсітэцкіх часоў більярдныя навыкі, так удала гуляў, што, нягледзячы на ўсе здольнасці яго праціўнікаў, перамог і атрымаў узнагароду, якую прызначыла Зося, – букет свежых хрызантэмаў, рагулек, магнолій, флёксаў, гібіскусаў ды іншых восеньскіх кветак.

Узрадаваны гэтаю прыгожаю ўзнагародаю, ён паспяшаўся ў свой пакой, каб паставіць іх у ваду; але якое ж было ягонае здзіўленне, калі на вокнах і на стале ён убачыў некалькі яшчэ больш прыгожых букетаў! Гэткая клапатлівасць пра тое, каб кожная хвіліна гасцявання была прыемнаю, выклікала яшчэ большую ўдзячнасць да гаспадароў. Дробныя паслугі часта выклікаюць больш пачуццяў, чым вялікае дабрадзейства; бо тут адна толькі ветлівасць, а там могуць быць іншыя матывы; а дзе ёсць галінкі дабрыні, там, пэўна, і ўсё дрэва здаровае ды на шляхетным грунце расце.

Вярнуўшыся да кампаніі, Уладзіслаў падзякаваў панне Зосі, якая прыняла падзяку са шчыраю сціпласцю і, падаўшы яму руку, павяла ў сад на каву.

Яшчэ раніцаю агледзеў Уладзіслаў некалькі куточкаў саду; але ён не ўяўляў сабе, колькі іх было сапраўды і якія яны былі маляўнічыя. З густам размешчаныя клумбы, роўныя і шырокія траўнікі, від на гадавальнік, які ажыўлялі статкі і чароды; з кожнага пункту – від на гаі, якія адсланялі то ўвесь фасад, то толькі дах ці некалькі будынкаў, што стаялі побач, і мноства кветак, і вада – усё цешыла вока і паляпшала настрой.

Усе ўвайшлі ў кітайскі домік пад акацыяю і чырвонаю бузінаю. У чыстым пакоі блішчаў лак на мэблі, сценах і шафах; каскады вазонаў з парцэляны цягнуліся ўздоўж двух сцен з мноствам вокнаў; дрэўцы, якія раслі ў вазонах, зацянялі святло і распаўсюджвалі прыемны водар.

– Тут мая сталіца, – сказала Зося. – Ва ўсіх гэтых вазонах расце гарбата: тут зялёная, тут *bohea*, гатунак і колер якое залежыць ад часу збору і ад спосабу прыгатавання. Тут расліны, якія ўжываюцца замест гарбаты ў амерыканскіх краінах. Тут мексіканская *Psoralea glandulosa*; тая ў Новай Гранадзе ўжываецца, *Simplocos alstonia*, вядомая пад назваю лабрадорскае гарбаты. Вось тая, што васпану ўчора гэтак смакавала: гэта славутая перуанская, званая *Ilex paraguensis* альбо *ilex gorghona*[36]. Шмат хто лічыць гэты гатунак лепшым за найлепшую кітайскую. Маем надзею, што яна ў хуткім часе і ў нас прыжывецца; у некаторых англійскіх садах яе трымаюць ужо на вольным паветры; а тут яе цэлае лета не трэба трымаць у аранжарэі. Таму адчыненыя тут вокны і толькі ў зусім халодныя дні гэты дом абаграецца. У гэтых шафах мы захоўваем насенне; а за гэтым столікам п'ем каву і часам гарбату.

Якраз падыходзіла рэшта кампаніі, наперадзе якое ішла Іпаліта з абрусам і слуга з каваю. Заслалі столік; села вакол яго на плеценых з лазы крэслах вясёлае таварыства і з'явіўся садоўнік з кошыкам садавіны. Зося раздавала дэсерт, а Іпаліта частавала каваю. Цукровыя дыні-канталупы[37], пахкі мускат

побач з ананасамі, апельсінамі, персікамі і абрыкосамі здабывалі дзеля свае шафаркі не адну пахвалу, не адно мілае “дзякуй”.

– Я не надта падкі на ласункі, – казаў пані Падстолічысе Уладзіслаў, – але мушу прызнацца, што карціна гэткае восеньскае шчодрасці мне надзвычай падабаецца.

– Такая шчодрасць трывае ў нас усю зіму, – з гонарам прамовіла Зося. – Запрашаю да нас на Вялікдзень, дык пачастую васпана дынямі яшчэ лепшымі, чым гэтыя[XXVII].

– Шчыра віншую паню з гэткімі памочніцамі, – звярнуўся Уладзіслаў да пані Падстолічыхі.

– Пад старасць яны выручаюць мяне, – адказала яна. – Даўней усе іхнія аддзелы былі пад маім непасрэдным кіраваннем; цяпер, калі яны ўсе павялічыліся, я адна ўжо не дала б рады.

– Мама намі кіруе, – азвалася Людвіка.

– І таму ўсё атрымліваецца, – дадала Гэлена.

– Дзякуй вам, мае дзеці, – адказала пані Падстолічыха. – Шчыра ўсе вы дапамагаеце і робіце наша жыццё больш прыемным.

Дзяўчаты атачылі яе і чула пачалі абдымаць.

Тым часам пан Падстоліц расказваў Уладзіславу, што сад ён пасадзіў адразу, як пачаў тут гаспадарыць.

– Гэта няшмат каштуе, калі не траціцца на куплянне дарагіх раслінаў ды добра выкарыстаць і месца, і вольны час, асабліва восенню. Большую частку гэтых клумбаў я пасадзіў уласнымі рукамі. Не грэбаваў працаю, якая прыносіла мне карысць і задавальненне. Часта суседзі бачылі мяне тут з матыкаю ў руках, а калі ў полі не было ўжо работы, дык вольныя рукі выкарыстоўваў тут, дзеля працы ў садзе. Штогод павялічвалася колькасць прышчэпаў ды клумбаў, і сад стаў такім, як ты яго бачыш.

Калі скончылі піць каву з дэсертам, падзякаваў пан Падстоліц Іпаліце і Зосі, а Уладзіславу сказаў:

– А цяпер мы будзем займацца сваімі справамі. Да вечара я не змагу табе таварышаваць: шмат у мяне пісаніны; а таму даручаю цябе маім паннам.

Уладзіслаў абняў пана Падстоліца; хутка ўсе разышліся. Зося зноў падала Уладзіславу руку і павяла, апавядаючы, у аранжарэю, якая была непадалёк:

– Я ўжо пачала васпану паказваць мой аддзел, але не ведаеш яшчэ ўсяго, што да яго належыць. Апрача гэтае цяпліцы – увесь сад, аранжарэя, прадзіва, ткацтва, выбельванне палатна і склад бялізны. У іншых дамах, – працягвала яна, уваходзячы ў вялікую галерэю, поўную раслін і кветак, – каштуе гэта дорага і не мае карысці; тут кошт невялікі, а карысць досыць значная. Раслінаў надта каштоўных у нас няма, а толькі тое, што служыць для прыгажосці і ўжытку. Тут – апельсіны і лімоны, тут – лаўр, тут растуць мігдалы, тут даспяваюць аліўкі, там – некалькі гатункаў фігаў, там – кава. Плады іх, праўда, не такія дасканалыя, як на іхняй радзіме, але гэты недахоп узнагароджваецца свежасцю.

Там маем яшчэ расліны, якія кепска прымаюцца ў нашым клімаце: імбір, кардамон, афрыканскі перац, мускатны арэх і некалькі іншых экватарыяльных гатункаў, якія ў нас пакуль не цвітуць, але мы не трацім надзеі, што на ўзор іншых, і гэтыя не толькі заквітнеюць, але і прыстасуюцца да нашага

клімату. Слаўны Туэн[38] шматлікімі прыкладамі жывіць у нас гэтую надзею[XXVIII]. Гэтыя прыступкі вядуць на другі паверх.

І яна лёгка, як птушка, паднялася па пакручастых прыступках. Уладзіслаў паспяшаўся за ёю.

– Адны гэтыя рады ананасаў, – казала яна, – могуць акупіць выдаткі на ўвесь сад. Спеюць яны на вольным паветры, абаграюцца парай, і таму, як васпан заўважыў, яны смачнейшыя за іншыя[XXIX]. У гэтых вось каморах у нас бавоўнавыя кусты; а тут – хоя[39], якая добра ўжо асвоілiся ў нашым клімаце. Гэтыя фінікавыя пальмы вырошчваем дзеля продажу жыдам галінак, якія плацяць нам за іх штогод значную "кантрыбуцыю"[40]. Не хачу васпана стамляць апісаннем іншых раслінаў, якіх тут так шмат. Калі даўжэй у нас забавішся, дык, можа, зноў сюды завітаеш. Цяпер патлумачу васпану, чаму вырошчванне іх каштуе нам танна.

– Чаму цяпліца і аранжарэя падзеленыя, кожная – на некалькі частак? – запытаўся Уладзіслаў.

– Можа, адразу васпан і не заўважыў, – адказала Зося, – што ў кожнай частцы розная тэмпература і вільготнасць. Жадаючы прыстасаваць нейкую расліну да нашага клімату, ставім яе спачатку ў той частцы, дзе колькасць цяпла і вільгаці адпавядае ўмовам на радзіме гэтае расліны. Калі яна там пачынае даваць плады, дык высаджваем насенне ў наступнай частцы, якая мала розніцца ад першае, а сабранае там насенне пераносім у наступную частку, якая больш ужо нагадвае наш клімат. І, нарэшце, нейкае пакаленне тае расліны ўжо набліжана да нашага клімату, як тыя хоі, частку якіх бачыў васпан на адкрытым паветры[XXX].

Яны зайшлі ў памяшканне, дзе гарэў агонь над катламі, асаджанымі ў сцены суседніх памяшканняў.

– Вось гэта, – сказала Зося, – наш апарат для абагравання раслінаў параю. З гэтага катла ідуць трубы, па якіх пускаем пару да кожнае часткі цяпліцы і аранжарэі; асобным комінам, згодна з гігрометрам, пускаем пару ў галерэю. А вось у тым памяшканні (яна адчыніла малую каморку) стаіць печ, да якое агонь ідзе люфтамі з-пад гэтых вось катлоў; яна награвае паветра ў каморцы, якое таксама, паводле патрэбы, выпускаем па трубах уверх і да кітайскага доміка, які васпан бачыш, за акацыямі. Дзякуючы такому абаграванню, тэмпература, незалежачы ад печаў, якія паляцца непасрэдна ў цяпліцы, заўсёды можа падтрымлівацца на патрэбным узроўні, і абагрэў аранжарэі анічога не каштуе, бо гэты агонь і катлы адначасова служаць і для кухні, і для пральні.

Увайшла Людвіка.

– Не спадзявалася я, – сказала яна, – спаткаць нашага госця ў маіх межах, а калі ўжо меў ласку сюды ўвайсці, дык, можа, дазволіць паказаць яму мой аддзел?

– Увайшлі мы сюды выпадкова, – адказала Зося. – Я тлумачыла, якім чынам абаграецца наша цяпліца; але ж, пэўна, прыемна, будзе яму паглядзець на даручаных твайму клопату гадаванцаў, больш важных, чым мае нежывыя расліны.

– Гэта гаркухня для нашых парабкаў і дворні, – пачала расказваць Людвіка, адчыняючы дзверы ў адно з памяшканняў. – Няхай пана не дзівіць чысціня: без яе пры такой колькасці людзей немагчыма абысціся. А тут –

пральня, таксама для ўсяго дому, – дадала яна, паказваючы наступнае памяшканне. – У гэтых накрытых ваннах бялізна ачышчаецца парай; у тых – яе палошчуць з дапамогаю гэтых колаў: нічога няма больш простага за гэты механізм, а ён так аблягчае работу, што хапае двух кабетаў, каб у сотні людзей, якія любяць ахайнасць, усё было вымытае. Гэты прэс выціскае бялізну, а ў гэтай галерэі ёсць механічны магель[41], на якім адна асоба некалькі сотняў штук адпрасуе. Сушыльня пад дахам. Цяпер прашу наверх.

Некалькі добра праветраных залаў застаўленыя былі калыскамі і малымі ложкамі; некалькі кабет завіхалася каля дзетак, некалькі дзясяткаў якіх – ад двух да сямі гадоў, у чыстых кашульках, бавіліся з цацкамі. Старэйшыя мелі нескладаную працу: дралі пер'е, пакавалі лісце розных раслін, плялі лазовыя альбо саламяныя кошыкі, сукалі вяроўкі... Аніводнае без загаду не рушылася з месца, але калі іх паклікалі, яны з радасцю прыгарнуліся да свае мамы. Людвіка лашчыла іх, адсылала на месца і кіўком галавы кіравала рухам гэтых маленькіх машынак.

– Гэта дзеці слугаў нашага дому, – патлумачыла яна Уладзіславу. – Сёлета я маю шчасце называцца іх маткаю. Іх шмат, бо амаль усе слугі ў нас жанатыя, а смяротнасць дзіцячая ў нас малая, бо мы робім прышчэпкі ад воспы і клапатліва аберагаем іх ад хваробаў[XXXI]. Клапатлівасць пана Падстоліца пра сваіх падуладных пачынаецца з калыскі. Замест таго, каб пакінутыя дзеці сядзелі ў гразі і набіраліся паганых звычак без апекуна альбо забіралі час у бацькоў, якія хацелі б іх даглядаць, мы сабралі іх тут усіх разам пад адным наглядам. Тут яны гадуюцца ў ахайнасці і вучацца з малых гадоў любові да Бога і бліжняга, пакоры праўдзе і ўладзе, парадку, акуратнасці і замілаванню да працы, з дзяцінства выхоўваюцца карыснымі для краю абывацелямі. Іншы б мелі мы лёс, каб усе гэтак былі выхаваныя! Нагляд за імі займае амаль увесь мой час[XXXII].

– Кожная вашая хвіліна, – сказаў Уладзіслаў, – напэўна запісаная ў кнізе заслуг на Небе.

Людвіка ўсміхнулася і, з недаверам зазіраючы яму ў вочы, сказала:

– Хіба пан з-за ветлівасці хоча мяне пахваліць, але я шчыра прызнаюся, што хацела б усё жыццё сваё выконваць гэты абавязак. Аднак на ўсё Воля Божая, – дадала яна. – Пан Падстоліц вучыць нас, што ахвотна трэба падпарадкоўвацца Волі Божай і на кожным месцы, куды Ён нас паставіць, старацца як мага лепш выконваць свае абавязкі, а тады чакае нас Ягонае блаславенне. Мы выбіраемся з дзецьмі на праходку да гадавальніка; ці не пажадае пан таварышыць нам?

– Яшчэ шмат чаго трэба нам агледзець, – адказала ёй Зося. – Мы толькі што пачалі агляд майго аддзелу. Пойдзем, пане Уладзіслаў, бо я баюся, каб гэтыя дзеці занадта пана не расчулілі.

Яны развіталіся з Людвікаю і выйшлі ў сад.

– Не буду васпана вадзіць на нашых агародах, – казала Зося, – якія хоць і вялікія ды багатыя, але мужчыну яны не займаюць гэтак, як нас, гаспадынь. Пакінем гэта для васпана жонкі, якую, пэўна, прывязеш сюды некалі.

– Можа, я ніколі яе мець не буду, – уздыхнуў Уладзіслаў.

Засмяялася Зося, але кранутая смутным відам Уладзіслава, узяла яго за руку і сур'ёзна прамовіла:

– Прабач, я не хацела выклікаць сумных успамінаў; але глядзі, – дадала яна, паказваючы на неба, – чыя гэта справа? Само нічога не робіцца. Ёсць нехта, хто ўсё стварыў і ўпарадкаваў. А калі Ягоная мудрасць кіруе і светам, і кожнаю травінкаю, як жа мы, істоты, адораныя розумам, адважваемся сумнявацца ў Ягонай Ласцы?

Яны прайшлі некалькі крокаў у маўчанні, нарэшце Зося вярнулася да размовы:

– Часткова ты ўжо агледзеў гэты сад, але, можа, не здагадваешся, што большая частка гэтых клумбаў складаецца з пладовых дрэваў. Глянь, вось вішняк; тут – розныя гатункі яблыкаў: рамбуры, кальвілы, ранеты ў перамешку з ляшчынаю і акацыяй; там грушы, а тут каштаны і грэцкія арэхі. Там не ўзгорак, проста ў сярэдзіне – больш высокія дрэвы, якія фармуюць узвышша; там абрыкосы і персікі, а вакол іх – слівы: катрынкі, мірабелі, дамаскія, якія засланяюць больш далікатныя.

– Дзе ж падзець гэтулькі садавіны? – запытаўся Уладзіслаў. – Гэта ж вельмі шмат.

– Робім яблычнік, павідла, сідры, розныя сокі. Аніводнага тут дрэва няма без ужытку. Ліпавы гадавальнік дае корм пчолам; і нават тыя хвоі, лістоўніцы і ядлоўцы плацяць нам даніну ягадамі альбо жывіцаю. Жывыя агароджы ў большасці з пладовага кустарніку: маліны, парэчкі, глог, агрэст, якія запаўняюць нашы спіжарні і склепы найлепшымі гатункамі. Вырошчванне іх шчодра аплачваецца. І гэты сад, на выгляд каштоўны, бо ён вялікі і густоўна ўпарадкаваны, не толькі не абцяжарвае, але сам па сабе можа лічыцца добрым маёнткам. Блізу дваццаці тысячаў пладовых дрэў; каб кожнае па дзесяць грошаў у год прыносіла, дык палічы, колькі гэта будзе.

– На першы погляд, – сказаў Уладзіслаў, – не відаць, што тут адны пладовыя дрэвы, дык я меркаваў было, што пан Падстоліц дазволіў сабе годную ў ягоным стане забаву – мець сад толькі для адпачынку.

– У нас зусім іншыя правілы, – адказала Зося, – і калі мне дазволена будзе спаслацца на словы Гарацыя: *прыемнае з карысным*, дык гэты прынцып тут паўсюдна выкарыстоўваецца. Вось вінаград, – яна сарвала адну гронку і падала Уладзіславу. – Зусім спелы, бо мы ўмеем яго вырошчваць. Добра дапамагае таксама і тая чорная сцяна, якая ўтрымлівае цяпло па начах, калі робіцца холадна. Вінаграднікі разводзіць у нашай Літве, вядома, не можам, прынамсі, пакуль асвоім прышчэпы да нашага клімату, але для дамашняга ўжытку, як бачыш, вінаград маем[XXXIII].

Яны ўвайшлі ў палац і рухаліся бакавым калідорам першага паверху.

– Гэтая зала, – сказала Зося, – знаходзіцца пад вялікаю залаю наверсе. Усе гэтыя варштаты – механічныя. Вось той – мой, вось батыст мае работы. На батыст вырошчваем лён асобна і прадзём яго на машыне Вурма, якая знаходзіцца ў нашым мястэчку[XXXIV]. Той варштат належыць Іпаліце, а той – Гэлене. Работа лёгкая, трэба толькі ўрухоміць вось гэтай лавачкай. Той, з ядвабнай тканінай, – пані Падстолічыхі, якая ў вольны час сама дае прыклад працавітасці. Прадзільная машына Людвікі знаходзіцца ў ейным пакоі. Вунь тыя варштаты – нашае дваровае чэлядзі. Зірні васпан, якія тонкія палотны. Кожны ў вольны час працуе тут, колькі яму захочацца, і атрымлівае за гэта асобную плату. На юрысдыцы кабеты толькі прадуць, а тчэм жа толькі тут, бо на

простых варштатах ткаць – шкода часу, а на механічных – гладкасць вырабу і надзейнасць саміх машын залежыць у асноўным ад пастаяннае тэмпературы, якую ў прыватных дамках утрымаць немагчыма. Іпаліта пакажа васпану, як мы падтрымліваем тут тэмпературу; гэта ейны абавязак.

А мне яшчэ засталося паказаць васпану наш апарат для бялення. Вось па тых прыступках у склеп. Мы цяпер у дыстылярні пад памяшканнямі для чэлядзі. У гэтых кадзях белім палотны з дапамогаю хлору, раствoранага ў вадзе. Даўнія спосабы хімічнага бялення не надта былі карысныя для здароўя працаўнікоў. Тут жа не трэба ані пячэй, ані рэтортаў[42], ані асобных машын: гэтая дзежка, якая абарочваецца вакол свае восі, якраз і ёсць апаратам, дзеля атрымання хлору халодным спосабам. За 20 хвілін палатно выбельваецца; потым мы яго палошчам і сушым[xxxv].

На гэтым заканчваецца мой аддзел; цяпер я завяду васпана да нашае шафаркі, панны Іпаліты. Яна тут непадалёк.

Яны прайшлі праз чысты пакой, прызначаны для кухара, а ў другім, гэткім жа чыстым, як пакой, была кухня, дзе Уладзіслаў убачыў кухара ў белай, як снег, вопратцы, які гатаваў вячэру.

– Дзе панна Іпаліта? – запыталася Зося.

– Пайшла ў спіжарню, – адказаў кухар, паказваючы на дзверы.

– Пойдзем туды, – прапанавала Зося. – Ці прымаеш гасцей? – запыталася яна, уваходзячы.

– Калі ласка, – адказала Іпаліта. – Вітаю пана Уладзіслава ў маім каралеўстве. Яно падобнае на каралеўства Празэрпіны: усё пад зямлёю; але я магу сказаць, што ў гэтым доме яно магло б называцца, хутчэй, каралеўствам Цэрэры. Калі мы ўжо тут, дык пачнём адсюль. Гэта нашая спіжарня.

– Я б падумаў, што гэта аптэка, – заўважыў Уладзіслаў. – Гэткая тут чысціня, гэтакі парадак на паліцах, шкляныя слоікі і пафарбаваныя шафкі з надпісамі на шуфлядках – усё гэта больш падобна на аптэку, чым на нашыя звычайныя спіжарні.

– Гэта справа пані Падстолічыхі. Яна ўвяла гэты парадак і чысціню. Кухню ўжо васпан бачыў?

– Я і не зразумеў, што гэта кухня, – лісліва ўсміхаючыся адказаў Уладзіслаў. – Бо не бачыў ані сажы на сценах, ані мурзатага кухара, ані закопчаных гаршкоў.

– Анідзе васпан у гэтым доме не ўбачыць неахайнасці, – сказала Іпаліта. – Гэта мой клопат, і пані Падстолічыха ўважліва сочыць, бо чысціня – адна з галоўных вартасцяў добрае гаспадыні.

– Тут мы ўжо былі, – сказала Зося, уваходзячы ў дыстылярню.

– Дык што мне з таго, – перапыніла яе Іпаліта. – Ты расказвала, хіба, толькі пра свае палотны і хлараванне. Гэта месца, – дадала яна, звяртаючыся да Уладзіслава, – належыць Зосі, бо служыць для бялення, і мне, бо мы гатуем тут канфіцюры, сокі, павідла, сідры і віна – гэта ўсё адносіцца да майго аддзелу. А вось гэты хімічны апарат, які служыць для аналізу зямлі, выкарыстоўвае сам пан Падстоліц альбо яго памочнікі.

У гэтым пакоі ў нас аптэчка. Прашу. Вось лыжачкі, якімі мае госці няхай зробяць ласку пакаштаваць канфіцюры – ананасны і з дыні, якія я сёння прыгатавала.

Яна хутка заслала столік, паставіла на ім слоікі і сподачкі ды, без цырымоніі ўзяўшы за рукі Уладзіслава і Зосю, пасадзіла іх частавацца.

– Гэта – мігдальная бабка, а гэта – шакаладная, абедзве з нашае садавіны, – расказвала яна, кроячы вялікія кавалкі. – У аранжарэі садавіна толькі ў натуральным стане, а ў мяне – прыгатаваная, каб людзі елі. Так, мая сястрыца: кожны цыган сваіх дзетак хваліць.

Зося смяялася з выхваляння Іпаліты; Уладзіславу падабалася і цудоўнае пірожнае, і канфіцюры, і гасціннасць гаспадыні. Іпаліта, узрадаваная яго шчыраю пахвалою, дзякавала яму, а калі слоікі апусцелі, сказала:

– Зараз пойдзем далей. Калі ласка, назад праз дыстылярню. Тут нашыя купальні. Бо васпан павінны ведаць, што ў гэтым доме мы ўсе трымаемся правілаў Гуфеланда[43]: хочам жыць доўга, не п’ём гарэлкі, шмат рухаемся, стараемся быць вясёлымі і асабліва сочым за гігіенаю. А тут нашая пякарня.

– Што гэта за скрыня на сошках?[44] – спытаў Уладзіслаў.

– Гэта наша дзяжа, – адказала Іпаліта. – Пан Падстоліц не любіць хлеба, калі ціста месяць рукамі. Нашы суседзі і таксама сяляне завялі ў сябе гэтую машынку. Ціста ў ёй замешваецца хутчэй, чым рукамі, і яно чыстае, без поту, які не заўсёды бывае няшкодным. Шмат хвароб можа перадавацца праз звычайнае замешванне ціста рукамі[XXXVI]. А спосаб, якім мы гатуем хлеб, дае нам значна больш ціста і хлеба, чым можна атрымаць з тае самае колькасці мукі[XXXVII].

Вось і ўсе нашыя агні: кухонны, дыстылярны, лазневы і пекарскі. Усе злучаныя між сабою ў сярэдзіне, у гэтым награвальніку.

Яна адчыніла дзверцы цёмнае каморы.

– Тут чатыры перагародкі, у кожнай такая ж, як гэтая печ, злучаная з адпаведнаю топкаю, як гэтая з пякарскаю; у гэтых печах толькі коміны тых топак; яны служаць для награвання паветра, якое знаходзіцца ў тых перагародках. Свежае паветра ўваходзіць гэтаю трубою з саду, а той кран у скляпенні кожнае перагародкі выводзіць яго, ужо нагрэтае, пад другое скляпенне, агульнае для ўсіх чатырох перагародак. Адтуль па трубах яно расходзіцца па ўсіх памяшканнях. Васпан не бачыў печаў у нашым доме, бо мы абаграваем пакоі цёплым паветрам без асобнага апалу, агнём гэтых топак[XXXVIII].

А ў спальнях нашае чэлядзі ці быў пан?

– Я не вадзіла туды нашага госця, – пачала апраўдвацца Зося, – бо гэта належыць да твайго аддзелу.

– Калі ласка, – адказала на гэта Іпаліта. – Нагляд за чэляддзю – мой абавязак.

Яна правяла іх сходамі з купальні бакавым калідорам да ткальні, а з яе – да памяшкання пад вітальняю.

– Вось пакой для служанак. Гэтыя камоды простыя, толькі пафарбаваныя, з’яўляюцца адначасова і ложкамі.

Яна адсунула адзін з іх і паказалася чыстая і акуратная пасцель.

– Усе нашы слугі, – працягвала яна расказваць, – маюць гэткія самыя ложкі. Удзень яны не займаюць месца і аздабляюць памяшканне. У верхняй шуфлядзе складзенае адзенне, кожная зачыняе яе на ключ. Памяшканне для мужчынаў падобнае на гэтае. Усе жанатыя жывуць на юрысдыцы. Тут заканчваецца маё панаванне. Цяпер я буду прасіць Зосю, каб правяла пана да нашае

сястры Гэлены, якая ў гэты час павінна быць на малачарні, а мне трэба яшчэ выдаць рэшту неабходнага для вячэры, а потым буду служыць вам на востраве.

Зося правяла яго зноў у сад і праз малы гаёк – да гатычнае вежы.

– Тут, – сказала яна, – у склепе лядоўня, на першым паверсе – сыраварня, над ім – галубятня, а наверсе – гадзіннік.

Яны ўвайшлі ў сыраварню. Гэлена ў белым фартушку дапамагала служанкам складаць сыры ў формы і напявала нейкую песню. Як толькі яна заўважыла гасцей, дык прывітала іх словамі:

– Якраз у час вы прыйшлі. Мае служанкі даводзяць, што тое, што з радасцю зроблена, добра прадаецца. Можа, пан не ведае гэтага гатунку? – дадала яна, падымаючы форму з ужо цвёрдым сырам.

– Гэта – галандскі, – сказаў Уладзіслаў.

– Так. Галандскі! – згадзілася Гэлена, – Толькі што да тае Галандыі два крокі; а гэта – баварскі, а гэта – швейцарскі, а гэта – мандор, а гэта – сасенаж[45], а гэта – чэшырскі, а гэта – сцілтан, а гэта – зялёны, а гэта – авечы манпельерскі. І ўсе яны дамашнія. Уся розніца ў прыправах і спосабе прыгатавання[XXXIX].

Уладзіслаў агледзеў шматлікія паліцы, поўныя формаў з сырамі.

– Адзін гэты склад варты цэлага прыбытку з добрага маёнтку, – сказаў ён.

– І гэта менш, чым за палову лета, – падхапіла Гэлена. – Толькі тры месяцы сушацца тут сыры, а потым пераносім іх у спіжарню, і ўжо тады яны выходзяць з-пад мае апекі.

Найбольшы наш прыбытак з малачарні – у сырах. Масла мы робім мала, бо яго цяжка прадаваць, а сыры – лягчэй і даўжэй іх можна захоўваць, лягчэй таксама знайсці спажыўцоў у краі і за мяжою. Каровы нашыя добра кормяць, дык яны даюць сама мала па 400 фунтаў тлустага сыру; дык калі лічыць па чвэрць злотага за фунт сыру – па 100 злотых прыбытку ад каровы. Але досыць пакуль пра гэта.

Птаства належыць да майго аддзелу. Палкі гусей, курэй, індыкоў, качак вось на тым дзядзінцы; чуеш васпан іхні крык. Гэта крыклівая рэспубліка, і таму яна адасобленая. Ёсць там для іх сажалкі і гай. Невялікі з іх прыбытак, але ж ёсць сякі-такі і на стол дастаткова.

А цяпер, – сказала яна, здымаючы фартушок, – пойдзем паглядзець на яшчэ адну частку мае гаспадаркі.

Яна падала Уладзіславу руку і павяла да ставу, дзе была лодка.

– Пераправімся самі. Летнія вечары вельмі прыемна праводзіць на вадзе, тады мы з Людвікаю часцей плаваем, а Зося баіцца вады.

– Баюся, – згадзілася Зося, – але, аднак, павязу вас.

Яна ўзяла адно вясло, Уладзіслаў – другое, а Гэлена кіравала. Хутка пераправіліся яны на востраў. Калі высадзіліся, Гэлена хлопнула ў далоні, і з гаю выскачыў хлопчык.

– Пані ўжо тут, – сказаў ён. – Адаслала лодку па паненак.

– Размінуліся мы з пасланцом, – адказала Зося, – перавязі лодку назад.

Хлопчык ускочыў у лодку і паплыў, а панны павялі Уладзіслава па беразе.

– Бачыш, – запыталася Гэлена, – гэту чараду коз? Гэта мае выхаванкі. Гэта не просты гатунак. Гэта тыя самыя крымскія, якімі ў Францыі гэтак ганарацца, выдаючы іх за тыбецкія. Сапраўды, пух іхні не нашмат горшы за той,

што ад тыбецкіх. Пан Падстоліц заснаваў у нашым мястэчку мануфактуру хустак з іхняга пуху, і суседзі ахвотна пачалі гадаваць гэтую пароду. А з-за таго, што яны жвавыя і псуюць дрэвы ды расліны, трымаем іх асобна. Ёсць тут яшчэ іншыя жыхары гэтае выспы, гэтаксама пазбаўленыя магчымасці нашкодзіць, і паселеныя здалёк ад сваіх непрыяцеляў. Вось пара, а вось – другая.

– Гэта –трусы, – выгукнуў Уладзіслаў.

– Трусы і пясцы, – падхапіла Гэлена.

– Навошта ж яны патрэбныя? Мяса іхняе нясмачнае, – заўважыў Уладзіслаў.

– А прынамсі ўчора ў паштэце, – усміхнулася Гэлена, – прыняў яго васпан за рабчыка. Памятаеш, я заўсміхалася, калі ты пытаў, ці вялікія рабчыкі ў гэтых мясцінах? А футра пясцоў шчодра ўзнагароджвае невялікі кошт іх утрымання.

Размову перапыніла пані Падстолічыха, якая ішла да доміка, несучы ў руках пук толькі што вычасанага казінага пуху.

– Зірні, васпан, які ён далікатны і мяккі, – сказала яна, паказваючы яго Уладзіславу. – Гэта набытак для нашае мануфактуры; можа, з часам мы будзем ганарыцца гэтаю галіною.

Тым часам падплыў пан Падстоліц з рэштаю кампаніі.

– Чым жа будзеш нас частаваць, мая каханая нябога? – запытаўся ён.

– Што Бог паслаў, – адказала Гэлена, а можа, і сёстры мне дапамогуць.

– Не папярэдзіла ты нас пра гэта, – адказала Зося, – я б прынесла скарбы свае Памоны[46].

– Не папярэдзіла нас, – дадала Іпаліта, – я б таксама прынесла сюды мой рог дастатку.

– Вядома, ты сама вінаватая, – падхапіла Людвіка. – Можа, і я б знайшла сёе-тое для вясковага падвячорка.

– А што ж бы ты знайшла, мая апякунка? – запытаўся пан Падстоліц.

– А, напрыклад, вось што, – адказала Людвіка, вымаючы з-пад плашча два саламяныя кошыкі, поўныя ажыны. – Гэта назбіралі мае дзеткі падчас праходкі ў гадавальнік. І кошыкі яны сёння спляглі.

– Дзякуй, што не забыліся пра нас, – азвалася пані Падстолічыха. – Кошыкі я сабе забяру; іх кошт прашу запісаць на мой рахунак. Дзеткі нашыя, – патлумачыла яна Уладзіславу, – прадаюць свае маленькія вырабы ў адной краме ў мястэчку. Невялікі з іх прыбытак, але яны не гультаі.

– Прашу на дзядзінец, – запрасіла Гэлена, і ўсе пайшлі за ёю.

На дзядзінцы, перад хаткаю пад разложыстаю ліпаю стаяў накрыты стол і лаўкі вакол яго. На століку быў гладыш малака, сподкі, хлеб і нажы з відэльцамі.

– Каб не быў гэта дзень посны, былі б тут кураняты, але сёння панства мусіць задаволіцца кіслым малаком.

Яна хутка пераліла малако ў місу, пасыпала яго цукрам, цынамонам і прыправіла лімонным сокам. У гэты час служанка вынесла з хаткі міску гарачых пончыкаў, а за ёю выбегла дзяўчынка з кошыкам свежае садавіны.

– А гэта ж з вашых аддзелаў! – выгукнуў пан Падстоліц.

– Гэта выпадкова, – адказала Іпаліта, раздаючы гарачыя пончыкі. – Прыдадуцца да малака.

– Не забудзьцеся пра ажыну, – нагадаў пан Падстоліц. – Дзеткі плакалі б, каб мы пагрэбавалі іх паслугаю.

Хутка малако, пончыкі, ягады і садавіна зніклі, а рэшту аддалі жыхарам доміка.

– Гэта ўбогая ўдава, – растлумачыла пані Падстолічыха. – Яна з дзецьмі сваімі сцеражэ нашыя козы і клапоціцца пра іх.

Сонца зайшло; гадзіннік прабіў палову на сёмую, вячэрняя свежасць давала пра сябе знаць, і пан Падстоліц прапанаваў вяртацца. Усе селі ў лодку, свяціла поўня, а як толькі адплылі – пачуўся гук флейты, якая выводзіла: *Ванда ляжыць у нашай зямлі*[47]. Пасля загучалі ўкраінскія думы, іх меланхалічны настрой прыгожа гарманіраваў з плёскатам вёслаў і бляскам месяца.

– Хіба пан Падстоліц мае музыкаў? – запытаўся Уладзіслаў.

– Зусім не, – адказаў той. – Гэта выхаванцы мае сялянскае школы, млынары.

Уладзіславу хацелася яшчэ паплаваць па ставе ў гэткім прыемным таварыстве пад цудоўную мелодыю, але лодка прыстала да берагу.

Як толькі ўвайшлі ў асветленыя ўжо пакоі, пані Падстолічыха прапанавала:

– Восеньскі вечар нас крыху праняў холадам. Ці няма ахвоты патанчыць, каб сагрэцца?

Яна села за пантальёну[48], пан Падстоліц узяў скрыпку, а Гэлена падала руку Уладзіславу.

– Мы з панам, – сказала яна, – адкрыем баль мазуркаю.

Яны паскакалі спачатку мазурку, потым кракавяк, і гэта развеяла набытую на вадзе меланхолію. Вясёлая моладзевая забава цягнулася ўвесь вечар, пакуль лёкай не паведаміў, што пададзена на стол. Звычайным парадкам для гэтага дому скончыўся дзень, а перад тым, як усе разышліся, пан Падстоліц прапанаваў Уладзіславу, калі пажадае, наведаць разам з ім земляробчую школу для землеўласнікаў.

– Варта было б, – сказаў ён, – паехаць заўтра рана, каб паспець да пад'ёму вучняў.

Уладзіслаў ахвотна згадзіўся, і поўны думак пра шчаслівае жыццё гэтага вясковага кутка ды пра прамысловую гаспадарку пана Падстоліца, пайшоў адпачываць.

## Раздзел чацвёрты

# ВЫХАВАННЕ ГРАМАДЗЯНАЎ

Dopieroż druga, której imie Cnota,
  Młodzieńcze, rzekła, zacnie urodzony!
Z oczu coś twoja wróży nam ochota,
  Słuchaj, co powiem z mej strony <…>
Widzisz tę górę? ku Niebu się wznosi:
  Temi cierniami, drzeć się na nię trzeba.
Tam na wierzchołku sława cię ogłosi;
  A stamtąd bliżej do Nieba.

F.D. Kniaźnin, *Herkules młody*[49]

Яшчэ не развіднела, а пан Падстоліц з Уладзіславам выехалі ў землняробчую школу. Месяц з вышыні асвятляў ўзгоркі, паміж якіх па гладкай дарозе хутка ехала параконная брычка, якою правіў сам гаспадар. Ва ўрачыстай цішы ночы адзін толькі стук колаў ды пафыркванне коней чулася ў дуброве. Думкі Уладзіслава з мёртвых ваколіцаў, з панурае аднастайнасці нуднага быту ягоных суседзяў былі перанесеныя ў гэты край, дзе па волі аднаго абываццеля разгортвалася нязнаная дагэтуль краса жыцця, дзе людзі былі з іншымі пачуццямі, адукацыяй, светапоглядам, бласлаўлёныя Небам, захопленыя дабрадзейнасцю, чалавечаю годнасцю ды міласэрнасцю, – думкі гэтыя, апярэджваючы тлумачэнні пана Падстоліца, стараліся ахапіць аснову і ўзаемасувязь помыслаў, якія паказваліся асобна. Ён разумеў, што землняробчая школа для землеўласнікаў магла быць вельмі карысною для краю, але, нягледзячы на гэта, прыходзілі яму ў галаву і супярэчлівыя думкі, якім ён не мог даць рады, і таму звярнуўся да пана Падстоліца:

– Мушу прызнаць, што не разумеючы матываў васпана дабрадзея, што тычыцца некаторых рэчаў, якія я тут бачыў, пакуль мне васпан дабрадзей іх не растлумачыў, у мяне было склалася няправільнае меркаванне пра васпана дабрадзея. З пачатку мяне ўразілі выгоды дому і шматлікія памочнікі. Але потым я пераканаўся, што першае з'яўляецца вынікам дастатку, а не марнатраўства, і ўбачыў, што выгоды спалучаюцца з ашчаднасцю; а што да другога, дык у такой вялікай гаспадарцы, замяняючы чараду звычайных у нас неадукаваных слугаў, яны сапраўды памочнікі карысныя, вучачыся ж самі, з'яўляюцца ганаровым доказам сардэчнасці і асвечанасці гаспадара. Я кажу гэта не з-за лісліваасці, а каб пераканаць васпана дабрадзея, што я ўжо засумняваўся ва ўласных высновах, якія прыходзілі мне ў галаву адносна вашых парадкаў, і што толькі каб шчыра патлумачыць, а не крытыкаваць, хачу пра іх васпану дабрадзею расказаць.

– Люблю цябе за тваю шчырасць, – адказаў пан Падстоліц. – Думаю, што табе не падабаецца землняробчая школа.

– Не сама школа, – сказаў Уладзіслаў, – але тое, што без уліку здольнасцяў ды схільнасцяў усіх сваіх дзяцей вы аддаяце ў земляробчую школу.

– З усіх прафесій чалавека, – адказаў пан Падстоліц, – прафесія землямяроба самая распаўсюджаная. Вядома, што спецыяльныя школы карысныя; іх шмат: вайсковыя, марскія, купецкія, духоўныя – і ўсе яны эфектыўныя. Чаму ж для самае распаўсюджанае прафесіі не арганізаваць спецыяльных школаў, таксама карысных і патрэбных?

– Ніхто не можа прадбачыць свайго лёсу, – заўважыў Уладзіслаў. – Рыхтуючыся да землямяробства, калі пажадае потым стаць праўнікам альбо жаўнерам, дык усё, што раней вучыў, павінны будзе забыць і вучыцца нанова.

– Кепска, вядома, і вельмі шкодна, – адказаў пан Падстоліц, – мяняць прафесію. Кожны павінны на ўсё жыццё занятак выбіраць, бо толькі тады і навык і вопыт без страты часу можа набыць за доўгія гады. Як толькі агледзіцца, абавязкова павінны як найхутчэй выбраць сабе занятак на ўсё жыццё і толькі да яго рыхтавацца, бо цяпер ужо ўсе прафесіі гэтак удасканаліліся, што немагчыма пераскокваць з аднае ў другую і ў новай дастаткова добра вывучыцца. Тым часам вывучэнне аграрных навук, а таксама іншых навук, неабходных абывацелям, гэткае карыснае, што амаль няма аніводнае прафесіі, дзе не магло б гэта спатрэбіцца. Гэту ісціну зразумелі ў нямецкіх дзяржавах, і кожны вучань, да якой бы прафесіі ён не рыхтаваўся, абавязаны там вучыцца перш-наперш землямяробству.

Таму ў нашай школе, узяўшы пад увагу разнастайнасць будучых прафесій, мы не абмяжоўваемся адным толькі землямяробствам. Знойдзеш там, васпан, усе падрыхтоўчыя навукі, а на заканчэнне курсу – энцыклапедычны агляд усіх навук з тлумачэннем, што да якое прафесіі прыдатнае і ў чым можа спатрэбіцца. Тады толькі маладзён павінны ўжо выбраць сабе прафесію і для далейшае падрыхтоўкі накіроўваецца ва ўніверсітэт. Там нават землямяробчыя навукі, дастасаваныя да практыкі, будуць карысныя; там, нарэшце, наш выхаванец набывае неабходныя для кожнага грамадзяніна юрыдычныя і адміністрацыйныя веды, якія завяршаюць выхаванне землеўласніка.

– І памочнікі васпана дабрадзея былі ва ўніверсітэце? – запытаўся Уладзіслаў.

– Усе як адзін.

– І з такімі здольнасцямі ў маладым веку закапаліся на вёсцы?

– Што ты называеш “закопваннем на вёсцы”? – спытаў пан Падстоліц. – Калі тое, што малады чалавек, які асеў на вёсцы, рыхтаваўся не да сельскае гаспадаркі, а да іншага, дык забыў усё, чаму вучыўся, і на вёсцы не здольны знайсці сабе карыснага прымянення, – дык ты кажаш слушна. Але калі і асесці на вёсцы з добрай адукацыяй, дык з гэткаю ж карысцю можна служыць краю, як і ў іншай прафесіі. На ўласныя вочы бачыў прыклад – гэта мае памочнікі. Ці яны не прыносяць карысці? Даўняе меркаванне, што гаспадаркаю належыць займацца на адпачынку ў старасці, – гэта шкодныя забабоны.

Землямяробства – гэта прамысловасць, гэта – скажу так – мануфактура па перапрацоўцы сыравіны, яшчэ больш складаная за іншыя, дык каб гаспадарыць з карысцю, трэба шмат ведаў, вопыту, мазольнае працы. Шмат да чаго тут трэба рыхтавацца з маладога веку, а без гэтага не атрымаецца сёння быць добрым гаспадаром. Хто ж у старым веку, без сельскагаспадарчае адукацыі,

без вопыту, а толькі наслухаўшыся альбо часам нешта падгледзеўшы, ці карыстаючыся толькі ўласнай інтуіцыяй, калі яшчэ і гады адбіраюць ахвоту да актыўнае дзейнасці, можа быць добрым гаспадаром? Таму ў нас земляробства на такім нізкім узроўні, што да гэтага часу ўсе тыя, хто мог яго развіваць, мелі тое меркаванне.

– Але малады чалавек, – заўважыў Уладзіслаў, – які не бачыў свету, нявопытны, які не ведае яшчэ людзей, пазбаўлены на вёсцы адукаванага таварыства і нават кніг, робіцца хутка чужым у свеце і дзічэе ў глухамані.

– Якраз не, – адказаў пан Падстоліц. – Мы гэта ўлічылі. Выхаванцы нашае школы, будучыя землеўласнікі, пасля заканчэння навук ва ўніверсітэце, дзеля азнаямлення з юрыдычнай альбо адміністрацыйнай практыкай ды каб умець карыстацца грамадзянскімі правамі ў адпаведнасці з цяперашнімі законамі, абавязаныя яшчэ нейкі час пабыць на дзяржаўнай службе. Маюць тады час і на тое, каб пазнаёміцца з людзьмі, і каб зразумець іх, і каб агледзецца ў свеце.

Таварыства, сапраўды, шмат чаму вучыць, а хто не мае яго ў вёсцы, павінны пастарацца стварыць яго каля сябе. Кніг таксама можна мець колькі хочаш. Раскажу табе, як мы малым коштам забяспечылі сябе кнігамі. Па маіх крэўных ты бачыў, якія яны адукаваныя і абазнаныя?

А тое, што ты не знаходзішся ў хаосе вялікага горада, што не гультай, а з карысцю служыш Айчыне, з’яўляешся апекуном сялянаў, адукаваным чыноўнікам, карыстаешся, нарэшце, прыемнасцямі вясковага жыцця і блаславеннаю воляю, ці ж можаш ты гэта называць аддаленнем ад свету, здзічэннем альбо закопваннем сябе ў вёсцы?

Я прыгледзеўся да ўсіх станаў у грамадстве: аніводзін не мае столькі выгодаў, як вясковы. Воля, жыццё на прыродзе, большыя, чым у які-небудзь іншым стане, магчымасці чыніць дабро бліжнім з’яўляюцца выключна перавагамі гэтага стану. Усе іншыя патрабуюць больш ахвяраваць сабою на патрэбы агульнага дабра; таму яны годныя павагі; а землеўласнікі, не ахвяруючы нават сваімі прыемнасцямі, могуць годна служыць краю; і калі тым першым край мусіць дзякаваць за ахвярнасць, дык да другіх – за руплівае выкананне абавязкаў і за карыснасць – абавязаны ставіцца з такою ж пашанаю і ўдзячнасцю.

– Дык галоўнаю мэтаю, як я разумею, – сказаў Уладзіслаў, – заснавання гэтае школы было прыгатаванне моладзі да земляробства?

– Бясспрэчна, – адказаў пан Падстоліц. – Мелі мы намер падрыхтаваць нашых дзяцей, каб яны выраслі людзьмі, годнымі свайго прызначэння, якія разумеюць гэтае прызначэнне ды абавязкі і якія выканаюць іх. Бо чалавек, выхаваны без пэўнае мэты, кідаецца сослепу туды, што здаецца яму прыцягальным. Але часта, не разумеючы ані прызначэння, ані абавязкаў, не маючы здольнасцяў, каб належным чынам выконваць іх, ён робіцца ў абранай прафесіі ні на што нявартым, а тым самым шкодным для краю. І згуміўшы гады на неўласцівым шляху, ён бачыць, нарэшце, што і свой лёс змарнаваў, і іншых падвёў, і перад Айчынаю не выканаў абавязку. Такія ў сваёй большасці нашыя вясковыя землеўласнікі. А вінаватыя не яны, а кепскае выхаванне.

Тут яны выехалі на поле і ўбачылі непадалёку некалькі белых фасадаў, якія блішчалі ў святле месяца сярод дрэваў саду. Яны заехалі на дзядзінец,

пакінулі коней ахоўніку і ўвайшлі ў галоўны будынак. У бакавой зале на першым паверсе Уладзіслаў убачыў спальні, адасобленыя перагародкамі-кратамі, а ў іх – на ложачках, высунутых з камодаў, спалі хлопчыкі. У глыбіні залы ля стала, на якім гарэла лямпа, сядзеў адзін з настаўнікаў і нешта тлумачыў двум вучням, якія сядзелі побач.

– Гэта начныя вартаўнікі, – сказаў пан Падстоліц. – Адзін з настаўнікаў і двое вучняў па чарзе кожныя дзве гадзіны адбываюць дзяжурства ў спальні. Мы абавязваем іх да гэтага, каб прызвычаіліся да парадку і ўмелі пагарджаць сном, калі абавязак гэтага вымагае. Вучні ідуць спаць а дзявятай, а ўстаюць а пятай. Дзве гадзіны, якія кожны з іх праз некалькі дзён прысвячае на дзяжурства, не могуць ім зашкодзіць, а гэты звычай дае шмат карысці.

Вартаўнікі бачылі гасцей, якія ўвайшлі ў залу, але не кінулі свайго занятку.

– Вучні, – працягваў пан Падстоліц, – прывучаны тут да дысцыпліны. Кожны іхні рух залежыць ад волі кіраўніка.

Яны падышлі да стала. Тады настаўнік падняўся, ціха прывітаў гасцей і даў знак вучням, што яны могуць зрабіць тое самае. Жвавыя дзеці кінуліся ў абдымкі пана Падстоліца.

– Чым жа вы займаецеся? – запытаўся пан Падстоліц, зазіраючы ў раскладзеныя на стале паперы.

– Якраз скончылі мы апісваць чацвёртую варту ў хроніцы, – адказаў старэйшы хлопец, падаючы кнігу.

– Тут, – сказаў пан Падстоліц Уладзіславу, – запісваецца ўсё, што робіцца ў школе: навука, паводзіны вучняў, стан гаспадаркі тутэйшага фальварку, адведзіны бацькоў і гасцей, іхнія заўвагі наконт таго, што яны тут убачылі і пачулі, словам, падрабязная гісторыя. Апрача гэтае агульнае кнігі ёсць асобныя рэестры: паспяховасці, паводзін вучняў, гаспадарскі, школьны і г. д. Вучні па чарзе прывучаюцца весці запісы. Кожная з чатырох начных вартаў абавязаная ўпарадкаваць частку дзённых рэестраў; а калі скончаць, настаўнік чытае з імі альбо расказвае нешта вартае.

Тым часам гадзіннік прабіў пятую гадзіну, дзверы адчыніліся, слугі ўвайшлі са збанамі вады і пачалі наліваць яе ў місы, што стаялі каля кожнае спальнае бакоўкі, а настаўнік, звяртаючыся да вучняў, сказаў:

– Да парадку! Пабудка!

У той жа момант абодва хлопцы схапілі жэзлы, пайшлі па зале, стукаючы ў падлогу і спяваючы:

Сябры! Ўставаць прыйшоў нам час:
Ужо знікае ночы цень,
Бог падарыў нам гэты дзень.
Ён кліча на заняткі нас.
З душой пакорнай перад Ім
Хутчэй схілі свае калені,
Хутчэй складзі Яму свае маленне,
Аддзяч за зробленае Ім!

Як толькі загучаў у зале іх голас, у той жа момант з усіх ложкаў пачалі жвава саскокваць хлопчыкі. Не было тут ані сцягвання з пасцелі, ані прымусу, каб уставалі. Нібы падхопленыя электрычнаю сілаю, усе хуценька накінулі на

сябе вопратку і, склаўшы рукі, кожны перад сваёй бакоўкаю, з паднятымі да Неба вачыма, згодна і з пачуццём заспявалі:

Хвала Табе, Тварэц, хвала на Небе!
Прымі маленне ад Тваіх падданых,
Душой і сэрцам так Табе адданых,
Бо думаеш аб ўсіх надзённым хлебе.
Хвала Табе, Тварэц, на ўсёй зямлі!
Дзень, што нам даеш, Табе прысвецім:
Вучыцца будзем, каб пазней змаглі
Падмогу нашым бліжнім несці.
Благаславі, Божа!
Благаславі, Божа!
Хвала Табе, Божа!
Хвала Табе, Божа!

Калі яны ўкленчылі, спяваючы апошнія словы, Уладзіслаў ужо не панаваў над сабою ад узрушанасці: ён схапіў пана Падстоліца за руку і моцна яе паціснуў, бо адчуў усё высакародства, усю святасць душы гэтага чалавека, які прыдумаў гэткі спосаб пабудкі і ранішняе хвалы Богу. Яму здалося, што пры апошніх словах спеву Дух Божы ва ўсёй сваёй велічы сыходзіць з нябёс, надзяляе сваім благаславеннем дзяцей, а яны, прасякнутыя Яго святым натхненнем, укленчылі ў пакоры, складаючы яму падзяку за тое, што слухае іх просьбы. Пасля спеву надышла чарга на хрысціянскія пацеры, кароткія, падабраныя да агульнага духу школы, якія скончыліся малітваю за імператара[a].

Зноў азваліся дзяжурныя, стукаючы жэзламі:

Зараз, браткі, умывацца!
Чысціня – краса жыцця.

– Пасля кожнае каманды, – сказаў пан Падстоліц Уладзіславу, – кароткія павучанні, якія тлумачаць прычыну дзеяння. Гэткім спосабам стараемся непрыкметна ўнушыць ім галоўныя грамадскія і дамашнія дабрачыннасці.

Калі памыліся і закончылі апранацца, па знаку настаўніка дзеці прывіталіся з панам Падстоліцам, дзяжурныя зноў стукнулі жэзламі ды паклікалі таварышаў у суседняе памяшканне на ранішні ўрок.

Пад наглядам некалькіх настаўнікаў вучні падзяліліся на некалькі групак і пачалі паводле метаду ўзаемнага навучання паўтараць учарашнія ўрокі. Уладзіслаў заўважыў, што групкі не заўсёды складаліся з тых самых вучняў: з пераменаю прадмета яны таксама мяняліся.

– Хіба яны не падзеленыя на класы? – запытаўся ён у пана Падстоліца.

– Кожны прадмет мае свае і часта шматлікія класы ў адпаведнасці з узроўнем падрыхтоўкі вучняў. Іх разумовае развіццё грунтуецца на тым, каб навуку стасаваць да развіцця духоўных здольнасцяў. З-за таго, што кожнае дзіця прыходзіць у школу з розным узроўнем развіцця гэтых здольнасцяў, дык настаўнікі стараюцца найперш вызначыць ступень развіцця кожнага і потым так дастасоўваюць навуку, каб усе здольнасці кожнага вучня прывесці ў гармонію і стала яе ўтрымліваць. Бо без гармоніі ўсіх здольнасцяў чалавека, які вучыцца, заўсёды цягне за сабою адна, найбольш моцная; з-за чаго іншыя, менш моцныя здольнасці, зробяцца яшчэ больш слабымі, і ўся сістэма не можа

[a] Уся гэтая кранальная сцэна спісана з натуры.

адпавядаць свайму прызначэнню: як гадзіннік, якога цягне гіра, але стрымлівае сапсаванае кола.

– Я не разумею гэтага, – сказаў Уладзіслаў.

– Нічога дзіўнага, – сказаў пан Падстоліц. – Бо, папраўдзе, мала яшчэ пра гэта думалі, хоць ад гэтага залежыць уся карысць выхавання. І таму, калі памятаеш, я казаў, калі мы выехалі ад Харунжага, што ў нас неабходнасць маральнага выхавання яшчэ не зразумелі; бо пад гэтым разумеецца не толькі выкладанне абавязкаў чалавека, але і развіццё ягоных маральных альбо разумовых здольнасцяў.

Сумленне, розум і чуласць – гэта тры галоўныя элементы душы; можа, недакладна называць іх здольнасцямі, але пакуль прымем гэты тэрмін. Сумленне – гэта тое, чым мы бачым, што дзеецца ў нашай душы; гэта вузел, якім Воля Божая звязала розум з чуласцю, свет маральны з матэрыяльным; гэта звяно, з дапамогаю якога Бог звязаны з намі. Розум і чуласць можам нашаю пачуццёваю моваю назваць прыладамі сумлення. Гэтыя прылады, як залежныя ад органаў цела, мы можам развіваць і выхоўваць. Яны падзяляюцца на шматлікія другарадныя здольнасці. Разважлівасць, памяць, дасціпнасць – гэта другарадныя здольнасці розуму; пачуццё карыснасці, прыгажосці і агульнага дабра – гэта другарадныя здольнасці чуласці.

Не будзе карысці ад выхавання, калі ўсе гэтыя здольнасці не будуць развівацца ў пэўнай паміж сабою ўзаемасувязі, не будуць скіраваныя так, каб адна другую падтрымліваючы, усе разам не імкнуліся да галоўнае мэты выхавання, гэта значыць, да агульнае карысці і шчасця чалавека.

Каб у гармоніі развіваць кожную з гэтых здольнасцяў, належыць падбіраць і прымяняць адпаведныя навукі ды выкладаць іх сістэматычна. Разважлівасць развіваем матэматыкай, памяць – мовамі, дасціпнасць – творчасцю і вынаходніцтвам; пачуццё карыснасці – навукаю, якая дае хлеб і ў адпаведнасці з прызваннем; пачуццё прыгажосці – музыкай, архітэктурай, жывапісам, паэзіяй; пачуццё грамадскага дабра альбо, уласна, маральнасці –гісторыяй, выкладаннем патрэбаў грамадства і спосабаў кіравання ім, альбо навукаю адміністрацыі, таксама навучаннем абавязку і прызначэння чалавека, якога Воля Божая для таго зрабіла членам грамадства, каб ён быў грамадству карысны.

Рэлігія, уласна кажучы, складаецца з таго, што ў душу закладзена Богам і з таго, што яна сама выпрацуе. Богам закладзена ў душу праз сумленне прадчуванне, ці Адкрыццё Бога і Ягонае Волі; яна сама розумам пазнае Яго і шануе, а пачуццямі – любіць. Калі гэтыя здольнасці добра развітыя, тады нішто не перашкаджае душы ўзносіцца да Бога: сумленне можа цалкам адкрыцца, каб пачуць голас Божы, розум усёю сілаю яго шанаваць, чуласць усёю ўзнёсласцю любіць. Але мы не спыняемся на адной толькі падрыхтоўцы здольнасцяў нашых выхаванцаў: мы стараемся, наколькі гэта магчыма, выкарыстоўваць іхнія развітыя здольнасці. Таму прывучаем іх чытаць ва ўласным сумленні і старацца пачуць голас Божы; а для падтрымкі выкладаем ім Адкрыццё і сутнасць святое нашае веры і абавязкі чалавека перад Богам. Абуджаем у іх любоў да Бога, паказваючы Ягоную дабрыню, якая выяўляецца ва ўсім, што мы бачым на свеце; і паказваючы ва ўсім гэтым Ягоную сілу, магутнасць і справядлівасць,

прывучаем іх да аддавання Яму належнае хвалы, падпарадкавання Ягонай Волі ды выкананню Ягоных запаведзяў.

Засноўваючы выхаванне на рэлігійнасці і хрысціянскай маральнасці, мы ўпэўненыя, што развіццё разумовых здольнасцяў будзе карыснае і для саміх вучняў, і для грамадства.

Але не на адны толькі здольнасці душы належыць звяртаць увагу ў выхаванні. У здаровым целе, кажуць, – здаровы дух. Пра выхавання цела мы таксама дбаем і развіваем яго ў гармоніі са здольнасцямі душы. Гэта не так лёгка і не можа адбывацца без настаўніка з адпаведнаю падрыхтоўкаю. Прынцып агульнага выхавання ў тым, што цела належыць трымаць здаровым, а розум трэніраваць вучэннем і рэлігійнымі практыкамі. Між тым, цела можа не адпавядаць патрэбам душы, а адны ейныя здольнасці могуць добра развіцца, іншыя – згаснуць; і выхаванне, нібы стараннае, у сапраўднасці будзе больш шкодным, калі пакінуць чалавека ў стане натуры. Усё, што дапамагае гарманічнаму развіццю сілы, здароўя, лоўкасці павінна заахвочвацца, але заўсёды ў адпаведнасці з патрэбамі розуму. Убачыш тут гімнастычныя практыкаванні, больш-менш прыстасаваныя да патрэбаў кожнага з вучняў. Бо мы перакананыя, што душа не можа належным чынам развіваць свае здольнасці, гэта значыць, што ані розум, ані чуласць, ані тое, што за імі ідзе, не можа ў дастатковай ступені ўзнесціся да Бога, калі прылады тых здольнасцяў, альбо органы, з якімі гэтыя здольнасці спалучаныя, пакуль душа застаецца ў целе, не будуць добра развітыя. А органы цела не могуць быць развітыя з карысцю для чалавека іначай як у гармоніі, бо калі адзін орган развіты больш за іншыя, дык тыя застаюцца прыгнечаныя, і ўся сістэма не будзе адпавядаць свайму прызначэнню.

– Я хацеў бы даведацца, якая, на думку васпана дабрадзея, розніца ў выразах: *развіццё маральных здольнасцяў* і *выхаванне маральнасці* ды якая паміж імі сувязь.

– Гэта зусім розныя рэчы, якія ў нашых мовах звычайна называюцца аднолькава – маральным выхаваннем. І можа, з-за гэтага ў выхаванні тыя недахопы, якія маем да сённяшняга дня. Развіццё маральных здольнасцяў – гэта ні што іншае, як развіццё розуму; развіццё ж маральнасці заключаецца ў фармаванні пачуцця грамадскага дабра. Першае паняцце ахоплівае ўсе разумовае развіццё, другое – толькі адну ягоную здольнасць. Уся адукацыя акрэсліваецца першым паняццем, а ўсе абавязкі ў грамадстве і пошукі чалавекам свайго прызначэння на зямлі абазначаюцца другім. А з тае прычыны, што пачуццё абавязку перад грамадствам – гэта найкаштоўнейшы дар Божы, гэта вузел, якім Воля Божая злучыла чалавека з грамадствам, дык уся адукацыя павінна імкнуцца да таго, каб развіваць усе разумовыя здольнасці на карысць гэтага пачуцця, як мы кажам, маральнасці. Калі ж разумовыя здольнасці развітыя адукацыяй няўдала, калі не захоўваецца гармонія, дык розум не дасягне тае ступені развіцця, да якое здольны ад прыроды, і сама маральнасць, ці ўсё тое, што належыць да пачуцця абавязку перад грамадствам, не маючы трывалага грунту, будзе слабым. Тое самае, калі гэтае пачуццё не было добра развітае і ўся адукацыя не была накіраваная на ягоную карысць, тады такі чалавек будзе не толькі анічога няварты для грамадства, а, наадварот, шкодным: ягоная адукаванасць – гэта нож у руках шаленца. Тады абавязкова ўвесь ягоны розум будзе накіраваны на развіццё пачуцця ўласнае карыснасці. А гэтае

пачуццё надта моцна развіваецца ў чалавеку, бо сапраўды, выжыванне, як асноўная мэта жывое істоты, – гэта ягоная сутнасць. Пачуццё гэтае неабходнае, але чалавек мае больш высокае прызначэнне, чым жывёла; бо ён – істота разумная, якая жыве ў грамадстве дзеля ўзаемадапамогі ды імкнення да галоўнае мэты, гэта значыць, дзеля ўзвышэння душы і набліжэння яе да Бога, таму належыць старанна развіваць у чалавека пачуццё абавязку перад грамадствам. Інакш выхаванне будзе бескарысным для грамадства і не падрыхтуе чалавека да яго галоўнае мэты. Занядбанне гэтага пачуцця і агульнае імкненне развіваць пачуццё ўласнага дабра – гэта адна з прычынаў усіх тых бедаў, якія абрынуліся, асабліва ў наш час, на род людскі. Цяпер усе крычаць, што эгаізм стаўся адзінаю спружынаю ўсіх людскіх дзеяў, і скардзяцца на сапсаванасць чалавечае натуры. А ўся віна ў выхаванні. Адукацыя ў наш век пашыраная, асвета стала масавай, але ўсё ідзе на карысць пачуцця ўласнага дабра, бо не звяртаецца ўвага на неабходнасць гармоніі ў развіцці здольнасцяў і не прыкладаецца старанняў у развіцці пачуцця грамадзянскага абавязку.

На гэта пачуццё трэба звяртаць найбольшую ўвагу, бо на ім грунтуецца ўся маральнасць чалавека, яго ўласнае шчасце і дабрабыт грамадства. З дзяцінства, з першых сваіх уражанняў хлопчык павінны вучыцца ставіць вышэй агульнае дабро за сваё ўласнае, абавязак – за інтарэс, дабрачыннасць – за ўласную выгаду. З дзяцінства ён павінны быць прызвычаены імкнуцца да таго, каб падняцца на тую вяршыню чалавечае годнасці, якую нам Збаўца наш сваёю навукаю і прыкладам паказаў, гэта значыць, любові да Бога і да бліжняга, нават ахвяравання сабой, калі неабходна. З маленства належыць пераконваць дзяцей, што галоўнаю мэтаю жыцця з'яўляецца набліжэнне да Бога і дапамога бліжнім у гэткім жа імкненні; што чалавек не павінны лічыць сябе цэнтрам свету, для якога ўсё тут створанае, але толькі звяном вялікага ланцуга тварэння, абавязанага прыкладаць усе сілы да агульнага дабра, нават ахвяруючы сабою. Апрача таго, трэба пераконваць, што ахвярнасць – гэта сапраўднае дабро для чалавека, бо яна ў сто разоў больш узнагароджваецца і праз само пачуццё, што выканаў абавязак, і праз вышэйшую ўзнагароду, якую абяцае Бог. Такое маральнае выхаванне не толькі карыснае для грамадства, але адно толькі яно і здольнае ўзвысіць годнасць чалавека, зрабіць высакароднай ягоную душу, напоўніць яе самымі светлымі пачуццямі і ўжо адным гэтым ашчаслівіць.

– Да гэтага часу я лічыў, – сказаў Уладзіслаў, – што першым матывам актыўнасці чалавека павінна быць любоў да самога сябе, але сумленная, каб не прыносіць шкоды грамадству. Гэта значыць, што чалавек павінны спачатку для сябе працаваць, пакідаючы кожнаму свабоду ўжываць ягоных сілы на ўласную карысць і, калі ёсць магчымасць, спрычыняцца да гэтага. Таму мне здалося, што справядліва дбаць перш-наперш пра сябе, пра сваё задавальненне, пра памнажэнне свайго маёнтку і вучыцца, каб мець больш магчымасцяў да гэтага.

– Гэтае меркаванне, – адказаў пан Падстоліц, – не фальшывае ў сваёй аснове, акажацца нават цалкам адпаведным нашай сістэме. Належыць толькі добра яго развіваць, бо інačай можа прывесці да няправільных высноваў. Калі мы добра падумаем пра прыроду чалавека і пра прызначэнне ягонае на зямлі, дык заўважым, што Воля Божая гэтак усё скамбінавала, што чалавек тады

толькі адчувае сапраўднае задавальненне, калі выконвае свой абавязак. У іншым выпадку гэта толькі прынада, якая, насуперак уяўленню, толькі шкодзіць нашаму шчасцю і топіць сумленне ў горычы. Няма выключэнняў з гэтага закону прыроды.

Бываюць цяжкія абавязкі і, на першы погляд, прыкрыя ды пакутлівыя, але само іх выкананне з адчуваннем неабходнасці, узнагароджвае іх горыч задаволеным сумленнем. А калі іх будзеш унікаць, не схаваешся ад пакутаў, наадварот, і ва ўласным сумленні, і ў выніках свайго ўчынку атрымаеш іх значна больш. Пакуты самі часта бываюць патрэбныя чалавеку; калі яны звязаныя з нашым абавязкам, мы павінны прыняць іх, як Волю Божую, якая мае заўсёды мэтаю нашае дабро, якога мы, можа, яшчэ не бачым. Дык дзеля ўласнага дабра працуеш, калі выконваеш свае абавязкі, і ў гэтым значэнні слушна можна назваць мэтаю актыўнасці любоў да сябе. А што мы думаем пра тое, як жыць і памнажаць маёнтак, ты пачуеш ад нашых вучняў.

Падышоў пан Падстоліц да аднаго са старэйшых гурткоў і папрасіў настаўніка, каб той дазволіў хвілінку паразмаўляць з вучнямі.

– Скажы мне, Стась, – звярнуўся ён да аднаго з іх, – ці чалавек мае права думаць толькі пра сябе, шукаць ва ўсім толькі ўласную карысць, вучыцца толькі для сябе і працаваць толькі для сябе?

– Не мае, бо гэта супраць Волі Божае і ягонага ўласнага дабра.

– Дык чалавек не мае права старацца памнажаць свой дастатак і выкарыстоўваць яго, як пажадае?

– Наадварот, мае права і павінны гэта рабіць, бо якраз праз памнажэнне годным чынам свайго дастатку ён служыць бліжнім; калі ж не памнажае яго, дык не дае зарабіць бліжняму. Карыстацца сваім дастаткам ён таксама мае права, бо гэта слушная ўзнагарода за працу, і, дзякуючы гэтаму, мае магчымасць служыць грамадству. Толькі ён не павінны кепска выкарыстоўваць дастатак і забываць, што маёнтак даручаны яму Ласкаю Божаю не для таго толькі, каб ён іх меў, але і для таго, каб спрыяць бліжнім.

– Чалавек з'яўляецца ўласнікам таго, што яму належыць, значыць, ён можа ўжываць гэта, як захоча; дык, не служачы бліжнім, хіба, не будзе гэта правіннасцю?

– Будзе правіннасцю, бо гэта супраць Волі Божае.

– Як жа зразумець Волю Божую? Скажы мне, Стафанка?

– Воля Божая аб'яўляецца чалавеку праз ягонае сумленне.

– Якім чынам?

– У сумлення ёсць голас, незалежны ад нас, бо ён паходзіць ад Бога, які нам кажа, што кепска, што добра, што мы павінны рабіць, а ад чаго павінны ўнікаць.

– Ці нельга памыліцца, слухаючы гэты голас? Ці не можа гэта быць голас нашых пачуццяў?

– Ніколі не памылішся. Нягледзячы на самыя моцныя пачуцці, заўсёды ёсць чысты голас Божы ў сумленні, які праўдзіва асцерагае чалавека, калі толькі чалавек хоча яго слухаць, а непаслухмянага ён мучыць.

– Андрэйка, а што ж табе сумленне кажа пра клопат чалавека аб дастатку і выгодзе?

– Кажа, што раз дастатак і выгода служаць выхаванню чалавека і даюць яму больш магчымасцяў дапамагаць бліжнім, дык старанне пра дастатак і выгоду з'яўляецца пахвальным заняткам і павіннасцю чалавека маральнага.

– А пра патрэбу навукі, што кажа сумленне?

– Што навука патрэбная чалавеку, бо развіваючы яго розум, дае яму магчымасць сумленна жыць альбо дапамагае павялічыць маёнтак, садзейнічаючы ягонаму служэнню Богу і бліжняму.

– Якім чынам чалавек можа служыць Богу і бліжняму?

– Выконваючы свае абавязкі.

– Ці шмат жа абавязкаў у чалавека? Адкажы, Казімір.

– Чалавек – гэта стварэнне, дык мае абавязкі перад Творцам; апрача таго, ён жыве ў грамадстве, дык, з Волі Божай, мае абавязкі перад грамадствам.

– Што гэта за абвязкі?

– Любоў да Бога і да бліжняга.

– Гэта сумленне табе так кажа?

Прыклаўшы рукі да грудзей хлопец адказаў:

– Сумленне, пачуццё і разважанне.

– Як ты гэта разумееш?

– Бог стварыў чалавека, любіць яго, адорвае блаславеннем, дык і ён хоча быць каханым; Ён уклаў чалавеку ў сумленне адчуванне Волі свае, дык відаць, што хацеў, каб чалавек пра яе ведаў; Ён ёсць Творцам чалавека, Панам ягоным, дык чалавек абавязаны выконваць Волю свайго Пана і Творцы. А радасць, якую чалавек адчувае, калі любіць Бога, пераконвае, што Богу гэта падабаецца і што Бог з-за гэтага ўзнагароджвае яго тою радасцю.

Пра абавязак любові да бліжняга я гэтак мяркую: Бог стварыў чалавека ў грамадстве і паставіў яго ў такое становішча, каб чалавек ад першага дня жыцця зазнаваў дабрадзейства і дапамогу грамадства, яшчэ не ведаючы нават пра іх і не маючы магчымасці адмовіцца ад іх. Бог не пакінуў яму ў гэтым выбару: ён мусіць абавязкова быць удзячны грамадству, і не толькі бацькам, але ўсім людзям, бо і бацькі ягоныя без дапамогі бліжніх жыць не могуць. Не маючы права выбару, чалавек абавязаны Богам да ўдзячнасці бліжнім і да таго, каб самому адплаціць ім дапамогаю. А з-за таго, што ўдзячнасць няшчырая, калі яна не ідзе ад душы, дык чалавек абавязаны старацца любіць бліжніх і быць ім карысны. Адкрыццё Божае з вуснаў нашага Збаўцы і праз нашае сумленне пацвярджае, што любоў да бліжняга і дапамога бліжняму – гэта Воля Божая і доказ праўдзівай любові да Бога.

– Усё, што ты пачуў ад іх, – казаў пан Падстоліц, калі вёў Уладзіслава ў суседнюю залу, – гэта не вывучанае на памяць, а нарадзілася ў іх саміх пад час умела скіраваных размоў з настаўнікамі. Гэта больш цяжкі спосаб развіцця разумовых здольнасцяў і маральнасці, чым завучванне на памяць падрыхтаваных настаўнікам разважанняў, затое значна больш эфектыўны. Вось тут зала музыкі і мастацтва.

– Па ўсіх гэтых інструментах і карцінах я мяркую, – сказаў Уладзіслаў, – што нямала часу прысвячаюць вучні гэтым прадметам. Ці пажадае васпан дабрадзей патлумачыць мне, чаму вы лічыце неабходным вучыць столькім відам мастацтва маладых людзей, якія рыхтуюцца быць земляробамі і землеўласнікамі?

– У нашым паўночным клімаце, – адказаў пан Падстоліц, – пад небам суровым і халодным фантазія чалавека звычайна менш жывая, і яго пачуцці не так хутка развіваюцца, як разумовыя здольнасці. А душа, як я ўжо казаў, не можа ў дастатковай ступені разгарнуцца, калі яе здольнасці не будуць развівацца ў пэўнай гармоніі; і нават сам розум не дасягне тае ступені, да якое ён прызначаны ад прыроды, калі пачуццёвыя здольнасці будуць занядбаныя альбо прытлумленыя. Дык таму, мы мяркуем, у нас асабліва над гэтым здольнасцямі працаваць трэба.

А з-за таго, што адчуванне прыгажосці найлепш здольнае развіваць усе іншыя пачуцці, дык неабходна ўсімі магчымымі спосабамі яго ўзмацняць. Таму ўсе віды мастацтва: паэзія, музыка, жывапіс, архітэктура выкарыстоўваюцца тут з гэтаю мэтай. Здараюцца, але вельмі рэдка выпадкі, калі да іх не трэба дапускаць маладога чалавека.

Увогуле, апрача тае карысці ад мастацтва, пра якую я казаў, выхаванне нашае мае на мэце адкрыць дарогу ўсім талентам, схаваным у глыбіні душы; і калі знойдзецца малады чалавек, які мае талент, мы не прымушаем яго, каб ён абавязкова стаў земляробам; наадварот, пастараемся аблегчыць яму шлях, на які кліча яго прызванне.

Нарэшце, у якім стане апынецца чалавек паводле Волі Божае, мастацтва робіць больш прыемным ягонае жыццё і ўзвышае яго душу. Ты бачыў, з якою набожнасцю адбываюцца малітвы вучняў. Будзь пэўны, што музыка нямала паспрыяла абуджэнню іх чуллівасці і к Богу скіраванае душэўнае ўзнёсласці. Сёння доўга б давялося нам чакаць тут, а я маю яшчэ шмат чаго паказаць табе; калі-небудзь вечарам прыедзем сюды спецыяльна паслухаць музыку. Пачуеш тут спевы абодвух аддзелаў гэтае школы разам: хлопцаў і дзяўчат.

– Як гэта, – здзівіўся Уладзіслаў, – і вашыя дочкі ў гэтай жа школе?

– У гэтай. Навукі выкладаюцца ім асобна, адпаведна з іхнім прызначэннем, а мастацтва і гаспадарчая практыка – разам. Ідзем мы якраз да іх павільёну. Парадак дня ва ўсіх нашых школах агульны. Пабудка, якая табе гэтак спадабалася, аднолькавая ўсюды. Зараз застанем паннаў за ручнымі работамі. Зморшчыў ты лоб: відаць, што маеш ужо нейкія сумненні пра карысць гэтае школы для паненак. Так?

– Прызнаюся, што мне цяжка зразумець, якую карысць можа мець школа для паненак. Бо калі мужчыны не могуць быць упэўненыя ў сваім будучым, дык кабеты тым больш. Ніводная не ведае, за каго давядзецца ёй выйсці замуж: за купца, за жаўнера, за гараджаніна; у кожным з гэтых выпадкаў яна ўжо не будзе вясковаю гаспадыняю.

– Але належыць памятаць, – адказаў пан Падстоліц, – што выхаванне павінна быць адпаведным таму стану, з якога паходзяць дзеці, чым таму, у якім яны могуць апынуцца: асабліва, калі будучыня невядомая. Прынамсі, большая частка вясковых паненак становіцца вясковымі гаспадынямі. І нарэшце, у якім бы стане не быў муж, прызначэнне жонкі – быць добраю гаспадыняю дому. Панны ў гэтай школе не вывучаюць выключна сельскую гаспадарку, і калі яны даведаюцца, як жаць і кароў даіць, дык неабавязкова, каб самі некалі гэта рабілі, але каб разумелі, калі давядзецца стаць вясковымі гаспадынямі. Калі яны навучацца ўпраўляцца з малочнымі прадуктамі, гароднінай, садам, кухняй, бялізнай ды ўсім іншым, з чаго складаецца гаспадарка,

несумненна, гэта больш карысна для кожнае кабеты, чым гафтаванне і мода, але мы і гэтага не занядбалі.

– Няхай жа васпан дабрадзей мае ласку расказаць, як і чаму яны вучацца?

– Навука дастасаваная да іх стану. Перш-наперш, як спадзяваных гаспадынь, вучаць іх усяму таму, без чаго сёння добрай гаспадыні не абысціся. Гэта значыць, арыфметыцы і справаводству, батаніцы, хіміі, неабходнай у земляробстве і хатняй эканоміі, агародніцтву, як гадаваць жывёлу і выкарыстоўваць яе, крыху яны вучацца пчалярству, знаёмяцца з агульнымі законамі фізікі, мінералогіі і аграноміі. Потым, як будучыя абывацелькі, вывучаюць яны гісторыю, геаграфію, статыстыку, правы і абавязкі свайго стану. Але не забываем мы і пра свецкія манеры. Яны маюць урокі музыкі, танцаў, паэзіі, малявання, кветкаводства, навучаюцца адной альбо двум замежным мовам, а напрыканцы атрымліваюць агульныя звесткі пра ўсе навукі. Усё гэта дастасавана да развіцця іхніх здольнасцяў, як і ў хлопцаў.

– Каб не гэтая апошняя акалічнасць, – сказаў Уладзіслаў, – я не быў бы яшчэ перакананы ў патрэбе такое школы; бо і ў пансіёнах даюць таксама больш-менш падобную адукацыю, а ў лепшых нават і хатняя гаспадарка не занядбаная; не даюць там толькі ведаў пра сельскагаспадарчыя работы.

– О! Не думай так, Уладзіслаў. Я ні за што не аддаў бы сваю дачку ў гарадскі пансіён. У найлепшым пансіёне, нягледзячы на шчырае жаданне заснавальнікаў і выхавацеляў, вучаніцы больш трацяць, чым набываюць. Рэлігія выкладаецца там у выглядзе лекцый, а таму холадна і пад прымусам; маральнасць псуецца праз адно ўжо нядобрасумленнае выкладанне навук, калі адны здольнасці занядбаныя, пры шкодным і выключным развіцці іншых. Вучэнне амаль усяго на памяць забівае розум. А яшчэ ж і гарадское жыццё навокал, якога немагчыма ўнікнуць, тыя моды, строі, увесь знешні бляск, які ў горадзе гэтак лезе ў вочы. Усё гэта не толькі выклікае непатрэбныя перажыванні, але глыбока ўкараняецца ў маладым розуме. Вясковыя дзяўчаты, як трохі агледзяцца, пачынаюць гэтым цікавіцца і шкадаваць, што яшчэ не хутка самі змогуць аддацца свецкаму жыццю. Мы выхоўваем нашых дачок гаспадынямі, якім падабаецца іх роля, а ў гарадскіх пансіянатах выхоўваюцца модныя дамы, здольныя красавацца ў таварыстве, аднак не маюць яны неабходных вясковым гаспадыням ведаў. Добра разумеюць вясковыя жыхары, што пансіянаты хоць і дадуць іх дочкам адукацыю і навучаць манерам, але карысці ад гэтага не будзе.

– Але што ж ім рабіць, – заўважыў Уладзіслаў, – калі часта няма іншае магчымасці выхавання дачок? Нарэшце, гэткі звычай у нашым класе, можна сказаць, – мода, ад якое мы не маем адвагі адступіцца.

– Калі не маеш магчымасці выхоўваць дачок нідзе, апрача пансіянату, лепей зробіш, калі пакінеш іх дома. Навучы іх чытаць, пісаць, арыфметыцы; дай ім кніжкі, з якіх набяруцца яны сякіх-такіх карысных ведаў; прывучы, нарэшце, да хатняе працы і пастарайся, каб ім гэта спадабалася; дык лепш атрымаецца і больш будзе карысці на ўсё іхняе жыццё з такога выхавання, чым некалькі гадоў вучыцца ў пансіянаце шчабятаць на чужой мове ды танцаваць нейкі там гавот. Добрыя манеры патрэбныя і вясковым паннам, але як дадатак для неабходных у вёсцы ведаў. А пра моду аддаваць у пансіянаты можна сказаць: дзеля моды нельга ахвяраваць дабром краю, які залежыць ад выхавання

абывацеляў, і тым больш ад выхавання багатых. Часта ва ўсёй ваколіцы пануе дух, які прынесла жонка самага багатага і значнага абывацеля.

У зале, дзе вучыліся паненкі, было каля трыццаці дзяўчат, якія атачылі стол і пад кіраўніцтвам некалькіх настаўніц займаліся рознымі ручнымі работамі. Тут гасцей спаткаў паважны мужчына з лагоднай і поўнай годнасці фізіяноміяй.

– Гэта кіраўнік школы, – сказаў пан Падстоліц Уладзіславу і папрасіў дазволу паразмаўляць з вучаніцамі.

На знак кіраўніка кінуліся дзяўчаты цалаваць рукі пана Падстоліца.

– Як жа маецеся, дзеткі мае? – запытаўся ён, вітаючыся па-бацькоўску.

– Добра, вельмі добра, дзякуй Богу, мы здаровыя і вясёлыя. А мама наша ці здаровая? Чаму тата каханы даўно нас не адведваў?

– Мама перадае вам сваё блаславенне. А я выязджаў на справах. Чым жа вы тут займаецеся?

– Закончыліся ў нас ранішнія ўрокі, а цяпер мы займаемся працаю.

– Пакажаце нам свае працы?

– Калі тата загадае, бо яшчэ няма чым хваліцца.

– А! Гэта пляцёнкі для капелюшоў, а гэта вышыўка па канве? Ведаеш, Уладзіслаў, што гэта ўсё на продаж? Усе выхаванцы нашых школ вучацца выконваць дробныя работы і аддаюць свае вырабы на продаж. Да чаго вас гэта рыхтуе? Адкажы, Саламейка

– Каб мы ўмелі выкарыстоўваць кожную хвіліну, вольную ад гаспадаркі.

– Мне здаецца, што добрая гаспадыня няшмат мае вольнага часу, так?

– О, не, каханы тата. Калі я была дома, дык бачыла, што і ў маёй мамы з-за таго, што ў доме быў парадак, заставалася шмат вольнага часу, які яна выкарыстоўвала на ручныя работы альбо чытанне.

– Але твая мама займалася работамі не для таго, каб іх прадаваць?

– Гэта ўсё адно, каханы тата, бо яна рабіла для нас тое, што мусіла б купляць, каб пажадала ўвесь час бавіцца, як некаторыя нашыя суседкі.

– Скажы мне, Ганулька, ці вам не апрыкла ўвесь час працаваць, вучыцца і выкарыстоўваць кожную хвіліну?

– Не, каханы тата, бо чалавек створаны для працы; а вучыцца трэба, каб падрыхтавацца для ўмелага прыкладання сваіх сіл, каб быць здольным служыць Богу і бліжнім.

– А бавіцца няможна чалавеку? Як ты лічыш, Кася?

– Наадварот, трэба карыстацца прыстойнымі забавамі для адпачынку розуму і аднаўлення сілаў для працы.

– А вы часта бавіцеся?

– Каханы тата, нашая праца гэткая лёгкая і гэткая прыемная, што можам лічыць яе за забаву. І палявыя работы, і нагляд за гаспадаркаю, і нашыя ручныя работы – гэта ўсё сапраўдная забава.

– Што гэта за палявыя работы? – запытаўся Уладзіслаў у кіраўніка.

– Усе нашы выхаванцы ў якасці гаспадарчае практыкі штодзень замест праходкі працуюць некалькі гадзінаў полі. Гэта праца на свежым паветры ўзмацняе іх і дае ўяўленне пра земляробства.

– І заробак, – дадала адна з дзяўчынак.

– Кожная гадзіна іх працы, – растлумачыў пан Падстоліц, – ацэньваецца і запісваецца ў заробак, які ім выплачваецца з прыбыткаў фальвараку. Прыбытак ад ручных вырабаў і працы ў полі ідзе на асабістыя патрэбы вучняў. У нас ёсць правіла, што кожны вучань павінны сам зарабіць на вопратку. Шмат карысці з гэтае завядзёнкі. Рэшта іх заробку складаецца ў ашчаднай касе пад працэнт. Колькі сёлета ты ўнесла ў касу, Анэлька?

– Дваццаць два злотыя. Цяпер больш зараблю, бо ўжо навучылася вязаць гарусныя накідкі на крэсла і касынкі з заечага пуху, якія вельмі добра купляюць.

– Што ж вы ўчора рабілі ў полі?

– Мы выбіралі бульбу і зарабілі па пяць грошаў.

– Ці варта працаваць за такую малую плату?

– Каханы тата, адно зярнятка пуды прыносіць. Зрэшты, наша праца – гэта, хутчэй, забава.

– Скажыце ж гэтаму пану, навошта вы аддаяце ваш заробак у ашчадную касу, калі маеце права ўжыць яго ўвесь на ўласныя патрэбы.

– Ашчадная каса пазычае нашыя грошы на розныя справы альбо на дапамогу людзям, якія займаюцца рамесніцтвам, і дае ім тым самым магчымасць зарабляць. Мы рады, што хоць дробнымі сваімі грашыма маем магчымасць далучыцца да гэтае карыснае справы.

– Учорашні заробак, – сказала адна з настаўніц, – усе вучні аддалі аднаму парабку, у якога зламаўся плуг, калі ён выворваў бульбу.

– Гэта вельмі добра, – сказаў пан Падстоліц. – Але памятайце, мае дзеці, што больш карысна для працалюбівых людзей, калі ім пазычаюць у якасці дапамогі, чым дораць. Бо тады не прывучыш іх спадзявацца на дарэмную дапамогу, не будзе прыніжаная іх чалавечая годнасць, а будуць яны заахвочаныя да працы. Толькі таму належыць дапамагаць без аддачы, хто не можа працаваць альбо трапіў у такую нявыкрутку, што пазыкі не здолеў бы вярнуць.

– Лукаш працавіты, каханы тата, ён зламаў плуг амаль па нашай віне, бо мы патрабавалі, каб ён араў хутчэй. Ахвяру нашу ён прыняў, як плату за шкоду.

– Хвалю ваш учынак. Належыць быць справядлівымі з людзьмі. Бачыш, Уладзіслаў, як карысна будучым гаспадарам бачыць працу на зямлі. Яны ведаюць, чаго варты кожны працаўнік, умеюць шанаваць яго работу, вучацца не грэбаваць земляробствам, ацэньваць работу кожнага працаўніка і справядліва яе ўзнагароджваць. Раскажыце ж мне, мае дзеткі, чаму вы навучыліся з таго часу, калі я апошні раз з вамі бачыўся.

– Нашы поспехі запісаныя ў кнізе. Яны невялікія, бо час гэтак хутка ляціць, аж сапраўды шкада, што ў сутках не ўдвая больш гадзінаў.

– Не ў тым справа, мае дзеці, каб хутка ўсяму навучыцца, але каб кожную гадзіну навукі выкарыстаць. Збіраць яе па кропельцы, як пчолы, мае дзеткі, якія не за адзін дзень напаўняюць свой вулей. Выкарыстоўваць кожную кроплю навукі – гэта абавязак чалавека. З часам назбіраеце вы запас ведаў. Як пан Бог пастанавіў, гэтак для нас найбольш карысна. Ці вы ўжо чулі пра апрацоўку льну?

– Якраз цяпер мы праходзім гэты раздзел у сельскагаспадарчай хіміі і робім вопыты.

– Не будзем вам перашкаджаць, калі час у вас гэтакі дарагі. Развітваюся з вамі, мае дзеткі.

– Час праведзены з каханым татам мы не лічым страчаным, бо заўсёды нечаму вучымся ад таты.

– Нам падабаецца быць з татам, – падхапілі іншыя, – бо тата такі добры. Да пабачэння, дарагі тата. Цалуем ручкі нашае мамы.

– Сярод іх толькі адна мая родная дачка, – сказаў пан Падстоліц, вядучы Уладзіслава далей, – але ўсе яны прывыклі называць мяне "каханы тата". Што з імі зробіш? Можа, гэта таму, што я падаў ідэю стварэння гэтае школы, дзе яны сапраўды шчаслівыя, і калі заканчваюць яе, дык успамінаюць пра час, праведзены тут, як пра лепшыя гады свайго жыцця.

Пан Падстоліц паказаў Уладзіславу ўсе памяшканні: чыстыя, праветраныя, у якіх быў поўны парадак; паказаў яму гаспадарчыя пабудовы: абору, аўчарню, стайню, бровар, цукроўню, пчольнік, а таксама сад і агарод, якія атачалі фальварак; усё было прыстасавана для практычнае падрыхтоўкі вучняў для гаспадарання. Нарэшце, правёўшы яго ў гасцінны пакой, пакінуў з кіраўніком, а сам пайшоў праверыць фальваркавыя рэестры.

– Я хацеў бы ведаць, – звярнуўся Уладзіслаў да кіраўніка, – якім чынам тутэйшыя выхаванцы набываюць навык вядзення хатняе гаспадаркі? Бо ўсе за ўсім адначасова наглядаць не могуць.

– Яны падзелены на групы, – адказаў кіраўнік, – і кожная група, змяняючыся па чарзе штомесяц, наглядае за рознымі аддзеламі.

– Можа, было б карысней, каб некалькі вучняў аднаго году прызначыць наглядаць за садам – кожнаму за асобнаю часткаю, іншым – за жывёлаю, таксама кожнаму за асобнаю часткаю, іншым – за асобнымі гаспадарчымі майстэрнямі, і па чарзе штогод мяняцца аддзеламі?

– А навошта гэта?

– Цягам году кожны больш бы набраўся вопыту, займаючыся адною справаю, больш відавочныя былі б дасягненні кожнага, і кожны, спаборнічаючы з іншымі, стараўся б свой аддзел як мага лепш даглядаць.

– Для таго, каб набыць вопыт, мы лічым наш спосаб лепшым, – адказаў кіраўнік, – хоць пры меншай колькасці вучняў і спосаб васпана быў бы добры. Але што тычыцца спаборніцтва, дык у гэтай школе мы маем больш высокія за яго матывы; спаборніцтва ў нас не практыкуецца.

– Я не разумею, навошта адмаўляцца ад спаборніцтва, якое паўсюль лічыцца самым высакародным матывам, і выкарыстоўваецца не толькі ў школах, але ўсюды, дзе толькі трэба абудзіць актыўнасць і стараннасць чалавека.

– Смела магу заявіць, што ў сукупнасці з іншымі прычынамі разумовая і маральная культура менавіта з-за таго ў нашым краі не магла развіцца, што выхаванне і ўсе абавязкі грамадзянаў грунтаваліся на фальшывым прынцыпе. Тое, што відаць вокам, лягчэй удасканальваць, чым маральнасць, і таму да гэтага часу ў людзей яна гэткая нізкая, што не разбіраючыся ў матывах сваіх дзеянняў, абмяжоўваліся толькі тымі, якія прыносілі ім уяўную карысць. Заўважыўшы, што спаборніцтва можа моцна запаліць пачуцці, бо чалавеку ад прыроды ўласціва жаданне ўзвысіцца над іншымі, замест таго, каб сцішваць гэтае жаданне і трымаць яго ў межах, яго падагравалі ўсімі магчымымі спосабамі і цешыліся, што спаборніцтва стала матывацыяй да больш хуткага развіцця здольнасцяў і талентаў. Не задумваліся пра тое, што адукацыя, каб быць

карыснаю, павінна грунтавацца на маральным, праўдзівым прынцыпе. Давайце паглядзім, якія вынікі дае спаборніцтва.

Чалавек, з дзяцінства прызвычаены да жадання ўзвысіцца над іншымі, калі мае шляхетны характар, сапраўды падпарадкуецца гэтаму жаданню, але адначасна прывыкне лічыць сябе самога мэтаю ўсіх сваіх клопатаў і намаганняў. Таму ён абавязкова будзе засмучацца бачачы, што іншыя яго пераганяюць. У ягоных інтарэсах, каб іншыя не паспявалі за ім, ён абавязкова адчуе эгаістычную рэўнасць; а калі ён будзе вельмі гарачы, дык хутка дойдзе да таго, каб шкодзіць іншым, абы самому стаць першым. Дарэмна будзе яго пераконваць, што гэта кепска; бо ягонае жаданне кажа яму, што мэта ўсіх ягоных старанняў – ён сам. Калі ён нават нешта добрае робіць для людзей, дык толькі напаказ, а таму – дзеля марнае славы.

З іншага боку, чалавек з менш высакароднаю душою, гэта значыць, з меншымі здольнасцямі і не такі актыўны, лёгка дае апярэдзіць сябе іншым, не клапоціцца пра развіццё сваіх сілаў, траціць энергію, прывыкае да прыніжэння, робіцца нахабны, а таму лёгка псуецца і можа стаць злачынцам.

Спаборніцтвам паўсюдна калечылі сэрцы, закладаючы ў яго дадзеную матывацыю; а гаварылі пры гэтым пра любоў да бліжняга і пра ахвярнасць для агульнага дабра. Чалавек разрываўся паміж двума жаданнямі, але натуральна, што асноўная матывацыя перамагала часцей, і выпадкова, хіба, ён рабіўся сапраўды карысным. І толькі таму, што альбо не надта добрыя былі вынікі, альбо з-за таго, што заўважыў ён у сабе кепскую скіраванасць і ўласнымі сіламі павярнуўся да добрага, хоць і не разумеў, што прынцыпы ягонага маральнага выхавання былі прычынаю ягоных кепскіх пачуццяў і жаданняў.

– Якая ж матывацыя ў вас прынятыя?

– Любоў да бліжняга альбо, іншымі словамі, грамадскае дабро. На гэтым прынцыпе мы будуем усю адукацыю нашых выхаванцаў. Дзеля эфектыўнасці адукацыі мы з маленства ўнушаем дзецям, што любоў да бліжняга, альбо грамадскае дабро, павінна быць матывацыяй усіх учынкаў чалавека, які жыве ў грамадстве; што ягонае шчасце і слава ў сапраўднасці залежыць ад дабра землякоў. Для гэтага раім ім дапамагаць адзін аднаму, бо кожны да агульнае мэты імкнецца, калі іншаму дапамагае ў добрай справе. Яны тут вучацца цешыцца з поспехаў іншых, таму што гэта карысна для агульнага дабра, а таксама не падаць духам і не траціць энергіі, калі не могуць быць роўнымі з іншымі, бо чалавек выконвае свой абавязак, калі стараецца з усяе сілы прыносіць карысць іншым, нават калі яе мала; словам, цешыцца з таго, што яшчэ ёсць такія, хто яго можа апярэдзіць і больш карысці для агульнага дабра прынесці. Ён прагне нават нязначнымі сваімі намаганнямі дапамагаць тым, хто выйшаў наперад, бо мы павінны любіць усіх, хто для агульнага дабра кладзе свае сілы.

Абапіраючы наша грамадзянскае, альбо маральнае, выхаванне на гэтым прынцыпе, смела і са спадзяваннем пэўнага поспеху можам мы ўнушаць дзецям, што мераю заслуг перад Айчынаю з'яўляецца стараннасць у выкананні абавязкаў; што гэтая стараннасць грунтуецца на прысвячэнні Айчыне ўсіх сваіх сілаў; што пашана належыць таму, хто рупліва выконвае свае абавязкі, а не таму, хто красуецца дзеля таго, каб апынуцца вышэй за іншых; што ў кожным стане можна заслужыць пашану і ўдзячнасць землякоў, дбайна выконваючы свае абавязкі; што селянін, які арэ поле, купец, які адмярае локці,

рамеснік, які стаіць за варштатам, слуга, які выконвае свае функцыі, суддзя, які вяршыць правасуддзе, гаспадар, які клапоціцца пра лепшае земляробства, займаецца асветаю і з'яўляецца дабрадзеем для чэлядзі, – усе аднолькава могуць заслужыць пашану, калі старанна выконваюць абавязкі свайго стану і чалавека, альбо пагарду, калі занядбаюць іх, альбо, зведзеныя пыхаю, жаданнем стаць на чале грамады не для яе дабра, а толькі для таго, каб дагадзіць уласнаму самалюбству. Ты разумееш, хіба, што гэты прынцып з'яўляецца гарантыяй дабрабыту краю, крыніцаю сапраўднае хвалы для чалавека і самаю салодкаю ўзнагародаю ягоных заслугаў?

– Разумею, – адказаў Уладзіслаў, – у мяне толькі ёсць сумненні, што дзіця здольнае зразумець гэткую духоўную матывацыю.

– Дзіця, сапраўды, адразу не зразумее, але належыць унушаць яму гэтую матывацыю з маленства. Калі падрасце і пачне разумець гэта, дык само будзе прымяняць яе і на ёй, як на прыроджаным пачуцці, засноўваць свае ўчынкі. Для змякчэння ў юных галовах непрыемных адчуванняў, што могуць нарадзіцца з-за абавязку ахвяраваць усімі задавальненнямі дзеля агульнага дабра і самаахвярнасці, мы пераконваем дзяцей, што чалавек заўсёды можа быць шчаслівы, калі выконваючы свае абавязкі, здаецца на Ласку Божую, а без Волі Яго нават самая дробная былінка не будзе стаптаная і волас з галавы чалавека не ўпадзе. Пераконаны чалавек, што ўсё на свеце робіцца па Волі Божай, цярпліва будзе пераносіць няшчасці, якія будзе лічыць звёнамі агульнага плану Божае Ласкі дзеля агульнага дабра; дык ён ахвотна ахвяруе сваімі прыемнасцямі і нават жыццём, бо пераконаны, што выконваючы свае абавязкі, спаўняе Волю Божую і заслугоўвае славу сярод суайчыннікаў, салодкую ўзнагароду ва ўласным сумленні і, вядома, узнагароду вышэйшую, якой мы толькі жадаць можам.

– Гэта высакародная матывацыя, – сказаў Уладзіслаў. – Ці васпан дабрадзей сам яе ўвёў у гэтай школе?

– Усе гэтыя прынцыпы і разважанні, – адказаў кіраўнік, – належаць пану Падстоліцу, які не толькі на словах, але і на справах пацвярджае іх. Мушу расказаць васпану, якім чынам ён пераканаў мяне прысвяціць сябе, адмовіўшыся ад іншых планаў, выкананню ягоных намераў. Няхай васпан даведаецца яшчэ пра адну дробную рысу яго характару.

Гадоў дваццаць таму я быў накіраваны маім тагачасным начальствам ў чужыя краіны з мэтаю адукацыі ў пэўнай навуцы, якую мусіў пазней выкладаць суайчыннікам. Мой прадмет вымагаў больш бачыць, чым слухаць. Вядома, што ў чужых краінах, жадаючы бачыць карысныя рэчы, трэба мець поўны гаманец; прызначанай мне пенсіі было недастаткова. Разумеючы важнасць свайго прызначэння і прадбачачы, якім карысным магло быць для маіх суайчыннікаў выкладанне майго прадмету, я быў рады ахвяраваць на гэта і ўсе ўласныя сродкі, але малыя мае запасы не надта маглі мне тут дапамагчы. Занепакоены, я паведаміў маім прыяцелем, што хацеў бы пазычыць у кагонебудзь недастатковую, паводле маіх падлікаў, суму, а вярнуўшыся ў край, стараўся б вярнуць усё свайму дабрадзею са сваіх прыбыткаў альбо пенсіі.

Не ведаю, якім чынам, даведаўся пра гэта пан Падстоліц, паспяшаўся да мяне і з сапраўднаю грамадзянскаю ўзнёсласцю дзякаваў мне, што я даў яму магчымасць паслужыць Айчыне, і нават без абавязку вяртання ахвяраваў мне жаданую суму. Я не хацеў згадзіцца на такую ўмову, але гэты муж сказаў мне

словы, якія запалі мне ў сэрца: "Паслухай, зямляк! Ты прысвячаеш свае сілы, свой час, здольнасці і ўвесь свой дастатак дзеля дабра суайчыннікаў, а я хачу прысвяціць ім гэтую суму, якая амаль не паўплывае на мой гадавы прыбытак. Дазволь мне мець хоць тое пацяшэнне, што прычыніўся я да добрае справы дзеля маіх суайчыннікаў. Тым смялей можаш на гэта згадзіцца, што я перакананы: прадмет, да якога ты рыхтуешся, гэтакі патрэбны для нас, гэтак можа паспрыяць паляпшэнню нашага дабрабыту, а карысці, якія з гэтага вынікаюць будуць даступныя і мне, дык гэта з лішкам узнагародзіць мне гэты выдатак. Не дзеля цябе я гэта чыню, але дзеля твайго прадмету, дзеля дабра краю і дзеля дабра майго".

Можаш васпан зрабіць выснову, што не гэтак сама дапамога, як яе матывацыя зрабілі мяне прыхільнікам гэтага шляхетнага чалавека. Я быў тады за мяжою і апрача свайго прадмету прыглядаўся да некаторых аграрных школаў, асабліва ў Хофвілю ў Феленберга[50]. Потым, калі змяніліся мае акалічнасці, і я даведаўся, што пан Падстоліц шукае падрыхтаваных людзей для школы, якую ён засноўваў, я з'явіўся да яго і прапанаваў свае паслугі. Пасля доўгае размовы ён даверыў мне кіраўніцтва гэтаю школаю, і з таго часу, задаволены сваім прызначэннем, што на гэтым месцы магу быць карысны дзеля мае Айчыны, стараюся выконваць планы гэтага незвычайнага чалавека.

Прыйшоў пан Падстоліц і прапанаваў Уладзіславу наведаць сялянскую школу, у якую можа яго завесці.

– Чаму гэтыя вясковыя школы не разам? – запытаўся Уладзіслаў.

– Не было б гэта карысна, – адказаў пан Падстоліц. – Навукі, лад жыцця і паводзінаў абодвух станаў розныя і не павінны сутыкацца, бо іначай уплывалі б адзін на другі і адзін аднаму шкодзілі.

Яны развіталіся з усімі настаўнікамі ды настаўніцамі і пайшлі дарогаю паўз сад ў сялянскую школу.

## Раздзел пяты

# СЯЛЯНСКАЯ ШКОЛА

Jak przyjemne ci jeszcze wystawią widoki,
Te roje wiejskich dzieci, ich igraszki, skoki!
... Ileż tam rozmaitych przymiotów się mieści!
Ten, dziejopis, wieś bawi długiemi powieści;
Ow rysuje na piasku, Euklid obiecany,
Na igraszkę dla wiatrów, koła i trójgrany;
Tamten, czując do kunsztu Rubensa wezwanie,
Węglem niezgrabne twarze gryzmoli po ścianie;
A inny, odkrywając wcześnie duch marsowy,
Do bitwy swe szykuje roty, Szewer nowy.
Śledź te szczęśliwe przyszłych talentów zarody.

A.L. Feliński, *Człowiek wiejski* (z Delilla)[51]

– Я разумею, – казаў Уладзіслаў, – якім вялікім дабрадзействам можа быць для сялянаў асвета, але ў нашым краі, дзе яна яшчэ не распаўсюдзілася, ці не варта пабойвацца, каб сяляне не выкарысталі яе на шкоду?

– Каб выхаванне магло прыносіць карысць, уся навука павінна быць палучаная з практыкаю. Бо толькі такое палучэнне здольнае прыцягнуць розум маладога чалавека да прадмету навукі і да стану, да якога гэтая навука прыстасаваная. Практыка займае ўяўленне, тэорыя – розум; калі яны набываюцца паасобку, дык яны займаюць толькі адпаведныя здольнасці чалавека, а калі абедзве разам, дык усю істоту чалавека. Таму навука без практыкі – бескарысная; бо калі розум заняты параўнаннямі, высновамі, тэорыяй, дык пачуцці тым часам, не знаходзячы для сябе ў практыцы спажывы і не ідучы ўслед за розумам, скіроўваюць сваё ўяўленне на чужыя прадметы, уздыхаюць пра іхнія вабноты і альбо перашкаджаюць розуму ўдасканальвацца ў тэорыі, альбо, узяўшы верх, цягнуць разумовыя здольнасці ўслед за сваімі ўяўленнямі. Гэта бывае частай прычынаю ўварванняў у чужы стан.

Таму галоўным прынцыпам навуковага выхавання павінна быць палучэнне ўсялякае тэорыі з практыкаю. Бо самае дробнае правіла, адразу прыменёнае, будзе пераконваць у сваёй карыснасці; самая дробная атрыманая карысць будзе заахвочваць да працягу працы ў гэтай самай галіне, і тады толькі людзі могуць лёгка палюбіць той стан, да якога іх навука падрыхтавала[XL].

Але дзеля маральнага выхавання нашых сялянаў наймацней належыць іх пераконваць у тым, што ў кожным стане можна быць карысным Айчыне і што ў гэтым сапраўдная слава і годнасць чалавека; што розніца станаў у грамадстве не прыніжае аднаго чалавека перад другім, а з'яўляецца толькі ўстаноўленаю формаю парадку; што годнасць чалавека залежыць ад яго самога, ад ягонае дабрачыннасці і стараннасці ў выкананні абавязкаў без увагі на ягонае становішча ў грамадстве; што забабоны пра вышэйшасць адных людзей над іншымі

з-за розніцы станаў з'яўляецца вынікам неразумення прызначэння чалавека на зямлі і што належыць пагарджаць гэтым забабонам ды ўзняцца вышэй яго; што дзеля парадку належыць аддаваць пашану, адпаведную тытулу і стану, але шанаваць варта толькі тых, хто, у якім бы стане яны не былі, сваімі добрымі якасцямі – дабрачыннасцю, вучонасцю альбо заслугамі – заслужыў гэта.

Якраз занядбанне гэтых прынцыпаў выхавання бывае прычынаю самых сумных наступстваў ва ўсіх станах, асабліва ў самых нізкіх. Я ўпэўніўся ў гэтым на лёсе аднаго з маіх падданых. Гэта быў сірата, якога ў дзяцінстве ўзялі слугою ў двор; у яго было шмат добрых якасцяў: быў вельмі пачцівы, верны, прывязаны да мяне, як да бацькі; у некалькіх здарэннях пераканаўча давёў высакародства свае душы і выдатныя рысы свайго характару. Жадаючы ўзнагародзіць ягонае высакародства і стараннасць, я разважаў, якім бы чынам гэта здзейсніць. Не было ў мяне тады ані мае сялянскае школы, ані вопыту. Здарылася так, што адзін з маіх прыяцеляў у сталіцы, чалавек з усіх бакоў высакародны і варты пашаны, убачыў у мяне гэтага хлопца і заўважыў ягоную дабрачыннасць, неадпаведную ягонаму ўзросту і стану, падахвоціў мяне, каб я аддаў яго ў горад, абяцаючы апекавацца ягонаю вучобаю, абы ён атрымаў якую-небудзь пачцівую прафесію. Я ахвотна згадзіўся на гэту прапанову. Мой прыяцель, узрадаваны, што можа дапамагчы паспрыяць лёсу слугі, не хаваў свайго задавальнення, песціў яго, як уласнае дзіця, думаючы, што гэтым яшчэ больш падтрымае ягоныя добрыя схільнасці. Разумны хлопец хціва прыслухоўваўся да размоваў, якія адкрыта адбываліся пры ім: да гарачых палітычных дыскусій, да развагаў пра лёс сялянаў і падданства; гаварылі часам захоплена, не ашчаджаючы нашага стану, не згадваючы шматлікіх акалічнасцяў, якія б перашкаджалі сфармавацца адназначнаму меркаванню; не ведаючы тых акалічнасцяў, мой хлопец зрабіў абсалютна фальшывую выснову пра ўвесь лад у грамадстве. Таму спачатку яму стаў ненавісны ягоны стан і ўсе тыя, хто мог мець над ім уладу; дабрадзея свайго ён стаў ненавідзець, а мяне лічыў сваім галоўным непрыяцелем.

Я заўважыў неспакой, які кіпеў у глыбіні ягонае душы, зразумеў, што здарылася, кінуўся на дапамогу і, жадаючы ягоныя ўяўленні скіраваць яму на карысць, абяцаў яму вольнасць, абы толькі ён рупліва вучыўся, ахвяраваў упадабаны ім фальварак і зямлю, стараўся яго пераканаць, што праўдзівая годнасць і слава залежыць ад карысці дзеля агульнага дабра. Аднак было ўжо позна. Балеснае ўяўленне пра свой нізкі стан і залежнасць гэтак яго мучыла, што з-за нейкага нязначнага незадавальнення сваім дабрадзеям, прыяцелем, у самазабыцці наклаў на сябе рукі[b].

Якраз калі пан Падстоліц закончыў сваё апавяданне, яны выехалі ў даліну, на якой паказаўся вялікі мураваны дом з некалькімі гаспадарчымі пабудовамі, якія відаць было сярод саду, аточанага палеткамі.

– Тут, – азваўся пан Падстоліц, – разам і вопытны фальварак, і парафіяльная школа для нашых сялянаў.

Ля ўваходу ў дом іх спаткаў чалавек у простай вясковай, але прыстойнай вопратцы. Пан Падстоліц прывітаў яго па-прыяцельску і, знаёмячы Уладзіслава з ім, сказаў:

[b] Праўдзівае здарэнне.

– Гэта мой памочнік, гаспадар гэтае школы і фальварку. Прашу не звяртаць увагі на гэтую вопратку: я спецыяльна абавязаў тутэйшых настаўнікаў, каб насілі простыя строі толькі з тою мэтаю, каб нашыя маладыя сяляне не бачылі ў іх прыкладу раскошы і пераконваліся, што ў любым адзенні асабістая вартасць вартая пашаны.

– У іх цяпер урок, – сказаў гаспадар. – Ці ёсць жаданне туды зайсці?

– Вядома, – адказаў пан Падстоліц. – Гэты ягамосць, – звярнуўся ён да Уладзіслава, – выкладае на практыцы ўсе гаспадарчыя навукі: земляробства, спосабы перапрацоўкі ўраджаю, жывёлагадоўля і выкарыстанне прадукцыі жывёлагадоўлі, пчалярства, лесаводства, кіраванне дамашняю гаспадаркаю і рахункі. Другі настаўнік выкладае тэорыю ўсіх гэтых навук; садавод вучыць садаводству і батаніцы, наколькі гэтая навука прыдатная для земляроба. Адзін з іх вучыць музыцы, а жонкі настаўнікаў займаюцца домам і наглядам за дзяўчатамі і жаночаю гаспадаркаю. Гэтакі штат нашае школы.

Вялікая зала, уладкаваная па метаду Ланкастара, была напоўненая вучнямі абодвух палоў, з якіх адны чыталі, другія пісалі, іншыя адказвалі ўрок. Шум як у сінагозе, але парадак як у гадзінніку. Пільнае вока настаўніка адзіным позіркам кiравала ўсёю гэтаю махінаю.

Як толькі ўвайшоў пан Падстоліц, кіраўнік школы даў знак, які ў той жа момант паўтарылі вучні-маніторы[52], – і ўсе ў імгненне вока змоўклі, усталі з лавак альбо павярнуліся з паўколаў і з усмешкаю радасці ў вачах і на тварах прывіталі паклонам пана Падстоліца.

Здзівіўся Уладзіслаў гэтай пакоры і парадку; але яшчэ больш ён здзівіўся, калі падышоў да аднае з лавак і хацеў зазірнуць у табліцу крайняга вучня. З ветліваю ўсмешкаю хлопчык падняў табліцу і сціпла трымаў яе перад Уладзіславам, які ўжо не глядзеў, што там напісанае, а толькі на добра выхаванае дзіця.

– Гэты хлопец у школе яшчэ толькі паўгода, – паведаміў, наблізіўшыся да Уладзіслава, гаспадар.

Толькі цяпер Уладзіслаў звярнуў увагу на напісанае, якое, як на паўгода навучання, было вельмі добрае.

– Ці ты ўжо ўмеў пісаць, калі прыйшоў у школу? – запытаўся ён у хлопца.

– Не ўмеў, пане, ані пісаць, ані чытаць, – адказаў ён чыстаю моваю.

– Чаму ж ты яшчэ вучышся ў гэтай школе?

– Катэхізму і арыфметыцы.

– А земляробству?

– Вучымся, працуючы ў полі.

– Старэйшыя, – сказаў гаспадар, – умеюць трохі больш. Вось з другога году.

– Чаму ўжо навучыліся? – запытаўся пан Падстоліц у дзяўчынкі, якая сядзела на лаўцы другога году.

– Катэхізму, навуцы абавязкаў, рахункам і пачаткам натуральнае гісторыі[53], наколькі яе земляробу ведаць належыць, – сціпла, але смела адказала дзяўчынка.

– Што ты зразумела з навукі абавязкаў?

– Абавязкі чалавека перад Богам, Айчынаю, урадам, бліжнімі, суседзямі, сям’ёй і перад самім сабою.

– А што вашэць апрача гэтага ўмее? – запытаўся ён у хлопца, які сядзеў далей.

– Пачаткі сельскагаспадарчае хіміі, – адказаў хлопец, – аграномію, садаводства і рэгістратуру.

Пагладзіў хлопца па галаве пан Падстоліц і зноў запытаўся ў дзяўчынкі:

– А што ж вы вывучаеце на чацвёртым годзе?

– Кароткі выклад законаў, якія нас датычаць, жывёлагадоўлю і выкарыстанне прадуктаў жывёлагадоўлі, дастасаванне хіміі да дамашняе гаспадаркі і рамёстваў, прыдатных земляробам.

– Якому ж ты вучышся рамяству?

– Сартаванню воўны.

– А ты? – запытаўся ён у хлопца, што стаяў побач.

– Гарбарству.

– А ты?

– Бондарству.

– Кожны з іх, – сказаў пан Падстоліц Уладзіславу, – у старэйшых класах вучыцца нейкаму рамяству, адпаведнага прызначэнню земляроба. Знойдзеш тут васпан калёсных майстроў, кавалёў, сітнікаў, сталяроў... І ўсіх ад моманту паступлення ў школу навучылі прасці на калаўроце, сукаць вяроўкі, плесці шнуры, капелюшы і кашы, шыць абутак і выконваць падобную дробную работу. Бо іхні час гэтак размеркаваны, каб не страцілі ані хвіліны бескарысна. Праца на зямлі і клопаты па гаспадарцы пакідаюць шмат вольнага часу; дапаможныя рамёствы таксама не паўсюдна і не заўсёды могуць выконвацца. Таму кожны ўмее яшчэ нешта больш дробнае, нешта больш лёгкае, чым можа заняцца ў любым месцы ў любы момант і што можна пакінуць без шкоды. Бо мы тут не пагарджаем самай дробнаю карысцю, самую дробную саломінку падымем і кінем туды, дзе яна можа быць патрэбная. А ці скажаш мне, навошта? – запытаўся ён у хлопчыка, які сядзеў у радзе для трэцяга году.

– Бо малыя карысці складаюцца на вялікую.

– Добра, дзіця маё, – пахваліў яго пан Падстоліц. – Але ці не лепей рабіць тое, што адразу прынясе вялікую карысць, чым клапаціцца пра дробныя?

– І адно рабіць, і ад другога не адмаўляцца, – адказаў хлопец.

– Скажы мне, мая дачка, – звярнуўся ён да дзяўчынкі ў радзе другога году, – навошта чалавеку заўсёды клапаціцца пра карысць? Жыццё кароткае, на той свет нічога не забяром, а пражыць можна і з кавалкам хлеба.

– Чым больш чалавек зарабляе, – адказала яна, – тым больш дапамагае бліжняму.

– Можа, ён толькі сабе дапамагае?

– І бліжнім, – запярэчыла дзяўчынка. – Чым больш я напраду, тым больш ткач зможа выткаць, і гэтым зарабіць сабе на хлеб.

– А калі ты сама вытчаш?

– Дык заробіць бялільшчык і купец.

– А вы што вучыце? – запытаўся пан Падстоліц, падыходзячы да лавак са старэйшымі вучнямі.

– Паўтараем вывучанае ў малодшых класах: асабліва сельскагаспадарчую хімію, пра адрозненні глебы, пра ўгнаенні, пра перапрацоўку сельскагаспадарчых прадуктаў; апрача таго, вучым геаграфію, гісторыю нашага краю, нарысы агульнае гісторыі, крыху статыстыку і крыху атрымліваем уяўленне пра гандаль.

– Як гэта прыдасца сялянам? – запытаўся Уладзіслаў у настаўніка.

– І яны людзі, грамадзяне свайго краю і прадпрымальнікі ў сваім рамястве, – адказаў настаўнік.

– Апрача таго, – дадаў пан Падстоліц, – яны ведаюць, што зацьменне сонца адбываецца з-за таго, што месяц праходзіць між ім і зямлёю; ведаюць, што такое каметы і чаму падаюць зоркі, з-за чаго ўзнікаюць хмары, дождж, раса і перуны; маюць уяўленне пра законы механікі цвёрдага цела і вадкасцяў, а таксама пра шмат іншых патрэбных земляробу рэчаў з астраноміі і фізікі. Усе гэтыя веды набываюцца без асобных урокаў: у размовах з настаўнікамі пад час дамашняй працы. Скажыце ж мне, мае дзеці, з якімі раслінамі вы сёння пазнаёміліся? Ты, мая дачка, якую маеш тут зёлку?

– Люцэрна хмельная, іначай называная казярожац хмельны.

– Як яе пазнаеш?

– Кветкі матыльковыя, дробныя, жоўтыя; кветкавыя келіхі авальныя, знаходзяцца ў кутах лісцяў; дзесяць тычынак, якія зрасліся ў дзве купкі; стручок сплюшчаны, скручаны, нібы нырка, аднazерневы, паласаты, зморшчаны і пакрыты цвёрдымі валаскамі; лісце мяккае, зубкаватае, патройнае, на доўгіх хвосціках; галінкі сцелюцца.

– Якая з яе карысць?

– Прыдатная дзеля зялёнае пашы ад пачатку вясны аж да жніва; жоўтыя кветкі надаюць колер малаку і маслу, квітнее доўга; ураджайнасць амаль такая самая, як у канюшыны іспанскай; касіць можна два разы за лета[XLI].

– Якую глебу яна любіць і калі яе трэба сеяць?

– Добра расце на лёгкай і сухой глебе. Сеяць трэба пад авёс альбо ячмень.

– А ў цябе што гэта за расліна? – запытаўся ён у хлопчыка з другой лаўкі.

– Куколь аднагадовы.

– Як яго пазнаеш?

– Кветкі знаходзяцца на падвянку галоўнага стрыжня, тры тычынкі, два песцікі, сцябло высокае, з каленкамі; лісце травяністае, келіх часам чырванаваты, сплюшчаны, асцюкаваты; пялёсткі ў келіху размешчаны адно за другім; пад кожным пялёсткам – доўгі завостраны лісцік, роўнае з пялёсткам даўжыні; насенныя зярняткі карычнева-чорныя, яйкападобныя, з двух бакоў сплюшчаныя.

– Якая карысць ад гэтае расліны?

– Карысці ад яе няма; наадварот, яна шкодная для людзей і для жывёл, асабліва, калі яе шмат у збожжы.

– Як яе знішчыць?

– Трымаць раллю сухою, а насенне добра ачышчаць.

– А ты што трымаеш?

– Шафран праўдзівы.

– Ведаеш пра яго ўласцівасці?

– Ведаю. Загадае пан пералічыць?

– Адкажы лепш, як збіраць шафран.

– Раніцаю збіраюцца вось гэтыя кветкавыя трубкі, а потым выбіраюцца з іх адны песцікі, якія з'яўляюцца гандлёвым шафранам; іх сушаць на сітах, сціскаюць, пераварочваюць, кропяць півам і дасушваюць.

– Кожны з іх, – патлумачыў пан Падстоліц Уладзіславу, – абавязаны кожны дзень вывучыць адну расліну і зрабіць пра яе справаздачу. Павінны яе засушыць і далучыць да свайго гербарыя. Такім чынам за некалькі гадоў яны знаёмяцца з мноствам карысных і шкодных раслін, з іх выкарыстаннем альбо спосабамі нішчэння. Садоўнік павінны кожнаму з іх першы раз расказаць пра кожную расліну і запісаць у кнізе, каму ён тлумачыў пра яе, а да яго ўжо адсылае наступных, гэтак ён звольнены ад несупыннага паўтору, а вучні, вучачы другіх, самі лепш запамінаюць навуку.

Дзякуем вам, мае дзеткі, – дадаў ён, звяртаючыся да вучняў. – Старайцеся, добра вучыцеся, каб быць карыснымі для бліжніх. Дзеля гэтага вас Пан Бог на свет людзьмі стварыў. Дзякуйце за гэта Богу і карыстайцеся з яго Ласкі. Ужо цяпер бачыце, як шмат добрых рэчаў можна зрабіць у сельскай гаспадарцы, калі павучыцца. Як вам спатрэбіцца ўсё гэта ва ўласнай гаспадарцы, каб паспяхова карыстацца дарамі Божымі і адплаціць за ягонае дабрадзейства дабром бліжняму!

Ён падзякаваў настаўнікам за клопаты і правёў Уладзіслава на другі паверх. Некалькі чыстых пакояў былі застаўленыя камодамі, падобнымі на тыя, што былі ў чэлядзі пана Падстоліца. З простага дрэва, пафарбаваныя, яны захаплялі свежасцю і чысцінёю.

– Гэта, – сказаў пан Падстоліц, – спальня хлопцаў; дзяўчаты паселеныя падобным чынам у другой частцы дома. Вось тут, у верхніх шуфлядах, іхняя вопратка і рэестры. Бо кожнаму тут плацяць за кожную работу, і ён за ўсё плаціць. Разлік, як можаш зрабіць выснову, рэдка бывае наяўнымі, у асноўным гэта ўзаемаразлікі. У першыя гады навукі бацькі нешта дадаюць; потым за працу на полі і ў садзе, за дагляд пчолаў і аборы, за дробныя свае вырабы дзеці самі збіраюць на сваё ўтрыманне ў школе, а рэшту заробку аддаюць у ашчадную касу, дзе, бывае, за час знаходжання ў школе збіраецца па некалькі дзясяткаў злотых капіталу. Асабліва прывучаем мы іх да ашчаднасці.

– Хто плаціць настаўнікам? – запытаўся Уладзіслаў.

– Мы, землеўласнікі, – адказаў пан Падстоліц. – Маем на гэта прыбыткі з гэтага досыць вялікага фальварку, які апрацоўваюць вучні. Гэты прыбытак не ідзе наўпрост настаўнікам, каб у іх не ўзнікала жадання ўнікаць вопытаў на полі, каб забяспечыць сабе прыбытак ад больш карысных пасеваў. Бо яны павінны паказаць, якія пасевы прыносяць большую карысць, але разам з тым павінны, каб вучні на свае вочы набіраліся вопыту. Тую частку прыбыткаў гэтае школы, якая застаецца пасля выдаткаў на яе, мы адкладаем у запас на горшыя гады і – з часам – на ўтрыманне настаўнікаў без нашага кошту.

– Тут, – працягваў ён апавядаць, завёўшы ў пакой з шафамі, – знаходзіцца сялянская бібліятэка. Яны могуць адсюль браць для чытання адпаведныя іх стану і здольнасцям кнігі, аплачваючы гэта living рознымі рэчамі, якія дзесьці ў іншым месцы марна гінуць: абрэзкі, косткі, рогі, розная старызна і анучы прымаем мы ад іх па вызначаным кошце і прадаём на адпаведныя мануфактуры ў мястэчку, а за гэтыя грошы купляюцца кнігі і ўзорныя сельскагаспадарчыя прылады. Гэткім чынам, апрача карысці ад чытання, сяляне прызвычайваюцца да стараннае ашчаднасці, якая заключаецца не ў тым, каб шкадаваць сабе на прыстойнае жыццё, але ў тым, каб анічога не гінула без патрэбы і карысці.

Там – ванныя пакоі і пральня, – сказаў ён, сходзячы ў ніжняе крыло дому. – Чысціня тут строга захоўваецца. Дзяўчаты пад наглядам гаспадыні па чарзе мыюць для ўсіх бялізну; хлопцы ж забяспечваюць дзяўчат абуткам за пэўную з абодвух бакоў плату, гэтак размеркаваную, каб пранне ў сярэднім было ўраўнаважана патрэбамі ў абутку. Бо мы так іх прывучылі, каб яны ўмелі цаніць кожную работу і не пагарджалі самаю дробнаю ўзнагародаю за яе.

На кухні гаспадараць таксама па чарзе; дзяўчаты гатуюць ежу, а хлопцы абавязаны прывозіць дровы і паліць у печах. Вось тут сталовая, а там, побач, кухня. Абедзве простыя. Ядзяць драўлянымі лыжкамі, бо мы не хочам, каб з маленства сялянскія дзеці прызвычайваліся да выгодаў, якія пераўзыходзяць іх магчымыя заробкі. Тут знаходзіцца музычная зала, усе вучні абавязкова займаюцца тут. Вясковае жыццё аданастайнае, асабліва зімою, без забавы чалавек нудзіцца і таму лёгка пад старасць можа атруціць свае дні смуткам. Музыка развівае ў іх лагодныя пачуцці, пацяшае ў самотнасці, таварышыць чуллівасці і ажыўляе вясковыя забавы. Яна заняла ў нас месца п’янства, якое раней было ад іх неадлучнае, развесяліла спевы сялянаў і, падзяляючы іх нявінную радасць, уздымае сэрцы да Творцы, якому яны прызвычаліся з маленства дзякаваць, а ў няшчасцях спадзявацца на ягоную Ласку.

Цяпер, калі ёсць ахвота, пойдзем паглядзець, як жывуць на сваіх ужо гаспадарках выхаванцы гэтае школы.

## Раздзел шосты

# СЯЛЯНЕ

Nie z najlepszości gruntów ta pomyślność płynie,
Nie zawsze w tej wesele mieszkało dziedzinie;
Lecz, wspaniałością możne przechodzący pany,
Nowe tych dóbr właściciel uczynił przemiany.
On tu pierwszy, zwracając swą względność na chaty,
Do ludzkiej wzniósł godności podłych źwierząt brały.
On im wolności, on im przemysłu udziela;
Nie tyrana, lecz mają w panu przyjaciela.

St. Trębecki, *Polanka*[54]

– Я бачу, – сказаў Уладзіслаў, – што ўсе сяляне васпана дабрадзея паселеныя паасобку. Гэта зручней для іх?

– У кожнага свая палоска каля самага дому, – адказаў пан Падстоліц. – Поле могуць апрацоўваць, як хто хоча, незалежна ад суседзяў; гной вывозіць блізка, і на ўсе палявыя работы хутчэй дабірацца.

– Але ў кожнага мусіць быць свой пастух, кожнаму трэба зімою дарогу пракладаць, і на выпадак пажару – няма блізка дапамогі, – заўважыў Уладзіслаў.

– Пастух не патрэбны, бо жывёлу выгадней трымаць у хляве; дарога да гасцінца – невялікая, а тыя, хто жыве далей, размешчаны па тры-чатыры дамы, дык дарогу пракладаюць супольна. Пажар жа ў вёсцы больш страшны, бо можа ўсю яе знішчыць. А тут у выпадку пажару згарыць адзін дом, аднак ад яго засцерагаюць нас мураваныя будынкі ды іншыя меры асцярожнасці.

– Як упрыгожваюць краявід, – сказаў Уладзіслаў, – гэтыя гаі, раскіданыя па ўзгорках і далінах!

– Кожны з маіх сялянаў, – адказаў пан Падстоліц, – абавязаны гадаваць на сваёй сядзібе, паводле дадзенага яму плану, два маргі лесу. Гэтак разбіваецца на нашым абшары адзін, але вельмі разнастайны парк, а сяляне маюць дровы, каб паліць у печы. Кожны такі лес падзелены на столькі частак, за колькі гадоў гадаваныя ў ёй дрэвы дасягаюць спеласці, г. зн., калі іх можна ссекчы. Штогод высякаецца адна частка і нанова засяваецца лесам. Нявыкарыстанае кожны гаспадар можа прадаць. А на будаўніцтва і сталярку ёсць асобны ўчастак у пушчы, агульны для ўсіх сялян, за якім наглядае ляснічы. І там гэтаксама высякаецца і засяваецца адна частка штогод, а высечанае дрэва купляюць тыя, каму яно патрэбнае. Калі застанецца лішак ад патрэбаў воласці, дык яго прадаюць іншым; з прыбытку аплачваецца праца ляснічага і работнікаў, занятых на высечцы і пасадцы, а рэшта дзеліцца на роўныя часткі паміж усімі гаспадарамі ў гэтай воласці. На кожнай сялянскай валоцы павінны быць адзін морг лесу; а таму іхнія надзелы маюць толькі па 29 моргаў.

Яны падышлі да сялянскае сядзібы. Гаспадарскія пабудовы, стайня, свіран і абора стаялі па баках дзядзінца; на ўзгорку побач з домам – дзве афіцынкі. Сам дом, невялікі, у грэцкім стылі, стаяў у засені разложыстых ліпаў і клёнаў. Яліны, якія траплялiся сярод іх, напаўнялі бальзамічным водарам паветра. Густоўна ўпарадкаваны сад, аздоблены кветкамі на клумбах, атуляў адзін бок сядзібы і злучаўся ў нізіне з бярозавым гаем. Парослы муравою дзядзінец разам з садам быў агароджаны жываплотам з глогу і шыпшыны, а паміж двух высокіх ядлоўцаў знаходзіліся лёгкія веснічкі са штыкетніку.

Як толькі пад'ехала двухколка пана Падстоліца, на ганак выбегла маладая сялянка ў блакітнай шнуроўцы і белай, як снег, кашулі з радаснаю ўсмешкаю на твары.

– Як маецеся, мае дзеці? – запытаўся пан Падстоліц.

– Дзякуй Богу, жывыя і здаровыя, – адказала яна, з пашанаю цалуючы яго ў руку.

Яны ўвайшлі ў дом. У сенцах на сцены віселі розныя земляробчыя прылады, а над лавамі – шафы з абуткам. У хаце чысціня: сцены пабеленыя, падлога і мэбля пафарбаваныя; вокны дастаткова вялікія, падвойныя, кафляная печ, комін вялікі; у печы кіпела некалькі гаршкоў; каля коміну стаяў калаўрот з кудзеляю. З дзясятак дзяцей, старэйшаму з якіх было не больш за шэсць гадоў, альбо плялі кошыкі з лазы, альбо бавіліся з цацкамі. Усе яны былі ў чыстых кашульках, памытыя і прычасаныя. Убачыўшы пана Падстоліца, з радасным крыкам яны кінуліся цалаваць яму рукі, атачылі яго і ўсе разам пачалі хваліцца сваімі цацкамі. Ласкава ўсіх прывітаў пан Падстоліц, пагладзіў кожнага па галаве і павёў Уладзіслава на другую палавіну хаты, гэткую ж чыстую, дзе былі два ложкі, прыкрытыя белымі капамі, калыска і некалькі камодаў, як зразумеў Уладзіслаў, – ложкі для дзяцей. Некалькі вазонаў стаяла на вокнах, з якіх відаць быў двор пана Падстоліца і знаёмая ўжо Уладзіславу даліна.

– Каханы пане, – сказала сялянка, падстаўляючы пану Падстоліцу крэсла, – прашу адпачыць, а паніч няхай зрабіць ласку сесці на маёй табурэтцы, бо такое крэсла ў нас толькі адно – для нашага старога бацькі.

– Як маецца наш стары? – запытаўся пан Падстоліц усаджваючыся.

– Працуе разам з мужам і парабкамі ў полі, каханы пане; ён трохі ўжо аслабеў, але дзякуй Богу, яшчэ здаровы.

– А цяпер не спрабуе кіраваць вашаю гаспадаркаю?

– О, не, каханы пане; ён ужо пераканаўся, што нашая гаспадарка, заснаваная на навуцы, лепшая ад даўнейшае. Не можа ён толькі зразумець, чаму тая ж самая зямля цяпер у чатыры і ў шэсць разоў больш родзіць, чым даўней. І мы ж, кажа, часам угнойвалі поле. А раней ён бясконца наракаў, што са старой сядзібы яго перасялілі, нягледзячы на тое, што і сам на гэта згадзіўся, і атрымаў за гэта ад пана палёгку і дапамогу. Доўга ён не верыў, што, спяваючы і смеючыся, больш зробіш, чым пад бізуном цівуна, да якога ён так нібыта ўжо прывык, што хацеў і над намі верхаводзіць. Цяпер ужо ён пераканаўся і толькі дзівіцца на ўсё ды са слязьмі апавядае кожнаму пра нашага добрага пана.

– А чые ж гэта тут дзеткі? – запытаўся Уладзіслаў.

– Чацвёра маіх, – адказала сялянка, – а астатнія – нашых парабкаў, якія пакідаюць іх мне, калі ідуць у поле.

– Парабкі ў іх на тых самых умовах, пра якія ты чуў у мяне; кожны мае асобны дамок і кавалак зямлі пад агарод. Вось у тых афіцынах яны жывуць, а кухню маюць агульную.

– Гэта вельмі зручна, – падхапіла сялянка, – бо гаспадыня не мусіць заставацца дома, а тым часам і абед гатуецца, і дзеткі гадуюцца.

– Ты яшчэ такая маладая, а ўжо гэтулькі ў цябе дзяцей, – заўважыў Уладзіслаў і запытаўся. – Аніводнае не памерла?

– Мне дваццаць шэсць гадоў, – адказала яна. – У дзевятнаццаць пайшла замуж. Не паміралі, дзякуй Богу, у мяне дзеці, бо адразу пасля нараджэння мы робім усім ім прышчэпкі ад воспы і добра іх глядзім.

– А шнуроўка ж ізноў табе цесная, – з усмешкаю сказаў Уладзіслаў.

Усмешка мацярынскае радасці з’явілася на ейных вуснах. Яна падняла вочы ў неба, а слёзы якія з’явіліся на іх, сведчылі пра яе пачуцці і ўдзячнасць Богу.

– Гэта Ласка Божая, каханы пане, – адказала яна, крыху зачырванеўшыся. – Абы толькі Бог даў, каб і нашы наступнікі былі гэткія ж шчаслівыя, як мы пад гэтакім добрым панам.

– Дзеці да дзесяці гадоў, – звярнуўся пан Падстоліц да Уладзіслава, – гадуюцца пры бацьках, потым пяць гадоў вучацца ў школе, пасля якое хлопцы абавязаны не менш за пяць гадоў служыць у чужых гаспадароў, а не ва ўласных бацькоў дзеля лепшага нагляду за імі і, каб са свайго заробку назапасілі на ўласнае гаспадаранне; дзяўчаты найменш тры гады павінныя адслужыць, нават і ва ўласным доме, а пасля гэтага ўжо можна ім выходзіць замуж.

– Гэта вельмі добра, каханы пане, – дадала сялянка, – бо кожны не з пустымі рукамі пачынае гаспадарыць і дзеля нашчадкаў мае запас у ашчаднай касе.

– Такая ўмова, – патлумачыў пан Падстоліц Уладзіславу, – што кожны перад тым, як ажаніцца, павінны мець у ашчаднай касе тысячу злотых фундушу на дзяцей і яшчэ столькі ж на пачатак уласнае гаспадаркі. З касы, калі хто добра гаспадарыць і мае ўласную зямлю, можа пазычыць дзіцячы фундуш, але мусіць рэгулярна плаціць працэнты. І так, пакуль дзеці вырастуць, збярэцца для іх дастатковы пасаг.

– Але гэтыя ўмовы ствараюць перашкоды для таго, каб ажаніцца, – сказаў Уладзіслаў. – Не думаю я, каб гэтак проста было сабраць дзве тысячы злотых.

– Ах, паніч мой мілы, – запярэчыла сялянка, – што ж тут складанага? Працавіты хлопец заробіць за год некалькі сотняў злотых, і дзяўчына – блізка таго. Бо мы звычайна паспяваем удвая больш работы зрабіць, чым дзе ў іншым месцы; апрача таго ў вольны час можам займацца рознымі дробнымі рамёствамі. Не марнуем, мой панічу, ані хвіліны з таго часу, які прызначаны на работу; дык за некалькі гадоў ашчаднасці і аддаючы грошы пад працэнт, збіраем больш, чым па дзве тысячы злотых. Мы з маім мужам мелі ў дзень шлюбу блізу трох тысяч; а цяпер яшчэ болей у нас можна зарабіць. Наша Зоська, сястра майго мужа, за два гады службы ў нас мае 738 злотых у ашчаднай касе на працэнце; пры гэтым яна апранутая і накормленая за сваю працу і пражу.

– Навошта ж гэты фундуш на дзяцей? – запытаўся Уладзіслаў. – Зямля – гэта фундуш.

– У нас, – сказаў пан Падстоліц, – сяляне не могуць дзяліць зямлю на надзелы драбней, чым па валоцы, і амаль ніхто не мае больш. Чыншавая альбо ўласная валока пасля смерці бацькоў перадаецца старэйшаму сыну

з жывёлаю, патрэбнаю для гаспадарання. Малодшым дзецям застаецца рэшта жывёлы, фундуш у ашчаднай касе і тое, што сабралі бацькі. Апрача таго, тыя, хто мае ўласную зямлю, абавязаныя з таго часу, як яна трапіла ў іх уладанне, дзесяць гадоў уносіць палову прыбытку ў ашчадную касу дзеля забеспячэння тых дзяцей, якія не атрымаюць зямлі пры падзеле. А тыя, хто не мае права на зямлю: падзёншчыкі, загроднікі[55], парабкі – абавязаныя перад уступленнем у шлюб, гэтаксама, як і чыншавікі, скласці толькі тысячу злотых на фундуш дзеля дзяцей. Гэты закон усё ж прывучае маладых людзей да працы, да парадку і ашчаднасці. Бо ў гэтым кожны бачыць крыніцу свайго дабрабыту і з ахвотаю стараецца, а шлюб звычайна лічыць узнагародаю за дабрачынную і з карысцю пражытую маладосць[XLII]. Ці не праўда, мая Даротка?

– Праўда, каханы пане, і потым больш мае пашаны да гэтага стану. Мы з мужам аніводнага разу не пасварыліся. Ён гаспадар у доме, але мяне кахае, бо ведае, што атрымаў мяне ва ўзнагароду.

Усміхнуліся ёй абодва госці, але Уладзіслаў зноў заўважыў:

– Гэтага фундушу – тысячы злотых, падзеленага на некалькі нашчадкаў, нават калі і падвоіцца з працэнтаў, недастаткова для ўтрымання кожнага.

– Бо не на тое ён і збіраецца, – адказаў пан Падстоліц. – Падзел дзесяцігадовага паўпрыбытку з працэнтамі, які складае сялянін-землеўласнік, – гэта сапраўдны пасаг; а тая тысяча злотых прызначаная на выхаванне дзяцей і на пачатак рамесніцтва. Уласная праца, калі бацькі нават не пакінуць спадчыны, запэўнівае кожнаму чалавеку яго ўтрыманне; але пакуль ён будзе здольны працаваць сам, патрабуе выдаткаў на выхаванне, а калі выходзіць у самастойнае жыццё, яму неабходныя грошы на пачатак. Мноства беднякоў магло б не быць такім цяжарам для грамадства, каб мелі з чаго пачаць якое рамяство. А на гэта ж хапае і невялікае сумы, і таму фундуш дзеля нашчадкаў не абавязкова павінны быць вялікі. Мая Даротка, – звярнуўся ён да яе, – а што ты згатавала на абед?

– Сёння посны дзень, каханы пане; маю клёцкі з грыбамі, турнэпс са сланечнікавым алеем і пірагі са слівавым павідлам.

– Ці прымеш нас на абед?

– Ах, Богам прашу, каханы пане! Усё ж гэта панскае. Вось толькі паны не прызвычаеныя да нашых страваў. Калі пан дазволіць, я прыгатую яблычны пірог і прынясу галандскага сыру, які пан гэтак любіць.

– Як хочаш, дзіця маё, толькі не старайся занадта, бо ты ж ведаеш: мне дастаткова таго, што вы сабе гатуеце; але са мною госць.

– Вельмі добра, каханы пане, зраблю для паніча яшчэ салодкую поліўку з сушаных грушак. Зараз-зараз.

– Паслухай, дачка, – затрымаў яе пан Падстоліц, калі яна ўжо выбягала, – пакліч якога парабка, каб выпраг майго каня.

– Ведаю-ведаю, каханы пане, зараз жа ўсё зробім.

– І мне б хапіла таго, што яны самі ядуць, – сказаў Уладзіслаў. – Навошта пан дабрадзей дазволіў на гэты клопат?

– Бачыш, як яна радая, – адказаў пан Падстоліц. – Няхай пахваліцца сваёю кухняю.

– Мосці Падстоліцу, – звярнуўся да яго Уладзіслаў, – я бачу, што гэты люд пад апекаю васпана дабрадзея жыве ў дастатку і шчасці; але не разумею, чаму

васпан дабрадзей не дазваляе дзяліць надзелы. Бо неабмежаваная свабода падзелаў спрыяе росту насельніцтва.

– Усё мусіць мець свае межы, – адказаў пан Падстоліц. – Неабмежаваны падзел зямельнае ўласнасці хоць, праўда, і спрыяе росту насельніцтва, як гэта спраўджваецца ў Францыі[XLIII], але кепскі ён тым, што на малых надзелах сяляне ледзьве выжываюць са сваіх ураджаяў; яны не могуць жыць у дастатку, атрымаць адукацыю і спрыяць памнажэнню багацця краю. Лепшым з'яўляецца *Палажэнне пра эстонскіх сялянаў*[56], дзе забаронены падзел зямлі. Бо край несумненна будзе мець больш карысці і дастатку пры меншай колькасці заможных уласнікаў, чым пры вялікай бедных загроднікаў. Своечасова спыніць збядненне люду – гэта абавязак адміністрацыі. У Англіі скардзяцца на вялікую колькасць жабракоў; прыгнятаюць гэтых няшчасных дзівачнымі вымысламі, што нібыта мусіць спыніць іх памнажэнне; аднак жа там маецца блізу дваццаці мільёнаў маргоў зямлі, якая ляжыць аблогам. Закон, які б абавязваў мець фундуш перад шлюбам, вызваліў бы Англію ад жабракоў. Бо на сённяшні дзень яны карыстаюцца дапамогаю з парафіяльных складак і не маюць патрэбы ашчаджаць свае заробкі. Забараніць ім жаніцца не выпадае, але прымусіць, каб яны збіралі фундуш перад жаніцьбаю, – варта.

У кожным краі, дзе адміністрацыя не возьмецца адразу за ўрэгуляванне падзелу зямлі і не прымусіць людзей назапашваць фундуш дзеля жаніцьбы, можа прыйсці такая эпоха, калі дзяржава будзе перапоўненая жабракамі. Перанасяленне аніводнаму краю не пагражае, бо недахоп сродкаў да жыцця стрымлівае прырост насельніцтва; зрэшты, людзі і не размнажаюцца, як мухі, але перапоўненым жабракамі можа стаць любы край. Каб гэтага не здарылася, адміністрацыя павінна прыдумаць спосаб, як гэтага ўнікнуць. Насельніцтва краю не зменшыцца, калі сядзібы будуць не меншыя за валоку, бо яны могуць складаць шматлікія заможныя і досыць вялікія гаспадаркі, а прапарцыянальнаю колькасці зямлі будзе і колькасць насельніцтва. У нас на квадратную мілю – 260 літоўскіх валок, каб было столькі ж асобных гаспадарак, у кожнай з якіх душ па дзесяць, і, апрача таго, яшчэ палову гэтае колькасці насельніцтва ў рамесніцтве, дык мелі б мы каля чатырох тысяч жыхароў на квадратную мілю. Што несумненна складае высокі ўзровень народанасельніцтва.

– Аднак, – не згадзіўся Уладзіслаў, – калі б насельніцтва дасягнула гэтага ўзроўню, дык "лішнія" нашчадкі, не маглі б браць шлюбы, бо не мелі б дзе падзець сваіх наступнікаў. А гэта было б парушэнне правоў чалавека.

– Відавочна! – адказаў пан Падстоліц. – Кожны заўсёды мог бы ўзяць шлюб, абы меў, як устанавілі мы, фундуш дзеля будучых нашчадкаў. Гэта нават больш спрыяла б нармальнаму росту насельніцтва, чым неабмежаваная свабода драблення надзелаў; бо на ўчастках, да гэтакае ўжо ступені здробленых, што ледзь хапае на аджыўленне аднаго чалавека, няма чаго і думаць пра нашчадкаў, якіх не было б чым карміць, а гарады, хіба б з-за мяжы хлеб прывозілі. Пры ўстаноўленым жа ў нас парадку заможны селянін не толькі можа забяспечваць гарады прадуктамі земляробства, але і сам дае магчымасць парабкам зарабіць і сабраць фундуш дзеля нашчадкаў.

Тую сістэму можна было б прыпісаць памылкам адміністрацыі, а пры нашай – каб колькасць насельніцтва павялічылася так, што ўжо не было б зямлі

для падзелу, дык рукі, які вызваляюцца ад земляробства, пастаянна маглі б папаўняць разнастайныя мануфактуры, дзе няма такіх абмежаванняў, як у выпадку з зямлёю; а ўмова збіраць фундуш перад жаніцьбаю не дапускала б і там да ўбоства. Бо каб не знайшлося ўжо каму месца і ў рамесніцтве, дык не змог бы ён сабраць патрэбнага для жаніцьбы фундушу, і ягоныя ўбогія нашчадкі не прычыніліся б да збяднення агульнай масы люду.

– Я бачу ўжо, – сказаў Уладзіслаў, – значную карысць гэтае сістэмы, згаджаюся я і з тым, што занадта дробны падзел зямлі можа быць шкодны. Толькі цяжка мне згадзіцца, што дзяліць трэба не менш, чым па валоцы. Бо мы ж бачым, напрыклад, у Францыі, а асабліва ў Швейцарыі, што там ёсць гаспадаркі часта не большыя за адзін морг, і гэтага хапае ўласнікам, каб пракарміцца. Відаць, гэта з-за неабмежаваных магчымасцяў урадлівасці зямлі: чым лепш яна апрацоўваецца, тым большыя дае ўраджаі.

– Я ўжо казаў, – сказаў пан Падстоліц, – што адзін заможны селянін больш карысны для грамадства, чым мноства бедных. Якая карысць краю ад вялікае колькасці загроднікаў, цёмных і ўбогіх? Ці не лепш было б для іх саміх, каб іхняя праца выкарыстоўвалася ў іншых галінах гаспадаркі? Ураджайнасць зямлі, вядома, моцна залежыць ад таго, як яна апрацоўваецца, але апрацоўка некалі мусіць быць абмяжаваная магчымасцямі і выдаткамі. Дзе адзін гаспадар можа прыкласці дастаткова намаганняў, там некалькі толькі час страцяць, а зробяць не больш, чым адзін, але спажывуць яны больш, чым адзін, і ўзросту багацця краю не паспрыяюць. Калі ж яны пакінуць аднаго на гаспадарцы, якую той можа апрацоўваць, дык іншыя зоймуцца іншай дзейнасцю; то і той, хто застаўся на зямлі, і ўсе іншыя маглі б зарабляць у адпаведнасці са сваёю працаю, а з большага заробку маглі б і больш ашчаджаць. У нас якраз дзеля добрае апрацоўкі валокі зямлі не трэба больш за аднаго гаспадара з парабкамі.

Каб лепей гэта растлумачыць, параўнаем зямлю з мануфактураю, для якое неабходна пэўная колькасць працаўнікоў. Даць кожнаму селяніну столькі зямлі, колькі ён з сям'ёю можа апрацоўваць, гэта тое самае, што падзяліць мануфактуру на пэўную колькасць паасобных майстроў. Паставіць жа за адзін варштат некалькі майстроў, калі і аднаго дастаткова, гэта азначае пазбавіць іх магчымасці працаваць увесь рабочы дзень, адмовіцца ад большага заробку ды задаволіцца прыбыткам з аднаго варштату, калі можна было мець прыбытак у некалькі разоў больш, бо майстры маглі працаваць у іншых месцах.

– У нас гэтак шмат яшчэ зямлі ў краі, – заўважыў Уладзіслаў, – што як бы яе не дзялілі, дык не хутка дачакаемся ейнага залішняга драблення.

– Гэтак казаць нельга, – запярэчыў пан Падстоліц. – Хто ведае, які чакае нас лёс. Калі нашыя браты-шляхта ўсёю грамадою возьмуцца за паляпшэнне свайго дабрабыту, дык, можа, нават хутчэй, чым мы спадзяёмся, завітае да нас благаславенне і, вядома, рост народанасельніцтва. Бо насельніцтва ў спрыяльных умовах павялічваецца хутчэй, чым шмат хто мяркуе. Жыды нашыя даюць яскравы доказ хуткага размнажэння. Дастаткова, каб кожная сям'я выгадавала траіх дзяцей, дык за адно стагоддзе насельніцтва можа патроіцца. У Англіі цягам дваццаці гадоў яно амаль падвоілася; у Кітаі, калі верыць асобным пісьменнікам[57], з пачатку мінулага стагоддзя яно павялічылася ў пятнаццаць разоў. Складаючы планы добрага ўпарадкавання краю, належыць спачатку мудрымі законамі забяспечыць будучыню.

– Баюся я, – сказаў Уладзіслаў, – знайсці ў васпане дабрадзею абаронцу маяратаў.

– За непадзельнасць вялікіх маёнткаў я не выступаю, – адказаў пан Падстоліц. – Бо гэта заўсёды шкодна, а нават крыўдна для грамадства. Але і тут бы я заклікаў захаваць у кожным павеце па некалькі вялікіх маёнткаў – асобных і непадзельных; бо такія маёнткі проста неабходныя ў сельскай гаспадарцы. Толькі там можна трымаць вялікія статкі жывёлы і выводзіць новыя пароды, ствараць умовы для акліматызацыі новых відаў карысных раслінаў і дапамагаць меншым гаспадаркам, якім не пад сілу гэткія вялікія выдаткі. Да таго ж, гаспадарскія пабудовы ў маёнтках, якія не могуць драбіцца, не былі б цяжарам для ўласнікаў; і, нарэшце, уласнікі вялікіх маёнткаў, у якіх больш магчымасцяў атрымаць асвету, маглі б спрыяць адукацыі паспалітага люду і былі б падрыхтаванымі займаць высокія пасады. Дык шмат ёсць карысці ў непадзельнасці малых і вялікіх маёнткаў; але ў кожным выпадку, не павінны яны быць сапраўднымі маяратамі, якія нельга прадаваць альбо якія не могуць нейкім іншым чынам пераходзіць з рук у рукі[XLIV].

– А нашчадкаў буйных уласнікаў забяспечваць гэтаксама, як і малых?

– Чаму ж не? Хіба не было б ад гэтага карысці, каб абавязаць кожнага дзедзіча альбо пакупніка нейкага маёнтку, каб цягам пэўнага часу ён аддаваў палову свайго гадавога прыбытку ў ашчадную касу на забеспячэнне тых нашчадкаў, якім ён не пакіне ў спадчыну зямлі? Значная карысць была б нават з таго, што кожны ўласнік зямлі змушаны быў бы ашчаджаць свае прыбыткі і спрыяў бы павелічэнню рухомага капіталу, а гэта дазваляла б даць працу большай колькасці насельніцтва.

Гэтак упарадкаваная дзяржава мела б заўсёды натуральную перавагу над іншымі, у якіх падзел зямлі нічым не абмежаваны і не назапашваецца фундуш дзеля нашчадкаў; бо колькасць насельніцтва ў ёй заўсёды адпавядала б не толькі магчымасцям аджыўлення, але і мажлівасці жыць заможна. Прадукты мануфактураў у тым краі, дзе жыве багаты народ, заўсёды б знаходзілі добры збыт, квітнеў бы гандаль, адукацыя была б даступная кожнаму – і агульны дастатак.

У гэты момант увайшла гаспадыня, якая вяла за руку сівога дзеда ў шэрым капоце з крамнага сукна. З павагі да веку прыўзняўся пан Падстоліц і, не дапускаючы старога кланяцца сабе ў ногі, пацісну ў яму ветліва руку ды звярнуўся да Уладзіслава:

– Гэта бацька сям'і – пачцівы Раман.

– Ягамосць наш бацька, – запярэчыў стары, – наш каханы бацька. Няхай жа ягамосць мае ласку сесці, – дадаў ён лагодна прымушаючы пана Падстоліца апусціцца ў крэсла. – Няхай добры Бог адорыць ягамосця гэткім блаславеннем, колькі я з панскае ласкі маю ўцехі. Здаецца мне, што я нанова на свет нарадзіўся. Пры былым пану прасіў смерці, а цяпер, прызнаюся, не хацеў бы хутка памерці: я шчаслівы з панскае ласкі і ў сваіх дзецях. Але давядзецца, дабрадзею, адысці, не нацешыўшыся, да нашага агульнага Айца. Ой, буду там маліцца штодзённа рана і ўвечары, каб пана благаславіў…

– Сядай, стары, – узяў яго за руку пан Падстоліц, каб пасадзіць побач з сабою. – Дзе ж ты быў?

– Выбіралі мы рэшту буракоў. Дык не паверыш, пане, але дзеці не дазваляюць мне працаваць. Самі завіхаюцца і робяць усё гэтак жвава, нібы з дзясятак аканомаў над імі стаіць. Што ж, мая нявестка, падай жа нам вішнёўкі, пачаставаць нашага добрага пана.

– Не трэба, мой браце, – спыніў яго пан Падстоліц. – Можа, абед ужо гатовы, дык падсілкуемся разам.

– Гатовы, каханы пане, – сказала гаспадыня, – ужо і стол накрыты. Прасіце, бацька, ягамосцяў да стала.

– Што Бог даў… – пачаў было стары, падымаючыся.

– Пойдзем, бацька, – перапыніў яго пан Падстоліц і ўзяў за руку. – Прашу, пане Уладзіслаў.

– Просім паніча, – дадаў стары.

І ўсе перайшлі ў першую палову хаты.

Стол быў заслаםы белым саматканым абрусам, каля кожнай з парцалянавых талерак ляжалі жалезныя нажы і відэльцы ды алавяныя лыжкі; стаяла некалькі пляшак з півам ды сідрам і шклянкі пры кожным прыборы…

Дзеці ўжо стаялі шэрагам пры стале, а з сянец увайшлі тры спраўныя маладзёны ў шарачковых світках і палатняных штанах, а за імі – тры маладыя кабеты ў чыстых кашулях, у сініх шнуроўках ды ў саламяных капелюшах, якія яны павесілі на калкі. Усе са шчырай радасцю віталі пана Падстоліца, малады гаспадар пацалаваў яго ў руку і ветліва падсунуў яму крэсла. Стары прамовіў малітву і блаславіў абед. Самая маладая з кабет дапамагла яму сесці каля пана Падстоліца і пачала дапамагаць гаспадыні ставіць на стол місы, з якіх падымаўся пар. Усе паселі за стол, маткі пабралі меншых дзяцей на рукі, іншыя – размясціліся паблізу пана Падстоліца і старога дзеда, а гаспадыня, калі ўсе пачалі есці, вынесла арфу і прыемным голасам заспявала пад яе гукі.

Калі ўзыходзіць Дзянніца,
Усе да цябе павяртаюць лікі,
Спявае кожная істота:
Слаўся, Божа вялікі![58]

– Мёду для ягамосця! – загукаў стары.

– Вось ён, – падхапілася Зоська, падаючы пляшку.

– Няхай жа Пан Бог гэтак падсалоджвае ягамосцю ўсе дні ягонага жыцця, – казаў стары, наліваючы шклянку пану Падстоліцу, – і васпану панічу, калі ён будзе гэткім жа добрым, як наш ягамосць.

– Дзякуй, мой ойча, – сказаў пан Падстоліц. – Колькі ж вам дасталася мёду з мінулагодняга падзелу?

– Сто сорак гарцаў, – адказаў малады гаспадар. – Дваццаць пакінулі сабе, а рэшту мы ўжо прадалі.

Тым часам гаспадыня спявала:

Хто мае свайго хлеба
Колькі яму трэба,
Той можа цалкам не дбаць пра выгоды,
Пра вёскі, маёнткі, землі і воды.
Той пан, мая такая ўмова:
Каму свайго дастаткова[59].

– Дачка мая, ты нічога не ясі, – звярнуўся да яе пан Падстоліц.

– Я пад’ела ўжо, каханы пане; пакуль гатуеш, дык і пад’ясі непрыкметна; а я ж ведаю, што каханы пан любіць музыку.

– Скажы мне, дачка мая, як там твой крухмал?

– Мінулагодні ўвесь прадала, каханы пане; атрымала некалькі сотняў злотых. А з сёлетняе бульбы спадзяюся зарабіць яшчэ больш, без аніякае шкоды для свае кухні.

– Няма чаго і казаць, – уступіў у гутарку стары, – кожны з нас мае цяпер грошы за такія рэчы, пра якія даўней мы нават не чулі. Геранім за свой карук[60] узяў у гэтым годзе каля васьмісот злотых, а Рыгор за лямец – больш за тысячу. Апрача таго, і за сыры, і за воўну, і за пяньку і за расліны розныя. А Павел ды іншыя за адно толькі сартаванне воўны, за гэткую нібы драбязу, як вычэсванне яе, – мераюць грошы гарцамі... Ды што казаць! Мае хлапчукі за зіму напляплі сетак рыбацкіх на якую сотню злотых, а што ўжо насукалі пастронкаў, а што наткалі рагожаў! Дык я і не ведаю нават, як яны ўсё гэта пазапісваюць у сваіх рэестрах. І пішуць, і пішуць, каб ягамосць толькі ведаў, як паны, і чытаюць, як ксёндз. Увесь вечар адзін чытае, а іншыя нешта робяць. Аж цікава паслухаць, бо пра гаспадарку! А што ўжо той *Пан Ян са Свіслачы*[61] альбо *Пілігрым дабрамільскі*[62], дык няхай яму пан Бог спрыяе, гэткія гісторыі! Ніколі я гэткіх не чуў. Аж плакаць хочацца, а, часам, смяяцца...

– Лепей бы падсілкаваліся, бацька, бо застанецеся галоднымі, – спыніў яго малады гаспадар. – Даротка, паспявай нам яшчэ.

Зноў загучала арфа гаспадыні, якая зірнула гарэзліва на Зосю і заспявала:

Наша Зося маладая,
Нібы зорка зз’яе,
Ды, як козачка малая,
Ад Марка ўцякае.

Зачырванелася Зоська, а яе таварышкі пачалі смяяцца: “Уцякаеуцякае!” – загукалі, а пан Падстоліц звярнуўся да гаспадыні:

– Якога гэта ты Марку там падставіла?

– А таго арэшніка з воласці пана Суддзі, які тры моргі арэшнікам засадзіў і цяпер гэтулькі мае з яго алею, што дзежкамі возяць і возяць, а таравазіць не могуць.

– Сватаецца ён да цябе? – запытаў пан Падстоліц зачырванелую Зосю.

– Я не ведаю, добры пане, – адказала яна.

А стары дадаў:

– Ды чаго ўжо хавацца? Ён хоча, а яна ні тое, ні сёе. Як дзяўчына звычайна! Але нічога. Няхай толькі скончыцца трэці год яе службы, прыйдзем прасіць у пана дазволу...

– Няма патрэбы, – спыніў яго пан Падстоліц. – Вы ж ведаеце, што я не забараняю. Там дзе ёсць сардэчная схільнасць, там няхай Пан Бог бласлаўляе. Абы за добрага.

– О! Нічога тут не скажаш, гаспадарлівы. Я, праўда, смяяўся з яго, калі ён сеяў і садзіў той арэшнік, але цяпер бачу, што ёсць у яго галава на плячах. І людзі ў яго зарабляюць. Нават дзецям ён плаціць па грошу за гарнец, дык

і гэтыя бэйбусы зарабілі па некалькі злотых[XLV]. Дык хіба ж ёй не хацець арэхі збіраць? – дадаў ён, ківаючы з усмешкаю галавою і зазіраючы збоку ёй у вочы.

– А як у вас ідзе сяўба з дапамогаю сеялкі, – запытаўся пан Падстоліц.

– Цудоўна, дабрадзею, – адказаў малады гаспадар. – Боб у нас незвычайны вырас і ўсе карнявыя таксама. Ячмень лепшы ўдаўся, чым раней. А за сеялку мы вельмі ягамосцю ўдзячныя. Гэтак лёгка і роўна сее[XLVI].

– А жывёла вашая ці здаровая?

– О! Не паверыш, ягамосцю! – узрадаваўся стары. – І ў нашыя часы добра бывала. Як памятаю яшчэ, у майго бацькі было шэсць кароў у аборы. Але цяпер на дзіва яны добра растуць і шмат малака даюць! Хоць і на прывязі. Даўней корму не хапала, а цяпер Бог ведае, як зямля родзіць гэтулькі капусты, гэтулькі бульбы, гэтулькі сена, што ядуць-ядуць, а паграбы і стадолы ўсё роўна поўныя. А ў нас жа восем кароў, некалькі цялят, тры пары валоў і чатыры добрыя коні, авечак з тры дзясяткі... А гною?! Далібог аніколі гэтулькі не было: дзесяць маргоў штогод угнойваем. Але ж, як родзіць! Ягамосць не паверыш! Усё, што пасееш: лён, тытунь, марэну, турнэпс, сланечнік[XLVII] – усё, як на агародзе. Ну, хлопцы, ужо наеліся і напіліся, дык, можа, варта падзякаваць Богу і пану ды брацца ўжо за працу. Але ягамосць будзе ласкавы яшчэ кілішак вішнёўкі...

– Дзякуй, бацька, і нам ужо час рухацца далей. Мікалай, запражы мне каня. Дзякуй табе, Даротка. Сыр у цябе выдатны і грушкі смачныя.

– На здароўе, каханы пане, – адказала гаспадыня. – Пан з ласкі свае не пагарджае намі.

– Няхай ягамосць дазволіць пачаставаць табакаю, – звярнуўся да яго стары, падаючы табакерку. – Ат, гэты Война, – дадаў зажываючы, – здаецца, добры прыбытак мае за свае вырабы з рогу. А Вінцэнт за гэтыя фаянсы ўжо роўны з сабою мяшок грошай насыпаў. Дзе яны падзенуць тыя грошы? Пра гэта толькі і думаю. Даўней, як толькі чалавек зарабіў рубля, дык зараз жа ў зямлю закапае і азіраецца, каб хто не падгледзеў; а цяпер усё нясуць і нясуць у тую ашчадную касу. І ў той касе, здаецца, даюць нейкую паперку, а за тую паперку сыплюць рублямі, калі захочаш, ды яшчэ больш аддаюць, чым узялі. Такі там мусяць маляваць грошы; бо адкуль ім так выдумаць, каб множыліся і множыліся? Ці паверыш, ягамосцю, што мой сын ужо мог бы насыпаць цэлы засек тых рублёў, колькі мае ў той касе запісаных?..

– Падзякуйце Богу, бацька, і карыстайцеся тым, што Ён вам меў Ласку даць. Хваліце Бога і будзьце заўсёды гэткія ж пачцівыя. Заставайцеся здаровыя, мае дзеці. Дзякуй вам за абед. Да пабачэння на дажынках.

– Ды якія дажынкі! – працягваў стары, які праводзіў пана Падстоліца на ганак. – Свята, нібы, на Небе. Ужо я і пажыў, і свету пабачыў. Быў і ў Мінску на Дзясятуху[63], і ў Стоўбцы вазіў пшаніцу, і ў Парычы[64] па соль ездзіў, а гэтакае ўрачыстасці, як у нас, нідзе не бачыў.

Тым часам гаспадыня ў сенцах кранула за руку Уладзіслава і спытала:

– Паніч, заўважала я слёзы ў тваіх вачах; ці ты нечым засмучаны? Будзь гэткі ж добры, як наш пан, і Бог цябе блаславіць.

– Наадварот, цешыўся я з вашага шчасця, – адказаў ёй Уладзіслаў.

– Гэта ўсё наш пан. Ці любіш нашага добрага пана?

– Хто ж яго не любіць, мая мілая сястра?

– О! любі яго, паніч, – сказала яна, – бо гэта намеснік Бога на зямлі.

Пан Падстоліц ужо чакаў Уладзіслава, з якім пасля ласкавага развітання са старым, з гаспадарамі і з дзецьмі яны вырушылі за браму.

– Цяпер, – звярнуўся ён да Уладзіслава, – я павязу васпана паўз агульныя гаспадаркі маіх сялян.

– Што ж гэта за агульныя гаспадаркі?

– Дзеля таго, каб ашчаджаць на дарагіх прыладах, якіх кожны селянін не можа мець у сваёй гаспадарцы, увялі мы звычай аб'ядноўвацца ў тых справах, якія лепш рабіць гуртам, і якія могуць даць заробак асобным сем'ям, а іншым з'эканомяць час і сілы. Вось ля таго ліпавага гаю бачыш, васпан, пчальнік, які належыць амаль дваццаці сялянам. Даглядае яго адзін чалавек і мае за гэта ад усіх іншых заробак. Такіх пчальнікоў у маёй воласці некалькі.

Калі яны пад'ехалі да гаю, у якім было відаць з два дзясяткі пуняў у засені ялінаў, ён патлумачыў:

– Тут – гумны і сцірты збожжа, якія належаць таксама амаль дваццаці сялянам. З поля іх адразу вязуць сюды і малоцяць вось у гэтым гумне на агульнай малатарні, якая належыць аднаму селяніну, а ён мае з гэтага прыбытак. Малатарня і сушыльня ўладкаваныя гэтак жа, як у мяне. Адзін чалавек і снапы малоціць і цэглу тут абпальвае зімою, якую робіць усё лета, дык таму малацьба збожжа ім танна абыходзіцца, а яшчэ маюць танную цэглу ды вапну.

– Але гэта нязручна, калі гумно не каля хаты, бо далёка вазіць збожжа.

– У шмат якіх месцах нашае правінцыі гумна знаходзіцца далёка ад дому. Гэта, сапраўды, невыгодна, але акупляецца тым, што пры агульнай малацьбе і сушцы эканомяцца дровы і час. Зрэшты, не так гэта і далёка ад іх сядзібаў; з поля яны адразу сюды звозяць, а ўжо пасля абмалоту і памолу салому і муку забіраюць дадому. Бо тут і млын ёсць – вунь у той пуні, агульны, валовы. Пры ім церніца і трапальня на лён і каноплі. За невялікую плату ўладальнікам гэтых машын сяляне вызваляюцца ад мазольнае працы і выдаткаў на яе выкананне, а час, які мусілі б на ўсё гэта траціць, прысвячаюць са значна большаю карысцю кожны свайму рамяству.

– Але гэтым самым васпан дабрадзей выракаешся ўласнага прыбытку ад памолу?

– Млыны мае не стаяць без працы, – адказаў пан Падстоліц, – а прыбытак ад памолу сялянаў мусіць быць такі, колькі вартая праца; браць больш – гэта рабунак. Тут плацяць толькі за працу і даюць гэткім чынам заробак гаспадару млына.

Той мураваны будынак ў нізіне пад гаем – іхняя ўласная цукроўня. Адзін з вучняў мае шляхецкае школы пабудаваў гэты заводзік, і добра пайшлі ў яго справы: сяляне ахвотна пачалі вырошчваць буракі, а ён выварвае для іх цукровы пясок, які яны прадаюць у рафінерыю ў мястэчку, і гэта дае добры прыбытак.

У тым жоўтым будынку сярод ялін – алейны прэс, які ўтрымлівае селянін. А ў тым вось двары з кітайскім паддашкам вырабляецца марэна, вайда ды іншыя фарбы з раслін, якія прывозяць сяляне.

Амаль кожны з іх мае сваю хатнюю мануфактуру, дзе ў вольны ад працы ў полі час займаецца перапрацоўкаю прадуктаў земляробства. У мяне ёсць некалькі добры гарбароў, якія скупляюць па ўсім наваколлі скуры і самі вырабляюць іх на юхт, фаледру і нават на саф'ян[65]. Ёсць нават некалькі

беласкурнікаў. Некаторыя заняліся бондарствам, кавальствам, вырабляннем колаў, лоевых і васковых свечак ды іншымі нескладанымі рамёствамі, бо складаныя рамёствы і мануфактуры, якія вымагаюць большых выдаткаў і большага прыкладання сілаў і часу, належаць мяшчанам. Нават самыя нягеглыя сяляне займаюцца нейкімі простымі рамёствамі, нібы малапрыбытковымі, але як крыху падвучацца, дык маюць досыць значны прыбытак. Гэта, напрыклад, выпальванне драўнянага вугалю і цэглы, ганчарства, абдзіранне кары для гарбарняў, здабыча торфу ды шматлікае іншае, бо штодня амаль з'яўляюцца новыя. Варта толькі пачаць нейкую дзейнасць, дык на кожным кроку з'яўляюцца тысячы новых магчымасцяў для працы. Вось бачыш, якім чынам мае сяляне палепшылі свой дабрабыт.

– Дай Божа ўсяму краю гэтакія мануфактуры і гэтакія дастаткі!

– Патрэбная толькі адукацыя і крыху дапамогі на пачатак ад уласнікаў, і ўвесь край можа так заквітнець, як гэтая ваколіца.

– Аднак жа, мосці Падстоліцу, каб ва ўсім краі выраблялася гэткае мноства прадуктаў, дык, можа, не было б дзе іх падзець?

– Каб кожны сам усё гэта вырабляў, напэўна, мусіў бы сам усё і спажываць; але калі людзі падзеляцца між сабою розная прадукцыяй, дык адзін дастаўляе свае вырабы шматлікім іншым, і сам бярэ ад іх патрэбнае. А зрэшты, нашыя прадукты, самыя танныя ў Еўропе, маглі б мець збыт і ў чужых краях. Цяпер пакажу пану наша мястэчка і ўсё, што там ёсць, але спачатку заедзем яшчэ ў вунь той будынак пры святыні.

– Ці ж гэта не плябань? – запытаўся Уладзіслаў.

– Плябань. А пры ёй – дом для хворых і парафіяльны прытулак.

– Шчаслівыя тыя людзі, якія трапілі пад бацькоўскую апеку васпана дабрадзея! Гэткае панаванне над імі, напэўна, з'яўляецца для іх большым дабрадзействам, чым нават вызваленне ад падданства.

– Я зрабіў тое, з чаго ўсе мы павінны пачаць, – адказаў пан Падстоліц. – Іх лёс, напэўна, цяпер палепшыўся, але хто ж можа гарантаваць, што сярод наступнікаў маіх не з'явіцца які-небудзь Харунжы, што зноўператворыць іх у быдла альбо прадасць у рэкруты?

# Заўвагі да чацвёртае часткі

Малюючы ідэал добрага грамадзяніна, гаспадара, земляроба, варта прыгадаць, якія сродкі спрыялі яму дзеля паляпшэння дабрабыту. І хоць яны пры сённяшнім стане адукацыі і прамысловасці надзвычай разнастайныя ды ўсё больш прагрэсіўныя і дасканалыя, аўтар усё ж стараўся выбраць тое, што найбольш адпавядае нашым акалічнасцям альбо пра што меў мажлівасць атрымаць найбольш дакладныя звесткі і падаць чытачам крыніцы, каб можна было праверыць гэтыя дадзеныя.

Таму ў кожным выпадку, калі выпадала расказаць пра нейкае вынаходніцтва альбо карыснае ўдасканаленне, я лічыў за лепшае выбіраць тое, што ёсць у нашым краёвым часопісе (“Dziennik Wileński”), які перадрукоўвае найбольш патрэбныя нам прамысловыя звесткі з замежных часопісаў.

А калі часам трэба было згадаць пра тыя рэчы, пра якія яшчэ “Dziennik Wileński” не пісаў, а спасылкі на цяжкадаступныя крыніцы не мелі б карысці для вясковых жыхароў, можа, і варта было б у гэтых каментарах падаць усе, нават падрабязныя звесткі, каб было зразумела, што не з пустых101 мараў створаны гэты ідэал. Але з-за таго, што мэтаю гэтага твора з’яўляецца не тлумачэнне кожнага дробнага вынаходніцтва і ўдасканалення, а толькі паказ, як менавіта пан Падстоліц прыйшоў сам і сваю ваколіцу прывёў да дабрабыту, дык усе падобныя звесткі (з невялікім выключэннем) з указаннем, адкуль яны ўзятыя, аўтар стараўся размясціць ў тым самым “Dzienniku Wileńskim” і ў наступных каментарах ужо да яго адсылае чытачоў[c].

**I**

Пра просты спосаб зрабіць цвярдзейшы за крэмень штучны камень, які прыдатны на пад’езды да дамоў, на пліткавую падлогу, прыступкі на сходах, рынштокі, трубы для вады і г. д. чытай у “Dzienniku Wileńskim” (Аддзел прыкладных навук, том XI, с. 183).

**II**

Пра спосаб захавання збожжа паводле Гала з “Bulletin Universel” (аддзел “Des Sciences agricoles et économiques, t. V, s. 57) чытай у “Dzienniku Wileńskim” (Аддзел прыкладных навук, том X, с. 575).

**III**

Пра апарат для хуткага сушэння збожжа ў свірнах з “Annales mensuelles de l’industry. manuf. etc.” (1827, № 4) чытай у “Dzienniku Wileńskim” (Аддзел прыкладных навук, том XI, с. 58).

**IV**

Гэтая малатарня, на думку камісіі, сабранае дзеля яе вывучэння і абмеркавання, уяўляе сабою такую карысную прыладу для гаспадароў, што варта было б горача рэкамендаваць ейнае распаўсюджванне ў нашым краі. Галоўныя вартасці гэтае машыны такія: для работы на ёй дастаткова аднаго цягавітага альбо двух не такіх ужо і цягавітых

[c] “Dziennik Wileński” ўжо 2 гады не выходзіць; але ўсе нумары, якія выйшлі, можна атрымаць у рэдакцыі “Kuriera Litewskiego”. Каментары былі напісаныя тады, калі часопіс яшчэ выходзіў.

коней і трох хоць і не вельмі дужых працаўнікоў. За гадзіну вымалочвае яна каля чатырох нашых асьмін збожжа; адразу яго арфуе і гэтак добра вычышчае, што адразу можна малоць на муку; салому не пераціраe і не раскідае, так што пасля абмалоту можна яе зноў лёгка павязаць у кулі; ейная канструкцыя вельмі простая; з месца на месца лёгка можна яе перамяшчаць і не займае ў гумне месца больш чым 10 локцяў у даўжыню і 7 у шырыню. Апісанне яе можна знайсці ў "Bibl. physico-econ." (Sept. 1826, s. 145) альбо ў "Bull. Univ. Sc. agric." etc. (t. VI, s. 188).

## V

Гэтае вынаходніцтва Шубіна, сябра "Таварыства сельскае гаспадаркі ў Маскве"[66], абываццеля Маскоўскае губерні, абяцае шмат карысці нават для тых мясцовасцяў, дзе дасюль усё будавалася з дрэва. Кошт на абпальванне цэглы і вапны страшыў нават тых, хто ўжо здолеў ацаніць вартасці мураваных сценаў. Калі прыняць той спосаб, які прапануе Шубін, дык без параўнання танней выйдуць мураваныя, чым драўляныя пабудовы. А другая карысць гэтага вынаходніцтва ў тым, што прыняўшы спосаб сушэння збожжа цёплым паветрам, а не гарачым дымам, як гэта было да гэтага часу, можна будзе таксама і ў бязлесных мясцовасцях сушыць збожжа над печамі, дзе паліцца торфам, і абпальваць у іх цэглу і вапну на муры. Апісанне гэтага спосабу абпальвання цэглы і вапны маецца ў "Маскоўскай земляробчай газеце"[67] (№ 23 за 1828 г.) і "Dzienniku Wileńskim" (Аддзел прыкладных навук, том VIII, с 337).

Даўней у нас кс. Бальчэўскі[68] падаваў праект сумяшчэння двух гаспадарчых прыстасаванняў на адным агні, гэта значыць: сушэння збожжа ў асецях, змешчаных над печчу жылога памяшкання (у сялян) пад адным дахам. Апісанне гэтага прыстасавання маецца ў "Dzienniku Wileńskim" (1817, t. VI, s. 664).

Але з-за таго, што павялічваецца небяспека пажараў, належыць прызнаць першынства вынаходніцтву Шубіна. У Англіі, у графствах Йорк і Шроп, а таксама ў Шатландыі абпальваюць вапнавыя камяні без печаў, падобна, як драўнінны вугаль, гэта значыць, укладаючы на моцнай падстаўцы каменны стог і асланяючы яго зямлёю, не таўкуць нават камяні; а вапна, абпаленая гэтым спосабам, яшчэ лепшая за тую, што абпаленая ў печы.

## VI

Каб не здавалася, што я тут перабольшваю, прашу чытачоў мець ласку прыгадаць, як вылічваецца якасць глебы ў Прусіі, пададзеная ў працы Ачапоўскага (*Zasady Agranomii, czyli Nauka o gruntach*)[69]. На табліцах А і Б знаходзім там, што глеба, якая не ўтрымлівае ў сваім складзе блізу 14 частак гліны, 85 пяску, вельмі малую частку вапны і 1 частку перагною, у 6–7 разоў менш вартасная ад тае глебы, якая ўтрымлівае ад 74 да 80 частак гліны, ад 10 да 6 пяску, каля 4 вапны і ад 12 да 8 частак перагною. Такім чынам, калі першая, засеяная збожжам, можа даць чыстага прыбытку ў год каля 10 польскіх злотых з літоўскага морга, дык другая – каля 60 альбо 70.

Але з-за таго, што вартасць глебы залежыць не толькі ад прапорцыяў гліны, пяску і вапны, але і ад колькасці някіслага перагною і ад глыбіні ўрадлівага слоя, таму нашая звычайная глеба, няўгноеная і мелка ўзараная, хоць паводле складу гліны і пяску, здаецца, павінна была б належаць да вышэйшага класу, але з-за надта малое колькасці перагною, што ў ёй утрымліваецца, і з-за надта тонкага ўрадлівага слою ледзьве можа быць залічана да таго класу, морг якое, паводле прускіх падлікаў, не даваў бы больш за 3 злотыя чыстага прыбытку, каб добра апрацоўваўся.

Таму, жадаючы палепшыць іхнюю якасць, варта не толькі ўгнойваць дзеля павелічэння там перагною, але, апрача таго, неабходна абавязкова ўжываць мінеральныя ўгнаенні, каб павялічыць урадлівы слой. А з-за таго, што мінеральнае ўгнаенне, гэта значыць, унясенне гліны і маргелю, альбо маргельнай гліны на пясок ці пяску на гліну,

хоць і выглядае вельмі дарагім і цяжкім, не павінна быць стратным, пераконвае наступны падлік.

Дапусцім, морг зямлі, які ўтрымлівае 86 частак пяску, 13½ гліны, а ўрадлівы слой – не большы за 3 цалі. Каб мы хацелі гэты морг давесці да 62 частак гліны, 22 пяску, 5 вапны, 11 перагною і таўшчынёю 12 цаляў, дык трэба было б скласці гэткую прапорцыю:

Морг – гэта 16.875 квадратных локцяў. Каб у кожных 100 квадратных локцях утрымлівалася 86 частак пяску і 13½ частак гліны, тады (даючы глыбіню ўрадлівага слою 3 цалі, гэта значыць ⅛ локця) у кожных 100 локцях паверхні ўрадлівы слой складаў бы 10¾ локця кубічнага пяску і 1⅛ локця кубічнага гліны.

А каб урадлівы пласт складаўся (апрача перагною) з 62 частак гліны, 22 пяску, 5 вапны і быў глыбінёю 12 цаляў, дык ён павінны ўтрымліваць на кожныя 100 квадратных локцяў паверхні: гліны 31 кубічны локаць, пяску 11, а вапны 2½.

Таму, для таго, каб давесці ўрадлівы пласт ад пачатковага да патрэбнага стану, трэба было б прывезці і змяшаць з даўнейшым пластом на кожныя 100 квадратных локцяў паверхні $29\frac{5}{16}$ кубічнага локця гліны і 2½ кубічнага локця вапны, альбо разам $31\frac{13}{16}$ кубічнага локця маргельнае гліны, бо сама адна гліна кепска змешваецца з пяском, а сама адна вапна каштуе дорага.

З гэтага вынікае, што на кожны морг належала б прывезці, апрача гною, які ўтварае ўрадлівы пласт, каля 5.400 кубічных локцяў маргельнае гліны, якую (хоць у вельмі малым аб'ёме ўтрымлівае карбанат кальцыя) амаль паўсюль можна знайсці на меншай альбо большай глыбіні пад урадлівым пластом. Але нават дапускаючы, што давялося б яе вазіць (няхай будзе сярэдняя адлегласць) за вярсту, можна лічыць, што параконная фурманка з 1 чалавекам прывязе за дзень больш-менш каля 25 кубічных локцяў. Таму за дзвесце з нечым дзён, ад пачатку вясны да канца восені, увесь морг быў бы гатовы і на стагоддзі палепшаны. Утрыманне фурманкі, фурмана і на кожную фурманку аднаго землякопа за паўгады – гэта, можна лічыць, 250 злотых. Каб паклады маргельнае гліны знаходзіліся ў два альбо тры разы далей, адкуль іх трэба было б вазіць, і каштавала б гэта ў два альбо тры разы больш, дык яшчэ і тады не будзе страты, калі пасля гэтых выдаткаў морг наш набудзе вартасць 1200 злотых, ці стане здольны прыносіць 60 злотых чыстага прыбытку ў год.

Варта пры гэтым зважаць на тое, што гэтая ацэнка прыбытку з морга зроблена ў Прусіі, дзе вырошчваецца збожжа, якое даволі танна каштуе і з малою колькасцю зярнятаў. Такая якасць зямлі можа прыносіць значна больш, асабліва таму, што ўжо падыходзіць для вырошчвання каштоўных раслін, якія даюць непараўнальна большы прыбытак, чым збожжа. Напрыклад, марэна ў Нідэрландах дае з моргу ад 3 да 4 тысячаў злотых. Але звычайна за мяжою з кавалка зямлі, які адпавядае нашаму моргу, засеянага марэнаю, лічаць чыстага прыбытку сама мала 500 злотых. Не меншы прыбытак дае вырошчванне вайды, рэзэды, шафрану, анісу, гарчыцы (на алей), сланечніка, цукровых буракоў, тытуню, хмелю і бясконцае колькасці раслін гандлёвых, фарбавальных, алейных і лекавых, якія могуць расці ў нашым клімаце, і на якія да гэтага часу велізарныя сумы мы выдаткоўваем за мяжою, і якія ў нас замежнікі без сумнення куплялі б. Бо ў нас апрацоўка зямлі непараўнальна больш танная і плата за яе гэткая малая, што ўсё вышэйсказанае давала б нашым прадуктам перавагу. У Францыі, напрыклад, за морг раллі трэба плаціць 5 франкаў падатку, дык за наш морг належала б – 16 злотых. Падлічана, што за адны толькі лекавыя расліны, якія маглі б вырошчвацца на нашых палетках, Расія выдае штогод да 10 мільёнаў злотых. Падумаць толькі, якое шырокае поле дзеля прадпрымальнага гаспадара, калі перастане верыць, што земляробства павінна абмяжоўвацца толькі вырошчваннем жыта, пшаніцы, аўса і некалькіх іншых звычайных раслін.

## VII

Звычайна вясковыя гаспадары лічаць, што ўтрыманне парабка каштуе больш, чым можа даць ягоная праца. Гэтая думка, асабліва ў тых вясковых гаспадарках, якія вядуцца па-старому, слушная. У невялікіх гаспадарках, дзе гаспадар сам дае прыклад у працы і прымушае гэтым свайго памочніка да перайманні, парабак можа больш зарабіць і кошт свайго ўтрымання акупіць; але ў большых гаспадарках, дзе цяжэй сачыць за работнікам, дзе работнік не саромеецца спыняцца кожную хвіліну, лічыць варонаў, пляткарыць, зажыць табаку і, нарэшце, задумацца са складзенымі рукамі над работаю – там, вядома, утрыманне парабка павінна быць стратным для гаспадара.

Але каб ён нават шчыра працаваў, дык ягоная праца ў звычайных нашых умовах ў вялікіх гаспадарках не можа акупіць кошт яго ўтрымання.

1. Пры трохпольнай сістэме земляробства з папарам на 7 маргах можна пасеяць блізу $3^{1/2}$ бочкі збожжа; ураджай сам-тры[70] дае $10^{1/2}$ бочкі; лічачы бочку па 20 злотых, атрымаецца 210 злотых.

2. За ўраджай з 5 маргоў сенажаці – 20 злотых.

Разам – 230 злотых

Блізу 4 маргоў на валоку звычайна можна лічыць пад лесам, пабудовамі, агародамі і г. д. і з гэтай прычыны на сярэдняй валочнай гаспадарцы маем дзеля земляробства толькі 26 маргоў.

Ад гэтага прыбытку належыць адняць падатак на валоку зямлі, роўны прынятаму чыншаваму кошту – 100 злотых.

А рэшты, калі адняць плату наглядчыкам, утрыманне збруі, інвентара і г. д., будзе, пэўна, мала на ўтрыманне парабка, нават анічога ўжо не закладаючы на прыбытак землеўласніка. Тым часам кожнаму вядома, што адно толькі адзенне парабка і ягонае харчаванне, апрача заробку, можа складаць у год больш, чым 130 злотых.

Страта відавочная; але будзе на шмат большая, калі возьмем пад увагу: 1. што няўраджай у нашым краі бывае амаль кожны трэці год, і тады не можам атрымаць пазначанага вышэй прыбытку; 2. што ў звычайна кепска пільнаванае чэлядзі большая палова часу марнуецца, і парабак ніколі не выканае адзін усяе работы, якое вымагае апрацоўка 26 маргоў зямлі. Словам, у звычайных нашых гаспадарках лепш было б аддаваць маёнткавыя землі ў арэнду па 100 злотых за валоку, чым апрацоўваць, наймаючы парабкаў.

Аднак каб мы змянілі спосаб апрацоўкі і пасяўныя культуры, каб маглі лічыць з кожнага моргу, прынамсі, 50 злотых усяго прыбытку (*brutto*), тады, наймаючы нават на 15 моргаў аднаго парабка, маглі і заплаціць яму дастаткова, так што заўсёды знайшлі б работніка, і сабе з яго працы добры прыбытак запэўнілі б, не баючыся ўжо ані трэцяга няўражайнага году, бо добры двухгадовы ўражай пакрываў бы ў некалькі раз недабор трэцяга году, ані нядбайнасці работніка, бо парабак, якому лепш плацяць, працуючы больш старанна, не наклікае нас на большыя кошты земляробства.

## VIII

Розныя складаліся планы ўтрымання работнікаў, каб абодвум бакам – гаспадару і парабку – яны былі выгодныя і справядлівыя. Паншчына, уведзеная ў даасветніцкую эпоху, часта несправядлівая для сялян, як мы пра гэта ў першай частцы апавядалі, і для абодвух бакоў невыгодная і шкодная – паўсюдна, дзе толькі асвета закранула гаспадароў, прызнаецца згубным для земляробства, вельмі стратнаю для сялянаў і для саміх землеўласнікаў, і яе як найхутчэй пазбаўляюцца.

Падзёншчыкі няпэўныя, часта знайсці іх цяжка, а калі шмат работы, здараецца, трэба і пераплачваць. Нарэшце, не кажучы ўжо пра неразумнасць разлічваць на падзёншчыка ў краі не надта людным, распаўсюджаны ў нас звычай плаціць такому работніку за час работы, а не за яе колькасць, вельмі шкодны і для саміх падзёншчыкаў

і для гаспадароў, бо працуюць яны нядбайна, і самі не столькі зарабляюць, колькі маглі б зарабіць, і ў гаспадара ні за што бяруць плату.

Парабкі, як мы вышэй казалі, пры цяперашнім стане гаспадаркі занадта дорага каштуюць. Але нават у гаспадарцы пладазменнай і прамысловай абавязкова належыць абумовіць зацікаўленасць работнікаў, каб такім чынам забяспечыць ашчаднасць і ўтрымаць работнікаў.

Людвік Альберт, генеральны арандатар дзяржаўных маёнткаў ў княстве Ангальт-Кётан[71], маючы на ўвазе гэтую падвойную мэту, увёў у сваіх маёнтках аплату часткаю прадуктаў земляробства. Ён заключае кантракт з работнікамі, што за апрацоўку такой і такой колькасці зямлі і збор ураджаю яны атрымаюць пэўную яго частку, а ў гады няўражайныя вызначаны пэўны мінімум натуральнае аплаты, якое хопіць на жыццё. Гэткім чынам у гады ўраджайныя і танныя гаспадар, плацячы прадуктамі, запэўнівае сабе прыбытак з рэшты ўраджаю, бо каб плаціў грашыма, ён мусіў бы часам увесь прыбытак патраціць на работнікаў; у добрыя гады работнікі маюць прыбытак, а ў выпадку няўраджаю – забяспечанае, прынамсі, утрыманне. Заўсёды, нарэшце, яны зацікаўлены ў добрым ураджаі, з якога частка ім перападае, дык мусяць працаваць з большаю ахвотаю і стараннем. Шмат яшчэ іншае карысці ад гэтай ідэі. Больш пра гэта можна прачытаць ў "Dzienniku Wileńskim" (Аддзел прыкладных навук, том V, с. 146).

Але гэты план мае свае хібы: 1. Работнікі, беручы плату збожжам, мусяць вазіць яго на продаж і траціць на гэта шмат часу, а маглі б скарыстаць гэты час на іншую працу. 2. Праца гэткім чынам не ўзнагароджваецца цалкам справядліва: у гады ўраджайныя збожжа таннае, а ў гады неўраджайныя, атрымліваючы мінімум, яны ледзь могуць за яго пражыць. 3. Дзеля павелічэння працавітасці і сумленнасці работнікаў лепш кожны від працы палучыць з інтарэсам, чым з ураджаем, які можа залежаць яшчэ і ад іншых акалічнасцяў, на якія чалавек не мае ўплыву. А інтарэс лучыцца з кожным відам працы з дапамогаю платы за колькасць зробленага.

На карысць плану пана Падстоліца, які тры часткі работы аплачвае грашыма і за кожны від паасобку, кажа тое, што: 1. У пладазменных і прамысловых гаспадарках уладальнік не залежыць ад адных толькі добрых ураджаяў, хоць бы плаціў грашыма, бо прыбытак яго можа значна перавышаць кошты працы. 2. Уласна для забеспячэння работнікам утрымання ў дарагія гады, гэта значыць, каб усё, што зарабілі за цэлы год, яны не мусілі аддаваць толькі на хлеб, пан Падстоліц дае чацвёртую частку платы збожжам, раз і назаўсёды ацэненым, і лічыць, што гэткім чынам і работніка забяспечыў, і інтарэс іх абудзіў, і сваім прыбыткам у танныя гады не рызыкаваў.

Урэшце, які б план не быў прыняты, абы адпавядаў гэтым умовам, дык ён заўсёды будзе прыдатны і карысным.

### IX

Пра значную карысць з ужывання брабанцкага плуга і брабанцкае бараны чытачы знойдуць у "Dzienniku Wileńskim" (Аддзел прыкладных навук, том II, с. 84).

У 1828 г. амерыканскія газеты паведамлялі пра новы плуг вынаходніцтва пана Буры ў Новай Англіі, якім адзін чалавек з параю коней цягам аднае гадзіны ўзараў пад бульбу (значыць, глыбока) акр поля. Гэта ў дзесяць разоў хутчэй, чым нейкім іншым найлепшым плугам. Выдаўцы "Bulletin universal", адкуль гэтая навіна ўзятая, робяць выснову, што гэтая прылада мусіць быць падобная да плуга, які вядомы ўжо нам у бульбаводстве.

На адным пасяджэнні цэнтральнага земляробчага таварыства ў Парыжы пан Кавола паведаміў, што пэўны селянін з ваколіц Малвоазыну (пан Босір) выкарыстоўваў да ворыва скарыфікатар Вітсаноўскага і палічыў яго гэткім добрым, што мае намер замяніць гэтаю прыладаю плуг шмат у якіх работах. Пан Босір сцвярджае, што параю коней за 8 гадзін 2 разы ўзараў на 6 цаляў глыбінёю кавалак поля, які адпавядае

1 моргу і 200 літоўскім прэнтам. Гл.: "Dziennik Wileński" (Аддзел прыкладных навук, том X, с. 169).

### X

Сельскагаспадарчыя навінкі малавядомыя ў нашым краі; няхай прабачаць чытачы, што аўтар спыняецца на такіх прадметах, пра якія ў іншых акалічнасцях дастаткова было толькі згадаць. Сяўба радамі – вельмі карыснае вынаходніцтва, якое заслугоўвае большае ўвагі нават тых гаспадароў, якім цяжка было б змяніць сістэму севазвароту, бо без новых ведаў, укладання грошай і пераменаў паўсюдна можа быць уведзены. Аўтар бачыў такое ў сялянаў аднаго землеўласніка, які шмат у чым стаў прататыпам вобраза пана Падстоліца, і чуў пахвалы з вуснаў сялянаў, якія апавядалі пра такія карысныя вынікі гэтае апрацоўкі, што нельга не жадаць распаўсюджвання іх у нашай правінцыі. Досыць шмат пра гэта можна знайсці ў "Izydzie" (№ 9 за 1821 год і № 5 за 1822 год).

### XI

Глядзіце паўтара дзясятка артыкулаў наконт гэтага важнага прадмету, змешчаныя ў "Dzienniku Wileńskim" (Аддзел прыкладных навук, том XI, с. 3–54), а менавіта: *Пра ўплыў угнаення на расліны* (дзве выпіскі з Гэрмбштэдта[72]); з іх можна пераканацца, як адно і тое ж збожжа змяняе свае хімічныя ўласцівасці ў адпаведнасці з відам ужытага ўгнаення.

### XII

Гадоўля пародзістых авечак, апрача Гродзенскае губерні, занядбаная ў Літве ды Беларусі, хоць гэтая галіна сельскае гаспадаркі дае і вельмі вялікую карысць, і размяшчэнне нашых зямель спрыяе вырошчванню розных пародаў гэтае жывёлы, і самы танны ў нашых мясцовасцях корм дазваляе нам прадукаваць воўну альбо сукно найменшым коштам і збываць на ўсіх рынках свету.

Піктет[73], які мае аўчарні ў Швейцарыі і каля Адэсы, зазначае, што гадоўля авечак каля Адэсы каштуе яму ў восем разоў танней, чым у Швейцарыі; таму, каб за паўцаны швейцарскае ён прадаваў воўну адэскую, дык меў бы прыбытак у чатыры разы большы, чым швейцарцы, і меў бы поўную над імі перавагу. У Літве, вядома, гадоўля даражэй каштуе, чым каля Адэсы, бо вясною пазней, а восенню раней трэба трымаць іх у аўчарні; але ж розніца тая не была б занадта вялікая, тым больш, каб распаўсюдзіўся спосаб гадоўлі авечак увесь год на сухім корме, што аказалася для іх больш карысна ў вялікай альтэмбурскай аўчарні.

Добра гэта тым, што авечкі здаравейшыя і даюць больш воўны; іх не трымаюць на спёцы, яны не зазнаюць шкоднае змены зялёнага корму на сухі і наадварот. У Іспаніі авечкі даюць найлепшую воўну там, дзе пасвяцца на санцапёку. Апрача таго, нашыя багатыя лугі даюць больш корму скошанага, чым пры выпасе, і авечкі, якіх стала трымаюць ў аўчарні, больш даюць угнаення.

У Саксоніі прыбытак ад пародзістых авечак лічаць па 5 рублёў срэбрам за штуку; прыбытак ад каровы – 20 рублёў, але нягледзячы на гэта, пераважна трымаюць авечкі, а не каровы, бо першыя ў масе прыносяць большы прыбытак. У нас, магчыма, авечка столькі б не прыносіла, бо цяжка было б прадаць ягнятаў і старых, але за воўну і ў нас можна было б атрымаць столькі, колькі ў Саксоніі. Дапусцім, што авечка давала б у нас 3 рублі; карова не дае наогул больш за 6, хоць і гэтая цана шмат дзе завышаная. З тым усім, калі ў Саксоніі карысць большая ад авечак, чым ад кароў, хоць там карова ў чатыры разы больш дае, чым авечка, у нас утрыманне авечак было б яшчэ больш прыбытковым у параўнанне з утрыманнем кароў: малочныя прадукты далёка не павязеш, а воўну можна вельмі далёка. На квадратную мілю ў Саксоніі налічваецца блізу 6.000 авечак.

У шмат якіх мясцовасцях у Літве мяркуюць, што ў нас немагчыма добра гадаваць авечак таму, што большая частка нашых зямель вільготная і лясістая; але ж не ўсе авечкі мерыносы; можна было б у такіх месцах трымаць авечкі англійскія, лейцэстэрскія, як у Курляндыі, якраз прыстасаваныя да вільготнага клімату. Воўна ў іх доўгая, мяккая і бліўчастая, прыдатная на самыя далікатныя вырабы, але не на сукно. Воўна гэтых авечак звычайна важыць ад 8 да 10 фунтаў, а бывае і да 15 даходзіць. Не каштуе тая воўна гэтак дорага, як мерыносаў, але з-за свае вялікае колькасці дае больш прыбытку, чым ад мерыносаў.

Парода якая завецца *South down* мае воўну карацейшую, яе лёгка часаць, і яна прыдатная як дзеля далікатных тканінаў, гэтак і на сукно. Найлепшае ў гэтай пародзе тое, што яна лёгка прывыкае да любога клімату і не патрабуе, як лейцэстэрская, вільготных і багатых выганаў; не любіць толькі гадавацца ў аўчарні. Мяса гэтых авечак вельмі далікатнае, і яго значна больш.

**XIII**

Селекцыя жывёлы ў некаторых краінах, асабліва ў Англіі, стала навукай, якая здзіўляе сваімі вынікамі гэтак жа, як штучнае вырошчванне раслін. З якою абачлівасцю галандзец падбірае ўласцівасці і формы кветак для вывядзення новых гатункаў ружаў альбо цюльпанаў, з гэтакаю ж англічанін выводзіць задуманыя ўласцівасці коней, авечак, валоў ды іншых жывёлаў. Надае ім любыя якасці: адным – тонкую і пругкую воўну, другім – смачнае мяса, якое хутка нарастае, іншым – шпаркасць ці цягавітасць. Гадоўля жывёлы не такая лёгкая справа, каб магла добра атрымлівацца ў руках няўмелага гаспадара; тут трэба навука, планаванне, веданне заалогіі, фізіялогіі жывёлы і ўласцівасцяў кармоў.

Самымі важнымі правіламі для паляпшэння пароды хатняе жывёлы з'яўляецца тое, каб самцы і самкі гадаваліся асобна, гэта значыць, каб і тыя, і другія мелі розныя ўмовы ўтрымання, паветра, корм; не заражаючыся аднолькавымі хваробамі, яны павінныя быць здаравейшыя і лепшыя, і можна іх тады смялей скрыжоўваць і паляпшаць. Такім чынам нават мясцовая парода, якая ўжо нічога нявартая, можа быць папраўленая і даведзеная да пэўных вартасцяў.

Адсюль, напэўна, пайшоў гэты англійскі звычай наймання самцоў, гэткі карысны, што ўжо шмат у якіх краінах мае паслядоўнікаў. Яму прыпісваецца ўдасканаленне пародаў англійскіх коней.

**XIV**

Пётр Пракаповіч, маларасійскі абывацель[74], у сваім лісце, змешчаным у "Земледельческом журнале", падае, што ад аднае сям'і пчолаў на звычайнай пасецы ён мае ад 60 да 80 фунтаў мёду, пакідаючы ім яшчэ з дзясятак фунтаў на зіму. Так, адзін вулей, падзелены на 4 раі, даў за лета 244 фунты мёду, апрача таго, што пайшло на корм. Іншыя раі са сваім прыплодам давалі па 200 фунтаў, некаторыя блізу 120, а самыя слабыя па 40 фунтаў. ("Земледельческий журнал" 1828, № 24, с. 435).

**XV**

Шматлікія спосабы аховы драўляных памяшканняў ад агню з дапамогаю спецыяльных сродкаў, можна знайсці ў "Dzienniku Wileńskim". Найбольш танныя і лёгкія такія: 1. Спосаб Пуймарына ("Dziennik Wileński", Аддзел прыкладных навук, том I, с. 328). 2. Амерыканскі спосаб (тамсама, с. 46).

У краі, дзе будынкі звычайна драўляныя, вынаходніцтвы, якія ахоўваюць ад пажару, заслугоўваюць стараннага вывучэння і распаўсюджвання.

**XVI**

Генерал-маёр Герард[75] у Тульскай губерні, Чэрнскім павеце, у вёсцы Алаб'ева, у 1827 г. пабудаваў цагляны дом у адну цагліну і пераканаўся, што нават у студзёную зіму гэты дом быў цёплы і абсалютна сухі. У 1828 г. ён вымураваў у вёсцы Галубіна пад Масквою яшчэ адзін такі самы дом, які меў два пакоі, даўжыню $11^{1/4}$ аршына, шырыню $8^{3/4}$ аршына, вышыню $3^{3/4}$ аршына. Увесь дом з сенцамі быў даўжынёю 8 сажняў. На ўсё пайшло 22 тысячы цаглінаў у 40 радоў з долу да гары. Палова гэтага будынку была ў 1 цагліну, а другая – у паўтары; абодва памяшканні былі цёплыя і сухія ("Земледельческий журнал", 1828, № 23).

**XVII**

Нідзе вытворчасць цукру з буракоў не можа прынесці большага прыбытку, чым у нас; дастаткова параўнаць кошт вырошчвання буракоў у Францыі і ў Расіі.

1. Граф Шапталь[76], які мае адну з першых цукроўняў з буракоў у Францыі, падае наступныя кошты на вырошчванне буракоў на адным моргу:

| | |
|---|---|
| Чынш за морг зямлі | 20 франкаў |
| Падвойнае глыбокае аранне | 24 |
| Падвойнае прапалванне | 20 |
| Насенне | 3 |
| Засяванне і баранаванне | 22 |
| Выкопванне і перавозка | 40 |
| Угнаенні | 50 |
| Падатак зямельны | 5 |
| Кошт апрацоўкі моргу | 184 франкі |

2. М.Н. Мураўёў[77] у Расіі, які мае цукроўню, пабудаваную пад Масквою ў 1829 г., падае наступны разлік:

| | |
|---|---|
| 17 работнікаў для апрацоўкі 1 дзесяціны | 7,65 руб. асігн. |
| 137 праца | 34,52 |
| 24 кані | 8 |
| 3000 пудоў угнаення | 120 |
| За вываз угнаення | 9,52 |
| За раскіданне ўгнаення | 1,50 |
| Усяго | 181,19½ руб. асігн. |

Гэта складае ўсяго палову таго, што каштуе ў Францыі; бо два французскія маргі – гэта прыкладна столькі ж, колькі адна расійская дзесяціна. Аднак, здаецца, што вылічэнні Мураўёва могуць быць яшчэ меншыя, найперш з-за таго, што апрацоўка аднае дзесяціны не патрабуе столькі работнікаў, па-другое, што ўгнаенні не такія дарагія.

Не трэба баяцца, што трысняговы цукар можа нам стварыць канкурэнцыю. Ягоная вытворчасць у калоніях каштуе дорага, плата вольным работнікам там высокая; праца нявольнікаў каштуе яшчэ даражэй, бо апрача капіталу на тое, каб купіць нявольнікаў, патрэбны вялікія выдаткі на іхняе ўтрыманне, а працуюць яны нядбала. Паводле самых дакладных падлікаў, цэнтнер сыравіны ў Амерыцы абыходзіцца каланісту ад 20 да 30 злотых, гэта значыць, фунт – ад $7^{1/2}$ да $8^{1/2}$ грошa; за перавозку ў Еўропу – каля 4 грошаў за фунт. Дык, не лічачы мыта, фунт цукровага амерыканскага пяску каштуе ў нас каля 12 грошай; падчас рафінавання трэцяя частка пяску траціцца, таму фунт рафінаванага цукру з амерыканскага пяску, апрача мыта і коштаў рафінерыі, каштуе каля 18 грошаў. А ў Францыі ўжо сёння выраб цукру з буракоў каштуе толькі 16 грошай, і фабрыканты абяцаюць, што праз некалькі гадоў здолеюць вырабляць фунт па $7^{1/2}$ гроша, у што лёгка можна паверыць, памятаючы, што падчас кантынентальнае блакады[78] вытворчасць фунту цукру каштавала ў Францыі 5 франкаў.

Якасць цукру з буракоў нічым не саступае трысняговаму, бо цукровыя элементы ў кожнай расліне тыя самыя, толькі ў адных іх больш, а ў іншых менш, і здабыванне іх з адных раслінаў больш лёгкае, а з іншых – менш лёгкае. Пастаяннае ўдасканаленне працэсу вытворчасці цукру з буракоў давяло яго да такое ступені, што нават колькасць цукру з буракоў наблізілася да колькасці цукру з трыснягу. Адзін немец, якога цытуе Логман, дырэктар цукроўні Натхасіуса ў Альтхальдэслэбэн пад Магдэбургам, за час свайго 17-цігадовага кіравання фабрыкаю цукру ў Сурынам, непадалёк Парамарыба, сталіцы галандскае Гаваны, кажа, што з 1.000 фунтаў соку цукровага трыснягу атрымаў 100 фунтаў цукру, 50 фунтаў меласу і гарнец рому. Гэта адпавядае вынікам даследаванняў шмат якіх вучоных, якія падавалі ўтрыманне цукру ў трысняговым соку як 1 да 10.

У фабрыцы Натхасіуса буракі сярэдняга памеру давалі са 100 фунтаў соку 8 фунтаў чыстага цукру і ад 5 да 6 фунтаў сіропу; на фабрыцы барона Копы на Шлёнску, паводле сведчання Фердынанда Мютцэля, інспектара гэтае фабрыкі, якое надрукавана ў часопісе "Нямецкі сябра прамысловасці" выдаўца Кастнера, са 100 фунтаў соку выраблялася ад 5 да 6 фунтаў цукровага сырца, падобнага на добры *S. Croix*[79], часта, і на белы *Гавана*, і 2 альбо 3 фунты карычневага цукру з меласы[80], апрача таго, ад 1 да $2^{1/2}$ кварты ўроцлаўскага спірту з жамерынаў, моцнасцю 50 градусаў паводле Рыхтэра.

Спажыванне цукру штогод узрастае, і каб мы навучыліся вырабляць яго гэтак жа, як у Францыі, дык, можна меркаваць, што: 1. Спажыванне б павялічылася, бо больш танна вырошчваючы буракі і маючы танную рабочую сілу, мы маглі б танней прадаваць нашую прадукцыю; 2. Усе народы куплялі б у нас гэты прадукт, бо наш абыходзіўся б ім танней.

Але, апрача цукру, іншая яшчэ карысць з гэтае вытворчасці.

1. Абрэзкі. Дзясятая частка вагі буракоў ідзе на абрэзкі, якія з'яўляюцца цудоўным кормам для свіней.

2. Жамерыны. Тыя, што застаюцца, калі сок выціснуты. Звычайна бывае соку 70 фунтаў са 100 фунтаў буракоў, таму жамерынаў – 30 фунтаў, а з 10.000 фунтаў буракоў, апрацаваных за адзін дзень, жамерынаў будзе 3.000 фунтаў, і гэтага хопіць, каб накарміць 800 авечак. Амаль усе спажыўныя рэчывы буракоў знаходзіцца ў жамерынах; корм з іх не выклікае гнілізны, як з раслінаў вадзяністых, не шкодзіць і не пушыць, як, бывае, корм сухі. Жывёла і птушка добра есць тыя жамерыны. Авечкі і дойныя каровы даюць малако лепшае і больш.

3. Сіроп. З 10.000 фунтаў буракоў атрымліваецца ад 200 да 300 фунтаў сіропу, 100 фунтаў якога можна ацэньваць па 3 злотыя сама танна, а перагнаны на спірт, ён дае са 100 гарцаў 33 гарцы 22-градуснга спірту.

4. Фуз[81] і шумавінне з рафінерыі з'яўляюцца выдатным угнаеннем. Французы пераканаліся, што ўгнаенне гэтае лепшае па якасцях за ўсе іншыя і што яго хапае ў самай невялікай колькасці для ўгнаення палетку; цяпер яго з Пецярбургу і Гамбургу возяць у Францыю.

**XVIII**

Алейня з прэсам Рэвілона лічыцца найлепшаю. Таму што кошт яе непараўнальна меншы за ўсе вядомыя іншыя; яна амаль не псуецца; паправіць яе можа любы цясляр і дамашні каваль; ударнае кола мае дзіўную сілу, хуткасць у выцісканні алею вялікая: кроплі не застанецца. Круціць яе можа дзіця. Аўтар бачыў і апісанне гэтага прэса Рэвілона, і сам прэс ў Смілавічах Мінскае губерні Ігуменскага павету.

**XIX**

Механізм Эванса, пашыраны ў Амерыцы, адзначаецца тым, што выдае мукі на адну сёмую больш, чым звычайныя добрыя млыны і патрабуе менш работнікаў. Выкарыстоўваюць яго ўжо каля Адэсы.

**XX**

Крупадзёрка Ляскура выдатна ачышчае зерне ад мякіны і цягам 16 мінут вырабляе 110 фунтаў найлепшых грачаных круп. Апісанне яе ёсць ў "Dzienniku Wileńskim" (Аддзел прыкладных навук, том II, с. 36).

**XXI**

У Шатландыі не труць і не трэплюць лён рукамі. Конь альбо вада круціць млын, прыстасаваны дзеля гэтае работы; за гадзіну на гэтым млыне пераціраецца і вытрэпваецца больш ільну, чым на ручных церніцах за цэлы дзень. Пянька – гэтаксама, з невялікаю зменаю механізму. Апісанне і малюнак абедзвюх тых машын ёсць у "Dzienniku Wileńskim" (Аддзел прыкладных навук, том II, с. 241).

**XXII**

Машына аўстрыйскага механіка Вурма вычэсвае за дзень 300 аўстрыйскіх фунтаў, гэта значыць, блізу 450 нашых. Пры ручным часанні з 40 фунтаў атрымліваецца ледзьве 15 фунтаў чыстага льну, а на гэтай машыне – 30 фунтаў. Пралка гэтага ж механіка дае гэткую тонкую нітку, што яна прыдатная на батыст. Усе машыны Вурма можна мець за 120.000 польскіх злотых, калі купляць у яго; у нас яны каштавалі б менш. А які добры прыбытак яны прыносяць, можна атрымаць уяўленне з выказвання самога Вурма, які кажа, што пабудова ягонае фабрыкі ў Граматнойзідэль блізу Вены каштавала яму 280.000 польскіх злотых, машыны – 200.000 польскіх злотых, але на другім годзе існавання ўсе выдаткі вярнуліся яму і чысты прыбытак склаў 668.000 польскіх злотых.

**XXIII**

Звычай вымочваць лён і пяньку ў стаялай вадзе шкодны, і слушна на гэта наракаюць, бо вада, раскладаючы клей у валокнах, стварае гнілую ферментацыю, заражае наваколле, пакідае чорныя плямы на валакне і за некалькі тыдняў можа цалкам згнаіць расліну. Таму спрабавалі рознымі машынамі аддзяліць клей, які знаходзіцца ў валокнах, з дапамогаю механічнае сілы, але, нягледзячы на абяцаныя ўзнагароды і заахвочванні, да гэтага часу аніводная машына, якую прапаноўвалі, не апраўдала надзей і ганарлівых абяцанняў, якія часта гучалі.

У Германіі выкарыстоўваюць наступны спосаб дзеля вымочвання льну і пянькі. Робяць вадаспад на 4 або 6 стопаў вышыні над драўлянымі кратамі. На гэтыя краты сцелюць высушаны лён альбо пяньку. Сушаць дзеля таго, каб скурка на сцяблінах сціснулася, дык вымочванне адбудзецца хутчэй. Кожную гадзіну пускаюць ваду на краты. Працягваецца гэта да таго часу, пакуль вада пачне сходзіць з ільну зусім чыстая, гэта значыць, 10 альбо 12 дзён. Краты ляжаць на аснове з каменю альбо цэглы, у якой ёсць адтуліна для спуску вады. Пража з гэтак вымачанага ільну атрымліваецца пругкая, шаўкавістая і не такая сырая, як з ільну вымачанага ў стаялай вадзе. Бо тут валакно не кранае ферментацыя: распушчаны клей адразу ж спалосквается вадою.

**XXIV**

У Швецыі і ў Германіі лепшы вынік дае вырошчванне сібірскага льну. Вышынёю ён да 5 стоп; сцябліна яго разгалінаваная; расце 2 альбо 3 гады і штогод дае новыя парасткі з зямлі. Гэты лён не рвуць, а жнуць. Ураджайнасць гэтага льну ў адносінах да звычайнага: 30 да 1. Ён такі ж моцны, як звычайны і не саступае яму ў якасці; вільгаць і холад шкодзяць яму менш; найлепш расце на месцах ані надта засушлівых, ані занадта вільготных; самая лепшая глеба для яго – глініста-пяшчаная або пяшчана-гліністая.

### XXV

Для машынаў ды ўсялякіх прыладаў і прыстасаванняў найлепшым з'яўляецца выпаранае дрэва. Аперацыя гэтая можа адбывацца і са свежаспілаваным дрэвам; яна з лепшым вынікам замяняе шматгадовае сушэнне, бо выпаранае дрэва не баіцца ўжо жамяры і гніення, не выгінаецца, не разбухае, не трэскаецца на паветры, робіцца лягчэйшым, чым высушанае, набірае цямнейшага колеру і пакуль цёплае яго можна гнуць, як хочаш, набывае мяккасці, і гэта дае магчымасць гладка і чыста яго апрацаваць. Пра спосабы выпарвання чытаць ў № 5 "Izydy" за 1822 г.

### XXVI

Даўней у Польшчы ставы звычайна былі зарыбленыя лепшымі відамі рознае рыбы; пра гэта вельмі клапаціліся і пільна сачылі за гэтаю часткаю гаспадаркі. У Далмацыі[82], паводле сведчання Касаса, на выспе Асэра, ёсць возера, зарыбленае марскою рыбаю. Кажуць таксама, што ў Неапалі гадуюць вустрыцы ў ставах і азёрах з прэснаю вадою. У Наўгародскай губерні ў рэках і ставах маецца пэўны гатунак ракавінаў з пярлінамі, праўду кажучы, не такімі прыгожымі, як усходнія, але якія заслугоўваюць усё ж, каб паспрабаваць, ці не ўдалося б гадаваць іх у нашых водах.

### XXVII

Гэтыя дыні, прывезеныя нядаўна з Персіі ў Францыю, найлепш вырошчваюцца; яны горкія, пакуль не паляжаць, але калі паляжаць і даспеюць, робяцца цудоўныя і могуць захоўвацца да вясны. Належаць яны да лепшых сартоў, самых духмяных і далікатных, а паводле Сагерата лёгка ў паўночным клімаце могуць вырошчвацца (*Трактат Сагерата*, "Annal. de l'agric."[83], t. 32).

### XXVIII

Андре Туэн нарадзіўся ў 1747 г. Правёўшы ўсё сваё жыццё ў Каралеўскім садзе ў Францыі, стаў вядомы Еўропе сваімі працамі па садаводству, а таксама шматлікімі вопытамі, якія ўвянчаліся поспехам, з галіны развядзення экзатычных раслін, асабліва такіх, якія маглі быць карыснымі для людзей. Гэта з каралеўскага саду стараннямі Туэна выйшлі кветкі гэткія прыгожыя альбо пахкія, якія, кажа Гувер, дадалі вясне новае аздобы: гэтыя гартэнзіі, дурман, вербена, трыпула, баністэрыопсіс; і тыя позні кветкі: хрызантэмы, георгіні, якія пазычаюць восені вясновыя фарбы; і тыя прыгожыя дрэвы, якія зацяняюць і аздабляюць нашыя праходкі: рабінія, каштаны з чырвонымі кветкамі, срэбраныя таполі і шматлікія іншыя віды.

Таксама з таго саду выйшла шмат пладовых і лясных дрэў. Дубам з салодкімі жалудамі і чорнаю хвояй Туэн асабліва ганарыўся. Калісьці каралеўскі сад падзяліўся кававымі дрэвамі з французскімі калоніямі; пры Туэне ён дастаўляў ім гаітанскі трыснёг, які на трацінy павялічыў вытворчасць цукру; а галоўнае, адарыў іх хлебным дрэвам, якое будзе, пэўна, для Новага свету дарам, падобным бульбе, самаму лепшаму падарунку Амерыкі Еўропе.

У працы *Cours de culture et de naturalization des végétaux*[84], выдадзенай Аскарам Леклеркам, ягоным пляменнікам і памочнікам, Туэн, гаворачы пра натуралізацыю альбо, як мы называем, акліматызацыю экзатычных раслін, выказвае на гэтую тэму важныя ідэі, якія заслугоўваюць цікавасці ўсіх тых, хто жадае дабра чалавецтву і Айчыне.

Што акліматызацыя раслінаў, спачатку непрыдатных для нашага клімату і глебы, рэальная, даводзіць вялікая колькасць раслінаў, якія да гэтага ў нас не вырошчваліся, якія прывозілі з поўдня, а цяпер яны шырока ўкараніліся. Не маем амаль збожжа і агародніны, асабліва відаў аднагадовых, якія не былі б прывезеныя з паўднёвых краінаў. Наш ячмень, гарох, зеляніна і караняплоды, вішні, абрыкосы і г. д. – усе яны трапілі сюды з поўдня і асвоіліся ў нас як ва ўласнай Айчыне.

## XXIX

Пэўны рамеснік ў Паўночнай Амерыцы, маючы паравую машыну, з якое выходзіла шмат лішняе пары, прыдумаў выкарыстаць яе на абаграванне ананасаў. Ён падводзіць яе да каранёў раслін, і цяпло разам з вільгаццю ўздзейнічаюць гэтак эфектыўна, што ананасы хутчэй спеюць, а тым часам сама расліна знаходзіцца на паветры ўвесь дзень; плод набірае смаку і здаровага, і прыемнага, а гэта надае яму перавагу над гадаванымі ў аранжарэях. Тыя, хто каштаваў гэтыя ананасы, сведчаць, што цяжка знайсці плод гэткі ж смачны і далікатны ("Journ. des Connois. usuel. et part.", t. XI, s. 175).

У Англіі не толькі выкарыстоўваюць пару для абагравання аранжарэй і скрыняў, але і дзеля таго, каб стварыць для расліны гэткую вільготнасць, якая найбольш спрыяе вегетацыі (Бэйлі, *Тэарэтычныя і практычныя падставы абагравання аранжарэй*)[85].

## XXX

Сэкрэт, які жыве каля Бружэ ў Францыі, сеяў расліну *myrica pensylvanica* (васкоўніца) на вольным паветры і сцвярджае, што яна лёгка можа вырошчвацца на поўначы на сухой глебе. Са 150 квадратных стопаў поля, засеянага васкоўніцаю, збіраў ад 1½ да 2 фунтаў воску ("Ann. de l'arg. fran." 1828, студз., с. 124.). Дык з моргу літоўскага выйшла б ад 675 да 900 фунтаў.

## XXXI

Паводле ўсіх ранейшых статыстычных табліц народанасельніцтва відаць, што палова народжаных памірала ў раннім дзяцінстве; таксама аказвалася, што кожная сям'я ў Еўропе мела ў сярэднім чацвёра дзяцей; але з тае прычыны, што палова з іх памірае перад уступленнем у шлюб, насельніцтва не магло расці; у тых жа краінах, дзе дзіцячая смяротнасць была большая, а ў сям'і не было больш за чацвёра дзяцей, насельніцтва мусіла змяншацца. І на гэтай падставе эканамісты аспрэчвалі тэорыю Мальтуса[86], які ў моцна расхваленым спачатку, а потым зганеным творы *An Essay on the Principle of Population*[87] даводзіў, што насельніцтва кожныя дваццаць пяць гадоў можа падвойвацца. Некаторыя высновы Мальтуса памылковыя, але не менш памылковыя былі высновы Годвіна[88] і іншых ягоных праціўнікаў, якія сцвярджалі, што насельніцтва не можа значна памнажацца, бо досвед усіх народаў пераконвае: у сем'ях наогул не бывае больш за чацвёра дзяцей, толькі ў самых пладавітых краінах крыху больш; а з тае прычыны, што палова дзяцей памірае перад паўналеццем, дык колькасць насельніцтва альбо зусім не можа расці, альбо расце вельмі мала і то толькі ў тых краінах, дзе пладавітасць сем'яў крыху большая за чацвёра дзяцей на адну сям'ю.

Можа быць, што ў чалавечай прыродзе закладзена менавіта такая мяжа пладавітасці; але хіба можа ў чалавечай прыродзе быць акрэсленая мяжа смяротнасці перад паўналеццем? Ці не варта было б дапусціць, што гэткая вялікая смяротнасць дзяцей у Еўропе паходзіць ад недастаткова дбайнага дагляду, што іх недастаткова берагуць ад хваробаў, і што яна была б меншая, каб умовы былі для іх лепшыя? У Швецыі, напрыклад, дзе статыстыка больш дакладная, і адкуль, як Мальтус, гэтак і яго праціўнікі, бралі свае аргументы, адна толькі воспа кожны год забірала амаль дваццаць тысяч дзяцей, а пасля ўвядзення прышчэпак, зараз амаль не забірае. Такім чынам:

| | |
|---|---|
| У 1779 г. памерла ад воспы | 15.000 дзяцей. |
| У 1784 г., калі пачалі вакцынацыю, | 12.000 |
| У 1801 г. | 6.000 |
| У 1822 г. | 11 |

"Hertha" 1825, t. II, сшытак 3[89].

Гэта значнае змяншэнне смяротнасці ў краіне, у якой за год не нараджаецца больш за 100.000 дзяцей. Каб іх можна было ўберагчы і ад іншых хваробаў з дапамогаю добрага дагляду і асабліва з дапамогаю добрага харчавання, адзення і жытла, дык,

можа, замест 2 удалося б выхаваць 3 дзяцей з чацвярых, якія з'яўляюцца ў сярэднім у кожнай сям'і.

Тады сцверджанне Мальтуса пра здольнасць павелічэння насельніцтва, хоць і крыху перабольшанае, але, можа, хоць бы напалову спраўдзілася. Павелічэнне колькасці нашых жыдоў можа і цяпер паслужыць пацвярджэннем ягоных высноваў: у нэндзы, убостве, пры пераследзе, гнуснасці, поўныя забабонаў, яны, аднак, на вачах залілі наш край сваім людам, які, здаецца, расце на вачах. І некаторыя ваколіцы нашае чыншавае шляхты гэтак перапоўненыя людам, што адзін гэты клас усе большменш заможныя дамы забяспечвае слугамі, якія ўжо амаль не ўступаюць у шлюб; і амаль усе кляштары гэтым класам напоўнены; а з шляхецкіх сядзібаў, першасна валочных, парабіліся ўжо шмат у якіх ваколіцах гаспадаркі па маргу.

Але адсюль не варта следам за Мальтусам рабіць выснову, што адміністрацыя павінна старацца стрымліваць залішнее павелічэнне насельніцтва. Гэтае меркаванне справядліва абурыла разумных людзей: няма чаго хваляваццa, што не хопіць харчавання на зямлі, калі людзі занадта размножацца. З Ласкі Божае кормяцца птушкі нябесныя. Адміністрацыя толькі павінна старацца аберагаць падуладных ад убоства, даць па магчымасці спосаб зарабляць на жыццё, а ў астатнім пакінуць свабоду дзеянняў.

### XXXII

У Лондане ўпершыню з'явілася думка пра стварэнне інстытуцыі для малых дзяцей, якіх на ўвесь дзень пакідалі, ідучы на працу, бацькі, і яны раслі без нагляду альбо пад наглядам нанятых старых кабетаў, замкнутыя ў цесных памяшканнях з кепскім паветрам, змушаныя сядзець альбо спаць, з-за чаго здароўе іх горшала, яны не вучыліся карысным рэчам і маглі лёгка займець кепскія звычкі.

Таму было створанае таварыства, якое мела на мэце гадаваць такіх дзяцей ад 2 гадоў да часу, калі маглі пайсці ў школу, гэта значыць – да 6. Зручны дом з садам і пільны дагляд запэўнівалі ім бяспеку, прыстойныя гульні і маральнае выхаванне рыхтавалі да школы. Вынік гэтага гадавання аказаўся надта добры. Дзеці пад разумным даглядам падабраных настаўнікаў прывыкалі да парадку, акуратнасці і ветлівасці, унікалі развіцця злачынных схільнасцяў і хваробаў. Нават калі яны вярталіся да бацькоў, дык сваімі прыстойнымі паводзінамі прымушалі іх быць лепшымі.

У Парыжы ў 1826 г. было створанае з гэткаю ж мэтаю таварыства пад назваю *de la charté maternelle*[90] з тою розніцаю, што ў Лондане дзеці на ноч вярталіся дадому, а тут увесь час аж да 6 гадоў яны знаходзяцца ў доме таварыства. Для малых ёсць калыскі і нянькі, для старэйшых – школка Ланкастара.

Першыя ўражанні звычайна станоўчыя ў выхаванні чалавека. На што толькі не будзе здольнае грамадства, калі самыя ўбогія класы, звычайна схільныя да шкодных звычак з-за таго, што не маюць добрага выхавання, будуць з маленства выхоўвацца маральна? Варта было б стварыць падобныя таварыствы пры вясковых парафіях. Каштуе гэта няшмат, амаль нязначна, а карысць вельмі вялікая.

### XXXIII

Што вінаград можа спець у літоўскім клімаце, кожны можа пераканацца, калі будзе мець магчымасць, наведаць у Вільні сад прафесара Хаўштэйна[91] пры вуліцы Савіч. Аўтар некалькі гадоў бачыў там вінаград зусім спелы, і француз-садавод даваў слова, што ў нашым клімаце ён паўсюль можа спець, калі толькі ўмець яго вырошчваць. У паўднёвых правінцыях Польшча мела даўней уласнае віно; можа, і сёння ўдалося б там развесці вінаграднікі, прынамсі, ранніх гатункаў. Ва ўсёй Еўропе ўжо некалькі стагоддзяў назіраецца пахаладанне клімату; у нашых даўніх гаспадарчых кнігах мы чытаем парады, каб сяўбу некаторых раслінаў пачынаць у сакавіку, а цяпер у нас гэта нечуваная справа. Некаторыя мяркуюць, што прычынаю гэтага пахаладання клімату Еўропы былі аграмадныя ледзяныя заторы каля Грэнландыі. У наш час кажуць, што

гэты лёд пачаў там ламацца, і ёсць надзея, што Ледавіты акіян зноў будзе ачышчаны ад лёду, а потым і клімат Еўропы зноў пацяплее.

Але нягледзячы на пахаладанне клімату, англічане здолелі ў сябе на вольным паветры акліматызаваць вельмі шмат паўднёвых раслінаў, хоць раней, калі было цяплей, добрага яблыка ва ўсёй Англіі нельга было знайсці. З гэтага можна зрабіць выснову, што расліны здольныя прызвычайвацца да халоднага клімату, калі правільна іх даглядаць.

## XXXIV

У ваколіцах Валенсіі вырошчваюць раздзельным спосабам лён на батыст і карункі. На ўрадлівай і ўгноенай глебе сеюць больш густа ў тры разы насення, чым звычайна на валакно. Так пасеяны лён буйна ідзе ўгару, абапіраючыся на драўляныя сошкі, каб не палёг. Збіраюць яго зялёным.

## XXXV

Бертоле[92] ў 1785 г. вынайшаў спосаб выбельвання валокнаў хлорам. У 1789 г. ён даў дакладнае апісанне працэсу выбельвання з падрабязнай інструкцыяй для мануфактураў. Танант[93] потым выбельваў з дапамогаю хлорнае вапны (злучэнне хлору з вапнаю). Шаптал вынайшаў хутка спосаб выбельвання ўсіх раслінных валокнаў у закрытай ёмкасці, вострым алкалічным парам з надзвычайнай хуткасцю і эфектыўнасцю. Пазней шмат вучоных стараліся ўдасканаліць гэтае вынаходніцтва: Руп і Дэві[94] пайшлі найдалей, з таго часу гэты спосаб распаўсюдзіўся ў Англіі, Францыі і Амерыцы.

Супраць выбельвання хлорам шмат пісалі, але доўгі досвед паказаў, што гэты спосаб пры дакладным выкананні ўмоваў і разумным кіраўніцтве заўсёды вельмі добры, бо палатно, выбеленае хлёркаю, больш моцнае з-за таго, што працэс заканчваецца хутчэй, і яно не гніе. Апісанне гэтага спосабу выбельвання можна знайсці ў №1 IV тому "Izydy" і ў "Dzienniku Wileńskim" (Аддзел прыкладных навук, том VI, с. 88).

Але гэта не такая лёгкая справа: яна патрабуе ведання хіміі, спрыту, і не варта займацца выбельваннем у невялікіх колькасцях, бо кошт посуду і хімікатаў не апраўдаюцца. Таму паўсюль, дзе выкарыстоўваюць гэты спосаб бялення, аддаюць палатно ў асобныя мануфактуры. Добра было б, каб у нашым краі, гэтак багатым на лён, павялічвалася вытворчасць уласнага палатна і былі пабудаваны публічныя хлорныя бялільні.

У Рызе Ежы Пфэйл пабудаваў пры палатнянай мануфактуры хімічную бялільню і прымае на выбельванне палатно, бавоўну і ніткі за наступную цану: за 1 фунт баваўнянага прадзіва – 40 польскіх грошай; за 1 фунт льнянога прадзіва – 2 польскія злотыя; за 1 фунт льняных нітак – 2 польскія злотыя; за 1 аршын палатна – 20 грошай. Шырыня палатна не павінна быць большая за $1^{1/8}$ аршына або $1^{1/2}$ локця, бо давядзецца плаціць даражэй у адпаведнасці з шырынёй.

Выбеленае хлёркаю палатно мае колер снегу, яно ільсніцца і больш моцнае, чым выбеленае нейкім іншым чынам.

## XXXVI

Апісанне машыны для замешвання вялікае колькасці цеста, зробленай у Парыжы, ёсць у "Dzienniku Wileńskim" (Аддзел прыкладных навук, том X). Для меншых колькасцяў у прыватных дамах дастаткова зрабіць прастакутную скрыню, якая круціцца на сошках з дапамогаю корбы. 30 фунтаў мукі і 10 фунтаў вады цягам 20 мінут будуць вымешаныя гэтак добра ў гэтай скрыні, што не параўнаць з аніякім іншым замешваннем. Гэта вынаходніцтва Ламбера, парыжскага пекара, які атрымаў за гэта ўзнагароду ў 1810 г. ад аднаго парыжскага эканамічнага таварыства.

Мука, замешаная гэткім спосабам у малой колькасці цёплае вады, дае хлеб вельмі прыгожы і добры; пірагі таксама значна лепш у такой скрыні замешваюцца; мука ў зачыненай скрыні не разлятаецца, хуткай ферментацыі спрыяе цёплае паветра

і хуткае вярчэнне корбы; а больш за ўсё варта выкарыстоўваць гэты спосаб таму, што чалавечы пот не трапляе ў хлеб, і аніякая неахайнасць нястрашная.

Варта было як найхутчэй распаўсюдзіць гэты спосаб ў нашым краі, і можна мець надзею, што добра выхаваныя гаспадыні не прамінуць даць прыклад суседзям і сялянам. У гарадах асабліва стварэнне вялікіх пякарняў з выкарыстаннем гэтага спосабу было б і карысным для прадпрымальнікаў, і прыемным для тых, хто купляе хлеб, бо нашыя звычайныя пякарні да гэткае ступені неахайныя, што толькі той можа без агіды спажываць атрыманы ад з іх хлеб і булкі, хто не бачыў якім чынам яго замешваюць.

**XXXVII**

Увесь сакрэт павелічэння вагі хлеба з тае самае колькасці мукі палягае на тым, каб муку расчыняць на вадзе, у якой выварылася вотруб'е. Хлеб з гэткага цеста, жытні і пшанічны, менш выпарваецца ў печы, без параўнання смачнейшы і на адну шостую больш цяжкі за звычайны з тае самае колькасці мукі.

**XXXVIII**

Карысць з абагравання памяшканняў цёплым паветрам такая:

1. Заўсёды можна мець любую і нязменную тэмпературу ў пакоі, чаго пры звычайных печках дамагчыся немагчыма; гэта залежыць толькі ад таго, адчыненая альбо зачыненая заслонка ў памяшканні. За мяжою некаторыя вялікія гмахі і мануфактуры гэткім чынам абаграюцца.

2. Паветра ў памяшканнях падчас палення ў печы змяняецца з-за скразняку з вокнаў і дзвярэй; тут наадварот, вокны замазаныя і дзверы дастасаваныя, скразняку аніякага, а паветра змяняецца, калі адчыніш заслонку на трубе, размешчанай у кожным пакоі пад скляпеннем і выведзенай да галоўнага каналу, палучанага з печчу, дзе агонь, награваючы паветра, цягне яго да коміна з галоўнага каналу і гэткім чынам выпампоўвае яго з памяшканняў, а з іншага каналу браць не можа, бо дзверцы ў печах шчыльныя.

3. Шматгадовае ашчаджанне на работніку і дрэве акупіць трубы, неабходныя для такога абагравання; гэтыя трубы не надта дарагія, а скласці печы абыходзіцца, бясспрэчна, даражэй. Да таго ж, яны вечныя, бо апрача дымаходу ўсе іншыя напоўненыя толькі паветрам, ды яшчэ цёплым, ніколі не патрабуюць ачышчэння. Апісанне гэтага спосабу абагравання чытачы знойдуць у № 6 “Izidy” за 1822 год у артыкуле *Пра абаграванне памяшканняў, сушыльняў, мануфактураў і г. д. нагрэтым паветрам як сродак самы танны, зручны і бяспечны.*

**XXXIX**

Малавядомае ў нашым краі прыгатаванне гэтых сыроў заслугоўвае па шматлікіх прычынах пашырэння. Гэта значная галіна гаспадаркі, і яна магла б прыносіць больш карысці. Нашыя каровы сёння даюць нейкі прыбытак з малака толькі блізу гарадоў; сыры добра цаніліся б у краі і маглі б з карысцю прадавацца за мяжу, калі б значная іх вытворчасць пашырыла б гандаль імі. Гэтая сельскагаспадарчая галіна заслугоўвае ўвагі гаспадароў. Ёсць шмат рэцэптаў, як рабіць сыр добрых гатункаў; пра гэта глядзі ў “Izidzie” і “Dzienniku Wileńskim”.

**XL**

Паслухаем, што кажа на гэты конт адзін з самых знакамітых пісьменнікаў нашага стагоддзя (Банштэтан у працы *L'homme du nort et du midi*, s. 181.)

“Сапраўды нацыянальнаю і карыснаю была б тая адукацыя, якая б давала веды, адпаведныя стану кожнага чалавека. Земляроб і загроднік павінны знаць сельскую гаспадарку, садавод – садаводства, авечкагадовец – авечкагадоўлю. Толькі такая адукацыя з'яўляецца карыснаю для люду, бо толькі такая грунтуецца на тых ведах, якія патрэбныя пэўнай прафесіі. Толькі на гэтым грунце, заснаваным на выхаванні

і жыццёвай неабходнасці, адукацыя здольная прынесці плады. Земляроб, які атрымаў досвед у вопытнай гаспадарцы, не забудзе пра гэта падчас свае працы, прывыкне думаць падчас кожнае працы, чаму ён так, а не іначай яе робіць. Яго веды будуць павялічвацца і паспрыяюць таму, што ягоны стан будзе яму ўсё больш прыемны і патрэбны. Бо развіццё свядомасці чалавека ў межах яго стану ўжо само па сабе здольнае ўтрымаць чалавека ў межах уласцівай яму свядомасці.

Тыя, хто баіцца адукацыі люду, тлумачаць гэта тым, што навука, якую яму дадуць, прывядзе да разважанняў пра рэчы вышэйшыя за іхні стан і розум. Найлепшы сродак, каб прадухіліць гэта – не дазваляць разгуляцца фантазіі, засярodзіць адукацыю кожнага на тым, што адпавядае яго стану. Скіраваць прафесію чалавека ў адзін бок, а яго думкі ў іншы, – гэта значыць: парушыць парадак у грамадстве; абмежаваць адукацыю кожнага яго працоўнымі патрэбамі, засяродзіць яго свядомасць на абавязках яго стану – гэта значыць: замацаваць грамадскую сістэму.

Адчуванне сваіх патрэбаў – справа прывычкі ў люду. Чалавек просты, але ўвесь час заняты пошукам спосабаў зарабіць на жыццё, будзе мець цікавасць да ўсяго, што можа палепшыць яго становішча. І выхаванне, адпаведнае гэтаму адчуванню, будзе заўсёды самым карысным. Само па сабе яно з'яўляецца крыніцаю шчасця, і якраз у прыемнасці, якую яно нясе, знаходзіцца задавальненне ў гармоніі з абавязкамі стану. Тут толькі можа знайсці чалавек крыніцу пачцівага задавальнення, без якога жыццё ніколі не будзе ані поўным, ані шчаслівым, ані спакойным.

Багацце земляробаў не залежыць ані ад некалькіх прыгожых фальваркаў, ані ад тых узорных гаспадарак, якія то тут, то там выклікаюць здзіўленне, але на агульным дабры, якое немагчымае без ўсеагульнае адукацыі. Як кожнай вёсцы неабходны хлеб, гэтак кожнаму чалавеку неабходна магчымасць набыць адукацыю.

Не варта нам уводзіць сябе ў зман: для простага люду карысная адукацыя – гэта аснова маральнага выхавання. Адукацыя, адпаведная прафесіі кожнага чалавека, дае яму ўсведамленне парадку, які з'яўляецца падставаю справядлівасці і крыніцаю добрых звычаяў".

**XLI**

Больш падрабязнае апісанне гэтае расліны (люцэрна хмельная, medicago lupina), карысць ад яе і спосабы вырошчвання маюцца ў "Dzienniku Wileńskim" (Аддзел прыкладных навук, том III, с. 305).

**XLII**

Не так дзеля забеспячэння дзяцей сродкамі, а хутчэй, каб заахвоціць моладзь да прыстойнасці на пачатку жыцця, карысны быў бы закон, які забараняе браць шлюб людзям, якія не маюць аніякага фундушу. Некаторыя заканатворцы разумеюць карыснасць такіх патрабаванняў. У Бернскім кантоне доўгі час існаваў закон, які забараняў земляробам браць шлюб, пакуль яны не дакажуць, што маюць зброю і ўсё неабходнае для міліцыі. Мальтус лічыць, што менавіта гэтаму закону яны абавязаныя ў асноўным сваім дастаткам. Ён кажа, што моладзь з-за гэтага была прымушаная прызвычаіцца да працы і ашчаднасці. У Нарвегіі таксама быў закон, што запісаныя ў войска, хоць і не рэкрутаваныя, усе дзесяць гадоў, пакуль былі ў спісе, не маглі атрымаць дазволу на жаніцьбу, калі не даказвалі, што маюць з чаго ўтрымліваць сям'ю. Нават быў там распаўсюджаны звычай, што плябан не блаславўляў таго, хто не меў фундушу на ўтрыманне жонкі і дзяцей.

Праціўнікі Мальтуса ганяць такія законы з-за ягоных довадаў, што яны карысныя для стрымання залішняга павелічэння насельніцтва. Але здаецца, што Мальтус сам памыляецца, бо такі закон, наадварот, дапамагаў бы павелічэнню насельніцтва: папершае, з-за таго, што забяспечваў бы дзецям лепшае ўтрыманне, а таму меншую смяротнасць, чым няшчасным нашчадкам убогіх; па-другое, што яшчэ больш важна,

моладзь, прызвычаеная лічыць шлюб узнагародаю за дабрачыннасць, ахвотней гарнулася б да таго, што не абы каму дазволена, і ў сваім дабрачынным жыцці давала б здаравейшае патомства.

**XLIII**

А. дэ Сталь-Гольштэйн[95] у вядомым сваім творы *Лісты пра Англію* лічыць гэтае сцверджанне памылковым: маўляў, неабмежаваная свабода падзелу зямлі спрыяе павелічэнню насельніцтва і пацвярджае гэта тым, што ў Англіі, дзе зямля ў большай частцы не можа быць падзеленая адвольна, насельніцтва павялічылася хутчэй, чым у Францыі, дзе падзел зямлі абсалютна свабодны.

Вядома, што нельга прыпісваць павелічэнне насельніцтва толькі гэтаму. У Англіі рамеснікі і заможныя гандляры гэтаксама памнажаюцца як і земляробы. Наадварот, вельмі вялікая колькасць убогіх у Англіі, маючы забяспечанае ўтрыманне сям'і з парафіяльных складак, не ўстрымліваецца ад шлюбаў; а тая акалічнасць і рост багацця заможных класаў лёгка тлумачыць, чаму ў Англіі хутчэй, чым дзе, гэтак хутка апошнім часам павялічваецца насельніцтва.

У тым, аднак, што і неабмежаваны падзел зямлі спрыяе павелічэнню насельніцтва, бо сельскія гаспадаркі памнажаюцца, пераконваюць французскія статыстычныя табліцы п. Вілярмэ. Але ці такое насельніцтва можа быць карысным для краю, залежыць уся важнасць пытання: *ці карыснае неабмежаванае права падзелу зямлі*?

Прускі ўрад падаваў на абмеркаванне ўладам Надрэйнскае і Вестфальскае правінцый: *ці карысна было б для краю стрымаць сілаю закону падзел маёнткаў*?

Гартман у працы *Uber die Theilung des Bodens*[96], хоць не быў сярод асоб, якім давалася заданне, стараўся знайсці адказ на гэтае пытанне і мяркуе, што адвольны падзел зямлі мае добрыя вынікі і не павінны стрымлівацца.

Бенцэнберг[97] у працы *Пра фінансавую сістэму Прусіі* сцвярджае, што якраз у дробных маёнтках знаходзіцца крыніца багацця надрэйнскіх правінцый, нават настойвае на тым, што ў Вестфаліі скарб мог бы мець у два разы большы прыбытак, каб замест вялікіх землеўласнікаў былі там дробныя.

Клебэ ў працы *Пра падзел зямлі* ("Möglin annal. XV, I) насуперак Бенцэнбергу даказвае, што дробныя надрэйнскія маёнткі не прычына, а вынік дабрабыту гэтага краю, а прычынаю з'яўляецца добрыя законы і воля. Ён прыгадвае, што прускі ўрад некалькі разоў і заўсёды безвынікова ў іншых, менш урадлівых правінцыях ствараў дробныя маёнткі. Ён лічыць, што дробныя маёнткі не могуць прычыніцца дзеля ратавання краю падчас голаду, бо кожны землеўласнік вырошчвае не больш за тое, што яму патрабуецца.

Боск, разглядаючы працу п. Іверноа (*Sur le morcellement de la propriété foncière en France*)[98], піша ў часопісе "Annal. de l'agria. Fran." (1826, с. 264): "Перад рэвалюцыяй розныя прычыны стрымлівалі падзел зямлі, аднак у некаторых горных ваколіцах падзел меў тыя сумныя вынікі, што землеўласнікі былі бедныя і страшэнна некультурныя. Пасля рэвалюцыі неабмежаваны падзел пагражае яшчэ большаю бядою".

Боск радзіць, каб закон забараняў залішні падзел, пастанаўляючы, каб на часткі, меншыя за 50 французскіх моргаў, зямлю не дзялілі. Спадчыннікам тых частак ён раіць даваць часткі сумы з продажу ў адны рукі ўсяго маёнтку, калі яны не захочуць, валодаць зямлёю без падзелу. Ён супраць таксама і вялікіх маёнткаў: "Бо, – сцвярджае, – можна сказаць, што найшчаслівейшы той край, дзе колькасць тых, хто мае *дастаткова*, значна перавышае колькасць тых, хто мае *больш, чым трэба*".

Іншы філосаф сказаў, што самы шчаслівы той край, у якім ніхто не мае *больш, чым трэба*, а ўсе маюць *хоць нешта*.

Але, здаецца, можна сказаць: той край самы шчаслівы, у якім кожны чалавек можа мець пачцівыя сродкі да жыцця. Бо не перашкаджае нікому, што ў краі ёсць людзі вельмі багатыя; наадварот, такія абывацелі могуць быць патрэбныя і вельмі карысныя.

І зноў жа, не зусім шчаслівым край можа быць, нягледзячы на тое, што ў ім будзе больш тых, хто мае *дастаткова*, чым тых, хто мае *больш, чым трэба*; бо гэта не выключае тых, хто не мае *нічога*; а якраз колькасць іх з’яўляецца мераю добрага альбо кепскага стану народу. Што з таго, што ў Англіі насельніцтва значна павялічваецца, што прамысловасць квітнее, калі тысячы ўбогіх і самі жывуць у нэндзы і для грамадства з’яўляюцца цяжарам? Народ такі не можа называцца шчаслівым. Адміністрацыя там не мае апраўдання.

Нэкер[99]лічыў, што ў Францыі колькасць дзяцей занадта вялікая ў адносінах да дарослых з-за таго, што людзі маюць неабмежаваную свабоду браць шлюбы. “Але, – кажа ён, – у нэндзы тыя дзеці хутка паміраюць, новыя на іх месца нараджаюцца і гінуць без аніякае карысці для краю; неабмежаванае права драблення зямлі – прычына гэтае нэндзы. Мільён гэткага люду не стварае ані такое вайсковае моцы, ані такое працоўнае сілы, як такая ж колькасць людзей не такіх бедных” (“De l’administ. des finances.”, t. I, r. IX, s. 263).

**XLIV**

Хваленыя (між іншымі, Напалеонам) законы Паолі[100] на Корсіцы: каб кожная вёска кожныя тры гады мянялася, паводле лёсавання, сваімі землямі, нельга ўхваліць. Хоць гэткім чынам кожны чалавек рабіўся ўласнікам зямлі і абывацелем, зацікаўленым у поспеху свае краіны; але з-за гэтага вынікалі вялікія невыгоды, з якіх самыя галоўныя дзве: 1. Калі колькасць абывацеляў, якія мелі права на зямлю, павялічвалася, дык усім даставаліся ўсё меншыя ды меншыя часткі, і ўсе рабіліся ўсё больш ды больш бяднейшымі, у той час, калі некаторыя з іх маглі заняцца рамесніцтвам, гандлем альбо перайсці ў іншы грамадскі стан, і ў новых галінах здабываць сродкі на жыццё, а тыя, хто заставаўся на зямлі, большы мець з яе пажытак. 2. Кожны земляроб, няпэўны, ці застанецца ў яго руках надзел праз тры гады, не зацікаўлены ў яго паляпшэнні; а гэта на самых ураджайных землях шкодна для грамады.

**XLV**

Кожнаму вядома, які добры і каштоўны алей з арэхаў. Аднак дасюль анідзе ў нас ён не вырабляецца ў вялікай колькасці, хоць маем мы шмат арэхаў у лясах; можа таму, што збіраць іх – марудная праца. Арэшнікі ў садах даюць арэхі большыя і паўнейшыя.

Бурхард у Германіі вырошчвае арэхі ў вялікай колькасці; селекцыяй атрымлівае плады значныя па вазе і форме ядраў. Самымі пладаносныя ён лічыць авеліны доўгія[101] і італьянскія поўныя. Гемпель раіць вырошчваць вялікія арэшнікі, накшталт садоў, і сцвярджае, што большы можна атрымаць прыбытак з моргу арэшніку, чым з моргу іншых пладовых дрэў. Ён прапануе прышчапляць да ляшчыны іншыя гатункі арэхаў; сам пасняхова прышчапляе авеліны. Ён даводзіць, што натуралізацыя розных гатункаў італьянскіх ды іспанскіх арэхаў лёгка можа быць палепшаная ў Германіі. (Можа і ў Літве?)

**XLVI**

У паўднёвай Францыі карыстаюцца вельмі простай і недарагой сеялкаю. Гэта скрыня, зробленая з лёгкіх дошак, якая мае дно вузейшае і карацейшае за верхнюю частку. Даўжыня верху ад 19 да 20 цаляў, шырыня $2^{1/2}$. Дно па ўсёй даўжыні ў дзірках, зробленых тонкім свердлам, для таго, каб прапускалі збожжа. Адтуліна на засаўцы для засыпання збожжа зверху, з бакоў – ручкі, каб трымаць і трэсці сяўню.

Пасля прыгатавання раллі, адзін чалавек робіць плугам баразну, а другі, за ім ідучы, трасе на кожным кроку сяўнёю над тою баразною, у якую ўпарадкавана падае зерне.

## XLVII

У Вірджыніі робяць хлеб і спажыўны харч, асабліва для дзяцей, з зерня сланечніку. Вершаліны маладых раслін смачныя, калі іх спячы і прыправіць алеем. Лісце – добры корм для жывёлы, асабліва для кароў, якія на гэтым корме даюць больш малака, і яно больш тлустае. Але цельным каровам сланечнік даваць нядобра, бо даказана, што наеўшыся таго лісця, яны скідаюць. Морг літоўскі можа даць у сярэднім пяць бочак буйнога зерня.

# Частка пятая

# ІДЭАЛЫ

... A zrodzon na bogatej i obfitej ziemi,
.............. niech ją w skiby kraje;
Niechaj rozkrzewia światło, pracę, obyczaje;
Niech w dzieciach, ze czcią przodków, miłość cnoty szczepi;
Niechaj nadzieją lepszej przyszłości się krzepi.

Koźmian, *Rolnictwo*[1]

## Раздзел першы

# ДРУГАЯ ЛАСКА БОЖАЯ

Widziałem jak z powozu wysiedli oboje;
Arijanna w przybytek wniósłszy kroki swoje,
Boże kochany, woła, tu odtąd mieszkajmy.
... Zdarzmy to naszą łaską, niechaj tej krainie
Luba radość panuje i nigdy nie minie.
... I mieszkańców darami zaszczycając swemi,
Już szczęśliwych uczyńmy jeszcze szczęśliwszemi.

Józ. Szymanowski, *Świątynia Wenery w Knidos*[2]

Пан Падстоліц з Уладзіславам прыехалі праз парк на шырокі дзядзінец, аддзелены ад рынку бульварам з таполяў; у канцы дзядзінца, фасадам да горада, узвышалася лёгкая, у грэцкім стылі святыня; вакол дзядзінца стаяла некалькі дамоў у засені пладовых дрэваў; каля аднаго з іх яны ўбачылі каляску пані Падстолічыхі.

– Мая жонка прыехала наведваць шпіталь, – прамовіў пан Падстоліц, накіроўваючы туды свайго каня.

Яны падняліся па сходах на другі паверх, і ў першым пакоі іх спаткала пані Падстолічыха.

– І я толькі яшчэ ўвайшла сюды, – сказала яна. – На доле аглядала кухню і пральню. Наша гаспадыня годна адпавядае свайму прызначэнню; паўсюль чысціня і парадак.

– Хто ж гэтая гаспадыня? – запытаўся Уладзіслаў.

– Выхаванка нашае шляхецкае школы, – адказаў пан Падстоліц. – Ёй дапамагаюць дзяўчаты, якія пасля заканчэння навукі ў гарадской школе, замест таго, каб служыць, як іншыя, на фабрыках альбо ў крамах, застаюцца на колькі гадоў тут.

Яны ўвайшлі ў другі пакой, дзе ляжала некалькі хворых.

– Тут лечацца не толькі нашыя сяляне, – патлумачыла пані Падстолічыха, – але і хворыя з ўсёй парафіі.

– А за чый кошт яны тут? – запытаўся Уладзіслаў.

– За кошт касы страхавання, – адказаў пан Падстоліц. – Усе гаспадары і слугі нашае парафіі плацяць у гэтую касу пэўны працэнт ад сваіх прыбыткаў; і частка гэтае складкі ідзе на ўтрыманне шпіталю і доктара. Кожнага, хто захварэе, адразу перавозяць сюды, таму сямейнікі вызваляюцца ад клопатаў, страты часу і ад заразлівасці, а хворы, якога клапатліва і ўмела даглядаюць, выздараўлівае хутчэй, чым мог паправіцца дома.

Хворыя, што ляжалі ў чыстых пасцелях, калі ўбачылі паноў, узрадаваліся, нібы адчувалі палёгку ў сваіх пакутах і болесці, некаторыя прыпадымаліся і са

слязьмі ў вачах цалавалі ў руку Падстолічысе, якая для кожнага знайшла ласкавае слова суцяшэння.

– Даверцеся Богу, – казала яна. – Бог пасылае чалавеку выпрабаванні, але ніколі не дапусціць таго, што не было б нам на дабро. Самы малы чарвяк без Ягонае Волі не загіне, а тых, хто спадзяецца на Ласку Божую, чакае суцяшэнне.

– Нават хвароба – шчасце, калі апякуецца такая добрая пані, – азваўся адзін з хворых.

– Мой браце, – адказала яна, – усе мы можам любіць бліжніх, кожны можа быць добрым і мець гэткія ж заслугі перад Богам ды людзьмі. А дзе пан Доктар? – запыталася яна ў маладой дзяўчыны, якая дзяжурыла ў гэтай палаце.

– Ён зараз абходзіць іншыя палаты, – адказала апякунка.

Яны перайшлі ў палату, дзе ляжалі хворыя кабеты, якіх пані Падстолічыха падобным чынам суцешыла, а потым прапанавала ўсім ісці далей і адчыніла дзверы ў наступную палату. Там яны сустрэлі невысокага самавітага мужчыну, твар якога спалучаў выраз асаблівае лагоднасці з вострай праніклівасцю. Побач з ім ішла паненка. Анёльскую дабрыню ейнага твару атачала фальбонка белага чапца, падвязанага пад барадою блакітнаю стужкаю; а зграбную постаць ахопліваў беласнежны фартушок. Больш за дзясятак дзяцей featured рознага веку, убачыўшы паноў, пакідалі свае цацкі і, працягваючы ручкі, пабеглі да іх з радасным крыкам.

– Як маецеся, мае дзеткі? – ласкава вітала іх пані Падстолічыха. – Добры вечар, Анэтка, добры вечар, пане Доктар. Што ж тут у нас з Ласкі Божае?

– Дзякуй Богу, – адказаў Доктар, – апрача хранічных, хворых няшмат. Клопату пані Анэты абавязаны мы, што ў гэтых дзетак шкарлятына мінула без наступстваў: усе выздаравелі; некалькіх ужо адправілі да бацькоў альбо ў школы.

– Дык гэтая садавіна ім ужо не зашкодзіць? – запытала пані Падстолічыха, вымаючы кошык з-пад плашча.

З дазволу Доктара яна пачала раздаваць садавіну дзецям. Потым дадала:

– Анэтка, загадай прынесці з каляскі для старэйшых павідла і сокі ды падзялі іх сярод тых, каму можна.

Тым часам пан Падстоліц павёў Уладзіслава далей. У наступным пакоі была добра ўпарадкаваная аптэка, а за ёю – некалькі меншых палатаў для хворых афіцыялістаў з гэтае парафіі.

– Яны таксама, – тлумачыў пан Падстоліц, – пераканаліся ў карыснасці нашае ўстановы, дык робяць узносы са сваіх заробкаў у касу страхавання і маюць дапамогу, якое ў іншым месцы не атрымалі б.

– А ці маюць мяшчане асобны шпіталь? – запытаўся Уладзіслаў.

– Не маюць. Усе без выключэння жыхары парафіі адлічаюць у агульную касу пэўны працэнт сваіх прыбыткаў на гэтую справу, і розніца толькі ў тым, што сяляне плацяць 2 працэнты, а мяшчане – тры, бо яны цэлымі днямі сядзяць і на вольным паветры не працуюць, як сяляне, дык і хварэюць часцей. У першым памяшканні бачыў васпан дваіх мяшчанаў[I].

– Здаецца, што людзі ў гэтай ваколіцы адораныя нейкім асаблівым здароўем: гэтак мала тут хворых.

– Бывае, часам, і больш, – адказаў пан Падстоліц. – Але звычайна значна менш, чым у іншых месцах; гэта з-за цвярозага і актыўнага ладу жыцця ды з-за таго, што хутка аказваецца дапамога, калі хто захварэе. І паміраюць ад

хваробаў у нас непараўнальна менш, чым у тых мясцовасцях, дзе няма падобных шпіталяў. Шкарлятына гэтая, напрыклад, без хуткае і клапатлівае дапамогі забрала б у нас, можа, палову дзяцей. Кожная эпідэмія, якая гэтак жа хутка і старанна лечыцца, заканчваецца тут звычайна вельмі малымі стратамі. Зараз пойдзем далей.

Яны развіталіся з Доктарам, пані Падстолічыхаю, з хворымі і пайшлі да другога дому.

– Шпіталь са сваім садам, – расказваў пан Падстоліц, – аддзелены ад іншых садоў вось гэтым хвойнікам, каб заўсёды захоўвалася бальзамічнае паветра і дзеля таго, каб не распаўсюджвалася далей нездаровыя выпарэнні. Вось у тым дамку жыве Доктар са сваёй сям'ёй. Мы задаволены ім: гэта чалавек добра адукаваны, не эмпірык, але ў поўным значэнні лекар-філосаф. Пільны, чулы, не лічыць чалавека за мізэрнае быдла; уваходзіць у яго становішча, разумее пачуцці ягонае сям'і, агульную карысць, дык шчыра, з усім стараннем ратуе ён кожнага.

– Мала такіх лекараў, – заўважыў Уладзіслаў. – Яны ў большасці карыслівыя: дбаюць пра хворых толькі тады, калі тыя могуць заплаціць.

– Ніколі б я такога не наняў, – адказаў пан Падстоліц. – На плаце лекарам, праўда, ашчаджаць нельга, бо яны шмат выдаткавалі на сваю навуку, а будучыню сваю прысвяцілі дапамозе бліжнім; іхні час і дасведчанасць трэба лічыць капіталам: і калі яны выдаткоўваюць частку яго на хворага, дык хворы абавязаны вярнуць гэтую частку капіталу ў іншай форме: у знаках вартасці ўсялякага капіталу – у грашах. Але за клопат, чуласць і здароўе, якое той дзеля іх ахвяруе, ніколі ў дастатковай меры немагчыма расплаціцца інакай, чым сэрцам. Таму мы мусім шанаваць і любіць гэтых людзей, якія ахвяруюць сабою дзеля дабра чалавецтва, бо яны па закліку сэрца з'яўляюцца нашымі сябрамі, а Ласкай Божаю яны выбраныя быць пацяшальнікамі роду людскога.

– Вось гэта дом апекі, – працягваў ён, уваходзячы ў вялікія сенцы, дзе было трое дзвярэй з таблічкамі.

На правых было напісана: *Грош да гроша, і будуць тысячы;* на сярэдніх: *Блаславёныя міласэрныя, бо яны зведаюць міласць;* на левых: *Празорлівага не знішчыць неспадзяванасць.*

– Тут, – тлумачыў ён, адчыняючы правыя дзверы, – знаходзіцца ашчадная каса.

Некалькі прыстойна апранутых чалавек, пісалі за сталамі, накрытымі зялёным сукном, а калі ўбачылі пана Падстоліца, дык усе падняліся, каб прывітаць з пашанаю гасцей, якім падалі крэслы.

– Дзякуем вам, дзеці мае, – сказаў пан Падстоліц, – мы зайшлі толькі зазірнуць ў вашыя кнігі. Гэта выхаванцы тутэйшае купецкае школы, – знаёміў іх з Уладзіславам. – Вось у гэтых кнігах – рахункі кожнага жыхара парафіі. Вось мой рахунак. Не так дзеля выгады, а, хутчэй, дзеля прыкладу, і мы, землеўласнікі, таксама аддаём сюды частку нашых прыбыткаў. Усе слугі, падзёншчыкі, нават і самі купцы не ўхіляюцца ад таго, каб складаць тут свае ашчаднасці, а як толькі набярэцца дзесяць злотых, дык штомесяц на іх налічваецца працэнт. У другой палове дня ў нядзелю ўбачыў бы тут васпан натоўп людзей рознага стану, якія прыносяць і забіраюць грошы. Працэнт, здаецца, і невялікі, бо каса, прымаючы грошы, плаціць за адзін месяц толькі чатыры шэлягі[3] з дзесяці

злотых, а калі пазычае, дык бярэ чатыры з паловаю. Сума, што набягае з тае дадатковае паловы шэлегу, ідзе на аплату дырэкцыі і канцылярыі, а рэшта залічаецца на фундуш касы апекі. Затое карысць вялікая, бо самая дробная сума не ляжыць у людзей без ужытку, а пастаянна расце з-за працэнтаў для гаспадара, а таксама значна памнажае агульную масу нашае маёмасці[II].

– Дзе ж выкарыстоўваюцца сабраныя тут сумы? – запытаўся Уладзіслаў.

– Мы пазычаем купцам альбо рамеснікам пад працэнт. Могуць браць і сяляне, якія могуць даць у заклад уласную зямлю, альбо ўласны мураваны дом на чыншавай зямлі, альбо нейкія тавары ці прылады працы. Кожны знаходзіць тут сродкі ў патрэбе альбо на рамяство, а ўласнік грошай спакойны за свой капітал і заўсёды ўпэўнены ў прыбытку; бо мы, землеўласнікі, паручыліся за бяспеку гэтае касы. Апрача таго, уласнік можа ў любы час забраць грошы з усімі працэнтамі, якія нараслі, калі не наяўнымі, дык квітком, за які ад кожнага з нас атрымае належную колькасць манетамі.

– Дык гэтая каса з'яўляецца нечым накшталт ламбарду? – выказаў меркаванне Уладзіслаў.

– Палучылі мы часова гэтыя дзве, нібы розныя, установы. Нашая дзейнасць не надта вялікая, бо абмежаваная адною парафіяй; а жыхарам выгадней у адным месцы мець усе разлікі. Пойдзем зараз у памяшканне апекі.

– Гэтыя іхмосці, – працягваў ён, уваходзячы ў сярэднюю залу, дзе ад сталоў паднялося некалькі старых, – выбраныя ад усіх трох станаў нашае парафіі. Яны сочаць за тым, каб былі забяспечаныя ўдовы, сіроты, збяднелыя слугі і людзі, якіх адсюль аддалі ў войска. На гэтыя мэты кожны з жыхароў нашае парафіі складае адзін працэнт ад свайго чыстага прыбытку. Гэтую суму апека ўжо ад сябе аддае ў ашчадную касу і, атрымліваючы працэнты альбо капіталы, дапамагае тым, каму дапамога патрэбная. Запісаныя тут, як бачыш васпан, асобы, што належаць да апекі. Сіроты часткова за ейны кошт выхоўваюцца. На гэта не шмат грошай ідзе, бо паводле прынятага ў нас парадку дзеці маюць у ашчаднай касе пакладзеную бацькамі суму, а з шасці гадоў ужо могуць самі зарабляць. Іхні фундуш у касе ляжыць недатыкальны, на выхаванне ідуць толькі працэнты з яго, а сам капітал яны атрымліваюць пасля заканчэння адукацыі на пачатак рамесніцтва. Здольным займацца нейкім рамяством удовам налічваецца тут патрэбная дапамога; няздатным да працы і старым належыць утрыманне; збяднелыя слугі атрымліваюць дапамогу з умоваю, што яны яе адпрацуюць; тым, каго забралі ў рэкруты, як людзям, што ахвяравалі сабою дзеля ўсяе гміны, штогод дасылаецца пэўная сума як ўзнагарода. А калі нехта вяртаецца з войска, дык знаходзіць тут дапамогу, каб пачаць гаспадарыць альбо рамесьнічаць.

Апрача таго, апека сочыць за бяспекаю слуг і падзёншчыкаў, якіх у нас ніхто беспакарана не можа пакрыўдзіць; апека за іх заступіцца і будзе патрабаваць адказнасці за няслушную крыўду ў адпаведным месцы. Нарэшце, шпіталь, ашчадная каса і каса страхавання, як і ўсе публічныя ўстановы нашае парафіі, а таксама лясы, будовы і дарогі знаходзяцца пад наглядам ды распараджэннем гэтае апекі.

Уладзіслаў з пашанаю пазіраў на шаноўных старцаў, якія мелі гэткі давер сваіх братоў. Яго ўжо не дзівілі гэтыя ўстановы ды ідэі, якія паклікалі іх да жыцця, бо ён зразумеў, нарэшце, што кожны крок на шляху сумленнага

адміністравання вядзе да ўсё больш карысных і чалавекалюбных удасканальванняў.

– У гэтай трэцяй зале, – працягваў расказваць пан Падстоліц, калі яны ўвайшлі ў апошнюю, – знаходзіцца каса страхавання. Тут наступныя таварыствы: ад агню, граду, паводкі, паморку кароў, коней, пчолаў, авечак і г. д. палучаныя ў адным агульным страхавым таварыстве. Сябрамі яго з'яўляюцца жыхары нашае парафіі, прымаем мы і з суседніх. Удзельнікам робіцца той, хто нешта са свае маёмасці страхуе, а таго, хто не хоча гэтага рабіць, ніхто не прымушае, але ў выпадку шкоды, мы пастанавілі такім не дапамагаць. Кожны можа застрахаваць тут свой дом, пасевы, маёмасць, тавары – словам, любую рэч, якая мае пэўную вартасць. Ад сумы, на якую гэта рэч тут будзе ацэненая, мусіць плаціцца пэўны працэнт, а ў выпадку, калі згарыць дом, вымакнуць пасевы альбо іх павыбівае градам, загінуць тавары, прападзе маёмасць непрадбачаным чынам і г. д., дык каса, якая праверыць і ўпэўніцца, заплаціць за ўсю шкоду. А калі шкода перавысіць фундуш гэтае касы, тады таварыства пазычыць у апекі, якой таксама ў добрыя гады перадае свае збыткоўныя фундушы[III].

Цяжка, праўда, было схіліць нашых людзей да гэткага страхавання, бо кожны, пакуль нешта не здарыцца, упэўнены, нібы яму пашчасціць больш, за іншых, дык працэнт на страхаванне лічыць за страчаны грош; але пасля некалькіх выпадкаў, асабліва пажараў і паморку быдла, калі застрахаваныя гаспадары адразу атрымалі грошы, а незастрахаваныя горка аплакалі сваю непрадбачлівасць, амаль не засталося ў нас аніводнага гаспадара, які б не застрахаваў усё, што мае.

– Пры гэтым мы пастараліся засцерагчыся ад падобных выпадкаў, – дадаў ён, калі яны ўжо выходзілі на дзядзінец. – Ёсць у нас парафіяльны ветэрынар, ёсць шпіталь для жывёлы, вось пад тым дахам – усё неабходнае для тушэння пажару і добра падрыхтаваныя пажарнікі. Апрача таго, кожны гаспадар ва ўсім наваколлі ў выпадку пажару абавязаны паспяшацца на ратунак, бо іначай заплаціць ён грашовы штраф[IV].

– Гэта, вядома, павінна цешыць, – выказаў сваё меркаванне Уладзіслаў, – гэткае забеспячэнне ад усялякіх мажлівых бедаў, што пастаянна валяцца на род чалавечы. Але сама гэтая забяспечанасць ад удараў лёсу ці не прывядзе да таго, каб людзі забыліся пра Бога, якога ім ужо няма чаго баяцца, бо яны стварылі сабе ўласную Ласку Божую, ад звычайнае нябеснае кары ўхіляючыся?

– На гэта, – сказаў пан Падстоліц, – адкажа табе наш святар, які якраз ідзе нам насустрач.

Сапраўды, набліжаўся да іх стары чалавек у чорным сурдуце з тым лагодным і поўным годнасці выразам на твары, які адразу дазваляе пазнаць стан духоўны, думкі, узнятыя да нябёсаў, і сэрца, поўнае любові да бліжняга, у адпаведнасці з паклІканнем быць пасярэднікам паміж Небам і зямлёю. З ветлівым ушанаваннем прывітаў яго пан Падстоліц і пазнаёміў з Уладзіславам.

– Паніч першы раз у гэтай мясцовасці? – запытаўся каплан, лагодна паціскаючы яму руку.

– Першы раз у жыцці Бог даў мне гэту прыемнасць, – адказаў Уладзіслаў. – Нельга не цешыцца ўсяму таму, што я тут убачыў, але адначасова адольвае мяне і смутак за іншыя, не гэткія шчаслівыя як вашая.

– Усё гэта стварыў вось гэты чалавек, – прамовіў каплан і паказаў на пана Падстоліца.

– Хутчэй, мае памочнікі і дарадцы, – удакладніў пан Падстоліц.

– Няхай васпан не бароніцца ад заслужанае пахвалы, – сказаў каплан. – Яна не ад ліслівасці. Прыемна казаць гэткую пахвальную праўду. Ад землеўласнікаў залежыць лёс мясцовасці, Ласкаю Божаю іхняй апецы даручанай. Тут маем мы прыклад, як могуць яны ўплываць на паляпшэнне дабрабыту і маральнасці сваіх падуладных...

– Мы якраз пра гэта і размаўлялі, – перапыніў яго пан Падстоліц. – Пан Уладзіслаў баіцца, каб страхаванне ад розных выпадкаў не зглуміла ў нашых сэрцах страху Божага. Адказ на гэты закід я пакінуў васпану дабрадзею.

– Ці не пажадаюць вяльможныя паны дабрадзеі зайсці да мяне ў хату? – прапанаваў святар, а пакуль яны ішлі, ён тлумачыў Уладзіславу: – Мы любім Бога. Гэта больш прыемная і моцная сувязь з Богам, чым пастаянная трывога і страх. Карыстаючыся здаровым розумам, якім Бог адарыў чалавека, мы стараемся асланяць сябе ім; і за найдаражэйшы дар Бога гэты здаровы розум ўважаючы, вучымся з дзяцінства быць Яму за гэта ўдзячнымі, любіць Яго, як добрага Айца, і свае душы да Неба любоўю ўздымаць.

Бо, каб не варта было бараніцца ад натуральных здарэнняў, якія няўхільнаю караю Божаю ў іншых месцах лічаць, дык належала б туляцца па лясах без вопраткі, без прыгатаванае ежы, без лекараў у выпадку хваробы і без дапамогі бліжніх у бядзе, таму што і дамы, і вопратка, і згатаваная ежа, і лекі, і дапамога з'яўляюцца забеспячэннем ад невыгодаў, ад хваробаў і няшчасцяў. У дзікім стане чалавек задавольваецца малым, але чым больш развіваецца ягоны розум, тым больш знаходзіць ён сродкаў, каб супрацьстаяць стыхійным бедствам, і тым больш набліжаецца ён да Таго, хто яго гэтым панаваннем над прыродаю надзяліў. Калі раней страх утрымліваў чалавека ад кепскага, дык цяпер з-за любові стараецца ён чыніць дабро. І наколькі больш прыемнае адчуванне любові, чым пераследу, гэтак і больш высокія памкненні ў таго, хто кіруецца любоўю, і больш прыгожа ззяе ў ім годнасць чалавечае натуры.

Гэтак, нават калі ад усіх прыродных бедстваў ухіляемся, мы ўдасканальваем нашую маральнасць і пазнаём у гэтым Ласку Божую. Але і ў такім становішчы чалавек не пазбаўляецца ад заслужанага пакарання нябёсаў. Бедствы, якія Бог насылае, недаступныя розуму: яны могуць раніць душу чалавека расчараваннем у сяброўскіх пачуццях, у каханні, у сямейных сувязях, а могуць выявіцца ў хваробах, болесцях, жарсцях, кепскай славе.

Але і ад маральных пакаранняў мы стараемся забяспечыць сябе маральным выхаваннем, яшчэ змалку ўнушаючы любоў да добрага Бога ў кожную душу, каб пільнавацца Ягоных прыказанняў: імкнуцца да праўды, старацца панаваць над жарсцю, словам, сумленна выконваць усе хрысціянскія абавязкі чалавека.

– І гэта, уласна, паводле майго меркавання, – падтрымаў размову пан Падстоліц, – з'яўляецца трыумфам добрага выхавання. Нялёгка прышчапіць людзям і падтрымліваць сярод іх маральную чысціню, бо кепскі прыклад настаўніка выклікае недавер да навукі, паблажлівасць асмельвае на злачынства, прымус адварочвае ад самага добрага. Толькі лагодная перасцярога, суровая чуйнасць, добры прыклад і выразнае заахвочванне прыгажосцю

і годнасцю тае мэты, якую паказвае чалавеку Бог, здольныя здзейсніць гэтую вялікую справу.

Гэткім шляхам якраз і вядзе нас наш шаноўны святар. Не пагрэбуй, ойча, гэтай узаемнай – слушнай і належнай табе – пахвалой. Калі мне з Ласкі Божае наканавана падаць руку маім братам і паказаць ім шлях, дык ты абраны іхнім правадыром на гэтым шляху. Адпавядаеш годна свайму пакліканню, бо вучыш і ўласным прыкладам пераконваеш нашых братоў імкнуцца да дабрачыннасці, а таксама не адмаўляеш і тае праўды, што пры асвеце толькі там дабрачыннасць расквітнее, дзе чалавека ўбоства альбо цяжкія абставіны не змушаюць да злачынства, дзе ён упэўнены, што атрымае ўзнагароду за працу, і што ў самой дабрачыннасці – невычарпальная крыніца яго дабрабыту. Патлумачыў ім абавязкі чалавека перад грамадствам і перад Богам, навучыў любіць бліжніх ды імкнуцца палепшыць уласны дабрабыт, каб выкарыстоўваць яго дзеля агульнага дабра і каб аддзячыць Богу. Гэта ўсё твая справа. Дык цешся, бо Ласка Божая ўзнагароджвае цябе яшчэ ў гэтым жыцці.

– Будзем Ёй удзячныя, – падхапіў святар, – мы абодва былі Яе прыладай, Ёй належыць хвала. Імкнуцца палепшыць жыццё ў сваім наваколлі па Волі Божай – гэта пакліканне кожнага землеўласніка, а дапамагаць яму – абавязак кожнага каплана. Хто ўхіляецца ад гэтага ганаровага паклікання альбо ад свайго абавязку, выракаецца гэтым ад заслугаў і ўзнагародаў у сваёй няўдзячнасці Айцу Нябеснаму, не ведаючы цаны свайго вялікага прызначэння ды адмаўляючыся ад пачэснае Ягонае ўзнагароды.

Яны ўвайшлі ў малы акуратны дамок у прыгожым іанічным стылі[4] на другім баку дзядзінца. У пrасторным першым пакоі шляхетная сціпласць сведчыла пра тое, што гэта жыллё святара. Мэбля была простая, пафарбаваная, эбэнавы крыж з распяццем з косці на стале, пакрытым абрусам, і вазоны з кветкамі на вокнах былі ўсёю аздобаю гэтага пакою.

– Ці можна паказаць майму госцю бібліятэку? – запытаўся пан Падстоліц.

І са згоды гаспадара яны ўвайшлі ў другі пакой, застаўлены шафамі, у якіх за шклом блішчалі рады кніг у пераплётах.

– Гэта бібліятэка плябаніі? – спытаў Уладзіслаў.

– Гэта ўласнасць усяе парафіі, – адказаў святар.

– Як гэта? Усе прынеслі сюды свае кнігі?

– Спачатку сабралі мы ўсе, якія ў нас былі, – адказаў пан Падстоліц. – Нам здавалася, што больш карысна будзе для ўсіх жыхароў парафіі мець адну агульную бібліятэку, чым шмат асобных. Бо ў прыватным доме кніга, якую ўжо прачыталі, ляжыць без ужытку, а грошы, выдаткаваныя на яе, гінуць; калі мы пазычаем кнігу некаму з суседзяў, дык здараецца, што з-за неахайнасці альбо нядбальства кніга псуецца, а далікатнасць не дазваляе гаспадару нагадаць пра шкоду; ён тады робіцца абачлівы і трымае свае кнігі дома. Даходзіць да таго, што нават самыя лепшыя кнігі, раз альбо два прачытаныя, без ужытку пакрываюцца цвіллю. Здараецца, што некалькі суседзяў набываюць аднолькавыя творы, дык за грошы, якія яны трацяць, можна было б некалькі розных твораў набыць і ўзаемна пазычаць іх адзін аднаму, пашыраючы свае веды.

У цяперашні час, калі чытанне зрабілася неабходнасцю, шмат у каго ахвоты і часу для чытання больш, чым магчымасцяў, бо звычайна мы не ў стане столькі купіць кніг, колькі можам прачытаць. Вясковаму жыхару, нават калі

ён і заможны, але жыве далёка ад горада, цяжка выдаткаваць грошы на кнігі, калі няма паблізу кнігарні. Нарэшце, і добры выбар зрабіць здольны не кожны, хто іх купляе, бо не кожны ведае, што будзе найбольш карысна яму. А нашая прызвычаенасць да недахопу кніг чыніць нас абыякавымі да гэтае крыніцы ведаў і задавальнення; мы вучымся шукаць пацехі ў картах, навінаў – у арандара, ведаў – у старых паданнях, а пра кнігу думаць забываем.

Каб даць рады гэтаму, мы і задумалі скласці адну парафіяльную Бібліятэку і аддаць яе пад нагляд такога чалавека, які б не толькі клапаціўся пра захаванне кніг, але мог бы параіць недасведчаным, што ім карысна пачытаць, і што нам варта набываць. Гэтакага бібліятэкара знайшлі мы ў асобе нашага святара.

Складзеная спачатку з невялікай колькасці кніг наша бібліятэка пачала і па ўсім наваколлі веды пашыраць і сама павялічвацца. Бо кожны за карыстанне пазычанаю кнігаю мусіць заплаціць 5 працэнтаў ад яе кошту. Кожную нядзелю пасля набажэнства мы вяртаем прачытаныя кнігі і бяром новыя. Адну кнігу нельга трымаць у сябе даўжэй, чым неабходна для яе прачытання, альбо давядзецца плаціць за кожны новы тэрмін. Такім чынам кнігі хутка вяртаюцца ў бібліятэку, і ніхто не бярэ за раз больш кнігаў, чым ён можа прачытаць, бо мусіў бы больш заплаціць. Кожныя тры месяцы мы падлічваем прыбытак і набываем за яго новыя кнігі. Кожны мае права замовіць паводле свайго выбару такую колькасць кнігаў, якую можна купіць за тыя грошы, якія ён да гэтага часу заплаціў за чытанне. Бяруць тут кнігі не толькі землеўласнікі, але і слугі, і мяшчане-рамеснікі. Настаўнікі нашых школ атрымліваюць іх бясплатна, але толькі тыя, што адпавядаюць іх прадмету, а за іншыя яны плацяць, як і ўсе мы.

Гэтак забяспечылі мы сябе кнігамі і чытаем болей, чым маглі б чытаць, маючы толькі свае, хатнія ці пазычаныя, і выдаткоўваем у дваццаць разоў менш, чым трацілі б, каб давялося купляць усе творы, якія чытаем.

Пасля невялікага адпачынку ў плябана яны развіталіся з ім, і пан Падстоліц бульварам павёў Уладзіслава да рынку.

– Гэткі святар, – сказаў Уладзіслаў, – заслугоўвае пашаны і любові.

– Гэты стан, – адказаў яму пан Падстоліц, – сам па сабе варты пашаны, можа прычыніцца да агульнага дабра, абы толькі ўмеў адчуваць і цаніць сваё прызначэнне. Няма больш пачэснае пасады, чым весці людзей па шляху да маральнасці. Чалавек, які прысвячае сябе на гэткае служэнне, годны шанавання, а той, хто здолее ўзняцца да годнасці свайго паклікання і старанна выконвае свае абавязкі, заслугоўвае любові.

– Але як жа мала гэтакіх святароў! – заўважыў Уладзіслаў. – Як шмат сярод іх каменных і змрочных эгаістаў, хцівых і марнатраўных вымагальнікаў, ганарыстых і злосных лайдакоў, распусных дармаедаў альбо фанатыкаў, якія адно толькі пакутамі ды пракляццем грозяць! Сапраўды, назіраючы гэткія заганы сярод духавенства, няма чаго і дзівіцца, што ўсе гэтак зняверыліся і ледзь не апошнюю ўжо павагу да гэтага стану ў сваіх сэрцах страцілі.

– Калі нехта ў гэтым стане, – адказаў пан Падстоліц, – не кіруецца шляхетнымі памкненнямі, дык абвінавачваць у гэтым трэба, хутчэй, выхаванне і адукацыю, а не стан. Аднак можам цешыцца надзеяй, што з гэтага часу пачне адраджацца наша духавенства. На адукацыю моладзі, якая ахвяруецца на

служэнне, ужо звярнула ўвагу ўлада, і ейны клопат ужо адзначаны добрым пачаткам. Абы толькі новыя святары не збочвалі з паказанага ім шляху ды, стаўшы ўзорам для былых сваіх братоў, здабылі павагу ў грамадстве.

– Калі для цяперашняга грамадства ўзнагароды сталіся матывацыяй, каб чыніць дабро, – сказаў Уладзіслаў, – дык, можа, належала б для гэтага стану іх больш, чым для іншых, прыдумаць?

– У духоўніка, – адказаў пан Падстоліц, – дзве мэты: духоўная і зямная. Гэта значыць: пакланенне Богу, альбо рэлігія, а таксама маральнасць, якая грунтуецца на рэлігіі. Заслугі, якія таксама з абодвух бакоў разглядаюцца, справядліва павінны мець двайную ўзнагароду. Першая – незалежная ад свету – прыгатаваная ім вышэй, а другая з'яўляецца абавязкам грамадства.

Але чым жа грамадства можа ўзнагародзіць святароў за гэтае ахвяраванне дзеля ягонага дабра? Звычайныя свецкія ўзнагароды непрыдатныя для гэтага стану, першая мэта якога загадвае ўзвысіцца над імі. Свецкая слава для іх – марная марнасць, а фундушы, прызначаныя на ўтрыманне духавенства, неабходныя толькі для забеспячэнне іх побыту, а не для ўзнагароды, і яны нават не павінны пераўзыходзіць іх патрэбаў, бо лішак псуе чалавека. Але ўзнагародаю, якую грамадства павінна ім, з'яўляецца агульнае ўшанаванне сану. Даўней перабралі ў гэтым меру, і духавенства, калі ўбачыла перад сабою скораны люд, зажадала выкарыстаць сваю ўладу і пачало ўмешвацца ў тое, што ім не належала. Але асвета цяпер і святарам паказала, што лепш абмежавацца сваімі абавязкамі, што ў тым слава чалавека, каб ён старанна іх выконваў, а не ў тым, каб валадарыць альбо панаваць. І дзякуючы асвеце, для тых, хто шанаваць іх павінны, вызначыліся межы, гэта значыць, навучыліся мы падпарадкоўвацца ім не больш за тое, колькі загадвае нам абавязак. Гэткае ўзаемнае прызнанне абавязкаў і стараннае іх выкананне, утвараючы гармонію ў грамадстве, спрыяе агульнаму дабрабыту; а перакананне, што абавязак належным чынам выкананы, павінна быць галоўнаю ўзнагародай для кожнага чалавека, і тым больш для таго, хто з-за свайго паклікання павінны быць правадніком на гэтым шляху.

## Раздзел другі

# ГОРАД

Już wreszcie wstępowali na wzgórek wysoki,
Którego szczyt daleko nad mury wyrasta,
Patrząc na wieże przeciw leżącego miasta.
Zdziwiają wodza gmachy, przedtem chaty małe,
Bruk ulic, hałas ludzi, bramy okazałe;
Pracują Kartagincy z zapałem, z rozkoszą;
Ci mur, ci zamek stawią, ci kamienie znoszą.
Tu plac na różne domy rowami wytknięty.

Fr. Dmochowski, *Eneida* I[5]

– Вось і наша мястэчка, альбо горад, – сказаў пан Падстоліц, паказваючы з рынку на некалькі вуліц, забудаваных добрымі дамамі.

– Ці і яно пабудаванае васпанам дабрадзеем? – запытаўся Уладзіслаў.

– Супольна з маімі суседзямі.

– Не разумею, якая можа быць карысць ад такога адарвання капіталаў ад сельскае гаспадаркі. Гэтыя мураваныя гмахі каштавалі сотні тысячаў…

– Чуеш шум і грукат з тых гмахаў? – перапыніў яго пан Падстоліц. – Можа, думаеш, што мы пабудавалі іх, толькі каб упрыгожыць ваколіцу? Маючы на мэце дабрабыт, пастанавілі мы лічыць гэтую мясцовасць асобнаю дзяржаваю і дастасоўвалі ўсю палітычную эканомію, дзеля таго, каб кіраваць ёю. Ведаеш, што гэтаксама, як гарады, мануфактуры ды гандаль не могуць развівацца без упарадкавання быту сялянства і гарантавання іх уласнасці, гэтак і земляробства не можа развівацца без мануфактураў ды гандлю. Гэта тры грацыі, якія трымаюцца за рукі.

Бо пакуль мануфактуры і гандаль будуць працаваць толькі дзеля вышэйшых класаў грамадства, да таго часу іх дзейнасць будзе абмежаваная; калі ж уся маса люду, упэўненая ў выніках свае працы, адчуе перавагу больш выгоднага жыцця ды цывілізацыі, тады прамысловасць і гандаль, атрымаўшы больш шырокае поле дзеля свае дзейнасці, змогуць стаць сапраўды нацыянальнымі, моцнымі і дадуць магчымасць зарабіць на жыццё мноству жыхароў.

У сваю чаргу, пакуль не ўзнікнуць у краі мануфактуры, мы альбо не будзем мець матывацыі дзеля вырошчвання шматлікіх сельскагаспадарчых культураў, альбо, абмяжоўваючыся іх вывазам за мяжу, будзем залежаць ад запатрабаванняў замежнікаў, ад міру альбо вайны! А нашая сельская гаспадарка, не маючы пэўнасці ў збыце, не зможа развівацца.

Вопыт пацвердзіў гэтыя высновы ў нашым краі. Пакуль мы абмяжоўвалі нашую дзейнасць адною сельскаю гаспадаркаю, чым жа яна была? Вытворчасцю збожжа, якая вынішчала глебу, і нічым болей. А наш люд заставаўся ў дзікунскім стане не ад чаго іншага, як ад недахопу майстроў-рамеснікаў, бо

толькі разам з імі ідзе асвета ды багацце. Неабходныя нам мануфактуры як для перапрацоўкі нашае сыравіны, гэтак і для развіцця нашага земляробства...

– Ці ж не было б лепш для землеўласнікаў, – перапыніў яго Уладзіслаў, – каб кожны ў сваім маёнтку пабудаваў адну мануфактуру, чым іх грамадзіць тут усе разам у адным месцы? І наглядаць было б лягчэй дома.

– Кожны з нас, землеўласнікаў, – адказаў яму пан Падстоліц, – мае шмат такое прадукцыі, якая ў выглядзе сыравіны даволі танная, але перапрацаваная, яна не толькі затрачаную працу шчодра акупляе, але і прыносіць добры прыбытак для прадпрымальніка. Іншыя ж, хоць і вельмі карысныя, але калі няма магчымасці іх хутка перапрацоўваць, дык зусім непрыдатныя для вырошчвання. Але не кожны землеўласнік здольны пабудаваць ў сябе гэтулькі мануфактураў, колькі ў яго ёсць розных прадуктаў дзеля перапрацоўкі; нават самыя заможныя ледзьве могуць ўтрымліваць адну альбо дзве асноўныя, а ўсе іншыя прадукты, якія на тых фабрыках не могуць быць перапрацаваныя, збываюць з рук з вельмі малым прыбыткам альбо і зусім без яго. Утрыманне мануфактуры на кожны наш прадукт вымагала б большых коштаў, чым перапрацоўка невялікае колькасці гэтага прадукту магла б прыносіць прыбытку, бо ў невялікіх маштабах кожная фабрыка даражэй абыходзіцца, чым сама можа зарабіць. І наадварот, кожная з іх лепш працуе, калі мае вялікі абарот капіталу, і калі прадпрымальнік адною толькі ёю займаецца. Бо матэрыялы оптам танней каштуюць, адміністрацыя ў разліку на большую колькасць працоўных месцаў таксама абыходзіцца танней, і выдаткі на пабудову ды машыны хутчэй вернуцца пры большых маштабах. З-за гэтага таксама вырабы на большай мануфактуры прыносяць большыя працэнты, хоць па гэткай самай цане, як з іншых фабрык, прадаюцца, альбо, калі яны прадаюцца танней, дык большы абарот і першынства сярод гэтакіх самых фабрык забяспечваюць.

Жадаючы, гэткім чынам, мець прыбытак з мануфактураў, а таксама не страчваць на збыце сыравіны, належала б будаваць на кожны прадукт фабрыку і кожную – у буйным маштабе, і ўсімі імі кіраваць. На што, дакладна, ані часу, ані грошай нікому паасобку не хопіць.

Таму мы вырашылі ў нашых маёнтках толькі падрыхтоўваць сыравіну для мануфактураў; а самі мануфактуры пабудаваць агульным коштам у адным месцы. Гэта карысна і для нас саміх і для нашых меней заможных суседзяў, якія б не маглі аніякае фабрыкі ў сябе ўтрымліваць, і, нарэшце, для сялянаў нашых, які могуць з выгадаю збываць свае прадукты на мануфактуру, якая знаходзіцца паблізу.

Таму ў маёнтках і ў сялянскіх хатах у нас толькі прадзільні, а вялікая ткацкая фабрыка і бялільня тут агульныя, і пад кіраўніцтвам добрых майстроў. Тое самае з цукрам: дома ў нас толькі цукроўні, а тут агульная рафінерыя.

Але мануфактуры маюць такую асаблівасць, што адна цягне за сабою другую і спрыяе ёй у вытворчасці. Рафінерыі патрэбны касцяны млын, ткацкай фабрыцы – бялільня, а для яе патрэбныя хімічныя вырабы, нявыкарыстаныя рэшткі якіх могуць быць прыдатныя ў красільні, у паперні, у майстэрні вырабаў з рогу, што і заахвочвала да будовы гэтых фабрык. А красільня, бялільня і ткацкая фабрыка спрыялі ўзнікненню вельмі прыбытковае кравецкае майстэрні. Той гмах, які вунь там будуецца, прызначаны на суконную мануфактуру, якой не было ў нас, пакуль не завялі ў гэтых мясцінах добрых іспанскіх

авечак і не навучыліся сартаваць воўну. Там – мануфактура вырабаў з нечасанае воўны і з казінага пуху.

Такім чынам, сабраныя ў адным месцы фабрыкі ўзаемадзейнічаюць і ствараюць адна для аднае больш выгодаў, бо хутка пастаўляюць неабходныя матэрыялы, а з мястэчка фарміруюць нешта падобнае на гандлёвы пункт, што заахвочвае купцоў мець тут свае сядзібы.

Аднак належыць прызнаць, што было ў нас напачатку нямала клопатаў і, вядома, каб быў паблізу нейкі горад, да якога зручна дабірацца і які забяспечваў бы нам гэтакі самы карысны збыт нашае сыравіны, працу ды абарот нашых капіталаў, дык, можа, і не сталі б мы будаваць тут новае мястэчка.

– Дзівіць мяне толькі, – прызнаўся Уладзіслаў, – што суседзі васпана дабрадзея згадзіліся пабудаваць мястэчка на зямлі васпана дабрадзея. У іншым месцы кожны пажадаў бы мець яго ў сябе і ад зайздрасці толькі не захацеў бы ўвайсці ў суполку.

– Не абышлося і ў нас спачатку без гэтых глупстваў, – адказаў пан Падстоліц. – Была тут здаўна, як я ўжо казаў, вёска з прывілеямі, якую называлі мястэчкам. Выселіў я адсюль усіх сялянаў і рассяліў іх на абложных землях, а суседзяў маіх заклікаў супольна падтрымаць мае намеры. Спачатку амаль кожны захацеў мець горад на ўласнай зямлі, не зважаючы, што гэтая мясціна была самая выгодная. Як толькі я здагадаўся, у чым тут справа, дык прапанаваў, каб кожны набыў сабе ў гэтым месцы гэтулькі пляцаў зямлі, колькі захоча, па самай нізкай цане, і нават дарам некаторым раздаваў...

– І кожны на сваім сам будаваў?

– Зусім не. Усе будынкі былі пастаўленыя агульным коштам альбо намаганнямі тых, хто тут пасяляўся.

– А навошта ж гэтая ўласнасць пляцаў зямлі?

– Багацейшыя купцы альбо рамеснікі самі на іх будуюцца і плацяць арэнду, што таксама прыносіць карысць уласнікам.

– Дык прыбыткі з зямлі васпана дабрадзея з'яўляюцца ахвяраю зайздросным суседзям?

– Без гэтае ахвяры не было б у нас мястэчка, і я не меў бы тых прыбыткаў, якія зараз маю.

– Адкуль жа панства сабрала тут гэтулькі жыхароў і рамеснікаў?

– У кожнай справе, – нагадаў пан Падстоліц, – поспех залежыць ад добрага пачатку. Перакананыя, што ў нашым краі рамёствы часта занепадаюць з-за таго, што няма пад рукою патрэбных машынаў і прыладаў, за якія, калі прывозіць іх здалёк, мусім мы дорага плаціць, а ў выпадку, калі яны сапсуюцца, дык траціць шмат часу і грошай на рамонт, мы вырашылі пабудаваць спачатку мануфактуру машынаў і прыладаў. Руды жалезнае ў нас тут паўсюль даволі, але нават з прывазнога гатовага жалеза рабіць прылады выгодна. Запрасілі мы добрых майстроў і пабудавалі сваю мануфактуру, а тым часам паінфармавалі пра яе ў краі і за мяжою, а ў дадатак – якія яшчэ фабрыкі маглі б тут пабудаваць і на якіх умовах прымаем майстроў ды рамеснікаў. На вестку пра гэткія добрыя ўмовы ды пра мануфактуру прыладаў працы рынуліся да нас не толькі тыя, каго мы сюды заклікалі, але і розныя іншыя фабрыканты. І гэтак паволі, адна за адною, будуем мы тут мануфактуры і, каб мелі дастаткова капіталу, дык маглі б нашмат больш іх пабудаваць.

– Ці дазволіць мне васпан дабрадзей даведацца, – запытаўся Уладзіслаў, – што гэта за добрыя ўмовы для рамеснікаў?

– Кампанія наша, – адказаў пан Падстоліц, – дае ім пляц і дапамагае без уласнага прыбытку пабудаваць мануфактуру, якая ад пачатку з'яўляецца ўласнасцю прадпрымальніка з умоваю, што праз пэўную колькасць гадоў ён верне нам капітал, выдаткаваны на будаўніцтва; і не адразу, а банкаўскім спосабам, выплачваючы пэўны працэнт кожны год. Толькі за прылады працы і матэрыял плацім мы са свайго боку палову кошту, і чысты прыбытак ад гэтага капіталу вечна з'яўляецца нашай уласнасцю. Другую палову абавязаны ўкласці сам фабрыкант, калі ж у яго няма наяўных, дык ён можа пазычыць у нас альбо ў нашай ашчаднай касе. Кіраванне мануфактураю – справа фабрыканта, ён сам наймае майстроў і рабочых, гарантыі якім, аднак, запэўніваем мы.

У першыя гады дзейнасці ён можа выплачваць нам нашую частку сваімі вырабамі, і менавіта іх, як васпан бачыў, я прадаваў на кірмашы. Бо ў новым нашым мястэчку, пакуль з'явяцца здатныя купцы, мусім мы самі ўсё неабходнае дастаўляць на фабрыкі: таму я і браў на кірмашы тавары, і яны вунь у той краме, якая належыць цяпер кампаніі, пакуль што складзеныя. Пазней, але нават і на самым пачатку, фабрыкант можа, замест таго, каб даваць нам тавары, пастаянна плаціць нам наяўнымі 10 працэнтаў ад нашага капіталу, а рэшту прыбытку, якая прыпадае на нашу палову, браць сабе; з умоваю ніколі не выплачваць фундушовае сумы. Мы таксама ставім умову пэўных дзесяці працэнтаў, за якія фабрыкант адказвае ўласным фундушам. Умова гэтая бяспечная, бо няма такое мануфактуры, якая б не давала каля 20 працэнтаў чыстага прыбытку. Фабрыкант мае права павялічваць мануфактуру за кошт уласных сродкаў ужо без таго, каб дзяліцца з намі прыбыткамі ад гэтага павелічэння.

– Здаецца мне, – перапыніў яго Уладзіслаў, – што васпанства дабрадзеі самі сябе крыўдзіце, саступаючы гэтулькі карысці фабрыканту.

– А якая ж для нас тут крыўда? – не згадзіўся пан Падстоліц. – Каб мы з уласных прыбыткаў усю мануфактуру ўтрымлівалі, дык мусілі б самі ёю і кіраваць, а ў нас няма на гэта ведаў; і мусілі б мы гэтаму фабрыканту плаціць і залежаць ад яго ласкі. А ў нашым укладзе капіталы нашыя бяспечныя, бо кожная мануфактура застрахаваная; працэнт з прыбытку мы маем запэўнены, які штораз расце, бо на новую дзейнасць пастаянна з'яўляюцца ахвочыя фабрыканты і купцы.

– А людзей на фабрыкі панства са сваіх сялянаў дае?

– У нашым краі, – адказаў пан Падстоліц, – не будзе недахопу ў рабочых, абы толькі мы іхнія правы гарантавалі. Не магу я ўхваляць таго звычаю, які прыйшоў з Расіі, калі пэўная частка сялянаў воласці накіроўваецца на мануфактуру. Там да гэтага прымушаюць акалічнасці: у гарадах жывуць тыя, хто ўжо працуе, а вольных рабочых мала. А ў нас жа наадварот: вольны рук больш, чым дастаткова, дык выкарыстанне сялянаў на мануфактурах стратнае не толькі для краю, але і для самога фабрыканта. Бо калі падлічыць выдаткі на ўтрыманне селяніна на мануфактуры і дадаць да іх тое, што гэты селянін мог на зямлі зарабіць, дык аказалася б, што за ўсю гэтую суму можна было б трымаць на фабрыцы двух вольных рабочых.

– Але як іх прымусіць працаваць на мануфактуры? Правы рабочых нічым не гарантаваныя, дзённая аплата паўсюдна нізкая, а ў нас – найменшая.

– Заканадаўчая ўлада, – адказаў пан Падстоліц, – магла б гарантаваць іхнія правы законам. Мы ж кожнага фабрыканта абавязваем уступнаю ўмоваю, што ў выпадку нейкага непаразумення з рабочымі ён падпарадкуецца палюбоўнаму суду, які выбіраецца ўсімі жыхарамі парафіі кожныя тры гады, і што ён будзе плаціць ім не падзённа, а ў адпаведнасці з прыбыткам мануфактуры. А на выпадак, калі прыбыткі надта зменшацца, фабрыкант гарантуе пэўны мінімум, неабходны на ўтрыманне рабочага. Такім чынам рабочыя мусяць дбаць пра добрую якасць вырабаў, бо зацікаўленыя ў прыбытках фабрыканта.

Спачатку фабрыканты неахвотна згаджаліся на гэтыя ўмовы, мяркуючы, што гэта зменшыць іх прыбыткі; але калі заўважылі, што рабочыя сваёй стараннасцю з лішкам ўзнагароджваюць тое, што на іх выдаткавана, і моцна трымаюцца месца, дык цяпер яны самі сталі шчырымі абаронцамі гэтае пастановы.

Гэтак размаўляючы яны ішлі па вуліцах. Мястэчка не мела яшчэ выгляду гарадоў старых, вялікіх, шматлюдных, прытулку раскошы, дастатку і нэндзы; не відаць тут было ані экіпажаў, ані франтаў, якія перабягаюць праз вуліцу, не чуваць было ані віскату фарэйтараў, ані енку жабракоў; але шум, які чуўся з усіх бакоў, ствараў спеў насільшчыкаў, што цягнуліся доўгімі радамі, грукат наладаваных таварамі вазоў, воклічы муляраў на будоўлях шматпавярховых гмахаў, шоргат фабрычных колаў, стук молату і стогны кавадла. Вуліцы былі шырокія, кожны дом адасоблены ад іншых садам, усе двухпавярховыя, пафарбаваныя ў розныя колеры; брук быў гладкі, газавыя ліхтары стаялі часта, фантаны на рагах вуліц давалі чыстую ваду і пры бульварах досыць вялікі гарадскі сад. Усё гэта ўразіла Уладзіслава, які ведаючы, што ў гэтым мястэчку няма акцызаў і не бяруць аніякае платы з праезджых, не мог даўмецца, з якое крыніцы бяруцца сродкі на ўсе гэтыя выдаткі.

– Увесь гэты парадак, – сказаў пан Падстоліц, – і забеспячэнне ўсіх патрэбаў, у параўнанні з іншымі гарадамі, нібыта нічога тут не каштуе, а насамрэч, кожны гаспадар дому, як і паўсюдна, абавязаны плаціць складкі на патрэбы гораду; але плаціць ён іх такімі рэчамі, за пазбаўленне ад якіх у іншым месцы трэба было б заплаціць. Напрыклад, ён аддае сажу, попел, смецце, косці, абрэзкі, валасы, анучы, зношаны абутак – словам, усё тое, што ўжо не ўжываецца і будзе гніць на падворках ды псаваць паветра, а сабранае і ўжытае ўласцівым чынам, зноў можа прыносіць карысць.

Ёсць у нас людзі, якія купляюць гэткія рэчы, дастаўляюць іх земляробам і на адмысловыя мануфактуры, а гораду плацяць за гэта, чаго з лішкам хапае на гарадскія патрэбы. Гэта замяняе нам акцыз, брамнае, кірмашовае, гандлёвае ды іншыя зборы з праезджых[V]. Сяляне ахвотней горнуцца да такога мястэчка і рамеснікі тут ахвотней асядаюць, бо могуць не падымаць кошты сваіх вырабаў, каб акупіць складкі, дык яны могуць прадаваць танней і наладзіць лепшы абарот, а прыняволеныя да парадку, жывучы ў чыстым паветры, яны больш спакойныя за сваё здароўе.

– Хацеў бы я ведаць, а што замест цэхаў?

– Якраз тут магу гэта паказаць, – адказаў пан Падстоліц, адчыняючы дзверы дому, да якога яны падышлі.

У першай зале на доле яны ўбачылі некалькі дзясяткаў дзяцей, якія вучыліся ланкастарскім метадам пісьму і арыфметыцы.

– Гэта пачатковая мяшчанская школа. Тут усе – і рабочыя, і рамеснікі, і фабрыканты, і купцы – пачынаюць вучобу. Потым няздары, якіх рыхтуюць у рабочыя, ідуць адразу на мануфактуры, а больш здольныя паступаюць у другі клас.

Тым часам яны з Уладзіславам перайшлі ўжо ў наступную залу.

– Тут вучацца чарчэнню, геаметрыі, механіцы і хіміі. Адсюль ужо вучні выходзяць падзеленыя на тры асноўныя групы: рамеснікаў, фабрыкантаў і купцоў. Рамеснікі, выбраўшы рамяство паводле свайго густу, практыкуюцца ў майстроў, працуючы ў іх за пэўную плату, якую абавязаныя ўкладаць у ашчадную касу на свае бягучыя патрэбы і на запас, які атрымліваюць пасля заканчэння адукацыі; апрача таго, у пэўныя гадзіны яны ходзяць на заняткі па згаданых раней прадметах, дзе ўжо тэорыя стасуецца да практыкі. Фабрыканты вывучаюць тэхналогіі, практыкуючыся на мануфактурах, а ўсе разам яны слухаюць яшчэ курс вольных навук ды набываюць іншыя, патрэбныя адукаванаму чалавеку веды. Пасля экзамену рамеснікі атрымліваюць патэнты і дазвол прадаваць зробленае; і гэтак без выдаткаў і цэхаў яны становяцца майстрамі ды відавочна лепшымі, чым цэхавыя.

Для купцоў курс самы доўгі, бо апрача вышэйназваных навук яны вывучаюць яшчэ мовы і агульную статыстыку ў самым шырокім значэнні. Вось у гэтай зале выкладаецца цяпер навука пра гандаль. Прыгледзімся да іх бліжэй. Ці паверыш, што гэтыя два дзясяткі хлопцаў гандлююць па ўсім свеце? Дзе ты маеш цяпер галоўную кантору, дзіця маё? – запытаўся ён у бліжэйшага хлопца.

– Як і раней, у Лісабоне.

– А чым гандлюеш?

– Каланіяльнымі таварамі.

– Куды ж іх цяпер возіш?

– У Лондан, Любэк[6] і ў Пецярбург.

– І як жа ідуць справы ў Пецярбурзе?

– Браў я адтуль жалеза і добра на ім зарабіў, бо цэны ў Лісабоне на гэты тавар былі даволі высокія; але гаванскі цукар ў Пецярбурзе вельмі малы прынёс мне працэнт, дык баюся, каб гэты тавар зусім не пераcталі там купляць.

– Чаму ж гэта?

– Калі шмат хто пачне, як пан, рабіць гэткі добры цукар з буракоў.

Пан Падстоліц засмяяўся і звярнуўся да другога.

– Ты, мой сын, дзе жывеш і чым гандлюеш?

– Жыву ў Рызе, вывожу лён і пяньку, а прывожу французскія віны.

– А пшаніцы не бярэш?

– Браў яе ў мінулым годзе, а цяпер амаль не бяру і сумняваюся, каб іншыя на ёй зарабілі; бо летась, карыстаючыся зніжэннем мытных пошлін на ўвоз тавару ў Англіі і Францыі, даставілі мы туды збожжа больш, чым трэба, і з-за гэтага цаны не выраслі; пшаніца ляжыць у свірнах, і мы можам шмат страціць.

– Кажуць, што ў Англіі сёлета неўраджай?

– Цэны не растуць таму, што вялізныя запасы ляжаць у нямецкіх партах, адкуль лёгка яе прывязуць. Добра было б, каб землеўласнікі замест збожжа заняліся жывёлагадоўляй: нашая воўна мае добры збыт у Англіі, а скуры, асабліва юхт, з-за таго, што не трэба плаціць мыта за вываз, найбольшы магла б даваць прыбытак.

– Ты, сын мой, здаецца, прывозіш нам гарбату?

– Так, – адказаў хлопец. – Вось мае кнігі. Летась на марэне добра зарабіў: прывёз у Кяхту[7] некалькі сотняў фунтаў і браў за 5 фунтаў 4 цыбікі[8] кветкавае гарбаты самае лепшае якасці; тры сувоі мендзыжэцкага[9] сукна аддаваў за цыбік; але сёлета сукна менш павязём, каб падняць кошт.

– А ў тваім банку, мой сын, як справы?

– Дзякуй Богу, даволі ўдала трапляю на курс. Летась, зважаючы на тое, што курс паміж Лонданам, дзе ў мяне галоўная кантора, і Амстэрдамам, складае трыццаць шэсць фламандскіх шылінгаў за фунт стэрлінгаў, а выдаючы вэксалі на Парыж, можна мець 37 шылінгаў, я пяць тысяч фунтаў выдаў на Парыж і плату прыняў праз Амстэрдам; гэтая аперацыя прынесла мне два працэнты прыбытку за адзін месяц.

– Ці здараліся ў цябе калі-небудзь страты?

– Каб я не сачыў уважліва за колькасцю выпісаных вэксаляў у асноўных гандлёвых гарадах і не ведаў пра тое, колькі розных вэксаляў патрабуецца ў кожным горадзе, дык няраз мог бы мець вялікія страты. Аднаго разу купіў я вэксаль на 10.000 піястраў да Кадысу[10], калі ў Амстэрдаме курс быў па 10 фларынаў і 16 сцівераў[11] за фунт стэрлінгаў, а ў Кадысе плацілі па 107 фламандскіх гротаў[12] за дукат, дык паслаў свой вэксаль да Кадысу і хацеў прадаць яго на Амстэрдам, а тым часам, пакуль мой вэксаль трапіў да Кадысу, дык курс на Амстэрдам спаў у Кадысе да 104 і гэткім чынам замест дзесяці працэнтаў я атрымаў толькі сем.

– Дык меў прыбытак, а не страту?

– Але мог страціць, каб курс упаў да 96 гротаў за дукат, як здараецца часам, калі раптам большая колькасць амстэрдамскіх вэксаляў з’явіцца ў Кадысе.

– Кожны з іх, – сказаў пан Падстоліц Уладзіславу, – выбраў сабе нейкі гандлёвы горад, дзе нібыта заснаваў сваю кантору. У адпаведнасці з тамтэйшымі коштамі нібы купляе тавары і перапрадае вэксалі. Ведаючы пра патрэбы і прадукцыю кожнага краю са статыстычных звестак, кожны з іх выбірае сабе тавары, якімі нібы гандлюе, накіроўваючы іх туды, паводле свайго разумення, дзе спадзяецца атрымаць за іх найбольшую цану і па гандлёвых газетах вылічвае, ці сапраўдныя кошты адпавядалі іх разлікам. Усе яны пачалі з аднолькавым капіталам, але адны яго памнажаюць, а іншыя, менш здольныя да спекуляцый, робяцца банкрутамі і заслугоўваюць вымову, а першыя – пахвалу.

Апрача таго, яны знаёмяцца тут з узорамі разнастайных вырабаў, якія з усіх краін тут спецыяльна сабраныя, каб яны вучыліся ацэньваць іх паводле ўнутранае вартасці і мясцовых акалічнасцяў з улікам густаў і патрэбаў тых народаў, з якімі яны збіраюцца гандляваць. Гэтак падрыхтаваныя школаю тыя, хто бядней, атрымліваюць ад нашае кампаніі пазыку з абавязкам закладання сваіх дамоў у нашым мястэчку і выплаты нам доўгу банкаўскім спосабам.

Бо да гэтага часу мы не маем тут не толькі сапраўдных купцоў, але нават і добрых крамнікаў: не хацелі мы дапусціць да гэтага промыслу жыдоў, якія праз сваю хітрасць укруціліся б у спекуляцыі з нашымі фабрыкантамі і сваёй несумленнасцю псавалі б нам гандаль. Але мы пастараліся даць гэтаму рады, рыхтуючы пачцівых і сумленных купцоў. Пакуль на нашых фабрыках назапасіцца тавараў, якраз і вывучацца гэтыя маладыя гандляры.

– Дык жыдоў васпан дабрадзей са свайго гораду выгнаў? – запытаў Уладзіслаў.

– Жыдоў-крамнікаў не дапусціў, бо я перакананы, што без рэформы гэтага народу ўсялякі гандаль у іхніх руках прыносіць краю больш шкоды, чым карысці: з-за таго, што яны несумленныя, падступныя, схільныя да ашуканства, нядбаюць пра тавары, звычайна купляюць сапсаваныя альбо найгоршае якасці, абы танней прадаваць, і да агіднасці яны неахайныя. Але частковай рэформай нельга абмежавацца, бо трэба пачынаць з падставаў, а гэта здольны зрабіць толькі ўрад. Аднак і цяпер жыды могуць быць карыснымі. Вось, напрыклад, зойдзем у гэтую паперню.

Пан Падстоліц прывёў Уладзіслава на мануфактуру, дзе амаль усе працаўнікі былі жыдамі, і сказаў:

– Бачыш, васпан, як спраўна, хутка і ўвішна працуюць тут гэтыя людзі.

– Так, – пацвердзіў фабрыкант, – я імі цалкам задаволены; мушу толькі сачыць за парадкам: нягледзячы на штрафы, якія я ўвёў тут за неакуратнасць, ім цяжка яшчэ ад яе адвыкнуць. Але што тычыцца здольнасці, спраўнасці і прафесіяналізму, дык цяжка знайсці больш здатных за іх работнікаў.

– Можа, пан яшчэ дадаць – больш цярплівых і непатрабавальных, – дадаў адзін жыдок, складваючы паперу пад прэс.

– Праўду кажаш, мой браце, – згадзіўся пан Падстоліц. – Гэтыя вашыя якасці справядліва трэба прызнаць. Разумнасць і няспешнасць таксама.

– Вось яны – тыя рукі, – дадаў ён, выходзячы разам з Уладзіславам з мануфактуры, – якіх з Ласкі Божае гэтак шмат у нашым краі і якія варта толькі падштурхнуць і накіраваць. Навошта ж нам адрываць сялянаў ад раллі, калі пад рукою ў нас гэтулькі жыдоў, больш здатных да рамесніцтва, чым сяляне?

– А я думаў, – сказаў Уладзіслаў, – што васпан дабрадзей мае на ўвазе машыны.

– Машыны, – пачаў тлумачыць яму пан Падстоліц, – сапраўды ў нашым краі могуць прынесці больш карысці, чым дзесьці ў іншым месцы, бо ані падрыхтаваных рабочых, ані дастатковае для мануфактураў іх колькасці ў нас няма. Таму тое, што дзесьці не надта падабаецца, для нас можа быць сапраўдным дабрадзействам, нечуванай дагэтуль заменаю ўмелымі памочнікамі, што працуюць нам на карысць.

Але апрача машынаў трэба яшчэ шмат людзей, а для гэтага якраз гатовы ў нас ёсць мільён жыдоў, нашых землякоў, якія знаходзяцца ў бядотным стане і, не маючы магчымасці ў цяперашняй сітуацыі заняцца раллёю, жывуць, як мы кажам, з промыслу; гэта значыць, выдумляюць розныя спосабы, як выдурыць у нас і ў нашых сялянаў сродкі сабе на жыццё. Сваімі стараннямі яны здолелі захапіць увесь наш гандаль і пануюць над намі сілаю спекуляцый. Нічога ўжо сёння не можам мы купіць – ад іголкі да сукенкі, ад яйка да вала – каб не прайшло гэта праз іх рукі. А самі, аднак, не вылазяць яны з нэндзы, бо без асветы гандаль іхні ледзьве ліпіць у дробным і гнюсным крамніцтве ды шынкарстве, рэдка дзе ўздымаючыся да купецтва, але і там, хістаючыся на слабым падмурку, часта занепадае, руйнуючы гэтым нас усіх. Прыстойнасць і сумленнасць павінныя быць падставаю гандлю, а гэтыя дабрачыннасці жыдам яшчэ неўласцівыя, бо крыніцы іх маральнасці атручаныя.

Урад, як я ўжо казаў, павінны зрабіць гэтую вялікую і гэтак даўно чаканую рэформу жыдоў. Тым часам і мы, наколькі гэта магчыма, павінны старацца зрабіць іх карыснымі, а, магчыма, нават паспрыяць паляпшэнню іх маральнасці, хоць бы з-за ўласных толькі інтарэсаў.

Часта разважаюць пра шкадлівасць гэтага люду, баяцца іх незвычайна хуткага памнажэння і перавагі над намі, якую яны, дзякуючы гандлю, атрымалі. Гэты страх даходзіў, бывала, да гэткае ступені, што за найбольшае шчасце для краю лічылася выгнаць жыдоў за мяжу і пазбыцца гэтага мільёна спажыўцоў. Былі нават такія, што без ваганняў ужылі б самыя жорсткія сродкі, каб пазбыцца іх ненавіснага роду, які выклікае трывогу. Што б сказалі пра гаспадара, які бачачы, што дом драўляны, пастаўлены на кепскім падмурку, пачынае гніць, замест таго, каб пастарацца выправіць шкоду і палепшыць падмурак, спаліў бы дом толькі дзеля таго, каб дом не згніў? Вядома, каб знайшоўся спосаб адлучыць гэты народ ад нашых сялянаў і мяшчанаў без страты насельніцтва, дык было б значна лепш, нават толькі таму, што тады можна было б больш актыўна ўздзейнічаць на ягоную маральнасць; але сёння, калі ў нас няма такога спосабу, можам яшчэ, хоць і апасродкавана, рухацца да гэтае мэты, даючы ім магчымасць сумленна працаваць, бо гэта найбольш моцна ўплывае на маральнасць[VI].

Бывае, што вялікія заганы ўласцівыя ўсяму народу як вынік традыцый таго народу; але заўсёды ўбоства і, асабліва, цемрашальства яшчэ больш тыя заганы пашыраюць і не дазваляюць ад іх пазбавіцца. Варта толькі даць жыдам магчымасць палепшыць свой дабрабыт, што адчыніць перад імі магчымасці да адукацыі, дык гэтым мы скіруем іх да паляпшэння характару.

Перадусім, належала б пазбавіць іх магчымасці карыстацца сваімі кепскімі звычкамі. Корчмы і шынкарства, як найбольш прывабныя для іх, якраз і з'яўляюцца тою прычынаю, якая моцна псуе іх маральнасць. Гэты занятак у першую чаргу, нават з увагі на іх саміх, мусім мы ў іх адабраць[VII]. Але ўбогі натоўп няхай бы адразу меў перад сабою іншую магчымасць – зарабляць на жыццё рамесніцтвам.

Каб мы заснавалі таварыствы, як у іншых краінах, дзеля іхняе асветы ды прыязнаю парадаю і апекаю, а не кпінамі ды прымусам паказалі простыя спосабы сумленных заробкаў, далі ім працу, дык тады і жыды-гандляры, асвечаныя і падтрыманыя намі, сталі б грамадзянамі, якіх без сораму братамі нашымі маглі б мы назваць.

– Але гэты народ, – заўважыў Уладзіслаў, – няздатны да цяжкае працы. Да хрысціянаў яны ставяцца з нянавісцю і дапамогу іхнюю палічылі б падступствам.

– Калі я стаў уладальнікам гэтых зямель, – працягваў пан Падстоліц, – і пачынаў паляпшэнні, дык трэба было сячы лес, капаць канавы, рабіць цэглу і выконваць падобную цяжкую працу. У нашым краі цяжка з работнікамі-сялянамі, дык паклікаў я жыдоў. І што ты думаеш? Цэлымі натоўпамі пхаліся яны навыперадкі адзін перад адным і не думалі наракаць на цяжкую працу. З удзячнасцю гэты люд узяўся б за працу на мануфактурах, абы мы ім далі яе, і самыя шкадлівыя сёння іхнія лайдакі, маючы магчымасць зарабляць, з часам адракліся б ад таго вераломства, з-за якога заслужылі нашую нянавісць.

Бо няма прычыны ненавідзець іх за вызнанне Маісеева закону; бо аніякая рэлігія не павінна чыніць разладу паміж маральнымі людзьмі. Пакінем Богу судзіць, хто з нас лепш яму хвалу аддае. А што тычыцца маральнасці, дык кожная рэлігія з натуральных прычынаў павінна быць добрая, і толькі такую нельга было б трываць у грамадстве, якая вучыць прынцыпам, што супярэчаць яго існаванню. Мэтаю грамадства не з'яўляецца звесці людскія меркаванні і перакананні да аднае формы, а запэўніць сабе ўзаемную дапамогу і бяспеку. Аніводная рэлігія гэтаму не працівіцца, дык аніводную ў грамадстве нельга пераследаваць, і аніякая не павінна выклікаць у нас нянавісці да нашых братоў. Калі жыды, насамрэч, унушаюць кожнаму свайму пакаленню нянавісць да хрысціянаў, дык ім і адплачваюць узаемнасцю. Калі мы наблізімся да іх, пададзім ім братнюю руку, дык і ўзаемная нянавісць саступіць месца ўдзячнасці ды ўзаемнай прыхільнасці.

## Раздзел трэці

# СУСЕДЗІ

Kto z gospodarstwa a kto zaś z wysługi
Zbierze pieniądze i z kupiectwa drugi,
Jeśli się żona nie przyłoży к temu,
Zginąć wszystkiemu.
Żona uczciwa ozdoba mężowi
I najpewniejsza podpora domowi;
Na niej rząd wszystek, swego męża ona
Głowy korona.

Jan Kochanowski, *Pieśń* I[13]

Назаўтра пад канец абеду пан Падстоліц запытаўся, ці не пажадаў бы Уладзіслаў наведаць разам з ім некаторых суседзяў.

– Пабачыў ты ў мяне гаспадарку, якая ўжо дасягнула пэўнага развіцця. Я абяцаў завезці цябе да аднаго з маіх даўнейшых памочнікаў, які пасяліўся непадалёк адсюль у малым фальварку і толькі яшчэ пачынае гаспадарыць. Ад яго ты даведаешся, як можна з малым капіталам і на малым кавалку зямлі звязаць свой лёс з земляробствам. Адтуль, калі пажадаеш, мы паедзем да пана Падчашага[14], некалі самага зацятага майго і ўсіх маіх намераў праціўніка. Зусім нядаўна ён змяніў свае погляды і хоць надзвычай цяжка было яму пачынаць гаспадарыць у сваім зруйнаваным маёнтку, аднак цягам некалькіх гадоў значна ўжо паправіў справы. Я не хацеў бы адкладаць гэтых адведзінаў на іншы час, бо ў будныя дні мы толькі па справах можам заглядаць да суседзяў, у наступную нядзелю будзе ў нас парафіяльная свята, а потым можа настаць ужо слота.

З ахвотаю Уладзіслаў прыняў гэтую прапанову. Калі падалі двухколку, кожная з паненак спяшалася пакласці ў яе нейкі невялікі падарунак са свайго аддзелу для каханае, як яны казалі, Анэлі, і прасілі пана Падстоліца абняць яе.

– Хто ж гэтая Анэля? – запытаўся дарогаю Уладзіслаў.

– Гэта мая сваячка, – адказаў пан Падстоліц, – жонка Ігнацыя, да якога мы якраз і едзем. Яны жылі тут з намі абое, і толькі другі год, як пабраліся ды пачалі гаспадарыць.

На хвіліну паказалася перад вачыма падарожных шляхецкая школа і прабегла з абодвух бакоў пушча пана Падстоліца, за якою адкрыўся невялікі абшар, а на ім, на лугавіне каля рэчкі, паказаліся новыя гаспадарчыя пабудовы. Невялікі драўляны дамок, новы плот з бярозавых калоў, шмат прышчэпаў і некалькі дзясяткаў старых дрэваў у розных месцах, а таксама недабудаваная абора каля малога хлеўчука выразна сведчылі, што гэтая сядзіба новая і некалі павялічыцца.

Калі яны пад'ехалі да брамы, выскачыла з-за яе два вялікія сабакі, якія з моцным брэхам пачалі кідацца коням пад ногі, але як толькі пан Падстоліц паклікаў іх, яны адразу з віскатам замахалі пушыстымі хвастамі і пачалі скакаць ад радасці, нібы хацелі павітацца з чалавекам у двухколцы, у чыім доме былі ўзгадаваныя. Рухавы хлопец у шэрым спэнсары[15] з выкладзеным наверх белым каўняром кашулі, без хусткі, з саламяным капелюшом у руцэ паспяшаўся адчыніць ім вароты.

– Ці дома панства? – запытаўся пан Падстоліц, мінаючы хлопца.

– Дома, пане, – адказаў ён, ускочыў на прыступку двухколкі і, каля ганку прыняўшы коней, пакіраваў іх у стайню.

Тым часам на ганак выбеглі маладыя гаспадары: Ігнацы ў зялёнай паляўнічай венгерцы, Анэля ў белым муслінавым шляфрочку, без букляў і завушніцаў, усёю аздобаю якой была толькі свежасць і ды вясёлы позірк.

– Пазнаёмцеся з маім прыяцелям, – сказаў пан Падстоліц, вітаючы іх са звычайнаю сваёю ласкавасцю. – Прывёз яго я сюды, каб паказаць, як можна быць шчаслівым і на малой вясковай гаспадарцы, якая добра ўпарадкаваная з дапамогаю навукі ды рамесніцтва.

– Шчасце гэтае стварыў нам бацька, – адказала Анэля, радасна яго абдымаючы, а потым схапіла за руку і павяла ў пакоі. – Збіраліся мы сёння ўвечары да пана, хацелі паскакаць мазурку, каб крыху адпачыць пасля тыдня працы, а мой Ігнась, як шчыры абывацель, жадаў пазнаёміцца з панам Уладзіславам і даведацца, якое ўражанне зрабілі на яго сяляне пана.

– Мы яшчэ паедзем да пана Падчашага, – сказаў пан Падстоліц, – але чакаем вас увечары.

Іх жыллё складалася з двух толькі пакоікаў – акуратных, але без аніякіх аздобаў. Мэбля была простая і толькі самая неабходная; але на адным са столікаў Уладзіслаў заўважыў скрыпку, трохі музычных нот і пару кніг: *Гаспадарку ў паўночным клімаце*[16] і *Валернода*[17]; каля століка стаяла арфа, а на вокнах – некалькі вазонаў з кветкамі.

– Гэта пачатак будучае аранжарэі, – растлумачыла Анэля. – Калі нас Бог будзе гэтак жа баслаўляць і надалей, як два папярэднія гады.

– Я чуў, – звярнуўся Уладзіслаў да Ігнацыя, – што панства пачало працаваць без сялянаў, гэта рэдкая адвага ў нашым краі.

– У кожнай справе, – адказаў яму Ігнацы, – беднаму чалавеку пачынаць трэба з малога. Не маючы вялікага капіталу, каб купіць зямлю, я вырашыў узяць гэты кавалак зямлі на вечны чынш і на ім гаспадарыць.

– Ці не больш карысна было б, – запытаўся Уладзіслаў, – узяць нейкі добры маёнтак у арэнду на доўгі тэрмін?

– Арэнда, – не згадзіўся Ігнацы, – здаецца, ні ў якім выпадку не будзе карысная. Бо інтарэс арандатара заўсёды будзе супрацьлеглы інтарэсам дзедзіча, і калі адзін перамагае, дык іншы бок абавязкова на гэтым мусіць страціць. Хто не можа сам гаспадарыць, лепш зробіць, калі прадасць зямлю альбо пасадзіць на ёй умелага і надзейнага гаспадара, які б выручаў уласніка. Арандатару яшчэ цяжэй даводзіцца на чужой зямлі. Без укладанняў грошай добрае земляробства немагчымае. Грошы, выдаткаваныя на паляпшэнне зямлі, застаюцца ў зямлі надоўга, дык арандатар з-за гэтага альбо мусіць пагадзіцца з тым, што нехта іншы скарыстаецца яго ўкладаннем грошай, альбо адмовіцца ад

укладанняў, прыбытак ад якіх цалкам яму не будзе належыць. Дык карысней укладаць ва ўласную зямлю, і як бы не было яе мала, на гэтым не страціш, бо прыбыткі земляроба залежаць не ад таго, які ў яго зямельны надзел, але ад укладзеных сродкаў. Апрача таго, на ўласнай зямлі, што б я не зрабіў, усё навечна застанецца маім, і я магу будавацца паводле ўласнае фантазіі, садзіць сады, паляпшаць глебу, вырошчваць гаі альбо лясы, нарэшце, будаваць мануфактуры.

– Я не кажу пра вялікія маёнткі, – падхапіў Уладзіслаў, – бо ведаю, што на іх карысней гаспадарыць дзедзічу, чым арандатару; але на малой гаспадарцы без сялянаў тут, у нашым краі, дзе цяжка знайсці вольных працаўнікоў, я не разумею, як можна даць рады, хіба, самому пачаць працаваць?

– Паабяцай толькі, васпан, што добра заплаціш, – адказаў яму Ігнацы, – дык знойдзеш працаўнікоў. Таксама, калі і сам папрацаваць захочаш, дык сябе гэтым не пакрыўдзіш. Я дапамагаю сваім парабкам у шмат якіх земляробчых працах і не зважаю на абгаворы фанфаронаў, якія, гойсаючы за зайцамі, заспяваюць мяне часам пад час працы.

Але мушу прызнацца, што першы раз, калі праязджаў тут мой сусед Маршалковіч, а я сам снапы звозіў, і голасна пачаў рагатаць ды кпіць, як ён казаў, з абмужычэння майго густу, дык зайграла кроў у мяне, і хацеў я выклікаць яго на двубой, але Анэля паспяшалася мне на дапамогу. “Падумай, – сказала яна, – хто з вас на сённяшні дзень мае большыя заслугі перад Айчынаю, ці ён – марнатраўствам грошай на сваё паляванне, ці ты – сумленнаю працаю на карысць яе?”

– І я жну бывае, – дадала Анэля, – б’ю масла ды сама раблю сыр. Пакармлю птаства, агледжуся на агародзе і часта сама грады апалю альбо абіраю вусеняў з дрэваў. Аднак жа рукі не агрубелі, – дадала яна з усмешкаю, здымаючы рукавічку з пульхнай далоні. – І мяркую, што пан Падстоліц на мяне за гэта не крыўдзіцца.

– А як справы з тваім прадзівам? – запытаўся пан Падстоліц.

– Мы ўсе прадзем, – адказала яна, – апрача Ігнацыя, у якога шмат свае працы. Нашая чэлядзь з-за таго, што прадзе вечарамі, усё часцей наведвае ашчадную касу. О, якія ж мы шчаслівыя, што жывём на ўласнай гаспадарцы! Як гэта цудоўна, калі чалавек уласнаю працаю будуе сабе будучыню, закладае падваліны свайго дабрабыту і робіцца карысным для краю абывацелем. За ўсё гэта мы ўдзячныя васпану дабрадзею.

– Вашай энергіі, – дадаў пан Падстоліц, – без якой не адважыліся б вы пачаць, і Богу, які даў вам гэткую моц духа, упартасць ды прадпрымальнасць. Скажы мне, Ігнацы, што ты планаваў, калі вырашыў пасяліцца на гэтым кавалку зямлі? Пану Уладзіславу цікава пра гэта даведацца.

– Назапасілі мы жонкаю за некалькі гадоў службы ў пана і з нашых вольных заробкаў восем тысяч злотых. Пяцьсот з іх я адразу заплаціў за чынш, тысячу пяцьсот пайшло на самае неабходнае будаўніцтва, тысячу – на гаспадарчыя прылады, на тысячу купіў кароў, на тысячу – авечак, на тысячу – кармоў, на пяцьсот – пчолаў, а паўтары тысячы пакінуў на бягучыя патрэбы, гэта значыць, на плату слугам, на насенне і ў запас. Усё, што трэба для дома, атрымалі мы ад нашага дабрадзея ў якасці пасагу.

Землі гэтага фальварку я падзяліў на дзевяць палеткаў мархійскім спосабам[18]. У першы год толькі тры першыя палеткі трохполля засеяў бульбаю, ячменем і гарохам з канюшынаю, а іншыя –грэчкаю на корм ды сена, але праз год, калі ўжо назапасілася гною, уключыў і іх у севазварот. З воўны, мёду ды малака атрымалі мы ў першы год больш прыбытку, чым даў бы звычайны працэнт з васьмі тысячаў, а сёлета пасля збору ўсяго ўраджаю – збожжа, тытуню, хмелю ды гародніны – наш прыбытак значна павялічыўся. А разам з тым, што мы з чэляддзю за зіму заробім, ён складзе амаль поўную вартасць нашага капіталу.

Фарбавальныя ды алейныя расліны і цукровыя буракі садзіць яшчэ рана, бо глеба пад гэтыя культуры яшчэ не падрыхтаваная; але праз некалькі гадоў надыдзе чарга і на іх. Вясною, як толькі прадам сёлетні ўраджай, збіраюся паставіць млын, каб церці лён і каноплі. Памалу рушым і далей ды з цягам часу акупіцца нам гэтая зямля.

– Працуйце так, як пачалі, – сказаў пан Падстоліц, – дык станеце заможнымі, а тады і дом сабе лепшы паставіце.

– Цяпер нам і ў гэтым добра, – азвалася гаспадыня. – Каб даў Бог нам да канца жыцця гэткага шчасця тут, як зараз. Але мушу прызнацца, што з непакоем я адважылася на гэта, і каб не максімы пана Падстоліца… Няхай пан дазволіць паказаць іх пану Уладзіславу, – дадала яна і падышла да пісьмовага стала. – Я іх запісвала пасля тых размоваў, якія чула ў доме пана Падстоліца, і мяркую, што яны могуць быць карысныя кожнаму, хто, як і мы, адважыцца звязаць свой лёс з малою гаспадаркаю. Вось, прачытаю, што трапіцца.

“Артыкул III. Здарыцца не аднаму параканацца і зразумець абавязкі і дабро; лёгка чалавеку несапсаванаму ўпадабаць іх і прагнуць; але толькі адораны высокаю душою знойдзе ў сабе энергію да дзейнасці, якая адпавядае яго памкненням. Адразу трэба пачынаць дзейнічаць, не адкладаючы на заўтра; бо чым далей ад уражання, тым яно слабейшае. Калі сёння не маеш дастатковa энергіі для пачатку, дык заўтра будзеш мець яе яшчэ меней. Жыццё кароткае; тваё толькі сёння, дык сёння і абавязаны дзейнічаць у згодзе з Ласкай Божаю, якая табе аб’явілася. З-за маруднасці змарнуеш Яе пакліканне. Не бойся, што працы шмат, бо яна салодкая, і толькі пачатак цяжкі, але пасля першай жа перамогі над лянотаю, адчуеш сапраўднае задавальненне. Бо гэтак распарадзілася Ласка Божая, што сапраўднае задавальненне заўсёды звязана з выкананнем абавязку, а ўсё іншае толькі вабіць задавальненнем”.

Альбо гэта:

“Артыкул VIII. Ласка Божая праклала чалавеку тры розныя шляхі да шчасця. Першы – гэта ціхае і сумленнае сямейнае жыццё, а другі – гэта прысвячэнне сябе агульнай справе. Першы ўсланы сціплымі фіялкамі, а на другім – прорвы ды абрывістыя скалы; і калі на першым гнюснасць ды распешчанасць, дык на другім ганарлівасць ды пыха ўтварылі свае пасткі. Трэці шлях, сярэдні паміж імі, які спалучае ў сабе і прывабнасць, і небяспеку абодвух, прызначаны для землеўласнікаў. Як вясковыя жыхары, яны могуць імкнуцца да шчасця ў ціхім сямейным коле, але як абывацелі і апекуны сялянаў яны павінны гэтую мэту спалучыць з іншай – больш ганароваю для чалавека і годнай яго – якою з’яўляецца агульнае дабро альбо любоў да бліжняга.

Прысвяціць служэнню братам сваім частку свайго шчаслівага сямейнага жыцця – гэта больш высокая ахвяра, чым аддаць ім увесь маёнтак".

Увайшла служанка, апранутая па-вясковаму, і прынесла каву. Маладая гаспадыня паклала сшытак, наліла яе ў філіжанкі і падала пану Падстоліцу і Уладзіславу. Калі выпілі каву, пан Падстоліц падзякаваў гаспадарам, нагадаў, што чакае іх увечары ў сябе, і яны з Уладзіславам паехалі да Падчашага.

Яшчэ за паўмілі паказаўся стары маёнтак, абсаджаны маладымі дрэўцамі і агароджаны новым парканам з частаколу. Гумно было ўжо з мураванымі слупамі, а жылы дом – стары і трохі трухлявы, папярэчныя брусы падшрубаваныя паміж сабою – з новым гонтавым дахам і няскончаным падмуркам, як і іншыя пабудовы на дзядзінцы, меў на сабе сляды свежага рамонту.

– Выглядае, – заўважыў Уладзіслаў, – нібы гаспадар гэтага маёнтку доўгі час дазваляў руйнавацца ўсім гэтым будынкам, а потым, нібы пасля доўгае адсутнасці вярнуўшыся дадому, пачаў адначасова ўсе рамантаваць.

– Гэты двор быў падобны на двор Харунжага, – пачаў расказваць яму пан Падстоліц. – Усе пабудовы былі старымі, падгнілымі, скасабочанымі. Пан Падчашы тлумачыў, што няма калі і думаць пра рамонты, маючы гэтулькі клопату з падаткамі ды працэнтамі. Але з таго часу, як змяніўся ў яго лад думак, ён не толькі будынкі адрамантаваў, але адразу ўсё жадаў памураваць і ўпарадкаваць гэтаксама, як у мяне, абы спалучыць густ з выгодаю і трываласцю. Адрадзіў я гэта яму, бо мог ён яшчэ карыстацца і старымі будынкамі, пакуль не пааддае даўгі і не ўпарадкуе сваю гаспадарку ды сялянаў. Дык цяпер ён з яшчэ большым імпэтам заняўся... Але вось ён і сам едзе.

Конна імчаў да іх па бочнай дарозе сівы старац – чырванашчокі, у шапцы з каштанавай аўчынай і ў зялёнай куртцы, падбітай лісою, накінутай на шарачковую капоту.

– Вітаю, вітаю, – крычаў ён здалёк.

Ён наблізіўся да двухколкі і ветліва працягнуў пану Падстоліцу руку, пытаючыся, як справы ў шаноўнага суседа.

– Дзякуй Богу. Адкуль едзеш, пане Падчашы?

– Быў у вёсцы. Вой, не паверыш, мосці Падстоліцу, які клопат мне з маімі новымі гаспадарамі! Ні за што не хочуць сядзець у вёсцы, а просяцца, каб я абавязкова папераносіў іх на асобныя сядзібы, якраз гэтак, як у школе іх навучылі. Абяцаюць большы чынш плаціць, абы ўчыніў для іх гэтую выгоду.

– І што ж, васпан, думаеш рабіць?

– А што ж?! Мушу ім дагадзіць. А тут хацеў спачатку... Але ж не стой мы сярод дарогі. Няхай васпан дабрадзей едзе сабе паволі, а я побач – і будзем размаўляць. Вось хацеў я сёлета ўвосень некалькі клумбаў зрабіць каля дому. Але прыгадаў, што васпан дабрадзей радзіў мне спачатку парабіць усё неабходнае, потым карыснае, а ў старасці ўжо адпачываць і бавіць дні за прыемным заняткам. Ох, чаму ж я быў такі неразумны!..

– Не наракай, пане Падчашы, быў ты заўзяты, бо ў гэтым выхаванне васпана вінаватае. І сам, як толькі пераканаўся, стаў на добры шлях.

– Але ж чаму я гэтак позна на яго стаў!

– Затое нелегкадумна, з развагаю, – суцяшаў яго пан Падстоліц. – І ў тым сапраўдная васпана перавага, што нават у гэтакім сталым веку не страціў душэўнае моцы, захаваў цвярозасць розуму, бадзёра ўзяўся за працу і старанна

пераадольваеш усе цяжкасці. Гэткія здольнасці даводзяць шляхетны характар пана.

Яны заехалі на дзядзінец проста пад ганак, новыя слупы якога на мураваным фундаменце дзіўна выглядалі побач з пачарнелымі сценамі, на якіх былі латкі са свежага дрэва. Пан Падчашы запрасіў у пакоі і загадаў падаць гарбату.

– Працую я тут адзін, – жаліўся ён, – а гэта цяжка старому. Патрэбная дапамога. Думаю, вось, сына ажаніць. Ведаеш што, пане-суседзе, скажу васпану шчыра, хоць і пры гэтым чужым кавалеры, які мусіць быць пачцівым чалавекам, бо ён ў таварыстве васпана дабрадзея, а кажуць жа, што за кім вядзешся, гэтакім і сам становішся...

Пан Падстоліц расказаў яму, хто такі Уладзіслаў, і запытаўся:

– Што ж ты хацеў сказаць мне, пане Падчашы?

– Дык вось, спадзяюся, што гэты кавалер не будзе кпіць з мае старапольскае шчырасці. Анічога іншага не збіраўся я сказаць, як толькі тое, што думаю сына ажаніць і хачу выправіць яго ў сваты да сваячкі васпана дабрадзея, да панны Зосі. Не возьме ён вялікага пасагу, але возьме добрую гаспадыню. Цяпер я ўжо сам пераканаўся, што гэта лепш за крыўлянне і блазнаванне. За Анэляй колькі ж там было? Тысячы тры, а гаспадыня дай Бог якая. Іншай дай удвая больш, дык яна за год тысячу чырвоных злотых на ўборы расходуе, а гэтая суседка мая штогод павялічвае маёнтак на колькі тысячаў толькі сваёй працавітасцю і кемлівасцю. Далібог, гэта лепшы пасаг, чым грошы. Пане-суседзе, не адмаўляй майму сыну.

– Але ж ці захоча сын васпана? Ці спадабаецца ён панне?

– Як гэта, ці захоча сын? А паслушэнства? І чаму ж бы гэта панне не ўпадабаць майго сына? З-за таго, што я даўгі маю? Дык іх штогод усё менш. Няхай толькі гэтак гаспадараць, як я пачаў, і няхай выкарыстаюць сваю навуку ў дапамогу, дык будуць мяхамі грошы лічыць. Далібог, гэтая Анэля не выходзіць у мяне з галавы. Сама не мела пасагу, ён быў голы, а цяпер, зірні на іх – лепш за мяне маюць. Змілуйся, мосці Падстоліц, не адмаўляй мне свае дапамогі ў справе з паннаю Зосяю.

– Трэба, каб спачатку сын васпана пастараўся яе сэрца здабыць.

– О! Гэта дробязь! Я загадаю, васпан загадаеш, і квіта. Няхай жывуць шчасліва. І мяне ж гэтак бацька ажаніў са святой памяці чашнікоўнаю смаленскаю, з маёй нябожчыцай жонкаю, і добра было. Мела яна, праўда, пасаг не з горшых, і мне бацька даў было фартуну; але неяк, мой пане, гулялася... Ну, што з воза ўпала, тое прапала! Вось жа, сын мой, Стась, сапраўдны франт. Раз пачаў было я пералічваць яму тых дзявуль, каля якіх можна было б пакруціцца, дык аніводная яго не цікавіла; а я толькі так, для спробы пералічваў, бо, каб загадаў, дык з любой мусіў бы заплакаць пры алтары; але я хацеў, каб абавязкова была каторая з дому васпана дабрадзея. Дык вось, як толькі назваў я панну Зосю, дык мой хлопец аж аблізвацца пачаў. О! Бо я ж бачыў, хоць і старым вокам, як гэты шалапут-універсітэтчык кожнага разу, як наведваліся мы да васпана дабрадзея, кідаўся да яе са сваімі залётамі.

Прынеслі гарбату, пан Падчашы паспешна пачаў яе разліваць, а пан Падстоліц падміргнуў Уладзіславу і запытаўся:

– Скажы мне, пане Падчашы, як ты адважыўся на рэфармаванне свае гаспадаркі?

– А што ж было мне рабіць? – перапытаў той. – Я ж бачыў, што кожны год прыбытак мой змяншаецца, а даўгі растуць. Васпан і ўсе тыя, хто за васпанам пайшлі, багацелі; толькі я адзін з году ў год усё больш галеў. Раз падумаў было: Божа, змілуйся! Пачну і я гэтак, як яны. А сам аж закалаціўся. Але, прэч! Загадаў зараз жа завезці ў горад усю непатрэбную старызну, якую толькі меў; прадаў, як атрымалася, і дакупіў жывёлы ды трохі пчолаў. Потым пазбыўся лішняе чэлядзі, упарадкаваў рэестры і, паводле парады, якую ад васпана пачуў, узяў свой маёнтак у сябе ў арэнду.

Спадзяваныя прыбыткі я прызначыў на працэнты ды на неабходныя і самыя сціплыя выдаткі, а рэшту, разам з прыбыткам, які атрымаў вышэй спадзяванага, вырашыў пусціць на паляпшэнне маёнтку. Адразу ж у першы год павялічыў колькасць жывёлы і паставіў малатарню – простую, недарагую; а сялянаў на зіму вызваліў ад паншчыны, абы толькі на падаткі мне зарабілі і каб сабе далі рады. Вясною зменшыў пасевы на аднаполлі, затое заараў трохі лугу; на палетках, дзе была патрэба, пракапаў канавы, падзяліў іх на пладазменныя і на наступны год ужо меў значна большы ўраджай; ашчаднасць жа ў гаспадарцы, каровы ды авечкі прынеслі мне значна большы прыбытак.

“А! Дык так?” – падумаў я, – “ну дык рушым далей!”. Час падумаць ужо і пра аўчарню, і агарод, і прадзіва, і хмяльнік, і буракі цукровыя і ўсё, што я бачыў у майго шаноўнага суседа пана Падстоліца. Разлічыўся тады я са сваімі сялянамі, адступіў ім усе рэманэнты, бо, стукнуўшы сябе ў грудзі, мушу прызнаць, што не адзін іхні дзень звыш павіннасці быў выкарыстаны мною і не ўлічаны. Ну, што тут зробіш? З таго часу абмежаваў паншчыну, паводле звычаю, трыма днямі мужчынскімі і трыма жаночымі на тыдзень з валокі, а на зіму прывёз калаўроты і загадаў кабетам прасці, а мужчынам даў ткаць рагожу. Ацаніўшы паншчыну агулам па 20 грошай за дзень, загадаў я гэтымі работамі яе аплачваць, а за зробленае звыш нормы сам ім плаціў.

Спачатку яны мне не верылі, але калі пасля разліку плаціў я кожнаму штотыдзень па некалькі злотых, дык ужо мае сяляне працавалі далей навыперадкі, а дваровая чэлядзь услед за імі. А да вясны кожны з іх зарабіў дзясяткі пад два рублёў, а я, прадаўшы прадзіва і рагожу, з ніадкуль атрымаў чыстага прыбытку блізу двух тысячаў злотых, і падаткі ані гроша мне не каштавалі.

О! Мой дабрадзею, гэта добра! Ужо аніводзін не прасіў у мяне дапамогі, і нават апошнія лотры на Вялікдзень прышлі ў касцёл у ботах. Далей: хлопцаў – у школу пана Падстоліца, штогод – па некалькі. Там, вашэць, навучышся яшчэ больш зарабляць. І праўда, цяпер іх не пазнаць: усе прычасаныя і вымытыя, а прадпрымальныя, як жыдоўскае ліха. О, так, мой дабрадзею, і яны вылізаліся, і я, дзякаваць Богу, з даўгоў вылажу; а калі пажыву яшчэ, дык і чысты маёнтак Стасю свайму пакіну. Толькі васпан дабрадзей не адмаўляй мне свае ласкі, дазволь цешыцца надзеяй, што панна Зося будзе маёю нявесткаю і апораю ў старасці.

– Прыедзеш, пэўна, пане Падчашы, у наступную нядзелю на нашае вясковае свята, а там, можа, пажадаеш і мяне адведаць, дык сам скажаш усё маёй крэўнай. Я супраць не буду, калі яна згодзіцца – няхай іх Бог блаславіць.

## Раздзел чацвёрты

# ДАЖЫНКІ

Zatem, spuściwszy kolana na ziemię,
Z pokory wszyscy pochylili ciemię,
A twoje wargi życzą im pokoju
Z wiecznego zdroju.
Jako gdy owo ogromny po zimie
W zielonym krzaku słowik śpiewać imie,
Witając wiosnę, że już każdy mrozy
Z pamięci złoży.
… Ale Hesperus, nieomylny goniec,
Temu festowi ułożywszy koniec,
Panom na pałac z tobą, a czeladzi
Do gospód radzi.

Kasp. Miaskowski, *Łodź Opaleńska*[19]

Гэтак хутка ў доме пана Падстоліца ішоў час для Уладзіслава, які прыглядаўся да гаспадаркі, да майстэрняў, да школаў і бавіўся ў таварыстве маладых памочнікаў гаспадара, што ён амаль не заўважыў, як мінуў тыдзень пасля адведзінаў суседзяў ды надышоў дзень вясковага свята.

– Гэта, – тлумачыў пан Падстоліц, – парафіяльныя дажынкі. Мае суседзі перакананыя, што падзяка сялянаў за добры збор з поля павінна быць складана, хутчэй, Ласцы Божай, чым панам, і яны пастанавілі арганізаваць дажынкі для ўсіх сялянаў гэтае парафіі ў адным месцы, дзе з большаю ўрачыстасцю можна гэта ўчыніць. Разам з тым, з'явіліся ў нас тут некаторыя традыцыі, якія служаць дзеля падтрымання дабрачыннасці ў жыхароў гэтае парафіі – іх маральнасці, гаспадарнасці, працавітасці ды іншых якасцяў, як гаспадарскіх, гэтак і грамадскіх.

У той дзень панства Падстоліцы, прыбраныя па-святочнаму, хоць як заўсёды проста, у таварыстве Уладзіслава, крэўных і амаль усяе чэлядзі рушылі ў касцёл. У гаі паміж полем і касцёлам Уладзіслаў заўважыў мноства шалашоў і вогнішчаў. Увесь вялікі траўнік перад святыняю да самага рынку застаўлены быў двума шэрагамі слупоў і ялінак, якія ўтваралі шырокі калідор пад дахам з яловых галін. Унутры гэтага калідора цягнуліся ў два рады сталы.

Насупраць касцёла пасярэдзіне дзядзінца паміж васьмю пажоўклымі ліпамі стаяў адкрыты з усіх бакоў намёт і ў ім – стол, разлічаны на некалькі дзясяткаў асобаў. Над ганкам святыні разапнуты быў балдахін, аздоблены гірляндамі з восеньскіх кветак; перад ганкам, вакол шырокага паўкола арэны, амфітэатрам падымаліся ўгару лаўкі.

Сціжма мужчынаў і жанчынаў рознага веку і стану праходжвалася па дзядзінцы ў чаканні пачатку набажэнства. Іхнія уборы, хоць і не здаваліся Уладзіславу чужымі, паводле свайго пакрою, але выглядалі нязвыкла акуратна

і густоўна. Маладыя кабеты і дзяўчаты, як звычайна на Літве, былі апранутыя ў рознакаляровыя шнуроўкі і белыя кашулі; на нагах чаравікі і панчохі. Толькі замест намітак альбо хустак былі на іх лёгкія саламяныя пастухоўскія капелюшы, з пад якіх спадалі на плечы заплеценыя косы, завязаныя на канцах бантамі з рознакаляровых стужак. Дзяўчаты маўчалі, але іхнія вочы свяціліся радасцю. Паважныя матроны апрануліся ў сінія, на малінавай падшыўцы чугаі з шырокімі рукавамі[20], якія былі крыху лепш, чым звычайна, скроеныя.

Старыя мужчыны ў сініх капотах і чатырохкутных шапках, абшытых смушкам, з кійкамі ў руках прахаджваліся паважна і гаманілі пра даўнія часы ды пра тыя змены, якім яны не маглі дагэтуль надзівіцца. Людзі сталыя і юнакі – першыя выхаванцы сялянскае школы, у сваіх шарачковых сукманах, падобных на літоўскія сярмягі, якія з-за лепшага крою больш нагадвалі іспанскія чамаркі[21], апаясаныя чорнымі лакіраванымі пасамі са сталёвымі клямрамі, у ботах і ў белых магерках, мелі ў сваім выглядзе нешта мужнае і нацыянальнае, але ад звычайных нашых сялянаў зусім адрознае.

Нязмушаная іхняя пастава, жывы позірк, лёгкія і зграбныя рухі для таго, хто не ведаў аб пераменах у гэтай ваколіцы, маглі б сведчыць пра іхнюю прыналежнасць да вышэйшага грамадства, якое дзеля святкавання нейкае ўрачыстасці з'явілася ў гэтых простых касцюмах. Не відаць было на іхніх тварах кляйма панурае няволі, хоць ейны дух яшчэ вітаў ў іхніх позірках на паноў. Але быў гэта дух, выкліканы з краіны мінулага, бо сярод паноў стаяў пан Падстоліц, і любоў да бліжняга праменілася вакол яго.

Некалькі колаў моладзі, амаль аднолькава апранутай у курткі ды шаравары, без хустак, а з белымі каўнерыкамі кашуль, адрозніваліся толькі колерамі свае вопраткі. Шляхецкая школа мела сіні ўбор, сялянская – шарачковы, гарадская была ў чорным з белымі заечымі кашкецікамі, а абедзве вясковыя – у лёгкіх саламяных капелюшах. Дзяўчаты з сялянскае школы былі ўбраныя як маладыя сялянкі, а шляхецкае і гарадское – у белыя паркалёвыя сукенкі і сіняга колеру плашчыкі, усе ў аднолькавых саламяных капялюшыках.

У шматлюднай грамадзе абывацелек і абывацеляў не відаць было ані мешаніны стракатых колераў, ані дробных аздобаў. Прастата і гарманічная каляровая гама добра скроеных убораў, вясёлыя і адкрытыя твары былі аздобаю тае грамады.

Зазванілі ў званы і дзверы касцёла расчыніліся. Пайшоў у іх спачатку шыхт школьнікаў, а за імі – дарослыя. Укленчылі ўсе перад алтаром Ласкі Божае. Сцішанасць і агульная пакора міжвольна выклікалі адчуванне святасці ў пачуццях Уладзіслава, які не быў яшчэ прызвычаены да падобных узрушэнняў.

Пасля складання святое ахвяры шаноўны каплан праспяваў *Цябе, Божа, хвалім*[22], а зборны хор моладзі ўзнёс пад скляпенні святыні песню ўдзячнасці. Але гэтая гармонія была нядоўгаю, бо ўся грамада ў сваёй узнёслай удзячнасці добраму Богу адгукнулася нястройным, але ўзрушаным спевам.

Ціха стала нарэшце пад скляпеннямі Божага храму. Пасярэднік паміж Небам і зямлёю падняўся на амбон. Казань яго была простая, нязмушаная, без асаблівых аздобаў. Словы яму падказвалі пачуцці, таму яны лёгка знаходзілі дарогу да сэрца.

"Валадар Сусвету, – казаў ён, – Айцец наш, чуў голас нашае ўдзячнасці і бласлявіў дзяцей сваіх каханых. Ласка Ягоная не міне самага ўбогага

чарвячка, усе стварэнні яго любяць, дык слушна і мы, гэтак шчодра Ягонаю Ласкаю адораныя, складаем падзяку Ягонай Ласцы кожную хвіліну жыцця нашага кожны ад сябе і ўсе разам у гэты ўрачысты дзень, гэтаму якраз прысвечаны".

Звяртаючыся потым паасобку да розных станаў грамады, землеўласнікам ён сказаў так:

"Вас, хто з Волі агульнага Айца нашага атрымаў апеку над часткаю братоў вашых, урачыста сёння Бог баслаўляе. Бо вызвалілі вы з паняверкі людзей, гэтаксама, як і вы, створаных на падабенства Божае, што гэтаксама, як і вы, адчуваюць справядлівасць, што гэтаксама, як і вы, маюць права на Ласку Божую. Адракліся вы ад усялякае несправядлівасці ў адносінах да іх, апекуецеся ў страху перад Богам, вярнулі вы ім чалавечую годнасць ды стараецеся ўзнагародзіць іх за крыўды продкаў. Цешыцца Бог вашымі ўчынкамі і тымі матывамі, якімі вы кіраваліся, бо рабілі гэта не дзеля пустое пахвальбы, а з-за любові да бліжняга і да справядлівасці. Дык цешцеся і вы, ды будзьце пэўныя Ласкі Божае, бо якою мераю вы мераеце, гэткаю і вам будзе адмерана.

А вы, каханыя браты-сяляне, прызнавайце пасланцоў Божых у гэтых збаўцах вашых і не забывайцеся пра іх у вашых малітвах. Бог радуецца з удзячнага сэрца. Яны падалі вам руку паратунку, адчынілі перад вамі скарбонку навукі, працерабілі вам сцежкі да добрага жыцця, – карыстайцеся ж з іх дароў на хвалу Божую і плаціце Богу за дабрадзейства, любячы тых, з дапамогаю каго Ён вам дабро чыніць, і любячы ўсіх бліжніх вашых, дзеля якіх тым больш карыснымі Бог хацеў вас зрабіць, чым больш даў Ён вам асветы і дастатку.

Вы, дзеткі, выхаванцы школаў гэтае парафіі, вучыцеся змалку, што любоў да Бога і бліжняга – гэта сапраўдная дабрачыннасць, а хто яе мае, той шчаслівы. Прыгледзьцеся да бацькоў вашых, як яны адзін аднаму ўчыняючы дабро і адплачваючы за яго любоўю, дзякуюць сёння Богу, што адорвае ўсялякімі дабротамі, за тое шчасце, якога яны зазналі. Бярыце з іх прыклад, бо няма ў іх пыхлівасці і самаўзвялічвання з-за таго толькі, што яны добрыя. Міласць да Бога і бліжняга поўная пакоры, усе добрыя памкненні натхняе Ласка Божая. Дык Яму прыпісваючы ўсю вартасць, адчувае чалавек, што не можа гэтулькі дабра ўчыніць, колькі б належала для дастатковае адплаты за дабрадзейства Божае. Схіляецца таму ён перад Богам і, складаючы Яму на славу свае ўчынкі, адною гэтаю пакораю прысвячае Яму ўсе свае справы.

Узрадуюцца сёння жыхары Нябёсаў, бачачы вас усіх, сабраных тут, у адным месцы, дзеля аддання ўдзячнасці за Ласку Божую, і ўзаемнай любоўю хрысціянскаю злучаных усіх тых, хто раней крыўдзіў і ненавідзеў адзін аднаго з-за несправядлівасці, роспачы, пыхі і праклёнаў, а пры спатканні ў Святынях Божых замест таго, каб адкрываць сэрцы любові да Бога і бліжняга, умацоўвалі іх у несправядлівасці ды станавіліся нявартымі дабрадзейства Божага. Выбавіў вас Бог з гэтае нядолі, адарыў сваімі скарбамі, сардэчнай радасцю ды дабрачыннасцю. Святкуйце ж дзень сёняшні, памятаючы пра гэта ў агульнай братэрскай еднасці, пры сумесным спажыванні дароў Божых.

Але спачатку ўвянчайце святкаванне сёняшняе ўшанаваннем дабрачыннасці. Няхай кожны, хто быў у захапленні ад нейкага чыну, больш высокага, чым штодзённыя вашы добрыя ўчынкі, няхай ён раскажа сёння пра яго ўсім тут сабраным парафіянам, каб і мы ўсе разам маглі цешыцца гэтымі

дабрачыннасцямі ды супольна дзякаваць за іх Богу, а спраўцам іхнім выказалі публічную пашану, каб паказаць, як мы цэнім дабрачыннасць.

Людзі, здольныя на высокія ўчынкі, паводле натуры свае мусяць быць сціплымі; дык можа не адзін з іх без радасці пачуе розгалас пра ўчыненае ім дабро; бо толькі пыха, схаваная пад плашчом дабрачыннасці, любіць падхалімства; а сапраўднае высакародства шчырае ў сваёй пакоры і сціпласці. Дык няхай у тым жа духу пакоры дазволяць нам уславіць належным чынам дабрачыннасць, якую Бог пажадаў выявіць у іх асобах. Памятайце, што яны толькі прылады Ласкі Божае, няхай яны дзякуюць Богу, што Ён іх выбраў, але няхай не ўзвялічваюцца ў пыхлівай гордасці; бо кожны чалавек у тыя ж, што і яны акалічнасці пастаўлены, мог бы тое самае, а можа, і болей зрабіць. Дык Богу няхай дзякуюць за тое, што справіў Ён гэтак, і гонар ім прысвечаны няхай складаюць да прыступак трону Бога Усёмагутнага. Калі сапраўды заслужылі, дык у будучым жыцці, калі Бог іх пакліча, атрымаюць яны вечную ўзнагароду, а калі людзям гэта толькі здалося, і хвалу яны незаслужана маюць, дык няхай гэтак жа складуць яе да прыступак трону Божага, і сама іхняя пакора будзе для іх заслугаю.

Няхай жа будзе хвала Богу Усёмагутнаму, які і ў гэтую хвіліну атачае нас духам свае любові, і кожнаму з нас прызначае свае новыя дабрадзействы, новыя благаславенства і трыумфы, новыя дабрачыннасці і ўзнагароды. Няхай хвала Яму будзе на вякі, няхай трон Ягоны атачае любоў нашая на вякі. Аман".

Не было аніводнага слухача, які б не раздзяляў агульнае ўзрушанасці і ўзнёсласці, якія выклікала слова Божае каплана. Дзеці рынуліся ў адбымкі сваіх бацькоў, слугі – у абдымкі паноў, і першы, можа, раз на зямлі сяляне шчыра абдымаліся са сваімі панамі.

Праз трое адчыненых дзвярэй выплыў людскі натоўп са святыні. Пад балдахінам на ганку ўжо стаяла паўколам пару дзясяткаў крэслаў насупраць арэны. Некалькі землеўласнікаў заняло месцы і, да немалога здзіўлення Уладзіслава, паселі побач з імі некалькі мяшчанаў ды паважных старых сялянаў.

– Гэта, – растлумачыў яму пан Падстоліц, – палюбоўныя суддзі нашае парафіі, якіх кожныя тры гады падчас свята выбіраюць. Яны павінны прысуджаць узнагароды і сачыць за парадкам, папярэджваць вінаватых і лагодзіць непаразуменні. Амаль аніводная справа з іх трыбуналу не пераходзіць у вышэйшыя судовыя інстанцыі. Паслухаем жа.

Падняў якраз руку першы з суддзяў і, узяўшы са стала ліст паперы, прамовіў:

– Паводле звычаю, тыя, хто запісаўся ў ксяндза плябана, няхай выйдуць і скажуць, каго і за які ўчынак маем увянчаць за дабрачыннасць. Першая ў рэестры Марцэля з Гарадзішча.

Паднялася з лаўкі амфітэатру немаладая кабета ў сінім чугаі ды ў беласнежнай намітцы, узяла за руку маладзіцу ў пунсовай шнуроўцы і ў капелюшы, што сядзела побач, ды, пераадольваючы яе сарамлівасць, пацягнула за сабою на арэну, да прыступак ганку, а там пачала голасна расказваць:

– Бацькі і браты! У гаспадарцы, самі ведаеце, шмат ад дабрачыннасці слугаў залежыць. Пад чуйным гаспадарскім вокам слуга мусіць быць дбайным і працавітым, бо адчувае нагляд; але па-за наглядам толькі ўласная дабрачыннасць пільнуе яго. Пажадаў Бог выпрабаваць мяне доўгаю немаччу;

праляжала я ў шпіталі больш за палову году. Дома застаўся мой муж, стары і слабы, ды матка, яшчэ больш старая і слабая, разам двума маімі дзецьмі, а таксама парабак з гэтаю вось сваёю жонкаю Малгажатаю. На яе я пакінула дом, думаючы, што хутка вярнуся са шпіталя, а яна, якая нядаўна скончыла навуку ў школе, можа, здолее пагаспадарыць сама. Матка мая хутка перабралася ў вечнасць, і тады ўжо аніякага, нават здалёк, не было над Малгажатаю вока.

Непакоілася я, лежачы ў шпіталі, і была ўпэўненая, што знайду дома, калі вярнуся, пустую спіжарню і пустую абору, поўную смецця хату і згаладалых дзяцей. Адведвала мяне, праўда, калі-нікалі Малгажата з маім мужам, суцяшала і бажылася, што дома ўсё дагледжана, і Пан Бог нас блаславўляе. Але я сабе так думала: кажы, васпані, на здароўе, я ж разумею, што значыць хата без гаспадыні.

Аж нарэшце, вярнуў мне Пан Бог здароўе, адвезлі мяне дадому. Прыехала я, як задумала, неспадзявана; хата была падмеценая, дзеці ў чыстых кашульках, памытыя ды вясёлыя, спіжарня поўная, жывёла ўкормленая і ў куфэрку – мяшочак грошай з дакладным рэестрам прыходаў і выдаткаў, напісаным рукою Малгажаты, бо мой муж, як ведаеце, пісаць не ўмее.

Перад маёю хваробаю працавалі мы ўдваіх на гаспадарцы, і матка мая, здаралася, дапамагала; а тут яе пільнасці ды стараннасці хапіла, каб адной з усім управіцца; начэй не дасыпала, на аніводную гулянку да суседак не пайшла, з дзетак маіх вока не спускала, адна дома, адна і ў полі ўсё парабіла і гаспадарку ў найлепшым стане ў рукі мае перадала. Сведкамі – уся вёска.

– Гэтак! Праўда! Годная вянца! – закрычалі навокал.

– Судзіце, бацькі, – дадала кабета.

– Маці, я свой абавязак выконвала, – глуха прамовіла зачырванелая, з вачыма ў зямлю апушчанымі Малгажата.

Суддзя, што сядзеў пасярэдзіне, зірнуў на таварышаў.

– Вартая ўзнагароды, – адказалі ўсе.

А першы суддзя ўзяў са стала вянец з лаўровых галінак, пераплеценых ядлоўцам, і сказаў:

– Падыдзі, дачка. Выканала ты абавязак, і за гэта маеш пашану гаспадароў ва ўзнагароду, але выканала ты яго гэтак старанна і дала іншым гэткі прыгожы прыклад дабрачыннасці, што за гэта атрымліваеш публічную ўзнагароду. Тваё імя будзе запісанае ў залатую кнігу, учынак твой будзе ставіцца ў прыклад маладым, кожны, хто цябе спаткае, прывітае цябе з пашанаю, будзеш ты хвалою для свае сям'і, а на публічных сходах займеш месца ў гэтым вось першым шэрагу, які займаюць людзі раней увенчаныя. Старайся ж не збочыць з гэтага шляху, бо прыкра было б аказацца з гэтага шэрагу выдаленай і не заслужыць на надмагілле, які, як ты ведаеш, адным толькі ўвенчаным і да смерці гэтае пашаны не пазбаўленым, мы ставім.

Сказаў ён так і падаў знак Марцэлі, якая паспешна зняла з Малгажаты капялюш, а Суддзя ўстаў і паклаў ёй на галаву вянец. Калі ён павярнуўся да грамады, дык з усіх бакоў раздаліся гучныя воплескі.

– Няхай жыве ў шчасці! Пачціва і сціпла! – крычалі навокал.

Нарэшце першы суддзя даў знак, каб усе сціхлі, і прамовіў:

– Браты! Богу пажадана было падаць нам у гэтай белагаловай прыклад тае дабрачыннасці, якая не толькі ў слугах, але і ў гаспадынях з'яўляецца якасцю, вартаю пашаны ды агульнага прызнання. І калі вы аказваеце ёй гэта, дык гэтым самым даводзіце і сваю сумленнасць, бо толькі сумленны чалавек умее шчыра шанаваць у бліжнім дабрачыннасць ды аддаваць ёй пашану. Рэкамендуем вам гэтую кабету Малгажату, жонку Даніела, і не сумняваемся, што вы заўсёды будзеце аказваць ёй належную пашану згодна з прынятымі правіламі да таго часу, пакуль яна будзе заставацца годная яе.

Зноў пачуліся воплескі і радасныя воклічы; Суддзя паказаў Малгажаце на крэсла побач з шэрагам суддзяў пад тым самым балдахінам, а сам узяў рэестр і прачытаў:

– Сымон з Баровак няхай выйдзе і паведаміць, чым нас Бог ягонымі вуснамі хоча пацешыць.

Падняўся з лавы згорблены стары і з падтрымкаю хлопца ды дзяўчыны на дрыготкіх нагах увайшоў на арэну, наблізіўся да прыступак ганку, пакланіўся суддзям і прамовіў:

– Бацькі і браты! Вы ведаеце, што зазнаў я ў сваім жыцці шмат гора. Пяцёра дарослых дзетак я пахаваў; дом мой і ўвесь набытак згарэлі, незастрахаваныя ад агню, дык не было і права на выплату з касы. З усяго дастатку засталася ў мяне толькі сярмяга ды сякера, з усіх нашчадкаў – двое вось гэтых унукаў, дзяцей майго старэйшага сына. Пан мой, тут прысутны, ахвяраваў мне дапамогу, абы толькі не губляў я надзеі, але не было ўжо на што мне спадзявацца, і нічога я больш не хацеў. Гэтыя падлеткі былі яшчэ ў аграрнай школе, не меў я помачы ў сям'і, дык пайшоў у чужую парафію за пастуха. Цяжка мне там было, бо прызвычаіўся я ўжо да нашых парадкаў і нашага ладу жыцця. Блукаючы з чарадою па лясах, я плакаў горкімі слязьмі над сваёю нядоляю, што з заможнага гаспадара зрабіўся валацугам толькі з-за таго, што праз уласнае глупства пашкадаваў малое складкі ў касу страхавання ад агню. Думаў ужо, што гэткім тулягам і галаву мне скласці давядзецца.

Аж вось, праз чатыры гады, гэтаю вясною, калі аднаго дня выганяў я чараду ў поле, аж гляджу: ідуць гэты вось хлопец і дзяўчына. Па іх уборы і бадзёрасці пазнаў я, што яны з нашае парафіі, але і ў галаву мне не прыйшло, што гэта ж мае ўнукі.

Як падышлі яны да мяне, дык гэтак проста ў ногі мне і ўпалі, а Кастусь сказаў: "Бацька наш каханы, ты нас гадаваў і аддаў у школу. Калі мы выйшлі адтуль, дык служылі ў нашага дзядзькі Пятра. Агата скончыла трохгадовы тэрмін, а мне яшчэ два гады застаецца служыць, і я ў цябе даслужыць маю намер. Сабралі мы з заробку ў школе і за тры гады службы дзве тысячы злотых, узялі ў пана тую самую зямлю, якая ў цябе была, паставілі з дапамогаю пана добры дамок, купілі валоў, колькі трэба, коней, кароў і авечак, і ў доме ўсё неабходнае ёсць, толькі не хапае нам гаспадара і бацькі. Не адмаўляй нам, каханы бацька, хадзем з намі і прымі тое, што з Ласкі свае Бог праз нашыя рукі табе вяртае. Усё гэта тваё ўласнае, бо аддаў ты нас у школу, дзе навучыліся мы ўмела гаспадарыць і жыць з вынікаў працы". "І любіць нашых бацькоў", – дадала Агата.

Развітаўся я тады з тою чарадою і пайшоў да дзяцей. Бацюхны! Не досыць таго, што ўбачыў я дом лепшы за той, чым меў, і поўны дастатак, але ў тых

дзецях пан Бог пажадаў даць мне большую за ўсё на свеце пацеху. Стараючца яны ўгадаць мае думкі, варта мне кіўнуць, як кідаюцца на дапамогу, не дай Божа, кепска зробіцца, дык ляцяць і па доктара, і па лекі, і самі начэй не спяць, бо ўсё каля мяне. Працуюць, здаецца, толькі для мяне і жывуць, каб паказваць мне сваю любоў дзіцячую і ўдзячнасць, што аддаў іх у школу. Суддзі! Я для іх нічога не зрабіў, а гэткая іх дабрачыннасць, вырашайце, ці не вартая ўзнагароды?

– Гадаваў ты нас, бацька, – прамовіла, тулячыся да яго, Агата.

– Усё, што ў нас ёсць, тваё, – дадаў, цалуючы яго ў руку, Кастусь.

– Няма за што нас узнагароджваць, – скончылі яны разам. – Пойдзем, бацька, на месца, не будзем адымаць часу ў больш годных узнагароды.

Тым часам паразумеліся паміж сабою суддзі, а першы даў знак маўчання ды сказаў:

– Любіць бацькоў і продкаў сваіх – гэта абавязак кожнага чалавека, а служыць ім усё жыццё ды ўсё ім аддаваць – павіннасць. Шчаслівы той, хто гэта выконвае, бо на ім блаславенства Божае спачывае.

Каб давялося ўвянчаць кожнае добрае дзіця, дык увянчалі б мы ўсю нашую моладзь, бо ўсе любяць і, наколькі хапае сілаў, служаць сваім бацькам. Дык задаволься, стары, належнай пахвалою тваім унукам. А публічнае тваё сведчанне будзе ім больш мілаю памяткаю, чым той вянец, які, як яны самі, пэўна, перакананыя, не ім адным, але шмат якім добрым дзецям належаць павінны.

Але твая дабрачыннасць, стары, больш рэдкая, чым, можа, ты сабе ўяўляеш. З маленства асірацелых дзяцей свайго сына гадуючы, выхоўваў ты ў іх сумленнасць сваім прыкладам і навучыў іх гэтаму, а таму маеш з іх узорнае пацяшэнне. Бо бацькі могуць спадзявацца ад дзяцей толькі таго, чаго самі іх навучылі. Удзячнасць, нарэшце, твая ў старым веку, калі людзі, звычайна, прымаюць як павіннасць усё, што для іх робіцца, і з усяго яшчэ бываюць незадаволеныя, гэтая твая ўдзячнасць заслугоўвае ўвагі.

Таму, паводле меркавання суду, ты сам варты годнае ўзнагароды за тое, што ўнушыў выхаваным табою дзецям грунтоўныя прынцыпы дабрачыннасці і што ў старасці даеш нам прыклад добрага сэрца і ўдзячнасці. Ці пацвярджаеце, браты, гэты вырак суду?

Гучныя воплескі пачуліся навокал, і пан Падстоліц разам з іншымі крычаў: “Мудра! Справядліва! Стары годны вянца!”

Першы суддзя зноў падаў знак маўчання і прамовіў:

– Падыдзі, браце. Няхай гэты вянец будзе ўзнагародаю твае сівое і шматгадовае дабрачыннасці. Здаўна вядомы ты быў сваёй гаспадарлівасцю, людскасцю і дбалым выхаваннем нашчадкаў. Адзін з першых адчуў ты патрэбу ў выхаванні; адзін з першых, карыстаючыся ласкаю паноў, аддаў ты малодшых сваіх сыноў у сялянскую школу, а пасля іх смерці паслаў туды і сваіх унукаў. Бог не дазваляў табе дагэтуль скарыстацца вынікамі твае дабрачыннасці. Трапіў ты ў аблуду, як шмат хто заблудзіць можа, не давяраючы касе страхавання ад агню і занадта спадзеючыся на ўласнае шчасце, і бядою сваёю за гэту памылку заплаціў.

Але бярыце гэта за навуку, маладыя, як не пакідае Бог справядлівага. Не прамінула гэтага старога Ласка Божая дзеля прыкладу іншым, каб навучыліся

карыстацца з дабрадзейства Божага, які даў людзям розум і прадбачлівасць, каб яны маглі забяспечыць сябе ад няшчасных выпадкаў. Але пасля пакарання за памылку прыйшоў час узнагароды за дабрачыннасць. Вярнула яму Ласка Божая дастатак рукамі тых, каго гэты стары ў сумленнасці выхаваў. І сёння, вянчаючы ягоныя сівыя скроні, для нашае, вядома, навукі, Ён выяўляе нам гэты відавочны довад свае справядлівасці.

Таму садзіся, шаноўны стары, у гэтым коле. А вы, маладыя ягоныя наступнікі, прыміце публічную з нашых вуснаў пахвалу. Выканалі вы свой абавязак, заставайцеся і надалей годнымі свайго выхавання, шануйце сумленнасць, дык Бог у публічнай пашане і ў сэрцы вашым складзе вам сваю найлепшую ўзнагароду

Пасадзілі маладыя старога, які выціраў слёзы, а самі бакавымі сходамі спусціліся з ганку і хацелі ўжо схавацца ў натоўпе, але на ўсім шляху іх суправаджалі воплескі. Нарэшце, першы суддзя зноў узяў паперу, даў знак суцішыцца і прамовіў:

– Юстын Каронскі, бялільшчык палатна, няхай выступіць і паведаміць нам, у кім ён заўважыў асаблівае блаславенства Божае.

Выйшаў на арэну чалавек сярэдняга веку ў чорным фраку, які вёў за руку жвавага маладзёна ў сіняй таратайцы. Ён пакланіўся суддзям і пачаў сваю прамову паважным тонам:

– Вядома, шаноўныя суддзі, што поспех як у гандлі, гэтак і ў рамесніцтве залежыць ад строгае акуратнасці і сумленнасці прадпрымальнікаў. Але часта прадпрымальнік адзін справіцца не можа, і тады ён вымушаны спадзявацца на пачцівасць сваіх памочнікаў, ад якіх залежыць і рэпутацыя прадпрымальніка, і паспяховасць ягонае справы. Мала тут толькі ўважлівасці ды стараннасці, а неабходная аж да апошняй дробязі нязменная акуратнасць памочнікаў. І калі які з іх лічыць дробныя промахі нявартымі ўвагі, дык ён ставіць пад пагрозу рэпутацыю свайго прадпрымальніка, бо ў рамястве хібы на волас могуць падавацца для чужога вока бервяном.

Вось гэты маладзён працуе ў мяне на выбельванні палотнаў. Якаснае выбельванне залежыць не толькі ад ступені насычанасці хлорам тае вады, у якой палатно адбельваецца, але ў асноўным ад пільнага нагляду за адбельваннем, каб палатно ані больш, ані менш, чым трэба, у растворы не заставалася. Нехта з іншых новых памочнікаў нарабіў бы мне шмат шкоды, асабліва пацярпела б рэпутацыя маіх вырабаў, але Бог паслаў мне гэтага выхаванца рамесніцкае школы. Я прашу ўзнагароды не за ягоную працавітасць, адказнасць, памяркоўнасць, жвавасць ды ўвішнасць у працы, бо гэта ўласціва кожнаму вучню гэтай школы.

Але тая асаблівая далікатнасць, калі з-за клопату пра рэпутацыю мае мануфактуры яму часта даводзіцца ахвяраваць сваім вольным часам і прыстойнымі забавамі, каб толькі забяспечыць добры вынік і напоўніцу выкарыстаць усё абсталяванне, неабходнае для працэсу, дайшла ў ім да гэтакае ступені, што я, не ведаючы іншае магчымасці, каб выказаць яму сваю ўдзячнасць, пастанавіў прасіць вас, шаноўныя суддзі, пра публічнае яго ўшанаванне. Сведкамі ягонае сумленнасці з'яўляюцца мае таварышы.

– Варты ўзнагароды, высакародны, сумленны, узорны маладзён, – крычалі з усіх бакоў мяшчане.

Першы суддзя пасля нарады з калегамі адказаў:

– Мы разумеем, як шмат залежыць у кожным рамястве ад пільнасці, стараннасці ды акуратнасці памочнікаў і чаляднікаў, якія клапоцяцца пра добрую рэпутацыю вырабаў свайго рамесніка. Сведчанне гэтага шаноўнага майстра і суседзяў загадвае нам прызнаць цябе, Юзаф Тарліч, за годнага вянца, а таксама рэкамендаваць цябе іншым тваім таварышам у якасці прыкладу для наследавання. Прымі ж гэты вянец, якім мы ўзнагароджваем тваю дабрачыннасць. Тваім абавязкам цяпер з'яўляецца і надалей, усё тваё жыццё, быць прыкладам для іншых. І калі ты сам станеш прадпрымальнікам, дык знойдзеш сабе, пэўна, годных памочнікаў, якія будуць ісці тваім шляхам і аддадуць табе мераю за меру, як і мы аддаём табе зараз сваю пашану і ўдзячнасць за дабрачыннасць і прыклад.

Ён паказаў яму месца сярод раней увенчаных і працягваў:

– Дазорца земляробчае школы няхай выйдзе і паведаміць нам, чыю дабрачыннасць яшчэ мусім мы ўшанаваць.

Наблізіўся да прыступак ганку паважны чалавек, які нікога не вёў за сабою, пакланіўся суддзям і ўрачыста прамовіў:

– Бацькі і браты! Увянчалі вы дабрачыннасць у сталым веку і ў старасці, гэта былі людзі ўжо выхаваныя, якія на ўласным вопыце пераканаліся ў карыснасці дабрачыннасці. Я дам вам прыклад яе ў такім веку, калі прыроджаныя схільнасці падмацоўваюцца першымі ўражаннямі і толькі яшчэ пачынаюць развівацца.

Вядома вам, бацькі і браты, як недахоп хлеба адчуваўся гэтаю вясною ў суседніх з нашай парафіях. Кепскае ворыва, нясвоечасовая сяўба ды тое, што не ўвялі яны яшчэ ў сябе сучаснага гаспадарання, сталіся прычынамі голаду, які зазналі тамтэйшыя жыхары. Дапамога, якую ім аказвалі, не магла быць дастатковаю, і некаторыя сем'і прыцягнуліся жабраваць да нашае школы. Жадаючы выкарыстаць гэта як наглядны прыклад, прывялі мы гаротнікаў у залу, дзе сабраліся ўжо нашыя вучні – хлопцы і дзяўчаты – ды загадалі бедакам расказваць, як яны трапілі ў гэткую нядолю.

Від іх ды просты расказ пра бяду не толькі глыбей пераканалі нашых вучняў у патрэбе сучаснага гаспадарання ды ў значнасці тых абавязкаў, якія паны маюць у адносінах да сялян, даручаных іхняе апецы, не толькі абудзіў у іх яшчэ больш гарачую прагу стаць карыснымі і старанна вучыцца, каб мець магчымасць паспяхова далучыцца потым да агульнае добрае справы, але, апрача таго, гэтак іх расчуліў ды выклікаў гэткі жаль, што ўсе пачалі плакаць.

Тым часам адна дванаццацігадовая паненка звярнулася да іх гэткімі словамі: "Мае мілыя таварышы, не дастаткова толькі паплакаць нам над бядою нашых братоў, падумаем лепш, ці не даў нам Бог нейкага спосабу, каб ратаваць іх з голаду, наколькі гэта ў нашай моцы. Назапасілі мы па некалькі злотых з продажу дробных нашых вырабаў, ці не згодзіцеся вы, мае мілыя таварышы, зрабіць для іх складкі? Малая гэта будзе ахвяра, але мы можам зрабіць і больш, калі ад кожнага сняданку і ад кожнай вячэры пакінем ім палову таго хлеба, які звычайна спажываем. Падумайце, колькі людзей накормім мы тым, што для нас будзе амаль незаўважна".

"Усе грошы, усе сняданкі! – закрычалі ўсе навокал. – І ўсе вячэры ім будзем аддаваць, аж пакуль яны не збяруць новага ўраджаю".

Мы былі сведкамі гэтага ўздыму і не хацелі яго спыняць. Цешыла нас гэтая сардэчная дабрыня. Дазволілі мы тое, што напачатку паненка прапанавала. А яна тым часам адвяла маю жонку ўбок ды сказала: “Мая кіраўнічка, я, можа, зрабіла нешта недазволенае, калі змусіла маіх таварышаў, каб яны адмовіліся ад падмацунку, якога і так маюць няшмат. Ад вас залежыць стрымаць іх парыў, а каб усё ж вярнуць тое, што вы ім ахвяраваць не дазволіце, я прашу вас узяць у мяне гэты залаты крыжык. Дала мне яго бабуля разам са сваім блаславеннем. Варты ён тры дукаты. Згадзіцеся прадаць яго, а за атрыманыя грошы купіць збожжа для гэтых людзей. Атрымаецца, магчыма, нават больш, чым тыя сняданкі маіх таварышаў”.

Усцешаная яе прапановаю, для пробы паспрабавала мая жонка зрабіць дзеля праверкі ёй закід, што нельга пазбывацца бабулінага крыжыка, які тая дала са сваім блаславеннем. “Мая кіраўнічка, – адказала паненка, – я ўпэўненая, што бабулька мая, калі бачыць гэта з неба, дык мусіць ухваліць маю ахвяру і, каб я гэтага не зрабіла, дык яна тады, можа, адмовіць мне ў сваім блаславенні, бо я і ад яе, і ад маіх бацькоў чула, што добра заклікаць рабіць складкі ў дапамогу бліжняму, але яшчэ лепш замяніць гэтыя складкі ўласнаю ахвяраю, хоць бы гэта і больш каштавала”[a].

Бацькі і браты! Калі вы вырашыце, што гэты ўчынак годны ўзнагароды, тады і ўбачыце гэту паненку. Я не вывеў яе, каб у выпадку непрызнання, зберагчы яе пачуцці, але больш з-за таго, каб від гэтае асобы не ўплываў на ваша рашэнне прызнаць ёй узнагароду.

Першы суддзя пагаварыў з калегамі і паведаміў:

– Мудра ты паступіў, Дазорца земляробчае школы. Дзякуем за тваю далікатнасць у ашчаджанні нашага меркавання. Бо не з-за віду гэтае асобы, але па справядлівасці, нават не ведаючы, каго маем увянчаць за гэткую далікатную дабрачыннасць, лічым мы рэкамендаваную табою паненку годнай вянца. Таму просім, каб ты вывеў яе да нас і дазволіў ушанаваць дабрачыннасць, якую незалежна ад веку, полу і стану жадаем шанаваць у кожным.

На знак Дазорцы з’явілася на арэне ягоная жонка, якая вяла трынаццацігадовую паненку – засаромленую, устрывожаную, якая нічога перад сабою не бачыла і ледзьве ішла. Пры яе з’яўленні загучалі яшчэ больш гучныя, чым раней воплескі і воклічы: “Няхай жыве сумленная, дабрачынная, годная сваіх бацькоў, дачка пана Падстоліца!”.

Пан Падстоліц і шаноўная яго жонка кінуліся з абдымкамі да свайго дзіцяці на арэну.

– Нічога ж нам не сказаў, пане Дазорца, – папракнуў яго пан Падстоліц.

– Я меркаваў, – адказаў Дазорца, – што гэты чын годны публічнага ўшанавання і прыкладу. Але я быў упэўнены, што каб пан Падстоліц даведаўся пра наш намер, дык забараніў бы нам яго выканаць.

– Мосці Падстоліцу, – звярнуўся да яго першы суддзя, – пажадана было Ласцы Божай дазволіць табе ўбачыць плады твае працы дзеля нашага дабра. Прыемна нам, што можам па справядлівасці ўшанаваць дабрачыннасць у тваіх наступніках. Цешся з гэтага і дазволь, каб гэты прыклад пераконваў ва ўсемагутнасці і справядлівасці Божай.

---

[a] Рэальны выпадак.

А ты, дачка, што і бацькоў сваіх, і нас усіх пацешыла, добра бачыла, што мы прызналі табе гэты ганаровы вянец не таму, што ты дзіця таго чалавека, праз якога Бог пажадаў блаславіць гэтую ваколіцу, але таму, што Бог выбраў цябе тою чашаю, у якую памясціў дабрачыннасць дзеля прыкладу бліжнім. Прымі ж гэты вянец з пакораю і ўдзячнасцю Богу, якому ўсе мы павінны ўсё тое, што маем у сабе добрага, і займі з гэтага часу месца паміж вартымі прыкладу.

Браты! Больш ніхто не запісаўся ў гэты рэестр. Закончылі мы першую і самую ганаровую частку сённяшняе ўрачыстасці. Пасля полудня зоймемся іншымі. А цяпер запрашаю вас ад імя ўвенчаных сёння на пачостку, якую мы для ўшанавання іх прыгатавалі.

Пачалі адсоўвацца крэслы і загучаў хор вучняў. Суддзі ўзялі пад рукі новых венцаносцаў – па двое кожнага – і павялі іх да сярэдняга стала пад намётам ды пасадзілі там на лепшых месцах, а далей паселі раней увенчаныя, якія таксама ў гэты дзень прышлі ў вянцах, і ўжо ў канцы стала паселі самі суддзі.

Да іншых сталоў пайшлі паны з гаспадарамі, пані з гаспадынямі, асобна – панічы, афіцыялісты, рабочыя і парабкі; асобна – панны, служанкі і дзяўчаты. Вучні – уперамешку: і хлапчукі і дзяўчаткі з усіх школаў і станаў – падзеленыя былі на групы, адна з якіх была хорам ды пад гукі шматлікіх арфаў ды флейтаў спявала гімны ў гонар увенчаных, а другая – слугавала бяседнікам.

Вялікія кубкі мёду, налівак і сідру суправаджаліся воклічамі і тостамі, якія падымалі па чарзе: за здароўе пана Падстоліца ды іншых паноў, новых увенчаных, сялянаў і сумленных слугаў, за поспех горада і рамесніцтва – у меру і без п'янага крыку, дадаючы толькі весялосці, ядналі яны пачуцці бяседнікаў. Праз нейкі час падымаліся ўсе ад сталоў і спакойна праходжваліся, размаўляючы, пакуль моладзь на іх месцы падсілкоўвалася.

Нарэшце ўсе па знаку ізноў занялі месцы вакол арэны, а суддзі – на ганку святыні і пачалі прызнаваць узнагароды за найлепшыя гаспадарскія дасягненні, якія адразу ж дэманстраваліся на арэне: за самых вялікіх авечак, за самае тонкае і роўнае руно, за самых дужых валоў-трохгодак, за самых малочных кароў, за найбольшую колькасць выгадаваных ягнятаў, за самых прыгожых коней, за дамашняе птаства ды за некаторыя вынаходніцтвы і ўдасканаленні ў гаспадарчым інвентары.

Пачалі несці потым шматлікія рамесніцкія вырабы, а шафы і сталы вакол арэны стварылі падабенства выставачнае залы. Усе разглядалі розныя гатункі сукнаў, бавоўну, палатно, вырабы з металу, рогу, скуры, дрэва, паперы. Знайшлося тут месца і для вясковых вырабаў, гэта было прадзіва і сеткі, рагожы і капелюшы, крухмал і карук, белы воск і цукар з буракоў, пярловыя крупы і мука тонкага памолу. Словам, найлепшыя ўзоры ўсіх відаў промыслу гэтае мясцовасці дэманстраваліся сярод вясёлае гаманы і атрымлівалі ўзнагароды. Бесстароннія меркаванні суддзяў пацвярджаліся радаю знаўцаў і суправаджаліся воплескамі прысутных. Узнагароды былі такія: упісанне ў залатую кнігу, пахвальны ліст альбо нейкая гаспадарчая прылада на памяць, якую ахвяроўвалі суддзі.

Потым пачаліся фізкультурныя практыкаванні і спаборніцтвы ў барацьбе. Моладзь у прысутнасці суддзяў дужалася, спаборнічала ў бегу, лазіла па дрэвах і таксама атрымлівала за лоўкасць альбо за сілу ўзнагароды, а калі арэну прыбралі, дык некалькі хлопцаў з земляробчае школы выехала на спрытных

скакунах і пачалася конная кадрыля. Хуткія абароты, асаджванні і зігзагі, уся гарманічнасць рухаў, а таксама зграбная пастава прыгожых коннікаў не ў адным сэрцы ажывілі ўспаміны і не адны грудзі прымусілі ўздыхнуць.

Нарэшце азвалася труба; маладзёны, нібы вецер, вылецелі з арэны, на якой адразу ж былі разасланыя рагожы. Загучала капэла, а суддзі сышлі з ганку, падышлі да грамады і запрасілі ўсіх да танцаў. Старыя, якія жвава прайшлі польскага, зноў пры сталах паднялі кубкі, а моладзь у некалькіх грамадках, не зважаючы на стан, бо ўсе ў той дзень былі адной сям'ёю, радавалі вока сваёй зграбнасцю ў мазурках і ды кракавяках.

Тым часам зайшло ўжо сонца і павеяла восеньскім халадком. Сяляне і мяшчане, што жылі паблізу, запрашалі прыяцеляў да сябе дадому скончыць гэты дзень бяседаю; грамада паволі разыходзілася, і пан Падстоліц таксама запрасіў суседзяў і дзяцей з земляробчае школы правесці рэшту вечара ў яго маёнтку.

## Раздзел пяты

# ГРАМАДЗЯНКІ

Dobreż, choć staroświeckie, Polaków zwyczaje,
Przy posiedzeniu słyszeć skrzypce, szałamaje;
Łub domowy zaśpiewał, kto umiał, przy dudzie;
A miejsca nie bywało fałszom i obłudzie.
Toż, gdy rzędem stanęły niewinne dziewoje,
Jednakim tonem głosy moderując swoje,
Których widząc i słysząc goście zadumieli
Mniemają, że z postaci i z głosu anieli.

Wesp. Kochowski, *Xięg*. III. p. 2[23]

Яркае святло жырандоляў і кінкетаў[24], адбіваючыся ў люстрах, залівала залу і гасцёўні ў доме пана Падстоліца. Лагодны водар кветак і парфумы ствараў прыемную атмасферу ў гэтым прытулку вясковага шчасця, а добразычлівасць гаспадароў, якія аднолькава шчыра віталі сваіх шматлікіх гасцей, дадавала чароўнае гармоніі гэтаму вечару. Лагодную весялосць відаць было ў вачах кожнага і чуваць у кожным слове. Паволі прысутныя пачалі дзяліцца на асобныя колы. Гаспадары са сваімі памочнікамі стараліся, каб усе добра бавіліся, але нікому не назалялі. Моладзь акружыла більярд, у зале рыхтаваліся да танцаў, у адным гасцінным пакоі вялі паважную гутарку землеўласнікі, у другім – пры гарбаце, якую разлівала Іпаліта – сядзелі матроны. Гэта не быў строгі падзел, бо ўсе пераходзілі з аднаго месца на другое, выбіраючы сабе таварыства і размовы, як каму падабалася.

Уладзіславу было цікава, пра што ж размаўляюць мясцовыя дáмы.

– Сёлета, – казала маладая пані Суддзіха, – удалося мне прыспешыць працэс выраблення крухмалу, так што цягам гадзіны я атрымліваю ўвесь крухмал з мукі, не губляючы пры гэтым клейстару.

– Напэўна, не шкода табе будзе, – падхапіла пані Рэгентша[25], – і з намі падзяліцца сваім спосабам, а я раскажу пра сваё вынаходніцтва ў ткацтве.

– З ахвотаю, – згадзілася пані Суддзіха. – Спосаб гэты вельмі просты.

Я сыплю муку ў не надта шчыльны мяшок, лью ў яго ваду і мяшаю цеста. Вада, сплываючы, вымывае крухмал і цукар, а клей застаецца ў мяшку. Тады гэту крухмальную ваду працэджваю праз ядвабнае сіта і, калі адстоіцца, зліваю. Гэтым спосабам атрымліваю клей і салодкую ваду, прыдатную ў гаспадарцы, без аміячнага смуроду, непазбежнага пры звычайным вырабе крухмалу[VIII]. А якое ж тваё вынаходніцтва ў ткацтве?

– Перапыню вас, – умяшалася пані Капітанша. – Калі вы гаворыце пра крухмал, дык мусіце ведаць, што і я нядаўна прыдумала, як удасканаліць гэты прадукт, і, мяркую, гэта можа прыдацца кожнай гаспадыні. І ўсё з дапамогаю хіміі. Сапраўды, пасля заканчэння вучобы я працягвала ёю цікавіцца, таму

і вынайшла спосаб выбельвання і ачышчэння крухмалу. Мне не падабалася, што крухмал наш жаўціць бялізну, і таму мыць даводзіцца з ужываннем сінькі альбо індыга[26]. А з хіміі вядома, што чысты крухмал не павінны надаваць колеру вадзе альбо бялізне; дык я вырашыла, што ягоны жоўты колер залежыць ад нейкае фарбавальнае субстанцыі, якая знаходзіцца ў муцэ. Каб пазбавіцца ад гэтае субстанцыі, я ўжыла наступны спосаб.

Прыгатаваўшы крухмал, я падзяліла яго на часткі і распусціла ў вадзе да гушчыні смятанкі; потым на кожны фунт крухмалу ліла паўтара гарца бялільнае вадкасці. Вадкасць гэту я раблю з двух унцый хлёркавае вапны і шасці квартаў вады. Паволі размешваю крухмал у гэтай вадкасці, даліваю шэсць гарцаў вады і чакаю, пакуль выпадзе асадак. Потым зліваю вадкасць, а на кожны фунт крухмалу лью па дзве ўнцыі living сернае кіслаты, разбаўленай шасцю квартамі вады, зноў добра мяшаю і нарэшце да гэтага раствору даліваю яшчэ на кожны фунт крухмалу па шэсць гарцаў вады. Цяпер ужо ачышчаны і выбелены крухмал асядае на дно. Я мыю яго яшчэ некалькі раз вадою, каб выдаліць кіслату і хлор, а потым заканчваю работу, як звычайна[IX].

Вось гляньце, гэты муслін такім якраз крухмалам накрухмалены, а індыга альбо сіньку я не выкарыстоўвала.

Усе засяродзіліся на асляпляльнай белізне сукенкі Капітаншы, а калі надзівіліся і расхвалілі яе, дык Суддзіха звярнулася да Рэгентшы:

– Суседка, я не забылася. Дык якое ў цябе ткацкае вынаходніцтва?

– Таксама хімічнае, – адказала Рэгентша. Ведаеце ж, як дорага ў нас каштуе мука з канарэечнага проса (phalaris canariensis), з якое робім клей для накіроўвання прадзіва на ткацкім станку, каб пража не рассыпалася і растрэпвалася. Дагэтуль, хіба, на батыст маглі мы выкарыстоўваць гэты клей. Мне ўдалося прыдумаць клей непараўнальна больш танны і разам з тым гэткі далікатны і чысты, які мае гэткую ўласцівасць утрымання вільгаці, што самае далікатнае прадзіва зусім ад яго не брудзіцца, а застаецца мяккім. Бяру дзеля гэтага фунт бульбянога крухмалу, адну ўнцыю чыстага клею і ад шасці да дзесяці гран[27] хлёркавае вапны. Разводжу крухмал у вадзе і стаўлю на агонь, аж пакуль не закіпіць, толькі тады дадаю клей, распушчаны 12 гадзін таму ў халоднай вадзе, і хутка заварваю, нарэшце, усыпаю хлёркавую вапну, мяшаю ўсё і клей мой гатовы[X].

Колькасць хлёркі адрозніваецца з-за свае ўласцівасці, як вам вядома, прыцягваць з паветра вільгаць, дык вось, калі паветра вельмі сухое, я ўжываю хлёркі больш, а ў вільготную пару – менш.

– Тады і я пахвалюся сваімі вопытамі, – сказала Зося. – А справа ў тым, што нашы расліны ў вазонах могуць абыходзіцца цяпер без зямлі.

– А гэта нешта новае! – здзівілася пані Чашнічыха.

– Нічога тут новага, бо гэтае вынаходніцтва ўжо вядомае, але наша ваколіца можа падзякаваць мне за паспяховае выкарыстанне ў нас гэтага вопыту. Замест зямлі я ўжываю для вазонаў мох з дадаткам, бывае, невялікае колькасці пяску, а паліваць трэба вадкім ўгнаеннем. Вазоны з-за гэтага робяцца лёгкія і чыстыя, менш патрабуецца рук для іх пераноскі, а расліны на імху лепш укараняюцца і раней пачынаюць квітнець, асабліва добра ўдаецца нам вырошчваць цыбульныя расліны. Атожылкі непараўнальна лепш у імху прымаюцца. Лепшы дзеля гэтага мох віду *Нурпит*, якога шмат у нашых густых лясах.

Збіраць яго трэба разам з апалым лісцем і перагноем з розных галінак, добра таксама пакінуць крыху зямлі, якая прыстала да карэньчыкаў[XI].

– Будзем табе абавязаныя, – сказала Суддзіха, – за гэты вопыт, зусім цяпер не лішні ў нашай мясцовасці, дзе з ласкі панства Падстоліцаў гэтак шмат маем ужо раслінаў, дагэтуль невядомых у нашай правінцыі, але гэткіх карысных, што варта было б заахвочваць да распаўсюджвання іх на ўвесь край.

– Аднаго варта жадаць, каб пашыраўся, як мага хутчэй, прадпрымальніцкі дух, – падхапіла пані Падстолічыха. – Тады, можа, і ў нашай правінцыі знойдуцца людзі, якія зразумеюць карысць садовага таварыства. Можа, як у іншых краінах, і ў нас задумаюцца пра садовыя гадавальнікі. У нас лепшыя, чым у іншых, умовы дзеля гэтага, бо берагі Чорнага і Каспійскага мора бліжэй да нас, чым для заходніх краін Еўропы. На тыя берагі, якія нязначна адрозніваюцца ад гарачых раўнін Ірану, праз Грузію, мы маглі б прывозіць дзеля акліматызацыі на адкрытым паветры персідскія расліны, а таксама расліны з Малое Азіі; перасоўваючы гадавальнікі далей і далей, можа, з часам убачылі б і ў нас расліны з-над Гангу і Нілу.

– Паводле майго меркавання, – дадала адна з настаўніц, – не гэтак пра гадавальнікі, як пра дакладнае апісанне ўмоваў вегетацыі павінны мы старацца. Можа, і без геаграфічнае акліматызацыі маглі б мы гадаваць экватарыяльныя расліны, каб давалі ім у нашых цяпліцах падобны да іх айчыннае ўзровень цяпла і вільгаці пры выкарыстанні падобнае глебы. Таму, я думаю, што надта добра было б, каб мы побач з апісаннем раслінаў і спосабу дагляду за імі, маглі б знаходзіць дакладныя апісанні не толькі гатункаў глебы і дакладных месцаў іх распаўсюджання, але і сярэднюю тэмпературу ў тых мясцінах, і сярэднюю вільготнасць атмасферы.

– А калі ў нашай глебе, – заўважала пані Рэгентша, – тыя расліны не знойдуць патрэбных ім пажыўных элементаў?

– Вадарод і вугаль, – азвалася Зося, – знойдуцца ў кожнай зямлі, а колькасць гэтых элементаў і спажыўныя солі, патрэбныя для некаторых гатункаў раслінаў, здаецца, залежаць складу грунту. І таму, думаецца мне, апрача таго, што мая шаноўная настаўніца зычыць, належала б яшчэ ў апісаннях гэтых раслінаў даваць дакладны хімічны склад зямлі, на якой яны растуць[XII].

– Пэўна, што так, дзіця маё, – пацвердзіла пані Падстолічыха. – Можа, не кожная расліна ў нас на кожным месцы магла б прыняцца, але на разнастайных нашых абшарах, можа, і здолела б знайсці ўласцівы грунт ды пажыўныя рэчывы. Нарэшце, прызвалі б мы на дапамогу майстэрства выкарыстання, як у цяпліцах, мінеральных угнаенняў, наколькі гэта патрэбна.

– Заўсёды, аднак, – заўважыла пані Рэгентша, – давялося б некалькі пакаленняў раслінаў асвойваць з нашым кліматам у цяпліцах.

– Несумненна, – згадзілася пані Падстолічыха.

– Гэтаксама пажаданым было б у нас і таварыства развядзення карысных жывёлаў, – прапанавала пані Падкамарына. – Напрыклад, авечак караманскіх[28], руно якіх у чатыры разы цяжэйшае і амаль гэткай жа якасці, як у мерыносаў; лягчэй, здаецца, скрыжаваліся з нашымі краёвымі авечкамі і парода карманская лягчэй бы, можа, у нас пашырылася, чым аслабленая саксонская альбо відазмененая англійская, хоць і пра пашырэнне іх таксама трэба дбаць[XIII].

– Я б хацела развесці сайгакаў[29], – сказала пані Харунжыха, – з пуху якіх пані Елісеева з Варонежскае губерні робіць гэткія прыгожыя шалі. Лягчэй бы нам было прывезці іх з гор паўднёвае Сібіры, чым козаў з Тыбету, якіх Тыбетцы гэтак не хочуць даваць еўрапейцам, што няма надзеі, каб Еўропа мела калінебудзь гэты скарб.

– Аднак жа французы займелі сабе гэты скарб, – засмяялася пані Суддзіха.

– О! Каб у нас пашырыўся патрыятычны дух, гатоўнасць да ахвярнасці і дзейнасці дзеля дабра Айчыны, – сказала пані Харунжыха, – дык, можа, хоць бы ўжо зусім старымі ўбачылі мы на берагах Нёмана і Дзвіны сайгакаў, вігоняў, ламаў, якія б пасвіліся на лугах, поўных водару далікатных раслінаў з берагоў Ніла, Гангу альбо Платы[30]. Можа, бальзамічныя зёлкі Швейцарыі ўпадабалі б нашыя раўніны; нашыя агароды замест матылёў-капусніц кармілі б шаўкапрадаў, на палетках расла б бавоўна, на берагах – цукровы трыснёг, у гаях – пальмы, бананы, апельсіны, а на ўзгорках – вінаград ды алівы[XIV].

– Божа мілы! Пра што вы марыце! – разважна ўмяшалася ў гутарку пажылая пані Войская[31], нюхаючы тытунь. – Лапочаце тут пра нейкі рай паўднёвы на нашай паўночнай зямлі. Даказалі вы ўжо, праўда, шмат цудаў, мае дзеці. Адна ўжо гарбата вашая служыць апраўданнем вашых мараў. Нам нават не сніліся тыя расліны, якімі напоўнены зараз вашыя цяпліцы і нават ужо палеткі. Гэтыя шафраны, марэны, аракачы[32]. Нічога гэтага мы не ведалі, хоць і мы таксама пра батаніку чулі. Але гэткія далікатныя паўднёвыя расліны, як бананы, цукровы трыснёг, бавоўна, марэны, здаецца, ніколі да нас не завітаюць.

– Любая цётачка, – азвалася пані Падстолічыха, – амаль усё, што сёння расце на палетках і ў садах паўночнай Еўропы, прыйшло да нас з поўдня. Жыта, пшаніца, вішні, ружы з паўднёвых краёў распаўсюдзіліся і ў нас, як у сябе на Айчыне. Цяжка вызначыць межы прыроды і чалавечых намаганняў. Ласка Божая дала людзям панаванне над зямлёю. Хто ж адгадае, у якім выглядзе Яна будзе надалей распраменьваць сваё святло?

– Сапраўды, больш шчодра, чым іншым пакаленням, дасылае нам Ласка Божая свае дары, – згадзілася пані Прэзідэнтша. – Здараліся спакойныя вякі, але людскі розум засынаў разам з грукатам зброі. Квітнелі некалі навукі, у знешніх уцехах чалавек насычаўся церпкаю раскошаю; але маральнасць ніколі не ўзносіла яго гэтак высока, як сёння, да нязнанае краіны разумовае раскошы, якая нараджаецца ў чалавеку ад выканання абавязкаў, ад любові да агульнага дабра, ад свядомае дабрачыннасці і ад тых цудаў прамысловасці, якія, падымаючы ўвесь людскі род на трон прыроды, набліжаюць чалавечыя сэрцы да з’яднання з вечнаю праўдаю і душы людскія да няспыннага святога і салодкага шанавання міласэрнага Бога.

Аніводная дама нават слова не сказала пра крой каптуркоў, аніводная не іранізавала з вадаў адсутных тут суседак. Уладзіслаў працягваў бы доўга яшчэ дзівіцца гэтаму, але ягоныя думкі перапыніла ўвенчаная дачка пані Падстоліца, якая, выконваючы пажаданне пані Войскае, села да пантальёну. Спачатку павольна, але нязмушана і без сарамлівасці, прабегла яна па клавішах, здавалася, шукаючы больш высокіх тонаў, каб выказаць свае пачуцці, якія адлюстроўваліся на ейным твары. Спакойная наваствораная мелодыя палілася, як рака, якая прарвала дамбу. Вочы дзяўчыны ўзносіліся да Неба, душа яе,

адлятаючы з гукамі гармоніі, падымалася па-над светам, які яе акружаў. Яна ўздымалася па прыступках, шукаючы трон Пана, якому несла сваю любоў. Да ўсё большых вышыняў сягала яна ў сусвеце, але сілы смяротнага чалавека не бязмежныя, дык тоны ўсё слабелі, гукі былі ўсё цішэй... змоўклі.

Апушчаныя вочы дзяўчыны і ўся яе постаць, прасветленая і пакорная, выклікалі тыя ж пачуцці і ў слухачоў.

Нечакана ізноў загучалі струны, салодкае выражэнне лагоднае ўдзячнасці плыло з душы хвалямі тонаў, усмешка на вуснах, сляза ў воку, зачырванелыя твары... не можна было стрымаць голасу да гэтага часу таемнага і на поўныя вольныя грудзі заспявала яна песню ўдзячнасці таму найлепшаму Пану, які, не спыняючыся на спаўненні патрэбаў чалавека, бласлаўляў пачуццём салодкае раскошы.

Потым, больш вясёлым голасам цягнула яна песню пра радасці вясковага жыцця, якое прыемна ідзе пад страхою селяніна сярод гаспадарчых клопатаў, перамяжоўваючы працу з ўцехамі. Нарэшце, узнёсла гледзячы ў залу, яна заспявала:

Ой вы, хлопцы, ой малойцы!
Час забаву пачынаць.
Хтось з вас сёння шчасце знойдзе:
Наша Зося замуж пойдзе[33].

На гэты заклік да танцаў некалькі хлопцаў далучылася да яе са скрыпкамі і флейтамі, зайгралі паланез, а пан Падчашы, з закінутымі на плечы вылётамі[34], падкручваючы ганарыста вусы, з падскокам павёў пані Войскую ў польскім. Хутка ў зале ўтварылася вясёлае кола з пар, у апошняй з якіх відаць было сына пана Падчашага, Станіслава, што вёў Зосю, а апушчаныя ейныя вочы і шэпт Станіслава былі, можа, пачаткам таго прызнання, якое несвядома прадказала панна Падсталічанка, бо на павароце, калі апошняя пара мянялася з першаю, Станіслаў кіўнуў бацьку, а той яшчэ больш ганарыста падкруціў вусы, нізка пакланіўся пані Войскай, адвёў яе на месца і, не чакаючы пачатку мазуркі, галантна кінуўся да Зосі.

## Раздзел шосты

Muszę ją oddać Stachowi,
Prosił mię długo i szczerze;
Kiedy mu szczęście stanowi,
Niechże ją sobie i bierze.

Dziewczyno kochajże jego,
Pilnuj obory i prędzy;
Zła żona najbogatszego
Przywiedzie męża do nędzy.

Ant. Gorecki, *Mazurek*[35]

Праз некалькі дзён пасля гэтага вечара Уладзіслаў увайшоў у кабінет пана Падстоліца з папераю ў руцэ. Узрушанасць і глыбокі смутак адбіваліся на ягоным твары. Ён не мог і слова сказаць: падаў паперу пану Падстоліцу. Гэта быў ліст ад пана Ротмістра з Зацішша. Ён пісаў сыну, што пан Харунжы з'ехаў на пшык. Якраз тады, калі ён ужо высылаў некалькі сялян на продаж у рэкруты, каб мець грошы дзеля форсы на выбарах, ягоныя крэдытары, што атрымалі – адны традыцыйныя дэкрэты, а іншыя рэмісы[36] ў Галоўным судзе з наказам неадкладна пераняць кіраванне маёнткам, апісаць рухомасць і правесці эксдывізію ўсяго маёнтку з правам спаганяць рэшту доўгу ў гаспадароў – прыехалі туды разам з прадстаўнікамі ўлады і яшчэ да падзелу фундушу пагражаюць гэтай сям'і, што нават калі яна здолее ўлагодзіць іхнюю заўзятасць, дык будзе, аднак, вымушана застацца без прыяцеляў і прытулку ды існі жабраваць.

Пры апошніх словах слёзы паказаліся ў вачах Уладзіслава.

– Не шкада мне старых, – прамовіў, нарэшце, пан Падстоліц, – яны яшчэ горшы лёс заслужылі, але тая шляхетная Іда...

Уладзіслаў закрыў твар рукамі, а пан Падстоліц падышоў да яго і сказаў:

– Уладзіслаў, даўно я здагадаўся пра тваю таямніцу: ты кахаеш Іду. На якія сродкі ты мог бы жыць, каб ажаніўся?

– У майго бацькі – малы фальварак, – адказаў Уладзіслаў, – ён не можа мне дапамагчы. Стараўся б пра нейкае месца.

– А каб па прыкладзе Ігнацыя пачаць з малое гаспадаркі? Незалежнасць мае сваю прывабнасць.

– Усёй душою б на гэта згадзіўся, – адказаў Уладзіслаў, – але няма ў мяне анічога на пачатак. Гэта немагчыма.

– Навошта ж ты мне ліст паказаў?

– Для таго, каб васпан дабрадзей не крыўдзіўся на мяне, што хачу цяпер жа развітацца. Зрэшты, я сам не разумеў, што раблю.

– Куды ж ты збіраешся ехаць?

– Да Іды, у Зацішша, можа, на край свету. Божа, злітуйся з мяне! – І ён зноў закрыў твар рукамі.

– Не траць надзеі, – сказаў яму пан Падстоліц звонячы. – Бог не пакіне твае Іды. Вартая яна лепшага лёсу. Няма таго зла, якое не абярнулася б дабром.

Увайшоў лёкай.

– Зараз жа запрэгчы чацвёра коней у брычку, – загадаў пан Падстоліц, – сабраць усё неабходнае ў дарогу для мяне і для пана Уладзіслава. Каб праз паўгадзіны ўсё было гатовае.

Праз паўгадзіны брычка пана Падстоліца праехала праз грэблю, хутка мінула даліну і заехала ў лес тою самаю дарогаю, якою некалькі дзён таму Уладзіслаў прыехаў сюды з панам Падстоліцам.

– Мы, хіба, не атакуем Кракаў, – сказаў Марцін, падкручваючы вус і звяртаючыся з козлаў да пасажыраў брычкі, – аднак коні нашыя ўжо блізкія таго лёсу, што і мой Сокал пад Сандамерам.

– У двор, – крыкнуў пан Падстоліц на ростанях, калі яны міналі аўстэрыю Харунжага, з якой якраз выскачыў Абрам са стосам картак, нанізаных на шнурок, і пабег за брычкаю да двара.

Блізу двух дзясяткаў калясак, неадасланых да аўстэрыі, стаяла перад стайняю на дзядзінцы двара панства Харунжых. На дзядзінцы крычала і лаялася мноства людзей, адны – неслі вязкі сена, другія – мяшкі з аўсом, іншыя – гаршкі з нейкім харчам; а перад ганкам шляхціцы-чыншавікі, крамнікі ды ўбогія жыды без шапак і з пакораю на тварах кланялася нейкаму ягамосцю ў цывільным мундзіры са шпагаю на фэльцэху[37], што прымаў ад іх паперы і карткі, якія вецер рваў у яго з рук.

– Пабачым, што можна будзе тут зрабіць, – казаў пан Асэсар ніжняга суду. – Прэтэнзіі васпанаў справядлівыя; я перадам суддзям, каб загадалі заплаціць.

– Няхай ясна вяльможны пан зробіць ласку! – прасілі яго кланяючыся дробныя крэдыторы.

Пан Падстоліц з Уладзіславам праціснуліся паміж імі і ўвайшлі ў залу. Там тоўпіліся адвакаты, багатыя жыды і землеўласнікі. Пасярэдзіне стаяў стол, а за ім – некалькі ўрадоўцаў моўчкі праглядалі паперы.

– *Per fas et nefas*, мой ягамосцю! Прасвяты суд! – крычаў ім знаёмы нам пан Суддзя. – Пазыковыя распіскі, пераведзеныя на мяне, сапраўды, на простай паперы і пакуль трапілі ў мае рукі не былі актыкаваныя; але *potioritatis*[38] ім адмовіць нельга; бо ўжо дваццаць гадоў таму яны былі складзеныя і подпісамі сведкаў пацверджаныя.

– На бланках, – абыякава заўважыў чалавек з кіпаю дакументаў пад пахаю. – Тыя, хто падпісаўся за сведкаў, ужо памерлі. Гэтыя пазыковыя распіскі могуць быць фальшывыя.

Суддзя з канвульсіўнаю ўсмешкаю на твары ўзяў яго пад руку і павёў да вакна.

– Няхай сабе, як пастушкі з торбачкамі, ідуць аглядаць наднёманскія краявіды, – казаў з другога боку стала наадэкалонены Капітан. – Хто не плаціць мне грошы, той не можа мець *маю літасць*. За тыя дваццаць дукатаў я пару *камізэльков* мог бы сабе купіць.

– Мосці пане! – азваўся Маршалак, што сядзеў каля першага ўрадоўца. – Пастановы заканадаўцаў, узнесеныя над сфераю зямных матывацый, мудра кіруючы шалямі справядлівасці, каб стрымаць незацугляную хцівасць рабаўнікоў, якія забіраюць пад выглядам пазыкі плады крывавае працы бліжніх,

святым шчытом засланілі людзей ад гэтае напасці, узвёўшы векапомны калос таго закону, па якому даўжнікоў, якія не могуць аддаць пазыку, належыць пасадзіць у вязніцу і выкарыстоўваць на работах, аж пакуль яны не заплацяць.

У той час, калі ля Дунаю сышліся ў змаганні сілы Еўропы і Азіі, маючы вырашыць будучыню нашае планеты, я, заняты развязваннем яе лёсу пад страхою прытулку, узведзенага рукамі маіх магутных продкаў, гэтак быў заклапочаны ў сваіх думках тымі важнымі падзеямі, што амаль і не заўважаў, як мяне ўблыталі ва ўмову, згодна з якою стаў уласнікам некалькіх пазыковых дакументаў на тутэйшых гаспадароў.

Не спадзяваўся я, што перад выбарамі, ад якіх залежыць дабро ўсяго павету, давядзецца мне выйсці на гэтую арэну, але, калі суду фартуны захацелася мяне сюды выклікаць, дык прашу вас, высокапастаўленыя ахоўнікі справядлівасці, каб выкарысталі вы ўладу, вам даручаную, да затрымання тутэйшых гаспадароў, і калі не хопіць, як можна ўжо меркаваць, іхняга фундушу – рухомага і нерухомага – дзеля задавальнення крэдытораў, каб мелі ласку кінуць названых гаспадароў у цемру падзямельную, пакуль мы, расправіўшы крылы сваіх думак, будзем радзіцца, на якіх працах іх належыць выкарыстоўваць. Аб прэтэнзіях маіх паведаміць мой паўнамоцны пленіпатэнт[39].

– Ці ж гэта па-хрысціянску? – азваўся з тлуму нейкі слабы голас. – І яны ж людзям дапамагалі. Нядаўна я сам быў сведкам, як яны пускалі капялюш на латарэю, каб дапамагчы беднай удаве. А на каго ж яны растрацілі цэлы свой маёнтак? Гэта ж мы ў іх і елі, і пілі...

Гэты голас заглушылі крыкі адвакатаў і абураных крэдытораў. У гармідары чуваць было толькі самыя гучныя воклічы ды словы: *per fas et nefas... камізэльков... таксама якраз*, мая жонка сама... Прашу цішэй, маспанства!.. Маспанства, прашу цішыні!..

Нарэшце зароў возны: “Мосці панове! Прашу на двор!”[40]

І ўсе, апрача суддзяў, у той жа момант, нібы перастала бушаваць мора, пачалі, мармычучы толькі сабе пад нос, выходзіць з судовага памяшкання.

Пан Падстоліц з Уладзіславам апынуліся ў гасцінным пакоі ля вакна побач з двума адвакатамі, размова якіх прыцягнула іхнюю ўвагу.

– Гэта не мае значэння, – казаў маладзейшы, нізкі, худы, з доўгім носам і цёмнымі, гладка зачэсанымі валасамі. – Гэта дзіцячая справа; аднак з-за таго, што мне, як маладому, важная рэпутацыя, я здолеў і тут уладкаваць усё так, што спадзяюся заслужыць пашану ў маіх братоў і даказаць, што іх прыбыткаў не скампраметую, прымаючы справы за бесцань. Я тут прадстаўнік некалькіх крэдытораў і перш за ўсё выйграў на тым, што кожны з іх мусіў мне аплаціць поўны кошт падарожжа; гэта называецца: два грыбы ў адзін боршч...

– Дазволь цябе перапыніць, – не даў яму скончыць старэйшы. – Мяне дзівіць, што ты, такі малады і без адукацыі, атрымаў гэткі давер некалькіх асобаў, якія ў адной справе прызначылі цябе сваім пленіпатэнтам.

– Ат! Бо, бачыш, мой бацька, які, як ты ведаеш, карыстаўся агульным даверам і быў іхнім пленіпатэнтам; ён выправіўся на піва да Абрама, не скончыўшы гэтае справы. Што ж мне было рабіць? Дзяры лыка, як дзярэцца: бо прысохне – не ўдзярэш. Хоць і не было ў мяне аніякае ахвоты карпець над паперамі, што з дапамогаю Божаю давяду, падумаў сабе: тут можна добра сабе лапкі пагрэць. Напісаў адразу ж лісты клієнтам майго бацькі, рэкамендуючыся

ім і абяцаючы дамагацца іх інтарэсаў. Жылі яны далёка, час падціскаў, мусілі згадзіцца.

Вядома, ганарары прызначыў немалыя. Адзін з іх на маё шчасце не прыслаў мне адразу наяўных, бо таргаваўся са мною, даводзячы, што ўжо залаціў майму бацьку за гэтую справу. Доўга было б пра гэта расказваць; прыслаў ён мне лісты майго бацькі дзеля пацвярджэння свае прэтэнзіі; але і я не ў цемя біты; лісты пахаваў, а яго страшыў, што ён справу прайграе, калі не дасць мне трыццаць дукатаў...

– Не баішся Бога? – зноў спыніў яго старэйшы. – Бо ж твой кліент сам тут, можа, не атрымае схэды[41] на трыццаць дукатаў...

– А мне што да таго? – закрычаў маладзейшы. – Як жа я зараблю сабе рэпутацыю? Я малады, мне патрэбна рэпутацыя. Вось, прыехаў сюды нарэшце і, зноў на маё шчасце, упарты мой кліент прыслаў сюды свайго сына. Справа ўжо была на стале, і я паабяцаў майму віцэ-кліенту, што альбо выйграю, калі ён мне зараз жа заплаціць, альбо зусім адмоўлюся ад ягонае справы...

– Ашалеў! – не стрываў старэйшы. – Ён жа мог выбраць іншага пленіпатэнта.

– За каго ты мяне лічыш? – закрычаў маладзейшы. – Я ўжо табе казаў, што мне патрэбная рэпутацыя. І я мог бы ставіць на няпэўнасць? Наадварот, узяў ягамосця за шчэлепы. Не было ў яго ад бацькі даверанасці на замену пленіпатэнта; а справа на стале, каб мяне не загадзіў, дык добраахвотна адмовіўся б ад сваіх прэтэнзій. Сказаў яму, што з-за таго, што не прывёз мне наяўных, не пагаджуся, пакуль не выдасць мне пазыковае распіскі на сто дукатаў. Круціўся небарака, аж мяне смех разбіраў; таргаваліся мы даўгавата, я паказаў яму чаркескую прамову[42] майго бацькі ў ягонай справе, абнадзейваў: мусіў выдаць мне пазыковую распіску на сябе з забеспячэннем на сваім бацьку на пяцьдзесят дукатаў. А трохі наяўных, якія ў яго былі на далёкую дарогу, выдурыў ад яго памалу *titulo*[43] на выдаткі.

– Зух з цябе, пане Фраўдзіцкі! – зарагатаў старэйшы. – Прынамсі, хоць нешта спадзяешся для яго выйграць?

– Тут шмат што можна было б зрабіць, бо ён мае пазыковую распіску і дэкрэты даўнія, выдадзены раней за іншыя; шмат прэтэнзій няслушных, якія можна было б адхіліць і для майго кліента большую схэду выстарацца; але прызнаюся табе, што не маю ў гэтым аніякага інтарэсу: праца была б занадта цяжкая, пазыковую распіску я ўжо трымаю ў кішэні: ці так, ці іначай, а мусіць мне заплаціць. А галоўнае, бацька мой узяў ад іх грошы, каб атрымаць належны ім дэкрэт, але ці атрымаў, ці не атрымаў – невядома, пэўнае тое, што дэкрэту няма. Далі яны мне, праўда, другі раз грошы на гэты дэкрэт, але здарылася гэта ў час, калі грошы былі мне патрэбныя, дэкрэту я не атрымаў і не маю чым аргументаваць іхнія прэтэнзіі. Зрэшты, можа, яны і выйграюць, бо ўжо самі ўвялі суддзям у вушы пра сваю справу. Гэта было б добра, бо для мяне важная рэпутацыя; а што датычыць хабару, дык яго гэтымі сваімі дзеяннямі хвацка зарабіў, праўда?[b]

[b] Не крыўдзячы шаноўны клас абаронцаў справядлівасці, між якімі, як і ўсюды сярод людзей, ёсць і кепскія і добрыя, аўтар падаў тут гэты рэальны выпадак, каб паказаць недахопы законаў, якія ахоўваюць нас ад злоўжыванняў кепскае часткі гэтага класу людзей.

Гэтую размову перапыніў званок суддзяў і ўся грамада зноў рушыла ў залу. Пан Падстоліц, адвёўшы ўбок Харунжага і яго пленіпатэнта, высветліў у агульных рысах стан справы і прасіў дазволу пачаць перамовы з крэдыторамі, а калі з лёгкасцю яго атрымаў, выправіў Харунжага і Харунжыху ў кабінет чакаць выніку ягоных стараннях; сам жа накіраваўся ў залу.

Падышоўшы да стала суддзяў, ён папрасіў слова:

– Ад імя панства Харунжых я звяртаюся з прапановаю да вас, маспанства крэдыторы. Не аспрэчваюць яны аніводнае пазыковае распіскі, аніводнага рахунку, словам, аніводнае запісанае тут сумы. Атрымаеце, васпанства дабрадзеі, згодна з пастановаю суда поўную сатысфакцыю ўсім іхнім маёнткам, кожны ў адпаведнасці са сваёю сумаю. Апрача таго, аддаюць на волю васпанства дабрадзеяў асобы свае і гатовыя працаю сваёю, якую ім вызначыце, аплаціць рэшту даўгоў, на задавальненне якіх маёнтку не хопіць.

Параўнаўшы вартасць маёнтку панства Харунжых і суму даўгоў, вы, васпанства дабрадзеі, зразумееце, якую долю сваіх пазыкаў можаце атрымаць. Асноўны доўг складае сто семдзесят тысячаў; з працэнтамі і праўнымі выдаткамі сума вырастае да трохсот тысячаў. Тымчасам, гэты маёнтак, як васпанству дабрадзеям вядома з рэестраў, не дае прыбытку большага, чым пяць тысячаў; будучы цалкам зруйнаваным, у тым стане, у якім ён цяпер, без новых капіталаўкладанняў больш даваць не можа. А таму кожны з васпанства дабрадзеяў па эксдывізіі атрымае трэцюю частку сваіх грошай.

Палічыце ж, панове, цяпер, колькі вы мусіце выдаткаваць на ганарары суддзям і каморнікам, на скарбовыя пошліны і гербавую паперу, на атрыманне дэкрэтаў і на аплату адвакатаў, на ўпарадкаванне кожны свае схэды; напэўна ж, пераканаецеся, што і асабістая праца панства Харунжых не аплаціць васпанству дабрадзеям стратаў, і што схэды васпанства дабрадзеяў не будуць вартыя шостае часткі таго, колькі вам яны будуць каштаваць. Гэткую, васпанства дабрадзеі, можаце мець сатысфакцыю і калі яе абавязкова жадаеце, дык мне няма чаго вам больш сказаць. Але калі б пажадалі згадзіцца на прапанову, якая, як мне здаецца, для абодвух бакоў была б больш карысная, я гатовы яе выкласці.

– Мы слухаем! – закрычалі навокал.

І пан Падстоліц зноў загаварыў:

– Гаспадары ахвяруюць васпанству дабрадзеям без аніякіх новых коштаў і страт з боку крэдытораў увесь цяперашні свой прыбытак, гэта значыць, пяць тысячаў, падзеленых кожнаму прапарцыянальна належнасці, і забяспечаць васпанству дабрадзеям яго атрыманне. Што датычыць працэнтаў, дык можаце, панове, быць спакойныя. А вось што тычыцца капіталу, дык гаспадары ахвяруюць увесь свой маёнтак, альбо сённяшнюю яго вартасць у адпаведнасці з прыбыткам, гэта значыць, сто тысячаў, альбо кожнаму з крэдытораў трэцюю частку ягонае належнасці. Яны выплацяць не адразу, бо гэта немагчыма, а часткамі, так што першыя пяць гадоў мусіце задаволіцца, панове, аднымі працэнтамі, а наступныя дзесяць будзеце атрымліваць кожны год дзясятую частку капіталу, кожны ў адпаведнасці з яму належным.

Некаторыя з васпанства дабрадзеяў не мелі б нават крыўды, каб добраахвотна адмовіліся ад двух трэціх сумы, якіх ужо атрымаць не могуць; бо большая частка пазыковых распісак набыта ад першых уладальнікаў за чацвёртую

ці пятую часткі пададзенай у іх сумы, і нават большая палова пазыковых распісак і картак давалася на сумы ўдвая большыя за ўзятыя.

Цяпер задумайцеся, панове, ці не лепш будзе для васпанства дабрадзеяў узяць схэды, выдаткаваць іх і некалькі гадоў не мець аніякага з іх прыбытку, як звычайна на новай гаспадарцы і на вынішчанай глебе; ці не лепш бы было адразу з першага году атрымліваць працэнты ад вартасці тых схэдаў, а з часам і ўвесь свой капітал.

Усе маўчалі, нават *per fas et nefas* не было чуваць. Нарэшце азваўся Маршалак:

– Маспане, прапанова васпана дабрадзея – гэта довад высокага палёту думкі і шляхетнага сантыменту. Несумненна было б лепш, асабліва для нас, абцяжараных важнасцю нашага прызначэння, атрымліваць гатовы працэнт ад капіталу, які з гэтага зруйнаванага маёнтку мы можам мець; але хто ж нас адорыць гэткаю надзейнаю зарукаю, што мы атрымаем гэты працэнт? Калі тутэйшыя гаспадары самі будуць гаспадарыць, дык гэты маёнтак не прынясе аніякага прыбытку. А калі і далей будзе руйнавацца пад іхняю недалужнаю рукою, дык страціць нават тую вартасць, якую сёння мае, і капіталы нашыя, з якіх гатовыя мы сёння дзве трацiны саступіць, калі б былі пэўныя выплаты рэшты, могуць з часам зменшыцца да нуля.

– Дзякую васпану дабрадзею, – сказаў пан Падстоліц, – за спагадлівасць, што гатовы адмовіцца ад часткі сваіх прэтэнзій; спадзяюся, што ўсе паны крэдыторы падзяляюць меркаванне, што лепей бы атрымалася, прыняўшы пададзеныя мною прапановы, абы быць пэўнымі выплаты працэнтаў, а з часам і рэгулярнае выплаты капіталу.

– Мы б усе на гэта згадзіліся, – пачуліся галасы навокал, – але хто нам за гэта паручыцца?

– Той самы, хто гэта прапануе: я, Падстоліц.

Зноў запанавала навокал глыбокая цішыня. А калі некаторыя азваліся з дробнымі заўвагамі, дык пан Падстоліц іх лёгка ўлагодзіў і напісаў праект новае дамовы. А калі ўсе пагадзіліся, пан Падстоліц даручыў пленіпатэнту панства Харунжых скласці яе ў адпаведнасці з нормамі права, а сам пайшоў з Уладзіславам у кабінет гаспадароў.

Ягамосць, абсыпаны табакаю, сядзеў у падраным капоце на канапе; еймосць у старым шляфроку, але ў дрэзданскім блондавым чапцы прахаджвалася хуткім крокам; Астольф са звешанаю галавою стаяў пры печы; Іда, абапіраючыся на спінку бацькавага крэсла, выцірала хусцінкаю слёзы; Аскар бавіўся з калодаю картаў; усе камоды, шафы і куфры былі апячатаныя.

– Мой збаўца! – выгукнула Харунжыха, спыняючыся са складзенымі рукамі насупраць пана Падстоліца.

– *Таксама якраз* няхай васпан дабрадзей нас ратуе, *таксама* няхай васпан дабрадзей мае ласку сесці… – казаў Харунжы, прапануючы з пакораю сваё крэсла.

– Мосці панове, – азваўся лагодным тонам, не зважаючы на прыніжанасць Харунжага пан Падстоліц, – пазнайце руку Божую, якая вас кранула. Бог злітаваўся яшчэ над вамі, змякчыў сэрцы вашых крэдытораў. Можа, дабрачыннасць вашае дачкі ўлагодзіла заслужаны Ягоны гнеў. Ён пагразіў вам дубцом, але яшчэ не будзе біць, калі адрокшыся ад сваіх памылак ступіце

цярпліва на шлях, які зараз праз мяне вам паказвае і на якім можаце яшчэ быць шчаслівымі, калі выправіцеся.

Няма ўжо ў вас маёнтку. Але вашыя крэдыторы схільныя падпісаць дамову, якую я прапанаваў, калі будуць пэўнымі, што ўвесь прыбытак, які цяпер з гэтага маёнтку можа быць, рэгулярна ім будзе выплачвацца, а праз пяць гадоў, каб маглі атрымліваць кожны год адну дзясятую частку капіталу, падзеленага на дзесяць роўных частак. Вы самі кіраваць тут не можаце, бо ўжо ані век ваш, ані звычкі, ані гаспадарскія навыкі не могуць гарантаваць добрага кіравання; зрэшты, я на гэта не згаджуся, а без мае зарукі крэдыторы дамовы не падпішуць. Вы мусіце адрачыся ад усяго маёнтку, ужо не вашага, на карысць дачкі, пры ўмове ўтрымання вас да смерці.

Пан Астольф выберацца ў войска зараз жа; бацькі дадуць яму сваё благаславенне, бо нічога больш даць не могуць; на пачатковае ўтрыманне знойдзецца яму дапамога; а ў астатнім, як іншыя ўбогія людзі, няхай сам для сябе пастараецца. Малодшага сына я вазьму ў шляхецкую земляробчую школу з умовай, што пазней верне мне кошт ягонага выхавання.

Усім слугам будзе пералічаны іхні заробак; даруюцца ім усе штрафы, а тыя, каму заробак быў неналежна завышаны, будзе паводле зменшанай у адпаведнасці са звычайнаю ў нашым краі нормаю цягам некалькіх гадоў выплачаны. Садоўнік будзе звольнены. Рэманэнты ад сялянаў усе будуць дараваныя, бо самі пачынаючы сёння новы лад жыцця, мусіце ім хоць гэткім чынам аплаціць усе крыўды за доўгія гады.

Каморніку і некалькім іншым, асабліва ўбогай чыншавай шляхце, прэтэнзіі якіх не перавышаюць дзесяці тысячаў, а якія пазычалі без павелічэння сумы на вэксалі, выдаецца асекурацыя[44], што іхні доўг цалкам будзе выплачаны некалькімі часткамі. Аранжарэя, перлы, найбольш каштоўныя строі, карціны, словам, уся непатрэбная рухомасць, якая ўжо належыць крэдыторам, без размоваў будзе прададзеная, а грошы ўжытыя на паляпшэнне маёнтку.

Ці згодныя на ўсё гэтае, мае панове?

– Але ці зможа мой муж пасля таго, як адмовіцца ад маёнтку, кандыдавацца на пасаду падкаморага? – запыталася Харунжыха.

– Гэтак! – падтрымаў яе Харунжы.

– А ці зможа ён кандыдавацца на пасаду падкаморага, калі пойдзе сёння з торбаю альбо на прымусовыя работы разам з васпані? – адказаў пытаннем пан Падстоліц.

Як стукнутая маланкаю, Харунжыха ўпала на крэсла.

– Гэта ўжо занадта, мосці Падстоліц! – закрычала яна. – Гэтак кпіць з няшчасця!

– Я прыехаў сюды не кпіць з вашага няшчасця, а ратаваць вас. Але калі вы да гэтага часу не бачыце, у якім жахлівым знаходзіцеся становішчы, дык я лічыў сваім абавязкам адкрыць вам вочы; вы ж маеце за гэта на мяне крыўду, то бывайце здаровыя.

– Ах, пане! – закрычала, кідаючыся яму ў ногі, Харунжыха. – Не пакідай нас! Бог паслаў цябе нам на паратунак. Прызнаём мы сваю ганарыстасць і прысягаем выконваць твае загады.

– Гэтак, *таксама якраз*... – хацеў нешта сказаць, цяжка ўкленчыўшы побач з жонкаю Харунжы.

Пан Падстоліц падняў іх абодвух і прамовіў:

– Богу падзякуйце, я толькі выканаўца Ягонае Волі. Не загадваць вам, а ратаваць вас я прыехаў. Калі згодныя з маёю парадаю, дык нельга губляць часу. Там пішуць дамову з крэдыторамі, тут няхай пан Астольф напіша вашую адмову ад усяго маёнтку на карысць дачкі, паводле праўнае арынгі[45], якая вось тут.

Падала яе Харунжыха Астольфу, які адразу ж узяўся пісаць, а пан Падстоліц, звяртаючыся да панства Харунжых, сказаў:

– Цяпер маю да панства яшчэ адну просьбу і спадзяюся, што ў вашых інтарэсах яе задаволіць. Пазнаў я сэрца і характар гэтага маладзёна (ён паказаў на Уладзіслава) і пераканаўся, што ён здолеў бы ўпарадкаваць ваш маёнтак, каб вы мелі ласку даручыць яму кіраўніцтва! Вы адракаецеся ад маёнтку на карысць дачкі, але яна адна гаспадарыць не можа. Пан Уладзіслаў ацаніў яе якасці, і я маю надзею, што ашчаслівіў бы яе; таксама я ведаю, што і панна Іда неабыякавая да яго. З гэтае прычыны адважваюся прасіць у панства рукі панны Іды для майго прыяцеля пана Уладзіслава.

Уладзіслаў кінуўся ў абдымкі пана Падстоліца, а потым на калені перад паннаю Ідаю. Адступілася ад яго ўстрывожаная Іда, але пані Харунжыха загукала:

– Мая Іда! Мая Іда! Цяпер цябе, убогую, ніхто не возьме. Бяры яе, Уладзіслаў! – І хацела палучыць іхнія рукі.

Але Іда не дала рукі; збянтэжаны Уладзіслаў падняўся, а збляднелая Іда, у якой дрыжалі вусны, з адчаем у вачах адказала:

– Злом бы я аддзячыла пану Падстоліцу, каб, бачачы і чуючы ўсё, што ён для бацькоў маіх учыніў, супраціўлялася б без прычыны ягонае волі. Ведаюць бацькі мае і пан Падстоліц, што пана Уладзіслава я лічыла лепшым за ўсіх; але ведае таксама пан Падстоліц, што тады яшчэ, калі думала, што мы ў лепшым становішчы, я жадала пану Уладзіславу лепшае долі; а тым больш цяпер...

– Спыніся, пані! – закрычаў Уладзіслаў, кідаючыся зноў перад ёю на калені і хапаючы за руку. – Твая далікатнасць, твая сумленнасць, твая схільнасць да парадку і гаспадаркі... Ах, Іда! Не можаш ты нам усім адмовіць шчасця, якое ад цябе аднае залежыць. Буду служыць тваім бацькам, як сваім уласным. Памятай пра іх, Іда!

Кінулася ў абдымкі да маці Іда, а Харунжы, зажыўшы табакі, азваўся:

– *Уцяміўшы ўсю справу*, не дзівач ты *таксама якраз* ужо хоць цяпер.

Хвіліну працягвалася маўчанне, нарэшце, пан Падстоліц прамовіў:

– Калі панна Іда не згодзіцца на маю просьбу і адмовіць ашчасліваць Уладзіслава, і, як можна меркаваць, самую сябе з-за залішняе далікатнасці, тады я, хоць і шаную гэтае пачуццё, вымушаны буду сказаць, што не адчуваю сябе абавязаным закончыць справу, якую дзеля дабра самой жа панны Іды і Уладзіслава пачаў; бо, не пакінуўшы тут гаспадаром Уладзіслава, не буду мець зарукі, што дамова з крэдыторамі можа быць свята выкананая.

– Не адмаўляй, Іда! – крычаў Уладзіслаў, прыціскаючы вусны да яе рукі.

– Што з вамі будзе! – выгукнула, абдымаючы бацьку, заплаканая Іда. – І, павярнуўшыся да Уладзіслава, дадала: – Уладзіслаў! Ці разумееш ты, на які цярністы шлях становішся? Гэтулькі клопату, гэтулькі цяжкасцяў! А якая ўзнагарода?

– Ты мне ўсё асалодзіш! – не даў ёй скончыць Уладзіслаў. – Парады пана Падстоліца мне дапамогуць. Пры працы, парадку, стараннасці і ашчаднасці прыйдзем мы да дастатку, і бацькі твае пры нас дажывуць свае шчаслівыя дні.

Падала яму руку Іда і абое ўкленчылі да ног бацькоў, якія пасяшаліся хутчэй іх блаславіць.

– Вось і скончана, – абыякава прамовіў Астольф, са спакойным выразам твару ўстаючы ад стала. – Адрачэнне ўжо гатовае, трэба толькі падпісаць...

Пасля апоўдня ў доме панства Харунжых было ўжо спакойна. Запакаваныя куфры з дарагімі строямі і пакункі з непатрэбнымі рэчамі чакалі ў зале, пакуль будуць адвезеныя ў горад на продаж. Пан Падстоліц, трымаючы Іду і Уладзіслава за рукі, казаў:

– Уладзіслаў, будзеш жыць у гэтым маёнтку як на арэндзе, пакуль не выплаціш канчаткова даўгоў. Ты бачыў, што я сам зрабіў, чуў, як пачыналі Ігнацы і Падчашы; дык не цяжка табе будзе зрабіць план вашага гаспадарання, адпаведны вашым акалічнасцям. Паводле яго і рабіце ўсё дакладна.

Я лёгка мог бы вам адразу дапамагчы, заплаціўшы доўг, які вісіць над гэтым маёнткам; але значна больш прыемна будзе для вас, калі ўласнай стараннасці вы будзеце ўдзячныя не толькі за вашую свабоду, але і за паляпшэнне стану вашага маёнтку. Землеўласнікі самі могуць і павінны выбірацца, сялянам жа належыць дапамагаць. Цяжкі будзе ваш пачатак, але маеце за што рукі зачапіць, яшчэ і гэта добра. Нічога не страціце, а набудзеце шмат. Усё залежыць ад вашае энергіі, розуму і ашчаднасці.

Панна Іда не атрымала належнага выхавання для гаспадыні дому, але мае добрыя намеры, ахвоту і цярплівасць; на гэтыя якасці моцна спадзяюся і мяркую, што стане яна добраю абывацелькаю. Прыклад нешчаслівых бацькоў будзе ёй заўсёды нагадваць, што ад жонкі залежыць дастатак альбо нэндза ў доме, а таксама шчасце мужа і дзяцей.

Не забывайце ніколі абое, што разумная ашчаднасць – гэта першая вашая павіннасць і галоўная падстава вашага дабрабыту. Ашчаднасць, добрае кіраванне домам і разумнае гаспадаранне прывядуць вас да дастатку. Але запомніце назаўсёды: шчасце – гэта не бляск. Адно толькі багацце не робіць чалавека шчаслівым, ані ўзвышае яго над іншымі. Шчаслівым робіць чалавека старанная выкананне абавязкаў, а ўзвышае над іншымі – больш высокая ступень тае карысці, якую ён прыносіць.

Дастатак, вядома, патрэбны дзеля дамашняга шчасця, але дастатак можа быць у самым малым доме пры добрым кіраванні. Ніколі нельга зайздросціць іншым, што яны больш выгодна ўладкавалі жыццё, бо кожны чалавек на сваім месцы з Ласкі Божае. Прадбачыла Яна, пэўна, што на гэтым месцы будзе ён найбольш шчаслівы; а калі няшчасны на малым, дык не быў бы шчаслівым і на вялікім; бо шчасце не ў багацці, а ў сэрцы чалавека.

Не будзеце пагарджаць, спадзяюся, таксама ўбогімі; бо такія яны з Ласкі Божае; а калі іх асабістыя вартасці альбо заслугі для Айчыны перавышаюць вартасці альбо заслугі больш багатых, аддавайце ім гонар і пашану большую, чым багатым. Самы багаты чалавек, калі ў яго дастаткова розуму, будзе, пэўна, людскім, не будзе пагарджаць іншымі, а будзе, пэўна, шанаваць заслугі бяднейшых.

Ганарлівасць, лайдацтва і дурнота багатых прадказваюць іх заняпад. Менавіта гэта прывяло ў нашым краі да банкруцтва столькіх людзей. Нялад, распуста і жыццё не па сродках – гэта вынік дурноты, ганарлівасці і лайдацтва. Я перакананы, што вы ўнікнеце гэтых заганаў і станеце для мяне ўцехаю і ўзорам для вашых суседзяў і нашчадкаў.

Бацькоў шануйце, калі хочаце, каб вас Бог бласлаўляў. Памылак яны нарабілі шмат, але не дзецям судзіць іх. Зрэшты, сёння яны зразумелі, што былі на кепскім шляху. Будзьце да іх паблажлівымі і аказвайце ім заўсёды належную пашану, каб заслужыць іх блаславенне. Бо яно не толькі тады святое, калі яго годныя пашаны бацькі даюць, але і тады, калі яго даюць нават кепскія бацькі дзецям, якія выконваюць свае абавязкі. Бо не чалавек, але Бог у блаславенні бацькоўскім добрых дзяцей бласлаўляе.

Цяпер, калі мы скончылі тут усё, што трэба было зрабіць і сказаць, паедзем да твайго бацькі, Уладзіслаў, прасіць яго таксама пра блаславенства для вас.

*Calamitas saepe saluti fuit*[46].

# Заўвагі да пятае часткі

**I**

Больш заможныя маёнткі ў нас звычайна маюць лекараў і шпіталі для сялянаў, але затое менш заможныя воласці зусім пакінутыя на волю лёсу. Сэрца баліць, калі бачыш бедных сялянаў, пакінутых і аддадзеных шаленству неўтаймаваных эпідэмій альбо некаторых хваробаў, якія пасля ўжывання лекавых сродкаў паспяхова маглі быць вылечаныя. Вельмі карысныя былі б парафіяльныя шпіталі. Выдаткі на іх зусім невялікія ў параўнанні са стратамі насельніцтва, якія маем цяпер з-за хваробаў. Іншыя краіны значна лепш выглядаюць у гэтай справе. У Англіі, і асабліва ў Шатландыі, распаўсюджаныя гэтак званыя “таварыствы сяброў”, якія маюць на мэце не толькі даглядаць і лячыць хворых, але і ўтрымліваць старых і нямоглых, дапамагаць удовам і хаваць убогіх. Яшчэ да таго, як Англію захапілі нарманы[47], там былі створаныя гэтыя таварыствы; але ў апошні час яны значна пашырыліся. Даўней яны існавалі толькі ў гарадах, цяпер іх шмат і ў вёсках. У адным графстве Абердзін[48] з 1793 да 1802 г. створана дзвесце падобных таварыстваў; у Англіі і Валіі ў тым жа годзе было 7.672 таварыствы, якія ў 1815 г. налічвалі ўжо ў адной Англіі 925.457 сяброў, а ў 1820 г., паводле сведчання “Revue d’ Edinbourg”[49], – 1.610.571 сяброў.

**II**

Хто жададе пераканацца ў вялікай карыснасці ашчадных касаў, асабліва, як моцна гэтая інстытуцыя ўплывае на паляпшэнне нораваў у ніжэйшых класах грамадства, няхай возьме ў рукі любы добры часопіс, дык знойдзе там шматлікія доказы гэтаму. Паўсюдна, дзе былі заснаваныя такія касы, неўзабаве заўважана было, што ў слугаў, рамеснікаў і рабочых пачало з’яўляцца больш разважлівасці, ашчаднасці, працавітасці і імкнення да парадку. Здаецца, што гэтая інстытуцыя лёгка і з добрым эфектам магла быць створаная ў парафіях, а нават у асобных валасцях. Нават каб яна ўладкаваная была накшталт банку, гэта значыць, каб прыватныя асобы, якія карыстаюцца даверам і могуць даваць гарантыі, засноўвалі б у сябе падобныя касы з платаю невялікага працэнту, дык маглі б мець і для сябе пачцівы прыбытак і для ваколіцы карысць прынесці.

III

Шмат у Заходняй і Сярэдняй Еўропе таварыстваў, якія страхуюць прыватную ўласнасць. Сярод іх супрацьпажарная слушна займае першае месца, і яе гэтак шануюць, што ў некаторых краінах, напрыклад, у Польшчы, не прымаюць нікога ў крэдытнае таварыства, хто не застрахаваў сваіх пабудоў ў супрацьпажарнай касе. Гэтак жа таварыствы страхавання ад граду, створаныя ў шматлікіх мясцовасцях, аказаліся вельмі карыснымі для земляробаў. У Францыі пры ўладзе Напалеона ў Тулузе створанае было без дазволу ўраду таварыства страхавання ад граду; урад загадаў яго распусціць, але сам вырашыў стварыць падобныя дзяржаўныя таварыствы ва ўсёй Францыі. З гэтаю мэтаю Францыю падзялілі на 10 частак, дзе выпадаў часта град. Цяпер французы лічаць такую інстытуцыю гэткаю карыснаю, што ўласнікі, якія здаюць у арэнду сваю зямлю, паўсюдна ўжо закладаюць у кантрактах умову, каб арандатар належаў да таварыства страхавання ад граду. І гэткім чынам землеўласнікі пазбаўляюцца ад таго, каб плаціць за шкоду, нанесеную градам, а тыя, хто пацярпеў ад яго, адразу ж атрымліваюць грошы з таварыства.

## IV

Для заканчэння аповеду пра карысць страхавых таварystваў далучаю тут красамоўную вынятку з працы *Пра таварыствы страхавання жыцця* графа дэ Лябордэ. “Як бы дзівіўся чужаземец, каб яму хто сказаў: прыяцель, працуеш ты старанна, але пагражае табе старасць; не баішся ты небяспекі, але дрыжыш за лёс свайго састарэлага бацькі, які застанецца без дапамогі, калі ты загінеш; выконваеш грамадскі абавязак, але трывога пра будучыню сваіх дзяцей пазбаўляе тваю душу спакою, неабходнага дзеля выканання тваіх абавязкаў. Паслухай мяне, я дам табе спакой гэткі патрэбны ў кожным стане; я забяспечу лёс твой і твае сям’і. Згадзіся адкладаць кожны год невялікую частку свайго заробку альбо свае пенсіі, і адразу ж добрае ўтрыманне твайго бацькі будзе забяспечанае; дачка твая, калі б ты памёр альбо яна брала шлюб, атрымае пасаг; сыны таксама атрымаюць столькі, каб ім хапіла заняцца нейкаю справаю альбо да канца жыцця будуць мець прыбытак, якога хопіць не толькі на ўласнае ўтрыманне, але і каб адкладаць кожны год невялікую суму, забяспечваючы таксама любых ім асобаў. І ты сам у паважным веку будзеш цешыцца пладамі свае працы і тым неацэнным спакоем, што не пакінеш нікога няшчасным.

Ці ж не расчуляць гэтыя словы чужаземца? Ці ж не запытаецца ён у свайго цудоўнага дабрачынцы, чым ён зможа аддзячыць? Тады той яму адкажа: мой прыяцель, за малую паслугу, якую я табе раблю, можаш зрабіць мне значна большую – адным толькі тым, што прымеш маю прапанову. Бо тым самым павялічыш мае сродкі і дасі сродкі для жыцця тысячам людзей, якія працуюць у маіх канторах і ў канторах маіх таварыстваў. Але, бачачы тваю ўдзячнасць, я зраблю для цябе яшчэ больш – прыму цябе ў таварыства, ты раздзеліш са мною выгоды мае справы. Выгоды гэтыя абапіраюцца на неаспрэчных матэматычных падліках, пацверджаных шасцідзесяцігадовым вопытам. Будзеш такім чынам адначасова і застрахаваным, і страхавальнікам; сам будзеш дабрачынцам для сябе і для іншых. Спачатку будзеш карыстацца сваім забеспячэннем, потым – працэнтамі, якія вынікаюць з гэтага ўкладу; тады тая квота, якую абавяжашся штогод уносіць, будзе меншаць кожны год і, калі тваё жыццё задоўжыцца, можа прыйсці час, калі будзеш атрымліваць частку прыбытку, анічога ўжо не плацячы, альбо прыбытак, які табе належыць, будзе штогод павялічвацца, і пасля твайго сыходу будзе аддадзены, каму прызначыш”.

## V

Арэнда адных толькі прыбіральняў у Парыжы прыносіць гораду каля 100.000 франкаў, а кампанія, якая іх арэндуе, прадае штогод пудрэты на мільён франкаў. Узяўшы прапарцыянальна нашыя гарады, напрыклад, Вільню, можна было б мець толькі па гэтым артыкуле некалькі тысячаў злотых; гэта значыць, амаль столькі, колькі горад мае з аплатаў брамнага. А іншыя артыкулы, якія тут згадваліся, гэта значыць, попел, сажа, косці, абрэзкі, старызна і г. д., пэўна, перавысілі б усе цяперашнія прыбыткі нашых гарадоў ды яшчэ паспрыялі б павелічэнню нацыянальнага капіталу, а не яго змяншэнню, як гэта адбываецца з-за сённяшніх аплатаў.

## VI

У Мец[50] створана таварыства дзеля заахвочвання да рамёслаў, якое мае на мэце пашырэнне сярод жыдоў цікавасці да рамесніцкіх прафесій і навучанне беднякоў прафесіям за кошт таварыства. Вітэрсайм у працы, пададзенай на конкурс Таварыствам навукі, земляробства і рамёслаў ў Страсбургу, як адказ на пытанне: *Якім чынам можна цывілізаваць эльзаскіх ізраелітаў?* сведчыць, што мецкае таварыства атрымала ўжо добрыя вынікі і раіць ствараць падобныя таварыствы ў вёсках з мэтаю заахвочвання жыдоў да апрацоўкі зямлі.

## VII

Можа, было б карысна, каб землеўласнікі, якія да гэтага часу аддаюць у арэнду свае корчмы жыдам, пажадалі калі-небудзь падлічыць, кожны ў сябе, колькі, напрыклад, за дзесяць гадоў выдаткавалі на дапамогу сялянам і параўналі гэты выдатак з прыбыткам з карчмы. Можа быць, тыя беды, якія выклікалі неабходнасць дапамогі, былі вынікам непрадбачаных выпадкаў: неўраджаяў, хваробаў, граду і г. д. Але нямала, напэўна, паўплывала п'янства сялянаў, занядбанне гаспадаркі і, асабліва, выдаткі на гарэлку, што жыды бяруць натураю. Палічыўшы дакладна, можа, аказалася б, што арэнда нашых корчмаў і шынкоў – гэта самая вялікая бяда для сялянаў і страта самога ўласніка.

## VIII–IX

З "Dziennika rękodzieł i handlu" 1825, № 4.

## X

З "Bulletyin Universal Arts économiques" 1829, Mars. 175.

## XI

З працы Джона Стрыта *Пра вырошчванне раслінаў у імху*.

## XII

Сярод іншымі, хто разважаў пра гэта, Асці ў працы *Essai sur la nutrition des végétaux*[51] даводзіць, што расліны, гэтак жа, як і жывёлы, маюць уласцівасць выбіраць сабе патрэбны корм. Такім чынам, пасеў тых самых раслінаў, якія ўжо з гэтае глебы выцягнулі патрэбныя сабе сокі і не знаходзяць іх больш у зямлі, не можа даць добрага выніку, а іншыя расліны на той самай зямлі могуць добра расці.

Агульная практыка, што расліна, якую садзяць раз за разам на той самай зямлі, расце кепска, пацвярджае выснову Асці.

Супраць яго выступіў Фурай дэ Салімбені; у мемарыяле *Sur la spécialité des engrais*[52] ён крытыкуе высновы Асці. На яго думку, расліны не маюць здольнасцяў выбіраць сабе пажыўныя рэчывы, а без разбору выцягваюць з зямлі ўсе сокі, прыдатныя для раслінаў, і на ўсялякай зямлі можна вырошчваць усялякія расліны, якія могуць расці ў гэтым клімаце.

Кані ў сваіх каментарах на гэтыя два меркаванні кажа, што Асці перабольшыў высновы сваіх назіранняў, а Салімбені памыляецца, думаючы, што на любой зямлі можна вырошчваць усе расліны. Кані лічыць, што расліны насамрэч маюць здольнасць выбіраць тыя сокі, якія ім патрэбныя.

Асці адказваў абодвум у працы *Suite à l'essai sur la nutrition des végétaux*[53] і даводзіў досыць моцнымі разважаннямі, грунтуючыся на вопыце, што расліны, як і звяры, выбіраюць пажыўныя рэчывы, кожная сабе адпаведныя і неабходныя.

## XIII

Маркіз Ласкарыс, прэзідэнт Земляробчага таварыства ў Турыне, прывёз у сваю аўчарню караманскіх авечак і ўпэўніўся, што няма больш прыдатных для паляпшэння айчынных парод. Сярэдняя вага іх руна складае ад 10 да 13 фунтаў, а з барана ад 15 да 17. Воўна цёмна-карычневага колеру і асабліва прыдатная на камлот[54] ды іншыя ваўняныя тканіны; мяса выключна добрае, смачнейшае, чым усіх іншых пародаў; памерам яны таксама перавышаюць усе іншыя пароды; хвост шырокі, мускулы моцныя, самі добра складзеныя.

## XIV

У Аўгустоўскім ваяводстве ў мястэчку Ставішкі за тры мілі ад Ломжы ў парку ўладальніка горада пладаносіць, пасаджаная сто гадоў таму, Tuja occidentalis[55]; яна мае таўшчыню камля $2^{1/2}$ локця. З тонкіх ейных галінаў вырашчана ўжо шмат маладых дрэўцаў. Гэта красамоўны доказ, што не толькі аднагадовыя экзатычныя расліны, але і вялікія дрэвы пры спрыяльных умовах могуць у нас акліматызавацца.

# КАМЕНТАРЫ

## Частка першая

[1] У друкаванай спадчыне Каятана Козьмяна (1771–1856), вядомага паэта-класіцыста (фрагменты паэмы *Ziemiaństwo polskie* публікаваліся ў перыядычных выданнях: *Spotkanie się rolnika z rycerzem*, "Gazeta Warszawska" 1812, nr 36; *Zalety ziemi polskiej*, "Pszczoła Polska" 1820, t. 2, "Wanda" 1821, nr 1; "Pszczółka Krakowska" 1822, t. 4; "Polihymnia" Lwów 1827, t. 1, "Motyl" 1828, nr 5; "Sybilla Nadwiślańska" 1821, nr 6), нам не ўдалося выявіць радкі, якія цытуе Э.Т. Масальскі. Не ўвайшлі яны і ў прыжыццёвыя выданні паэмы: *Ziemiaństwo polskie: poema w czterech pieśniach* (Puławy 1830; Wrocław 1839). Відавочна, альбо аўтар меў у сваім распараджэнні фрагмент, які распаўсюджваўся ў рукапісах, альбо дадзеныя радкі прыпісаны К. Козьмяну памылкова. Апошняе больш верагодна, бо праціўнік рамантызму і Адама Міцкевіча, здаецца, ніколі не выказваўся так катэгарычна ў абарону сялянаў. Дапускаем, што эпіграф да першае часткі *Пана Падстоліца* мог быць узяты з рукапіснага варыянта (у даступным нам кракаўскім, 1802 г. выданні гэтых радкоў няма) твора паэта і драматурга Дымзы Бонча-Тамашэўскага (1749–1825) *Rolnictwo: Poema oryginalne w czterech pieśniach* (Lwów 1801). Магчыма, таксама, што эпіграф паходзіць з нейкага патрыятычнага твора.

[2] Гаворка пра ксяндза Ануфры Капчынскага (1735–1817), педагога і мовазнаўца, аўтара першага, напісанага па заданні Камісіі нацыянальнае адукацыі падручніка граматыкі польскае мовы (для I, II і III класаў), якія шмат разоў перавыдаваліся ад 1778 да 1839 г. у Варшаве, Кракаве і Вільні. Выпрацаваў польскую граматычную тэрміналогію.

[3] Маецца на ўвазе Юзаф Мразінскі (1784–1839), вайсковец, удзельнік напалеонаўскіх войнаў і мовазнаўца. Выдаў дзве кнігі, у якіх значна развіў палажэнні граматыкі А. Капчынскага: *Pierwsze zasady gramatyki języka polskiego* (Warszawa 1822; другое выданне: Lwów 1850) і *Odpowiedź na umieszczoną w "Gazecie Literackiej" recenzję dzieła pod tytułem: PIERWSZE ZASADY GRAMATYKI JĘZYKA POLSKIEGO* (Warszawa 1824).

[4] Відаць, гаворка пра артыкул *Przyczyny używanej przeze mnie pisowni* ("Pamiętnik Warszawski" 1816, t. 5) Алаіза Фялінскага (1771–1820), паэта, драматурга, гісторыка і тэарэтыка літаратуры.

[5] Маецца на ўвазе Ян Каханоўскі (1530–1584), славуты паэт эпохі Рэнесансу, які прычыніўся да развіцця польскае літаратурнае мовы.

[6] Гаворка пра Самуэля Ліндэ (1771–1847, славутага лексікографа-мовазнаўца. Звесткі пра мовазнаўца Якубовіча не выяўлены.

[7] Антон Гарэцкі (1787–1861) – паэт-сатырык, удзельнік напалеонаўскіх войнаў і паўстання 1830–1831 гг., эмігрант. Верш *Powrót do Polski* ўпершыню апублікаваны ў газеце "Tygodnik Polski i Zagraniczny" (1818, nr 16, 18 kwietnia). Э.Т. Масальскі змяніў ягоны тытул і ў апошнім радку эпіграфа слова *wtenczas* на *wtedy*.

[8] Маецца на ўвазе 5 клас (клас рыторыкі) у пяцікласных езуіцкіх калегіумах. Э.Т. Масальскі рыторыку заканчваў у 1815/1816 навучальным годзе ў Магілёўскім езуіцкім калегіуме.

[9] У арыгінале: *Białejrusi*.

[10] Галоўны герой кнігі Э.Т. Масальскага – гэта “сын” героя рамана Ігнацы Красіцкага (1735–1801) *Pan Podstoli* (у трох частках; частка першая надрукаваная ў Варшаве ў 1778 г., другая – у 1784 г., трэцяя, незакончаная – у 1803 г.). І. Красіцкі стварыў вобраз сярэднезаможнага шляхціца як узор вясковага гаспадара паводле праграмы тагачасных асветнікаў. Дзеянне адбываецца на тэрыторыі паўднёва-ўсходняе Рэчы Паспалітае прыкладна ў 1774 г. У даўнія часы падстоллі – гэта каралеўскі ці вялікакняскі прыдворны, заступнік стольніка; пазней – проста ганаровы тытул. Дзеці падстолія тытулаваліся як падстоліц і падсталянка; жонка – падстоліна.
[11] Верагодна, Фэбы і Цэнтаўры азначаюць стылёвую яснасць і прамянітасць, з аднаго боку, і дваістасць, алегарычнасць, з другога.
[12] Фузія – даўгаствольная паляўнічая стрэльба.
[13] Віннік – вінакур.
[14] Гарнец – мера сыпкіх рэчываў і вадкасці, 4 кварты. Малы (шынковы) складаў прыблізна 2,8 літра, вялікі (збожжавы) – 5,6 літраў, г. зн. Абрам прапануе Тадэвушу больш 5 літраў гарэлкі.
[15] A verfluchter goj – пракляты гой (чужынец).
[16] У Беларусі ў першай палове XIX ст. асноўнаю грашоваю адзінкаю быў расійскі рубель, але мясцовае насельніцтва працягвала выкарыстоўваць ў разліках між сабою слова “злоты”, лічачы па 15 капеек срэбрам за адзін. У Царстве Польскім Варшаўскі манетны двор біў сваю валюту да 1865 г.
[17] Эпіграф да раздзела ўзяты з *Odezwy Perkunasa, dawnego prezydenta w towarzystwie szubrawskiem, przez szubrawca Pergrubiusa, urzędnika mówcę miana, przy wprowadzeniu szubrawca Solwarosa, Dygnitarza Reja, w obowiązki dorocznego Prezydenta w towarzystwie Szubrawskiem*, апублікаванай у № 130 (15 студзеня 1819 г.) газеты „Tygodnik Wileński”. Пасля смерці першага прэзідэнта Таварыства шубраўцаў, віленскага лекара і філантропа, аўтара цыклу фельетонаў *Вандроўкі шляхціца на лапаце* Якуба Шымкевіча-Пяркунаса (1775 – 6.11.1818), па прапанове прафесара Віленскага ўніверсітэта Леана Бароўскага-Пяргрубіуса (1784–1846) на чале таварыства стаў прафесар хіміі і медыцыны Віленскага ўніверсітэта, рэдактар “Wiadomości Brukowych” Анджэй Снядэцкі-Сатварас (1768–1838). Захавальнікам Лапаты ў Таварыстве быў гісторык і публіцыст, сурэдактар „Tygodnika Wileńskiego”, “ахоўнік парадку” Міхал Балінскі-Аўшлявіс (1794–1864).
[18] Воласць – маёнтак, які складаецца з некалькіх вёсак і з’яўляецца ўласнасцю аднаго пана. Таксама – адміністрацыйная адзінка; гміна.
[19] Харунжы – урадовец у даўняй Рэчы Паспалітай, якому была даручана харугва (сцяг) дзяржавы ці павета (зямлі). У асобных заходніх губернях царскі ўрад дазволіў існаванне інстытуту харунжых. Напрыклад., у Ігуменскім павеце ў 1819 г. ім быў граф Міхал Плятар, у 1821 г. – Раман Рагоўскі, у 1825 г. – Караль Эльскі.
[20] Ротмістар – камандзір роты, пазней харугвы; у XVIII ст. часта выкарыстоўваўся як ганаровы тытул. “У правінцыйным слоўніку тытулаў ніжэйшае ступені для былых вайскоўцаў як ротмістар альбо капітан, калі служыў у пяхоце, няма” (Марцін Асорыя, *Нешта тут сабакам смярдзіць*).
[21] Мыцка (ням. Mütze) – невялікая круглая шапачка без брыля (казырка).
[22] Hersdu – чуеш ты?
[23] У якасці эпіграфу выкарыстаны фрагмент *Pryzmówki chłopskiej* з кнігі *Fraszki* Я. Каханоўскага (1584).
[24] Шарварк – від паншчыны: будова ці рамонт дамоў, падвоз будаўнічых матэрыялаў; а таксама рамонт дарогаў.
[25] Дарэмшчына – праца не за грошы і не па абавязку.
[26] Талька – маток пражы ці нітак; вельмі тонкая пража.

[27] Пакаляднае – ахвяраванні (каўбасы, палатно і інш.) гаспадароў калядоўшчыкам. Пальнавальнае – ахвяраванні (лён) гаспадароў маладой, якая перад вяселлем ходзіць па вёсцы і збірае для новае гаспадаркі.
[28] Каспар Мяскоўскі (1549–1622) – паэт эпохі Барока, аўтар рэлігійных і свецкіх твораў. Зусім магчыма, што Э.Т. Масальскі карыстаўся адным з выданняў пачатку XVII ст. (1612 ці 1622). Перадусім, у кнізе *Rytmów Kaspra Miaskowskiego część wtóra* (Пазнань 1622) ёсць тэкст *Dialog, albo Rozmowa przyjacielska o zjeździe Jędrzejowskim*. (Енджэёўскі з'езд – паспалітае рушэнне шляхты ў 1576 г. з мэтаю падтрымкі абрання Стафана Баторыя каралём Рэчы Паспалітае ў мястэчку Енджеёў ля Кельцаў). Твор цытуецца з купюрамі. У арыгінале:

Dość teraz, bo nas czeka gotowy
On stół, gdzie okrył list jej lipowy;
Ty przyjmiesz z chęcią, co z łaski Boży,
Ziemianin chudy prze cię położy. <…>
Jedzmysy już teraz, a gdy obrusy
Zejmą, znowu się język nasz ruszy;
Bo głód nie rad się zabawi uchem,
Y czczy brzuch (dawno mówią tak) głuchem.

[29] Кантынка – куфэрак для сталовага срэбра, посуду і інш.
[30] Маецца на ўвазе Казімір III Вялікі (1310–1370) – апошні польскі кароль з роду Пястаў.
[31] Радкі з балады Тамаша Зана (1796–1855) *Cyganka*, якая была напісаная ў 1819 г., а надрукаваная ў „Dzienniku Wileńskim" у 1822 г.
[32] Гарус – мяккая шарсцяная пража.
[33] Сукмана – верхняя мужчынская вопратка з сукна; сярмяга; капота.
[34] Енерал – генерал. Тут гаворка, хутчэй за ўсё, не вайскоўца (напрыклад, расійскага генерала, які атрымаў пасля падзелаў Рэчы Паспалітае маёнтак на Беларусі), а пра г. зв. генеральнага старосту (былога кіраўніка дзяржаўных маёнткаў) ці пра былога вознага – дробнага шляхціца, абранага трыбуналам ці судом дзеля выканання розных даручэнняў.
[35] Маецца на ўвазе г. зв. ніжні суд – павятовы адміністрацыйны орган у Расійскай імперыі ў 1775–1862 гг. (з 1837 г называўся земскім); павятовая паліцыя. У склад уваходзілі: капітан-спраўнік і шэсць асэсараў. Разглядаў дробныя крымінальныя справы, выконваў прысуды судовых органаў, кантраляваў выкананне нарматыўных актаў органаў губернскага праўлення, сачыў за палітычнай добранадзейнасцю грамадзянаў, вёў папярэдняе следства, сачыў за падтрыманнем чысціні, станам мастоў, дарог і г. д.
[36] Звестак пра Gr. Kozielskiego і яго твор выявіць не ўдалося.
[37] У Бярдычаве і Ліпску па некалькі разоў на год адбываліся конскія кірмашы.
[38] Юргельт (з ням.) – гадавая (ад Юр'ева дня да Юр'ева дня) плата.
[39] Рэманэнта (лац. remanens, remanentis = які застаўся) – тут: нявыплачаная пенсія, што застаецца на рахунку.
[40] Прэтн – даўняя мера даўжыні (і плошчы), роўная 4,5 м. Квадратны прэнт (скарочана: прэнт) – 18,6 $м^2$.
[41] Скарбнік – тытулярны земскі ўрадовец (з часоў Рэчы Паспалітае) ці прызначаны ўладамі на пасаду павятовага скарбніка (казначея).
[42] Харунжыц старэйшы – старэйшы сын Харунжага.
[43] Рэдута – публічны баль-маскарад.
[44] Каламар – чарніліца. "Поп жыве з алтара, а пісар з каламара" (прыказка).
[45] Гаворка пра г. зв. польска-аўстрыйскую вайну, якая была часткаю вайны Напалеона з антыфранцузскаю кааліцыяю. 18 мая 1809 г. польскае войска атакавала

Сандамір (пасля падзелаў Рэчы Паспалітае ўваходзіў у склад Аўстрыйскае імперыі) і захапіла яго, а 18 чэрвеня 1809 г. аўстрыйцы адбілі Сандамір.

[46] Радкі з драмы ў трох дзеях Антона Эдварда Адынца (1804–1885) *Izora*, выдадзенае ў 1829 г. у Варшаве.

[47] Відавочна, што Беларусь – у разуменні Э.Т. Масальскага – гэта Полаччына, Віцебшчына і Магілёўшчына.

[48] Асьміна – даўняя мера аб'ёму сыпкіх рэчываў, што раўнялася палову чвэрці, 18 гарцам або ⅛ бочкі (каля 105 літраў).

[49] Маецца на ўвазе Карл Віктар фон Банштэтан (1745–1832), швейцарскі навуковец і літаратар, які займаўся параўнальным даследаваннем рысаў нацыянальнага характару. Яноная кніга *L'Homme du midi et l'homme du nord ou L'influence du climat* (*Чалавек з поўдня і чалавек з поўначы, альбо Уплыў клімату*) выйшла ў свет у Парыжы ў 1824 г.

[50] Гаворка пра Луі Рэнэ Вілярмэ (1782–1863), французскага лекара, эканаміста і сацыёлага. Аўтар спасылаецца на артыкул навукоўца, надрукаваны ў часопісе "Bulletin général et universel des annonces et des nouvelles scientifiques: Section 6: Bulletin des sciences géographiques, économie publique, voyages" ў 1828 г.

[51] Маецца на ўвазе Антон Глябовіч (1801–1847), аўтар кнігі *Rys Statystyki Państwa Rossyjskiego* (Варшава 1826). Ён закончыў гімназію ў Гродна і Віленскі ўніверсітэт. З 1823 г. на расійскай службе: спачатку ў Пецярбурзе, пасля (з 1832 г.) – у Варшаве. Працаваў як візітатар школаў і інш. Заснаваў і выдаваў часопіс "Pamiętnik religijno-moralny".

[52] Магчыма, гаворка пра Аляксандра Вейдэмеера (1789–1852), аўтара кніг па расійскай гісторыі.

[53] Гаворка пра працы Еўдакіма Зяблоўскага (1763–1846), прафесара гісторыі, геаграфіі і статыстыкі Пецярбургскага педагагічнага інстытута, а пазней – універсітэта (Э.Т. Масальскі спасылаецца на кнігу *Статистическое описание Российской империи в нынешнем ея состоянии с предварительными понятиями о статистике и с общим обозрением Европы в статистическом виде*, Санкт-Пецярбург 1815); Канстанціна Арсеннева (1789–1865), гісторыка, географа, статыстыка (хутчэй за ўсё, маецца кніга *Обозрение физического состояния России и выгод, от того проистекающих для народных промыслов, ныне существующих*, Санкт-Пецярбург 1818 ці *Начертание статистики Российского государства*, Санкт-Пецярбург 1818—1819); Паўла Муханава (1797–1871), гісторыка, археографа, збіральніка гістарычных матэрыялаў.

[54] *Руская праўда* – зборнік праўных нормаў Кіеўскае Русі (нормы крымінальнага, спадчыннага, гандлёвага заканадаўства). Складзены пры Яраславе Мудрым (978–1054) на аснове племяннога права славянаў, а таксама запазычанняў са скандынаўскага і візантыйскага права.

[55] Маецца на ўвазе Другі Статут Вялікага Княства Літоўскага, падрыхтаваны пад кіраўніцтвам Мікалая Радзівіла Чорнага ў 1550-я гг.; набыў законную сілу з 1 сакавіка 1566 г.

[56] *Судзебнік*. Маецца на ўвазе зборнік норм права XV ст., складзены ў 1468 г. паводле загаду вялікага князя літоўскага Казіміра (1427–1492) ці маскоўскія судзебнікі 1497 г. альбо 1550 г. (Івана Жахлівага).

[57] Г. зн. *Соборное уложение 1649 г.* – звод законаў Масковіі, прыняты ў часы Аляксея Міхайлавіча (1629–1676).

[58] Іван Болцін (1735–1792) – расійскі дзяржаўны дзеяч, гісторык. У кнізе, напісанай па рэкамендацыі Кацярыны II, *Примечанияя на историю древней и нынешней России г. Леклерка* (т. 1–2, Санкт-Пецярбург 1788—1794) абвінавачваў французскага гісторыка ў нядобрасумленным адлюстраванні расійскае гісторыі.

[59] У арыгінале: Лекрэрка (магчыма, памылка друку). Маецца на ўвазе Нікаля Габрыэль Леклерк (1726–1798), французскі медык і гісторык. Падчас свайго побыту і працы ў Расіі сабраў матэрыялы і выдаў кнігу *Histoire de la Russie ancienne et moderne* (6 тт., 1783–94).
[60] Маецца на ўвазе Першы Статут Вялікага Княства Літоўскага 1529 г., падрыхтаваны пад кіраўніцтвам канцлера Альбрэхта Войцеха Гаштольда.
[61] Супанамі называлі краёвых, тутэйшых паноў. *Жупанія* – адміністрацыйная акруга, аддадзеная пад кіраўніцтва жупана, ці супана.
[62] Маецца на ўвазе Арон Аляксандар Алізароўскі (1618–1659), філасаф і праўнік, прафесар Віленскае езуіцкае акадэміі. Аўтар кнігі *De politica hominum societate libri tres* (Гданьск 1651).
[63] Звестак пра Acaciusza выявіць не ўдалося.
[64] Маецца на ўвазе Тэадор Тышкевіч-Скуміновіч (пам. пасля 1663), праваслаўны, а пасля каталіцкі рэлігійны дзеяч і пісьменнік. Кніга *De jure personarum, seu in primum Institut. Justinianearum librum catholica explicatio, theologicis, naturalibus, politicisq´ue rationibus, & canonico, civili antiquiori ac novissimo, & consuetudinario Europae jure, cum perpetuâ Triboniani in meris civilibus defensione* (*Аб праве асобаў, ці Каталіцкае тлумачэнне першае кнігі кодэкса Юсцініяна ў гнаселагічным, прыродным і палітычным сэнсе і ў адпаведнасці з еўрапейскім звычаёвым правам*) выдадзена ў Бруселі ў 1663 г.
[65] Тадэвуш Чацкі (1765–1813) – вучоны-асветнік і грамадскі дзеяч. Ягоная праца *O litewskich i polskich prawach, o ich duchu, źrzódłach, związku i o rzeczach zawartych w pierwszym Statucie dla Litwy 1529 r. wydanym* надрукаваная ў двух тамах у Варшаве ў 1800–1801 гг.
[66] Хіба, памылка друку; гл. ніжэй.
[67] Карэц – даўняя мера сыпкіх рэчываў, роўная 20–30 гарцам (каля 100 літраў).
[68] Грыўня кёльнская (альбо марка кёльнская) – даўняя мера вагі і грашовая адзінка (злітак срэбра), роўная 233,856 г.
[69] Бочка – даўняя мера вадкіх і сыпкіх рэчываў, роўная 144 малым або 72 вялікім гарцам.
[70] Аляксандр Маруа дэ Джонс (1778–1870), вайсковец, авантурыст, вучоны, які займаўся статыстыкай. Кніга *Le commerce au dix-neuvième siècle, état actuel de ses transactions dans les principales contrées des deux hémisphères; causes et effets de son agrandissement et de sa décadence, et moyens d'accroitre et de consolider la prospérité agricole, industrielle* (*Гандаль у дзевятнаццатым стагоддзі, яго бягучы стан у ключавых галінах абодвух паўшар'яў; прычыны і наступствы яго заняпаду, пошукі шляхоў сельскагаспадарчага і прамысловага росквіту*) выйшла ў Парыжы ў 1825 г.
[71] Ганза – міждзяржаўнае аб'яднанне паўночна-германскіх гарадоў (каля 100) дзеля гандлю; мелі сваё войска і флот. Пасля заняпаду ў XVIII ст. у саюзе засталося толькі некалькі гарадоў.
[72] Гекталітар – мера аб'ёму, роўная 100 літрам.
[73] Барбарыйскія дзяржавы – народы паўночнае Афрыкі.
[74] Лот – адзінка вагі, што складала 1/32 фунта, ці 11,71 грама.
[75] Звестак пра Senac і ягоную публікацыю выявіць не ўдалося.

## Частка другая

[1] Адам Нарушэвіч (1733–1796) – паэт-класіцыст, гісторык, драматург эпохі Асветніцтва. Э.Т. Масальскі цытуе фрагменты ягонае сатыры *Chudy literat*, напісанай у ліпені 1772 г. і ўпершыню апублікаванай у літаратурным штотыднёвіку "Zabawy przyjemne i pożyteczne" (1772, t. VII, cz. 1, s. 49–64). Гэты і іншыя творы А. Нарушэвіча езуіты выдалі ў Полацку прыкладна ў 1800 г. у зборніку *Satyry i bajki*.

[2] Леан Бароўскі (1784–1846) – гісторык і тэарэтык літаратуры, прафесар Віленскага ўніверсітэта. Цытата з паэмы Джона Мільтана (1608–1674) *L'Allegro* (*Вясёлы,* 1631), якую Л. Бароўскі пераклаў і апублікаваў разам з паэмаю *Il Penseroso* (*Задумлівы,* 1631) пад тытулам *Allegro i Penseroso* ("Dziennik Wileński" 1819, t. 1), а таксама як дадатак да працы *Uwagi nad poezją i wymową pod względem ich podobieństwa i różnicy* (Wilno 1820, s. 3–4).
[3] Герцынскі лес, ці Герцынскія горы (łac. Silva Hercynia lub Hercynius saltus) – лясныя горныя масівы (Альпы), якія адасаблялі Паўднёвую Еўропу ад Паўночнае.
Галы – кельцкія плямёны, якія жылі на тэрыторыі сучаснае Францыі, Швейцарыі, Германіі. Лічацца продкамі французаў.
[4] Пнёўшчына – права ссячы дрэва.
[5] Шпыры – страпілы (?).
[6] Аўстэрыя (ад італьян. osteria) – карчма.
[7] Fundum (ад лац. fundus) – вёска, галоўны фальварак уладальніка, а таксама дворская зямля; awuls (ад лац. avulsus) – зямля, адлучаная ад маёнтку.
[8] Нясвіжская фара – касцёл Божага Цела, пабудаваны ў 1587–1593 гг. Джавані Марыя Бернардоні пры Нясвіжскім езуіцкім калегіуме. Пасля скасавання ордэна езуітаў калегіум (1773) ператвораны ў свецкую школу.
[9] Інфіма (ад лац. infimus – найніжэйшы) – першы клас у езуіцкіх навучальных установах.
[10] Морг (ад ням. Morgen – першапачаткова: зямля, якую можна заараць да полудня) – мера плошчы, роўная 5600 м$^2$ (0,56 га).
[11] Харунжанка – дачка харунжага.
[12] Марцін Мольскі (1751–1822) – паэт-сатырык, вайсковец. Верш *Do Generała Dywizji Jana Henryka Dąbrowskiego, na powrót jego z Paryża w dzień imienin, 24 czerwca 1814* выдадзены ў Варшаве (?) у 1814 г.
[13] Шляфмыца (ад ням. Schlafmütze) – мяккая шапка, у якой спалі, а таксама высокі белы каўпак кухараў.
[14] Гуменны – чалавек, якому даручаны нагляд за гумном і працамі ў ім.
[15] Пра ўрат і пудрэту гл. у аўтарскім каментары IX да гэтае часткі.
[16] Majestueux (фр.) – велічны.
[17] En grouppes (фр.) – у групах.
[18] En masse (фр.) – у вялікай колькасці, у масе.
[19] Terrible (фр.) – жудасны.
[20] Шанбрун – летняя рэзідэнцыя аўстрыйскіх імператараў ў Вене; адзін з самых прыгожых палаца-паркавых ансамбляў у Еўропе.
[21] Гардэробная – пакаёўка, якая служыць пры гардэробе, дапамагае апранацца.
[22] Рададэндрон пантыкійскі (лац. Rhododéndron pónticum) – вечназялёнае кустоўе ці дрэва з сям'і верасавых.
[23] Метрасідэрас (лац. metrosideros) – расліны з сям'і міртавых, якія паходзяць з Паўднёвае Афрыкі, Новай Зеландыі, Гаваяў.
[24] Хамеропс карлікавы (лац. chamaeroes humilis) – шматствольнае вечназялёнае дрэва з веернаю лістотаю з сям'і пальмавых.
[25] Эрнандыя (лац. hernandia) – трапічная расліна з сям'і лаўравых.
[26] Трыплярыс амерыканскі (лац. triplaris americana) – расліна Цэнтральнае і Паўднёвае Амерыкі. Адзін з ягоных відаў – мурашынае дрэва.
[27] Карабеля (ад Kerbela – арабскі горад у сённяшнім Іраку) – лёгкая крывая шабля для ўрачыстасцяў.
[28] Бананавыя (ад лац. musáceae) – расліны тропікаў Афрыкі і Азіі.
[29] Гібіскус кітайскі, ці кітайская ружа (лац. hibiscus rosa-sinensis) – вечназялёнае кустоўе вышынёю да 3 метраў з кветкамі ў дыяметры да 15 см.

[30] Кантракты – штогадовыя з’езды шляхты ў пэўным горадзе і ў пэўны час дзеля заключэння разнастайных дамоваў.
[31] Аляксандар Фрэдра (1793–1867) – вядомы польскі камедыёграф і паэт. Камедыя *Pan Geldhab* упершыню пастаўленая на сцэне ў 1821 г., а *Pierwsza lepsza, czyli nauka zbawienna* – у 1824 г. Э.Т. Масальскі, відавочна, карыстаўся венскім выданнем камедый А. Фрэдры ў двух тамах (*Komedye Alexandra Hrabiego Fredra*, w Wiedniu 1826).
[32] Курсівам перадаюцца асаблівасці маўлення Харунжага.
[33] Фарэйтар (ням. Vorreiter) – памочнік фурмана ці лёкай з ражком ці паходняю, які едзе на кані паперадзе каляскі.
[34] Паводле губернскае рэформы Кацярыны II, частка пасадаў у апараце губернскага і павятовага кіравання беларускіх і літоўскіх губерняў была выбарнаю. Шляхта (мужчына, якія мелі 18 гадоў і валодалі 25 прыгоннымі) кожныя тры гады абірала: маршалка, падкаморыя, харунжага, суддзю і асэсараў (засядацеляў) земскага суда, суддзю і асэсараў ніжняга суда (г. зн. паліцыю) і інш. Заўважым, што ўлады маглі зацвердзіць альбо не зацвердзіць абраных на пасады.
[35] Эксдывізія – падзел маёнтку крэдыторамі.
[36] Падкаморы – у Рэчы Паспалітай: важны ўрадовец, суддзя межавага суда; у часы Расійскай імперыі: ганаровая пасада, адно часам прызначаў каморнікаў.
[37] Madame la chambelane! (фр.) – пані шамбяляніха!
[38] Porte-enseigne (фр.) – харунжыха.
[39] Суддзя, пісар – урадоўцы земскага ці ніжняга суда.
[40] У арыгінале: *przy parawanie*. Параванам называлі шырму, якая складалася з рухомых рамаў, абабітых тканінаю ці скураю; выкарыстоўваліся, каб адгарадзіць частку памяшкання. Параван адасабляў месца для галасавання.
[41] Сярод павятовых урадоўцаў Мінскае і інш. беларускіх губерняў у 1820-я гг. не было прэзідэнтаў, але па традыцыі прэзідэнтам маглі называць гараднічага, калі ён кіраваў вялікім горадам. Прэзідэнтамі таксама называлі старшыняў 1 і 2 дэпартаментаў галоўнага губернскага суда і старшыняў павятовых судоў.
[42] Яснавяльможны – адпаведнік расійскага Ваше Превосходительство (зварот да асобаў, якія паводле *Табели о рангах* мелі званні III–IV класаў.
[43] Маршалак – адпаведнік расійскага “предводитель дворянства” (губерні ці павета).
[44] Дэпутатамі ў 1820-я гг. называліся шляхціцы, абраныя ў губернскую шляхецкую зборню (депутатское собрание).
[45] Гаворка пра Станіслава Аўгуста Панятоўскага (1732–1798), апошняга караля Рэчы Паспалітае.
[46] Ватаванне – галасаванне.
[47] Шамбяляніха – жонка шамбяляна (камергера), высокага прыдворнага ўрадоўца; пазней – ганаровы тытул.
[48] Цвік – пашыраная ў Беларусі ў другой палове XVIII – першай палове XIX ст. гульня ў карты, у якой той, хто гаворыць “цвік”, павінен абавязкова ўзяць дзве біткі з чатырох картаў.
[49] Comme il faut (фр.) – прыстойны.
[50] *Pater Noster* (лац.) – *Ойча наш*; *Haec virga* (лац.) – *Прачыстая Панна*; *Amo* (лац.) – *Люблю*.
[51] У якасці эпіграфа выкарыстаныя фрагменты з “усходняе аповесці ў двух касыдах” *Derar* Аляксандра Ходзькі (1804–1891), якая ўпершыню была надрукаваная ў зборніку *Poezye* (St. Petersburg 1829).
[52] Nonchalant (фр.) – неахайны.
[53] У 1765 г. Станіслаў Аўгуст Панятоўскі заснаваў ордэн св. Станіслава: васьмікутны крыж з выяваю св. Станіслава на пунсовай стужцы з белымі краямі, якую насілі праз правае плячо на левы бок. Паводле статуту лік кавалераў ордэну не павінен перавышаць 100.

[54] Абдыкацыя (адрачэнне) Станіслава Аўгуста адбылася 25 лістапада 1795 г. у дзень імянін Кацярыны II і 31 гадавіны ягонае ўласнае каранацыі.
[55] Патэнт з акенкам – г. зн. патэнт, у які можна ўпісаць прозвішча ўзнагароджанага.
[56] Бурмістар – кіраўнік магістрата горада. У магістрат гаражане выбіралі бурмістра і некалькі радных.
[57] Стужка Ганаровай Легіі сведчыць, што пан Падстоліц меў вышэйшую ўзнагароду Францыі, заснаваную Напалеонам Банапартам у 1802 г.
[58] Фанфарон (фр. fanfaron) – ганарлівец, самахвал, зазнайка, фанабэрысты чалавек.
[59] Маецца на ўвазе кніга ў двух тамах кандыдата філасофіі і ўрадоўца Ігнацы Бабятынскага (1795–1859) *Nauka łowiectwa*, выдадзеная ў 1823–1825 гг. у Вільні. У якасці эпіграфа да выдання аўтар падае радок з паэмы Міколы Гусоўскага *Песня пра зубра* – “Tu melius scribes, ego tendam fortius arcum”.
[60] Дукат – даўняя залатая манета вагою 3,53 г, якую білі на еўрапейскіх манетных дварах (у Рэчы Паспалітай – з XIV ст. і звычайна называлі “чырвоным злотым”). Галандскія дукаты былі своеасабліваю еўрапейскаю валютаю ў XVIII – першай палове XIX ст.
[61] Талер – вялікая срэбраная манета, якую білі ў Еўропе ў XV–XIX стст.; дукат быў роўны паўтара таляра.
[62] Традыцыя (ад лац. traditio – пераданне) – у адпаведнасці з правам перадача задоўжанага маёнтку крэдыторам.
[63] Маецца на ўвазе адзін з заснавальнікаў паліцэйскага права Дэ ля Мар (1639–1723), які ў кнізе *De la Police* (*Паліцыя*) апавядае, між іншым, пра ўласныя сродкі барацьбы з голадам у Парыжы.
[64] Радкі з палітычнае камедыі паэта і драматурга Юльяна Урсына Нямцэвіча (1757–1841) *Powrót posła*, якая першы раз была выдадзеная ў Варшаве ў 1790 г.
[65] Мальтыйскі крыж – белы васьмікутны крыж, знак рыцараў Мальтыйскага ордэну. Сімвалізаваў восем дабрачыннасцяў: вера, міласэрнасць, праўда, справядлівасць, безграхоўнасць, пакорлівасць, шчырасць, цярплівасць.
[66] Маецца на ўвазе бронзавы медаль “В память отечественной войны 1812 года”, устаноўлены Аляксандрам I для ўзнагароджвання расійскага дваранства і купцоў, якія садзейнічалі перамозе войска ў вайне.
[67] Крыжык ерусалімскага гробу (ці крыжык паломніка) – раўнабокі прамы крыжык залатога колеру на белым фоне ў атачэнні чатырох малых крыжыкаў.
[68] Так звычайна пісалі ў афіцыйных дакументах і календарах (*Месяцословах*).
[69] Гаворка пра руска-турэцкую вайну 1828–1829 гг. Ваенным міністрам Расіі з 1828 г. быў Аляксандар Чарнышоў (1786–1857).
[70] Капітан гаворыць па-польску з расійскім акцэнтам. Усе асаблівасці ягонага маўлення перадаць у перакладзе было немагчыма.
[71] Імператарам Японіі з 1817 да 1846 г. быў Нінка (Аяхіта) (1800–1846).
[72] Маецца на ўвазе газета “Kurier Litewski”, якая выдавалася ў Вільні (1760–1764), Гродна (1796–1797), Вільні (1797–1840) (з 1834 г. – па-польску і па-расійску). З 1840 г да 1863 г. выходзіла пад тытулам „Kurier Wileński”.
[73] Кантон – горад на поўдні Кітаю; адзін з пяці кітайскіх партоў, адкрытых для гандлю з Захадам.
[74] Імператарам Кітаю ў 1820–1850 гг. быў Даогуан. Звестак пра пасольства кітайскага імператара да імператара Японіі ў перыёдыцы 1820 г. не выявіць не ўдалося. Выспа Сікоку – адна з чатырох вялікіх выспаў Японіі.
[75] Патагонцы жылі ў Паўднёвай Амерыцы (поўдзень Аргентыны і Чылі). Да 1881 г. на іхніх землях не існавала дзяржаўных утварэнняў.
[76] Гаворка пра паштовыя каперты, вынайдзеныя ў 1820 г. англійскім гандляром паперaю Брэверам (Бруерам) з Брайтана.
[77] A la dernièr mode (фр.) – найноўшае (апошняе) моды.

[78] Блонды – шоўкавыя карункі.
[79] Муслін – тонкая баваўняная тканіна.
[80] Газа – вельмі тонкая, празрыстая тканіна (ядвабная, льняная, баваўняная).
[81] Фез – горад у Марока; самы значны цэнтар ісламскае культуры ў Паўночнай Афрыцы. Французская эскадра пачала блакаду Алжыра 15 чэрвеня 1827 г., якая доўжылася тры гады.
[82] À propos (фр.) – дарэчы.
[83] Gros-d'automne (фр.) – з цёплае (восеньскае) тканіны.
[84] Буфы (ад фр. bouffer – надуваць) – пышная складка. Рулеткі (ад фр. roulette – каціцца?) – незразумела.
[85] À la hussarde (фр.) – як (накшталт) у гусараў.
[86] Верш Адама Міцкевіча (1798–1855) *Do Joachima Lelewela* напісаны ў студзені 1822 г. на інагурацыю лекцый прафесара ў Віленскім універсітэце. Апублікаваны ў красавіку 1822 г. за сродкі, сабраныя студэнтамі; тэкст пашыраўся таксама ў рукапісных копіях. У творы паэт асэнсоўваў вынікі французскае рэвалюцыі, а таксама значэнне рэвалюцый увогуле. Уключаны ў пецярбургскае выданне 1829 г. (*Poezje*, t. I–II).
[87] „У рукі васпана!" ці "Да васпана!" – звычай на землях Рэчы Паспалітае піць да самага шаноўнага госця і перадаваць кілішак яму.
[88] Ex jure et lege (лац.) – паводле права і закону.
[89] Субмісія (ад лац. submissio – апусканне) – пакора.
[90] Тарататка – кароткая (да каленяў) верхняя мужчынская вопратка з прарэшкамі, ці патрэбамі (каб зашпіляцца), аздобленая залатымі ці срэбранымі галунамі; капота.
[91] Энтані Ван Дэйк (1599–1641) – славуты галандскі мастак.
[92] "Bis repetita placet" (лац.) – "Двойчы паўторанае падабаецца" (Гарацый, *Ліст да Пізонаў*).
[93] Маецца на ўвазе карціна *Чума ў Яфе* Антуана Жана Гроа (1771–1835) – французскага мастака, які праславіўся сваімі творамі пра перамогі Напалеона. Жак Луі Давід (1748–1825) – французскі мастак, заснавальнік неакласіцызму. Яфа – горад у Ізраілі (ля Тэль-Авіва), захоплены ў 1799 г. Напалеонам.
[94] Нікалас Пусін (1594–1665) – французскі мастак.
[95] Двух асэсараў земскіх (засядацеляў ніжняга суда) выбірала шляхта, а двух прызначалі ўлады.
[96] Сымон Чаховіч (1689–1775) – славуты мастак Рэчы Паспалітае.
[97] Pictura tabulae cedit (лац.) – карціна належыць дошцы.
[98] Маецца, відаць, на ўвазе кніга невядомага аўтара *Obraz życia, charakteru, religii, rządu, zwyczaiow, położenia różnych narodów* (Kraków 1805, s. 87–114).
[99] У павятовым судзе, згодна з Літоўскім статутам, складаўся рэестар тактавы (regestrum termini tacti) для запісу спраў пра крымінальныя злачынствы і рэестар сумарыйны (regestrum summarii processus) для запісу спраў пра маёмасць, даўгі і г. д.
[100] Цытата з верша Антона Эдварда Адынца *Kasino: Wiersz na dochód Towarzystwa Dobroczynnosci wydrukowany* (Wilno w Drukarni Diecezalney, 1823).
[101] Другі дэпартамент Галоўнага (губернскага) суда займаўся цывільнымі справамі. Пазней быў перайменаваны ў Цывільную палату.
[102] Крэска – голас у выбарах, галасаванню.
[103] À la walterskot (фр.) – як (накшталт) вальтэрскотаўскі.
[104] Адвузднае – падарунак, які атрымліваў конюх ад асобы, якая купляла каня. Нібы плата за вуздзечку.
[105] Траецкая кадэнцыя – судовая сесія павятовага суда, якая працягвалася 2–3 тыдні пасля Тройцы (Сёмухі).
[106] Копы – грашовы штраф, які вызначыў суд.
[107] Крэсцэнцыя (ад лац. crescere) – ураджай аднаго году.

[108] Hora (лац.) – гадзіна. У каталіцкім касцёле частка літургіі, якая адпраўлялася ў пэўную пару дня. Аднак тут, відавочна, словы сказаны па-беларуску.
[109] Hora canonica (лац.) – кананічная гадзіна (гадзіна малітвы). Суддзя гэтак своеасабліва інтэрпрэтуе беларускія словы Харунжага "гора-гора".
[110] На фрасунак ёсць добры трунак – на засмучэнне ёсць добры напой.
[111] Пасэсарамі (лац. possessor – уладальнік) звычайна звалі арандатараў фальваркаў. Яны 20 сакавіка падпісвалі кантракт на тры гады, а належнае за арэнду плацілі 1 студзеня.
[112] Э.Т. Масальскі цытуе радкі з кнігі Антоні Мальчэўскага (1793–1826), аднаго з пачынальнікаў польскага рамантызму, (прозвішча падае ў адпаведнасці з напісаннем у выданні) *Marja: Powieść ukraińska*, Warszawa, w drukarni N. Glücksberga, księgarza i typografa królewskiego uniwersytetu, 1825, s. 25.
[113] Маюцца на ўвазе шляхецкія суды даўняе Рэчы Паспалітае.
[114] Магістрат – орган гарадскога самакіравання. На Беларусі існаваў ад часу атрымання гарадамі Магдэбургскага права да сярэдзіны XIX ст. (паступовай яго ліквідацыі расійскімі ўладамі).
[115] Актыкацыя – упісанне ў актавыя кнігі (рэестры).
[116] Акторства. Тут: як некалі абвінавачаным.
[117] Застаў (ці застава) – маёмасць, запісаная ў заклад доўгу.
[118] Non plus ultra (лац.) – вяршыня дасканаласці, нічога вышэй за гэта, ані кроку далей (парафраза з *Вульгаты – Кніга Ёва*, 38-11).
[119] Інтэрцыза – перадшлюбная ўмова, якая акрэслівае маёмасныя справы будучых сужэнцаў.
[120] Антыдатоваць. Тут: змяніць дату запісу. Эліміноваць (ад лац. elimino) – усунуць, ліквідаваць запіс. Інтабулёваць (ад лац. intabulatio) – запісаць у рэестар.
[121] Рэвізор – пісар правэнтовы. Асоба, якая вядзе ўлік правэнту (прыбытку) прадуктаў земляробства.
[122] Ваявода – найвышэйшы ўрадовец земскі ў Рэчы Паспалітай; адміністратар ваяводства. Беларускія землі ўваходзілі ў склад дзевяці ваяводстваў: Берасцейскага, Браслаўскага, Віленскага, Віцебскага, Гарадзенскага, Мінскага, Мсціслаўскага, Навагрудскага, Полацкага.
[123] Гаворка, відаць, пра Франсіска Балестэраса (1770–1832), іспанскага генерала, дзяржаўнага дзеяча, які ў 1824 г. эміграваў у Францыю.
[124] Сардынскае каралеўства – дзяржава, якая існавала на тэрыторыі Італіі з 1772 па 1861 г. Сталіца – Турын.
[125] Маецца на ўвазе Джордж Канінг (1770–1827), англійскі палітычны дзеяч, міністар замежных справаў (1822–1827), прэм'ер-міністар Англіі (1827).
[126] Э.Т. Масальскі падае радкі з перакладу польскага паэта, перакладчыка, выдаўца Юзафа Эпіфані Мінасовіча (1718–1796) паэмы рымскага літаратара Марка Анея Лукана (39–65) *Farsalia, albo Wojna domowa* паводле выдання *Zbiór rytmów polskich* (Warszawa 1755, t. 1, cz. 2, s. 303–324), альбо паводле асобнага выдання паэмы ў 1772 г.
[127] Слонка – лясны кулік, вальдшнеп.
[128] Дзеля каперты – тут: дзеля большых магчымасцяў.
[129] Форса – тут: подкуп.
[130] У зборніку *Wolny głos czyli nowy tomik pism Antoniego Goreckiego* (Paryż 1850) верш, фрагмент якога падае Э.Т. Масальскі, надрукаваны пад тытулам *Do Marcina o doświadczeniu* (s. 113–116).
[131] *Пандэкты, альбо Дыгеста Юстыніяна* (лац. *Domini nostri sacratissimi principis Iustiniani iuris enucleati ex omni vetere iure collecti Digestorum seu Pandectarum*) – зборнік-кампіляцыя рымскага права, складзены па загаду візантыйскага імператара Юстыніяна I у 528–534 гг.

[132] Дэпутат вывадовы – абраны на сойміку прадстаўнік шляхты ў заканадаўчыя і судовыя органы Рэчы Паспалітае.
[133] Маюцца на ўвазе павятовыя вучылішчы і гімназіі.
[134] Чыншавая шляхта (зямяне) – дробная шляхта альбо вольныя сяляне, якія мелі зямлю. Той, хто да 1834 г. не здолеў давесці сваё шляхецтва, быў залічаны да сялянаў.
[135] Капэртовіч – дакладнае значэнне слова высветліць не ўдалося. Відавочна, гаворка пра прадстаўнікоў вышэйшага класа. Гл. таксама каментары 76 і 128 да гэтае часткі.
[136] Акр – англійская мера зямельнае плошчы роўная ў XIX ст. 0,4 гектара.
[137] Стапа – адзінка вымярэння даўжыні. У розных краінах мела розную велічыню; літоўская стапа – 32 см.
[138] "Gazeta Handlowa" ў 1820 г. Асобна, хіба, не выдавалася. Мажліва, гаворка ідзе пра дадатак да нейкае з варшаўскіх газет.
[139] Бонард – французскі марскі інжынер, які распрацоўваў (?) Лясны кодэкс Францыі; аўтар кнігі *Лясы Францыі* (1826).
[140] Э.Т. Масальскі спасылаецца на кнігу Pierre Étienne Herbin de Halle (1772–18??) *Mémorial statistique et administratif des forêts du royaume pour l' an 1828*.
[141] Капа – тут: абазначае лік 60.
[142] Сырамятныя – з сырамятнае скуры.
[143] Маецца на ўвазе нямецкі вучоны, заснавальнік агранамічнае навукі ў Германіі Альбрэхт Даніель Тэер (1752–1828).
[144] Гаворка пра часопіс „Izys Polska, czyli Dziennik umiejętności, wynalazków, kunsztów i rękodzieł, poświęcony krajowemu przemysłowi, tudzież potrzebie wiejskiego i miejskiego gospodarstwa", які выдаваўся ў Варшаве (1820–1828). Змяшчаў артыкулы пра навіны земляробства і прамысловасці. Ізіда – егіпецкая багіня, якая ўвасабляла ідэал жаноцкасці і мацярынства.
[145] Жак П'ер Брыдэ (1746–1807) – французскі аграном і публіцыст.
[146] Бэнджамін Франклін (1706–1790) – палітычны дзеяч, дыпламат, вучоны-вынаходнік, адзін з заснавальнікаў Злучаных Штатаў Амерыкі.
[147] Жан Батыст Сэй (1767–1832) – французскі эканаміст, прадстаўнік класічнае школы палітэканоміі.
[148] Адам Сміт (1723–1790) – шатландскі эканаміст і філосаф, адзін з заснавальнікаў сучаснае эканамічнае тэорыі.
[149] Завядоўца – кіраўнік. Тэрмін ужываецца ў беларускай ананімнай гутарцы *Як былі пад панам*.
[150] Станіслаў Патоцкі (1752–1805) – вайсковы і палітычны дзеяч Рэчы Паспалітае, маршалак прарасійскае Таргавіцкае канфедэрацыі (1792). Зборнік у двух тамах *Pochwały, mowy, i rozprawy Stanisława hrabi Potockiego, Senatora i Wojewody* надрукаваны ў Варшаве ў 1816 г.
[151] Кніга К.В. Банштэтана *Études de l'homme, ou Recherches sur les facultés de sentir et de penser* (*Даследаванні чалавека, альбо Вывучэнне эмоцый і пачуццяў*) выйшла ў свет ў Жэневе (1816).

## Частка трэцяя

[1] *Манахамахія* (вайна манахаў) – героіка-камічная паэма І. Красіцкага, упершыню надрукаваная ў 1778 г. Э.Т. Масальскі ў апошнім радку эпіграфа прапусціў два словы: "Klasztorów dziewięć".
[2] *Лісты* напісаныя І. Красіцкім у 1780–1783 гг. Упершыню выдадзеныя ў зборы твораў *Dzieła poetyckie*, t. 1–2, Warszawa 1804. Э.Т. Масальскі цытуе ў эпіграфе радкі з *Lista III: Do Pawła o roztropności*, s. 226.
[3] З павятовых гарадоў Мінскае (Вілейка, Дзісна, Барысаў, Ігумен, Бабруйск, Рэчыца, Мазыр, Слуцак, Пінск) і Гродзенскае (Ліда, Ваўкавыск, Слонім, Брэст, Кобрын,

Наваградак, Пружаны) губерняў аўтар малюе, відавочна, зборны вобраз горада на падставе тых, дзе найчасцей быў – Наваградак, Мінск, Ігумен.
[4] Пудэрман (ням. pudermantel) – падарожны плашч ад пылу.
[5] Маюцца на ўвазе жыды.
[6] Крулявец – так жыхары Рэчы Паспалітае называлі горад Кёнігсберг (Каралеўская гара). Гэткая ж назва сустракаецца і ў беларуска-літоўскіх летапісах.
[7] Каралеўскія дні – відаць, святочныя дні.
[8] Санкт-Пецярбургскі практычны тэхналагічны інстытут быў заснаваны ў 1828 г. дзеля падрыхтоўкі кіраўнікоў фабрык і заводаў. Пры ім былі г. зв. школы – сярэднія навучальныя ўстановы.
[9] Фац'ята – фасад ці мансарда.
[10] Бахур (жыд. bächür) – жыдоўскае дзіця.
[11] У кожным павятовым горадзе ў 1820-я гг. былі наступныя ўрадавыя ўстановы: межавы апеляцыйны суд, павятовы суд, гродскі суд, ніжні земскі суд.
[12] Смушак – футра са шкуркі нованароджанага ягняці.
[13] Твор вядома таксама як *Песня філарэтаў*. Існуе чатыры варыянты. А.Э. Адынец напісаў яе ў турме ў 1823 г. У адным з рукапісаў верш называецца *Wiwaty Antona Edwarda Odyńca w kozie składane w 1823 r. w Wilnie*. Яшчэ раней Ян Чачот напісаў песню *Precz, precz nudy, troski*, якая, як і верш А.Э. Адынца, напісаная на матыў беларускае народнае песні *Сем дзён малаціла*.
[14] Кміноўка – гарэлка, настоеная на кміне.
[15] Spes altera Trojae – другая надзея Троі.
[16] Ферула (лац. ferula – дубец) – лінейка, якою білі па руках вучняў.
[17] Grammaticam – граматыку.
[18] Сядзелец – прадавец у краме.
[19] Альвар – падручнік лацінскае граматыкі, які выкарыстоўваўся ў езуіцкіх школах.
[20] Арак – алкагольны напой, які атрымліваецца ферментацыяй рысу, цукровага сіропу і соку кветак трапічных пальмаў.
[21] Маецца на ўвазе VII ода Гарацыя з I Кнігі одаў (першы радок: *Laudabunt alii claram Rhodon aut Mytilenen*).
[22] Adjutorio meum in auxilium Domini – Божа, дапамажы мне дапамагчы.
[23] Радны – сябра магістрату.
[24] Гараднічы – кіраўнік адміністратыўна-паліцэйскага апарату павятовага гораду. Звычайна іх прызначалі з адстаўных вайскоўцаў.
[25] Publico … Sacramento – публічна … таемства (шлюбу).
[26] Інфлюэнцыя (лац. influencja – уплыў) – уплыў нябесных целаў на падзеі на Зямлі і лёс чалавека.
[27] Кароль Уладзіслаў – гаворка пра Уладзіслава IV Вазу (1595–1648), караля Рэчы Паспалітае ў 1632–1648 гг.
[28] Эпіграф узяты з верша Каспара Мяскоўскага (1549–1622) *Mięsopust polski*, упершыню апублікаваны ў ягонай кніжцы *Zbiór rythmow*, Kraków 1612.
[29] Польскі (танец) – урачысты танец-шэсце; паланез.
[30] Кватэрка – чацвёртая частка кварты (блізу 200 грамаў).
[31] Прышвы – пярэдняя частак ботаў; галоўкі.
[32] Саламон – трэці жыдоўскі цар, кіраўнік Ізраільскае дзяржавы (965–928 гг. да н. э.). Лічыцца аўтарам асобных кнігаў Бібліі.
[33] У 1820-я гг. творы Яна Чачота (1796–1847) не друкаваліся, але, відавочна, яны пашыраліся сярод адукаванага грамадства. Э.Т. Масальскі выкарыстаў у якасці эпіграфа верш паэта з рукапіснага зборніка *Песні ў трох частках*. Я. Чачот у гэты час быў у ссылцы на Урале.
[34] Ваяводзіч – сын ваяводы. Прататыпам вобраза ваяводзіча мог быць нехта з сыноў апошніх ваяводаў "беларускіх" ваяводстваў: Мінскага – Юзафа Мікалая Радзівіла

(1736–1814), Віленскага – Міхала Гераніма Радзівіла (1744–1831), Полацкага – Тадэвуша Жабы (1749–1799).
[35] Чашнічыха – жонка чашніка. Чашнік – даўні ўрадовец прыдворны, што служыў каралю за сталом (падаваў чашу); пазней – тытулярная пасада.
[36] Спраўнік – начальнік паліцыі ў павеце.
[37] Магдалена Жанліс (1746–1830), французская пісьменніка, аўтарка сентыментальных раманаў.
[38] Кашталянічыха – жонка сына кашталяна. Кашталян – урадовец у даўняй Рэчы Паспалітай, кіраваў гаспадаркаю, а таксама займаўся судовымі справамі ў кашталяніі.
[39] Ma chère (фр.) – дарагая.
[40] Канюшыха – жонка канюшага. Канюшы – каралеўскі ўрадовец, які кіраваў стайняю манарха. Пазней – тытулярная павятовая пасада.
[41] Фараон (штос) – папулярная картачная гульня.
[42] У губернскай управе звычайна было тры саветнікі – радцы губернатара.
[43] Панітараваць – рабіць стаўкі.
[44] Страпчы – судовы ўрадовец губернскае ўправы ў 1775–1864 гг.; памочнік пракурора. Звычайна іх было два: крымінальных справаў і казённых справаў.
[45] Уладзіслаў недакладна цытуе "гістарычную песню" Юльяна Урсына Нямцэвіча *Уладзіслаў Лакетка. 1306–1333*: "Wsparci na tarczach wojownicy stali // I o przypadkach bitwy rozmawiali".
[46] Triennium (лац.) – трохгоддзе. Усе губернскія і павятовыя ўрадоўцы выбіраліся (прызначаліся) на тры гады.
[47] Toto corpore et amino (лац.) – усім целам і душою.
[48] Anticipative (лац.) – пэўна, упэўнена.
[49] Э.Т. Масальскі ў якасці эпіграфа падае радкі з кнігі (верш *Modlitwy: z ks. Psalmów*) Стафана Вітвіцкага (1801–1847) *Poezije biblijne*, Warszawa 1830, s. 105. Паэт хоць з-за кепскага стану здароўя і не ўдзельнічаў у паўстанні 1830–1831 гг., але выехаў на эміграцыю, дзе спачатку сябраваў з А. Міцкевічам, а пасля "ратаваў" ягоную душу ад "тавянізму".
[50] Цікава, што Э.Т. Масальскі называе сваю мову не польскаю, а краёваю.
[51] *Эвэйдасора* – відаць, адно са шматлікіх тлумачэнняў *Талмуда*.
[52] Рабін Ёанэс – адзін з каментатараў *Талмуда*.
[53] Сенедрон (Сінедрыён) – судовы рэлігійны орган у Старажытнай Юдэі, які быў у кожным горадзе і складаўся з 23 чалавек. Тут гаворка пра трактат *Сангедрын* (чацвёрты раздзел *Мішны*, складковае часткі *Талмуду*).
[54] *Шэм Мішмель*, *Менорас гамуэр*, *Трау Мэгіла*, *Санхэдзім* – кнігі артадаксальнага юдаізму. Асобныя з іх пералічвае Юльян Нямцэвіч у аповесці *Лейба і Сара*: 1. *Менорас гамуэр*; 2. *Шнэйліх ос Габрыс*; 3. *Схінах*; 4. *Шэм Мішмель*; 5. *Рабамнэ Бэхае*; 6. *Марээінай Гакоэн*; 7. *Рэсхес Хохма*; 8. *Зохэр*. (Гл.: *Dzieła poetyczne wierszem i prozą*, t. VII, Lipsk 1838, s. 32).
[55] *Нябесны Талмуд* – відаць, маецца на ўвазе г. зв. *Вусная Тора*, альбо *Мішна* (вучэнне, якое атрымаў Маісей на гары Сінай), якая тлумачыць *Пісьмовую Тору* (*Пяцікніжжа Маісея*). Талмуд (альбо *Гемара*) – звод праўных і рэлігійна-этычных правілаў юдаізма.
[56] Ай-вэй! – О, гора! (жыдоўскі вокліч, якім выяўляюць незадавальненне, роспач і г. д.).
[57] Ваій – Вербная нядзеля (вайя – пальмавая галінка).
[58] Выдэркаф (ням. Wiederkauf) – водкуп.
[59] Факторства – пасрэдніцтва.
[60] Бакун – тытунь кепскае якасці; махорка.
[61] Вакштаф – гатунак тытуню для люлькі.
[62] Сальвасэр – саляная кіслата.

[63] Аданáй – адно з імёнаў Яхвэ (Бога) у юдаізме. Выкарыстоўваецца замест невымоўнага імя Яхвэ.
[64] У якасці эпіграфа Э.Т. Масальскі выкарыстоўвае радкі з выдадзенага ананімна твора А. Ходзькі *Przypomnienie: wiersz z powodu grania przez amatorów, na zysk Towarzystwa Dobroczynności, komedyi Barbary Zapolskiey (Dmuszewskiego) w Wilnie roku 1823 kwietnia 28*, Wilno 1823.
[65] Камень – даўняя адзінка вагі, якая раўнялася 32–40 фунтаў.
[66] Дыхавіца – цяжкае інфекцыйнае захворванне; сап.
[67] Дзеля эпіграфа ўзяты радкі з паэмы Себасц'яна Кляновіча (1545–1602) *Flis, to jest Spuszczanie statków Wisłą i inszymi rzekami do niej przypadającymi* (Kraków 1595), выдадзенай у 1830 г. у Варшаве пад тытулам *Flis, albo Spuszczanie statków do Gdańska i nauka żeglarska*.
[68] Цукровыя галовы – цукар звычайна прадавалі ў форме галавы ці стажка.
[69] Седан – тонкае сукно, названае так па прозвішчу французскага фабрыканта.
[70] Вігонь – тканіна з воўны вігоня (дзікае ламы).
[71] Кашамір – вельмі тонкая цёплая тканіна з пуху тыбецкіх горных козаў. Назва паходзіць ад вобласці Кашмір на паўночным захадзе Індыі.
[72] У Варонежы з 1770-х гг. дзейнічала суконная фабрыка купца Гаўрылы Елісеева, якая па спадчыне перайшла да ягонага сына Хведара, а пасля ягонае смерці – да ўдавы апошняга Веры Андрэеўны. У 1835 г. фабрыка была прададзена купцу І. Башкірцаву.
[73] Звестак пра фабрыку Вагнеровае выявіць не ўдалося.
[74] Маецца на ўвазе фабрыка парцэляны ў вёсцы Вярбільцы Маскоўскае губерні англійскага падданага Франца Гарднера (1714–1796), якою ў XIX ст. кіравалі ягоныя сыны, жонка і ўнукі.
[75] A Drèsdes cinquante ducats au moins (фр.) – за дрэзданскае не менш за пяцьдзесят дукатаў.
[76] Et vois (фр.) – і глядзі.
[77] De tout mon coeur (фр.) – ад усяе душы.
[78] Adieu, adieu ma chère Maréchale (фр.) – Бывай, бывай, мая дарагая Маршаліха!
[79] Скалка – кавалачак крэмнію для выкрасання агню.
[80] Тантал – у грэцкай міфалогіі цар Сіпіла ў Фрыгіі. За тое, што ўкраў са стала багоў нектар і амброзію, аддадзены на вечныя пакуты. У Гамера Тантал, бачачы перад сабою плады, не можа іх узяць, бо галінка з пладамі нязменна адхіляецца.
[81] Маецца на ўвазе раман расійскага пісьменніка Фадзея (Яна Тадэвуша) Булгарына (1789–1859) *Иван Выжигин*, выдадзены ў Санкт-Пецярбурзе ў 1829 г.
[82] Эксплікацыя (лац. explicatio) – тлумачэнне.
[83] Лібацыя (лац. libatio) – выпіўка.
[84] Антэцэсары – антаганісты.
[85] Бeневаленцыя (лац. benevolentia) – зычлівасць, ласкавасць, прыхільнасць.
[86] Эксаперацыя – зласлівасць.
[87] Ad philosophiam – да філасофіі. Так называўся апошні клас сярэдніх езуіцкіх навучальных установаў.
[88] Маецца на ўвазе горад у дэльце Ніла, галоўны марскі порт Егіпта.
[89] У якасці эпіграфа Э.Т. Масальскі выкарыстоўвае радкі з балады Фрыдрыха Шылера *Касандра* ў перакладзе Казіміра Брадзінскага (1791–1835), упершыню апублікаванай у шостым томіку часопіса "Pamiętnik Warszawski" (1816).
[90] Пасля I падзелу Рэчы Паспалітае Ясельскі павет (Падкарпацце) увайшоў у склад Аўстрыйскае імперыі.
[91] Мюльфіртэль – сёння г. Арбінг у Аўстрыі.
[92] Пасау – горад у Ніжняй Баварыі.

[93] Маецца на ўвазе Вікенці Пяльчынскі (каля 1790 – каля 1856), вядомы эканаміст, саветнік Дэпартамента мануфактураў і гандлю, камергер. Аўтар кнігі *О состоянии промышленных сил в России до 1832 г.*, Санкт-Петербург 1833.
[94] Мерыносы – парода танкарунных авечак; адрозніваюцца ад іншых авечак высокаю якасцю воўны.
[95] Гаворка пра Войцэха Пуслоўскага (1762–1833), маршалка Слонімскага павету, гаспадарчага дзеяча, які заснаваў паперню ў Кучкурышках пад Вільняю, а таксама шэраг мануфактураў у Шыдлаўцы (Альберціне) пад Слонімам. Вядомы партрэт В. Пуслоўскага работы Валенты Ваньковіча.
[96] Хто менавіта з княскае галіны роду Агінскіх і дзе збудаваў мануфактуру палатна і паркалю высветліць не ўдалося.
[97] Э.Т. Масальскі па-польску падае назву часопіса (“Журнал мануфактур и торговли”), які выходзіў з 1825 г. у Пецярбурзе па-расійску.
[98] Маецца на ўвазе “Северный архив: Журнал истории, статистики и путешествий”, які ў 1822–1828 гг. выдавалі (двойчы ў месяц) Ф. Булгарын і М. Грэч.
[99] Магчыма, Э.Т. Масальскі карыстаўся рукапіснымі матэрыяламі, якія выходзілі з Казённай палаты Мінскае губерні, бо “Памятные книги” губерняў Расійскае імперыі, дзе друкавалася падобная інфармацыя, пачалі выдавацца толькі ў сярэдзіне 1830-х гг.
[100] Талесы – апратка, якую жыды накідаюць на плечы пад час ранішняе малітвы.
[101] Гл. каментар № 99.
[102] Праца Ж.Б. Сэя *Traité d’économie politique, ou simple exposition de la manière dont se forment, se distribuent et se consomment les richèsses* (*Трактат па палітычнай эканоміі, або Просты выклад пра вытворчасць, размеркаванне і спажыванне багацця*) упершыню надрукаваная ў 1803 г. Рускія пераклады з’явіліся ў 1816 і 1828 гг. пад іншымі тытуламі, а г. зн., што Э.Т. Масальскі карыстаўся арыгіналам, хутчэй за ўсё выданнем 1814 г.
[103] Вестфалія – гістарычная вобласць на паўночным захадзе Германіі. З 1815 г. уваходзіла ў склад Прусіі.
[104] Крыкі (маскокі) – індзейскі народ, які жыў на паўднёвым усходзе ЗША.
[105] “The missionary register” – часопіс утворанага ў 1799 г. пратэстанцкага місійнага таварыства “Church Mission Society”.
[106] Маецца на ўвазе Патрык Калкагун (1745–1820), вядомы шатландскі купец, статыстык, суддзя.
[107] Прапінацыя – права на вытворчасць і гандаль алкагольнымі прадуктамі.
[108] Агая – штат на паўночным усходзе ЗША.
[109] П’ер Шарль Дюпэн (1784–1873) – французскі матэматык і эканаміст.
[110] Сен-Мало – горад і порт на паўночным захадзе Францыі.
[111] Політэхнічная школа – славутая вышэйшая школа ў Парыжы для падрыхтоўкі інжынераў заснаваная ў 1794 г.
[112] Уладзіслаў Ягелончык (1456–1516) – кароль Чэхіі і Венгрыі. Ніколі не кіраваў Польшчаю. Відаць, Э.Т. Масальскі меў на ўвазе нейкага іншага Ягелончыка, магчыма, Казіміра IV.
[113] Маюцца на ўвазе: Жыгімонт Стары (1467–1548) і Жыгімонт Аўгуст (1520–1572).
[114] Канстытуцыя 1768 г. – законы, прынятыя ў 1767–1768 гг. на сойме, які звалі “Рапніноўскім”. Мікалай Рапнін (1734–1801) у той час быў паслом Расіі ў Рэчы Паспалітай.
[115] Фрыдрых Хрысціян Джанатан Фішар (1750–1797) – нямецкі гісторык і правазнаўца, аўтар кнігі *Geschichte des deutschen Handels,* Hannover 1792 *(Гісторыя нямецкага гандлю).*
[116] Гаворка пра часопіс “Allgemeines juristisches Oraculum”, які выдаваўся ў XVIII ст. у Лейпцыгу.

[117] Маецца на ўвазе Ваўжынец Суравецкі (1769–1827), публіцыст, гісторык, эканаміст, даследчык мінулага гарадоў. Кніга *O upadku przemysłu i miast w Polsce* выйшла ў Варшаве ў 1810 г.
[118] Фрыдэрык Скарбак (1792–1866) – эканаміст, літаратар, гісторык. Гаворка пра кнігу *Gospodarstwo narodowe*, cz. 1: *Elementarne zasady gospodarstwa narodowego*, t. 1–2, Warszawa 1820; cz. 2: *Gospodarstwo narodowe zastosowane, czyli nauka administracji*, t. 1–2, Warszawa 1821.
[119] Афіцыяліст – асоба, якая кіруе прыватным маёнткам.
[120] "Recueil industry. manuf. agric. et Commerc." – відавочна часопіс, які выходзіў у Францыі.

## Частка чацвёртая

[1] Твора А. Фялінскага пад такім тытулам выявіць не ўдалося. Магчыма, Э.Т. Масальскі падае тут фрагмент з перакладу А. Фялінскага паэмы Жака Дэліля (1738–1813) *L'Homme des champs ou les Géorgiques françaises* (па-польску: *Ziemianin, czyli Ziemiaństwo francuskie*), якая перш чым была апублікаваная ў 1816 г. пад гэтым тытулам у першым томе выбраных твораў *Pisma własne i przekładania wierszem* (Варшава 1816), друкавалася ў часопісах пад назваю *Wieśniak*. Э.Т. Масальскі мог сам перакласці французскае *L'Homme des champs* як *Człowiek wiejski*.
[2] Поўная і правільная назва верша Францішка Карпінскага (1741–1825) – *Na Wokluz, wody i dom gocki pod Białymstokiem*. Сентыментальны парк Ваклюз (ці Каскада) узнік у 1767 г. у маёнтках Браніцкіх пад Беластокам. У ім была альтанка, якую называлі Гоцкі дом. Слова Vokluz упершыню ўжыла Канстанцыя з Панятоўскіх Тышкевіч у вершы, прысвечаным сваёй стрыечнай сястры Ізабэле Браніцкай (Józef Maroszek, *Sentymentalny park Vocluse pod Białymstokiem założony w 1767 r.*, "Białostocczyzna" 1992, nr 26). Э.Т. Масальскі, відавочна, палічыў, што верш Ф. Карпінскага прысвечаны Гатычнаму дому ў Пулавах Чартарыскіх ці Гатычнаму дому ў Небарове Радзівілаў.
[3] Маецца на ўвазе расійскі цар Аляксандар I (1777–1825).
[4] Якаў Віллie (сапр. Джэймс Уіллі, 1768–1854), вайсковы лекар, арганізатар медыцынскае справы ў расійскім войску. З 1799 г. – лейб-хірург Паўла I, пасля Аляксандра I і Мікалая I.
[5] У 1820-я гг. у польскіх перакладах выйшлі наступныя кнігі амерыканскага літаратара Вашынгтона Ірвінга (1783–1859): *Nadzwyczajne przygody człowieka osłabionych nerwów*, *Rozbójnicy we Włoszech* (Варшава 1826), *Galerya obrazów życia ludzkiego, czyli Charaktery*, (Вільня 1829, у перакладзе Юзафа Быхаўца) і *Rysy moralności i literatury, albo Postrzeżenia we względzie obyczajów, zwyczajów i literatury Anglików i Amerykanów* (Вільня 1830).
[6] Маецца на ўвазе раман у трох тамах Францішка Вэнжыка (1785–1862), польскага драматурга і пісьменніка, *Władysław Łokietek, czyli Polska w XIII wieku*, выдадзены ў Варшаве ў 1828 г. пад крыптанімам F. W.
[7] Гаворка пра раман у чатырох тамах польскага пісьменніка Фелікса Бернатовіча (1786–1836) *Pojata córka Lezdejki, albo Litwini w XIV wieku: romans historyczny* (Варшава 1826).
[8] Раман Ф. Булгарына *Иван Выжигин* у перакладзе на польскую мову пад тытулам *Jan Wyżygin: romans moralno-satyryczny* быў надрукаваны ў Вільні ў 1829 г. і ў Варшаве ў 1830 г. Магчыма, абодва польскія выданні перакладаў Station Станіслаў Мацкевіч (1796–1879).
[9] Аўгуст Лафантэн (1758–1831) – нямецкі пісьменнік-сентыменталіст, аўтар блізу 200 раманаў і аповесцяў. Раман у чатырох тамах *Pastor protestancki i jego rodzina* ў перакладзе Е.Ф. Гурскага надрукаваны ў Вільні ў 1828 г. У гэтым жа годзе выйшла

ў Вільні кніга *Dowcip kobiet w miłości: 3 romanse Augusta Lafontaina: Bartnik, Dom w lesie, czyli Anusia leśnika, Zięć* у перакладзе Юзафа Быхаўца.
[10] Аўгуст Лафантэн памёр 20 красавіка 1831 г.
[11] Каплун – пакладаны певень, якога адкормліваюць на мяса. Каплуном таксама называлі від поліўкі з вады, піва ці віна з хлебам.
[12] Францішак Ксавэры Дмахоўскі (1762–1808), публіцыст, тэарэтык класіцыстычнае літаратуры, паэт і перакладчык. Фрагменты *Страчанага раю* Джона Мільтана (1608–1674) у перакладзе Ф. Дмахоўскага ўпершыню надрукаваны ў 1803 г.
[13] Рэзыдэнт – бедны сваяк, сябра ці былы афіцыяліст, які стала жыве ў маёнтку на ўтрыманні гаспадара.
[14] Шафар – асоба, якая мае ключы ад спіжарні; а таксама той, хто размяркоўвае ці раздае.
[15] Марэна (Rubia tinctorum) – расліна з Паўднёвае Еўропы і Паўночнае Афрыкі; выкарыстоўвалася як сродак дзеля фарбавання ў чырвоны колер. Вайда (Isatis tinctoria) – расліна, якая выкарыстоўвалася як сродак дзеля фарбавання ў блакітны колер. Чарвец (Scleranthus) – расліна, на карэнні якое жыве жамяра чарвец (ці кашаніль), якая вытварае чырвоную фарбу.
[16] Эспарцэт (Onobrychis), свінакроп (Spergula) – расліны, якія сеялі на пашу.
[17] Шатландскі слесар Эндрю Мейкл у 1786 г. сканструяваў першую малатарню з барабанам, які круціўся.
[18] Маргель (мергель) – асадкавая горная парода змешанага глініста-карбанатнага складу: карбанат (кальцыт, радзей даламіт) і нерастваральная рэшта; падзяляецца на вапняковы і даламітавы.
[19] Ардынарыя – плата прадуктамі.
[20] Юрысдыка (юрыдыка) – тут: прыватнае паселішча.
[21] Гаркухня (ням. Garküchne) – сталоўка.
[22] Экстарпатары – прыстасаванне для выцягвання пустазелля і рыхлення; скарыфікатары – прыстасаванне, каб рабіць раўкі на лузе.
[23] Дамбалеўскі плуг – плуг, які ў 1823 г. падаў на конкурс Крыштаф Домбаль (1777–1843), аграном, член-карэспандэнт Парыжскае акадэміі навук, выдавец сельскагаспадарчага часопіса.
[24] Брабанцкая барана – прыстасаванне, зробленае ў Брабанце (гістарычны рэгіён на тэрыторыі сучасных Галандыі і Бельгіі).
[25] Лейстарская парода авечак – паўтонкарунная, мяса-воўнавая парода, выведзеная ў Англіі ў XVIII ст.
[26] Саўтдаўнскія авечкі (south down) – англійская парода бязрогіх кароткаваўняных авечак.
[27] Паркан – тут: нізкі земляны вал, які атачае сад.
[28] Звестак пра прэс Рэвілона выявіць не ўдалося.
[29] Відавочна, Э.Т. Масальскі мае на ўвазе кнігу Яна Куроўскага (1783-1866) *Wypalanie wódki podług naynowszych odkryć: czyli Treść dzieł o gorzelnictwie Hermbstaedta, Pistoriusza, Hoffmanna, Schmidta i wielu innych technologów i praktycznych gorzelników*, першы том якое выйшаў у Варшаве ў 1829 г.
[30] Пыталь – вальцовы млын дзеля ачышчэння (абдзірання) збожжа. “Пшаніцу ободралі на пытэлі” (І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы*).
[31] Найвышэйшае якасці пшанічная мука, якую рабілі ў Марымонце пад Варшаваю; тут знаходзілася вядомая земляробчая школа.
[32] Механізм Эванса. Гаворка пра балансіровачны механізм Олівера Эванса (1755–1819), амерыканскага інжынера-канструктара.
[33] Радкі з кнігі *Nieprożnujące próżnowanie* (Кракаў 1674) Вэспасьяна Гераніма Кахоўскага (1633–1700), паэта польскага барока, тыповага прадстаўніка сармацкае літаратуры.
[34] Ліпец – алкагольны напой з ліпавага мёду.

[35] Алагер (фр. a la guerre) – партыя на більярдзе ў два шары, у якой бяруць удзел некалькі гульцоў.
[36] Bohea – кітайская чорная гарбата; Psoralea glandulosa – шматгадовая расліна з сямейства бабовых, якая паходзіць заходняга ўзбярэжжа Паўднёвае Амерыкі; Simplocos alstonia – расліна, якая паходзіць з Калумбіі; Ilex paraguaensis – парагвайская гарбата, альбо матэ (робяць таксама напітак матэ).
[37] Дыні-канталупы – гатунак дыні, якая вырошчвалася ў рэзідэнцыі рымскіх папаў Канталупа.
[38] Маецца на ўвазе Андрэ Туэн (1747–1824), французскі батанік. У 1806 г. заснаваў школу практычнае сельскае гаспадаркі.
[39] Хоя (васкоўніца) – расліна атрымала назву ў гонар садоўніка Томаса Хоя (1750–1822), англійскага батаніка і селекцыянера, які 40 гадоў працаваў садаводам у герцага Нартумберлендскага.
[40] Фінікавая пальма лічылася святым дрэвам у жыдоў; народ Ізраіля прыпадабняўся да фінікавае пальмы.
[41] Магель – прыстасаванне для прасавання (катання) памытае і высушанае бялізны.
[42] Рэторта – апарат для перагонкі.
[43] Гаворка пра Крыштафа Вільгельма Гуфеланда (1762–1836), нямецкага лекара, асабістага ўрача караля Прусіі Фрыдрыха Вільгельма ІІ. Шырокавядомаю была ягоная кніга *Makrobiotik; oder Die Kunst das menschliche Leben zu verlängern*, 1796 (*Макрабіётыка, альбо Навука падаўжэння чалавечага жыцця*).
[44] Сошка – падстаўка з развілкаю, якая выкарыстоўваецца для падтрымання чагонебудзь.
[45] Сасенаж – сыр атрымаў назву ад прозвішча барона Альбера дэ Сасэнажа (XIV ст.), які ў сваіх маёнтках ва паўднёва-ўсходняй Францыі збіраў падатак у выглядзе вясковага сыру, а потым прадаваў яго на кірмашы ад свайго імя.
[46] Памона – рымская багіня пладовых і арэхавых дрэваў.
[47] *Ванда ляжыць у нашай зямлі* (*Wanda leży w naszej ziemi, bo nie chciała Niemca*) – легенда пра каралеўну Ванду, дачку Крака, якая не згадзілася стаць жонкаю нямецкага князя. Абражаны немец напаў на польскую зямлю, але быў разбіты воскам Ванды, якая, аднак, кінулася ў Віслу, каб не правакаваць новых нямецкіх нападаў.
[48] Пантальён – музычны інструмент накшталт цымбалаў.
[49] Радкі з оды Францішка Дыянізы Князьніна (1750–1807) *Herkules młody. Do Xięcia Adama Czartoryskiego, Generałowicza Podolskiego* (*Dzieła*, wyd. F.S. Dmochowski, Warszawa 1828, t. 1, s. 18–22.
[50] Гаворка пра швейцарскага педагога і агранома Філіпа Эмануэля фон Феленберга (1771–1844), які ў сваім маёнтку Хофвіль блізу Берна арганізаваў земляробчую гаспадарку, пры якой былі земляробчая школа і школа падрыхтоўкі настаўнікаў (1806–1835). Лічыў, што навучанне і выхаванне вясковых дзяцей трэба палучаць з іхняю працаю на гаспадарцы.
[51] Гл. каментар 1 да гэтае часткі. Напісанне *A.L. Feliński*, трэба думаць, – памылка друку.
[52] Вучні-маніторы – старэйшыя і больш здольныя вучні, якія пад кіраўніцтвам настаўніка вядуць заняткі з іншымі вучнямі.
[53] Натуральная гісторыя – так даўней называлі ўрокі мінералогіі, батанікі, заалогіі.
[54] У якасці эпіграфа выкарыстаны радкі з паэмы паэта-класіцыста, драматурга і перакладчыка Станіслава Трамбецкага (1739–1812) *Polanka, czyli Poema wiejskie*, напісанае ў 1770-я гг., а надрукаванае ўпершыню ў 1805. Э.Т. Масальскі мог карыстацца альбо перадрукам у газеце “Tygodnik Wileński” (1817, t. 3), альбо віленскімі выданнямі 1821–1822 гг.

[55] Загроднікі – беззямельныя сяляне, што маюць толькі “загроду”: хату з невялікім агародам.
[56] Маецца на ўвазе “Положение о лифляндских крестьянах”, пастанова царскага ўрада, прынятая ў 1804 г.
[57] Пісьменнікам у XIX стагоддзі часта называлі не ўласна літаратараў, а ўсіх – у тым ліку навукоўцаў – хто публікаваў свае тэксты ў газетах і часопісах, а таксама асобнымі выданнямі.
[58] Першая страфа *Ранішняе песні* (*Pieśń poranna*) Ф. Карпінскага.
[59] Пачатак *Песні V* з кнігі *Pieśni Jana Kochanowskiego księgi dwoje*, якая была ўпершыню выдадзеная ў 1586 г. у Кракаве.
[60] Карук – клей, які варылі з рыбных пухіроў, скуры, касцей і рагоў жывёлы (ад расійск. карлук – асятровы клей).
[61] Маецца на ўвазе аповесць Яна Ходзькі (1777–1851) *Pan Jan ze Świsłoczy, kramarz wędrujący*, упершыню выдадзеная ў Вільні ў 1821 г. Гэта пераробка кнігі французскага пісьменніка-маралiста П’ера Ларана дэ Жюсьё *Сімон з Нантюа, альбо Вандроўны гандляр* (*Simon de Nantua ou le marchand forain*), што ўбачыла свет у 1818 г.
[62] Маецца на ўвазе аповесць Ізабэлы з Флемінгаў Чартарыскае (1746–1835) *Pielgrzym w Dobromilu czyli Nauki wiejskie z dodatkiem powieści i 40 obrazkami* (1819) ці *Pielgrzym w Dobromilu, część druga, czyli dalszy ciąg nauk wiejskich z dziesięcią obrazkami i muzyką* (1821).
[63] Дзясятуха – у гэты дзень (пятніца на дзясятым тыдні пасля Вялікадня) у Мінску адбываўся кірмаш.
[64] Парычы – мястэчка ў Бабруйскім павеце ля ракі Бярэзіна.
[65] Юхт і фаледра робіцца з каровінай скуры, саф’ян – з казінае.
[66] Правільна: “Императорское московское общество сельского хозяйства” – грамадская арганізацыя, створаная ў 1819–1820 гг. з мэтаю садзейнічаць развіццю сельскае гаспадаркі па ініцыятыве князя Сяргея Гагарына (1777–1862).
[67] Відаць, маецца на ўвазе “Земледельческий журнал” пад рэдакцыяй С. Маслава, які ў 1821–1830 гг. выходзіў тры разы на год.
[68] Гаворка пра кнігу ксяндза Габрыэля Бальчэўскага *Budowle i piece gospodarskie*, выдадзеную ў Вільні ў 1817 г.
[69] Гаворка пра працу ўраджэнца Навагрудчыны, агранома, прафесара Віленскага ўніверсітэта Міхала Ачапоўскага (1788–1854) *Agronomia czyli Nauka o gruntach, ich własnościach, wpływie na nie zewnętrznych okoliczności, oraz o klasyfikacyi ich ekonomicznej: dla pożytku praktycznych gospodarzy*, якая асобнаю кніжкаю была выдадзеная ў 1835 г., але відавочна друкавалася раней у адным з сельскагаспадарчых часопісаў.
[70] Сам-тры – даўней ураджай лічылі, паказваючы ў колькі разоў сабралі зярнятаў больш, чым пасеялі.
[71] Ангальт-Кётан (нем. Anhalt-Köthen) – германскае княства князёў Ангальт-Кётанскіх з дынастыі Асканіяў з рэзідэнцыяй у Кётане існавала ў 1396–1847 гадах.
[72] Маецца на ўвазе праца Фрыдрыха Гэрмбштэдта (1760–1833), нямецкага хіміка, тэхнолаг і публіцыста, які ўнёс значны ўклад у мадэрнізацыю і рацыяналізацыю сельскае гаспадаркі, прамысловасці і гандлю ў Прусіі.
[73] Гаворка пра купца і агранома Піктэта дэ Рошмана, які ў 1809–1811 гг. купіў у Херсонскай губерні зямлю і прывёў туды свае статкі. У 1819 г. у яго было 11.000 авечак.
[74] Гаворка пра Пятра Пракаповіча (1775–1850), украінскага пчалавода, вынаходніка рамачнага вулля.
[75] Маецца на ўвазе Антон Герард (пам.1830), генерал-маёр, памешчык, адзін з заснавальнікаў Імператарскага маскоўскага таварыства сельскае гаспадаркі.
[76] Гаворка пра Жана Антуана Шапталя (1756–1832), французскага хіміка і дзяржаўнага дзеяча; графа Шантэлу.

[77] Мікалай Мураўёў (1775–1845), гісторык-археолаг, наўгародскі губернатар, статс-сакратар Мікалая I. У сваім маёнтку Іванаўка (Пакроўскае) блізу Пецярбурга пабудаваў цукровы завод, вынайшаў уласны спосаб варыць і рэфінаваць цукар.
[78] Кантынентальная блакада – сістэма эканамічных і палітычных мерапрыемстваў, якія ўвёў Напалеон I у 1806–1814 гг. у адносінах да Англіі.
[79] Круа – гатунак цукру.
[80] Меласа – кармавая патака, пабочны прадукт вытворчасці цукру.
[81] Фуз – бялковы фасфатны канцэнтрат.
[82] Далмацiя – гістарычны рэгіён на Балканах, на ўзбярэжжы Адрыятычнага мора, на тэрыторыі сучасных Харватыі і Чарнагорыі. З 1797 па 1918 г. – у складзе Аўстрыйскае імперыі.
[83] Маецца на ўвазе часопіс "Annales de l'agriculture françoise" ("Гадавік французскае сельскае гаспадаркі"), што выдаваўся ў Парыжы ў 1797–1817 гг.
[84] Кніга *Вырошчванне і натуралізацыя раслін* выдадзена ў Парыжы ў 1827 г.
[85] Маецца на ўвазе Джэйкаб Уітман Бэйлі (1811–1857), амерыканскі батанік, прафесар хіміі і геалогіі.
[86] Томас Мальтус (1766–1834) – англійскі святар і вучоны, дэмограф і эканаміст, аўтар тэорыі, згодна з якою некантралюемы рост насельніцтва прывядзе да голаду на Зямлі.
[87] Кніга *An Essay on the Principle of Population* (*Нарыс пра закон народанасельніцтва*) выйшла з друку ў 1798 г.
[88] Гаворка пра Уільяма Годвіна (1756–1836), англійскі публіцыст і філосаф. Ягоная кніга *Даследчык: развагі пра выхаванне, норавы і літаратуру* (1797) заахвоціла Т. Мальтуса напісаць *Нарыс пра закон народанасельніцтва*.
[89] Часопіс "Hertha: Zeitschrift für Erd-, Völker- und Staatenkunde" выходзіў у 1825–1829 гг.
[90] De la charté maternelle (фр.) – дзіцячы сад.
[91] Беньямін Хаўштэйн (1778–1836) – прафесар Віленскага ўніверсітэта, настаўнік англійскае мовы ў Вільні. Ягоны дом сёння лакалізаваны пры вуліцы Bokšto 16.
[92] Клод Луі Бертоле (1748–1822) – французскі хімік.
[93] Чарльз Танант (1768–1838), англійскі хімікі і прадпрымальнік, у 1799 г. вынайшаў працэс вытворчасці адбельвальніка з хлору і вапны.
[94] Гэмфры Дэві (1778–1829) – англійскі хімік, адзін з заснавальнікаў электрахіміі.
[95] Гаворка пра Анну Луізу дэ Сталь-Гольштэйн (1766–1817), знакамітую французскую пісьменніцу (мадам дэ Сталь).
[96] Кніга Гартмана *Ueber die Theilung des Bodens* (*Пра падзел зямлі*) выйшла ў горадзе Гам (Нямеччына) у 1828 г.
[97] Ёган Фрыдрых Бенцэнберг (1777–1846) – нямецкі фізік, геадэзіст, публіцыст.
[98] Францыск Івернуа (1757–1842) – французскі эканаміст і публіцыст. Праца *Sur le morcellement de la propriete fonciere an France* (*Падзел прыватных зямель у Францыі*) выйшла ў свет у Парыжы ў 1826 г.
[99] Жак Нэкер (1732–1804) – французскі дзяржаўны дзеяч, міністар фінансаў, бацька пісьменніцы мадам дэ Сталь. Ягоная кніга *De l'administration des finances de la France* (*Кіраванне фінансамі Францыі*) выйшла ў свет у 1785 г.
[100] Паскаль Паолі (1725–1807) – карсіканскі палітычны і вайсковы дзеяч, кіраўнік ураду Карсіканскае рэспублікі ў 1755–1769 гг.
[101] Авеліны доўгія – французская назва арэха "aveline" (фундук) паходзіць ад лац. "avellana".

## Частка пятая

[1] Хутчэй за ўсё, Э.Т. Масальскі, як і ў выпадку з эпіграфам да першае часткі кнігі, спасылаючыся на шанаванага ўладамі К. Козьмяна, свядома ўводзіць у зман цэнзуру: радкі якія ён цытуе – гэта папраўленая "версія" верша *Pomnik w Hodowie*

T.W. Galicjanina (?), змешчанага ў газеце "Tygodnik polski i zagraniczny" (1819, t. 2, nr 20). У арыгінале выразна выяўлены патрыятычны пафас твора:

... A zrodzon na swobodnej i obfitej ziemi,
Gdy jej bronić nie może, niech ją w skiby kraje.
Niechaj rozkrzewia światło, pracę, obyczaje,
Niech w dzieciach ze czcią przodków miłość cnoty szczepi,
Niechaj nadzieją lepszej przyszłości się krzepi;
A kiedy mu już żadna nadzieja nie błyska,
Niech zawsze pragnie Polski, – a kiedyś ją zyska.

[2] У якасці эпіграфа выкарыстаны фрагмент з перакладу Юзафа Шыманоўскага (1748–1801), польскага паэта і тэарэтыка ракако, паэмы ў прозе французскага пісьменніка і філосафа Шарля Луі дэ Мантэск'ё (1689–1755) *Le Temple de Gnide* (1725). Упершыню *Świątynia Wenery w Knidos* апублікаваная ў Варшаве ў 1778 г.

[3] Шэлег – дробная медная манета, роўная 1/3 гроша. Грош – 1/30 злотага.

[4] Іанічны стыль узнік у сярэдзіне VI стагоддзі да н. э. у Іоніі (на паўночна-заходнім узбярэжжы Малое Азіі ля Эгейскага мора).

[5] У якасці эпіграфа выкарыстаны фрагмент з перакладу Ф. Дмахоўскага паэмы Вергілія *Энеіда*, упершыню апублікаванага ў 1809 г. Э.Т. Масальскі мог карыстацца варшаўскім выданнем паэмы 1830 г.

[6] Любэк – горад на поўначы Германіі, у зямлі Шлезвіг-Гольштэйн. Адзін з колішніх цэнтраў Ганзейскага саюзу.

[7] Кяхта – з сярэдзіны XVIII ст. незалежная купецкая слабада на беразе аднайменнае рэчкі на мяжы з Манголіяю, дзе адбываўся гандаль паміж кітайскімі і расійскімі купцамі. Праз Кяхту ў першай палове XIX ст. у Расію ўвозілі блізу 4 тыс. тонаў кітайскае гарбаты ў год.

[8] Цыбік – скрынка з гарбатаю вагою блізу 2 пудоў.

[9] Мендзыжэцкае сукно (ці meseritzko) было вядомае на ўсім свеце. Мястэчка Мендзыжэч (ням. Meseritz) у сённяшнім Любускім ваяводстве Польшчы ў 1780–1806 гг. – адзін з найважнейшых асяродкаў гандлю сукном.

[10] Кадыс — горад на паўднёвым захадзе Іспаніі.

[11] Фларын – залатая манета, якую пачалі біць у Фларэнцыі ў XIII ст. У Галандыі фларын быў біты па ўзору фларэнційскае манеты; з часам пачаў называцца гульдэн (залаты). Сцівер – дробная галандская манета.

[12] Грот – срэбраная манета ў Германіі, Францыі і Галандыі.

[13] Гл. каментар 59 да чацвёртае часткі.

[14] Падчашы – памочнік чашніка; падаваў напоі да каралеўскага стала. Пазней – ганаровая пасада.

[15] Спэнсар (англ. spencer – па прозвішчы лорда Спэнсара, які лічыцца вынаходнікам гэтае вопраткі) – кароткая куртка з доўгімі рукавамі, якую насілі мужчыны напрыканцы XVIII – пачатку XIX ст.

[16] Маецца на ўвазе кніга ў двух тамах М. Ачапоўскага *O sposobach gospodarowania w klimacie północnym: Rzut oka na teraźnieyszy stan gospodarowania w klimacie północnym, wespół z podaniem środków prowadzenia ... takiego trybu gospodarowania, któryby, wynagradzając straty na cenie zboża ... był stosownieyszym do teraźnieyszego stanu okoliczności, i któryby ... podupadłego rolnika ... podźwignął, czyli wykład prawideł, podług których reforma ... systematu gospodarowania ... w klimacie północnym a w szczególności w prowincyach Litwy i Polski uskutecznioną bydź może*, якая выйшла ў Вільні ў 1828–1830 гг.

[17] Паэма Адама Міцкевіча *Конрад Валенрод* выйшла ў Пецярбурзе ў лютым 1828 г.

[18] Мархійскі спосаб – г. зн., як у мархіях: уладкаваных на вайсковы лад пагранічных са славянскімі народамі тэрыторыях; маркграфствах.

[19] Ода Каспара Мяскоўскага *Łódź Opaleńska, abo Na szczęśliwy wjazd na swe biskupstwo... Jędrzeja Opaleńskiego... biskupa poznańskiego*, выдадзена ў Калішы ў 1608 г.
[20] Чугай – доўгая сукня.
[21] Чамарка – верхняя мужчынская вопратка, абшытая галунамі.
[22] *Цябе, Божа, хвалім* – хрысціянскі гімн *Te Deum laudamus*.
[23] Гл. каментар 33 да чацвёртае часткі.
[24] Кінкеты – насценныя сявцільні.
[25] Рэгентша – жонка рэгента, урадоўца, які кіраваў канцэлярыяй.
[26] Індыга – трапічная расліна, якую выкарыстоўвалі як фарбавальнік сіняга колеру.
[27] Гран – англійская мера вагі, якую выкарыстоўвалі аптэкары; роўны 0,0648 г.
[28] Караманскія авечкі – парода авечак з правінцыі Караман у паўднёвай Турцыі.
[29] Сайгак – невялікая парнакапытная жывёла з сям'і антылопаў.
[30] Плата – рака ў Паўднёвай Амерыцы.
[31] Войская – жонка Войскага, земскага ўрадоўца, які клапаціўся пра сем'і і маёмасць шляхты ў часе паспалітага рушэння, а таксама выконваў абавязкі суддзі ў адсутнасць старо́сты.
[32] Аракача – гародніна (накшталт морквы) з Паўднёвае Амерыкі
[33] Першая страфа дзясятага кракавяка з кнігі А. Гарэцкага *Krakowiaki ofiarowane Polkom*, выдадзенай у Варшаве ў 1816 г.
[34] Вылёты – разрэзаныя рукавы кантуша.
[35] Гл. камнентар 33 да гэтае часткі. Э.Т. Масальскі называе дзясяты кракавяк са згаданае кнігі мазуркам.
[36] Рэміс (фр. remis – адкладзены) – адкладанне справы на іншае пасяджэнне.
[37] Фальцэх – пас праз плячо, на якім насілі шаблю, палаш ці шпагу.
[38] Potioritatis (лац.) – тут: у задавальненні.
[39] Пленіпатэнт – асоба ўпаважаная ад імя іншае асобы выконваць пэўныя абавязкі.
[40] У арыгінале: “Proszę na ustęp!” – літаральна: Прашу на перапынак! (У прыбіральню!).
[41] Схэда (лац. scheda – кавалак паперы) – атрыманая па спадчыне частка маёнтку.
[42] Чаркеская прамова – тут: напісаную незразумела.
[43] Titulo (лац.) – іменаваць, называць. Тут: у справе.
[44] Асекурацыя – абавязацельства, гарантыя.
[45] Арынга – шаблон, узор напісання ліста, дакумента і інш.
[46] Calamitas saepe saluti fuit (лац.) – Няшчасце часта выратоўвае.
[47] Заваяванне Англіі нарманамі адбылося ў 1070-я гг.
[48] Графства Абердзін знаходзіцца ў паўночна-ўсходняй частцы Шатландыі.
[49] “Revue d' Edinbourg” (відаць: “Edinburgh Review”) – адзін з самых уплывовых англійскіх часопісаў, які выдаецца з 1802 г.
[50] Мец (фр. Metz)— горад на паўночным усходзе Францыі, сталіца французскага рэгіёну Латарынгія.
[51] *Essai sur la nutrition des végétaux* (фр.) – *Эсэ пра аджыўленне раслінаў.*
[52] *Sur la spécialité des engrais* (фр.) – *Пра ўласцівасці ўгнаенняў.*
[53] *Suite à l'essai sur la nutrition des végétaux* (фр.) – *Пасля вывучэння аджыўлення раслінаў.*
[54] Камлот (фр. camelot) – шчыльная ваўняная тканіна.
[55] Tuja occidentalis (туя заходняя, альбо дрэва жыцця) – вечназялёнае хвойнае дрэва паходзіць з Паўночнае Амерыкі.

# Змест